Бібліятэка Бацькаўшчыны



КНІГАРНЯ ПІСЬМЕННІКА

*Людзі Беларусі*

КНІГА III

**Рыгор Барадулін**

# Дзённікі і запісы

*Выпуск 10*

*2003–2006*

Смаленск
Інбелкульт
2022

УДК 821.161.3.09+929 Барадулін
ББК 83.3(4Беи)
Б24

Укладанне, прадмова, тэксталагічная падрыхтоўка і заўвагі
Наталлі Давыдзенка

Фота Сяргея Шaпрана і з архіва Рыгора Барадуліна

*У тэксце захоўваюцца некаторыя асаблівасці аўтарскай мовы.*

Том выдадзены за асабістыя сродкі Наталлі Давыдзенка
з удзелам Галіны Роліч і іншых сяброў.

**Барадулін, Р.**
**Б24** Дзённікі і запісы. Выпуск 10. 2003–2006 / Рыгор Барадулін ; укл., прадм., Н. Давыдзенка. — Смаленск : Інбелкульт, 2020. — 312 с. [4] с. : іл. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны. Людзі Беларусі : кн. 3).
ISBN 978-5-00076-050-5.

Дзясяты том (выпуск) «Дзённікаў і запісаў» ахоплівае 2003–2006 гг. жыцця народнага паэта Р. Барадуліна. Яны змяшчаюць запісы пра паездкі у Рым, дзе адбылася сустрэча паэта з Папам Рымскім Янам Паўлам ІІ, у Вільнюс, Прагу, Беласток, а таксама па гарадах Беларусі. Запісы пра горкія страты і творчыя набыткі: выхад некалькіх арыгінальных і перакладых кніг. Том дапаўнілі болей за 150 вершаў і прысвячэнняў, якія не друкаваліся ў ранейшых зборніках паэта.

**УДК 821.161.3.09+929 Барадулін**
**ББК 83.3(4Беи)**

**ISBN 978-5-00076-050-5**

# Ад укладальніка

*Сталы ўзрост, асабліва калі чалавека дацiскае нездароўе, ненавязліва, але непазбежна вымушае аглядацца на пройдзены шлях, а то і падводзіць вынікі свайго жыцця. Не пазбегнуў гэтай «працы» і Паэт.*

*У дзясяты том (выпуск) «Дзённікаў і запісаў» Рыгора Барадуліна увайшлі падзеі і роздумы 2003–2006 гадоў, на жаль далёка не лёгкіх і замаркочаных. Адбірае моц галаўны боль, «стома, роспач, цямноча», зняверанасць, што зробленае ім нікому не трэба. «Век чалавечы — адзін дзень. Раніца. Паўдзён. Ноч», і « каменны крыж — сама пушынка ў параўнані з крыжам жыцця, які нясеш, пакуль жывы».*

*Але, як ні дзіўна, пачуццё вялікай удзячнасці поўніць ягоную душу: «Дзякуй, Табе, Госпад, за ўсе гады, за Тваю шчадрату й літасць!» Ён дзякуе Маме, што падаравала яму беларускае Слова. «Які скарб перадала мне Мама! І як я збэсціў, змарнаваў яго. Даруй, Мама!» Дзякуе «сябрам і памочнікам, усім шчырым душам», новаму году і месяцам, нават зязюльцы і вераб'ям. І просіць, як паганец: «Дзень добры, Новы год! Не будзь сярдзіты, паспагадай. Дазволь мне нешта яшчэ зрабіць... Не лютуй! Не зярэй! Будзь чалавекам». Рыгор Іванавіч часта падкрэсліваў, што ён «кшчоны паганец... у крывіцкім выкананні», бо паганства — праз мову, праз казку захоўвае дух нацыі.*

*Душу паэта саграваліла кожная паездка ў родныя Ушачы, у маміну хату і сад, за якім прыглядае вожык. «Гэтулькі шчаслівага смутку нідзе няма, як на родных мясцінах».*

*Нягледзячы на роспач, праца са словам — найгалоўнейшы занятак Паэта. «Толькі й ратуюся вершамі. Яны ўжо сёння нікому не трэба. А мне трэба. І гэта самае галоўнае. Для іх жыву й жыву імі ж».*

*Напісаны словы пра В. Быкава і У. Караткевіча, П. Броўку і М. Стральцова, М. Багдановіча і А. Вольскага. Перакладзены п'еса І. Друцэ, гімн ААН, шматлікія творы кітайскіх і японскіх паэтаў, а таксама вершы сябра Г. Чарказяна і іншых паэтаў.*

*Адбыліся паездкі ў Вільнюс, Прагу, Кіеў, Беласток і Гайнаўку, прайшлі сустрэчы з чытачамі Гродна, Полацка, Віцебска, Браслава, Ляхавіч, Новалукомля і Маладзечна, з навучэнцамі школ і вучэльняў Мінска. Самая значная паездка гэтых гадоў — у Рым, дзе Рыгору Іванавічу пашчасціла быць прынятым Рымскім Папам Янам Паўлам II. У 2005 г. пачалася праца па вылучэнню паэта*

*на Нобелеўскую прэмію. І хаця прэмію атрымаў іншы пісьменнік, Рыгор Іванавіч з палёгкай адзначыў гэта як «заканчэнне мітрэнгі»... Вынікі творчай працы гэтых гадоў: сумесная з В. Быкавым «Калі рукаюцца душы...: Паэзія з прозай» (2003) і яна ж па-польску (у перакладзе Ч. Сенюха; 2006), асабліва значны, важкі том вершаў «Ксты» (2005, 2-е дапоўненае 2006), «Рымскі дыпціх: Узрушэнне», прысвечаны памяці Яна Паўла ІІ (2006), зборнік выбраных вершаў «Руны Перуновы» (2006), гарэзлівая «Дуліна ад Барадуліна» (2004), «Быць! = To Be!» (на беларускай і англійскай мовах, у перакладзе А. Таболіч і І. Бурлыкі; 2006), «Жыць!» (на беларускай і чэшскай мовах, у перакладзе Ф. Сокалавай; 2006) і малафарматны зборнік народных песень і папевак, запісаных ім ад мамы Акуліны Андрэеўны і родзічкі Марыі Трафімавай «Сама пайду дарогаю, голас пашлю дуброваю...: Песьні матчыны з Вушаччыны» (2005).*

*У перакладзе Р. Барадуліна ў 2004 г. выйшлі «Рымскі трыпціх: Вершы» К. Вайтылы (Яна Паўла ІІ), у 2005 г. «Сэрца майго сьвятыня» З. Яндарбіева.*

*2003 год прынёс цяжкую страту беларускай літаратуры, культуры і грамадству — адышоў у іншы свет Васіль Быкаў. Найцяжэйшым гэтае расстанне было і для Рыгора Іванавіча. «Пасля смерці Мамы гэта другая самая страшная страта... Адышоў Васіль — душа мая лядам зрабілася». Думаю, што ў гісторыі і сусветнай літаратуры больш не знойдзецца прыкладаў падобнага душэўнага сяброўства паміж гэткімі вялікімі пісьменнікамі.*

*Таксама пайшлі з жыцця сябар паэт Карлас Шэрман і родзіч Іван Роўба. Але побач заставаліся сябры даўнейшыя — Г. Бураўкін, В. Тарас і маладзейшыя — сапраўдны ратавальнік доктар П. Кухарскі, бард А. Камоцкі, літаратурны руплівец С. Шапран. А яшчэ «самай ўтульнай для душы» сталася для Рыгора Іванавіча майстэрня «Коўня», дзе «душа падкоўвываецца й шчырасцю, і ўсмешлівасцю» і дзе ён забываўся на роспач і турботы ў сябрыне мастакоў.*

*Напісанага і часта не даведзенага паэтам да ладу было столькі, што «разграбаючы завалы», як казаў сам, паэт бедаваў, што «як у лесе, заблудзіўся у сваіх вершах. Усё здаецца, што сапраўдныя яшчэ напішу. Тым і жыву».*

*У 10-ты том увайшло больш за 150 вершаў і прысвячэнняў, не друкаваных ў зборніках, а тыя, што так і не змясціліся ў ім, пазначаюцца назвай, першым радком і пазнакай «у дзённіку». Іх не меней 170-ці. Несупадзенне назваў вершаў у тэксце і зносках не памылкі, а «пераназовы» аўтара.*

*Да друку падрыхтаваны і апошні–11-ты том.*

Наталля ДАВЫДЗЕНКА

## 2003

*1 студзеня, серада*

Дзень добры, Новы! Звышні! Пашлі спакой і бунтоўнасць думкі! Дзякуй, Табе, Госпад, за ўсе гады, за Тваю шчадрату й літасць!

Год прайшоў збольшага ў мітрэнгах. Але стараўся ўцячы ў нашае, крывіцкае слова, Богам і Мамай мне даверанае. У ім разліта Вечная кніга. Засталося мала сяброў, але яны сапраўдныя. Васіль[1] Вялікі й Пётра[2] Магутны, шчыры мудрасцю сваёй Генадзь[3], рэліктава чысты Сяргей[4]. Гэта ўжо ў наш час, пры калхозным сацыялізме, задужа. Ну а кот Мірон! Пётра сказаў: «Гэта адзіны чалавек у сям'і, які разумее цябе». Здаў Лапцёнку[5] агульную кнігу прыпавесцяў Васіля й маіх «Лістоў у Нямеччыну»[6]. Пачынаю пісаць: «Лісты ў Злату Прагу. Ліст першы зь Менску»[7]. А з Новым годам усіх віншаваў вершавана: «Жадаю здароўя, натхнення ў працы, І ўсіх… убачыць у ср.цы!» [у дзённіку]. Ды, відаць, яшчэ даўгавата ўсё будзе наадварот. Адзінае, чаго ад сябе вымаг (з парады Пётры) — не звяртаць увагі на брэхі. Вушацкія людзі казалі: Бог не слухаіць, што свіння рухаіць…

Час дужа цікавы. Усё ўсплыло, што таілася. Генетычна савецкія маладыя паводзяць сябе адпаведна. Потым будуць казаць, што змушаныя былі, адракуцца ад сябе.

---

[1] Быкаў Васіль Уладзіміравіч (1924–2003), беларускі пісьменнік, палітычны і грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік БССР (1980). Герой Сацыялістычнай Працы (1984). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1964), Дзяржаўнай прэміі СССР (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1978), Ленінскай прэміі (1986), расійскай прэміі «Трыумф» (1999).

[2] Кухарскі Пётр Станіслававіч (1958–2013), вайсковец; урач-тэрапеўт, фітатэрапеўт.

[3] Бураўкін Генадзь Мікалаевіч (1936–2014), беларускі паэт, празаік, перакладчык, кінасцэнарыст. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1972), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1980).

[4] Шапран Сяргей Уладзіміравіч (н. 1968), беларускі журналіст, філолаг, даследчык літаратуры. Друкаваўся ў газ. «Знамя юности», «Имя», «Белорусской деловой газете», «Новы час», час. «Дзеяслоў», «Абажур» і інш. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя А. Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра (2011).

[5] Лапцёнак Уладзімір Ільіч (1938 — ?), 1-шы нам. старшыні ГА Беларускага таварыства «Кніга».

[6] Барадулін Р., Быкаў В. Калі рукаюцца душы… Мінск: ГА БТ «Кніга», 2003.

[7] Гл.: Ліст першы: Чалавек, як і ўсе… (1.01.03) // Тамсама. С. 242.

*2 студзеня, чацвер*

Не думалася, што буду крэсліць гэткія лічбы. Дзякуй Госпаду! Дзякуй за ўсё!

Званіў Ганад[1]. Васілёў першы[2] том затрымалі. Як і чакаць трэба было. Пхаюць Шамякіна[3], ша-мякіну́. А тут яшчэ тэлефанаваў Генадзь. Васіль хворы. Цяжкі грып. Я адразу — Пётру. Працуе з ім. А ў мяне поўны дом радасці. Яшчэ ўчора Ілона[4] закацілася, нахамілася, накляла. Усё мала ў яе ўбухаў. І ў выніку — расійскі бомж. Адзін спадзеў, што Дамінічка[5] беларускай вырасце й застанецца з Беларуссю ў сэрцы. Мая залаценькая ўнітачка! Учора звaніла Сняжана Мялешка[6]. Маладзенькая шчырая вушачаначка. Вучыцца, працуе ў Жарскай школе, піша вершы. Так сагрэла душу мне вушацкім голасам. Як не стае майму вуху й сэрцу вушацкіх галасоў. Глухну без іх. «Аграблі: На дзюравай страсе тэлеантэна...» [у дзённіку].

*3 студзеня, пятніца*

Зайшоўся ў «Нёман» забраць перадачу ад Бурсава[7]. З лета ляжала. Баяўся сустрэцца з (Чайкай[8]). Як цень савецкага мінулага, выплыў Яўген Каршукоў[9]. Вечныя людзі любога рэжыму. Успомніўся жарт недзе з сямідзясятых гадоў: «Перапрацоўваю старызну І ў друк нясу. *Ладысь Карызна*[10]». Як у ваду глядзеў я некалі. Пераніцоўвае старызну Ладысік. Смешна гучыць *суаўтар*. Раз аўтар мёртвы, як суаўтар можа быць жывы? Хоць Вовік жывым ніколі не быў. Недзе на першым курсе йграў на гармоніку й спяваў: «Не хацелась паміраць Буржуям нямецкім, Але тут пачаў

---

[1] Чарказян Ганад Бадрыевіч (1946–2021), курдскі паэт, празаік. У 2004–2009 гг. дырэктар будаўнічай фірмы ТСТ.

[2] Выданне Збору твораў В. Быкава было знята з плана на стадыі падрыхтоўкі.

[3] Шамякін Іван Пятровіч (1921–2004), беларускі пісьменнік. Народны пісьменнік БССР (1972). Член-карэспандэнт АН БССР (1980). Герой Сацыялістычнай Працы (1981). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1951), Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1959), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1968), Дзяржаўнай прэміі БССР (1982). Шамякін І. Збор твораў: У 8 т. Мінск, 2003–2007.

[4] Барадуліна Ілона Рыгораўна (1962–2019; Тэль-Авіў), дачка; мастачка.

[5] Кліміна Дамініка Канстанцінаўна (н. 1989), унучка.

[6] Мялешка Сняжана Васільеўна (н. 1977), настаўніца беларускай мовы Жарскай СШ; в. Жары Ушацкага р-на Віцебскай вобл.

[7] Бурсаў Іван Цярэнцьевіч (1927–2019), рускі паэт, перакладчык. Ураджэнец Беларусі. З 1965 г. жыў у Маскве.

[8] Чайка Ніна, беларуская журналістка. У 2002–2008 гг. гал. рэдактар час. «Нёман».

[9] Каршукоў Яўген Іванавіч (1932–2018), беларускі празаік, перакладчык.

[10] Карызна Уладзімір Іванавіч (н. 1938), беларускі паэт, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1996). У. Карызна «паднавіў» гімн БССР на словы М. Клімковіча. *Клімковіч* Міхась (Міхаіл Мікалаевіч; 1899–1954), беларускі паэт, лібрэтыст, крытык.

страляць Камандзір савецкі…» […]. Лагойскі[1] […] цэлую дыскусію рабіў з прычыны гэнага гімна. У свой час заваліў і «Магутны Божа», і «Мы выйдзем шчыльнымі радамі…»[2]. Каб праціснуць свой. Мне быў пазваніў тады Лучанок[3]: «У мяне гатовая мэлёдыя гімна». Я адказаў, што аўтара тэкста ведаю. Ігарок адразу паклаў трубку. Мы з Васілём адразу выйшлі з камісіі па гімну, як лагоец пачаў круціць яйцамі. […]. «Прыватызаваў ён плач па мове» [у дзённіку]. Ды што я пра гэнага […]. […].

*Наталачцы-выручалачцы[4]*

Века не отрезвит тоска,
И повторится всё,
Но та же
Строка по имени Наташа
Проснётся нервно у виска.

*Рыгор, XX век и 3 янв. 2003 г.*

*4 студзеня, субота*

Уночы як не разляцеліся чарапы. Гэтакі боль. Надвор'е мяняецца, як чыноўнікі пры разбэрсаных рэжымах. Учора ўвечары званіў Васіль, мяне не было дома. Ад Валі[5] толкам нічога не дачуўся. Хаця б яму палепшала. Пётра працуе. Пад раніцу прамармыталіся радкі. Запісаў. Гэтае паданне ўразіла мяне некалькі дзён таму. «Ліст другі»[6].

---

[1] Гілевіч Ніл Сымонавіч (1931–2016), беларускі паэт, фалькларыст, перакладчык. Кандыдат філалагічных навук (1963). Прафесар (1978). Народны паэт БССР (1991). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1980). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1980), Міжнароднай прэміі імя Х. Боцева (1986).

[2] На конкурс тэксту новага гімна, аб'яўленага ў 1991 г., прапаноўваліся вершы Н. Арсенневай «Магутны Божа» і М. Краўцова «Мы выйдзем шчыльнымі радамі…» , але былі адпрэчаны. *Арсеннева* Наталля Аляксееўна (1903–1997), беларуская паэтэса, перакладчык. У 1944 г. выехала ў Германію, у 1950 г. у ЗША. *Краўцоў* Макар Мацвеевіч (сапр. Касцевіч; 1901–1939), дзеяч беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, паэт, публіцыст, перакладчык. Рэпрэсаваны. Ягоны верш стаўся гімнам БНР.

[3] Лучанок Ігар Міхайлавіч (1938–2018), беларускі кампазітар. Старшыня Саюза кампазітараў РБ (1980–2018). Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1973). Народны артыст БССР (1982). Народны артыст СССР (1987). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1967), Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).

[4] Давыдзенка Наталля Аляксееўна (псеўд. Марына Наталіч; н. 1950), руская і беларуская паэтэса, празаік, перакладчык. У 2000–2005 гг. вядучы рэдактар МГА «Беларускі кнігазбор». Сяброўскае прысвячэнне на старонцы з «Лістамі ў Хельсінкі» ў перакладзе І. Бурсава (час. «Дружба народов», 2003, № 3, Масква) як рэдактару аднайменнай кнігі Р. Барадуліна «Лісты ў Хельсінкі» (Мінск: «Беларускі кнігазбор», 2000).

[5] Барадуліна Валянціна Міхайлаўна (н. 1939), жонка.

[6] Гл.: Ліст другі: Самую сябе пашкадуе жуда (4.01.03) // Калі рукаюцца душы… С. 243.

*5 студзеня, нядзеля*

Прыбіраў лавэр у пакоі. Папаўняў Вушацкі словазбор. Генадзь званіў. Між іншым, сказаў, што ў «Маладосці» індывідуальных падпісчыкаў 16, ведамасных 400. У «Полымі» недзе 40 і адпаведна 500. Што й трэба было даказаць. Я заўсягды кажу, што не чыталі ўважліва «Кароткі курс ВКП(б)». Усе гэтыя высуванцы будуць засунутыя туды, адкуль іх і высунулі. Толькі пасмяротна рэабілітаваць не будуць, як бальшавіцкіх бандзюкоў. І гэны холдынг, ці голдынг, накрыецца вядома чым. А пашпартная славянка Тася Бондаркаманда[7] […]. Тася ж пісала (Лукашэнку[8]): «Ну разве Шерман[9] или Бородулин могут понять нашу славянскую душу…» […]. А Тася, па-расійску кажучы, несостоявшаяся […]. Шкада па-чалавечы. Я за майстэрства й прафесіяналізм ва ўсім! Ды што гэта мяне панесла казаць пра гэных.

*6 студзеня, панядзелак*

Пазваніў Васіль! Кажа: «Не магу дазваніцца. То заняты тэлефон, то цябе няма. З усімі пагаварыў, нават з Міронам, а не з табой». Хварэў на грып. Разам з Ірынай Міхалішкай[10]. Пісаў мне. Але не атрымаў ліста я. Вядома, пакуль прачытаюць, ксэракапіруюць. Вечная служба, дай, Госпад, ім вечную ванну ў пякельнай смале! У Празе 0°. А ў нас да –28° уночы. «Сяджу ў чужым кутку. Пііраўская акцыя адбылася». Кажу, што па-вушацку сядзець кутам — кватараваць. Кутнік — кватарант. Усміхаецца, што помніць. Пытаюся, калі будзе тут? «На зялёную траву выйду». Кажу, што мы з Дамінічкай у нашага кушняра заказалі лёгкую зімовую шапку. Прашу, каб прыехаў прымерыць. Усміхаецца. Перадае прывітанне Пётру і ўсім.

Голас Васілёў падняў мяне на ногі, са знямогі вывеў. А перад гэтым Дамінічка насмяшыла й настрой ажывіла. Званю Ганаду, гавару з ім па-расійску. А Дамініка Валі: «Так і хочацца дзедзю ўрэзаць, каб заткнуўся, калі ён па-руску гаворыць». Малайчына ўнучачка!

*7 студзеня, аўторак*

Маміны Каляды. Валя ўсяго наваліла. І мае валацугі былі. Яшчэ ўсё грэе душу Васілёў голас. З паганскай шчырасцю люблю яго. Хай Бог доў-

---

[7] Бондар Таіса Мікалаеўна (1945–2005), беларуская паэтэса, празаік, перакладчык. У 2002–2005 гг. дырэктар рэдакцыйна-выдавецкай установы «Літаратура і мастацтва». Лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне» (2004).

[8] Лукашэнка Аляксандр Рыгоравіч (н. 1954), беларускі дзяржаўны дзеяч. Прэзідэнт РБ (з 1994).

[9] Шэрман Карлас Рыгоравіч (1934, Уругвай–2005, Нарвегія, Беларусь), перакладчык, іспанамоўны паэт. У 1956 г. пераехаў у Беларусь з Аргенціны. У 1989–2001 гг. віцэ-прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра.

[10] Быкава Ірына Міхайлаўна (н. 1927), жонка В. Быкава.

жыць дні ягоныя тут, на зямлі грэшнай! Мы, крывічы, дужа трымаемся свайго. Відаць, гэта й трымае ўвесь наш багатамільённы род. Бо і сам корань слова адзін з крывёю. Аж часам хочацца думаць, што кроў ад крывічоў, ад Крывіі. Крэўнасць — клёк роду. Пісаўся ліст Васілю. «Ліст трэйці»[1].

*8 студзеня, серада*

Жыву, як за мяжою, і ў Менску, і дома. Не чую натуральнай нашай крывіцкай мовы. Усё мова суседняй імпэрыі. І адпаведны настрой. Развітальны. Роспачны. Яшчэ дачушка дадае палеру. Дрэнны бацька, дрэнна ў нас. А чаго ж тады ціснешся? Колькі можна трымаць на шыі гэтую сямейку? Яшчэ Бог спагадае. А так бы хоць ваўком вый. Нідзе ніадкуль. А цэны шалянеюць. Не думаў, што гэтак дажываць буду. Толькі слова ратуе. Дык не даюць ні жыць, ні пісаць. [...]. Не ведаю, як трымацца, [...] карацей, каб не звар'яцець. Толькі Бог ды Пётра ратуюць. А хочацца хоць нешта яшчэ напісаць са свежай галавой. «Выбегшы»[2].

*9 студзеня, чацвер*

І кладуся, і ўстаю, а вушацкія, маміны словы гучаць ува мне. Яны й ратуюць. Каб гэта была мажлівасць сесці ды спакойна занатаваць. Гэта мама пасяліла мне веру ў Бога, беларускасць. Мама мне ўсё дала з вялікім запасам. Дужа шмат мамінага зблоціў, як у нас казалі. Мне кара гэтымі сямейнікамі за маму. Крыўдзіў яе няўвагай ды беспрасыпнай п'янкаю.

Ратаваўся хаданінай і шаптаў: «Цвёрдая валюта»[3]. Перад самым сном прыйшлі яшчэ радкі: «Рупцеся!»[4]

*10 студзеня, пятніца*

[...]. У «БДГ»[5] Сяргей Шапран пазваніў Васілю. Супакоіў я яго, што дакументы ПЭНа[6] знайшліся. Гэта напалоханы рэвалюцыянер Вал. Тарас[7] званіў Васілю, каб даведацца тэлефон Карласа ў Скандынавіі. Васіль спытаўся, ці атрымаў я ці Генадзь ягоныя лісты. Мы не атрымалі. Васіль

---

[1] Гл.: Ліст трэйці: Дзе пачуюць нашыя галасы... (7.01.03) // Калі рукаюцца душы... С. 244.

[2] Гл.: Ахвярынкі: За якую правіну ці грэх?.. (8.01.03) // Барадулін Р. Ксты. Мінск: Рымска-каталіцкая парафія свсв. Сымона і Алены. 2005. С. 450.

[3] Гл.: Цвёрдая валюта (9.01.03) // Барадулін Р. Халодная памяць вады. Мінск: Рымска-каталіцкая парафія свсв. Сымона і Алены, 2010. С. 264.

[4] Гл.: Ахвярынкі: За нястомнасць і ўсяжэрнасць тлену... (9.01.03) // Тамсама. С. 455.

[5] «Белорусская деловая газета» — беларуская грамадска-палітычная газ. (1992–2006).

[6] Аддзяленне Міжнароднага аб'яднання пісьменнікаў ПЭН-клуба Беларускі ПЭН-цэнтр (1989–2021).

[7] Тарас Валянцін Яфімавіч (1930–2009), беларускі і рускі паэт, празаік, перакладчык, кінасцэнарыст.

сказаў, што ні Валя[1] ў Воўчы, ні мы не атрымалі. А ў Бычкох швагерка[2] атрымала. Як гэта нюхачы калхознага разліву пранюхалі (у сэнсе прапусцілі)? Пытаўся, дзе фільм, які здымаў нябожчык Пятроўскі[3]. Вірджынія[4] хоча паказаць у Парыжы. Буду шукаць праз Ул. Халіпа[5]. «Узыходзіць…»[6]

Жыву ў Менску быццам бы, а наяве ў Вушачы кожны міг, кожны поміг. Усе ўзгорачкі, усе дрэўцы перад вачыма. Зямля кліча.

*11 студзеня, субота*

Ілона запіскай просіць грошы на адʼезд. Пры гэтым абражае. Расійскі бомж. Баюся, што Пётру здакучыць трымаць мяне. […]. Калі ўжо мне зусім невыносна, Мірон на рукі просіцца, абвіваецца ля шыі, напругу здымае. «Узводзьма!»[7] Учора нарэшце прыйшла паштоўка ад Васіля. Паўмесяца йшла. Кажу Дамініцы, што доўга. Яна: «Ці яе цягніком везлі?» І што ўжо чытаць было нюхачам? Па-расійску гэбіст, а па-крыўску дэбіст — бліжэй да дэбілаў. Хоць і дэбіламі іх назваць нельга.

Тэкст такі: «Дарагі Рыгорка і твая мілая сямейка, а таксама слаўны Мірон, з Новым годам вас і светлымі Калядамі. Хай 2003 свеціць і грэе, песціць і шануе. Мы на новым мейсцы, але са старымі клопатамі, як і старымі хваробамі. Перадай маё вітанне нашаму Ведзьмару, хай беражэ і Яго Ягоны Бог! Абдымаем — *Васіль* і *Ірына*».

Ці дэбістаў наструніў Мірон, ці Вядзьмар? Званю пашанотнаму графу[8]. Перадаю вітанне й зычэнні. Пытаюся, чым заняты. Адказвае: «Мыю кату лапы». Ён удвая большы за Мірона й дужа калматы. Абсікае сабе лапы. І граф пад кранам мые лапы Нурыку свайму.

---

[1] Быкава Валянціна Уладзіміраўна (1926–2016), сястра В. Быкава.

[2] Быкава Антаніна Аляксандраўна (н. 1938), жонка Быкава Мікалая Уладзіміравіча (1930–2000).

[3] Пятроўскі Сяргей Уладзіміравіч (1937–1999), беларускі кінааператар і рэжысёр. З 1965 г. на кінастудыі «Беларусьфільм». Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1981).

[4] Шыманец Вірджыні (н. 1968), французскі лінгвіст, гісторык, даследчыца беларускага тэатра. Узначальвала Асацыяцыю «Беларускія перспектывы».

[5] Халіп Уладзімір Трафімавіч (н. 1939), беларускі журналіст, мастацтвазнавец, драматург.

[6] Гл.: Ахвярынкі: Каб бачылі нашыя душы далёка… (10.01.03) // Ксты. С. 452.

[7] Гл.: Узводзьма! (11.01.03) // Тамсама. С. 343.

[8] «Мае карані ідуць у XVII ст., свой род я адшукаў у кнізе «Дваранства Уладзімірскай губерні». А мой дзед меў вялікае памесце Скароды ў Заходняй Беларусі. Но лічу глупствам выстаўляцца сваім графскім паходжаннем. Паслухаць, дык у нас кожны другі — шляхта, кожны трэці — Радзівіл!.. Гэта толькі Рыгор Барадулін вітаецца са мной: «Ваша графская мосць…» З інтэрвʼю П. Кухарскага Г. Лабадзенку. Гл.: «Комсомольская правда» в Белоруссии», 2004, 3 дек. С. 14.

*12 студзеня, нядзеля*

*[…]*. На ўзроўі стаю са здароў'ем, грошы няма, зарабіць няма дзе. […]. Вінаваты сам. Боская кара за маму. Хадзіў да пана Станіслава забраць шапку Васілю. Званіў Алесь[1]. Круціць яго беднага ўсяго, як бялізну на кладцы. А я ўсё кручу верш[2].

*13 студзеня, панядзелак*

Ад'ехала Ілонка ў Піцер. Шкада яе дужа. Разбэрсаная, загнаная, з сарванымі нэрвамі. […]. Куды мне?

*14 студзеня, аўторак*

Цэлы дзень, як апошні дзень, жыў. Роспач. Часам здаецца, што самому сабе чужым зрабіўся. Вакол чужыя. Відаць, калі палявалі на мамантаў, першачалавекі былі раднейшыя спаміж сабою. Ратуе толькі Пётра. Дзякуй Усявышняму, што дазваляе жыць! Там яшчэ наляжуся.

*Заўсягды*

Не мае спакою
Ні сон, ні пажар.
Час — халодны ліхвяр,
Выгода скупая.
Як любіць казаць
Мой галоўны Вядзьмар:
— Клопат — не грошы,
Яго заўсягды хапае!

*15 студзеня, серада*

У выдавецтва. Ганад неяк вымудрыў мне капейку. Дзякуй яму! Васіля так і не збіраюцца выдаваць, налягаюць, каб выйшаў «очень жирный писатель» Шамякін. Узяў пяць тамоў Броўкі[3], трэба выбраць 8 лістоў на сэрыю. Сцюдзёна на душы. […]. Усе чужыя! Толькі й ратуе вушацкае слова, якое нідзе не пакідае мяне. Яно ж Маміна! А наогул, гэта суцэльная лухта пра дрэнныя словы, пра пахабныя словы. Усе словы чыстыя, бо яны называюць рэчы сваімі йменамі. Брудныя вусны й подумкі.

---

[1] Камоцкі Алесь (Аляксандр Ерамеевіч; н. 1958), беларускі паэт, бард.

[2] Гл.: Каб не размінуцца (17.11.02–12.01.03) // Барадулін Р. Руны Перуновы. Мінск: «Радыёла-плюс», 2006. С. 425.

[3] Броўка Пятрусь (Пётр Усцінавіч; 1905–1980), беларускі паэт, празаік, перакладчык. Народны паэт БССР (1962). Акадэмік АН БССР (1966). Герой Сацыялістычнай Працы (1972). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1975). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1947, 1951), Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1959), Ленінскай прэміі (1962), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1970), Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).

*16 студзеня, чацвер*

Засеў за передрук. Мне ўсё-ткі запланавалі дзіцячую кніжачку «Выпаў грук у грома з рук»[1]. Зноў жа дзякуй Ганаду! Адвык ужо ад перадруку. Няма куды друкаваць.

*17 студзеня, пятніца*

У «Коўню»[2]. Самае інтэлектуальнае прыпірышча. Хлопцы спрытныя й на руку, і на язык! Па дарозе йшлі радкі: «Немінуча...»[3]

*18 студзеня, субота*

Званіў Марачкін[4]. У пад'ездзе збілі Радзіма Гарэцкага[5]. Сем швоў на галаве. Ён яшчэ сумна жартаваў у 9-й больніцы: «Добра, што яшчэ рэбры цэлы». Цэлы дзень не прыходзіў у памяць. Прафесіяналы. Калхозны варыянт 37-га. [...].

*19 студзеня, нядзеля*

Раніцай званок. Голас знаёмы, але шум у тэлефоне, голас крыху зніякавелы пытаецца: «Пазнаеш?» Кажу: «Пазнаю». А сам яшчэ намагаюся ўцяміць. Пытаецца: «Ты позна па горадзе не ходзіш?» Васіль! Наконт Гарэцкага. Коратка тлумачу. Пытаюся: «Як здароўе?» Васіль: «Магло быць лепшым». Перадае прывітанне Пётру. Добра, што Васіль там. Тут бы ў спакоі не пакінулі. Хоць званіў вечарам Пётру. Кажа: «Працаваў з Васілём. Не даюць пачвары яму жыць...»

*20 студзеня, панядзелак*

Цэлы дзень то перадрукоўваю дзіцячыя вершы, то чытаю Броўку, ягоныя, даруй божа, здзіцянелыя вершы, наскрозь савецкія да вараца-каў. То марыць пра «СССР сусветны без межаў і граніц», то ў блакіце па-

---

[1] Зборнік вершаў для дзяцей у дзяржаўным выдавецтве не выйшаў, а быў выдадзены выдавецтвам «Радыёла-плюс» у 2009 г.

[2] «Коўня» — творчая суполка мастакоў (з 1991).

[3] Гл.: Немінуча... (17.01.03) // Барадулін Р. У неба пехатою. Мінск: «Медыял», 2014. С. 99.

[4] Марачкін Аляксей Анатольевіч (н. 1940), беларускі мастак, педагог. Гл.: Аляксей Марачкин // Дуліна ад Барадуліна. (Мінск:) Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. С. 60.

[5] Гарэцкі Радзім Гаўрылавіч (н. 1928), беларускі вучоны-геолаг, грамадскі дзеяч. Доктар геалагічных навук (1969). Член-карэспандэнт НАНБ (1972). Акадэмік АН БССР (1977). Замежны член Расійскай АН (1994). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1969), Дзяржаўнай прэміі БССР (1978). Р. Гарэцкага каля дома прафесійна, аднім ударам, збіў чалавек, які нейкі час дзяжурыў каля яго дома ў машыне з цёмнымі вокнамі (як заўважылі дзеці). За нейкі перыяд былі літаральна падобным чынам збіты і іншыя прадстаўнікі інтэлігенцыі: гісторык Г. Галенчанка, мовазнавец Г. Цыхун, літаратуразнавец А. Мальдзіс, тэатральны рэжысёр В. Мазынскі, мастак А. Сурскі і інш.

весіць чырвоны сцяг, каб Вова Ленін[1] ішоў. У прынцыпе ён глыбока лірычны паэт. Прырода, побыт, сум па каханай. Дый не! І пра жорны піша, каб у канцы яны малолі муку на савецкі каравай. Апошнія вершы — ёсць пачуццё, адчуванне канца. Чалавечы верш, як земляка хаваюць у труне з сасны, што расла тут, у зямлю, на якой чалавек рос. Ды піша пра раніцу, усё добра, а ў канцы — хочацца дайсці пеша да Масквы. Лепей бы ракам. Ці страх, які спарадзіў такі мэтад, каб зарыфмаваць усе пастановы партыі рэцэдывістаў. Шкада земляка. Гэта з пяці тамоў тужыўся я знайсці вершаў без даважкаў і захлёбных пра Маскву й партыю на зборнічак на 12 лістоў выдавецкіх.

*21 студзеня, аўторак*

У «БДГ» да Сяргея. Сустрэў ратоўцу свайго графа Пётру. Галава ніяк не можа адысці ад вершаў землячка. Іх можна яму дараваць. Помнік сабе ўзнёс Энцыкляпэдыяй[2]. Хоць апрача Францыска Скарыны[3] ніхто ў Беларусі непадцэнзурнай энцыкляпэдыі не выдаў. […].

*22 студзеня, серада*

Занёс у выдавецтва й свой дзіцячы, і Броўку. Баба з возу — возу лягчэй!

*23 студзеня, чацвер*

Яшчэ фатыга з памерам Броўкі, з ілюстрацыямі. Але гэта ўжо няхай выдаўцы. Для Шапрана шукаю фота Уладзімера[4].

*24 студзеня, пятніца*

Сніўся сон. З Васілём едзем некуды ледзь не на пасту, але разводзіць вогнішча. Машына з Васілём усё чакае мяне, а я забягаюся дамоў, то кажух надзяваю, то нешта іншае не тое.

Пайшоў па такіх-гэткіх справунках, прыходжу, а Валя кажа, што званіў Васіль. Па дарозе ў «БДГ» да Тараса. Унук[5] заўтра едзе ў Прагу. Узра-

---

[1] Ленін Уладзімір Ільіч (сапр. Ульянаў; 1870–1924), расійскі палітычны і дзяржаўны дзеяч, стваральнік Савецкай дзяржавы.

[2] П. Броўка арганізатар, стваральнік і першы галоўны рэдактар выд-ва «Беларуская савецкая энцыклапедыя».

[3] Скарына Францыск (да 1490 — каля 1541), беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар, мысліцель-гуманіст, асветнік, пісьменнік. Пераклаў і выдаў па-беларуску Біблію (а не энцыклапедыю).

[4] Караткевіч Уладзімір Сямёнавіч (1930–1984), беларускі паэт, празаік, драматург, нарысіст, публіцыст, крытык, кінасцэнарыст. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1983), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1984, пасмяротна).

[5] Тарас Антон Вітальевіч (н. 1983), беларускі журналіст, паэт, перакладчык.

даваўся я, што перадам Васілю шапку. Унук казаў са слоў маці, што Васіль схудаў і пастарэў. Па-ранейшаму кутнікам, неўладкаваны. У «БДГ» звонім Васілю. Як з пулямёта Васілю пра сон, пра шапку, пра тое, як мучыўся з Броўкам. Васіль перабівае: «Ну яго, Броўку. Лепей скажы, як тваё здароўе. Я хварэў». Кажу: «Ведаю ад Пётры, які працуе з табой». Васіль дзякуе Пётру й згаджаецца: «Хай працуе». Наконт шапкі: «У нас тут плюсавая тэмпература. Прыеду, тады». Ужо добра, што згадзіўся ўзяць шапку. Вялікая перамога. Можа, у лютым прыедзе. Дай божа!

Перад маім прыходам у Сяргея быў Курэйчык[1]. Малады, шустры, прагны да славы да дрыжыкаў. З менчукоў, карані ў Смілавічах. Каб слова па-беларуску. Наднацыянальны генійчык. Перагоніць, можа, дудараўчыка[2] па грашах. А канец адзін. Драматургія, як нішто іншае, мусіць быць з глыбокімі нацыянальнымі каранямі, каб вершаліны сягалі ў неба сусветнай думкі. Лішні доказ гэты Курэйчык, што яшчэ некалькі пакаленняў будуць генетычна савецкімі. [...]. Іх час. Трэба спяшацца. Бо некалі ж ўсё-ткі будзе нейкі толк і ў Беларусі.

*25 студзеня, субота*

Пад уражаннем размовы з Васілём. На стале ў мяне Мама й Васіль. Розныя позіркі вачэй, але аднолькава родныя, вушацкія. Абапал іх два хатнічкі. Вартуюць. Дзень нейкі хмуры, галаваболевы. Перабіраў паперы. У запісной ад 11.08.95 «Не згасяць!: Ні мясцовыя ...» [у дзённіку].

*26 студзеня, нядзеля*

Галава развальваецца, як некалі нядаўна савецкая імпэрыя. Дзякуй Пётру! Падняў. Званіў Генадзь, Васіль да яго дазваніўся. Круціцца: «Ненасытный…» [у дзённіку].

*27 студзеня, панядзелак*

Сустракаўся ў ПЭНе з Наталляй Баравуляй[3], маладой журналісткай. Дамовіўся, што ў Arche[4], можа, дадуць «Лісты ў Нямеччыну». [...]. Для дзіцячае дам пераспевы паэзіі балтаў і малдаванаў. «Роўныя»[5].

---

[1] Курэйчык Андрэй Уладзіміравіч (н. 1980), расійскі драматург, сцэнарыст, кінарэжысёр, актор. З 2009 г. у Галівудзе (ЗША).

[2] Дудараў Аляксей Ануфрыевіч (н. 1950), беларускі актор; пісьменнік, драматург і кінадраматург. У 2003–2013 гг. мастацкі кіраўнік Драматычнага тэатра Беларускай арміі. Заслужаны дзеяч мастацтваў РБ (1991). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1982, 1984), Дзяржаўнай прэміі СССР (1985), прэміі «За духоўнае адраджэнне» (2000). З 1992 г. старшыня Беларускага саюза тэатральных дзеячаў.

[3] Баравуля (Янушэвіч) Наталля Мікалаеўна, беларуская настаўніца, журналістка.

[4] «Arche / Пачатак» — беларускі незалежны літаратурна-мастацкі, навукова-папулярны і грамадска-палітычны час. (з 1998).

[5] Гл.: Роўныя (27.01.03) // Халодная памяць вады. С. 302.

* Дамініка: «У дзедзі шкарпэткі колеру перасмажанага сонца».

*28 студзеня, аўторак*

Развітанне з Мулявіным[1]. У Доме афіцэраў адвялі колькі гадзінаў. Народу не злічыць. Нездарма Палац Рэспублікі так званы людзі клічуць саркафагам. […]. Прастоялі з Пётрам і Рыгорам Сітніцам[2] каля дзвюх гадзінаў. І раптам — (Лукашэнка), убіўшы галаву ў зямлю. […]. Сустрэўся з Генадзем Бураўкіным. Ён пра Лучанка: «Двойчы праваслаўны герой Савецкага Саюза». Папрасіў у яго радок, і ў трамваі ўскалыхнулася пра здольнага ўвогуле шчанючка, цалавальшчыка […]. «Лижет ухо власти, как щенок, Дважды православный Лученок». Ён нядаўна хрысціўся ў […] Філарэта[3] […]. Пузыня[4] цікава распавядаў. Некалі ў Ташкенце йдзе з торбачкай з кніжкамі узбечак і спявае: «Касіў Ясь канюшыну…» Пузыня пытаецца, ці ведае, што такое канюшына? «Нэ!» — адказвае. Мулявін вучыў мове нават азіятаў. […].

*29 студзеня, серада*

Аднёс апошні «хвост» дзіцячага зборніка. Для Arche «Лісты ў Нямеччыну». Можа, што дадуць. Наогул, друкавацца няма дзе. Дый ці чытае хто што?

*30 студзеня, чацвер*

Пазваніў Лапцёнак. Можа, у лютым выйдуць Лісты з прыпавесцямі Васілёвымі. «Знойдзе…: Мазалее ад балбатні язык…» [у дзённіку]. Напісалася прысвячэнне: «Вяльможнаму спадару Валерку Булгакаву[5]: «Каб, любую адпрэчыўшы мерку…» [у дзённіку]. […]. «Дазволіў»[6].

---

[1] Мулявін Уладзімір Георгіевіч (1941–2003), беларускі артыст эстрады, кампазітар. Мастацкі кіраўнік ансамбля «Песняры» (з 1969). Народны артыст БССР (1979). Народны артыст СССР (1990). Заслужаны дзеяч культуры Польшчы (1980). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1976).

[2] Сітніца Рыгор Сымонавіч (н. 1958), беларускі графік, паэт. З 1983 г. выкладчык Беларускага каледжа мастацтваў. Ганаровы акадэмік Расійскай акадэміі мастацтваў (2015). Заслужаны дзеяч мастацтваў РБ (2019). Лаўрэат Нацыянальнай прэміі ў галіне выяўленчага мастацтва (2018).

[3] Філарэт (свец. Вахрамееў Кірыл Варфаламеевіч; 1935–2021), праваслаўны царкоўны дзеяч РБ. У 1992–2013 гг. мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, свяшчэннаархімандрыт Успенскай Жыровіцкай абіцелі. Герой Беларусі (2006).

[4] Пузыня Уладзімір Якаўлевіч (1940–2012), беларускі майстар-рэстаўратар нацыянальных музычных інструментаў, педагог. Заслужаны дзеяч мастацтваў РБ (1994).

[5] Булгакаў Валер (Валерый Уладзіміравіч; н. 1974), беларускі філолаг, філосаф. У 2003 г. скончыў аспірантуру Інстытута філасофіі АН Украіны. Кандыдат філасофскіх навук (2005). Рэдактар час. «Arche» (1998–2012). Лаўрэат прэміі імя Е. Гедройца (2010), прэміі імя А. Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра (2012).

[6] Гл.: Дазволіў (30.01.03) // Ксты. С. 190.

*31 студзеня, пятніца*

Апошні дзень месяца. Божанька, дзякуй за кожны дзень!

Выступаў з Ларысай[1] перад другакласнікамі. Якія чыстыя, крывіцкія вочы! А іх жа захмараць і час, і клопат. Казалі, што ў нейкім калхозе выдалі плату селядцамі й салёнымі гуркамі. Гатовая закусь. За здароўе (Лукашэнкі) самагоначку. «Сама»[2]. Нешта мяне круціць, ломіць. Бярэцца на мароз. З разводдзя ды на мароз нармальны пераход цяжкі ўжо для мяне. Дзякуй графу Пётру, ён трымае мяне ў нейкай форме. На схіле няма спакою. [...]. Як утрымацца? [...]. Свістаў жа на сваім вяселлі. Дасвістаўся! І яе (жонку) па-чалавечы шкада. А тут яшчэ цешча[3] слабая. І яе шкада. «Ліст чацьверты»[4].

Наторкнуўся на Ёсю Бродскага[5]. Дзякаваць трэба камуністам, каб не яны, не было б Нобелеўскай. Напаўфеня на слаба вывучанай расейскай мове. Ганенні камуністаў плюс гэвэлт — у выніку геній. Учора гаварыў з Валяй Куляшовай[6] наконт шафёра-гэбіста, які быў у Купалы[7], потым у Лужаніна[8], а Лужанін яго падторкнуў Куляшову[9]. Справа Лужаніна мацнейшая за камуністычныя ідэі — стукачы, шпегі, нюхачы трэба ўсім рэжымам. У Лужаніна былі спадкаемцы, такія, як С., М., ды хіба пералічыш. І ў наш час тая ж Р. [...]. Яна і ў калхознай прэсе й радыё, і ў так званай апазыцыйнай, у асноўным з’ангажаванай. Колькі сабак каля Васіля Вялікага! Усе кормяцца. І савецкі рэжым, і калхозны не шкадуюць грошы. [...].

---

[1] Горцава Ларыса Мікалаеўна (н. 1942), беларуская актрыса. З 1963 г. у Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача (ТЮГе). Заслужаная артыстка РБ (1997). Жонка А. Вольскага.

[2] Гл.: Сама (31.01.03) // Халодная памяць вады. С. 307.

[3] Сталярова Таццяна Харлампіеўна (1914–2005), маці В. Барадулінай.

[4] Гл.: Ліст чацьверты: Соль жывая (31.01.03) // Калі рукаюцца душы... С. 245.

[5] Бродскі Іосіф Аляксандравіч (1940–1996, ЗША), рускі паэт, перакладчык. З 1972 г. у эміграцыі. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1987).

[6] Куляшова Валянціна Аркадзеўна (1936–2018), беларуская мемуарыстка, перакладчыца. Дачка А. Куляшова.

[7] Купала Янка (сапр. Луцэвіч Іван Дамінікавіч; 1882–1942), беларускі паэт, драматург, публіцыст. Народны паэт БССР (1925). Акадэмік АН БССР (1928) і АН УССР (1929). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941).

[8] Лужанін Максім (сапр. Каратай Аляксандр Амвросьевіч; 1909–2001), беларускі паэт, празаік, перакладчык. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1969). Лаўрэат Літаратурнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1965). Быў ссыльным.

[9] Куляшоў Аркадзь Аляксандравіч (1914–1978), беларускі паэт, перакладчык, кінасцэнарыст. Народны паэт БССР (1968). Заслужаны работнік культуры УССР (1973). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946, 1949), прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1968), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1970).

*1 лютага, субота*

Дзякуй, Студзень! Дзень добры, Люты! Мой месяц, мой самы цёплы. Знайшоў недзе на лістку верш 56-га года «Вярніся!»[1]. Якім ужо старым адчуваў сябе ў 21 год. Гэта даніна модзе. Бо мог цэбар выцадзіць, вядома ж, не малака. А ў галаву лезуць радкі пра розную брыду. [...]. Каб трохі пагрэць душу, Вялікаму Васілю пішу. «Ліст пяты», («Ліст шосты»)[2].

*2 лютага, нядзеля*

Вярнуліся маразы, з сабой прывялі зімы з далёкай далечы — з маленства. Ніштo так не пахне маленствам, як марозная зіма. Чым далей малечыя гады, тым бліжэй яны табе. Самота мае нейкую асаблівую сілу прывабнасці. Толькі самоце й верыць душа.

*3 лютага, панядзелак*

Аднёс у «БДГ» матэрыял пра Аркадзя Куляшова. Па дарозе ў «Мастацкай (літаратуры)» узяў фота класіка. Сустрэліся хлопцы з Камітэта па друку. Ёсць ліст Жоры Марчука[3] (Замяталіну[4]) пра выкананне задання [...] — зволіў з працы[5] Барадуліна, Арлова[6] ды іншых нацыяналістаў, якія не прымаюць рэжым. [...].

*4 лютага, аўторак*

Перакладаю прозу Ганада. Побыт і звычаі любога народа найцікавыя. А курдаў асабліва. 10 мільёнаў[7]. А нічога пра іх свет амаль не ведае. Беларусы, дзякуючы камуна[...] даганяюць курдаў. Аюсь, аюсь — усе ў саюзь!

---

[1] Гл.: Вярніся! (1956) // Барадулін Р. Дзённікі і запісы. Вып. 1. 1951–1969. Мінск: «Кнігазбор», 2015. С. 115.

[2] Гл.: Ліст пяты: Здаецца, здарожылася душа...; Ліст шосты: З-пад сонца бацькоўскага сэрца... (1.02.03) // Калі рукаюцца душы... С. 246; 247.

[3] Марчук Георгій Васільевіч (н. 1947), беларускі празаік, драматург. У 1997–2002 гг. дырэктар выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1996).

[4] Замяталін Уладзімір Пятровіч (1948–2019), беларускі дзяржаўны дзеяч. У студзені — ліпені 1997 г. старшыня Дзяржаўнага камітэта па друку і інфармацыі. У 2000–2001 гг. 1-шы нам. кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта, у 2006–2011 гг. генеральны дырэктар кінастудыі «Беларусьфільм».

[5] Пра звальненне Р. Барадуліна і інш. запісы лістапада 1996 г., 7 красавіка і 21 чэрвеня 1997 г. (зноска 2). Гл: Барадулін Р. Дзённікі і запісы. Вып. 8. 1996–1997. Смаленск: «Інбелкульт», 2020. С. 204, 238.

[6] Арлоў Уладзімір Аляксеевіч (н. 1953), беларускі паэт, празаік, перакладчык, гісторык. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986), прэміі імя Е. Гедройца (2018).

[7] Колькасць курдаў, якія не маюць сваёй дзяржаўнасці, дакладна не вызначаная, па няпэўных звестках ад 13 да 40 млн.

*5 лютага, серада*

Вечаровы званок. Васіль! Наконт нашай кнігі. Між іншым: «Відаць, наш любы вядзьмар загуляў. Бранхіт пасля грыпу». Хоць тут жа папраравіўся: «Ад грыпу ніхто не ўратуе». Ва ўчарашніх «Известиях» інтэрв’ю. Сказаў пра Бондаркаманду. Васіль: «Нічога дзіўнага, гэтага трэба чакаць».

*6 лютага, чацвер*

У «Мастацкую» да Ганада. Былі ў дырэктара[1]. Нармальны чалавек яшчэ савецкага разліву. На стале каляндар з (Лукашэнкам). На замену Сасо[2]. [...]. У «Коўню». Расказалі анекдот. Яўрэі (звярнуліся) да Сталіна з прапановай арганізаваць калгас. Паслалі іх на Далёкі Усход. Праз які час тэлеграма: «Калгас арганізавалі — прышліце калгаснікаў!»

*7 лютага, пятніца*

Да Лапцёнка. І яму цыбаты лагоец улядаіўся. Толькі маўчыць. Узяў набор «Лістоў у Нямеччыну». Васілёвы ўспаміны павінны выйсці неўзабаве. Задумалі зрабіць як бы альбомчык — Вялікі Васіль у фотадакументах. Адвячоркам у «Коўню». Сустракаўся там з графам-ратавальнікам маім. Яшчэ адзін анекдот. Амэрыканскі разведчык дакладвае: у савецкіх ёсць спэцназ, розныя «Альфы», «АМЭГІ», але самая сакрэтная стройбат — ім нават зброю не даюць, з лапатамі, — звяры. «Суперніца»[3].

*8 лютага, субота*

І не смешна ўжо гэта — кепска мне. Ломіць, круціць, як у млыне. Мяняецца надвор’е, штодня бліжэй да тога надвор’я, дзе ўжо нічога не баліць. Дазволіў Госпад пацікавіцца, ці жыў, ці толькі збіраўся. Дзякуй Госпаду за ўсё, за ўсё, за ўсё! А ў хаце няма спакою. Мітрэнга. Мітусня. Лухта. Усё, як у жыцці. Так і не давядзецца спакойна падумаць, пачытаць, пазапісваць тое, што яшчэ пакуль трымае памяць. «Лютаўскае»[4].

*9 лютага, нядзеля*

Зваліла немач. Ледзь Пётра падняў. Каб хоць як жыць, трэба працаваць, як у маладыя гады, а сілы на зыходзе, веташковыя.

---

[1] Мачульскі Уладзіслаў Антонавіч (1960–2017), беларускі юрыст. У 2002–2015 гг. дырэктар выд-ва «Мастацкая літаратура».

[2] Сталін Іосіф Вісарыёнавіч (сапр. Джугашвілі Іосіф, хатняе — Сасо; 1879–1953), адзін з кіраўнікоў Камуністычнай партыі СССР і Савецкай дзяржавы.

[3] Гл.: Суперніца (7.02.03) // Ксты. С. 307.

[4] Гл.: Лютаўскае (8.02.03) // Халодная памяць вады. С. 324.

*10 лютага, панядзелак*

Прыехаў Іосіф Навумчык[1] з Прагі. Ад Васіля прывёз весткі. Неўладкаваны. Калі Гавэл[2] даваў прытулак, тады многія хацелі бачыць Васіля ў сваіх кварталах. А пасля паводкі ўсё памянялася. Самім чэхам няма дзе жыць. Васіль жыве ў аднапакойчыку Ганны Сурмач[3]. Чыноўнікі чэшскія, вядома ж, яшчэ сацыялістычнага разліву, не чэшуцца. А Васілю хоць ты ў нейкія дамы для перамешчаных асобаў. Генадзь Бураўкін (да яго заехаўся Іосіф) цікава распавёў, як Ул. А. у свой час пісаў і хадзіў у райкам, што Неўдах[4] антысаветчык. Цяпер Уладзімер самы дэмакрат, адзін з «дзяцей капітана Гранта».

У «БДГ» слова пра залатога Міхася Стральцова[5] занёс. Пазванілі Васілю. Спытаўся наконт нашай кнігі. Сказаў прачытаць па-рэдактарскі яго-ныя прыпавесці: «Гэта ненармальна, калі аўтар не чытае сам, але такія абставіны. Будуць паўторы, скарацi». Падзяку і прывітанне перадаваў Пётру. Нейкія кручаныя дні пачынаюцца. Самай вернай спадарожніцай ціснецца стаць роспач, а мне хочацца, каб мяне абрала самота. Усё наадварот. «Ліст шосты (сёмы)»[6].

*11 лютага, аўторак*

Напаў нейкі шал на мяне. Каб не сурочыць! Хадзіў правяраць вочы. Яшчэ прыгожых бачу, і не толькі бачыць хочацца.

*12 лютага, серада*

У Тэхналагічны ўніверсітэт да аспірантаў. Там беларускасць трымае дачка маёй першай настаўніцы й дырэктара[7]. Выступалі маладыя паэткі. Жыве наша паэзія, жыве нашая мова. Цікава, што ў ВНУ ўвялі выхаваўчыя аддзелы […]. Нават ёсць намер не выдаваць дыпломы, калі не ўступяць у […] БПСМ[8]. Затое Вольга распавяла, як у іх дома карову нельга было заг-

---

[1] Навумчык Іосіф Адамавіч (н. 1938), бацька С. Навумчыка.

[2] Гавел Вацлаў (1936–2011), чэшскі драматург, пісьменнік. У1993–2003 гг. прэзідэнт Чэхіі.

[3] Сурмач Ганна Іванаўна (н. 1947), беларускі гісторык, архівіст, грамадскі дзеяч. З 1999 г. у Чэхіі, супрацоўніца Радыё «Свабода», пазней пераехала ў ЗША.

[4] Неўдах Лявон (Лявонцій Пятровіч; н. 1947), беларускі пісьменнік. У 1995–2005 гг. гал. рэдактар газ. «Химик» (г. Наваполацк).

[5] Стральцоў Міхась (Міхаіл Лявонцьевіч; 1937–1987), беларускі паэт, празаік, крытык, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1988, пасмяротна).

[6] Гл.: Ліст сёмы: Самотнік мусіць слухаць вышыню… (9.02.03) // Калі рукаюцца душы… С. 248. (У дзённікавым варыянце вобраз першай страфы пабудаваны на слове *цішыня.*)

[7] Кузьміч Вольга Аляксандраўна (н. 1946), беларускі філолаг, выкладчык. У 1996–2011 гг. заг. кафедры беларускай мовы Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта. Заслужаны работнік народнай адукацыі. Дачка Ефрасінні Міхайлаўны і Алеся Антонавіча Карабаняў.

[8] БПСМ — Беларускі патрыятычны саюз моладзі (1997–2002). З 2002 г. БРСМ — Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі.

нацьу хлеў і выгнаць, пакуль яна не пачуе маты […]. Званіў Тарас. Палескі красунчык Лёнечка Дранько[1]-Парсюк з былым работнічкам ЦК Толічкам Кудраўцом[2] пераклалі кнігу Туркменбашы[3]. Значыць, добра заплацілі. Заказ ці не самога (Лукашэнкі). Сапраўды, добрыя мальцы, толькі сцацца. «Пытанне: Дзецяроб-шматстаночнік пытае…» [у дзённіку].

*13 лютага, чацвер*

Сустрэліся з Анатолем Клышкам[4]. Доўга быў у Штатах у сына. […]. А нашая эміграцыя йдзе на спад. Натуралізуюцца дзеці й дзеці дзяцей шчырых беларусаў. Яны нідзе не запатрабаваныя — ні там, ні тым болей тут.

*14 лютага, пятніца*

Дзень народзінаў Міхася Стральцова. Даўно няма. А голас ягоны, слова ягонае са мной. З Генадзем Бураўкіным хадзілі на канцэрт Віцебшчыны. Калі аб'яўлялі землякоў, дык у першую чаргу Машэрава[5], Заслонава[6], а ні Быкава, ні нават Броўкі няма. Броўка ж адпрацаваў на камунабалванізм. Забыліся. Цікава, што абласных кіраўнічкоў называюць губернатарамі. А губерні ў Расіі. КГБ здалёку бачыць. Затое якая радасць была ў Сіпакова[7], што яго запрашалі на банкет. Смешна й сумна.

*15 лютага, субота*

Выходзіць, перакладаць «майнкампф» усходняга разліву прапаноўвалі Законнікаву[8]. Той адрэзаў: «Не хачу, каб унукі плявалі на дзеда».

---

[1] Дранько-Майсюк Леанід Васільевіч (н. 1957), беларускі паэт, празаік.

[2] Кудравец Анатоль Паўлавіч (1936–2014), беларускі празаік, перакладчык, кінасцэнарыст.

[3] Ніязаў С. Рухнама. Мінск: Беларускае ўнітарнае прадпрыемства «Светач», 2003. Пер. Л. Дранько-Майсюк, А. Кудравец, А. Бутэвіч, М. Сільчанка. *Ніязаў* Сапармурад Атаевіч (1940–2006), туркменскі дзяржаўны і партыйны дзеяч. У 1991–2006 гг. прэзідэнт Туркменістана. *Бутэвіч* Анатоль Іванавіч (псеўд. Максім Валошка; н. 1948), беларускі дзяржаўны дзеяч, пісьменнік, перакладчык, публіцыст, крытык, дыпламат. *Сільчанка* Мікалай Уладзіміравіч (н. 1954), беларускі юрыст. Доктар юрыдычных навук (1993). Прафесар (1995). У 1993–2008 гг. заг. кафедры Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы.

[4] Клышка Анатоль Канстанцінавіч (1935–2021), беларускі пісьменнік, крытык, перакладчык, педагог. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1994).

[5] Машэраў Пётр Міронавіч (1918–1980), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Герой Савецкага Саюза (1944). Герой Сацыялістычнай Працы (1978). У 1965–1980 гг. 1-шы сакратар ЦК КПБ.

[6] Заслонаў Канстанцін Сяргеевіч (1909)1910–1942), адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў час Вялікай Айчыннай вайны ў Беларусі. Герой Савецкага Саюза (1943).

[7] Сіпакоў Янка (Іван Данілавіч; 1936–2011), беларускі паэт, празаік, перакладчык. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1997). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).

[8] Законнікаў Сяргей Іванавіч (н. 1946), беларускі паэт, публіцыст, грамадскі дзеяч. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1982), Дзяржаўнай прэміі РБ (1992).

Яму: «А дарэмна, грошы добрыя». Сяргей для цікаўнасці: «А якія?» Адказалі: «Год пражывеш, як пры камунізме». «Праверыў: Туркменбашы падаў руку...» [у дзённіку]. [...].

*16 лютага, нядзеля*

З надвор’ем, як у нашай апэрэтачна-калхознай дзяржаве. А даводзіцца залежаць ад іх. З гэтай багны не выскачыш, толькі ў сябе ўцякаць і льга. А вось ад надвор’я ўжо да канца залежаць пачынаю. Чалавек залежны ўсё жыццё. Дый нябожчык, відаць, не можа быць незалежным. «Ліст»[1]. Толькі й ратуюся вершамі. Яны ўжо сёння нікому не трэба. А мне трэба. І гэта самае галоўнае. Для іх жыву й жыву імі ж. «Ліст»[2].

*17 лютага, панядзелак*

Ранішні званок. Міжгорад. Васіль. Я яму пра Туркменбашы. Чую, не да гэтага яму. Між іншым, пытае: «А Пётра валодае чорнай магіяй?» Адказваю, што Пётра моліцца за яго, веру Пётру. Захварэў Васіль. Болі ў жываце. Пупочная грыжа. Адразу ж — Пётру. Граф кажа, што гэта зноў жа нэрвы. І пярэбары, і неўладкаванасць, і нацягаўся клункаў. Калі цягам двух дзён нічога не зменіцца, давядзецца класціся на апэрацыю. Паўднём Пётра звоніць, што, можа, удасца замовамі. Адклаў усе справы. Толькі на Васіля працуе. Паехаў у «БДГ» пачуць голас Васіля яшчэ раз і сказаць пра словы Пётры. Пётра сказаў купіць сіні васілёк і заварваць. Па-латыні flores cyani (? Centaurea jacea L).

*18 лютага, аўторак*

Пётра другія суткі сядзіць дома — вядзьмуе, каб Васіль абышоўся без апэрацыі. «Ліст у Злату Прагу»[3].

* * *

Народжаны ў нябеснай цішыні,
Стараецца, наіўны, трапяткі,
На доле не растаць у брудзе
І розніцца па зябкай чысціні
Лясны, вясковы, гарадскі
Снег...
Як і людзі?

---

Міжнароднай прэміі імя Г. Скаварады (Украіна, 1997).

[1] Гл.: Ліст восьмы: Жыць хоча боль... (16.02.03) // Калі рукаюцца душы... С. 249.

[2] Гл.: Ліст дзевяты: Радзіма — дым ад вогнішча... (16. 02.03) // Тамсама. С. 250.

[3] Гл.: Ліст дзесяты: Вякі папраціралі рукавіцы... (18.02.03) // Тамсама. С. 251.

*19 лютага, серада*

У «БДГ». Інтэрв'ю Сяргею. Звонім Васілю. Хадзіў у аптэку, зёлак не далі — няма такіх, а наогул, яны па рэцэптах адпускаюцца. Выклікалі хуткую. Спазмы. Пытаю, што сказаць Пятру, — кажа, каб не турбаваў Пётру. Васіль расчараваны й раздражнёны, чуецца. Потым мне тлумачыць Пётра, што ў кожнае краіны свой абсяг зёлак. Мне не па сабе ад недаверу Васіля. Пётра траву мае тут. А спазмы ён прадбачыў.

*20 лютага, чацвер*

Да пана Уладзімера Вішнеўскага[1] ў майстэрню. Гэта хата-храм. Жыве яшчэ крывіцкі панскі дух.

*21 лютага, пятніца*

Выступаем з Алесем (Камоцкім) у школе. Пытанні. І між іншых: «Чаму вы сябравалі са знакамітымі, з вялікімі?» Калі яны былі яшчэ незнакамітыя й не вялікія, яны былі проста нармальныя, натуральныя, шчырыя. Сам Бог зводзіў адпаведных. «Не будзе: Свіння й пры высакосных апаросах…» [у дзённіку].

*22 лютага, субота*

Не маю спакою ад Васілёвага голасу. Што там з ім? Хоць веру, Пётра яго ачомае.

*23 лютага, нядзеля*

Дзень саўарміі. (Лукашэнка) зрабіў яго святам і нашым. Дзіва што вучылішча сувораўцаў ёсць, у памяць Суворава[2] — ката нашых змагароў.

*24 лютага, панядзелак*

Раненька пазваніў мой любімы кушнэр пан Станіслаў. Чуў па «Свабодзе», віншаваў. Кажа: «На працы слухаў «Свабоду»». Будзем жыць, калі кушняры слухаюць «Свабоду». А ўсё ж Станіслаў, а не Ванька з Кастрамы. І пазваніў Васіль! Віншаваў. Голас добры. Казаў, што пачувае сябе лепей. Перадаў вітанне й падзяку Пётру. У мяне камень з душы спаў. А трэццяй у «Коўні» да 22-х. Было, як у сям'і. Пан Вішнеўскі падараваў карціну на тэму мясцін Адама Міцкевіча[3] ў Беларусі. Выдатны твор, як заўсёды. А каўнары зрабілі цуда — казіную ножку, якую некалі даў мне ў Вушачы

---

[1] Вішнеўскі Уладзімір Мікалаевіч (н. 1955), беларускі мастак-графік, кніжны ілюстратар, скульптар, педагог. З 1996 г. заг. кафедры факультэта выяўленчага мастацтва БДАМ.

[2] Сувораў Аляксандр Васільевіч (1720 ці 1730 —1800), рускі палкаводзец, граф Рымнікскі (1789), князь Італійскі (1799), генералісімус (1799). Маецца на ўвазе Польскае паўстанне пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі 1794 г.

[3] Міцкевіч Адам (1798–1855), польскі паэт.

Апёнак (сусед), гэтак аздобілі й паклалі на пастамэнт з моранага дуба. У рукі страшна ўзяць, не тое што пісаць.

*25 лютага, аўторак*

Памерла Наталля Сямёнаўна[1] — сябра Уладзімера. Адпакутвала. Прыехаў Дзмітры Паўлычка[2] й Раман Лубкіўскі[3]. Сустрэчы. Не магу быць з імі. Клопату болей, чым трэба. «Ліст у Злату Прагу»[4].

*26 лютага, серада*

Хавалі Наталлю Сямёнаўну. Толькі развітацца зайшоў. Аддаў Сяргею Шапрану: «І яшчэ абляцела галінка адна…» [у дзённіку]. З хаты Валодзевай дамоў, а потым у гэбісцкую змяёўню — Дом дружбы. Вечар вёў Вася Жуковіч[5]. Наіўна-ўзнёсла. Выступае Ніл. Шкада мне стала яго — пасівець і не набрацца розуму. За адно дзякуй яму. Спяшаўся, і заеў замок-маланка ў штанах. Так і выступіў (бы) я. Ніл падказаў, каб зашпіліў. Потым прыём у пасла Украіны[6]. Уся абслуга па-ўкраінску мовіць. […]. Увесь вечар сустрэчы нагадаў мне забытыя пленумы Саюза пісьменнікаў. Усё ў мінулым.

*27 лютага, чацвер*

Выступ у школе. У Менску за год памерла 50 тысяч. Вымірае нацыя. Запаўняюць асобы болей усходняй хвалі. Дзеці, калі з імі па-беларуску, і яны адпаведна. Дык (Лукашэнка) жа робіць усё, каб беларускае слова замоўкла.

*28 лютага, пятніца*

Дзякуй, Люты! Не дужа люты быў ты са мной, месяц мой цёплы. «Ведае»[7]. Хоць у пятніцу спачыў крыху ад беганіны, хаданіны, хапаніны. Дык тэлефон дабівае. Хто трэба й хто не трэба звоняць.

---

[1] Кучкоўская Наталля Сямёнаўна (1922–2003), сястра У. Караткевіча.

[2] Паўлычка Дзмітро (Дзмітрый Васільевіч; н. 1929), украінскі паэт, перакладчык, крытык; палітычны дзеяч, дыпламат. Лаўрэат Рэспубліканскай камсамольскай прэміі імя М. Астроўскага (1961), Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Шаўчэнкі (1977). Герой Украіны (2004).

[3] Лубкіўскі Раман Мар'янавіч (1941–2015), украінскі паэт, перакладчык; дыпламат. Заслужаны дзеяч культуры Польшчы (1977). Лаўрэат Рэспубліканскай прэміі імя П. Тычыны (1979), Дзяржаўнай прэміі Украіны імя Т. Шаўчэнкі (1992), прэміі імя В. Незвала (1984, Чэхаславакія), прэміі імя П. Гвездаслава (1988, Славакія), Ars Translatijnis (2008, за перакладчыцкую дзейнасць).

[4] Гл.: Ліст адзінаццаты: Клопат заўсягды малады… (24.02.03) // Калі рукаюцца душы… С. 252.

[5] Жуковіч Васіль Аляксеевіч (н. 1940), беларускі паэт.

[6] Дронь Анатолій Андрэевіч (н. 1945), пасол Украіны ў РБ (1998–2003). Кандыдат эканамічных навук.

[7] Гл.: Ахвярынкі: Гэта ведае змеянятка… (28.02.03) // Халодная памяць вады. С. 477.

*1 сакавіка, субота*

«Ліст у Злату Прагу»[1].

*2 сакавіка, нядзеля*

Вычытваю карэктуру Васілёвых прыпавесцяў. Мудрасць і дасціпнасць. Быкаўская, а гэта значыць, эўрапейская вышыня. Дарэчы, у свой час разбіралі мележаўскія[2] кво-ква-кве — балотны квякат жабаў Палесся як дасягненне беларускае мовы. А ў дубовыя [...] галовы прытыкунчыкаў са ступенямі (яшчэ ў цыпках) не прыйшло разабраць мову Васіля Вялікага. Якая дакладнасць, якая адпаведнасць слова вобразу й думцы, настрою й душэўнаму стану. А колькі наватвораў: выкліканец дажджу, не было выбухоўкі, вірлівы клубок, перамірра, малаткар, авечы стрыгаль, генерал-недамерак, у краіне абдзіраў, *дзяржаўка* — дзяржаўны сцяг, апанурана сеў убаку, *да скрыпу напялі мускулы*. «*P. S.*»[3]

*3 сакавіка, панядзелак*

Пазваніў Тарас. Ягоная нявестка званіла з Прагі. Васілю нарэшце далі двухпакаёўку. Яна дапамагла Васілю купляць нешта з мэблі. Валянцін дадаў, што невялічкія апартамэнты. Яшчэ ўсё саўмышленне. Што Васілю — танцаваць? Да ўсяго ж, за плошчу трэба плаціць. Пры камуністых вага й талент вызначаўся памерамі кватэры.

*4 сакавіка, аўторак*

З Алесем у медыцынскай вучэльні. Сталая зала. Але слухалі добра. Асабліва грэла душу, што слухалі «Біблейскія балады» ў выкананні Алеся. Расце новая змена з Богам у сэрцы. Дай Бог!

У «БДГ». Сяргей Шапран звязаў з Васілём. Замкнёна-прыглушаны голас. Кажа, што здароўе падупала. Кажу пра справы з кнігамі. Пытаецца пра надвор'е. Тлумачу, што ў нас страшэнная завіруха, як некалі на Верасовачцы[4]. Васіль: «Гэта апошняя завіруха перад вясной». Васіль ходзіць у клініку на абследаванні. Потым Пётра казаў, што гэта добра. Васіля ён падтрымлівае. Занёс Лапцёнку карэктуру нашае сумесніцы.

---

[1] Гл.: Ліст дванаццаты: Зорак неразгаданых падчарка... (1.03.03) // Калі рукаюцца душы... С. 253.

[2] Мележ Іван Паўлавіч (1921–1976), беларускі празаік, драматург. Народны пісьменнік БССР (1972). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа (1962), Ленінскай прэміі (1972), Дзяржаўнай прэміі БССР (1976, пасмяротна).

[3] «Заканчэнне» верша «Зорак неразгаданых падчарка...» (1.03.03) // Калі рукаюцца душы... С. 253. Таксама гл.: Ахвярынкі: Для самотных на кірмашы... // Халодная памяць вады. С. 477.

[4] Верасоўка, Верасовачка — бацькоўскі хутар, дзе нарадзіўся Рыгор Іванавіч.

*5 сакавіка, серада*

11-га будзе 50 Ткачэнку[1]. Алесь хоча зрабіць як бы паштовачку:

*Маэстра*

Ён панавіта пасвіць мелодый атары,
Панавіта кунежыць нервы гітары.
Найвышэйшая ў майтэрства адна ацэнка:
«Як Уладзімір Ткачэнка!»

*6 сакавіка, чацвер*

З галавой даходжу. Нейкія хмары плывуць у галаве. Званіў Генадзь. Іосіф Навумчык казаў ад сына. Васіль уладжваецца на новым мейсцы. Настрой ягоны лепшае. А Жанна Д'Арк камсамольскага разліву В. І. успамінае сябе як самую вялікую барацьбітку. […]. Л., заг. аддзела «Звязды» ў самыя лютыя часы, быў самым заядлым камунякам […]. І цяпер ён кантралюе «Свабоду». Цытую сам сябе: «…органы бяспекі мацнейшыя за палавыя». Ніяк не магу адысці ад мовы Васіля — карэнна вушацкая, высвечаная глыбінным досведам: «Досвед няўдач ды пакутаў нічога не значыць, бо кожнае пакаленне ўсё пачынае спачатку… Пераможцам нельга не верыць… Не пойдзе на саступку; каб труп ажывеў; ногі яго падамлелі. Відаць, такая ўжо мы самабытная нацыя, што ні зробім, усё не ў лад, усё па-дурному і сабе, і іншым… Чалавек болей падобны да дрэва — надта кучаравае ў думках і справах… Слабым і палахлівым жывецца кепска, і, мусіць, таму яны дбаюць пра справядлівасць, дабрыню і спагаду. Ды дужыя не зважаюць на тое. А і праўда, нашто дужым спагада? Дужым патрэбна яшчэ болей сілы, бо сілу сіла дае… Усё ж добра, калі ёсць надзея, тады і спіцца лепей».

Цікавую рэч распавялі мне. У Расеі на Крайняй Поўначы не могуць выжыць пародзістыя сабакі — толькі дварняжкі-мяшанкі. Адпаведна й прадстаўнікі пыхлівай як бы вялікай нацыі. А скапцы ці еўнухі толькі дзіця не могуць зрабіць, а памагаць хану ў гарэме могуць.

З раніцы круціць, муціць. Мяняецца надвор'е. Пані старасць грукаецца ўсё болей настойлівей. А і ў хворую галаву лезе: «Пытанне: Моцнае, як смерць, каханне…» [з цыкла «Эрас»; у дзённіку].

[1] Ткачэнка Уладзімір Мікалаевіч (н. 1953), беларускі скрыпач, гітарыст, кампазітар-аранжыроўшчык. Заслужаны артыст РБ (1997). З 1987 г. артыст і аранжыроўшчык Нацыянальнага аркестра сімфанічнай і эстраднай музыкі РБ пад кіраўніцтвам М. Фінберга.

*7 сакавіка, пятніца*

Усе на вуліцы ўзбунтаваны надыходным святам імя Клары Цэткін[1]. Вынік бальшавіцкага кланавання. Апошняе слова ў навуцы — кланаванне. А бальшавікі даўно гэта рабілі.

*8 сакавіка, субота*

Мама называла бабская свята… Канкрэтна й ацэначна. З кожным святам старэйшым сябе адчуваеш.

Напісаўся «Трынаццаты ліст»[2].

*9 сакавіка, нядзеля*

Цягну вершы ў нізку, можа, падзагаловак «Эрас-цыкл»: «Да скону: Светла ў п'яным забыцці…» [у дзённіку]. Званіў Вал. Тарасу. Ён наведваў Дракахруста[3] — арытмія. Крыўдзіўся Аляксандр Абрамавіч, што яму цяжка шукаць эпітэты. Гэта напярэдадні 80-годдзя.

«Наогул»[4].

*10 сакавіка, панядзелак*

Панядзелак — тлум, беганіна. І ўсё без толку. Нешта гады пачынаюць пра сябе настойлівей нагадваць.

«Ліст чатырнаццаты»[5]. Штораз думаецца пра вынікі зямнога гасцявання. І штораз сумна.

*Застацца…*

Ахінутаму незямной журбой,
З будзённых гасцей ідучы дадому,
Застацца самім сабой,
Патрэбным сабе самому.

*11 сакавіка, аўторак*

Завяла мяне гэтая нізка: «Будзе: У мяне шаршатка маладая…» [у дзённіку].

---

[1] Цэткін Клара (1857–1933), дзеяч германскага і міжнароднага камуністычнага руху. Міжнародны кангрэс жанчын (1910, Капенгаген) прыняў яе прапанову аб святкаванні Міжнароднага жаночага дня 8 сакавіка.

[2] Гл.: Ліст трынаццаты: Як зьнічка, мільгане… (8.03.03) // Калі рукаюцца душы… С. 234.

[3] Дракахруст Аляксандр Абрамавіч (1923–2008), рускі паэт, перакладчык.

[4] Гл.: «А калі пагасне…» (9.03.03) // Халодная памяць вады. С. 285.

[5] Гл.: Ліст чатырнаццаты: Вясна з гадамі смутак маладзіць (10.03.03) // Калі рукаюцца душы… С. 255.

*12 сакавіка, серада*

Сяргей Шапран хоча раскруціць справу пра групу нацыяналістаў у АН, дзе быў Уладзімер Караткевіч. Каўрус[1] і Ліс[2] адмовіліся. Яшчэ дагэтуль пад страхам падпіскі. Адзін Сцяпан Міско[3] ды Міхась Чарняўскі[4] згадзіліся гаварыць. Генадзю Бураўкіну нехта прапанаваў паглядзець асабняк Сярэдзіча[5], які каштуе паўмільёна даляраў. Генадзь аджартаваўся: няма на чым ехаць дый курс даляраў не ведае.

*13 сакавіка, чацвер*

З раніцы ўспаміналася Вушаччына. «Пярэдадзень»[6]. Званіў Граку[7] — выдатнаму мастаку. Ён мае дзве кніжкі аформіў, а Лапцёнак цягне. Зноўтакі казаў Грак, Уладзімер Ільіч і сыну жытло й машыну новую, а Граку заплаціць няма чым. Цэкоўскі [...] Прыгодзіч[8] выдаў кніжку й ашукаў мастака. Нездарма ж казалі яшчэ тады: камуністы на руку нячысты. Трэба карацей — нячысцікі, ці, як кажа граф Пётра, — парнакапытныя.

*14 сакавіка, пятніца*

Да пана Станіслава па кушнэрскім клопаце. Узгадваў: «Самалёт ляціць, А збоку фортачка, Ідзе калхознічак, А збоку торбачка». [...]. «Цягне...: У заляцаннях тонкі...» [у дзённіку]. Пра розных (Сярэдзічаў): «Разгон»[9].

*15 сакавіка, субота*

Званіў Васіль. Шукаў Шапрана. Я запытаўся, ці кладзецца на апэрацыю. Сказаў яму, што ўсё будзе добра. На Пётру не спасылаўся. Але Пётра

[1] Каўрус Аляксандр Аляксандравіч (н. 1935), беларускі мовазнавец. Кандыдат філалагічных навук (1965). У 1981–2006 гг. выкладчык Беларускага педагагічнага ўніверсітэта імя М. Танка.

[2] Ліс Арсень Сяргеевіч (1934–2018), беларускі фалькларыст, літаратуразнавец, краязнавец, пісьменнік. У 1962–2015 гг. супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАНБ. Доктар філалагічных навук (1997). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986).

[3] Міско Сцяпан Міхайлавіч (1930–2010), беларускі культуролаг. Кандыдат мастацтвазнаўства.

[4] Чарняўскі Міхась (Міхаіл Міхайлавіч; 1938–2013), беларускі археолаг, пісьменнік. Кандыдат гістарычных навук (1971).

[5] Сярэдзіч Іосіф Паўлавіч (н. 1949), беларускі журналіст. У 1995–2020 гг. гал. рэдактар газ. «Народная воля».

[6] Гл.: Пярэдадзень (13.03.03) // Халодная памяць вады. С. 312.

[7] Грак Генадзь Сцяпанавіч (н. 1938), беларускі мастак-графік, кніжны ілюстратар. З 1989 г. узначальвае Беларускі народны клуб экслібрыстаў.

[8] Прыгодзіч Зіновій Кірылавіч (н. 1944), беларускі журналіст, пісьменнік. Кандыдат філасофскіх навук (1984). З 2000 г. працуе ў БДУ. Заслужаны журналіст РБ (2002). Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзных саюзаў (2013).

[9] Гл.: Ахвярынкі: Сабаку, які ўпадабаў хвастакрутку... (14.03.03) // Халодная памяць вады. С. 475.

мяркуе, што гэта дапамог Гавэл, а ў яго добрыя дактары. Двума словамі сказаў яму пра «Свабоду», пра ейнага кіраўніка, заг. аддзела «Звязды», выпускника Инъяза (кузні кадраў). Васіль толькі адказаў, што ёсць пра што пагаварыць. Неяк пагаворым. Здзівіўся, а чаму я не еду ў Прагу на святкаванне БНР[1]. Гэбісты пры камуністых і пасля іх не пераносілі мяне на дух. Ведаюць маю да іх любоў. Якая арава пасецца на Васілю, пералічыць цяжка. Потым напішуць успаміны [...].

*16 сакавіка, нядзеля*

На сход не пайшоў. Ляжаў улогам. У галаву йшло: калі да жонкі ставішся, як да дзяржавы... Ні блізкай душы ў хаце. [...]. Відаць, толькі у вечнай хаце спакой буду мець. Усё, што рабіў, як у нас казалі, чорту машну шыў. Ні здароўя, ні спакою, ні на жыццё. Беспрасвецце. Дзякуй Богу, што магу нешта яшчэ напісаць, хоць уцячы ў слова, уцячы на сустрэчу са словам, нашым словам, крывіцкім словам, пачутым ад Мамы. Сэрцам пачутым. А ўся хатняя мітрэнга — гэта мне кара за Маму. Піў, рэдка наведваў. На вяселлі свістаў і спяваў. Дасвістаўся. «Малога мяне за правіны...»[2]

*17 сакавіка, панядзелак*

Усё-ткі хвароба бярэ верх. Вечарам званіў Генадзь. Яму Васіль тэлефанаваў. Будзе класціся на апэрацыю. Паліп недзе на кішцэ каля печаня і можа перакрыць жоўцевыя пратокі. Страхавая медыцына. Ляжаць на калідорах. Добра, што беларусы знайшліся. Васіля пасялілі ў пакоі для прыслугі ў панскім доме старым. Першы паверх, як бы куханька й адзін пакойчык. Тэлефона няма. Інтэрнэту няма, значыць. «Які?: Чулейшы марудны ці шустры агонь...» [у дзённіку].

18 сакавіка, аўторак

Званіў Васіль. Устрывожыўся, што я занездаравеў. Пытаўся наконт кнігі. Лапцёнкі цягнуць ката за лапы, калі не за яйцы. Аднёс Тарасу, каб перадаў Васілю «Лісты ў Злату Прагу». Прайшоўся па вуліцах — усе шыльды, усе афіцыйныя ўстановы па-расійску. На нечым дык спачатку па-расійску, потым па-беларуску. Такога нават камунякі сабе не дазвалялі. На беразе Свіслачы каля штаба аперэтачных войскаў узводзіцца помнік гэбістам, якія загінулі пры выкананні абавязкаў. Хоць афіцыйна — супрацоўнікам унутраных войскаў. Па дарозе склалася: «Дзяруцца...: Адда-

---

[1] Беларуская Народная Рэспубліка (1918–1921). Не была прызнана шэрагам вядучых дзяржаў. Па Рыжскай дамове 1921 г. незалежнай беларускай дзяржавай была прызнана БССР.

[2] Гл.: «Малога мяне за правіны...» (16.03.03) // Халодная памяць вады. С. 186.

іліся калхозныя даяркі…» [у дзённіку]. […]. З раніцы прыйшлі радкі. Усё з Вушаччыны йдзе да мяне, каб падтрымаць, патрымаць тут: «Шляхта»[1].

*19 сакавіка, серада*

Аднёс Тарасу перадаць Васілю «Лісты ў Злату Прагу», а 4-ты том свой не перадаў. Васілю хопіць і там паклажы перавозіць, пераносіць. Сёння Валюшак паехаў у Чэхію. А я перакладаю прозу Ганада. Ёсць проста выдатныя навэлы, прыпавесці. Мудры ён чалавек. Шкада, што без радзімы, як і ўвесь народ ягоны — курды.

*20 сакавіка, чацвер*

У «Коўню». Душа падкоўваецца й шчырасцю, і ўсмешлівасцю. Сапраўдныя творцы! Граф між іншым успомніў: пад ляжачага афіцэра спірт не цячэ… Прыйшло ў галаву, адкуль слова *вірус.* У Ізраілі жыд пытае новага савецкага, які хворы прагай грошы: «Ві — рус?»

*21 сакавіка, пятніца*

Генадзь званіў Васілю. Кладзецца на апэрацыю. Івонка[2] прыехала ў Прагу. Выступаў Тарас. Ён паехаў, выходзіць, ад ПЭН-цэнтра. Вось чаму Васіль пытаўся, а ці паеду я. Дзе ж там. Гэбісты мяне на дух не пераносяць. Лукашуку[3] ў падмогу яшчэ […] Сяргей Шупа[4]. Хоць арганізоўвае мітынгі з лёзунгам: «Свабоду «Свабодзе»!» Свабоду ад гэбістаў. Хай яны спрахнуць. Хай па іх вошы пехатой ходзяць! Лепей хай на лірыку цягне.

*Сон*

У памяці абачлівы палон.
Сум — стомленаму розуму дарадца.
Каханая жанчына — марны сон,
Які не навучыўся паўтарацца.

Ты ў гэтым сне бясконца малады.
Яшчэ самоту рэха не гукае.
На лузе рэўнасці твае сляды
Гараць абражанымі вугалькамі.

---

[1] Гл.: Шляхта (18.03.03) // Руны Перуновы. С. 438.

[2] Сурвіла Івонка (Івонна Уладзіміраўна; н. 1936), мовазнавец, мастачка, беларуская грамадская і палітычная дзяячка. З 1997 г. старшыня Рады БНР у эміграцыі (Канада).

[3] Лукашук Алесь (Аляксандр Міхайлавіч; н. 1955), беларускі журналіст, публіцыст, празаік. У 1999–2004 гг. дырэктар Беларускай службы Радыё «Свабода» (Прага). Лаўрэат прэміі імя А. Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра (2018).

[4] Шупа Сяргей Анатольевіч (н. 1961), беларускі перакладчык. З 1996 г. супрацоўнік Радыё «Свабода». Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра (2019).

Каханая, чаканая, адна,
Адзіная, спатканая аднойчы.
Хутчэй бяжыць нявінная віна
Ад страху забыцця, як дзень ад ночы.

Пляцецца з санцавітых валакон
На птушку недасяжнасці пляніца.
Каханая жанчына — хітры сон,
Які ты просіш сніцца, сніцца, сніцца.

*22 сакавіка, субота*

Працую праз сілу. Няма здароўя і ўжо не будзе. А жыць трэба. Хаця б з-за Мірона. Няма шчырэй душы. Няма Мамы… «Было…»[1]

Перакладаю прозу Ганада. Гэта цікава. Праўда, адчуваецца, што гэта напісана на няроднай мове. На мове межгосударственного общения. Гэта як бы творы інтэрнэта. Бяда Ганада, што ён, як дзьмухавец на чужым асфальце. Сваім гноем нават не пахне ў ягоных апавяданнях. Пераказ, няхай і таленавіты. А каб рэч стала з'явай, яна мусіць быць глыбінна нацыянальнай.

*23 сакавіка, нядзеля*

Грып падкошвае мяне. Узгадваецца. У Латвіі. Бабулька ў лесе. Ідзе салдат расійскі. «Бабушка, гриб!» — паказвае. «Ne grib!» — крычыць. Ne grib — не хачу.

*24 сакавіка, панядзелак*

Аднёс Ганаду пераклады. Параіўся з Генадзем. Ганад напіраў на «Полымя». Я ледзь не згадзіўся пад псэўданім. Генадзь тлумачыў, што будзе як з Кудраўцом і палешучком Дранько-Парсючком. Хай нясе ў «Маладосць» […].

*25 сакавіка, аўторак*

Святое свята (гадавіна БНР). А я лостам праляжаў. Васілю павінны рабіць апэрацыю. Каб даў Бог — усё добра было!

*26 сакавіка, серада*

Дазваніліся да Ірыны Міхалішкі. Відаць, заўтра будуць рабіць. Пётра працуе, вядзьмарыць. Трымае Васіля. Сустракаўся з Якавенкам[2] — ней-

[1] Гл.: Было… ( 22.03.03) // Халодная памяць вады. С. 298.

[2] Якавенка Васіль Цімафеевіч (1936–2018), беларускі пісьменнік. З 1990 г. прэзідэнт Беларускага сацыяльна-экалагічнага саюза «Чарнобыль». Лаўрэат Міжнароднай літаратурнай прэміі імя Ф. Нансена (1994).

кую акцыю робіць на Палессі. [...]. «Словаблуд: — Дзе сведкі...» [у дзённіку].

*27 сакавіка, чацвер*

З Пётрам па аптэках. Падняў мяне трохі. Без яго не было б ужо даўно мяне. [...].

28 сакавіка, пятніца

Званок Генадзя. Як абухом па галаве. Васілю зрабілі апэрацыю. Не прыходзіць у сябе. Ірына Міхалішка ў роспачы. Усё абарвалася. Апошні, адзіны родны чалавек на гэтай халоднай зямлі. Каб неяк утрымацца, пачаў пісаць. «Ліст пятнаццаты»[1]. У паўдзён пазваніў Лапцёнак. Сыгнал «Доўгай дарогі дадому»[2] Васілёвай. Хутчэй у «Кнігу». Вярнуўся — званіла Ірына Міхалішка, Васілю лепей. Пазваніў, сказаў, што сыгнал. Трэба думаць, як перадаць. Званіў Аксак[3]. Падняў трубку Уладзя. Яму дрэнна з ныркамі. [...]. Параіў Анатоля Бублікава са «Свабоды». Ён, здаецца, едзе ў Прагу.

*29 сакавіка, субота*

Сустрэўся з Анатолем. У панядзелак аддасць «Доўгую дарогу дадому» Навумчыку[4]. Будзе Васілю нейкая хвіліна ўцехі. Удзень да Шапрана. Едзе ў Рыгу па акрэдытацыю. Быў у «БДГ» і Пётра. Па дарозе ў «БДГ»:

*Заўсёды*

Заўсёды Быкава любілі стукачы
І, як маглі, яго аберагалі,
Бо зарабляць даваў на добрыя харчы
І падвышаць віжацкія рэгаліі.

«Недагарэлыя»[5].

*30 сакавіка, нядзеля*

Збіраўся на сустрэчу з Пётрам. Ледзь зачапіў нагой — бутэлька каньяку — у цурачкі. Гэта хатніку на папраўку Васілю. Да Пётры. Ягоны Ну-

---

[1] Гл.: Ліст пятнаццаты: Чакае хатняя зямля (28 .03.03) // Калі рукаюцца душы... С. 256.

[2] Быкаў В. Доўгая дарога дадому. Мінск: ГА БТ «Кніга», 2002 (2003).

[3] Аксак Валянціна Іванаўна (Арлова; н. 1953), беларуская паэтэса, журналістка. З 1995 г. супрацоўніца Радыё «Свабода». Жонка У. Арлова.

[4] Навумчык Сяргей Іосіфавіч (н. 1961), беларускі журналіст, палітычны дзеяч. З 1996 г. жыве ў ЗША. З 1997 г. нам. старшыні Рады БНР. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра (2006).

[5] Гл.: Недагарэлыя (28–29.03.03) // Халодная памяць вады. С. 278.

рык пушысты, кілаграмаў 7. Пэрс. А ўсё-ткі Мірон мне раднейшы й мудрэйшы, хай не крыўдуе граф Кухарскі. У гэтых пышных катах ёсць нешта экзатычна-нянаськае. Няхай яны й мілыя.

*31 сакавіка, панядзелак*

На вечарыну да Генадзя ў Музэі Максіма Багдановіча. Утульна, пахатняму. Усе свае, трошкі маладзейшых. Генадзь чытае цудоўныя вершы — глыбокія, дасканалыя, дасведчаныя. Думаў, як ахрысціць, — медная клясыка, а ўсё-ткі лепш — маладая клясыка. Гэтак я разышоўся пад час спеваў Ядзі й Алеся Паплаўскіх[1], што пусціўся круціць рок-н-ролл з Ядзяй. Падэшвы тоўстыя й шурпатыя не далі разысціся. Але не паваліўся. Вытрымаў. Вечарам у Калегіуме перад маладымі талентамі. У адной далікатнай паэткі чатырохгадовая дачушка на памяць усю «Погоню» Максімаву (прачытала). Будзем жыць! Цікава, Ядвіга казала, як ёй некалі адзін узбек чытаў па памяці Генадзеву «Завіруху». Яна была страявой песняй у іхнай вайсковай часці. Узбек чытаў на памяць з правільным вымаўленнем, а [...] савецкага разліву Ядзенька Паплаўская дасюль не можа размаўляць па-беларуску. Сэлекцыя.

*1 красавіка, аўторак*

Да Тараса. Васіль перадаў каляндар з ката′мі й 200 эўра для Дамінічкі. У самога небагата, а пра маю ўнучачку дбае. Вушацкая, крывіцкая душа! Свабодадзюкі вырвалі Васіля з Нямеччыны, абы толькі жыраваць на ім і выконваць указанні Канторы Глыбокага Бурэння. Жахлівыя жыллёвыя ўмовы. Горшыя і прыдумаць цяжка. У пакойчыку для прыслугі ў панскім доме. Гэта яшчэ дадавала хваробы Васілю. Быў у Валюшыка Дракахруст. Успаміналі пра Дуньку[2]. «Ах, немножко б красивей, Ах, немножко б моложе, И попала бы я В Дракахрустово ложе». [...]. Любіў я зямлячцы падсыпаць жару пад пяткі. Таго яна заслугоўвала. Учора пісаў яшчэ: «Ліст шаснаццаты»[3]. А сёння з раніцы стукнула ў галаву. І напісалася яшчэ: «Ліст семнаццаты»[4].

---

[1] Паплаўская Ядвіга Канстанцінаўна (н. 1949), беларускі кампазітар, эстрадная спявачка. Народная артыстка РБ (2006). З 1989 г. (разам з мужам А. Ціхановічам) заснавальнік і кіраўнік Тэатра песні. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1979). Дачка К. Паплаўскага. Ціхановіч Аляксандр Рыгоравіч (1952–2017), беларускі эстрадны спявак. Народны артыст РБ (2006). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1979).

[2] Лось Еўдакія Якаўлеўна (1929–1977), беларуская паэтэса, празаік.

[3] Гл.: Ліст шаснаццаты: Шаноўны спадару Лёсе... (31.03.03) // Калі рукаюцца душы... С. 257.

[4] Гл.: Ліст семнаццаты: Не на вечнасць... (1 .04.03) // Тамсама. С. 258.

*2 красавіка, серада*

Да Лапцёнка. Узяў колькі тамоў «Доўгай дарогі дадому». Цікава, як [...] Вільтоўскі, які прадаў «Каралішчавічы»[1], [...] ёрзаў, калі я прыткнуўся за ягоны стол. Стол для яго — сэнс жыцця. Гэта ж трэба дадумацца: Ніл будзе выдаваць 23 тамы сваёй вытворчасці[2]. Амаль як Ленін. Выдавецтва «Кніга», дзе ён галоўны рэдактар, ляснецца на першым томе. Ніла можна зразумець. Шалёная самазакаханасць. [...]. Але які ж тады выдавец з Лапцёнка. «Простые советские люди повсюду творят чудеса!»[3] [...]. Часы цікавыя. У трамваі недзе ў Гародні ці ў Гомелі: «Напісаць дыпломную — 50 даляраў». Піша сын, а маці вядзе дыпломнікаў. Сямейны падрад. Зноў жа ў трамваі: «Зямля ўмерзла на паўтара метра. Бязлесіца, бяздроўе. Цяпер, пакуль адтае, ваду талую знясе. У порах сеяць дазваляецца». Дапераўтварылі прыроду.

*3 красавіка, чацвер*

Генадзевага сына «зарэзалі» — не зацвердзілі доктарскую ў ВАКу [...]. Хочуць зноў вярнуць [Замяталіна]. [...]. Стараюся не чуць і не бачыць [...] прапаганды. Калхозны, брыгадзірскі варыянт савецкае. «Ліст васемнаццаты»[4].

*4 красавіка, пятніца*

Як вытрымаць? Як не ашалець? Як хоць нешта паспець? Ні хвіліны спакою. [...]. Чытаю Васіля, каб хоць думкамі вырвацца з сямейнага пекла. Чытаю й плачу. Настолькі ўсё роднае, усё знаёмае. Вяртаюся дадому разам з апосталам Васілём. Ён ды Пётра толькі й ратуюць. На стале мама пазірае са спачувальным дакорам і балючай спагадай. Васіль з душэўным загадам — трымацца! [...]. «Ужо»[5]. «Змаганец: Святліцай назаве турму...» [у дзённіку]. Званіў Ірыне Міхалішцы. Васілю лепей. Падымаецца. Трэба набраць вагу. Урачы шчырэюць. Не ў нас.

*5 красавіка, субота*

Сустракаўся з Пётрам і Генадзем Асташонкам[6]. Пётра й акрылены, і стомлены. Недзе пацвердзіўся ягоны дыягназ, а стомлены, бо працуе

---

[1] Дом творчасці пісьменнікаў (з 1956).

[2] Гілевіч Н. Збор твораў: У 23 т. Мінск, 2003–2013.

[3] Словы з песні «Советский простой человек», муз. С. Германава, сл. В. Лебедзева-Кумача. *Германаў* Сяргей Леанідавіч (Гарбенка-Германаў; 1899–1976), рускі кампазітар. *Лебедзеў-Кумач* Васілій Іванавіч (Лебедзеў; 1898–1949), рускі паэт. Лаўрэат Сталінскай прэміі (1941).

[4] Гл.: Ліст васемнаццаты: Беларусь... (3.04.03) // Калі рукаюцца душы... С. 259.

[5] Гл.: «І памяці твая апрыкла праца...» (4.04.03) // Халодная памяць вады. С. 280.

[6] Асташонак Генадзь Адамавіч (1955–2012), беларускі мастак-рэканструктар зброі.

з Васілём. «Нястомніцы: Не стамляюцца зноў і зноў...» [у дзённіку]. «Хапіла...»[1]

*6 красавіка, нядзеля*

Тарасу званіў сын[2] з Прагі. Васіль ужо ходзіць. Да канца таго тыдня, відаць, выпішуць. У анкалогію класціся не бяруць. Амбулаторна будуць падбіраць лекі. Усё ў Боскіх руках. Творца Усявышні! Патрымай яшчэ колькі Васіля. Малю Цябе. А тут званіў другі Васіль. Сёмуха[3]. Між іншым, сказаў пра крумкача Адраджэння У. А. Калі рабілі пікеты, мітынгі ў абарону ліцэя[4], усё йшло на энтузіязме, шчыра. Калі адстаялі ўсё-ткі ліцэй, з Літвы прыйшло Коласу[5]: «Дайце справаздачу на грант, які быў дадзены на акцыі». Георгі [Уладзімір] Колас анямеў. Адказвае, што ніякога гранта і ў вочы не бачыў. А яму: «За грант распісаліся А. — старшыня бацькоўскага камітэта й А.». [...]. Крыжа на людзях няма! «Запросіны»[6].

*7 красавіка, панядзелак*

Праваслаўнае Звеставанне. Дзень прылёту буслоў па традыцыі. А навокал завіруха. Бела-бела. Дзеці ў двары збіраюцца зляпіць снежную бабу. Усё пераўтварэнні прыроды чалавекам. Так званым чалавекам. У Празе, кажуць, таксама снег, сырата, золь.

*8 красавіка, аўторак*

Апалове другой ночы, выходзіць, Валя выклікала «скорую». Я нічога не помню. Пётра кажа, што мог быць інсульт. Валя яму ўночы пазваніла. Вярнуў на гэты свет. Дзякуй графу! Удзень хадзіў у «Коўню». Пётра пасадзіў на дыету — сухары.

---

[1] Гл.: Хапіла... (5.04.03) // Халодная памяць вады. С. 416. Падобна, што верш напісаны з забытага аўтарам накіда, бо больш поўны і закончаны верш гл.: Ліст шэсцьдзесят першы: З-за золата зямлю перавялі... (26.06.02) // Калі рукаюцца душы... С. 170.

[2] Тарас Віталь Валянцінавіч (1956–2011), беларускі журналіст, публіцыст. Супрацоўнік газ. «Літаратура і мастацтва», «Культура», расійскай «Общественной газеты», Радыё «Свабода». Сын В. Я. Тараса.

[3] Сёмуха Васіль Сяргеевіч (1936–2019), беларускі перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа (1992), Літаратурнай прэміі імя Ф. Багушэвіча Беларускага ПЭН-цэнтра (1996), узнагароджаны ордэнам Трох зорак (Латвія; 1998).

[4] У 1997 г. улады спрабавалі забраць будынак Беларускага гуманітарнага ліцэя, але на той час вучні яго адбаранілі.

[5] Колас Уладзімір Георгіевіч (н. 1951), беларускі кінарэжысёр, педагог. Заснавальнік і дырэктар Беларускага гуманітарнага ліцэя імя Я. Коласа (з 1990). Сын Г. Коласа.

[6] Гл.: Запросіны (верш напісаны 25.12.02, а не 6.04.03, як пазначана ў зб. «Халодная памяць вады». С. 131) // Руны Перуновы. С. 437.

*9 красавіка, серада*

Сяджу-ляжу дома. Нязвыкла нічога практычна не магчы рабіць. На пэнсіі канкрэтна. Галава, як у савецкага клясыка, — гулкая й дурная. Генадзь званіў Васілю. Голас у яго добры. Занепакоіўся, што я занездаравеў. Сказаў, што і есць, і нават піва выпіў. Госпадзе! Патрымай яго!

*10 красавіка, чацвер*

Яшчэ ляжу. Званок. Васіль турбуецца пра маё здароўе. Пытаўся пра нашу кніжку. Трэба ўзяць аўтарскія «Доўгай дарогі дадому». Неўзабаве будзе Лукашук. Ім перадаць з пяток кніжак. Кажу, што трэба прайсці ўсё, што там ільга, бо ў нас урачоў не засталося. А тут — травамі. Васіль: «Не, тут толькі нож можа дапамагчы мне». На развітанне: «Мы павінны ўбачыцца!»

*11 красавіка, пятніца*

Занёс Лапцёнку хвосцікі да нашай з Васілём кнігі. Забраў 10 аўтарскіх. Міхась Скобла[1] падараваў ягоную анталогію[2]. Цікава. Проста волат — гэтулькі перавярнуць! Міхасю перадаў Хімэнэса[3] й «Лісты ў Злату Прагу». На кожную паравіну літжыцця свае Дубоўкі[4], свае Караткевічы, свае Быкавы, свае Скоблы. Імі і доўжыцца род нашага ўзнёслага, нашага крынічна-зорнага слова.

*12 красавіка, субота*

Цэлы дзень абміраў і рабіў песню Эдуарду Зарыцкаму[5]. Гэта для Фінберга[6]. І паміраць буду, а нейкія літдаўгі цягнуццамуць следам. [...]. Сямейка гэтая — кара за маму. Мала засталося, а сказаць хочацца й ёсць

---

[1] Скобла Міхась (Міхаіл Уладзіміравіч; н. 1966), беларускі паэт, літаратуразнавец, эсэіст, публіцыст. У 2000–2007 гг. супрацоўнік МГА «Беларускі кнігазбор», у 1999–2017 гг. супрацоўнічаў з Радыё «Свабода». Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра (2000), Міжнароднай літаратурнай прэміі «Воін святла» (Украіна, 2017).

[2] Краса і сіла: Анталогія беларускай паэзіі ХХ стагоддзя. Мінск: «Лімарыус», 2003. Склад. М. Скобла.

[3] Хіменэс Хуан Рамон (1881–1958), іспанскі паэт. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1956).

[4] Дубоўка Уладзімір Мікалаевіч (1900–1976), беларускі паэт, празаік, перакладчык, крытык. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1962). Быў рэпрэсаваны.

[5] Зарыцкі Эдуард Барысавіч (1948–2018), беларускі кампазітар. Народны артыст РБ (1999). Заслужаны дзеяч мастацтваў РБ (1994). З 1993 г. у Нацыянальным аркестры сімфанічнай і эстраднай музыкі РБ.

[6] Фінберг Міхаіл Якаўлевіч (1947–2021), беларускі дырыжор. З 1971 г. выкладчык Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Прафесар (1997). З 1987 г. мастацкі кіраўнік-дырэктар Дзяржаўнага аркестра сімфанічнай і эстраднай музыкі РБ. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1990), Дзяржаўнай прэміі РБ (1996).

што, ды няма як. Недарэмна ў маладыя гады гучалі мне булатаўскія[1] радкі: «Не женитесь, не женитесь, не женитесь, поэты». Душэўны стан, як з блакады толькі што вярнуўся дамоў… Гэта было ў 44-м.

*13 красавіка, нядзеля*

Святая Вербніца. У Чырвоны касцёл. Пасвяціў вербачку з ядленцам. Уся служба па-беларуску. Як гэта на душу кладзецца спакойнымі сонцамі. А наогул, у Менску пражыў, як на чужыне. Усё чужое, расійскамоўнае, прасавечанае. Дужа ж чысты я паганец у крывіцкім выкананні. Чым далей, тым мацней цягне да паганскіх каранёў. Нешта напісалася пад гатовую мэлёдыю: «Край залаты: Беларускі наш край залаты…» [у дзённіку].

*14 красавіка, панядзелак*

Да Ганада ў «Мастацкую». Усё зачахае. Калхозны сацыялізм — гэта поўны бардак. Жыццё ў мяху, якім час ад часу лупяць аб сценку абыякавасці. І войстрае адчуванне, і сінякі — рамантыка.

*15 красавіка, аўторак*

Не магу прыйсці ў сябе. Клёку узяць. Пад вечар узяўся перабіраць бульбу, бо пачала расці ў цёплым прыскрынку. Успомнілася Вушача. Над ямай адчыненай сядзім з мамаю й перабіраем бульбу, цярэбім росце. Запахла той вясной, тымі вёснамі, калі малады быў сподзеў…

*16 красавіка, серада*

Прыехаў Шапран. Званіў Васілю. У Васіля ўсё быццам бы добра. […]. Вечарам званіў Генадзь. Была прэзэнтацыя Васілёвай «Доўгай дарогі дадому». У СП у бібліятэцы. Ужо залы для Васіля не знайшлося. Гэта ж не проста кніга, гэта кніга-аповесць — размова з вечнасцю. А Тарас у захапленні — сціпла, утульна. Куды ўжо ўтульней! Вясёлую і радасную навіну Генадзь пачуў са «Свабоды». Вучоныя даказалі, што мяноўна на Паазер’і, на Полаччыне, у сэрцы Крывіі, захаваўся паўней генетычны тып беларуса, крывіча. З аналізаў крыві, бо ў крыві найбольш захоўваюцца гены. І, вядома, гены майго залатога сябра Гены. Арыйцы мы — гадоў трыццаць з гакам паўтараю, і паўтару, і паўтараць буду. А каб не звар’яцець «в кругу семьи», пісаў верш: «Цені крылаў»[2].

---

[1] Памылкова; на самой справе радкі з верша А. Гарадніцкага «Не женитесь, поэты» (1963). *Гарадніцкі* Аляксандр Майсеевіч (н. 1933), расійскі вучоны-геафізік, паэт, бард. Доктар геолага-мінералагічных навук (1982). Прафесар (1991). Акадэмік РАЕН (1993). Заслужаны дзеяч навукі РФ (2005), заслужаны дзеяч мастацтваў РФ (2013). *Акуджава* Булат Шалвавіч (1924–1997), рускі паэт, празаік, бард.

[2] Гл.: Цені крылаў (16.04.03) // Ксты. С. 249.

*17 красавіка, чацвер*

Памалу вылязаю з хваробы альбо ўлязаю ў яе. Да хлопцаў у «Коўню». Творчая праца. Яна патрэбна некаму, пэўнаму заказчыку. Праца на знос, але з нейкай пэрспэктываю. Вершы цяпер толькі табе самому й трэба, як выратаванне. Інакш можна стаць нармальным пэнсыянэрам, які ратуецца ў п'янцы. Не бачу выйсця, каб спакойна папісаць на развітанне, нешта ўспомніць, разбіраць завалы папераў. Як у яме. Хоць на зоры вой. Дык у горадзе яны цябе не ўчуюць, іх і не відаць. Не тое зусім у гародзе.

*18 красавіка, пятніца*

Звышсучаснае кампутарнае абследаванне. Нэўроз вышэйшага гатунку. А спакой толькі там, куды пакуль нельга спяшацца. Дамініка ні на кога застаецца. А Ілона свае патрабаванні [выказвае].

*19 красавіка, субота*

З Пётрам да Наташы (Давыдзенка). Назад ішлі доўга. Толькі цяпер пачынаюць паказвацца дзьмухаўцы. Зямля шэрая, голая.

*20 красавіка, нядзеля*

Хрыстос уваскрос! Хрыстос уваскрос! Хрыстос уваскрос! А ў душы мамін голас: «Вялічка прыйшло, яечна знясло. Хрыстос васкрос, сын Божы».

Хадзіў у Чырвоны касцёл. Маліўся. Чысцеў душой, на колькі можна мне. Самае святое свята. Яно мне заўсягды з мамай перагукваецца, пераглядаецца. Хоць усе святы святыя з мамай пабраныя. «Дзе ветрава радзіма?»[1] Раніцай павіншаваў Васіля з Вялічкам. Голас бадзёры. Рана яшчэ клапоціць. Сказаў, што Пётру і ў Празе ведаюць. Сказаў, што Пётра валодае гіпнозам. А трава мне дапамагае, бо веру Пётру. Яно так. Васіль пра сябе: «Я — Фама зняверлівы».

*21 красавіка, панядзелак*

Аднёс Генадзю ў новую газэту «Дурноты для галоты». Як у Генадзя ўтульна, спакойна. [...]. Выступаў Генадзь у ўнівэрсітэце. Былы рэктар Капуцкі[2] вельмі цікава пра апазыцыю: «Трэба меней крычаць, а болей рабіць. Спаляць недзе расійскі сцяг, а [Лукашэнка] на плёначку й Пуціну[3] — толькі я берагу Расію, без мяне пойдуць вайной на Расію». Пераводзіць на беларускую мову ВНУ паступова трэба. Галоўнае дзяржаў-

[1] Гл.: Дзе ветрава радзіма? (20.04.03) // Халодная памяць вады. С. 170.

[2] Капуцкі Фёдар Мікалаевіч (1930–2017), беларускі хімік. Рэктар БДУ (1990–1996). Прафесар (1978). Доктар хімічных навук (1984), акадэмік НАНБ (1994). Заслужаны работнік вышэйшай школы БССР (1976).

[3] Пуцін Уладзімір Уладзіміравіч (н. 1952). Расійскі дзяржаўны, палітыны і ваенны дзеяч. Прэзідэнт РФ (2000–2008, з 2012). Кандыдат эканамічных навук (1997).

насць і незалежнасць. Дарэчы, любяць Лойку[1], пра Ларчанку[2] — легенды, а лагойскага […] на дух не пераносяць.

*22 красавіка, аўторак*

Прэзентацыя «Красы і сілы» у СП. Вытрымаў. Уразіў Анатоль Сідарэвіч[3]. Дасведчанасць і ўтрапёнасць. Зацятаверніцкая крывіцкасць. Асоба! […]. Было шмат моладзі. Гэта ўсцешвае. Стаю на сцэне — успамінна й сумна. Колькі тут выступалася, даказвалася. А колькі трупаў дарагіх людзей стаяла. Старэю й прыкметна хутка. Душа як бы на адлёце. Мала асобаў, мала характараў. Болей местачковай эстрады. Але пакуль будзе моладзь — будзе Беларусь!

«Закалгашаны луг беларускага слова: Адкляпаная адмыслова…» [у дзённіку].

*23 красавіка, серада*

Сёння Пётру–45, а Рыгору Рэлесу — 90[4]. Званю Рэлесу, жадаю яму сто гадоў, а ён мне: «А я жадаю Вам 120». Па-габрэйску 120 гадоў. Зноў жа магічная лічба 12 — дванаццаць апосталаў, 12 месяцаў год. Вечарам у «Коўні» адзначалі Пятра. Прыйшлі чатыры грузіны ды такія грузінскія песні — душа вяснее. Пан Вішнеўскі пажадаў Пётру: «Каб ты быў дужы, як вяроўка, складзеная ўчатыры!»Акадэмік Зянкевіч[5] распавёў, як Азгур[6] да вайны яшчэ пры жывым Арджанікідзе[7] ўдзельнічаў у конкурсе на помнік Арджанікідзе.

---

[1] Лойка Алег Антонавіч (1931–2008), беларускі паэт, празаік, перакладчык, крытык і літаратуразнавец. У 1956–2004 гг. выкладчык філфака БДУ. Доктар філалагічных навук (1969). Прафесар (1971). Член-карэспандэнт АН БССР (1989). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1990), прэміі імя У. Пічэты (2003).

[2] Ларчанка Міхась (Міхаіл Рыгоравіч; 1907–1981), беларускі крытык і літаратуразнавец. Доктар філалагічных навук (1956). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1977).

[3] Сідарэвіч Анатоль Міхайлавіч (н. 1948), беларускі гісторык, крытык, літаратуразнавец, палітолаг.

[4] Рэлес Рыгор Львовіч (1913–2004), яўрэйскі і рускі празаік і паэт.

[5] Зянкевіч Уладзімір Леанідавіч (н. 1951), беларускі мастак, педагог. Заслужаны дзеяч мастацтваў РБ (2004). Прафесар (2005). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (2008). Ганаровы грамадзянін г. Светлагорска (2006).

[6] Азгур Заір Ісакавіч (1908–1995), беларускі скульптар. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1939). Народны мастак БССР (1944). Заслужаны дзеяч мастацтваў Дагестанскай АССР (1960). Народны мастак СССР (1973). Герой Сацыялістычнай Працы (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946, 1948).

[7] Арджанікідзе Грыгорый Канстанцінавіч (1886–1937), савецкі дяржаўны і партыйны дзеяч.

*24 красавіка, чацвер*

Да Шапрана. Пазванілі Васілю. Голас сумны. Пытаюся: калі да нас? Адказвае, што па хаце хадзіць цяжка. Але на вуліцу выходзіў. Божа, падоўжы дні апостала нацыі! Малю Цябе.

*25 красавіка, пятніца*

У часопіс «Наша вера»[1]. Далі падборку. Часопіс цікавы, духоўна чысты й высокі думкай. Да кушняра. [...]. А жахлівыя чуткі — трашчыць чарнобыльскі саркафаг. Зроблены па-савецку. Калі ахне — усім хопіць. Маўзалей Вовіку [Леніну] ў Белакаменнай трывала складзены. Лепей бы наадварот.

*26 красавіка, субота*

Заўтра ўшаноўваць Рэлеса. 90 гадоў. Перакладаў вершы. Напісаўся свой яму: «Рыгору Рэлесу»[2].

*27 красавіка, нядзеля*

Хрыстос уваскрос! Праваслаўнае Вялічка. Пазваніў Васілю, пахрыстосаваліся. Голас сумны, але з надзеяй нейкай. Кажа, Ірына зрабіла соку, паўшклянкі выпіў.

Вечар Рыгора Рэлеса. Сумна. Ні слова на ідыш. Дажыць да дзён, калі ты не ўчуеш роднага слова, якому служыў усё жыццё, ні ад кога. Не давядзі Гасподзь! Усё дзякуй камунякам. Жыды ж так шчыравалі на ідэі камунякаў. Наіўны народ.

*28 красавіка, панядзелак*

Устаў як з чужой галавой. Усё плыве. Забываюся нумары знаёмых тэлефонаў. Зноў нешта з надвор'ем. Пад старасць чалавек, як ураджай, ад надвор'я залежыць. А ў галаву лезлі радкі:

*Каб не згубіцца...*

І дасюль яшчэ не прысніліся мне
Ні лабаты пярун, ні мароз цыбаты.
Засталіся ў мамінай старане
З кніг маленства давучваць цытаты.

З імем хатніка, як з талісманам, хаджу,
Уголас вымавіць баючыся.

---

[1] «Наша вера» — каталіцкі час. (з 1995), заснаваны Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіяй.

[2] Гл.: На дзевяць дзесяткаў: Верш на ідыш... (26.04.03) // Барадулін Р. Толькі б яўрэі былі!.. Мінск: «Кнігазбор», 2011. С. 210; «Ад куфра мудрасці годна...» (2003; у рукапісе).

«З высяў сачыся…» —
Шапчу, як свайму, дажджу.
Дакараю град, як цесць:
« Не сячыся!»

З імі ўсімі хадзіў я па той зямлі,
Што да скону ў душы засталася.
Іх усіх пазавязвала ў хатулі
Памяць,
Каб не згубіцца ў часе…

*29 красавіка, аўторак*

У «Коўню». Сустрэча з Пётрам. Генадзь [Асташонак] аддаў абрамаваныя фотаздымкі Васіля й бацькі з Мамаю. Дзякуй яму, шчыруну з чыстай дзіцячай душой! Пётра перадаў травы. […]. Цікавая старонка ў нашай песеннай паэзіі Георгі Ліхтаровіч[1]. Нераспрацаваны пласт кшталту Высоцкага[2]. Гэта трэба. «Круці на вус!: Час шыбіны вачэй пазапыліў…» [у дзённіку]. Гэта як бы перадслова да кнігі Ліхтаровіча «Ліхтарынкі».

*30 красавіка, серада*

Галаўны боль. Ці вытрываю я ў гэтай хаце? […].

*1 травеня, чацвер*

Камунякі гэты дзень назвалі святам працы. Гэта ўсё па-савецку. Ці праца, ці свята. Яшчэ лепей спявалі: «Трудовые будни — праздники для нас!»[3] Відаць, […] недзе ў горадзе мітынгавалі. Нікуды не хадзіў. Шмат хацелася б паспець. Ды няма мне як спакойна пісаць, чытаць, жыць. Як чарнобыльская хмара. […]. Ратуюся словамі мамінымі. Відаць, Мама пасылае мне іх, нагадвае пра сябе.

*2 травеня, пятніца*

Шмат хадзіў, адыходзіў. Зусім даходжу. Пад настрой верш прыйшоў: «Ды спяшаюцца…»[4]

---

[1] Ліхтаровіч Георгій Леанідавіч (н. 1947), беларускі мастак, паэт, празаік. Ліхтаровіч Г. Ліхтарынкі. Мінск, 2005.

[2] Высоцкі Уладзімір Сямёнавіч (1938–1980), рускі паэт, празаік, бард, сцэнарыст, актор тэатра і кіно. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1987, пасмяротна).

[3] З песні «Марш коммунистических бригад» (1958), муз. А. Новікава, сл. У. Харытонава. *Новікаў* Анатолій Грыгор’евіч (1896–1984), рускі кампазітар, харавы дырыжор, грамадскі дзеяч. Народны артыст СССР (1970), Герой Сацыялістычнай Працы (1976). Лаўрэат Сталінскай прэміі (1946, 1948). *Харытонаў* Уладзімір Гаўрылавіч (1920–1981), рускі паэт. Заслужаны дзеяч мастацтваў (1973).

[4] Гл.: Ды спяшаюцца… ([N.]) 2.05.03) // Халодная памяць вады. С. 380.

*3 травеня, субота*

Да Алеся Камоцкага. Вязень працы. Дай Бог яму плёну. Паслухаў адну песню Акуліна[1]. «Веры маёй крыжы» недзе ў небе. Глухата да слова. Крыжы — гэта значыць магільнік. Добры малец, толькі сцыцца. Генадзь званіў Васілю. Сіла патроху прыбывае. Сумна сказаў: «Дужа хачу пабачыць усіх вас». Тут нейкая трывога з маркотай разам.

*4 травеня, нядзеля*

50 гадоў Уладзімеру Лайкову[2]. Па тэлефоне павітаў: «Хай панавіты род Лайковых...» [у дзённіку]. Пад вечар у СП перад маладымі. З абласцей. Цікаўная й цікавая рунь. Толькі б маразы калхознай улады абмінулі яе. Толькі б колас дала! Божа, паспагадай нашай змене! Па дарозе знайшліся радкі: «Каб...»[3] А ўстаў, вядома ж, з вушацкімі, мамінымі словамі й нейкай думкай: «Пацярпі...»[4]

*5 травеня, панядзелак*

Часта думаю, што трываліць нас, беларусаў, асабліва крывічоў. Колькі вякоў накіраванага вынішчэння. А мы ёсць! Відаць, трываляць нас, трымаюць нас паганскія карані. А ў крывічоў яны глыбока ўкараніліся. Тыя ж свае паганскія карані трымаюць і нашых дарагіх балтаў. Нацыянальнасць русский, такая ж, як і амэрыканец. «Каб не закрычаць...»[5] Каля «Птушанятка» сустрэліся з Пётрам. Пешкі да Шаманкі[6]. І назад. Дзякуй Пётру, трымае мяне на зямлі! Крывіцкая еднасць, крывіцкая самаахвярная шчодрасць.

*6 травеня, аўторак*

Паставіў на стол фота мамы ў цудоўнай рамцы, зробленай Генадзем Асташонкам (дзякуй яму!), запаліў свянцоную свечку. Сядзеў, гутарыў з мамай. Узгадваў, прасіў прабачэння. Узгадваў шмат чаго. «Памінаю маму...»[7].

---

[1] Акулін Эдуард Аляксандравіч (н. 1963), беларускі паэт, перакладчык, бард.

[2] Лайкоў Уладзімір Піліпавіч (н. 1953), беларускі настаўнік, краязнавец. З 1979 г. дырэктар Мётчанскай адукацыйна-выхаваўчай установы «Школа-садок» Барысаўскага р-на Мінскай вобл. Кіраўнік музея «Літаратурны космас Мётчы».

[3] Гл.: «Жыццё — такі прымусовая праца...» (4.05.03) // Халодная памяць вады. С. 281.

[4] Гл.: Пацярпі... (4.05.03) // Тамсама. С. 219.

[5] Гл.: Каб не закрычаць... (5.05.03) // Тамсама. С. 287.

[6] Сяброўская мянушка Наталлі Давыдзенка.

[7] Гл.: Памінаю маму... (6.05.03) // Руны Перуновы. С. 286.

*7 травеня, серада*

У Лапцёнка забраў набор «Песьняў матчыных з Вушаччыны»[1] й карэктуру нашай з Васілём кнігі. Роспач бярэ за душу. Што з Ілонаю? Як мне давесці хоць троху Дамініку? Ні здароўя, ні грошай. Сам, як памінальная свечка шмат па чым і па кім…

*8 травеня, чацвер*

Ледзь жывы ў парк павалок ногі свае. Хоць лоб да бярозаў напрыкладаў. І радасць маленства — бабулька пасвіць козачак. У мамы ж была, здаецца, Белачка. Цягне да зямлі, цягне дадому. Пакуль яшчэ не ў зямлю. У Наташы выйшла выдатная, балючая кніга[2]. На свае няшчасныя капейкі выдала, пакутніца, збеларушаная Шаманка. «Незаменная…»[3]

*9 травеня, пятніца*

Сумны, смутны дзень, які падвёў рысу пад бальшавіцкім гэнацыдам, падвёў не да канца. Перамога. Але якой цаной. Камунякі любілі спяваць «…нам нужна (одна) победа, мы за ценой не постоим»[4]. І не пастаялі — пад кіраўніцтвам нячыстай сілы. Пазваніў Васілю, павіншаваў яго з дзявятым чыслом. Голас даволі добры. Кажу, што трэба хадзіць. Адказвае, што ходзіць, але, каб хадзіць, трэба сіла. А дзе яе ўзяць. Хочацца й пасядзець, і паляжаць. Кажу, што званіў з вольных прафсаюзаў Быкаў[5] (Васіль ўдакладняе: Генадзь) і прапануе аж два мікрааўтобусы, каб Васіль з'ездзіў на радзіму. Васіль: «Фантазёр!» Кажа: «Не палі грошы, размовы з Беларуссю дужа дарагія». Перадае прывітанне ўсім й Пётру. Кажу, што Генадзь (Бураўкін) збіраецца паехаць у Прагу. Васіль: «Хай пачакае, можам размінуцца, відаць, неўзабаве пабачымся…» Знайшоў на паперках трохрадкоўі: («Ахвярынкі»)[6].

---

[1] Барадулін Р. Сама пайду дарогаю, голас пашлю дуброваю…: Песьні матчыны з Вушаччыны. Мінск: ГА БТ: «Кніга», 2005 (2004). Па недасведчанасці выдаўцоў вокладка пазначана першапачатковай назвай «Сама пайду дарогаю, голас пашлю дуброваю…». На тытульнай старонцы (памылкова пастаўлена імя Р. Барадуліна, які з'яўляецца не аўтарам, а складальнікам) падзагаловак «Песьні матчыны з Вушаччыны», які ў выходных дадзеных фігуруе ў якасці назвы. Не выпадае гаварыць пра іншыя недарэчныя неадпаведнасці і парушэнні выдавецкіх і бібліяграфічных правілаў і гостаў. А чатыры папеўкі наогул былі адкінутыя з дазволу Р. І. (дзве з іх як паўторы), але, набраныя курсівам (!), трапілі на самы пачатак кнігі. (Па просьбе ўкладальніка мне давялося вычытваць рукапіс. *Н. Давыдзенка).*

[2] Наталич М. Глухие голоса. Минск: «Беларускі кнігазбор», 2003.

[3] Гл.: «На гару прабачэння ўзысці…» (8.05.03) // Ксты. С. 314.

[4] З песні Б. Акуджавы да фільма «Беларускі вакзал» (1970).

[5] Быкаў Генадзь Аляксандравіч (н. 1957), беларускі грамадскі дзеяч. Гл.: Генадзь Быкаў // Дуліна ад Барадуліна. С. 122.

[6] Гл.: Ахвярынкі: Пан розум свой чэрствы…; Лёс перапялёс… (15.01.01) // Ксты. С. 453; 438.

*10 травеня, субота*

У «Коўню», як у сям'ю. Да чаго мне хораша з майстрамі! Пётра цікава казаў пра малечыя гады. Беларускасць тоіцца ў Беларусі. Афіцыйна зняважаная, пастаўлена на кэгэбісцкі канвэер знішчэння колькі ўжо стагоддзяў.

*11 травеня, нядзеля*

З паловай галавы хаджу, як марсіянін. Кепска мне. Каб не Пётра, канцы былі б. Прыехаў Сяргей Шапран. Яўген Коктыш[1] дамовіўся з Пётрам — паедзем у Ляхавічы. Без Пётры я б і да Камароўкі ехаў бы цяжка. У парку ўбачыў вавёрачку. Жывых істотаў ужо не бачу, толькі савецкае быдла наўкола, у якога клопат у рыфму: пажраць — паср.ць.

*12 травеня, панядзелак*

Прыехаў з Пскоўшчыны Шапран. Хоць яшчэ адзін светлы чалавек у гэтым змроку калхознага быдла. «На штодзённым таргу...»[2]

*13 травеня, аўторак*

Вольга Караткевіч[3] са «Свабоды» перадала мне цэлую торбачку вершаў пакутнага змаганца Яндарбі[4]. Цудоўная паэзія, поўная нязломнага чэчэнскага духу. Перакладаю з нецярпеннем, з трохі забытай ужо радасцю. Толькі б галаву не сарваць!

*14 травеня, серада*

Хаджу падняты й ўражаны паэзіяй Зелімхі. Як у маладыя гады вярнуўся. Перакладаю з радасцю й трымценнем. Пётра мяне дабраславіў на працу. Дзякуй яму, апоры маёй, спагадніку шчыраму, крывічу, паганцу кшчонаму!

*15 травеня, чацвер*

Сустрэча з Пётрам. Пасля да Сяргея. Звон Васілю. Перадаю яму прывітанне ад Пётры, ад сяброў з «Коўні», ад Мірона. Ён усім у адказ. Кажу, што Пётра раіць рухацца болей. Васіль: «Рухацца трэба, а сіла прызывае памалу. Міхалішка носіць мне ўсё торбамі — і моркву, і іншае. Але дужа хочацца нашай бульбы (удакладняю: вушацкай сопкай, над якой зімой рукі грэць добра), бо тут нейкая сінтэтычная. Ад лекаў ужо ванітуе. Ба-

[1] Коктыш Яўген Фаміч (н. 1940), беларускі фотамайстар.

[2] Гл.: А думаю... (12.05.03) // Халодная памяць вады. С. 303.

[3] Караткевіч Вольга ( 1972–2016), беларуская журналістка Радыё «Свабода» (1996–2009).

[4] Яндарбіеў Зелімхан (1952–2004, Катар), чэчэнскі паэт і палітычны дзеяч. У 1999 г. выконваў абавязкі прэзідэнта Чэчэнскай рэспублікі Ічкерыя. З 1999 г. паўнамоцны прадстаўнік у мусульманскіх краінах. Жыў у Катары.

ліць жывот і печань нешта». Кажу, што Пётра пасадзіць на травы. Васіль: «Па інтэрнэту заказалі травы ў Канадзе па рэцэптах індзейцаў Канады». Пытаецца пра нашую кніжку. Адказваю, што Лапцёнак абяцае хутка выдаць, яшчэ Лапцёнак хоча паўтарыць тыраж [«Доўгай дарогі дадому»]. Васіль: «А ці варта, як расходзіцца?» Адказваю, што званкамі заглушылі Лапцёнка з усіх куткоў Беларусі. Ілонка [Дамініка] ў школе прапагандуе. Наконт фотаальбома, пра нашую назву «Васілёк у жыце Беларушчыны». Васіль: «Гэта, калі б я малады памёр… дужа рамантычна. Можа, лепей: «Куст асоту ў жыце Беларушчыны». «Раздолле: Па вясне мілаце раздолле…» [у дзённіку]. […].

*16 травеня, пятніца*

У *Ляхавічы.* Беларуская гімназія. Як некалі ў Вушачы ў школе. Пабеларуску ўсё. Расчуліўся, як быццам развітанне. Хлапчук задаў цікавае пытанне: што б я хацеў пажадаць сабе самому. Нешта адказаў, яму адказаў, а сабе не змагу, відаць, адказаць. Цікавая бяседа з настаўнікамі пасля. […]. Падпісваю кніжкі, дзённікі. Адзін просіць: «Распішыцеся на сцягу». Кажу: «Не магу». […].

*17 травеня, субота*

Перакладаю Яндарбі. У захапленні. Мудра. Свежа. Глыбінна. Працую, каб забыцца, што душа перад выраем, што дома — філіял пекла. Наперадзе — змрок. Самота. Немач. Як сябе ні бадзёр.

*18 травеня, нядзеля*

Сустрэча з Пётрам. Як яму не надакучыць трымаць мяне? З раніцы прыйшлі радкі: «Нялёгка…»[1], «Чакае…: Ты ў дарозе яшчэ валачэшся…» [у дзённіку].

*19 травеня, панядзелак*

Снілася. Чакаю з нейкімі маскалямі Васіля. Нарэшце — Васіль! Малады й лёгкі бягу, хапаю ягоныя валізы й нясу іх на нейкі трэці паверх, на гарышча. Васіль вясёлы, бадзёры, светлы… Цэлы дзень улягаў на Яндарбі. Вечарам у наш сквер, ці парк. Салавей. Успомнілася — вушацкі пераклад салаўінага спеву: «Цімох, цімох Павёў дзяўчыну ў мох, у мох, Паваліў, загаліў — Торк, торк, торк, торк…» Вушацкім усім прасолены я, як той агурок на зі'му.

---

[1] Гл.: «Пасля палётаў…» (18.05.03) // Халодная памяць вады. С. 305.

*20 травеня, аўторак*

Сустракаўся з выдаўцом Яндарбі. Гэта ён сам прасіў мяне перакласці ягоную паэзію. Памаладзеў душой. Адкрываю цэлы мацярык. Каб толькі Бог сілы даў!

*21 травеня, серада*

Чакаю Пётру каля «БДГ». Круціцца мужчына яшчэ даволі маладога веку. Вока трохі падбіта, шчака падрапана. Раз прайшоў, яшчэ, яшчэ. І потым даверліва: «Можа, мы вып'ем на двух бутэльку віна?» У руцэ тысяча й дробязныя. Яшчэ за свайго лічаць. Хоць, праўда, у трамваі мапады хлопец саступіў мейсца. А душой вяртаюся дамоў. Кожная драбязінка жывая ўсплывае, помніцца. «Да ўсходу сонца»[1].

*22 травеня, чацвер*

Сустрэча з Пётрам. Дадае моцы. Можа, як выкараскаюся з немачы.

«Не ўбачыў...: Селекцыйныя качкі, сабачкі» [у дзённіку].

*23 травеня, пятніца*

Васіль Сёмуха рупіцца, каб на сайце ў Беластоку было «Эвангелле ад Мамы»[2]. Дзякуй яму. «Душа вяртаецца дадому»[3]. «Вынік: Вынік ад кожнага тоіцца недзе» [у дзённіку].

*24 травеня, субота*

Ранішні званок. Нейкая трывога. Васіль! Прыляцеў. Я аж заплакаў ад нечаканай радасці й падспуднай трывогі. Сказаў нікому не гаварыць, што прыехаў. У панядзелак мусім сустрэцца. Як пераэыць цэлых два дні?

*25 травеня, нядзеля*

Вольга Караткевіч звязала з Зелімханам. Доўга гутарылі. Сказаў яму, што кніга мусіць быць, як «Кабзар»[4] украінцам, як «Гусляр»[5] нам. Засаромеўся. Я падкрэсліў, што глыбіня й шчырасць робяць гэтую кнігу з'явай. Адказвае, што пісаў, наколькі таленту было. Падкрэсліў, што талент паняцце туманнае, выказаць глыбіню й шчырасць — гэта й ёсць канкрэтны талент. Перайшлі на «ты». Я яго пан Зелімхан, а ён мяне Дзядзька Рыгор. Некалькі разоў на развітанне паўтарылі: «Да сустрэчы! Калі Бог дасць». Падзякаваў яму, што ён вярнуў раніцу ў маю душу. Амаладзіў мяне сваёй

[1] Гл.: Да ўсходу сонца (21.05.03) // Ксты. С. 230.

[2] Барадулін Р. Евангелле ад Мамы. Мінск, 1995.

[3] Гл.: Душа вяртаецца дадому (23.05.03) // Ксты. С. 263.

[4] Адзіны прыжыццёвы зборнік вершаў Т. Шаўчэнкі (1840). *Шаўчэнка* Тарас Грыгор'евіч (1814–1861), украінскі паэт, празаік, мастак.

[5] Зборнік вершаў «Гусляр» Я. Купалы (1910).

паэзіяй. Удвух хвалілі Вольгу Караткевіч, якая зняла нас. Дагэтуль завочна знаёмыя былі. Нашыя вочы чыталі адзін аднаго ў расійскіх перакладах. «Пану Зелімхану Яндарбі»[1]. «Пачулася…»[2]

*26 травеня, панядзелак*

Да Васіля. Стомлены, спакутаваны, зацкаваны. Але нязломны. Хоча вярнуцца. Кажа: «Прырода абуджае сантыменты. І толькі». Свабодаўцы, вядома, выцягнулі яго ў сваіх мэтах. Гавэл пайшоў, прыйшоў антыпод[3]. Адпаведна чынавенства ўсё адвярнулася. На першых часінах у Ганны Сурмач на кватэры. Нават канапы няма. Ганна спіць на падлозе. Была паехала да сына ў Штаты, здаецца. Васілю занёс шапку. Каб была надзея, што будзе насіць. Ірына Міхалішка зняла нас. Васіль у зімовай, я ў суперлетняй.

*27 травеня, аўторак*

Сустрэўся з Глебам[4]. Ён прастудзіўся. Прайшлі паркам. Глеб рабіў здымкі. Таленавіты ва ўсім. Якая змена расце!

*28 травеня, серада*

Ганад пазваніў, што першы том Васілёў пойдзе ў друк. Дазваніўся да Васіля. Васіль: «Хай яны што хочуць робяць з гэтым зборам. Як пачуюць, што Быкаў хворы, пачынаюць нешта як быццам рабіць… Ганад — яшчэ мне ідыёляг!»

*29 травеня, чацвер*

У ПЭН. Васіль прыехаў. Падаў заяву аб адстаўцы. Надакучыла яму ўсё. Клопатаў болей, чым гэта магчыма. Выпісалі з Менска. Цяпер трэба нанова (прапісвацца). Абы парваць нэрвы. Мне як бы на вуха: «Страшэнная рэч, калі жанчыны старэюць. Тады ва ўсім вінаваты муж і што надвор'е не такое, і што грошы няма. Ва ўсім вінаваты муж». Пра Сяргея Шапрана (ён здымаў) — гэта майстар першакласны. Сяргей аднекваецца, што добрая тэхніка. Васіль пярэчыць: «Тэхніка мёртвая. Трэба вока. Кадр магічную сілу мае. Традыцыйнае мастацтва выдыхлася. Цяпер фота робіць дзіво-

---

[1] Гл.: Пану Зелімхану Яндарбі (25.05.03) // Яндарбі З. Сэрца майго сьвятыня. Пер. Р. Барадуліна. Вільня: «Gudas», 2005. (Верш на вокладцы.)

[2] Гл.: Пачулася… (25.05.03) // Ксты. С. 309.

[3] Клаўс Вацлаў (н. 1941), прэзідэнт Чэхіі (2003–2013).

[4] Лабадзенка Глеб Паўлавіч (н. 1986), навучэнец Беларускага гуманітарнага ліцэя імя Я. Коласа (2001–2004), студэнт журфака БДУ (2004–2009). У 2004–2008 гг. карэспандэнт газ. «Комсомольская правда» в Белоруссии». Лаўрэат прэміі «Дэбют» імя М. Багдановіча (2013), «За свабодную думку» імя В. Быкава (2018).

сы. А нашыя старыя фотамайстры таксама выдыхліся, Кармілкіны[1] ды іншыя». Праводзім Васіля да таксі. Сустракаецца Трусаў[2]: «Хадзіце, я падару сваю газэту». Толькі й мог ашчасліваць прафэсійны беларус. Перад самым таксі Васіль зноў папярэджвае: «Не кажы, каго вязе. А той раз двайную плату ўзяў, пачуўшы ймя». Казаў жа Стэйнбек[3]: «Самае страшэннае — гэта страціць невядомасць». Па дарозе заўважае: «У мяне ў двары гэтулькі машын самых апошніх марак, што і ў Празе такіх не так густа. Кіёскаў, крамак навалам. А людзі бедна жывуць». Чытаў мой чацверты том[4]. Сказаў, што ўмею пісаць прозу. Адзначыў пра Валодзю [Караткевіча], Вушацкі словазбор. Сяргея Рублеўскага[5] прозу хваліў, пра Наташу [Марыну Наталіч]: «Пісаць умее, было б пра што».

Сёмуха папрасіў напісаць для нейкага спеву: «Сын нябёс»[6]. Для «Нашай нівы»[7] вычытваў набор. Успомніў заказ Караткевіча. Гэта калі Ніл Хвалевіч-Гілевіч грукаў малатком у дзверы [кватэры Караткевіча]. Доўга былі знакі. «У дзверы лупіць малатком…» [у дзённіку].

*30 травеня, пятніца*

[…]. Божа! Дапамажы не звар'яцець! Для Мірона й Дамінікі варта жыць. У «Коўню». Генадзь зрабіў абрамкаванне партрэта Караткевіча. Юрась[8] распавёў , як ехала дачка з сяброўкамі з Германіі. Цягнік расейскі. Спазняюцца. Ледзьве паспелі тры валізы вялізныя аля Вялікая Германія ўціснуць у апошні вагон. Стаяць у тамбуры. А мейсцы недзе ў сярэдзіне цягніка. П'яны праваднік: «Што тут такое?» Яны: «На 5 еўра й занясі валізы». Валачэ. Стаіць кабета. Ён: «Фрау, у.бэн зі біттэ!» І цягне. […]. А ўчора йду. Каля нашага дома ў траве маленькі шэры камячок, а крылцы дрыжаць, як у матылька. Верабей на вераб'ісе. Як ні вырываецца — не злязае. І чым трымае? Значыць, мае! А сёння йдзем з графам. Галка з блакітнымі вачыма на зялёнай траве. Уражвае.

---

[1] Кармілкін Уладзімір Паўлавіч (1934–2002), беларускі фатограф.

[2] Трусаў Алег Анатольевіч (н. 1954), беларускі археолаг і гісторык архітэктуры, грамадскі і палітычны дзеяч. Кандыдат гістарычных навук (1981). У 1999–2017 гг. старшыня Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. «Наша слова» — газ. ТБМ.

[3] Стэйнбек Джон Эрнест (1902–1968), амерыканскі пісьменнік. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1962).

[4] Барадулін Р. Збор твораў: У 4 т. Т. 4. Мінск, 1996–2002.

[5] Рублеўскі Сяргей Васільевіч (н. 1954), беларускі празаік, паэт. У 1990–2008 гг. гал. рэдактар віцебскай абласной газ. «Народнае слова».

[6] Гл.: Сын нябёс (29.05.03) // Ксты. С. 159.

[7] «Наша ніва» — беларуская газ. (1991–2021; з 2018 г. перанесеная ў інтэрнэт).

[8] Гудзіновіч Юрый Уладзіміравіч (н. 1952), беларускі мастак.

*31 травеня, субота*

Учора пазваніў Уладзя Арлоў. Яму спадабалася публікацыя ў «Нашай ніве». За колькі гадоў нехта пазваніў, што чытаў. Ну й час! Дзякуй цыгану! Раніцай устаў з галкай ў галаве й недзе ў сэрцы. Напісалася нешта. Васіль Сёмуха параіў даць эпіграф. Быў у «БДГ», прачытаў Шапрану. Распавёў яму пра блакітныя вочы. Шапран: «А я ім у вочы не зазіраў».

*Блакітнавокая*

Пастой, чорна галка,
Ты мая, ты мая…
*З крывіцкай песні*

І аблачынка плыве,
І ручаінка вохкае.
А на зялёнай траве
Галка блакітнавокая.

Як аблачынкі сястра,
Мудрая й распагоджаная,
Прывучаная да стра
таў —
Яшчэ з народжання

Ці з дня вылуплівання,
Бо яйка, жыццём багатае,
Няспынлівасці радня
Уповерць Зямлю нагадвае.

І галцы на ўсім ляту
Знаходак неба пазычыла.
І, каб асмяліць чарнату,
Блакіту вачам пазычыла.

Святлей, свет аблётаўшы,
Галіца!
Хай змрок на цябе не галіцца…

«Падумай…»[9], «Пакуль тут…»[10], «Расту!: Нязломны — значыць, беларус!» [У дзённіку.]

[9] Гл.: Падумай… (31.05.03) // Ксты. С. 317.
[10] Гл.: «Зжаць загон нашых дзён…» (31.05.03) // Халодная памяць вады. С. 27.

*1 чэрвеня, нядзеля*

Месяц народзінаў Мамы й Васіля, добры дзень! Дай мне моцы й спакою духу! Дзякуй Богу, што дазволіў сустрэць яшчэ адзін чэрвень. Пазваніў Васілю, павіншаваў яго з чэрвенем. Настрой у апостала нацыі нехуцаваты (Васілёва слова). Дапякаюць званкамі. Савецкае чынавенства беларускае зрабіла немагчымае, каб заваліць бытавымі праблемамі. Але правільна казаў Пётра. Бог паслаў Васіля Беларусі. І пакарае ўсіх, хто каўкае, кусае, не дае жыць апосталу нацыі.

*2 чэрвеня, панядзелак*

Дзякуй Богу, пераклад пана Зелімхана рухаецца. Васіля замучыў званкамі Белы[1]. Усміхаецца: «Хай Белы пачакае з помнікам. Яшчэ ж я жывы». Кажу: «Кіруй Белага да мяне». Васіль: «Так і скажу, што ў мяне ёсць адвакат па помніках — Рыгор». Потым хваліў Наташу Давыдзенчыху [М. Наталіч]. І як вышэйшая ўхвала: «Ёй трэба пісаць па-беларуску!»

* [В. Быкаў:] «Наташы ўжо трэба пісаць па-беларуску!» [Запіс Рыгора Іванавіча на асобным лістку пад час размовы з В. Быкавым.]

*3 чэрвеня, аўторак*

У «Коўню». Падкаваў душу спагадай, шчырасцю, рупнасцю, беларускасцю. З Пётрам — мучыць ведзьму[2], як ён казаў, потым дадому. Звяліла мяне. Сарваў такі галаву перакладамі. Пётра прывінціў назад. Званок. Рэм[3]. Пытаю: «Адкуль?» Адказвае: «З дому». Я зноў: «Дык ты прыехаў, з Менска звоніш? Рэм: «З дому». Амэрыка ўжо яму дом. Пытаўся пра Васіля. Кнігу ўспамінаў Васілёвых мае. Прасіў праскі тэлефон, каб пазваніць 19-га. Памятае. Не стае мне Рэма. Уважлівы, тонкі, інтэлігентны. Яўрэй крывіцкага разліву. Сумна й няўтульна без іх. Потым званю Васілю. Васіль паслаў Барысу Клейну[4] «Доўгую дарогу дадому», а прыйшоў пусты пакет і прыпіска: «Атрымана ў пашкоджаным выглядзе». Як і ў нас. Да Васіля асаблівы клопат і там. Пра Белага: «Не трэба помнік пры жыцці... калі памру...» Сумна заўважае: *«Няма нідзе мейсца на зямлі».* Па тэле глядзеў, як выпіхваюць крышнаітаў[5] у эміграцыю. І Васіль згодзен, што Зянона[6]

---

[1] Белы Анатоль Яфімавіч (1939–2011), беларускі грамадскі і культурны дзеяч, навуковец, калекцыянер. У г. Старыя Дарогі Мінскай вобл. заснаваў прыватны Мастацкі музей (1990).

[2] Пётра сурова папраўляў: «Дзядзька, яна — не ведзьма, яна — Шаманка».

[3] Нікіфаровіч Ванкарэм Валяр'янавіч (1934–2011, ЗША), беларускі літаратуразнавец, перакладчык, кінасцэнарыст, публіцыст. З 1995 г. жыў у ЗША.

[4] Клейн Барыс Самуілавіч (1928–2020), беларускі гісторык, выкладчык. Доктар гістарычных навук (1989). Прафесар (1990). Сябра В. Быкава ў часы жыцця ў Гродна. З 1992 г. жыў ў ЗША.

[5] Крышнаіты — удзельнікі Міжнароднага таварыства свядомасці Крышны (з 1966 г., ЗША).

[6] Пазьняк Зянон Станіслававіч (н. 1944), беларускі археолаг, мастацтвазнавец, публіцыст, паэт, грамадска-палітычны дзеяч. Кандыдат мастацтвазнаўства (1981). Заснавальнік

выпіхнулі ў эміграцыю, баючыся шуму, калі б забілі. А Зянон думае, што сам паехаў. З Васілём падобнае. А Карлас з-за мяжы хоча кіраваць ПЭНам. Старшы эканаміст. Дарэчы, у Беларусі ніхто ўжо не мае права йменавацца прэзідэнтам, акром [Лукашэнкі]. І ў ПЭНе мусіць быць старшыня. Трэба перарэгістрацыя, валынка. Як некалі казалі: прысядацель. […].

Мяне ратуе толькі праца, як успомніў Пётра наш крывіцкі выраз: праца на вы′мер. У хаце ні спаць, ні чытаць, ні пісаць. Чорная хмара вісіць. «Зрэшты, усе…: Намаганню хапае мітрэнгі й вагання…» [у дзённіку]. Пачытаў Васілю верш Зелімхана: «— Камень ляжыць!..»[1] Спадабаўся.

Без дзвюх хвілінаў дванаццаць. Скончыў перакладаць пана Зелімхана. Дзякуй, Госпадзе! Галава, як Камароўскі кірмаш. А на душы настрой кірмашовы. Яшчэ я жывы. Нешта магу.

*4 чэрвеня, серада*

Званю Пётру. Дзякую за падтрымку. Пётра: «Хай Зелімхан падпіша кнігу на ўспамін». З раніцы ў заведзеную галаву лезуць радкі: «Каб аддаць…»[2]

*Млечны Шлях*

Лічаць вечару апошнія імглінкі
Ўсмешкі прыцемкаў,
Што хочуць збегчы ў сны.
Адгукаюцца радзімкам рабацінкі,
І світае Млечны Шлях тваёй спіны
Толькі мне
І ў несаснёным сне…

Еду трамваем. Хлапчук: «Яго дужа хвалілі, захвалілі й сапсавалі». Хвалю: «Малайчына […]». Завуць Ягорам. Запытаўся прозвішча, не адказаў. Яму толькі 7 год. Пойдзе ў першы клас. Расце нармальная крывіцкая змена! Жывы будзем — х.. памром! Крывічы мае заўсягды казалі.

*5 чэрвеня, чацвер*

Прапаў быў Мірон учора вечарам. Усю ноч было мне блага. Але раніцай знайшоўся. Толькі знялі з яго збрую. Сустракаўся з Белым. Энэргіі праз край. Ледзь асадзіў пыл. 19 чэрвеня зробім як свята нараджэння Васіля. Заадно й памятны знак адкрыем. Гэта ў Старых Дарогах. Пазваніў Васіль. Разгаварыліся пра Вушацкі словазбор. Васіль раіць ўсё запісваць,

---

і старшыня БНФ «Адраджэньне» (1988–1999). З 1999 г. старшыня Кансерватыўна-хрысціянскай партыі — БНФ.

[1] Яндарбі З. Сэрца майго сьвятыня. С. 62.

[2] Гл.: Каб аддаць… (4.06.03) // Халодная памяць вады. С. 377.

што йдзе мне ў галаву. Кажа: «Калі б мая ўлада, я стварыў бы камісію па ўдакладненню й удасканаленню мовы й цябе назначыў яе ўзначаліць. Бо Вячорка[1] й іншыя хлопцы філолагі па адукацыі, а жывой мовы не чулі. Тарашкевіцу[2] трэба ўдасканальваць. — І самае галоўнае, што сэрца мне знядзеліла: — Перадай Пётру, што ён вялікі маэстра. Я быў не зусім правільнай думкі. Гэта пад настрой. А ён вялікі лекар». Адразу ж пазваніў Пётру. Пётра: «Перадай Васілю, што мы павінны з ім выпіць на 80-годдзе. Няхай трымае слова. Нікуды не адпушчу, не выкруціцца!» Я зноў Васілю. Васіль: «Я не супраць. Перадай дзякуй. Мне сёння й ўчора дужа блага». Кажу, што Пётра ведае, калі яму блага. Калі пачаў пра зёлкі, Васіль ужо неаднекваўся.

Яшчэ сёння сустракаўся з Глебам. Магутны беларус расце, дарэчы, Васіль вясёла пагадзіўся, што на ягонае васьмідзесяцігоддзе я буду наліваць ім, яму й Пётру. Званіў Генадзь Бураўкін. Васіль заўтра едзе на кансультацыю ў Бараўляны. Урач нашай арыентацыі.

*6 чэрвеня, пятніца*

Падняўся з настроем такім: «Усё яшчэ...»[3] Званіў Генадзь. Пакуль абследаванне Васіля сумнае. Пётра сказаў, што рак — гэта Херасіма ўсяго арганізму. У Пётры спадзеў жыве. Дзякуй яму! Званок. Саша Палякоў[4]. Пытаю: «Адкуль?» Адказвае: «З дому». Кажу: «Прыехаў?» Саша: «З дому, з Ерусаліма». У мяне тут ўсё звычка, што прыязджаюць сюды дадому. Пытаўся пра Васіля. Паставіць свечку за здароўе Васілёвае ў храме. Гэта, выходзіць, Белы па тэле раззваніў, што Васіль у Бараўляны паехаў ці лёг. А Белы — сябра Васілёў. Па дзядулю Крылову[5]: «Услужливый дурак опаснее врага».

*7 чэрвеня, субота*

Дамінічка паехала са школай у Літву. Першае замежжа. Званю Васілю. Кажа, што збіраўся мне званіць, ды падумаў, што я недзе знік. Перадаў яму прывітанне й добрыя зычэнні ад Палякова. Белы нарабіў клопату.

---

[1] Вячорка Вінцук (Валянцін Рыгоравіч; н. 1961), беларускі палітычны і грамадскі дзеяч, мовазнавец, старшыня партыі БНФ (2001–2007).

[2] «Тарашкевіца» — правапіс беларускай мовы, прапанаваны Б. Тарашкевічам у 1918 г. *Тарашкевіч* Браніслаў Адамавіч (1892–1938), беларускі грамадскі і палітычны дзеяч, мовазнавец, перакладчык, публіцыст. Акадэмік АН БССР (1928). Рэпрэсаваны.

[3] Гл.: Усё яшчэ... (6.06.03) // Халодная памяць вады. С. 232.

[4] Палякоў Самсон Германавіч (1938–2012, Ізраіль), беларускі журналіст, кінасцэнарыст. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра (1995). З 2002 г. жыў у Ізраілі.

[5] Крылоў Іван Андрэевіч (1769 ці 1768–1844), рускі пісьменнік. Радок з байкі «Пустынник и медведь».

Звоняць знаёмыя, крыўдуюць, што не аб'явіўся. А Белы нібыта сказаў, што Васіль ужо два месяцы ў Менску, будзе займацца палітыкай. Кажа, што й так брэшуць. Я Васілю нагадваю вушацкае: «Гароху нажуюць і ў ср. ку наплююць». Усміхаецца. Ці яшчэ, што любіць Пётра, вушацкае: «А ў брыгадзе нумар тры Згніла бульба на гары. Старшыня адно гаворыць: «Не бяры да галавы!» Васіль адразу кажа: «Перадай Пётру прывітанне. Мы з ім пабачымся, як трошкі адыду». Адразу ж званю Пётру. Ён: «Вядома, убачымся. Усё лакалізуецца». Потым Пётра звоніць мне: «Я думаў, гэта ж, калі Васіля не стане, Беларусь застанецца як без хатніка».

*8 чэрвеня, нядзеля*

Званіў Радзік Лапушын[1]. Зноў кажа — з дому, а я пытаюся, ці з Менска. З Амэрыкі. Турбуюцца ўсё пра здароўе Васіля. Званіў Васілю. Настрой у яго хмарны. Пётра: «Перадай пану Зелімхану, што кланяюся яму да самай чорнай зямлі!» Васіль мне зноў раіў запісваць вушацкія словы.

*9 чэрвеня, панядзелак*

Дзень нараджэння Алеся. Заязджаўся. Валя пякла яму нейкі пірог. Прыязджаў Лайкоў старэйшы з сынам, нявесткай, зяцем, жонкай. Нявестка прыгожанькая, па-расійску шчабеча, зяць спакойны, дужы (ужо трох унукаў адкаціў Уладзімеру), з вайскоўцаў, напаўбеларус, далёкі ад усяго беларускага. Паступова ўсё знікае наскае. Сумна.

*10 чэрвеня, аўторак*

Сёння дзень нараджэння мамы. Маліўся. Каіўся. Дзякаваў Богу, што паслаў мне Маму.

*11 чэрвеня, серада*

Генадзь паехаў да Васіля. Я не змог, душа пад лёдам.

*12 чэрвеня, чацвер*

Перадалі на пераклад кнігу паэзіі Яна Паўла II[2] «Tryptyk rzymski», падзагаловак «Medytacie». Гэта хутчэй прозапаэзія. Трэба знайсці нешта, каб па-беларуску гучала й натуральна, і паэтычна.

---

[1] Лапушын Радзіслаў Яфімавіч (н. 1960), рускі паэт, літаратуразнавец. Доктар філалогіі (2006). З 1998 г. жыве ў ЗША. Гл.: Радзіслаў Лапушын // Дуліна ад Барадуліна. С. 72.

[2] Ян Павел II (свецк. Вайтыла Кароль Юзаф; 1920–2005), Папа Рымскі (1978–2005).

*13 чэрвеня, пятніца*

Да Шапрана. Дазваніліся да Паўла[1]. Перадалі яшчэ колькі вершаў пана Зелімхана. Атрымліваецца, што перакладаю то імама Чэчэніі, то самога Папу! Адказна й трывожна, трывога гэтая й маладзіць душу. Гэта мой паклон Звышняму.

*14 чэрвеня, субота*

Пад вечар пачаў перакладаць «Трыпціх рымскі». Здаецца, знайшоў ход. Памажы, Госпадзе!

*15 чэрвеня, нядзеля*

Галава поўнасцю адключана. Званю графу. Ён: «Дурнога лячыць — толькі сябе самога калечыць». Гэта, каб я не налягаў на працу, бо не тыя гады. Сапраўды, як у нас казалі: хэнць ёсць, ды моцы мала.

«Вяртаюся…»[2]

*16 чэрвеня, панядзелак*

Толькі калі нешта раблю, забываюся на ўсе мітрэнгі, згрызоты, галечу, хваробы, толькі тады й жыву. Мала засталося, а ўсё адцягвае ад працы. Жыццё — кінакадр. Мільгануў і няма…

*17 чэрвеня, аўторак*

З Сяргеем і Ганадам да Васіля. У палаце адзін. Бледны. Слабы. З намі ажывіўся. Я перадаў прывітанне ад Мірона. Ён распавёў пра свайго ката ў Бычках. Як вясна, знікаў да восені. Увосень перад халадамі вяртаўся з зайцам на плячх. Зацягваў зайца на гарышча. Аднойчы такога здаровага зайца прывалок (і сам быў здаровы), што калі лез на гарышча па вугле, заяц зваліўся долу. А яечка — была курачка. Якая несла яечкі. Яечкі сабіралі. Бацька абуваў новыя лапці й нёс у Вушачу. Нейкую пяцёрку выручаў. Яна йшла на падаткі, на ўсе савецкія выцягванні грошай. І аднойчы каршун з лесу — і за курку. І пазбавіліся даходу. Васіль між іншым заўважыў, што ў мяне скураны пінжак і пахваліў. Усё жыццё ён любіў і цаніў добрыя рэчы, меў густ. Калі развітваліся, Васіль сказаў: «Вы мне нагадалі пра маё здароўе мінулае».

Вечарам званіў Глеб. Для ліцэя нешта пісаў: «Нямоглая зайздрасць, Як ты ні люцей…» [у дзённіку].

---

[1] Жук Павел Дзмітрыевіч (н. 1956), беларускі журналіст, выдавец.

[2] Гл.: Ахвярынкі: Смутак бачыць… (15.06.03) // Барадулін Р. Anima. Мінск: Рымска-каталіцкая парафія свсв. Сымона і Алены, 2011. С. 128.

*18 чэрвеня, серада*

У ліцэй. Вystава. Пасля выступленні ліцэістаў. Які беларускі настрой! І трэба ж паўлыганчуку ўсё згадзіць. І сам, і ягоная канюшня, якая завецца Адміністрацыяй, перад сконам.

*19 чэрвеня, чацвер*

Святы дзень — народзіны Васіля Вялікага! У Бараўляны з Генадзем, Сяргей. А Законнікаў з сабой Болтача[1], Кудраўца — перакладчыка Туркменбашы, парторга СП Вярцінскага[2]. Васілю ўночы было кепска. Доўга не былі. Сяргей паставіў запіс Бакланава[3]. Васілю паблажэла. Пайшлі ўсе гурмою. Яшчэ раз пераканаў сябе, што Васіль быў з Нямеччыны выцягнуты Лукашуком [...]. Прыстасавана было, калі Гавэл сышоў. Каб на Васіля паў калі не гнеў, дык няўвага чынавенства пражскага. А потым умовы жытла паскорылі хваробу. Бог ім усім сваё аддасць. Званіў Зелімхан, віншаваў Васіля. Калі перадаваў Васілю ліст віншавання Дамінікі, сказаў: «Мастачкай будзе, адчувае колеры». Адна ўжо ёсць.

*20 чэрвеня, пятніца*

У Лапцёнка забраў Васілёвы кнігі ў скураных вокладках. Успомніў, як Ніл прасіў надрукаваць яму запрашальнікі хоць 10 экз. для музея. Ні Караткевіч, ні Васіль пра музей ніколі не думалі. Лагойскі [...] спіць і бачыць сябе помнікам. Хоць гліняным. Калі б у мэтале, дык хоць бы алкаголікі аб нос яйкі разбівалі запіваць. Гэта ж ён, Генадзь успамінаў, сам сабе даўшы званне, прапанаваў спыніць, не даваць нікому. Як яшчэ не ўвёў [званне] міжнародны паэта Ніл. Хопіць пра брыду! Ачышчаюся душою, перакладаю Папу. Трывожна. Ранішне. Адказна.

*21 чэрвеня, субота*

Званіў Зелімхан. Прасіў прыслаць верш, прысвечаны яму, для газеты. І расчуліў — паслаў мне фінікі. Хвалюецца, ці атрымаю. Згадзіўся, што мы болей паганцы. І ахвотна перайшлі на «ты». Ні ў іх, ні ў нас няма выкання. Гэта ад маскалёў. Зноў прасіў перадаць Васілю словы падзякі й пашаны.

*22 чэрвеня, нядзеля*

Сустракаўся з Пётрам. Хадзіў па вуліцах з нейкай трывогай. Прыходжу дамоў. Званок. Сяргей Законнікаў: памёр Васіль. 20.10. Пасля смерці

---

[1] Болтач Валянцін Уладзіміравіч (псеўд. Блакіт; 1938–2007), беларускі пісьменнік.

[2] Вярцінскі Анатоль Ільіч (н. 1931), беларускі паэт, перакладчык, крытык. Заслужаны работнік культуры БССР (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1988).

[3] Бакланаў Грыгорый Якаўлевіч (1924–2009), рускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РФ (1998).

Мамы гэта другая самая страшная страта. Свет для мяне робіцца пусты й халодны. Як космас, у якім я не быў.

Нечысць на зямлю бяду наклікала.
Перагарадзіла белы дзень гара.
Засталася Беларусь без Быкава
Беднай хатай без гаспадара…[1]

Вайна дала Васіля, вайна й забрала. Дзень пачатку зямнога пекла 41-га года стаўся апошнім днём Васіля Вялікага на зямлі. Усявышні, прымі душу Васіля!

*23 чэрвеня, панядзелак*

Званкі з усіх канцоў зямлі. Усе смуткуюць. Усе помняць Васіля. У СП засядалі. Пуцін прыслаў спачуванне. З паўдня [Лукашэнка] падняў галаву й на […]-расійскай мове заявіў, што «у нас были разные понятия свободы, но Быков тоже за независимость». […]. Вушацкае начальства баіцца ехаць. Пасылаюць Галю Варатынскую[2]. Рэдактар раёнкі па падняцці калхознай гаспадаркі. Праполвае траву каля слупоў. Званіла Наташа Адамовіч[3], была ў Ірыны Міхалішкі. Выходзіць, у Васіля былі білеты ў Прагу. […]. Адміністрацыя пачынае гульні з пахаваннем. Хай болей грахоў бяруць на душу. Добра, што адпяваць будзе ўніяцкі святар. Васіль жа карэнны крывіч. […]. Бог усё бачыць!

*24 чэрвеня, аўторак*

Званкі з усяго свету. Пуста на зямлі. Пуста ў небе. Пуста ў душы. Васіль быў для мяне й зямлёй (роднай, вушацкай), і небам (таксама нашым, вушацкім), і тым позіркам, які я заўсягды адчуваў, азмрочыць які баяўся.

Бог. Мама. Васіль Быкаў.

Імі жыў, імі жыву, імі дажывацьму…

«Чарга»[4].

*25 чэрвеня, серада*

Дзень найцяжэйшага гора Беларусі. Пахавалі Васіля Вялікага. Народ прарваў усе забароны й пешкі йшоў […] аж да магільніка. Адпяваў Абла-

---

[1] Гл.: Засталася… (22.06.03) // Руны Перуновы. С. 372.

[2] Варатынская Галіна Аляксандраўна (н. 1953), беларуская журналістка, паэтэса. У 1974–2913 гг. супрацоўніца ушацкай раённай газ. «Патрыёт».

[3] Шувагіна (Адамовіч) Наталля Аляксандраўна (н. 1954), навуковы супрацоўнік Музея Я. Коласа (1976–2018). Дачка А. Адамовіча.

[4] Гл.: Чарга (22–24.06.03) // Руны Перуновы. С. 357.

мейка[1]. Уніяцкі святар. Ад [Лукашэнкі] вянок без надпісу каму, толькі парасійску «Президент А. Г. Лукашенко». Як бы сабе вянок. Гэтак жа было са славутай актрысай Галінай. Відаць, адзін і той жа. Пераносны. [...]. Казалі нашы кіраўнічкі СП. Пашкевіч[2] нудна па паперцы, [...] Кудравец яшчэ занудлівей. Кажу пра іх, баючыся казаць пра страшэннае. Не ведаю, куды кінуцца, да чаго прысланіцца. Аднюсенькі. Ілона нават тэлеграму спачування прыслала. Уночы званіла Юлія Канэ[3] з Ізраіля. А палове пятай Някляеў[4]. Баюся за яго...

*26 чэрвеня, чацвер*

Каля магілы ўчора стала кепска Валі Быкавай. Сястрыцы Васілёвай. Гэта — Васіль, толькі ў іншым выкананні. А Ірына [...]. Дагаварылася: «Она очень любит почести». Дзе яна іх бачыла — каля хлява ці за хлявом? Учора забыліся рэчы. З Алесем завезлі на вакзал, перадалі вушацкім аўтобусам. Ірыне яшчэ хопіць клопату з сабой самой. Дый з ёй будзе. Толькі б вытрымала. [...]

*27 чэрвеня, пятніца*

Селіна[5] з НТВ выселілі з Беларусі. Ліцэй зачыніў [Лукашэнка]. Агонія сродкаў (я назваў бы сраткаў) масавай інфармацыі. Які грэх на душу бяруць, варочаючы прах і чэрнячы памяць Васіля Вялікага, ці задумаюцца калі? [...]. Беларусь усё-ткі будуць ведаць па Васілю. Беларусь — Васілёва хата. [...].

Прыйшло паведамленне на міжнародную пасылку. На пошту. Не на нашу. Паехаў. Сядзіць гэбістка з малакласамі. Ледзь не адбіткі пальцаў трэба. Некалькі папераў запаўняць. Ад каго, адкуль, што там? Я нічога не ведаю. Пасылка, відаць, некалькі разоў ператрэсеная. Гэта ад Зелімхана. Сушоныя фінікі й яшчэ нейкая саладзіна-садавіна. Усё запакавана, цэла-

---

[1] Абламейка Андрэй Паўлавіч (н. 1970), грэка-каталіцкі святар. Пробашч парафіі св. Язэпа ў Мінску, пратапрасвітэр Цэнтральна-Заходняга дэканату Беларускай грэка-каталіцкай царквы (1998–2009).

[2] Пашкевіч Алесь (Аляксандр Аляксандравіч; н. 1972), беларускі пісьменнік, літаратуразнавец. Лаўрэат міжнароднай прэміі імя В. Пікуля (2005). Старшыня СБП (2002–2010).

[3] Канэ Юлія Міхайлаўна (н. 1931), беларускі літаратуразнавец, крытык, перакладчык. З 1992 г. у Ізраілі. Жонка Р. Бярозкіна.

[4] Някляеў Уладзімір Пракопавіч (н. 1946), беларускі паэт, празаік, эсэіст, грамадскі дзеяч. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1979), Дзяржаўнай прэміі РБ імя Я. Купалы (1998), прэміі імя Е. Гедройца (2013), Літаратурнай прэміі імя А. Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра (2014), прэміі імя Н. Арсенневай (2017). Намінант на Нобелеўскую прэмію (2011).

[5] Селін Павел Віктаравіч (н. 1974), рускі журналіст. У 2000–2003 гг. кіраўнік дырэкцыі НТВ у Мінску.

фанавана. Відаць, гэбісты толькі на зуб узяць не маглі. Маленькая запісачка: «Здравствуйте! Дорогой Рыгор! Всех благ и здоровья Вам и всем Вашым близким! Ваш брат *Зелимхан.* 2003.06.15». І роспіс.

*28 чэрвеня, субота*

Масква аб'явіла Зелімхана міжнародным тэрарыстам. Па «Свабодзе» верш ягоны памяці Васіля прайшоў. На сайт трапіў. Шум узняў Юрачка Дракахрусцік[1]. […]. Прыехаў з Масквы Мечыслаў Дмухоўскі[2] рабіць пра Васіля матэрыялы. Паслязаўтра ў Вушачу. Сам з Іўя. Выдатная беларуская мова. Маці ягоная: «Што гэта ты, Мечу, 10 год жывеш ў Маскве й парасійску не навучыўся гаварыць, як мы? А вось Гэля паехала ў Мінск і праз паўгода толькі па-расійску». Мечыслаў смяецца: «У яе большыя здольнасці да моваў». Прыйшло ў галаву азагаловіць як бы цыкл «Даджджынкі: На рунь неўміручасці Васіля»: «Ці ёсць?..»[3], «Сузор'е (Журботна…)», «Хатнік»[4]. Перад вачыма Васіль. У душы — Васіль. У труне ў гарнітуры, у якім быў на ўручэнні «Трыумфа»[5]. На грудзях […] значок. […]. Гэта трагедыя, што пісьменнік сусветнага маштабу займаецца чарнавой палітыкай. Змушаны займацца ёю, марнуючы талент свой. Прарок ледзь не агітатарам працуе. Ужываючы тэрмін, ненавісны і Васілю, і мне, камунякаў.

*** [Пазней Рыгор Іванавіч хацеў уключыць у цыкл вершы:] «Засталася…», «Чарга»[6], «Ці ёсць?..», «Хатнік», «Журботна…», «Зязюлька», «Пяцізоркавасць»[7], «Каб сагрэцца…», «Паднявольніца», «Застацца…»[8], «Настрой», «Вачыста…», «Выдых», «Як і ў Бычках…»[9], «А там?» [Гл. 23.08.03].

*29 чэрвеня, нядзеля*

З Пётрам да Шаманкі. Памянулі Васіля. Адзін з як бы тостаў у графа быў, каб Васілю на тым свеце вясёла было! Тут ён адпакутваў. Калі Пётра каго не любіць, жадае: «Каб яму на тым свеце цёпла было!» Гэта

---

[1] Дракахруст Юрый Аляксандравіч (н. 1960), беларускі матэматык, палітолаг, журналіст. Кандыдат фізіка-матэматычных навук (1986). Супрацоўнік Радыё «Свабода» з 1996 г. З 2001 г. жыве ў Празе. Сын А. Дракахруста.

[2] Дмухоўскі Мечыслаў Іосіфавіч (1960–2015), расійскі журналіст, 1-шы нам. галоўнага рэдактара газ. «Собеседник».

[3] Гл.: Ці ёсць?.. (28.06.03) // Ксты. С. 285.

[4] Гл.: Журботна…; Хатнік (28.06.03) // Руны Перуновы. С. 360; 359.

[5] «Трыумф» — расійская недзяржаўная прэмія ў галіне літаратуры і мастацтва (з 1991).

[6] Гл.: Засталася… (22.06.03); Чарга (22–24.06.03) // Руны Перуновы. С. 372; 357.

[7] Гл.: Зязюлька (29.06.03; В. Быкавай); Пяцізоркавасць (4.07.03) // Тамсама. С. 361; 363.

[8] Гл.: Каб сагрэцца… (6.07.03); Паднявольніца (13.07.03); Застацца… (13.07.03) // Ксты. С. 287; 189; 296.

[9] Гл.: Настрой (19.07.03; В. Быкавай); Вачыста… (31.07.03); Выдых (5.08.03); Як і ў Бычках… (6.08.03) // Руны Перуновы. С. 366; 368; 369; 367.

значыць — у пекле дровы ў агонь падкідваць. Дарэчы, Васіль двойчы сніўся Пётру. Адразу ж пасля ягонага зямнога скону. Дзякаваў Пётру й шкадаваў, што не павіншаваў Пётру з днём народзінаў. У другі раз: Васіля кладуць у труну, а ён не хоча, падымаецца… Пётра пра хіміятэрапію ашалела казаў. Не з Васілёвым здароўем і ўзростам прымяняць. Гэта як бы планавае забойства, лічу я. Пайшоў жа на папраўку. Адразу Анатоль Вайсман-Белы па тэле, што ён ляжыць у Бараўлянах. І ўрач Мураўёў[1] таксама харош. Правільна Пётра сказаў: «Ну й што, па-беларуску гаворыць. І малпу можна вывучыць гаварыць па-беларуску. А з помнікам Белага — гэта чорная магія». Васілю якраз і стала блага пасля гэтага. […]. Васіля Бог на зямлю паслаў. Дзякуй Звышняму! «Зязюлька».

*30 чэрвеня, панядзелак*

Дзевяць дзён, як душа Васілёва блукае па зямлі. Усё бачыць, усё чуе. Да Васіля дамоў. Генадзь, Сяргей, Вал. Тарас. Пазней прыйшоў Сяргей Васілёў. Уся копія бацькі. Памянулі. Ірына Міхалішка, дарэчы, сказала, што Васіля як палітэмігранта выкраслілі з Лечкамісіі. Таму ў Бараўляны пайшоў на папраўку. Калхознае тэлерадыё захлынаецца пенай.

Вечарам глядзеў [час.] «Крыніцу»[2]. Лужанін пісаў, каб успомнілі як дэмакрата й ледзь як не зацятага нацыяналіста. Думак ніякіх. Пустэча. Лепей бы ён свае даносы ўзгадаў. Іх пуды. Раней магільнік называўся Маскоўскі. І слушна. Масква праз сваіх служак і агентаў дапамагала яго густа засяляць. Цяпер — Усходні. Пры чым тут Усход?

*1 ліпеня, аўторак*

Дзень добры, Ліпень! Хоць ты будзь лагаднейшым і цяплейшым. Галава зусім як не мая. Пад вечар крыху перакладаў Папу. Сяргей Законнікаў учора распавядаў, як быў на вяселлі сына драматурка Дударава. Падараваў сыну плацінавую картку (на грошы), а нявестцы ключ ад шыфра, не ведаю, што гэта такое. Гэта на звады. Мой прагноз спраўдзіўся, дагнаў Макаёнка[3] па грашах. Сыты. Хай яшчэ сыцее. Гэта савецкая драматургія. Так мы й не зажыліся на нармальную драматургію. Можа, калі й зажывемся? Гэта ўсё яшчэ йдуць ударнікі ў літаратуру. Ударнікі-бяздарнікі…

---

[1] Мураўёў Генадзь Мікалевіч (1938–2012), беларускі ўрач-анколаг. Доктар медыцынск навук. Прафесар.

[2] «Крыніца» — літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны ілюстраваны час. (1988–2003).

[3] Макаёнак Андрэй Ягоравіч (1920–1982), беларускі драматург. Народны пісьменнік БССР (1977). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1962), Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа (1974).

*2 ліпеня, серада*

Не магу прыйсці ў сябе. А прыходзім на свет гэты, каб пачуць сябе. Спачатку сябе, ці пад канец сябе пачуць ці ўдасца каму? Пазваніў Алесь. Заўтра з Вадзімам[1] у Вушачу. Такія-сякія зборы.

*3 ліпеня, чацвер*

*Ваўчо.* Да Валі Быкавай. Завязлі партрэт Васілёў, што ўпаў у СП, калі [Чаргінец[2]] гаўкаў. Бедная зязюлька. Кукуе адна. Хата ўтравела да страхі амаль. Да маёй хаты. Глуха. Тэлефон і святло адключаны. Плот разгароджаны. На магільнік да Мамы. Засяліўся магільнік. Аж цесна. Савецкія быдлюкі смеццем усе два курганы завалілі. Па дарозе за Лепелем — у лес. Першая зязюля. Гра′бы. Усё незабытае. У лесе п'янаваты хлопец. Парукаліся. «Не верыцца, што легенду бачу й рукаюся». Мне аж сорамна стала. Потым на Курган славы. Драўляныя скульптуры. Жывое паганства жыве.

*4 ліпеня, пятніца*

Перакладаў Папу. Галава, як ток. Толькі раскатурхаў смутак. Душа мая там, дома. А тут — філіял катоўні. Боская кара. Гэта за Маму.

«Пяцізор'е» [«Пяцізоркавасць»].

*5 ліпеня, субота*

Адвальваецца галава. Цікава, што да мяне не дайшло, калі на пошце гэбістка пыталася, чаму я не ведаю, дзе ў мяне радня за мяжой жыве. Гэта ж у лісце Зелімхана ў канцы: «Ваш брат Зелімхан». Усё вычыталі. Як толькі фінікі на зуб не бралі. Зацэлафанаваныя. Хоць, можа, і бралі. Дзень пачаў з малення: «Малю...»[3]

Сёння зорачцы маёй Дамінічцы 14! Божанька, глянь на яе ласкавым вокам! Зусім адна. Бацькі — ані.

Пад зоркай лёсу, Дамінічка,
Не ведай стомы ў харашбе.
Крывіцкай чысціні крынічка,
Звіні, каб Бог пачуў цябе!

---

[1] Грудзько Вадзім Іванавіч (н. 1962), беларускі фотамастак.

[2] Чаргінец Мікалай Іванавіч (н. 1937), беларускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Генерал-лейтэнант унутранай службы (1993). Кандыдат юрыдычных навук (1977). Прафесар (2002). Заслужаны работнік МУС СССР (1977).

[3] Гл.: Малю (5.07.03) // Ксты. С. 163.

*6 ліпеня, нядзеля*

Перакладаю Папу. З Зелімханам няясна. А яго яшчэ шмат перакласці трэба. У піку маскалям. «Маладыя дровы»[1], «Ніяк…»[2].

*7 ліпеня, панядзелак*

Прыехала Ілона са сваім [Косцем[3]]. Ён, бач, там зарабляе, а тут не можа. А на білет я высылаць мушу. Бедная Дамінічка! […].

*8 ліпеня, аўторак*

Згубіў, хто заказваў перакладаць Папу. Пазваніў Лялько[4]. Хрысціна сказала, што выдаюць яны. Пераклала Дануся Бічэль[5] і «Рымскі трыпціх», і вершы Папы. Хто мяне ўпёк у гэта? Усё мая даверлівасць. Хоць будзе пераклад для душы.

*9 ліпеня, серада*

Трапічны лівень трэйці дзень. Ледзь падняўся. Пётра дапамог, дзякуй яму, збаўцу майму! Дзень нараджэння Валі. Так-сяк віншаваў. Няма чым. Па край жабрацтва. Роспач…

*10 ліпеня, чацвер*

Патроху збіраюся. Быў у «Мастацкай». Ганад завёў да дырэктара. Яму ў віну паставілі, што быў СП, калі хавалі Васіля. Прыехалі мае з лецішча. […]. Дзякуй, Божа, за ўсё! І за тое, што не даеш мне забывацца на сваю нікчэмную бездапаможнасць. Дырэктар казаў, што часта ходзіць у Адміністрацыю […].

*11 ліпеня, пятніца*

Прыехаў Радзік Лапушын. І ў Амэрыцы не толькі мёдам хлеб памазаны. Няма роднай зямлі — няма народа. Родная зямля робіць насельніцтва народам. Вядома, што й радзімаю карае Звышні, але найстрашнейшая кара — безрадзім’е. Бедныя жыды! Гэта сумна некалі казаў Пейсахоў вушацкі: «Мне дзе хлеб, там і радзіма…»

---

[1] Гл.: Каб сагрэцца… // Ксты. С. 287.

[2] Гл.: «Ніяк сваё вецер не дараве…» // Халодная памяць вады. С. 317.

[3] Клімін Канстанцін Васільевіч (н. 1960), муж Ілоны.

[4] Лялько Хрысціна Аляксееўна (н. 1956), беларуская пісьменніца. З 1996 г. гал. рэдактар час. «Наша вера» і «Ave Maria». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986).

[5] Бічэль Данута Іванаўна (н. 1938), беларуская паэтэса, празаік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1984).

*12 ліпеня, субота*

Зліўся з народам. У суседкі ўкралі кашалёк з грашыма й пасведчаннем. Чула, што кашалькі без грошай з дакумэнтамі падкідваюць у сметніцы. Папрасіла прайсці з ёй колькі прыпынкаў трамвайных. Ідзём, глядзім. У мяне цэлафанавы пакет з ручкай ейны. Насустрач маладога веку чалавек, акуратны. Дае мне бутэльку з-пад піва ці вады якой. Падзякаваў і, вядома, не ўзяў. Апомніўся ў час. «Хоць на час…», «Сівее…»[1].

*13 ліпеня, нядзеля*

Прыехала Ілона. Яшчэ болей роспачы. Як утрымацца, каб не звар’яцець. Шкада Дамініку. Ніякіх пэрспэктываў. Адзін. Рабіць нічога не магу. Галава скіпаецца. Ні спакойна паспаць, ні ў спакой устаць. […]. «Паднявольніца», «Застацца…».

*14 ліпеня, панядзелак*

Кепска з галавой. Няма спакою. Толькі надзея адпачыць там, куды ніхто не спяшаецца. У «Мастацкую». Абяцаюць «Залатую серыю».

*15 ліпеня, аўторак*

Да Лапцёнка. Неўзабаве выйдзе наская з Васілём. У Лапцёнка шмат задумаў выдаваць Васіля. Лагойскі […] Нілік распачаў у фактычна сваім выдавецтве 22-томнік. […]. Кожны вар’яцее як можа. На тым і трымаецца пісанне.

*16 ліпеня, серада*

ЗваніўНаліваеву[2]. Задуму нашу з Пётрам сказаў — зрабіць абраз сьвятога пакутніка Васіля [Быкава]. Наліваеў прыняў задуму. Асвецяць абраз уніяты. Той жа айцец Надсан[3]. Наліваеў распавядаў, як ён за Саветамі пасланы быў у калхоз размалёўваць сцены агітацыяй. Пытаецца, дзе калхоз «Путь к коммунизму». Ніхто не ведае. І падказаў адзін: «Запытайся, як прайсці да калхоза «Дарога да торбы». Спытаў і знайшоў. А Пётра нагадаў мне прымаўку: я табе так вінен, як зямля калхозу. Ад Ілоны, ад Валі, ад ўсіх клопатаў і ад роспачы й галавы, як калхозны клуб, і аж ногі адымаюцца. Ці вытрымаю, каб хоць трохі падняць Дамінічку. І Мірона шкада. Званіў Зелімхан. Вясёлы й спакойны. Хай маскалі сябе за ср.ку ўкусяць!

---

[1] Гл.: Хоць на час…; «Маланка радасцю малодзіць соты…» (12.07.03) // Халодная памяць вады. С. 332; 328.

[2] Наліваеў Анатоль Аляксандравіч (н. 1931), мастак, рэстаўратар, музыкант. Арганізатар музея «Літаратурна-мастацкая гасцёўня імя У. Галубка».

[3] Надсан Аляксандр (сапр. Бочка; 1926–2015), уніяцкі святар, рэлігійны і грамадска-культурны дзеяч беларускага замежжа. Магістр тэалогіі. Дырэктар Беларускай бібліятэкі і Музея імя Ф. Скарыны ў Лондане. Ураджэнец Беларусі.

Распавёў яму пра атрыманне пасылкі. Смяяўся ад душы. «Майстрам: Тут Пярун не шкадаваў правіцы…» [з прысвячэннем «Мастакам «Коўні»; у дзённіку].

*17 ліпеня, чацвер*

Перакладаю Ганадавы чаргаві. Шмат цікавага, усходняга. Шмат і з пальца. З галавой кепска. Працы шмат, а здароўя няма. Нейкі душэўны рэзрух.

*18 ліпеня, пятніца*

Ілонін дзень нараджэння. […]. З Ілонай ні гаварыць, ні маўчаць. Сама загнала сябе. А тут яшчэ мой адзіны чалавек у хаце кот Мірон занядужаў. Ілонін [Косця], […], прапанаваў абмяняць кватэру й Дамінічку узяць у Піцер. Мая разумніца адказала: «На экскурсію з’езджу…» Сёння забраў у Лапцёнка сыгнал «Калі рукаюцца душы…». Васіль так і не дачакаў.

*19 ліпеня, субота*

Зіна Гімпелевіч[1] з Канады ў Ірыны Міхалішкі. Піша кнігу пра Васіля. Занёс ей «Калі рукаюцца душы…» і свой чацвёрты том. «Настрой».

*20 ліпеня, нядзеля*

[…]. Звышні, дзякуй, што трымаеш мяне, што трываеш! Толькі дабіваючы сябе працай, льга не звар’яцець. «Дзякаваць…»[2] Прыйшоў у галаву загаловак магчымай кніжкі ў «Залатой сэрыі» — «Перуновы руны».

*21 ліпеня, панядзелак*

Да Лапцёнка. Узяў колькі асобнікаў «Калі рукаюцца душы…». У «Коўню». Толькі там і адпачываю душой. Як у маладыя гады пачуваю сябе ў хлопцаў. Таленавітыя, шчырыя. Дай Бог ім дзён натхнёных!

*22 ліпеня, аўторак*

Да Ганада. Да Кахіна[3]. Гарбата, якой ужо сто гадоў не піў. Сапраўдная. Навумчыку ў Прагу колькі словаў, што Васіль ніколі ні ў кога не прасіў. Тым болей у [Лукашэнкі]. […]. Сабраліся заўтра ў Вушачу. А тут Мірон гладка захварэў. Затрымліваемся.

---

[1] Гімпелевіч Зінаіда (н. 1952), прафесар кафедры славянскіх і германскіх даследаванняў універсітэта Ватэрлоо (Антарыо, Канада).

[2] Гл.: Дзякаваць… (20.07.03) // Руны Перуновы. С. 370.

[3] Абілаў Кахін (Мірзалізадэ; 1968–2020), талышскі асветнік, грамадскі дзеяч, мецэнат, бізнесмен, уладальнік будаўнічай фірмы ТСТ.

*23 ліпеня, серада*

У «Мастацкую». Напісаў заяўку й паклаў стажок старонак пад назвай «Перуновы руны». Аддаў Ганаду трохі чаргаві. Зайздрошчу ягонай празе друкавацца, сцвярджаць сябе. Асабліва любіць сябе. Можа, гэта рухае й дае забыцца на ўсе мітрэнгі. Па-свойму разумею й спачуваю. Як бы забаронены. Бо па-курдску не бачыць сябе надрукаваным, пачутым. Дый ці піша ўжо па-курдску, шліфуючы кожны гук? А можа, толькі даслоўнік. Чым жыве курдская мова? Як яна трымаецца? Што нас чакае?

*24 ліпеня, чацвер*

У *Заслаўе.* Ні новае, ні старое. Поўнасцю саветызаванае, вэрхальнае места нашае святое. Паўсюль вынішчаны карані нашыя. Стараліся расійскія ненажэрцы. І рукамі саміх беларусаў асабліва. Калі дурня змусіць маліцца, дык ён і лоб разаб'е. Пустыя гарлачы й цёрлы лепей б'юцца…

*25 ліпеня, пятніца*

Памёр Мірон. Пайшоў да Васіля. Васіль жа яму прывітанне перадаваў у нашую апошнюю зямную сустрэчу. Мейсца сабе не знаходзіў, плакаў уздрыжжу. Адзіная шчырая душа ў хаце […]. Забіўся пад шафу. Ледзьве знайшлі. Мне нешта падказала. Яшчэ сваім вокам непатушаным зірнуў… Хаджу слухаю, можа, пачую. Можа, убачу. Яшчэ ўчора на падваконне ўзлез — сваё ўлюбёнае седзішча. У вакно можна глядзець. Там суседская кошачка. «Коця-браце…»[1]

*26 ліпеня, субота*

Прыехала Ілона з плэнэра. Налета будзе плэнэр па мясцінах Васіля Вялікага. Не знаходжу мейсца сабе без Мірона. […]. Баюся ўжо за сябе.

*27 ліпеня, нядзеля*

Вырашылі ехаць у аўторак у Вушачу. На дворы спёка, як у Ташкенце. Галава кіпіць. Як шалёны кідаюся сам на сябе. Пётра, памажы!

*28 ліпеня, панядзелак*

У «Мастацкую». Аддаў Ганаду чаргаві. Галава кіпіць. Спёка дадушыць. У галаву лезе markrознае дурноцце. Кшталту, як у спёку мудрацы на Усходзе думаюць, і глыбока? Похапныя зборы.

[1] Гл.: Коця-браце… (25.07.03) // Ксты. С. 264.

*29 ліпеня, аўторак*

*Вушача!* Спёка, аж нічога не кемлю. Усё зарасло, што магло зарасці, абвалілася, што магло рушыцца, згніло, бо не ўтрымалася болей. У Гладышавай хаце новыя калхознікі расійскага разліву на ўсю галаву расійскую папсу [уключаюць]. Можна звар'яцець. Ціха, відаць, толькі на Бутаўшчыне.

*30 ліпеня, серада*

Нацягнуў вяроўкі сушыць нешта. Паадцягваў убок падгнілыя рэбры агароджы ў гародчыку. На аўтобусе на Сарочына. З Сарочына на полацкі аўтобус. Каля 10 вечара быў у Менску. Душу ўсцешыў і на задуху забыцца [дапамог] Сяргей Каваленка. З бацькам мы вучыліся ў адных класах (тады было па некалькі класаў і першых, і дзясятых). 29 гадоў. Картограф. Маёр. Беларус шчырэйшы. Недзе з Гарбаціцы ў бацькі адпачываў, а цяпер едзе на сарачыны Васіля Вялікага. На дух не пераносіць калхозны сацыялізм [...]. Вучыўся ў Піцеры. А якое чысцюткае вымаўленне. Панавітае, нашае, крывіцкае! Распавёў смешны выпадак. Прыехалі мастакі з Аўстрыі. Пытаюцца — што такое Кастрычніцкая плошча. Перакладаюць: месяц октобер. Якая лірыка, дзіўяцца, гэта ж залатыя дрэвы, гэта ж залатая восень. Пра кроў, пралітую бальшавікамі, ім, дзякуй Богу, невядома.

*31 ліпеня, чацвер*

У Чырвоным касцёле імша па Васілю. Не мог трымацца. Як дзіця плакаў. Развітаўся з душою брата майго, заступніка майго. На Маскоўскіх могілках развітанне. Імшу служыў айцец Андрэй Абламейка. Шчырая вуніяцкая душа. Потым у саюзе жалобны стол. Хто толькі ні выступаў, і прафесійная публіцыстка Алексіевіч[1]. По-рюсски. Завучана, казённа, для мікрафонаў, а не для памяці. І камсамольска-фальклорны дэмакрат Купава[2]. І гэнэрал Сульянаў[3]. У канцы стала квадратапыцы дудараў. Шчыра казала Валя Быкава, сын Сяргей. Між іншым: «Я не хацеў бы іншага бацькі...» Заскрэбла мяне. «Вачыста...»

---

[1] Алексіевіч Святлана Аляксандраўна (н. 1948), беларуская пісьменніца. Лаўрэат літаратурных прэмій СП СССР імя М. Астроўскага (1984), імя К. Федзіна (1985), Дзяржаўнай прэміі СССР (1985), прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986), Нобелеўскай прэміі (2015).

[2] Купава Мікалай Мікалаевіч (н. 1946), беларускі мастак, графік. У 2002–2006 гг. выкладчык архітэктурнага факультэта БНТУ. У 1998–2004 гг. старшыня суполкі мастакоў «Пагоня».

[3] Сульянаў Анатоль Канстанцінавіч (н. 1927), рускі пісьменнік. Генерал-маёр авіяцыі, ваенны лётчык 1 класа. Заслужаны работнік культуры БССР (1985).

Сустракаўся з Іосіфам Навумчыкам. Перадаў ад Лены Стральцовай[1] сувэнірчыкі Дамініцы, ёй жа 20 даляраў. Ліст Алены на чысцюткай беларускай мове. Сумуе па Міхасю. Клопатаў хапае. Каб выжыць. У дачушкі Алесі нарадзіўся сынок Мацей. Пасварылася ажно з мужам, але дала сыну прозвішча Стральцоў.

*1 жніўня, пятніца*

У «Коўню». Хлопцы заканчваюць шлем Македонскага[2]. Прайшліся з Пётрам. Галава мая дурная й балючая. Другой не будзе. Трэба ўжо гэтую даношваць.

*2 жніўня, субота*

Не хапае Мірона. Нехта рыпне, нешта заварушыцца — ён! Жывая душа ў розных абліччах дарагая.

*3 жніўня, нядзеля*

Узяўся перадрукоўваць роздумы Папы Рымскага. Цікава й цяжка. Але дужа прыемна. Як у маладыя гады вяртаешся.

*4 жніўня, панядзелак*

Званіла Ірына Міхалішка. Наконт помніка Васілю. Васілю падабаліся камяні ў Фіншчыне. Думае адтуль прывезці праз аказію камень. Вушацкія нічым не горшыя. Як быццам Васілю чужыны не хапіла за ягоны век. «Сам...»[3]

*5 жніўня, аўторак*

Паехаў на вакзал пацікавіцца, як ехаць на Вушачу. Білетаў на маршрутку няма. Забыўся ўжо, як гэта ездзіў. Узяў да Сарочына на полацкі. «Выдых». Сустрэўся з Яўгенам Андросікам[4], перадаў «Рымскі трыпціх» Папы.

*6 жніўня, серада*

Заўтра прыязджае Роўба[5]. Можа, з ім і паеду.

«Як і ў Бычках...»

---

[1] Стральцова Алена Дзмітрыеўна (н. 1945), жонка М. Стральцова. У 1996–2012 гг. жыла і працавала ў ЗША.

[2] Аляксандр Македонскі (356–323 да н. э.), цар Македоніі (з 336), палкаводзец.

[3] Гл.: «Рагатаў бы глыбокі роў...» (4.08.03) // Халодная памяць вады. С. 290.

[4] Андросік Яўген, рэдактар выд-ва Грэка-каталіцкай парафіі свп. Язафата ў г. Полацку.

[5] Роўба Іван Сцяпанавіч (1936–2006), ушацкі інжынер-будаўнік; Рыгор Іванавіч лічыў яго сваяком па мамінай радні.

*7 жніве́ня, чацвер*

Не магу ні рукой, ні нагой. Затое з дому пазванілі, што Дамініка з сябровачкай прывалаклі чорнага катка-юнака. Назвалі яго Стасікам. У гонар Шушкевіча[1]. Люблю яго й бацьку[2] ягонага любіў. Прыехаў Роўба. Раённы ідыёлух цікавіўся, колькі будзе каштаваць прывядзенне да ладу хаты Васілёвай. З чаго б гэта? Касцёл накрылі дах і хацелі не рабіць вежкі. Маўляў, дорага. І ксяндзы савецкага разліву. Роўба сказаў, каб усё рабілі як рэстаўрацыю. Малайчына Іван, хоць у душы камуніст. Не паехаў з Роўбам.

*8 жніве́ня, пятніца*

У «Коўню». Пётра мяне падрамантаваў. Збіраюся. Дамовіўся з Ірынай Міхалішкай і Алесем, што Алесь збярэ ўсе малюнкі Васілёвы, загоніць у кампутар. А потым разам з Алесем зробім альбом Васілёў. Прадмова й тэкст за мной, за Алесем увесь астатні, самы цяжкі, клопат.

«Не зазелянеюць…»[3]

*9 жніве́ня, субота*

*Вушача!* Ехаў старой дарогай. Як у маладосць вяртаўся. Думалася, што й Васіль гэтую дарогу помніў і любіў. Стрэхі як ні абымшэлі, хаты аселі. Запусценне. Затое камяні абапал дарогі пафарбаваныя й калхозна-савецкія лёзунгі.

Пад самую Вушачу ў Двары Жары на сіласнай вежы трое буцяноў. Бацькі й дзіцятка.

*10 жніве́ня, нядзеля*

Прыходзіла баравая зязюлька Валя, Васілёва сястрычка. Хоць наслухаўся вушацкае мовы, вушацкага голасу. Як яна Васіля любіць, як убіваецца па брату. Васіль дужа клапаціўся пра ўсіх. «Як былінка ў полі засталася, нікога роднага, блізкага…» Пра ката іхнага, які хадзіў на ўлоў і вяртаўся з зайцом на спіне (Васіль у бальніцы распавядаў.) «Толькі снег далоў, абсохніць зямля, пайшоў… Апошні раз ужо з адным вокам вясной як пайшоў і загінуў… Болі як дзесяць гадоў хадзіў на ловы…» Пра Васіля: «Радней за бацьку й матку быў мне Васіль… Кожнае ранне прачыхаюся,

[1] Шушкевіч Станіслаў Станіслававіч (н. 1934), беларускі фізік; дзяржаўны дзеяч. Доктар фізіка-матэматычных навук (1970). Прафесар (1972). Член-карэспандэнт НАНБ (1991). Заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі БССР (1982). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1988). Сын С. П. Шушкевіча.

[2] Шушкевіч Станіслаў Пятровіч (1908–1991), беларускі паэт. Заслужаны работнік культуры БССР (1983). Быў рэпрэсаваны.

[3] Гл.: Не зазелянеюць… (8.08.03) // Ксты. С. 343.

німа Васіля…» Пра […] цэкоўскага […] Пашкова[1]: «Бывала, як ён ў радыё труліў, абліваў гразёю Васіля…» На развітанне: «Добра ў вас, алі пайду памалу…» Як хораша сказала: «Няхай таму Бог паможаць, хто Яго любіць!»

Пад вечар прыйшоў Іван Роўба. Дароблівае сваё як будаўнік. Паслалі на прарыў — сачыць за жнівом у калхозах. Самы малады камбайн — чатырнаццацігадовы. Рэшта як не аднагодкі штурму Зімняга [палаца].

* [Валянціна Быкава:] «У кожным пісьме [Васіль пісаў]: «Як мой татулька? Як там Міколка?» Дома нагалашуся, нагалашуся…»

[Без даты:] Гналі капаць акопы [немцы]. Валя схавалася ў куст лазы. Гналі астатніх, стрыечная сястра паказала на яе. У вагоны [пагрузілі, павезлі] у Германію. На ходу выскачыла пад Маладзечнай, лесам [прыйшла] зноў у Бычкі. У гэтай стрыечнай знайшоўся сын без мужа. З заечай губой. Забілі ў п’янай бойцы. Засталіся ўнукі. Васіль як дэпутат памагаў, каб якое жыллё мець [ім].

*11 жнівеня, панядзелак*

Як некалі казала мама, у Вушачу хадзіў. Нічога ад былой, толькі пастрашнела ўсё. У скверыку, які фанатычна з савецкім размахам высеклі, ладзьбуюць фантан. Побач платны туалет, нешта накшталт вагончыка. Хоць рабочае мейсца некаму пры калхозным сацыялізме. Зайшоў у цырульню — пад качан падстрыгся, як даўней у школе. І ўсё гэта 170 рублёў. Гэтакіх цэнаў нідзе ўжо няма.

*12 жнівеня, аўторак*

Позна пайшоў да Вечалля. Навакол хаты толькі й знаёмыя. Вярнуўся пацёмначы. «Перуновы руны»[2].

*13 жнівеня, серада*

Мала пабыў Стасік. Выклікалі ветлекара. У Стасіка круг. Давялося аддаць назад, бо самім гэта не вылечыць. Зноў, але ўжо святлей, дайшоў да Вечалля. Асела, зараслі берагі. Няма тае чыстае глыбіні. Шкада. Нават возера астарэла. Ці не на мяне гледзячы? Над маміным садам поўня (*поўнага* па-вушацку), як вока нябыту. Заўсёды пры поўні нейкі ворах па целе йдзе й па душы…

«Родная Каменская вуліца»[3].

---

[1] Пашкоў Генадзь Пятровіч (н. 1948), беларускі паэт, публіцыст. У 1996–2008 гг. гал. рэдактар, дырэктар выд-ва «Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1980), Дзяржаўнай прэміі РБ. (1998).

[2] Гл.: Руны Перуновы (12.08.03, Ушачы) // Руны Перуновы. С. 352.

[3] Гл.: Родная Каменская вуліца (13.08.03, Ушачы) // Тамсама. С. 248.

*14 жнівеня, чацвер*

Ніяк не мог прыйсці ў нармальную галаву. І раптам усплыло вушацкае, як малога люлялі:

А заінька ку-гу-гу
Качаіцца па лугу.
Качаіцца па лугу —
Радзіў хамут і дугу.
Качаіцца і пярдзіць —
Хочаць коніка радзіць.

А тут якраз прыйшла баравая зязюленька Валя — сястрычка Васілёва. Хоць наш, крывіцкі голас, нашая шчырасць. Смутак ейны шчыры душу леціць. Усё пра Васіля. Прыязджаў Казьянін, ён ваўчэнскі. Марфлотавец былы, цяпер намеснік мэра Севастопаля. Гукаіць па-беларуску, узяў Васілёвы кніжкі. Усе беларусы ў Севастопалі ганарацца Васілём, шануюць імя ягонае. Беларусаў у Севастопалі — болей, чым Вушацкі раён. «Мой браток, так і не даждаўся лепшага… А мой браток, цяжка яму было, алі віду не паказваў… Яго хацелі ўласкаць, алі Васіль не звяртаў увагі… Клапаціўся, ці ёсць у сястрыцы дровы… Дні тры пабуду, а тады плакаць хачу. Як пры рабоці — забываюся… Адна, як пянёк, асталася… Я чытаю пра Лукашэнку, хахачу хохатам… Васіль катоў любіць. Як быў у Фінляндыі, пісаў: «Ніхай табе будзе цёпленька ў тваёй хатцы й твайму коціку… Ад маладых гадоў Васіль няешчы… Калі амлеціну, малака, калі Мікола рыбіну зловіць, падсмажу…» Валя гаворыць пра Васіля ў цяперашнім часе, як пра жывога. Ён жывы для яе. І для мяне таксама.

Малыя прынеслі рыжае кацянятка. Нараклі Рычардам. Рысь, Рысік. Доўга разглядалі, ці кот, ці котка. Валя: «Кошкі курносыя, а кот даўганосы». І наш Рычард Ільвінае Сэрца з рымскім носам. «Хуткамоўка: І на заробак да жаробак…»[1].

* [Валянціна Быкава]: «Я думаю, не мінаць жа вас, трэба адведаць; памаленьку шавялюся, памалу кратаюся; стаяла, як цвік; яна нейкая пырхпырх [Ірына], для ветласці добрая; у першых гадах яна за ім бегала; яейная цётка настаўніцай працавала; некалькі *каліў* большых, некалькі меншых (памідораў), каліў 10 пасадзіла; за пазуху панатаркаваюць яблыкаў, панахватаваюць; два разы магазін абіраў, на вялікую суму не набіраў; захліпаўся ад астмы; адзін глык, глычок; гаворыць і не к толку, без памяці гаворыць; даўняя ў жылах кроў цячэць, цяпер болей за дзімакрацейшую; дужа ласкі на Расію няма; ён і ня жыў, каб не салгаць; павырасталі пацукі, як канеўе».

---

[1] Гл.: Барадулін Р. Воз вёз лёс: Хуткамоўкі. Мінск: «Радыёла-плюс», 2013. (Без нумарацыі. Далей спасылкі на назву кнігі ў тэксце).

*15 жніўвеня, пятніца*

Прыйшлі хлопцы. Перакрылі страху над сенцамі. Як люблю грукат і стукат, калі нешта будуецца, рамантуецца, карацей — ладзьбуецца. Праз усё жыццё ў крыві маёй прага нешта будаваць, нешта майстраваць. Гэта з глыбіні вякоў жывое істоты, якая чалавекам завецца. Вечарам якраз дождж. Дзякуй, што пачакаў, пакуль крылі. А галава як не свая, як пазычаная. Працаваць так, як звык, не магу. І гэта выводзіць мяне з сябе. Гэта і званочкі адтуль, пакуль са старасці… Прыйшла добрая думка, каб Алесь запісаў успаміны Валі Васілёвай. Ён валодае тэхнікай і душа чулая. Літаратурны бок за мною…

*16 жніўвеня, субота*

Дажджы пачынаюць улягаць. Вычытваю «Песьні матчыны з Вушаччыны». Дадалі яшчэ скаромнага. Хай не прападае. Яно ж вушацкае. Карэнныя вушацкія спакон і яблівыя, і чуллівыя. Натуральныя. Самі ж сабе ацэнку далі, пацверджаную практыкай: ён у смаляной кабылкі выпрасіць і мёрзлай сучцы ўцісне. А ў галаву лезе рознае: «Кагосьці дзесьці…»[1] К ночы крыху ад галавы адлягло, а на душу хмара найшла. Шчыміць невыказнае. Жаль. Боль. Развітанне. Змрок. Зачыняю дзверы. З-пад бацькоўскага вяза два зялёныя агеньчыкі. Гэта Гладышавых кот Марцін. Чорна-белы. Як прадвесне ў праталінах. Новыя гаспадары, новыя калхознікі выгналі з хаты. Пакуль мы тут, да нас хінецца. Сябе гэтым Марцінам пачынаю адчуваць. Выгналі са звыклага жыцця, асамоцілі… Дзякуй, Госпадзе, за ўсё, за ўсё, за ўсё! На вока трапіла кніжка выдатнага паэта Арменіі. Адзін верш перачытаў па-свойму. Сугучны нам: «Перад выхадам з Егіпту»[2] (З Геворга Эміна[3]).

*17 жніўвеня, нядзеля*

У самы галавалом прыехалі Лайковы. Італійскі аўтобус — падарунак школе з Італіі. Дарагі сэрцу майму рупнік на ніве Беларушчыны Уладзімер, ягоная жоначка Люба, брат жончын і Янка з маладажонкай Марынай. Марына з гітарай, спявала й «Трэба дома бываць…», і на словы Янкі, і свае песні расійскамоўныя. Яна яшчэ й мастачка. Прыемная, поўная энэргіі. Разам з’ездзілі да Мамы. Люба паклала кветкі з Мётчы. Дзякуй ёй. Потым распальвалі самавар, які яны прывезлі з сабой. Пакінулі мне маладых смалячкоў на паджогу. Янка раніцай пілаваў і скіпаў смалячкі. Я сказаў, што два смалячкі ў Літмузэй у Менск адвязу. Хоць трохі расша-

---

[1] Гл.: Кагосьці дзесьці… (19.12.92–16.08.03, Ушача) // Халодная памяць вады. С. 419.

[2] Гл.: Перад выхадам з Егіпту (16.08.03, Ушачы) // Ксты. С. 158.

[3] Эмін Геворг (сапр. Мурадзян Карлен Грыгор’евіч; 1919–1998), армянскі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1951, 1976).

бунялі мяне. Дзякуй ім! Пераглядаў запісную кніжку, выбіраў словы на Вушацкі словазбор, наткнуўся на верш, напісаны ў Швэцыі: «Адна»[1].

*18 жніўня, панядзелак*

Узяўся выпісваць з запісных нізку «Ахвярызмы». Колькі панапісвана. І нікому гэта непатрэбна. Хіба сабе, абы занятак мець. Здаецца, нешта ўмею. Выключна сябе цешыць. Калхозны сацыялізм — калхозны разліў амэрыканізацыі. Ад амэрыканізацыі бароніцца Эўропа, і марна. А куды нам, вынішчаным, зацісненым [...]. Спяшаюцца жыць, як галодны я.аццa, асабліва маладыя. Яны невінаватыя. Расійская папса давыбівае ўсё не толькі нацыянальнае, але людскае.

*19 жніўня, аўторак*

Прыйшла Валя Васілёва. Як вавёрачка шустрая яшчэ. Усё жыццё ў клопатах. Шчыра распавядала, як Шурка сватацца прыехаў. Цвярозы. Пад гальштукам. Пра Васіля праз слова. Жыве ім. Як і я. Прыйшла й наша маладая паэтка Сняжана Мялешка. Выявіла, што далёкая радня.

Пайшоў на Ваўчэнскае возера. Старой ні сцяжынкі, ні дарожкі. Як ўбіўся ў кічаўкі, думаў — не выйду. На Верасовачку. Ані знаку, што там хутар наш быў. Доўга трывала ігрушына. Ляжаў валун, які бацька хацеў расшчапіць. Сёння анічагусенькі. Знайшоў два каменькі. Адзін з гусінае яечка (і формай падобны), другі зусім маленькі. І ўсяго. Потым дайшоў такі да Ваўчэнскага возера. На ўзгорку, было, шчаўе збіралі. Звалася мясціна Белы дом. Некалі да камуністаў панскі маёнтак быў. Цяпер ані знаку. Толькі над возерам поцсавецкае быдла наставіла сабе цагляных кароўнічкаў. Возера зарасло. Да берага не падысці. І на Верасовачцы, і тут раскашуюцца сіваватага адліву катовы мудкі й наіўным цветам цвіце дзяздоўнік. Разышоўшыся, і да Вечалля дацягнуўся. Старцу вярста не круг. Зараслі берагі. Прысмеркла вока глыбокае. На родныя мясціны рвешся адпасажыць роспач, а яна якраз тут цябе й чакала. «Таму»[2].

* (Валянціна Быкава:) «Ён такі разгаворлівы (Кляшчук): са свету вядзецца фамілія, можа, былі продкі; дзедавы дужа радніліся (трымаліся радні, хадзілі ў госці); балота Цытавізна ля Кублічаў; сёстры дзедавы былі гаваркія; мне так жалка было кароўку *збываць,* плакала па карове, пайду ў хлеў, а хлеў пусты; і цяпер буслы *плодзяцца*; вялікая *кляніна* й дуб; вядома ж, радзіма цягнець; карані нашых дзядоў; Петухоўшчына, Вітава возера, каля Чарапоўшчыны азярко невялікае, Чамярычына; зіма з летам ня сходзяцца, а людзі; Міханошак, ён жа дурны, *невірутны* ду-

[1] Гл.: Адна (17–18.10.99, Gävle) // Ксты. С. 303.
[2] Гл.: «Вярсту далёка дагнаць вярсце...» (19.08.03, Верасовачка) // Халодная памяць вады. С. 319.

рань, якраз тарканула ножам у сэрца; драгка, *драгкая* дарога; там з інжынерам *злюбіліся*, і яго кінула; і сам *дадукрыў,* што жонка яго кінула; *нахма'рылася*, можа, і дождж будзіць; прылюдзілася, прычасалася, схапілі мяне таго дня, як хапуны. Хата добрая, калодзезь на двары. Карову дзяржала й цялушку пусціла; і дровы сама секла; а пранцы яго ведаюць; а Васіль як узнаў, што мама адна, з Селішчаў па лугу, снягі вялікія тую зіму адбыла; прыдзіць са школы, кніжкі *лах* і на сяло пайшла; яна сыноў пагадавала, сыны былі *пагоднік*і; маці нясець *перакуску*; хоць адве́чарак; не стаў рыбы купляць есці, збрыдзела яна яму; мой бацька часта на маці *дудзеў*; а ты, Валя, *у маю дарогу.*

*20 жнівеня, серада*

Галава — хоць збывай. Ды раптам прыйшоў малады Змітрок рамантаваць падлогу. І я ажыў. Люблю з малых гадоў цяслярскі клопат. Вечарам званок — Рэм Нікіфаровіч з Чыкага. Атрымаў «Калі рукаюцца душы…» й IV том. Падабаецца. Між іншым, перадаваў паклон Вечаллю. Васіль Бялевуш[1], сусед праз дарогу, распавёў пра памочнікаў калхозу. Прыехалі шэфы, здаецца, брыгадзір кажа (на пытанне, што рабіць):

— Трэба касіць.

— Я не ўмею.

— Тады йдзі грузіць.

— Мне цяжка.

— Тады йдзі на х..!

Калхозны сацыялізм у дзеянні.

*Дарэчы*

Аж грыміць лясная старана,
Долу прыгінаюцца нябёсы, —
Гэтак кашаль перыць Перуна.
Пахадзіў стары па хмарах босы.

Шмат парад паганскіх,
Ды з усіх
Прыгадалася адна дарэчы:
Каб адразу кашаль пераціх,
Трэба грымнуць кулаком у плечы.

Буду дзеда ратаваць хутчэй.
Толькі як дапасці да плячэй?

---

[1] Бялевуш Васіль Апанасавіч (1947–2017), сусед.

*21 жнівеня, чацвер*

Сякера грукае, чэша, падганяе дошкі. На душы смалой пахне. Белыя габляваныя дошкі — хоць цалуй кожную. Чысцейшыя за шчокі юрлівак усіх. Перапісваю вершы з накідаў. Цэлы стог вершаў незавершаны. Вяршу. Учора пазваніў Акулін. Падборку ў «Дзеяслоў»[1] узялі. Даваў на густ. «Не здзіўлюся»[2]. Жывіцай пахне душы′. А камень на ёй цяжкі — Ілона.

*Арандатар*

З-пад шапак дзюравых,
З-пад пышных карон
Дурносць выпадае ў асадак.
Якім бы ні быў
Самы велічны трон,
Яго арандуе азадак.

*22 жнівеня, пятніца*

Падлогу пераклалі ў адным мейсцы, падгніла каля крана. Пайшоў купляць фарбу. Па дарозе сваяк Сіпачка Яначкі. «Афган прайшоў» і дайшоў — не хапае 500 на хлеб. Заўчора йду з возера — падыходзіць учарнелы: «Я ў запоі — дай 500». Народ ведае. Прыйшоў дамоў — кран сарвала. Ледзь дазваніліся майстроў. [...]. Зжыў я [...] на сабаку. Няма душэўнага спакою. А мог бы яшчэ напісаць нешта. Не даюць. Колькі ж будзе Пётра трымаць? За ўсё, Госпад, дзякуй! Значыць, варт такой знявагі. Пайшоў на Вечалле. Па дарозе сабакі такія звяглівыя, як пачнуць брахаць, няма супыну. [...]. Гэтулькі спітых, п’яных па дарозе. Мат на маце і ў саўбыдлы ў штанах і ў спадніцах. Папрацавалі камуністыя. Хоць бы дзень пабыць мне самім сабой з самім сабой. Відаць, ужо не дачакаюся. Прачынаюся з жахам. Толькі ў сне й жыву. Дый ён похапкавы. Яшчэ калі нешта пішацца. [...]. Дамінічка малая, Ілона адпасажылася ад дому, [...]. Гэта ўжо лёс. Божа праведны, Божа адзіны! Пашлі хоць прамень у гэтую цемрадзь! Хочацца затрымацца, хочацца трымацца. Стараюся, цяжка... Родны Васілю! Адпачывай са святымі.

*23 жнівеня, субота*

Раніцу пачаў з верша Васілю:

*А там?*

Вось і восень у нашых краёх.
(А якая там паравіна?)
Мох зязюльчын

[1] «Дзеяслоў» — літаратурна-мастацкі час. (з 2002).
[2] Гл.: Не здзіўлюся... (21.08.03, Ушачы) // Руны Перуновы. С. 394.

Рэху пад ногі лёг.
Дрэмле лог.
Не спіць баравіна.

На глухіх ад бур’яноў хутарох
Расцвітаюць катовы мудкі —
Краскі ціхія.
Памяці на парог
Асцярожна ступаюць смуткі.

І дзядоўнік
У нерашучасці за спіной
Зацвітае як жывасіллю.
Ветравеі,
Глынуўшы вады азярной,
Вучацца вымаўляць:
Ва-сі-лю…

Схапіла галаву, прылёг. І прымроілася, што Марк Шагал[1] пытаецца пра цвікі ў вокнах. «Цвікі»[2]. Як разгонішся, дык усё йдзе. Рымы Казаковай[3] верш па-беларуску напісаў:

Рыма Казакова

*Назавуць…*

*Памяці Васіля Быкава*

Хмара чорная,
Як глухая хусціна,
Ахінула цябе ўначы.
Беларусь,
Ты свайго найлюбімага сына
Ані здолела зберагчы.

Без яго
Слова крэўнае асірацела,
Як без чулага бацькі дзіця.
І дарога да роспачы скарацела
Пад паглядам нямым забыцця.

[1] Шагал Марк (1887–1985, Францыя), беларускі і французскі мастак і графік.
[2] Гл.: Цвікі (23.08.03, Ушачы) // Толькі б яўрэі былі!.. С. 209.
[3] Казакова Рыма Фёдараўна (1932–2008), руская паэтэса, перакладчыца. Заслужаны работнік культуры УзбССР і Каракалпакскай АССР (1981).

Беларусь!
Як бы роспач ні высяляла
Сподзеў светлы з душы,
Ты зноў
Імем гордым адродзішся —
Зноў Васілямі
Назавуць маці верных сыноў.

*З пашанай вольна пераклаў Р. Б.*

*24 жніўня, нядзеля*

Прыходзіла Валя Быкава. Усё пра Васіля гаварылі. Выходзіць, і ў Васіля бацька цесляром быў, як і мой. У Васіля бацькаў характар. Цікава сказала пра Бондар: «Бондар — яна такая *падсрачніца*». Дакладна. Успамінала, як Пашкоў Генечка ліў бруд на Васіля. Аж у мяне сарвалася з пяра: «[…]: Пасвіцца ля лукашысцкіх стажкоў…» [у дзённіку]. Васіль Бялевушаў, сусед праз дарогу, запрасіў у лазню. Даўно ўжо не быў у вушацкіх лазнях. Некалі ў кожнага была свая лазня. […]. Ніяк не мог намыліцца, адмыць увесь бруд, які прыстаў да мяне. Васіль распаведаў. Зэк, які меў тры ходкі, прыстаў да ўдавы. Працаваў на лесапілцы. Завёў сабаку. Захацеў пабудаваць яму будку. Узяў аполкаў і пілу ў некага. Той назаўтра прыйшоў — дзе піла? А напарнік кажа: «Яе ўзяў зэк […]». Гэты зэк падае яму пілу й кажа: «Я не […]», — і нож у сэрца гэтаму, хто казаў. Бывайце, хлопцы. На 8 гадоў. Страшна слухаць і глядзець на людзей, якіх ты помніш маладымі, на пэнсіі. Дабітыя, забітыя, роспачныя. Пажылі ў сацыялізме. Што ўспомніць, пра што гаварыць? Як нешта выхітрылі, як адгаўкнуліся ад партыйнага начальства. Не жылі, а будавалі светлае будучае чалавецтва.

* [Валянціна Быкава:] «Дошкі шупчаць; характар такі няцверды, цвялілі; у Васіля характар бацькаў, абы чуць — плачаць. У вайну сядзіць есць і плачаць: дзе наш сыночак; і мама жаласная была, але вытрыманая; бацька шустрэйшы быў, на язык спрытны, гаваркі, увесь перажываў па сынах; Сяргей пайшоў па дзяўчатах, цэлы тыдзень не было, Васіль мейсца не знаходзіў. І прэмія была не міла, думаў, забілі дзе; і Васільковага сына адлічылі; ! Бог добры, ён бачыць; як на тое ліха і надвор’е; як, бывала, Васіль прыязджаў, пагода псавалася, такі лёс; як я прыязджаю, дык і дождж тады ззаду за мной [казаў Васіль]; усе так адхінуліся каля мяне; я кідаю ўсё, слухаю стаю, Алесь такі п*рыхільны* чалавек; а яго і *ўпаміну не было*, забыліся; сонца не выблісквае; пол *гутатаецца*; бацька любіў палітыку, газэты выпісваў. Як Васіль прыязджаў, выпытаваў яго; яна дужа трапяткая, фыркніца, фыркніць; а толькі астрашэла».

*25 жнівеня, панядзелак*

Прыходзіў Роўба. Праводзілі на пэнсію. Падаравалі карціну. 33 гады адбухаў. Хварэў за Вушачу. Нашчадны крывіч. Радня мая па мамінай лініі. Разгублены. Што значыць чалавек не быў гаспадаром ні сваёй гаспадаркі, ні сам сабе не быў гаспадаром. Совслужащий. Іх пасля вайны й да вайны называлі кручкамі. Праўда, рыбіну ўдачы лавілі не на ўсе кручкі. Учора ўночы, а сягоння зрання. Казалі ў нас: зрання першае сранне. А я пра каханне: «Аль-бомнае»[1]. А яшчэ іншага характару радкі прыйшлі ў галаву, пакуль абразаў галіны дрэваў, сек на дровы: «Прыдумаў»[2].

*26 жнівеня, аўторак*

У госці на клёцкі з маладой бульбы да Галі Варатынскай. Круціла запіс ейнага юбілею. Раён так і застаўся апорай цемрашальства. […]. Старыя вушацкія фармальна неадукаваныя — геніі, сакраты. Яны — жывыя людзі. […]. Да адраджэння нацыі далекавата. Цікава, Галінаму мужу[3] прыснілася. Недзе на сене ляжым ногі ў ногі Васіль, ён, я.

Закончылі з Змітрачком Хвашчом эпапэю з падлогаю. Разлічыўся з ім. Даў даляр на развод. Кажу, каб не разменьваў, бо ў мяне лёгкая рука. У такім разе, каб я быў пэвен, Змітрок папрасіў мяне нешта напісаць. Я пажадаў флямайстрам, каб грошы стогам, а х.. рогам. У нас на гародзе шмат вінаградных смаўжоў. Змітрок распавёў такое паданне мясцовае. У пана ў Белым (доме) ўкусіла змяя дачку. Ён паклікаў ведзьмара. Той сабраў усіх змеяў у яміну й заваліў іх камянём. А развёў пан вінаградных смаўжоў. І цяпер у Белым і ваколлі каб вужака, каб вуж, а праз дарогу поўна. Ад маёнтка ацалеў адно мураваны склеп. Пад вечар прыйшоў [майстар] паглядзець печку. Праз слова «баксы, баксы». Савецкі спец. Я думаў, у Вушачы шмат Змітракоў. Аж ніхуютанькі.

*27 жнівеня, серада*

З падлогай усё. Роўба з Чорным прыйшлі. Чорны дужа вушацкі выглядам, не разведзены набрыддзю. Аж на душы пасвятлела. У раёне, выходзіць, 72 мільтоны. Пасля вайны было спачатку два, потым тры. Вечна п'яны Марозік і ахвотнік да баб Дзіваноўскі. У Адміністрацыі 104 задніцы. Задажджыла. На развітанне паслізнуўся й так урэзаўся, што ледзьве падняўся. Пакланіўся роднай зямельцы спіною й крыжам. Сумна

---

[1] Гл.: Аль-бомнае (24–25.08.03, Ушачы) // Руны Перуновы. С. 310. Параўн.: «Ані ведаю, ці кахаю цябе я...» (28.12.76) // Барадулін Р. Дзённікі і запісы. Вып. 2. 1970–1978. Мінск: «Кнігазбор», 2015. С. 268; «Давяраю і жніўню, і маю...» // Барадулін Р. Маўчанне перуна. Мінск, 1986. С. 131.

[2] Гл.: Прыдумаў (25.08.03, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 306.

[3] Варатынскі Пётр Юльянавіч (н. 1953), беларускі спартсмен, трэнер Дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы. Майстар спорту.

пакідаць роднае котлішча. Яблыні згорбіліся. Крапіва асмялела. Толькі старыя сады й заімшэлыя стрэхі з тых гадоў. Гэтулькі шчаслівага смутку нідзе няма, як на родных мясцінах.

*28 жніўня, чацвер*

Вушача, да сустрэчы! Ад'езд. Менск. Адразу крутня, мітусня. Дзякуй Алесю, і прывёз, і адразу ж Дамініцы наладзіў кампутар. Гэта памяць Васіля. Прысылаў грошы на Дамініку. Дзякуй яму, роднаму.

*29 жніўня, пятніца*

Усё-ткі Андрэй Лапцёнак знайшоў слова пра Васіля, якое накідаў я да рускамоўнага выдання. [...]. У «Коўню». Сустрэўся з Пётрам. Хоць ён мяне наладзіў. А вечарам Белы, ён мяне ўсё-ткі здзівіў. Быццам ёсць 2-мэтровы камень, на якім сядзела Геніюш[1]. Дык вось яго трэба паставіць на магіле Васіля й напісаць, што на ім сядзела Ларыса Геніюш. [...].

*30 жніўня, субота*

Перадрукоўваю Яндарбі. Паэт шалёны. Сам здзіўляюся, як гэта я не вывіхнуў сабе мазгі, перакладаючы. Са мной сум Вушаччыны.

*31 жніўня, нядзеля*

Перадрукоўваю. Радуюся й сумую. Прыйшло ў галаву: «Між іншым: Народ зарабляе свайго караля...» [у дзённіку]. Так і не ўдалося пажыць у нармальнай дзяржаве. Хоць бы Даміністцы Бог даў.

*1 верасня, панядзелак*

Дамінічка ў школу. Выцыбалася. Выладнела. Новыя клопаты ёй і мне. «Змываюць ручаі...»[2] Галава бастуе. Толькі Пётра й трымае.

*2 верасня, аўторак*

Да Пузыні з Алесем. І яго ліквідуюць. Знішчаюць ўсё беларускае. Планавата. [...]. Толькі й суцяшае: цягаў воўк, пацягнуць і ваўка. А калі? «Хай адчувае высь Ладысь Пузыня...» [у дзённіку].

*3 верасня, серада*

З'езд ПЭНа. Абралі старшынёй [...] Лявона Баршчэўскага[3]. Гэта найвыдатнейшая кандыдатура. Крывіч, палачанін, эрудыцыяй блізіцца

---

[1] Геніюш Ларыса Антонаўна (1910–1983), беларуская паэтэса. Была рэпрэсавана.

[2] Гл.: Ахвярынкі: Змываюць ручаі... (1.09.03) // Халодная памяць вады. С. 476.

[3] Баршчэўскі Лявон (Леанід Пятровіч; н. 1958), беларускі перакладчык, літаратуразнавец. Кандыдат філалагічных навук (1989). У 1991–2003 гг. нам. дырэктара Беларускага

да Уладзіміра Караткевіча. Пагаварыў з Лукашуком. Яндарбі ўнесены ў ААНаўскі ліст міжнародных тэрарыстаў. [...]. Кніжка ляснецца. А паэт вялікі!

*4 верасня, чацвер*

У Заслаўе. Пылінкі ад старажытнага места. Саўковы пгт (пасёлак гарадскога тыпу). На немцаў ужо не зваліш. Самі. Дый ад саміх нічога не засталося. Сум.

*5 верасня, пятніца*

З Алесем у школе, адзінай беларускамоўнай у вялікім раёне. Хоць вучні ўважліва слухалі. Нейкія з дарослымі душамі. Падыходзілі па аўтографы да нас. Рэдка хто па-беларуску. Сум.

*6 верасня, субота*

Перадрукоўваю Яндарбі. Канца не відаць. Паэт цудоўнейшы! Як бы гэта кніжку выдаць. Дык бульдогі [...] Расіі касцьмі лягуць.

*7 верасня, нядзеля*

З графам да Наташы. Граф перадаў лекі з зялёнай аптэкі. Буду здаровы. Дзякуй Пётру! «Для чаго?: Вечарэць здакучыць журбе» [у дзённіку].

*8 верасня, панядзелак*

З лецішча Ілона. Трэба грошы на рамонт, і ўсіх размоваў. [...]. Бедная Дамінічка! Божанька, дазволь давесці ўнучачку да нечага. Дай мне трошку дзён, трошкі здароўя…

*9 верасня, аўторак*

Аднёс у «Дзеяслоў» Яндарбі. Добрыя маладыя хлопцы. Натуральныя беларусы. Акулін, Пятровіч[1], Пашкевіч. Скоблу я шалёна шаную. У кожным пакаленні мусяць быць такія цягуны, такія дапытнікі. Тады й нацыя жыве. Гніл Гілевіч [...]. Захацелася быць дэсыдэнтам кандыдату ў члены Бюро ЦК КПБ. Бяскрыўднага Аўрамчыка[2] абакраў[3]. [...].

---

гуманітарнага ліцэя імя Я. Коласа. Старшыня Беларускага ПЭН-цэнтра (2003–2005).

[1] Пятровіч Барыс (сапр. Сачанка Барыс Пятровіч; н. 1959), беларускі пісьменнік. З 2002 г. заснавальнік і гал. рэдактар час. «Дзеяслоў».

[2] Аўрамчык Мікола (Мікалай Якаўлевіч; 1920–2017), беларускі паэт. Заслужаны работнік культуры БССР (1980). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1964).

[3] Н. Гілевіч публічна прызнаў сваё аўтарства да таго ананімнай паэмы «Сказ пра Лысую гару» і рашуча адпрэчыў удзел М. Аўрамчыка ў яе напісанні.

*10 верасня, серада*

Грошы ні адкуль. [...]. Так і дажыву, ніколі не пабыўшы самім сабой, сам-насам з сабою. «І Вечнасць шануе цяпло...»[1]

*11 верасня, чацвер*

У Заслаўе. У цішыню й ласку. Назад праз Зялёнае. Разам з чалавечымі рэшткамі. Што робіць жыццё з чалавекам?! «Выдумалі...: Покуль млын піў у ракі з рукі...» [у дзённіку]. Званіў Лайкоў. Едзе да Штэйнера[2] на юбілей. Перадаў па тэлефоне: «На палову поўні: Пяцёрка — серп...» [у дзённіку].

*12 верасня, пятніца*

З нейкага часопіса званілі й пыталіся, у чым загадка жанчыны. Вядома, што загадка ад Звышняга, які дазволіў жанчыне доўжыць жыццё. А наогул, самая загадка й талент, каб жанчына кожны раз была новая.

*І Адам...*

Загадку Евы і Адама яшчэ
Разгадаў ад сябе самога ўпотай:
То холадам высокім апячэ,
А то асцюжыць блізкаю пяшчотай.

А мая заінька [...]. Дзякуй Богу за кару. Гэта за маму. Толькі Звышні й трымае мяне. Бо так наўкол — суцэльная цемра. [...].

*13 верасня, субота*

У «Коўню». Сустрэўся з Пётрам. Генадзь (Асташонак) круціцца як вуж на патэльні. Дзве дачкі, жонка, цешча. І ніхто нічога не робіць. Усё на ім. Як трывае шчырун? [...].

*14 верасня, нядзеля*

У «Песьні матчыны з Вушаччыны» дадаў болей скаромнага. А наогул, гэта чыста паганская традыцыя — абыходзіцца без эўфэмізмаў. І ў гэтым болей чысціні, чымся ў робленай сціпласці й цнатлівасці. Раніцай прачнуўся з радкамі: «Цёмнач»[3].

---

[1] Гл.: «І Вечнасць шануе цяпло...» (10.09.03) // Халодная памяць вады. С. 276.

[2] Штэйнер Іван Фёдаравіч (н. 1953), беларускі літаратуразнавец, крытык, пісьменнік, краязнавец. Доктар філалагічных навук (1994). Прафесар (1995). З 1983 г. заг. кафедры беларускай літаратуры Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны.

[3] Гл.: Цёмнач (14.09.03) // Халодная памяць вады. С. 326.

*15 верасня, панядзелак*

Аддаў Алесю слова да іхнага альбома са Зміцерам. Аднёс у «Нашу веру» вершы. Прыемна было чуць і бачыць чыстую верніцкую душу — Хрыстыню Лялько.

*16 верасня, аўторак*

Вычытаў набор у «Дзеяслове». Дзякуй хлопцам, што помняць. Аднёс карэктуру «Песьняў матчыных з Вушаччыны» Лапцёнку. На стале ляжыць першы том Гілевіча. У ім на адкрыццё план выдання. Будзе 23 тамы. У Леніна, здаецца, было 26. Яшчэ дапіша, покуль будуць выходзіць. Лапцёнак нікому не плоціць, каб выдаць лагойскага [...]. Там жа працуе й дзядзька Нілаў Вільтоўскі, які разам з Нілам прадалі «Каралішчавічы» ціхотка. А Лапцёнак мне кажа, што Ніл выдае за свой кошт. [...].

*17 верасня, серада*

Па справах аплаты кватэры й аховы. У «Коўню». Пан Вішнеўскі быў. Во ўжо дзе чыстапародны пан. Болей бы такіх, дык і нацыя б ачысцілася [...]. А тут Стралко[1] насеў з Лэсяй Украінкай[2]. «Вернасць: Анёла помсты чакае...» [Л. Украінцы; у дзённіку].

*18 верасня, чацвер*

Будзінас[3] абяцае завезці ў Вільню. Калі Бог дасць, пакланюся святым мясцінам, сталіцы крывіцкае душы. Спахапіўся, а ў мяне недзе ляжыць пашпарт на выезд з калхознага сацыялізму. Ледзь знайшоў. Заадно парыўся ў запісных кніжках. Трэба ўсю занатоўню пра Васіля сабраць разам. «Вернецца»[4].

*19 верасня, пятніца*

Душа самотнее чым далей, тым болей. Жывеш, як скачаш у мяху. Толькі жывое й блізкае тое хатняе, суседняе з маладых гадоў. «Смелая пяшчота»[5].

*20 верасня, субота*

Калупаюся ў запісных кніжках. Выбіраю ўсё пра Васіля, дакладней, ад Васіля. Чорная хмара роспачы ўвесь час нада мною.

---

[1] Стралко Валерый Васільевіч (1938–2019), беларускі пісьменнік, перакладчык.

[2] Украінка Леся ( сапр. Косач-Квітка Ларыса Пятроўна; 1871–1913), украінская пісьменніца.

[3] Будзінас Яўген Дамінікавіч (1944–2007), рускі пісьменнік, публіцыст.

[4] Гл.: Вернецца (18.09.03) // Халодная памяць вады. С. 279.

[5] Гл.: Смелая пяшчота (19.09.03) // Руны Перуновы. С. 189.

*21 верасня, надзеля*

У Новалукомле з Алесем. У Доме культуры ў зальцы ўтульнай школьнікі й трошкі дарослых. Уразіў у рэстаране булён. Як мама некалі варыла. Ці гэта зямля й паветра блізкія да Вушаччыны. З намі ездзіў Генадзь Быкаў — лідар вольных прафсаюзаў, ягоны фургон вёз нас. Гэта прафесійны беларус і прафесійны апазыцыянэр. Сумна стала, як ніколі. Дазволеная апазыцыя трэба для гэбістаў і для працы, для справаздачнасці й для дзялёжкі субсыдый незалежна з якога боку. Што ўскалыхнула душу, дык гэта вочы загадчыцы Дома культуры. Шляхетнасць. Такія вочы аднойчы звялі мяне з дарогі сэнсу… Па дарозе Алесь распавёў. Яму казалі. Хлопцы, якія рабілі набор і вёрстку першага тома Збора твораў Гніла Гілевіча, прынеслі. «Колькі старонак?» — «За чатырыста». — «Мала». Перавярсталі. «А цяпер колькі?» — «За пяцьсот». — «Гэта добра. Дзякуй!» Дзівіць ён мяне з кожным годам. […].

*22 верасня, панядзелак*

Аднёс Стралко колькі слоў пра Лэсю Украінку. Дапёк мяне просьбаю. Пазваніла Валерыя Кустава[1]. Прадмову. Зборнік яшчэ не гатовы. Шмат цытатаў з Лявона [Дранько-Майсюка], перакладчыка Туркменбашы ды іншых, жангліраванне ймёнамі сусветнай клясыкі. Чыста па-палеску: спрабаваць грукнуць лапцем па паркету. А ўвогуле здольная, запальная, палётная паэтка. А мне пакою не даюць вочы з Новалукомля: «Утопія: Сёння нарэшце змог…» [1-шы варыянт; у дзённіку].

*23 верасня, аўторак*

Адным вокам глядзеў фільм пра Іосіфа Броз Ціта[2]. Настальгія рюсских камэнтатарак па сэсэрсеру. Галоўная бяда Ціта, што ён паслаў Расею куды трэба. Уночы прыснілася, што я размаўляю з Гітлерам[3], распавядаю яму пра Лабанка[4]. Вечарам у ПЭНе. Наконт ушанавання Васіля. Цяжка быць з Ірынай Міхайлаўнай. Разумею, што ёй цяжка, але з ёй яшчэ цяжэй. Так можна ўсё заваліць. Мяне, відаць, ніколі не перастануць здзіўляць Гілевіч сваімі зглуздуз'едінамі, а гэбісты хітрасцю. Гэта ж трэба, Лукашук прапанаваў Ірыне Міхалішцы архіў Васіля перадаць у Гарвардскі ўніве-

---

[1] Кустава Валярына (Валерыя Уладзіміраўна (н. 1984), беларуская паэтэса, перакладчыца. У 2003–2007 гг. студэнтка Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтва. Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» (2009).

[2] Ціта Іосіп Броз (1892–1980), прэзідэнт Югаславіі (з 1953). Маршал (1943).

[3] Гітлер Адольф (сапр. Шыкльгрубер; 1899–1945), фашысцкі дыктатар Германіі (1933–1945), нацысцкі ваенны злачынец.

[4] Лабанок Уладзімір Елісеевіч (1907–1984), камандзір беларускага партызанскага злучэння (1941–1944), беларускі дзяржаўны дзеяч . Герой Савецкага Саюза (1943).

рсітэт. Жывога з Беларусі выпхнулі, а цяпер і дух ягоны хочуць. […]. Бог з імі. Ім будзе іхнае.

*24 верасня, серада*

Ашалеў ад званка. Прапанова з'ездзіць у Рым! Дай Божа! Божанька, дазволь! Два варыянты. Самалёт і машынай праз Польшчу, праз Чэхію. З начлегам з манастырах. Вядома, лепей машынай. Калі яшчэ здарыцца паехаць так. Дый ці будзе каму ехаць, у сэнсе мне.

*25 верасня, чацвер*

У «Коўню». З Пётрам сустрэча. Сёння вечар Арлова. Накідаў нешта: «А будзе, не будзе…» [у дзённіку]. Пайсці не змог. Зламіла мяне. Наогул, сумна й безнадзейна. Ад гадоў сваіх не ўцячэш. Працаваў, шчырэў як мог, і ўсё ў пясок. І ўсё ў пясок.

*26 верасня, пятніца*

Снілася. Бураўкіна пасылаюць у горад, дзе нарадзіўся Хрыстос. І я ў тым горадзе. На крыжы Хрыстос. І горад гэты не бамбілі, таму што ў ім Хрыстос укрыжаваны. Ездзіў у Заслаўе. Прыгарадныя электрычкі — філіі вар'ёўні. Савецкія пэнсыянэркі, у якіх ляпы не счыняюцца. У майго Мірона было болей інтэлекту, чымся ў іх. Электарат […]башы. Уся надзея на моладзь. А яна генна саветызавана. Змрок. Марыя[1] казала, на радыё магілёўскі […] калхоз-башы Рыбакоў[2] хоча на вуліцу выгнаць хор і аркестр. Маўляў, яны не патрэбныя. Затое будуць у габінэтах усталяваны тэлешпігі. Дорага, але надзейна для сочкі.

*Лютая*

Мілосць — і лагода, й карыда,
Рака, дзе не спяць берагі.
І самая лютая крыўда
Ад тых, хто табе дарагі…

*27 верасня, субота*

Як галаву ні ламіла, а ўсё-ткі напісаў для «Свабоды», як крывічы сэксам займаюцца[3]. Калі не дадуць Лукашукі, у «Нашу ніву» аддам. А наогул,

---

[1] Андруковіч Марыя Канстанцінаўна (н. 1948), беларускі журналіст і кінарэжысёр. У 1995–2008 гг. супрацоўніца Беларускага Дзяржтэлерадыё.

[2] Рыбакоў Ягор Уладзіміравіч (н. 1971), беларускі журналіст. У 2001–2004 гг. старшыня Белрадыёкамітэта. У 2005–2010 гг. адбываў пакаранне за атрыманне хабару ў асабліва буйных памерах, злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі і «адмыванне» злачынных даходаў.

[3] Гл.: Як беларусы сэксам займаюцца (27.09.03) // Дуліна ад Барадуліна. С. 178.

настрой развітальны. А Дамінічка маленькая, бездапаможная. З бацькамі й без бацькоў. Нікому ні я, ні тое, што раблю, не трэба. Васіль пайшоў, і застаўся я зусім адзін. Перапісаў верш: «Каб рунела душа...»[1]

*28 верасня, нядзеля*

У дурную галаву й дурное лезе: «Пад Маякоўскага[2]: Прэзідэнт і Гілевіч...» [у дзённіку]. Алесю спадабалася чатырохрадкоўе [«Мілосць — і лагода, й карыда...»[3]], прапанаваў развіць да песні.

*29 верасня, панядзелак*

Цікавая рэч асацыяцыя! Іду дварамі. Мэталёвая скрыня для смецця. Чытаю: «СССР». Дзіўлюся, да чаго б гэта? Узіраюся — «мусор». Асацыяцыя па сэнсу.

*30 верасня, аўторак*

Прачынаюся з радкамі ў галаве: «Напавер»[4].

*1 кастрычніка, серада*

Дзень добры, восеньскі месяц! Не будзь сярдзіты. А я ўночы як не сканаў. Ледзь падняў Пётра. «Прапажа»[5].

*2 кастрычніка, чацвер*

*Вільня!* Дыхнуў паветрам маладосці. Нашыя святыні спадзеў даюць. На сустрэчу прыйшлі Альгіс Балтакіс[6], Мікалас Карчаўскас[7], з тога стагоддзя, дзе ўсё было дужае й вясёлае, спадзеўнае й даляглядная. Літоўцы жывуць ашчадна, але ў сваёй хаце. А нам адно аблізвацца...

* Светлыя мясціны для крывіцкай душы. Рака ўспамінаў плыве ў знаёмых берагах. Вечар інстытута, задуманага Будзінасам.

*3 кастрычніка, пятніца*

Вільня! У Саюз пісьменнікаў. Шыкоўнейшыя панавіцейшыя апартамэнты. І ў іх хацелі адабраць. Але выйшлі, сцяной сталі й адстаялі. А ў нас ШаМякіна розная хіба выйдзе. Ці зглуздзелы Ніл. Пахадзіў па ўніверсітэцкіх дварох. Усё дагледжана, усё першастворанае, несапсаванае. Праз

---

[1] Гл.: Каб рунела душа... (14.05.02–27.09.03) // Ксты. С. 181.
[2] Маякоўскі Уладзімір Уладзіміравіч (1893–1930), рускі паэт.
[3] Гл.: Палон (26, 28.09 (1, 6, 5, 12-я строфы)–11.10.03) // Халодная памяць вады. С. 390.
[4] Гл.: Напавер (30.09.03) // Ксты. С. 239.
[5] Гл.: Прапажа (1.10.03) // Руны Перуновы. С. 448.
[6] Балтакіс Альгімантас (н. 1930), літоўскі паэт, крытык, перакладчык. Народны пісьменнік ЛітССР (1986). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ЛітССР (1966).
[7] Карчаўскас Мікалас Антано, літоўскі паэт.

мову ўтрымаліся літоўцы. І цяпер жывуць ашчадна, але ведаюць, прынамсі, што можа быць лепей. Яны самі сабе паны.

* СП Літвы. Падпісанне дамовы спаміж старшынямі. Наш Пашкевіч малайчына. Універсітэцкія дваркі. Прылюджаныя, дагледжаныя, як з [неразб. 1], сваё. [...].

*4 кастрычніка, субота*

Прачнуўся ад званка Генадзя. Ніл зусім з усіх тармазоў з'ехаў. Самае страшнае, што жанглюе святым імем Васіля. Глеб прынёс мне ягоныя інтэрв'ю з прычыны «Лысай гары». Заява рэдактару «Вячэрняга Мінска». Калі Глеб паказаў бабулі сваёй, яна спыталася, а з якога года гэны Гілевіч? Выявілася, што яны аднагодкі (1931). Тады бабуля сумна: «Дык няўжо й я такая дурная?»

*5 кастрычніка, нядзеля*

З раніцы круціліся радкі: «Боль»[1]. А душу палоніць роспач у суаўтарстве з абыякавасцю й зборамі ў вечную дарогу.

*6 кастрычніка, панядзелак*

Перакладаю Іона Друцэ[2]. Навошта віцяблянам была гэтая п'еса? Напалову малдаўская, напалову савецкая. А мне выбіраць няма чаго, што рабіць. Ні часу, ні здароўя, ні грошы. З чаго пачынаў, да таго й вярнуўся. Толькі тады быў час і здароўе. І спадзеў.

*7 кастрычніка, аўторак*

З лецішча прыехаў Генадзь Бураўкін. Званіў. Хоць наш, крывіцкі голас пачуў, хоць адчуў нашую, крывіцкую шчырасць. Ніл так абхезаў яго. Усе даты й падзеі ў яго запісаны, як бы справаздачы [...]. Цяпер Нілок карыстаецца імі для бязмозглай палемікі. [...].

*8 кастрычніка, серада*

У Заслаўе. Хоць душой крыху спачыў. Шчырасць лечыць. «Сустрэча»[3]. Прачытаў свайму зямному збаўцу Пётру, ён: «Людзі, якія гэтак разумеюць смерць, доўга жывуць...» Не ведаю, ці радавацца, ці нудзіцца.

*9 кастрычніка, чацвер*

Пазваніла Вольга Караткевіч з Прагі. З Зелімханам нешта будзе. Павал Жук — жучок нейкі, прафесійны беларус. Не перадаў мне паэму Зелімха-

---

[1] Гл.: Боль (5.10.03) // Халодная памяць вады. С. 54.
[2] Друцэ Іон Панцялеевіч (н. 1928), малдаўскі празаік і драматург.
[3] Гл.: Сустрэча (8.10.03) // Халодная памяць вады. С. 284.

на. Вольга так пра Жука й сказала: «Засранец». А неўзабаве пазваніў і пан Зелімхан. Яму сказаў, што Васіль даў яму высокую ацэнку. Быў ўсцешаны. Сказаў: «Падбірай, кампануй кніжку, як бачыш сам». Размову скончылі — ён: «Жыве Беларусь!» — я: «Жыве Чэчэнія!»

*Наканаванне*

Пад бацькавым вязам ля небакраю,
Апошнюю радасць даверыўшы страху,
Глядзець, як вечнасць перабірае
Гарачы ружанец Млечнага Шляху…

Голас Зелімхана нейкую радасць прынёс. Хай Бог бачыць яго!

*10 кастрычніка, пятніца*

Дасталі мяне Марыксы, каб даслаў тэзісы (усё яшчэ савецкія стандарты) на канфэрэнцыю, прысвечаную Ояру Вацыецісу[1]. Схадзіў у ПЭН, паслалі хлопцы факсам.

*11 кастрычніка, субота*

Прачнуўся рана. А ўставаць […] не хочацца. Лезлі нейкія радкі: «Тройня»[2]. У «Коўню». […]. Цікава прафэсар Зянкевіч казаў: калі была рэвалюцыйная, апазыцыйная мітрэнга з мастаком Пушкіным[3], міністр КГБ сказаў: «Не чапайце Пушкіна». Узгодненыя апазыцыянэры. Сяржук Цімохаў[4] прапанаваў напісаць радкі ў ягоны каляндар з мадэрнымі ню. Прыйшоў дамоў і ў галаву прыйшло: «Патаемнасць купальскай начы»[5]. Гэта як бы ўступным вершам будзе. І дапісаў да ранейшага верша. Па слупку на штомесяц будзе: «Палон». Лёг а палове трэйцяй. Як у маладыя гады. Праўда, у маладыя гады нішто не клалася…

*13 кастрычніка, панядзелак*

Божа літасцівы! Дай мне моцы не звар'яцець у маёй жа хаце. […]. Ніколі не думаў, што зараблю сабе такі вечар жыцця.

«Туды…», «Два сонцы»[6].

---

[1] Вацыецісь Ояр (1933–1983), латышскі паэт. Народны паэт ЛатвССС (1977). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1982).
[2] Гл.: Тройня (11.10.03) // Ксты. С. 329.
[3] Пушкін Алесь (Аляксандр Мікалаевіч; н. 1965), беларускі мастак-нонкарфарміст, тэатральны мастак, перформер.
[4] Цімохаў Сяргей Аляксандравіч (1960–2012), беларускі мастак.
[5] Гл.: Патаемнасць купальскай начы (11.10.03) // Руны Перуновы. С. 436.
[6] Гл.: Туды…; Два сонцы (13.10.03) // Ксты. С. 335; 279.

*14 кастрычніка, аўторак*

Ратуюся працай. А за горла хоча рашуча ўчапіцца роспач. Самі йдуць вушацкія словы. Імі й жыву. Пуста ў душы маёй і ў галаве без Васіля. Але адчуваю Ягоную прысутнасць ува мне, чую голас Ягоны, адчуваю позірк Ягоны. Мама і Васіль са мною.

*15 кастрычніка, серада*

Вечарына Язэпа Драздовіча[1] ў Чырвоным касцёле. Марачкін малайчына, арганізаваў. Савецкі агітатар Купава, як у тыя часы, выступаў, хоць словы быццам і адраджэнскія. Самы галоўны, самы шляхетна-мудры Арсень Ліс. Дзеля аднаго яго варта было схадзіць. «Не дарадца»[2].

*16 кастрычніка, чацвер*

Сустрэўся з Юрасём Бушляковым[3]. Перадаў дыскету з паэмай Зелімхана й ягонымі здымкамі. Цікава, што й тут Воюш[4] уторкнуўся. Калектыўных перакладаў не люблю. Зелімхан не вінаваты. Гэта «дзеці капітана Гранта», прафесійныя беларусы з бел-чырвона-белай перавязачкай на лобе. І смешна, і сумна. І нават брыдка.

Сустрэча на філфаку БДУ. Колькі шчырых маладых крывіцкіх душаў! Аж сам памаладзеў. Вольга Казлова[5] была. І потым на гарбаце. Паўтарала адну з гэбісцкіх легендаў пра смерць Купалы. Прасіў, каб напісала. Вядома, не будзе. Баіцца. Верыць у веліч бацькі[6]. Падаравала мне брашуру пра бацьку 1977 г. Гэта жах глядзець. Я ж ведаю партызанскія подзвігі. Праўда, дзве антонаўкі смачныя. За іх большы дзякуй.

*18 кастрычніка, субота*

*Вушача!* З Алесем у Вушачу. Выбілі шыбку. Другакласнік праз краты пралез. Расце зэкаўская намэнклятура. Пакуль знайшлі шкліну. Васіль

[1] Драздовіч Язэп Нарцызавіч (1888–1954), беларускі мастак, скульптар, этнограф, фалькларыст, археолаг, пісьменнік.

[2] Гл.: Не дарадца (15.10.03) // Халодная памяць вады. С. 402.

[3] Бушлякоў Юрый Сямёнавіч (1973–2013), беларускі мовазнавец, педагог, перакладчык, журналіст. У 1996–2004 гг. супрацоўнічаў з Радыё «Свабода» (Прага). Кандыдат філалагічных навук.

[4] Сокалаў-Воюш Сяржук (сапр. Сокалаў Сяргей Анатольевіч; н. 1957), беларускі паэт, перакладчык, бард, журналіст. У 1991 г. выехаў у ЗША. Супрацоўнік Радыё «Свабода». Жыве ў Празе.

[5] Казлова Вольга Васільеўна (1925–2009), беларускі філолаг, педагог. Кандыдат філалагічных навук (1953). Заслужаны работнік вышэйшай школы БССР (1982).

[6] Казлоў Васіль Іванавіч (1903–1967), беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч. З 1941 г. 1-шы сакратар Мінскага падпольнага абкама партыі і камандзір партызанскага злучэння. Генерал-маёр (1943). З 1948 г. старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР. Герой Савецкага Саюза (1942).

Бялевушаў уставіў. Усе вокны паспрабаваны, каб адчыніць. На сцяне, што ў сад выходзіць, крэйдай (накрэслена) «простетутка, блять». Землячкі авалодваюць вялікай і магутнай цяжка. Расшурыкамі. На магільнік да Мамы. Усе нашыя крывіцкія клады на паганскіх капішчах. Паганства трывушчае й трывалае, яно дало грунтоўнасць хрысціянству й іншым канфэсіям. Заехаліся да Валі Быкавай. Самотная, шчырая, безабаронная. Як і Васіль, Бог ашчаджае яе. Запісалі яе пра вайну, пра Васіля. Яшчэ трэба будзе болей. Хоць душу пагрэў і нашым голасам, і нашай інтанацыяй, і нашаю мовай, крывіцкай, глыбіннай, прапаганскаю. Кшчоны паганец, так і жыву душою ў прадаўніне, сучасны тлум штогод болей і болей брыдзее. Куды ўцячы, дзе схавацца, каб хоць пабыць з самім сабою, сябе самога паслухаць, з душою сваёй параіцца? А душа мая жыве дома.

*Абмінаючы час…*

З прысмеркаў утуманелых,
З прыгорбленых хутароў
Ланцужком гадзінніка кішаньковага
Абмінаю час,
Шляхетна звініць мне
Суседскае прозвішча — Ланцунцэвіч…

*19 кастрычніка, нядзеля*

15 гадоў БНФ. Пазьняк і Быкаў. Скала, якую ўсё-ткі нячысцікі камунагэбісцкага разліву расшчапілі. Можа, я ўсё-ткі хачу верыць — у расшчэліне галаву згубяць. Расцісне іх. «Не стамляецца…: Са штандараў, выгукамі напятых…» [у дзённіку].

*20 кастрычніка, панядзелак*

Ёсць надзея пабачыць святы Рым. Усё ад Звышняга. […]. Дзякуй Госпаду за ўсё. Як ва ўспомненым тумане жыву. А з раніцы круцілася ў галаве: «Радовішчы радосці»[1].

*21 кастрычніка, аўторак*

Званіў Сяргей Навумчык з Прагі. У кампутары Васілёвым пераклад успамінаў, зроблены Васілём. Трэба ў кнізе даць у канцы. Каб спалоханы рэвалюцыянер Тарас не казаў, што ён палепшыў Васіля.

[1] Гл.: Радовішчы радосці (20.10.03) // Халодная памяць вады. С. 376.

*22 кастрычніка, серада*

Да пана Станіслава. Трохі падкажушыцца. Дабралюбаву[1] 70. Па тэлефоне Сяргею [Шапрану] надыктаваў: «Слых не аглух ад юбілейных труба ў» [у дзённіку]. Перакладаю Друцэ. Прыйшлі два словы: каханне да заікання. «Тлумачэнне: Што такое каханне?..» [у дзённіку].

*23 кастрычніка, чацвер*

Граф Пётра абрадваў: «Ты жывеш у пекле. Тут адпеклішся, затое там будзеш у раі». Схадзіў у СП, у «Дзеяслоў». Светлыя маладыя хлопцы. Цяжка ім, але робяць вялікую справу. На «Свабодзе» забраў ад Навумчыка каналкі аўтаперакладаў Васіля.

*24 кастрычніка, пятніца*

Званіў Аўрамчык. Дзякаваў за падтрымку. Бедны даверлівы чалавек. Яму нехта, не назваўшыся, патэлефанаваў і сказаў: «Не ведаеш, з кім звязаўся». Гэта ж ягоны бацька, калі прагналі з сельсаветаўскага крэсла, ездзіў з партфелем, каб у аўтобусе не браць білета, — начальнік. На пасту таксама ганяў з партфелем. Такія [...], як Ніл, у патрэбным святле паказваюць беларусаў. Але досыць пра яго. Аўрамчыка шкада. «Клад»[2].

*25 кастрычніка, субота*

І снег ідзець, і дождж ліець — па-вушацку чуюцца словы. Па пошце атрымаў ліст ад Вальдко Калініна[3]. Трэба ягоныя вершы прылюдзіць пабеларуску. Цікава. Цыган уклаў у пакецік шакаладныя батончыкі для Дамінічкі. Пазваніла Аксак. Свабодаўцам спадабаўся тэкст, як крывічы кахаюцца. Толькі як даць гэта ў эфір? Пад сённяшні дождж ці пад даждлівы снег прыйшлі радкі: «Подых»[4].

*26 кастрычніка, нядзеля*

Да кушняра. Адубеў, пакуль паўтары гадзіны чакаў аўтобуса. Прыехаў дамоў. Дзверы пад’езда не працуюць. Дома тэлефон выключаны [...]. Ледзь дуба не даў. Як гэта мяне Бог церпіць і не дае звар’яцець [...]? Дзякуй Айцу нябеснаму!

---

[1] Дабралюбаў Ігар Міхайлавіч (1933–2010), беларускі кінарэжысёр, сцэнарыст. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1974). Народны артыст БССР (1985). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1970).

[2] Гл.: Клад (24.10.03) // Руны Перуновы. С. 439.

[3] Калінін Вальдэмар Ільіч (н. 1946), цыганскі паэт, перакладчык. Лаўрэат Міжнароднай прэміі Хірасімы (Швецыя), Літаратурнай прэміі «Цыгаская прэмія» (Венгрыя). Ураджэнец Беларусі. З 1993 г. жыве ў Англіі.

[4] Гл.: Подых (25.10.03) // Руны Перуновы. С. 191.

27 кастрычніка, панядзелак

Пётра ледзьве падняў. У «Коўню». Дзякуй графу, што не знадакучыў яму! Прыйшло ў галаву, можна было спяваць: «Vivat Akademia! Vivat profi Soros!» «Пацвярджэнне»[1]. Пазваніла ўвечары Ірына Міхалішка Быкава. Ёй спадабаліся ў «Дзеяслове» вершы ў памяць Васіля. Лепшай ацэнкі мне не трэба. На «Здубавецьці»: «Каб заўсёды мог Сэр Жук Цімохаў...» [у дзённіку].

*28 кастрычніка, аўторак*

Скончыў, дзякуй Богу, пераклад «Каса марэ» [Друцэ]. Цяпер новы хамут на шыю. Яна ў мяне ні гадзіны не гуляе. «Паклон»[2].

*29 кастрычніка, серада*

Пазваніў Марачкін. У яго выстава ў салоне. Пайсці не змог. Праз Ілону перадаў вітанне. Хай зачытае, хай прыбіваецца на беларускасць: «У вячысты й вачысты дзень выставы Аляксея Марачкіна: Усё жыццё — суцэльная выстава» [у дзённіку].

*30 кастрычніка, чацвер*

Дзякуй Пётру! Толькі ён трымае мяне. А так развітальны настрой. [...]. Ратуе яшчэ крывіцкасць — і словамі, і прыгадамі, і галасамі крэўнікаў сваіх. Які скарб перадала мне Мама! І як я збэсціў, змарнаваў яго. Даруй, Мама! Адышоў Васіль — душа мая лядам зрабілася...

*31 кастрычніка, пятніца*

На Кальварыю. Адкрыццё надмагілля айцу Яну Матусэвічу[3]. Нашыя вуніяцкія святары з усяе Беларусі. Пачытаў: «Светлай памяці айца Яна Матусевіча: Хрыстова вера над зямлёй світае...» [у дзённіку]. З Марачкіным, Шатэрнікам[4] схадзілі й паставілі свечкі на магіле Яўгена Куліка[5] — шчырай душы. У яго сёння дзень народзінаў. Потым абед у «Папараць кветцы». Узгадвалі добрым словам айца Яна. Вечарам тэлефанаваў Спартак[6]. Нехта з акадэміі (/.../) сказаў, каб мяне на вечар Нарэкацы[7] не клі-

---

[1] Гл.: Пацвярджэнне (27.10.03) // Халодная памяць вады. С. 303.

[2] Гл.: Паклон (28.10.03) // Ксты. С. 270.

[3] Матусевіч Ян (1948–1998), беларускі рэлігійны дзеяч; праваслаўны святар, у 1979 г. перайшоў у каталіцтва. У 1990–1993 гг. пробашч касцёла 1-й Мінскай грэка-каталіцкай парафіі св. Язэпа.

[4] Шатэрнік Аляксандр Сяргеевіч (н. 1940), беларускі скульптар.

[5] Кулік Яўген Сяргеевіч (1937–2002), беларускі графік.

[6] Аруцюнаў Спартак (н. 1956), беларускі і армянскі скульптар, мастак.

[7] Нарэкацы Грыгар (каля 951–1003), армянскі паэт, філосаф, багаслоў, прапаведнік; святы Армянскай апостальскай і Каталіцкай цэркваў.

калі, бо я з БНФ. [...]. Я й сам бы не пайшоў. Слова напісаў і ўсё. А бедны Спартак перажывае.

Ад Кальварыі радкі прыйшлі: «Маўчаць...»[1]

*1 лістапада, субота*

Апошні месяц восені, дзень добры! Будзь добры, не лютуй і не шалей. Дай лістам апасці ціха, лагодна, пагодна. «Усміхаецца юр...» [у дзённіку]. Раптам задумаўся: «?»[2] Пазваніў пану графу (як яго ўчора назвала Марыя А.), граф таксама задумаўся. Яму ёсць над чым паразважаць з гэтакай практыкай.

*2 лістапада, нядзеля*

Дзяды. Душа мая й думкі мае — там, дзе продкі паснулі. Вырвалі мяне з родных мясцінаў абставіны. А душа мая там і днюе, і начуе. Тут я чужы сярод чужых. Былі свае Уладзімер [Караткевіч], Міхась [Стральцоў], Васіль, і яны пайшлі дамоў. Там сустрэнемся... З графам у «Коўню» да Генадзя. Памянулі Дзядоў.

«Але...»[3]

*3 лістапада, панядзелак*

У Заслаўе. Трохі засталося дарагога краявіду, задвор'я, як бы захлеўя — усё, што нагадвае мне Вушачу, якая стаіць цалюткая ў маім сэрцы, у маіх вушах, у маіх вачах. «Традыцыйнае»[4]. Усё-ткі гэта нешта нявыказнае, калі па-беларуску...

*4 лістапада, аўторак*

Вычытаў і аднёс друкаваць п'есу. Заязджаўся Лайкоў. У яго выйшла кніга пра Мядоцкі край, пра школу, пра ягоныя карані[5]. Больш бы такіх шчыруноў і мацакоў!

*5 лістапада, серада*

Перакладаю імама Чэчэніі. [...]. Яшчэ выручаюць вушацкія словы, якія ўсплываюць і ўсплываюць. І нават вясёлыя маладыя радкі: «У мяне ў штанах дрыжыць, Я хачу з табой дружыць!»

---

[1] Гл.: Маўчаць... (31.10.03) // Ксты. С. 305.

[2] Гл.: ? (1.11.03) // Халодая памяць вады. С. 328.

[3] Гл.: «Непрыручаных пнуцца карміць...» (2.11.03) // Тамсама. С. 346.

[4] Гл.: Традыцыйнае (3.11.03) // Тамсама. С. 327.

[5] Лайкоў У. Трэба дома бываць часцей. Мінск: «Беларускі кнігазбор», 2003.

*6 лістапада, чацвер*

Як у маладыя гады, шынкаваў капусту. Толькі ўжо з вядзьмістай гаспадыняй. І качарэжкі ўжо не ў смак. [...]. У «Коўню». «А калі...: Калі чалавек устае...» [у дзённіку].

*7 лістапада, пятніца*

Крывавы дзень календара. Перакладаў Ганада. Па тэле, відаць, выступала лицо могилёвской национальности. Цікава, колькі яшчэ засталося для ўспамінаў штурмавікоў Зімняга? Званіў Грышановіч[1]. Бедны, дайшоў. Шкада. Потым з'явіўся Стома — жучок славянафільскага смецця. Сапсаваў настрой. Прыкрываецца чыстым Шушкевічам.

*8 лістапада, субота*

Дамучыў Ганадавы чаргаві. Заездзілі мяне пераклады. Хоць нешта сваё йшло: «А там...»[2]

*9 лістапада, нядзеля*

Прачнуўся з радкамі. Адразу ж сеў запісаць. З Богам кладуся, з Богам ўстаю. Дзякуй Збаўцу за ўсё, за ўсё, за ўсё! Дзякуй, Мама, што навучыла верыць. «Слава!»[3] Днём на Дні яўрэйскай культуры. Абшчынны дом. Каб хто на ідыш. Усе па-расейску з бабруйскім акцэнтам. Сумна. Рэлес любімы мой адзін піша на ідыш. Помніць паслярэвалюцыю. Камісар крычыць: «Яўрэі! Вы цяпер паўнапраўныя грамадзяне Расіі». Бацька Рэлеса пайшоў на базар і кажа гэта сваім знаёмым беларусам. Адзін і пытае: «Дык як цябе цяпер зваць: господин жид ці пан жыд?» Дывізія едзе далей. У канцы абоза адзін пяе: «Я на бочке сижу, А в бочке каша. Вы не думайте, жиды, Что Россия ваша!» Рэлес пабег да бацькі і распавёў. Бацька: «Мала што адзін кажа». Камунашысты перахітрылі й жыдоў, на іх спачатку праехаўшы.

*10 лістапада, панядзелак*

Рэдка сняцца сны. Рэдка што звязнае. Сёння Аркадзь Куляшоў. Я казаў яму слова ўдзякі. Потым сказаў, што люблю Максіма Багдановіча[4]. Куляшоў: «І я таксама, у яго лейцы пападзе». Хваліў, што ягоная Валя піша добрыя творы. Потым узяў надмагільны слупок з раскрыжаваннем

---

[1] Грышановіч Валерый Мікалаевіч (1947–2007), беларускі паэт. Былы дырэктар выд-ва «Мастацкая літаратура» (1987–1993).

[2] Гл.: А там... (8.11.03) // Руны Перуновы. С. 424. Па 1-м радку «Жыву не тут...» // Халодная памяць вады. С. 116.

[3] Гл.: Слава! (9.11.03) // Ксты. С. 163.

[4] Багдановіч Максім Адамавіч (1891–1917), беларускі паэт, перакладчык, крытык, літаратуразнавец.

Хрыста, які ў куце стаяў, і панёс. А потым быў дзень, і Бог даў працу й хлеб надзённы. Зноў перакладаў Ганада й імама Чэчэніі.

*І козытна…*

Сплыла апошняя тканая хмарка.
І ў хітры міг
Чаканы схоў на дваіх
Светлым зрабіўся
Ад млечных шляхоў
Радзімак-інтымак тваіх.
Змрок у клубок забіўся —
І яму ашалела й нясмела
Пацямнела ўваччу…
Змрок неўзнарок маўчыць…
А інтымкі свецяцца, цвеляцца,
Паляцца.
І асалодна й козытна
Іх лічыць
Не толькі пальцам…

*11 лістапада, аўторак*

Нарэшце запісаў на «Свабодзе», як крывічы скаромяцца сэксам. Як вырвешся з хаты, дык адчуеш, што ты яшчэ некаму трэба, што ты яшчэ жывы. З лецішча прыехала Ілона. Яна задумала сэрыю жаночых вобразаў з Бібліі. Божа, паспрыяй ёй. Можа, у сябе прыйдзе… […].

*12 лістапада, серада*

У Яўрэйскім цэнтры вечар памяці Навума Кісліка[1]. Колькі знаёмых, як у маладыя гады вярнуўся. Цікава, дагэтуль яўрэі за грэйсэ Хяймланд СССР. І малады Юрачка Д. пазарабляў на «Свабодзе» ў Празе на ідэі беларускай незалежнасці, цяпер на новым трэба зарабляць. Яўрэі ўпарта лічаць сябе рускімі, хоць, прынамсі, лічаць гэтак савецкія яўрэі. Няма старых, якія трымалі сваю мову й нашу ведалі й шанавалі. Цяперашнія — гэта хутчэй прафэсыйныя яўрэі.

*13 лістапада, чацвер*

Схадзіў у ПЭН. Па інтэрнэту перадалі Іона Друцэ ў Віцебскі тэатр. Цяпер усё проста. Праўда, па-ранейшаму не шкодзяць і мазгі. Вечарам рыхтаваў адну рату Зелімхана. Юрась Бушлякоў едзе ў Прагу, завязе.

---

[1] Кіслік Навум Зіноўевіч (1925–1998), рускі паэт, перакладчык.

*14 лістапада, пятніца*

Даўно было гэтак блага. Ледзь Пётра выцягнуў. Наогул, роспач, беспэрспэктыўе, непатрэбнасць нікому, нават самому сабе, гэтакі хварун. Але дзякуй Богу за ўсё, за ўсё. Дазволіў Ён мне крыху паспытаць і паспрабаваць жыцця рознага, перш чым кінуць у хатнюю яму. Сазваніліся з Вольгай Караткевіч. Згадзілася, што пераклады Зелімхана будуць толькі мае. Воюш перакладаў з расійскіх перакладаў. Зелімхан сказаў, што будзе маліцца за мяне. Я шаную яго, захапляюся ягонай мужнасцю й таленавітасцю. Ратуе мяне толькі праца да атлумлення.

*15 лістапада, субота*

Паўдня падымаўся на ногі. Зноў жа дапамог Пётра. Прыехаў Шатэрнік, да яго ў майстэрню. Выдатны скульптар. Шалёныя рэчы з камня паганскіх багоў. І яшчэ — жывапіс. Сапраўдны беларускі імпрэсіянізм. Свята колераў, паветра, усяго жывога. Малайчына! Нешта вясёлае з раніцы лезла: «Лягчэй…»[1] І з гэтакім жа настроем: «Напомняць…»[2]

*16 лістапада, надзеля*

Галава некуды адлятае, прынамсі, спрабуе. Пайшоў па вуліцы хадзіць. Зайшоў на базар. Купіў таго-сяго. Дамоў. […]. Пётра, дзякуй яму, выцягнуў. Скончыў пераклад драматычнай паэмы Зелімхана «Аружа»[3]. […]. Грошы няма. І калі якую капейчыну зарабіць, дык як у такіх умовах, блізкіх да апрамецця? Добра сказаў мой плацінавы сябра Генадзь Бураўкін: «Нашыя злоснікі яшчэ застудзяцца на нашых хаўтурах». Толькі праца і рэдкія сябры ратуюць. «Жывосць»[4]. Божа моцны, Божа адзіны, Божа спаконвечны! Затрымай мяне на зямлі, дазволь трошкі падкачаць унучачку. Дзякуй, дзякуй, дзякуй!..

*17 лістапада, панядзелак*

У «Мастацкую» да Ганада. Потым пазваніў свайму плацінаваму сябру Генадзю Бураўкіну. Адчысціў мяне, што ў «Полымі» пайшлі Ганадавы чаргаві ў маім перакладзе. І правільна. Не трэба было мне даваць згоду ставіць пад перакладамі прозвішча, а даць псэўданім. А то […] Мятліцкі[5] смакаваў, што я ў яго друкуюся. Наогул, радуюся яснасці думкі, ма-

---

[1] Гл.: Лягчэй… (15.11.03) // Халодная памяць вады. С. 41.

[2] Гл.: Напомняць… (15.11.03) // Тамсама. С. 36.

[3] Гл.: Аружа // Яндарбі З. Сэрца майго сьвятыня. С. 119.

[4] Гл.: Жывосць (16.11.03) // Халодная памяць вады. С. 447.

[5] Мятліцкі Мікола (Мікалай Міхайлавіч; 1954–2021), беларускі паэт, перакладчык. У 2002–2014 гг. гал. рэдактар час. «Полымя». Заслужаны дзеяч культуры РБ (2019). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986), Дзяржаўнай прэміі РБ (1998), Спецыяльнай преміі Прэзідэнта РБ (2013).

штабнасці мыслення плацінавага сябра майго. А ў мяне роспач да спазмаў. Ніякой пэрспэктывы, галеча наперадзе. Дамінічка маленькая, Ілона бездапаможная. Божухна ясны! Дазволь яшчэ затрымацца на зямлі й не звар'яцець! Дзякуй Табе! «Недаравальна…»[1]

*18 лістапада, аўторак*

Ніяк не магу прыйсці ў сябе. Галава ўвесь час тое й робіць, што хоча адляцець. Учора Пётра даў добрую ідэю ўсю містыку й паганства сабраць пад страхой «Малітва каменю». Тытульны як бы верш напісаўся сёння:

*Малітва каменю*

*Крывіцкаму ведзьмару Пётру Кухарскаму*

Ці з іншасветаў прыляцеў ты,
Ці прыйшоў
З дасвеццяў незямных па валатоўках
І тут на міг у тысячы гадоў
Падумаць запыніўся,
Ці надоўга

Паклікалі спаконныя багі
Ў сваю сям'ю цябе, каменадуха.
Тут закругляе кнігаўка кругі
І аб цябе чало халодзіць скруха.

Ты не адзін — наўкол браты твае,
Заспанай аднастайнасці ратаі.
Чакання ўкамянелага стае
Чакаць,
Калі паклічуць да вяртання.

Абнашчыцца маланкаю ды зноў
Твой успамін гадамі галадае.
І колькі ценяў і апошніх сноў
Твой бачыць цень над ціхімі кладамі…

Пазваніў Халіп. Абвалілася палова страхі ў Васілёвай хаты ў Бычках. Званю Роўбу. Ён у Віцебску ў бальніцы. Варатынскай, яна кажа, што старшыня аблвыканкама даў загад рабіць музэй пакуль у гэтай хатцы. Дык вушацкія […] так выконваюць. Чамусьці ўсплыло: «Мы Амерыку дагонім Па надоях малака. А па мясу не дагонім — Х.. зламаўся у быка».

---

[1] Гл.: Недаравальна… (17.11.03) // Халодная памяць вады. С. 353.

*19 лістапада, серада*

У «Коўню». Адзначылі Дзень артылерыі. Усе разам і артылерысты, і гарматнае мяса — пяхота і ракетчыкі. І крывіцкі граф, і грузінскі князь [Тэнгіз], і проста крывічы. Было вясёла. А палове на дванаццатую пазваніў Зелімхан. Прачытаў верш, мне прысвечаны. Развіталіся з надзеяй сустрэцца ў Чэчэніі і ў Беларусі. У вольных краінах. Сказаў, што пакладаецца на мяне і ў загалоўку («Чэчэнія — сэрца майго святыня»), і ў падборы. І перакладчыкам буду адзін, каб не было савецкага калгасу. Дамовіліся толькі на «ты», як сябры. Дый гэта ў традыцыі нашых народаў. Выкаюць маскалі. Сказаў яму, што за яго пілі ў «Коўні». Прасіў перадаць прывітанне ўсім, асабліва Пётру. Хоць душу мне знадзеіў. «Маладая»[1].

*20 лістапада, чацвер*

На «Свабодзе» запісаў, як крывічы сэксам скаромяцца — без кропачак. Усё ў арыгінале. Кепская справа з галавой, як некалі казалі: галава — маё слабое мейсца. Не звар'яцець бы. Божа! Злітуйся. [«Ахвярынка»[2]].

*21 лістапада, пятніца*

Магнітныя буры [...] падгонюць хутчэй на Бутаўшчыну, да Мамы. Ратуе трава Пётрава. Усю знелюбела, усё з'абыякавела. Адзіная мроя — легчы ў спакой і ўстаць у спакой. [...]. Ілона [...] дапамагае. Яна хоча быць мастачкай, і ўсё. А як жыць, гэта яе не тычыцца. Мне няўзмогу цягнуць увесь калгас. Роспач, аж сэрца заходзіцца. Пытанне: лепей быць вясёлым жабраком ці гордым? Трапіліся вершы Буніна[3]. Меў час і спакой пісаць. А тут так і не давядзецца хоць паўдня пасядзець у спакоі за сталом. У трамваях ды на праходках нешта пішацца. [...]. Шкада Дамінічку. Яна не вінаватая. Госпадзе! Злітуйся над ёю. Дазволь мне хоць спакойна адысці. «Сніцца...: Кашулю вышывала Перуну...» [у дзённіку].

*22 лістапада, субота*

Аднёс Наташы ейны зборнік[4]. Добрая і мудрая паэзія. На жаль, цяпер паэзія не трэба амаль нікому. Гэта ўжо болей для сябе. А я ніяк не магу ў сябе прыйсці. Галаўны боль і роспач — неразлучная двойца. Шлюб гэты давядзе мяне.

---

[1] Гл.: Маладая (19.11.03) // Халодная памяць вады. С. 329.

[2] Гл.: Ахвярынкі: Цвік забівае ў сцену малаток // Тамсама. С. 454.

[3] Бунін Іван Аляксеевіч (1870–1953), рускі пісьменнік, перакладчык. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1933).

[4] Зборнік вершаў, падрыхтаваны для «Мастацкай літаратуры», там не прыдаўся і быў выдадзены пазней. Наталич М. Улитка Вселенной. Минск: «Беларускі кнігазбор», 2005.

*23 лістапада, нядзеля*

Каб не звар'яцець ад болю, цэлы дзень нешта парадкаваў на балконе. Званіў Алесь, Сяргей Шапран казаў пра кнігу пра Васіля. Цікавая задума. Толькі рэліктава-чыстая душа Сяргея й можа зрабіць яе. Учора пісаўся верш. Сёння паправіў. Даўно хацелася пачуць яго ад сябе самога. Госпадзе! Даруй, калі не так… «Божанька»[1].

*24 лістапада, панядзелак*

Божанька! Дзякуй за кожную хвілю тут, на зямлі! Дзякуй за ўсё — ад радасці да роспачы! Апошнім часам кожны дзень як рэпэтыцыя апошняга дня. Боль вяртае ў маленства. Да першадзён. Разумееш, што ты імгненны. Мацней цягнешся да Усявышняга з падзякамі й просьбамі. Толькі сподзевам, што Ён пачуе, і трымаешся на зямлі. Гэта самасуцеха, але й яна з дазволу Адзінага.

*25 лістапада, аўторак*

Асаблівая цішыня восеньская старых гарадоў нашых. Гэта й места, і мястэчка. Аўра вялікую сілу мае. Званіў Радзік. Славістыка нікому не трэба. Так. Прагрэс сам сябе з'ядае. Ён болей армію нагадвае. Стандартызацыя мазгоў, бетанаванне зямлі й мазгоў.

*26 лістапада, серада*

У «Коўню». Хоць душой адпачыў. З раніцы пазваніў Давід Сімановіч[2]. Прэміі імя Караткевіча Сяргею Рублеўскаму й пасмертна Анатолю Канапельку[3]. Додзік успомніў, як хвалілі маю маму й што казаў Уладзімер Вялікі. Дзякуй Додзіку за памяць, ён гэта яшчэ вершавана аформіў, абяцаў прыслаць вытрымку з газэты. Напісаў верш:

*Глыбінна*

*Сяргею Рублеўскаму*

У роднай старане з даўніны
На самай атавістай пашы
Гадуюцца словы і валуны,
І яны — нашы.

У матчынай старане яшчэ
З пачатку гэтага свету

---

[1] Гл.: Божанька (22–23.11.03) // Ксты. С. 237.

[2] Сімановіч Давід Рыгоравіч (1932–2014), рускі паэт, празаік, перакладчык, нарысіст, сцэнарыст.

[3] Канапелька Анатоль Мікалаевіч (1939–2002), беларускі педагог; паэт, перакладчык.

Глыбінна крынічная кроў цячэ
Радком Запавету.

Чужынцаў на пракавечнай зямлі
Мячмі прывячалі,
Каб звацца нашчадкі нашчадкаў маглі
Кры-ві-ча-мі!

А яшчэ па заданню Алеся й Зміцера крэмзалася нешта кшталту песні для ансамбля «Мілавіца». Хлопцы не ведаюць, што Мілавіца — зорка Венера. «Мілавіца: Зоркі — слёзы неба начнога…» [у дзённіку].

Званіў Яўген Андросік. Удакладнілі пераклад Папы Рымскага. Можа, выйдзе асобным выданнем. Дай Бог!

*27 лістапада, чацвер*

Вечар Наталлі Арсенневай. Хацеў быць, ды не змог. Па-першае, слухаць лагойскага […], а па-другое, самае галоўнае — зваліла мяне хвароба. «Спяшаецца…»[1]

*28 лістапада, пятніца*

Нарэшце выбраўся ў Міністэрства культуры заключыць дамову. Вацлаў Валадзько нармальны беларус. Цікава, што грошы няма й невядома, калі будуць. […].

«Кусман сну: 1974 год»[2]. Гэта даўні верш, крыху падправіў, у сэнсе дадаў[3].

*29 лістапада, субота*

Валя ўзняла перапалох, што Ілона не звоніць, а на лецішчы гарыць агонь і ніхто не адчыняе. Хапіла галаву, ледзь выжыў. Дзякуй Пётру й ягоным зёлкам! Прыехала Ілона. Худая. Загнаная. Душа сціскаецца. Крывінка мая балючая, адна яна мне родная. Ратаваўся, каб не звар'яцець, чытаў Біблію й нешта пісаў: «Вешчае»[4]. Раіўся з Васілём Сёмухам, каб не ўпасці ў ерась. Дзякуй яму!

Заўтра 15 гадоў Менскай арганізацыі яўрэйскае культуры, скарочана па-крывіцку будзе МАЯК. Запрасілі. Напісаў прывітанне: «З нагоды 15-годдзя: Гавораць менскія габрэі…» [у дзённіку].

[1] Гл.: «Дарослым стаць…» (27.11.03) // Халодная памяць вады. С. 290.
[2] Гл.: Кусман сну (14.03.94) // Евангелле ад Мамы. С. 421.
[3] Гл.: Кусман сну (28.11.03) // Халодная памяць вады. С. 438.
[4] Гл.: Вешчае (28–29.11.03) // Ксты. С. 183.

*30 лістапада, нядзеля*

Цікавы вечар у МАЯКу. Праўда, габрэяў савецкая ўлада, якую яны падтрымалі болей, чымся хто, канчаткова абязмовіла іх, зрусіфікавала. Думаецца, што бязмоўны народ усё-ткі за нешта пакараны. Дый мы, крывічы, арыйцы, паступова выракаемся крывіцкай мовы, русеем, маскалеем. Як падумаеш, апошнія валасы дыбарам становяцца. [...]. Боская кара мне, вядома, заслужана. Я дзякую Богу за ўсё. Відаць, ужо спакойна засну толькі вечным сном. [...]. Так і не давядзецца ў спакоі давесці да толку Вушацкі словазбор, нешта ўспомніць, нешта напісаць. А ўсё — пры'хваткамі, на хаду, у трамваі, на вуліцы. Як у маладыя гады. А сілы не тыя. «Пакуль...»[1]

*1 снежня, панядзелак*

Каб сняжынка. Сыра. Золка. Усё галутай стаіць. А мне галаўны боль знадакучыў. [...]. Ніколі не думаў, што прыйду да гэткага душэўнага стану. І яшчэ нешта пісаць хочацца, і, здаецца, нешта яшчэ магу. А няма дзе, няма як. [...]. Горай, чымся ў інтэрнаце. Напісаўся альбомны верш: «Першаснежаньскае: І ў снежні можа быць вясна...» [у дзённіку].

*2 снежня, аўторак*

Аж смешна ўжо з гэтым галаўным болем. Наважыўся несці карэктуру Папы Рымскага. Зваліла. Ледзь Пётра выцягнуў. Маліўся, маліўся й вершам: «Кленчу...»[2] Пад вечар крыху расхадзіўся. Прадавалі на вуліцы паліву. І нешта прыйшло ў галаву. Пра ганчара Беламу для медаля Барысу Кіту[3] круціў тэкст. Канчаткова атрымаўся: «Крывіцкая думка і ў космас сягнула». «З гліны»[4]. Неяк як пайшло, дык ужо амаль не чуючы галавы нешта ўсё пісаў. І ўсё цягне дамоў і душу, і слова. Купляю кубачкі на вуліцы, кажу: адкуль? З Украіны. А чаму вы ўсё па-расійску? Ён мне — адзін з іх: «Украіна — гэта Заходняя Украіна. А мы з Харкава, у нас усё па-руску». А мне Верасовачка: «Хатнік з Верасовачкі»[5].

*3 снежня, серада*

У «Коўню». Хоць душой адтаў. Пётра падняў мяне. Загнаў сябе. Роспач хоча, каб ўзяў з ёй законны шлюб. А мне яшчэ не хочацца. «Пад аркаю»[6].

---

[1] Гл.: «Не тухне ён...» (30.11.03) // Халодная памяць вады. С. 287.

[2] Гл.: Кленчу... (2.11.03) // Ксты. С. 164.

[3] Кіт Барыс Уладзіміравіч (1910–2018, ФРГ), амерыканскі вучоны; дзеяч беларускай эміграцыі ў ЗША. Доктар філасофскіх навук (1982). Акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі ў Парыжы (1991). Акадэмік і віцэ-прэзідэнт Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі. З 1944 г. жыў у Германіі, з 1948 г. у ЗША, з 1972 г. у ФРГ. Ураджэнец Беларусі.

[4] Гл.: З гліны (2.12.03) // Ксты. С. 199.

[5] Гл.: Разам са снамі (2.12.03) // Руны Перуновы. С. 392.

[6] Гл.: Пад аркаю (2.12.03) // Халодная памяць вады. С. 381.

*4 снежня, чацвер*

Пачытаў верш Пётру. А ён : «На філясофію пачынае цягнуць. А ведаеш, калі мужыкоў на філясофію цягне? — калі ў сям'і шчасця няма». Пад вечар у саюзе пасядзелі ў застоллі з нагоды кнігі Сяргея Рублеўскага. Цікавы, натуральны, тонкі. Толькі б не зацягнула яго. Чытаў свае запісы, шмат ад мамы. Недзе пераходзіць мяжу, як бы паказваючы сваю перавагу над маці неадукаванай. Маці неадукаваная фармальна, а генна яна звышадукаваная. Наогул, запісы, адразу падрыхтаваныя для друку, небяспечная рэч. […]. А Дамінічка ўчора выдала: калі б выбіраць ёй ці кампутар, ці мама, выбрала б кампутар.

*5 снежня, пятніца*

Паездзіны за горад. Хоць душа адпачывае. Усё крэўнае, спаконнае жыве ў душы да скону. Дома ўсе, як заўсёды. Аж нецікава. Яшчэ ўбілася думка аб безвыходнасці, аб марнасці ўсяго, што рабіў, на што паклаў жыццё. Але дзякуй шчыры Госпаду, што дазволіў гэты клопат. Ім жыццё сэнсам поўнілася.

*6 снежня, субота*

Пётра забараніў працаваць. Каб галава не адляцела. Яно блізка да гэтага было. Сяргей Шапран папрасіў для «БДГ» напісаць віншаванне. Зрабіў.

«Вяльможны Беларускі Люд!» [у дзённіку]. Сазваніўся з Роўбам. Прыглядзіць за Васілёвай хатай.

Знайшоў у запісах: «Палітыка»[1]. […].

*7 снежня, нядзеля*

Да Пётры. Укол. Потым дамоў. Званіла мне [Маліка Яндарбіева]. Званок. Спартсмены прыехалі. Мне нейкія перадачы з Катара. Гэтага радасна чакаў падспудна. Імам! Заўтра пайду. Трохі скрануўся з мейсца. Думаю пра ўспаміны пра Васіля.

«Падзеліцца…»[2]

*8 снежня, панядзелак*

Зелімхан перадаў з Катара спартсмэнамі фінікі, верш, мне прысвечаны, і цёплы ліст. Хай Бог трымае нязломнага патрыёта! Званіў Рублеўскі. У яго цікавая задума — летам у Вушачы зрабіць гутаркі каля цяпельца. Бог дасць дажыць, можа, пагутарым.

---

[1] Гл.: І справа, і страва (16.03.97) // Дзённікі і накіды. Вып. 8. С. 196.

[2] Гл.: Падзеліцца… (7.12.03) // Халодная памяць вады. С. 46.

*9 снежня, аўторак*

Сустрэча з Пётрам. Хахоча: «Адпачывай тут, там напрацуешся, падносячы пад кацёл са смалою дровы. Старайся бярозавыя». [...]. Помнік Генііош на тэрыторыі царквы хочуць знесці. Ён жа з дазволу [...] Філарэта, асвечаны. Калхозны варыянт 37-га года. Падпісаў «Калі рукаюцца душы...»: «Непахіснейшаму Зянону...» [Пазняку], «Вышэй на тысячы галоў...» [У. Арлову; у дзённіку].

*10 снежня, серада*

За горад. У электрычцы стала зябка ў ногі. У сумцы былі новыя самавязаныя шкарпэткі. Пераабуўся. Гэта ж малады б некалі ногі адмарозіў, а не дазволіў сабе такога. Узрост абыякавы да ўмоўнасцяў. Узрост натуральны. Шкада, што мала моцы ў натуральнага ўзросту. Як зміріцца з узростам, пагадзіцца, што йдзем з гары й дужа хутка? Як выбіць з сябе роспач, што цябе чакае жабрацтва й нямогласць, што ўсё, што рабіў, казе пад хвост? Адно сподзеў на знянацкую...

*11 снежня, чацвер*

Сустрэча з Пётрам. У «Мастацкую». З планаў усё выкрэслена арыгінальнае й перавыданне. Толькі рыхтуецца 3-ці том Івана ШаМякіна. Пытаюся, колькі тамоў запланавана, Брылішка[1] адказвае: «Колькі жыць будзе». Васілёў першы [том] без руху ўжо другі год. Скарачаецца ўсё, каб зрабіць адно выдавецтва. Рух да 37-га года. Затое ў калідоры афіша «Президентский оркестр». [...]. У школе настаўніца кажа: «Даміника тапырыстага Антона асекла: «Трэба дарасці да такога чалавека, дзве вышэйшыя адукацыі». [...]. Змрок.

*12 снежня, пятніца*

На «Свабоду». З Зелімханам справы складаныя. Амэрыканцы прызналі, як і расейцы, яго тэрарыстам. Вользе цяжка будзе выдаваць [неразб. 1]. Пётра й забараніў пісаць, каб галава спачыла. Вершы самі лезуць: «Без развагі», «Як і...», «Пані»[2], «Затрымацца...»[3], «Віной...»[4]. Перачытваю Васілёву «Доўгую дарогу дадому». Бог паслаў яго на зямлю, трымаў, дазваляў сказаць праўду. Дзякуй Усявышняму! Толькі час варожа ставіўся

---

[1] Семашкевіч Наталля Іванаўна (н. 1947), беларускі філолаг. У 1972–2007 гг. мал. рэдактар, рэдактар, ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Дачка Я. Брыля.

[2] Гл.: Без развагі; «Пад час мілосці...»; Пані (12.12.03) // Халодная памяць вады. С. 298; 327; 45.

[3] Гл.: Малюся... (12.12.03) // Ксты. С. 278. Пад назвай «Затрымацца...» // Халодная памяць вады. С. 351.

[4] Гл.: Віной... (12.12.03) // Ксты. С. 318.

да апостала нацыі. Сапраўды, як пісаў Харт Крэйн[1]: «За вернасць нянавісцю плоціць час».

*13 снежня, субота*

Сустрэча з Пётрам. Вывеў мяне з паўвар'яцкага стану. Да жаху вясёлае рашэнне [Лукашэнкі]. Размеркаваў у загадным парадку за бізнэсоўцамі калгасы. Павінны сплаціць мільённыя даўгі дзяржаве, падняць гаспадарку й вярнуць дзяржаве. А калгаснікі даўгі дзяржавы мусяць выплочваць самі. Іх можна выгнаць з хаты, зрабіць бамжамі за даўгі. Дзяржава купляе ў іх прадукцыю па цэнах, якія сама ўстанаўлівае. Маладзіца доіць карову, здае малако і ўжо вінавата так званай дзяржаве. Ледзь не сканаў, адчуў, што адбываю на Бутаўшчыну да мамы. Дзякуй Пётру, яго графскай мосці, яго вядьмарскай нябеснасці!

*14 снежня, нядзеля*

Ледзьве ўзвалокся. Туман ў галаве. Круціцца ў галаве радок Байрана[2]: «Душа ўцямнела» («My Soul is Dark» — пішу па памяці). А можа, уначэла. Некалі перакладаў. А яшчэ вушацкае. Бабка ляжыць на печы. Пускае пад сябе сікі й прыгаворвае: «Усё ў моры будзіць…» Званю які ўжо раз Пётру. Пётра: «Ты й не стары, і здаровы, толькі ў галаве бардак». Потым суцешыў: «Скажу, калі табе збірацца. Тады лёгка памрэш, адразу — ад страху». Успамінае нешта. Бацька Пётраў не любіў коз як д'яблава спараджэнне. Бо быў нашчадны вядзьмар. Я узгадаў наш хутар, з якога ссялілі камунякі-сабакі. Пётра: «Хай ім на тым свеце цёпла будзе!» А цёпла, вядома, дзе. Учора Пётра распавёў мне паданне, якое чуў ад бабкі: «Крывіцкае паданне»[3]. «Укленчыць…»[4]

*15 снежня, панядзелак*

Да Пётры. У «Коўню». Генадзь Дамініцы крыжык цудоўны адкаваў. Дзякуй яму! Хай Бог бачыць шчырага беларуса. Цікава, дакладней, жудасна. Бацька Гілевіча раскулачваў стрыечную сястру Янкі Купалы, ссяляў з хутара. […].

*16 снежня, аўторак*

Да Маі Ціханішкі[5] ў рукі. Рот папарожнеў. Болей ужо не мог. Што цікава. У зубадзёрным крэсле адчуў такі душэўны спакой, якога й не помню,

[1] Крэйн Харт (1899–1932), амерыканскі паэт.

[2] Байран Джордж Наэл Гордан (1788–1824), англійскі паэт.

[3] Гл.: Крывіцкае паданне (14.12.03) // Ксты. С. 155.

[4] Гл.: Аднойчы… (14.12.03) // Халодная памяць вады. С. 406. У дзённіку верш прысвечаны А. Шатэрніку.

[5] Грыбоўская Мая Ціханаўна (н. 1964), беларускі ўрач-стаматолаг.

калі адчуваў. Крывіцкая дабрыня, крывіцкая ласка. Мне неяк мамай дыхнула.

*17 снежня, серада*

Да Маі. Дзякуй ёй, хоць, можа, галава балець слабей будзе, бо зубы баляць. Званіў мой плацінавы сябра Генадзь. У «Звяздзе» Шамякін бэсціць Васіля, крыўдзіцца, што не ўзяў яго на нейкую замочку. Усё ўгору нагамі ставіць, спасылаючыся на мёртвых. Ужо адной нагой там, а не баіцца Суда Гасподняга. [...]. «Парсюк: Спярша мякіну еў у Глушы...» [у дзённіку]. [...]. «Красунчык: Пры ўсіх уладах...» [у дзённіку]. А наогул, не ведаю, як не звар'яцець. Як звар'яцець — ведаю. Але Дамінічка маленькая. Яна ж не вінаватая. Божанька, дзякуй за ўсё! Дзякуй! Дзякуй! Дзякуй! «Даць вырасці...»[1]

*18 снежня, чацвер*

Званіў Генадзь. Учора (Лукашэнка) сустракаўся з дазволенымі творчымі работнікамі. Яму, бач ты, няма книжонки почитать. Беларускай літаратуры няма. Пашкевіч напарфумавана змоўчыць. Нешта бляхла Раічка Баравікова[2]. Ні будынка саюзу, ні Дом творчасці не аддасць. «Чтобы занимались антигосударственной деятельностью». Гэта ўжо чыстая падводка пад новы 37-мы. Вядома, увесь удар па Бураўкіну. Пад апальныя трапілі й Ніл, і Вярцінскі. Раніцай заходзіўся з крымінальнага вышуку. Учора а восьмай вечара збілі ў пад'ездзе нашага дома Стражава[3] — новага рэктара БДУ. І для прыліку нешта забралі. Дзякуй [Лукашэнку]! Вярнуў усіх у рэальнае жыццё, без камуністычных міфаў. Званіў Шапран. Я перадаў Уладзімеру [Някляеву] віншаванне: «Няхай і ў сцюдзёнай Лапландыі...» [у дзённіку]. Надвор'е — хоць вешайся. Сыра, зябка, бясснежна. Як у галаве надаелага безгаловіка. Нешта накідваю пра Вялюгіна[4]. Апускаюцца рукі. Як не звар'яцець. Хмары гусцеюць. [... Чаргінец], кажуць, прапанаваў малдаўскі варыянт. Выклікаць усіх пісьменнікаў і сказаць, хто за [Лукашэнку], на адзін бок, хто супроць — на другі. А потым — тыя, хто за, застаньцеся, а хто супроць — вольныя. Жывіце як хочаце. Там

---

[1] Гл.: Даць вырасці... (17.12.03) // Ксты. С. 186.

[2] Баравікова Раіса Андрэеўна (н. 1947), беларуская паэтэса, перакладчыца. У 2002–2011 гг. гал. рэдактар час. «Маладосць». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1988), Дзяржаўнай прэміі РБ (1993).

[3] Стражаў Васіль Іванавіч (н. 1944), беларускі вучоны-фізік, у 2003–2008 гг. рэктар БДУ. Доктар фізіка-матэматычных навук (1986). Заслужаны работнік адукацыі РБ (2008). Замежны член Расійскай акадэміі адукацыі.

[4] Вялюгін Анатоль Сцяпанавіч (1923–1994), беларускі паэт, перакладчык, кінасцэнарыст. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1969). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1964), Дзяржаўнай прэміі БССР (1968).

яшчэ салірваў [...] Скобелеў[1], дважды православный Лучанок. Думаюць, яны вечныя. Няхай. «Ці Лаўчунок, ці [Чаргінец]...» [у дзённіку]. Але грэшна га.натворнікамі скончаць дзень. Прыйшло нешта: «Праснак»[2]. Звышняму ўдзячны я, Звышняму толькі веру з першых дзён сваіх да апошніх. Мама перадала мне веру. «Птушкі»[3]. Толькі думкі пра Звышняга, толькі вушацкія словы, вушацкія мясціны, толькі праца ратуюць мяне ад вар'яцтва.

*19 снежня, пятніца*

Радасная думка мяне крыху падняла: «Апошняя: Тут Гэта апошняя перамога — Спакойна глядзець на сябе старога»[4]. Перамогі гэтай дасяг. Нялёгка было. А так — змрок. Сапраўднае жыццё. Дзякуй Богу за ўсё-ўсё-ўсё! «Допыт»[5]. Дома па-ранейшаму, як у вар'ёўні. Усё-ткі наша роднае паганства не прымала і ў страшных подумках не ўяўляла сям'і. Рэдкая сям'я нармальная, а тым болей шчаслівая. Мне дастаўся масавы варыянт. «Вясёлая»[6].

*20 снежня, субота*

Усталася з нейкімі радкамі, якія й паднялі мяне: «Вяшчуе...: Світанне вачэй тваіх...» [у дзённіку]. Пачытаў Генадзю. Ягоная рэцэнзія: «Напоўальбомна, эратычна й склератычна. Адрасату, вядома, спадабалася». Да Алеся. Сустрэча са Зміцерам Вайцюшкевічам[7]. Як у маладыя гады вярнуўся. Асабліва што Зміцер з добрай бяседы. Зміцер хоча зрабіць альбом на мае вершы. Гэта Алесь нараіў. Для Зміцера напісалася:

*На выгодзе навагоддзе*

Дзе сустракаеш,
Там і сустрэнеш долю
З паўнюткай торбаю турбот,
Што просяцца на волю.

Як сустракаеш Новы год,
Так ён цябе сустрэне,

---

[1] Скобелеў Эдуард Марцінавіч (1935–2017), беларускі пісьменнік. Заслужаны дзеяч культуры РБ (1996). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1998).
[2] Гл.: Праснак (18.12.03) // Халодная памяць вады. С. 431.
[3] Гл.: Птушкі (18.12.03) // Ксты. С. 189.
[4] Гл.: Ахвярынкі: Тут... (19.12.03) // Тамсама. С. 454.
[5] Гл.: Допыт (19.12.03) // Халодная памяць вады. С. 305.
[6] Гл.: Вясёлая (19.12.03) // Тамсама. С. 346.
[7] Вайцюшкевіч Зміцер (н. 1971), беларускі спявак, музыкант, кампазітар, заснавальнік гурта «WZ-Orritstra». Гл.: Зьміцер Вайцюшкевіч // Дуліна ад Барадуліна. С. 112.

Каб не падрыў зайздросці крот
Тваіх надзей карэнне.

З чым сустракаеш Новы год,
З тым год наступны прыйдзе,
Каб перашкодзіў крыгаход
Карыдзе пры карыце.

З кім сустракаеш Новы год,
Падзеліш з тым дарогу
Памкненняў вольных і прыгод
І вечную трывогу.

Хто сустракае Новы год
На ўсю душу вясёлы,
Падкажуць, як рабіць прыплод,
Цвярозыя анёлы.

Хто сустракае Новы год
З цямночы да світання,
Гадоў сваіх шчаслівы ход
Лічыць не перастане!

Вечарам патэлефанаваў Анатоль Клышка. Прыехаў з Амэрыкі ад сына. Цікава распавядаў, аж сумна стала. Скрозь душаць людзей, закрачваюць душу грошы, людзі звярэюць, старанна данішчаючы сябе. Як у нас казалі: там добра, дзе нас няма... Лепей не думаць, што чакае нават у наступны дзень. Дзякуй Богу за ўсё-ўсё-ўсё! Усявышні паслаў маму, а мама мне ўсё перадала, каб я адчуў жыццё. Выпрабаванне сям'ёй — падрыхтоўка да пакутаў там, па дарозе на Суд, які называюць Страшны, а ён, лічу, справядлівы. Што заслужыў, атрымаю.

*21 снежня, нядзеля*

Сустрэча з Пётрам. Перадаў траву. Збаўца мой, выратоўца мой, апора душы маёй. Хай Бог бачыць яго! Пётра даў ідэю. Напісаў: «Дзве»[1].

*22 снежня, панядзелак*

У ПЭНе з сакратаром Іранскага пасольства Карамі[2]. Хочуць перавыдаць Хаяма[3]. Цікава нехта з саветызаваных ахламонаў тлумачыў: Бела-

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: Мужык нездарма разумны... (21.12.03) // Anima. С. 122.

[2] Карамі М., другі сакратар пасольства Ісламскай Рэспублікі Іран.

[3] Амар Хаям Гіясаддзін (каля 1048 — пасля 1122), персідскі і таджыкскі паэт, матэматык, філосаф. Гл.: Хаям А. Рубаі. Мінск, 1989. Пер. Р. Барадуліна.

русь — таму што белы снег і скура белая. А што — нідзе болей снегу няма і скура, асабліва ў дзяўчат, не белая? Белая — значыць, чыстая, крывіцкакроўная. Чыстая ад рознае погані. Можа, і будзе Хаям перавыдадзены. Дай Бог! Пра неабязковага й мітуслівага Шатэрніка:

*Супернік*

Намерамі Алесь Шатэрнік —
Радэну[1] мудраму супернік.
Але адных намераў мала,
Каб Вечнасць за свайго прымала…

*23 снежня, аўторак*

Роспач душы. І нейкі сподзеў. Трымаюць толькі клопаты фізычна, а думкі пра маму й Васіля — душэўна. Адчуваю, што яшчэ б нешта напісаў. Ні хвіліны спакою. І ў вечны спакой не хочацца спяшацца. Усё, як Бог дасць.

*24 снежня, серада*

Да Маі. Як места пасля бамбавання, аднаўляю рот. Узгадваецца жыдоўскі праклён: каб у цябе ўсе зубы павываліліся, а застаўся адзін. Але каб ён ні на хвіліну не даваў табе забыцца, што такое зубны боль. […].

У «Коўню». Сустракалі святыя Каляды. «Ой, святыя Каляды, А ўсе ж мы вам рады!» — дагэтуль чую голас Мамы. Пётра напомніў. Сын стругае фуганкам, стараецца. А маці падахвочвае: «Стругай, стругай, сынок, бацька прыйдзе — сякерай паправіць». Гэта пра тонкіх майстроў. А ўзгадаўся раманс, які я па-свойму студэнтам спяваў: «Любая, ты пачуй мяне, Пад вакном стаю я са шклатараю = Милая, ты услышь меня, Под окном стою я с гитараю». Дамінічка павіншавала з Калядамі: «Любімы Дзедзя! Віншую цябе з Калядамі! Жадаю поспехаў у працы, жыцці, каханні! Люблю заўсёды! Твая *Дамініка*. 24 12.03, Мінск». Пётра ўсміхаецца: «Энэргічнае пажаданне».

*25 снежня, чацвер*

«Ай, святыя Каляды! А ўсе мы вам рады!» — гучыць мне мамін голас. Пяро піша халоднае, словы гучаць. Гэта абразліва да голасу Маміната. Бо ён жыве ўва мне, пакуль жыву. А там, можа, не змяніўся ён. Валя падрыхтавала шчыры калядны стол. Дзякуй ёй, калі яна зноў робіцца спакойнай і клапатлівай. Хай (бы) утрымалася. Бо засталося мне не так багата, а зрабіць яшчэ хочацца багата. Усё ў Божай волі.

---

[1] Радэн Агюст (1840–1917), французскі скульптар.

Паездка ў ціхі старажытны горад. Павеяла Вушачай. І чысцюткая беларуская мова. Неяк акрыяла мяне. Ні гуку каланізатарска-захопніцкага. «Анікому»[1]. Павіншаваў з Калядамі Ірыну Міхалішку. Белы проста рабуе экспанаты, загіпнатызаваўшы яе. Ёй здаецца, што ніхто нічога не робіць, адзін Белы толькі шчыруе. Экспанаты ж трэба для будучых паважных музэяў. Праўда, кажа Генадзь, пры Белым трэба камісар, каб кіраваў ягонай энэргіяй. Чамусьці згадалася, як званіў Клышка. Брыль[2] яму сказаў, што не можа чытаць Максіма Багдановіча ў арыгінале, а лепей у польскіх ці ўкраінскіх перакладах. Бо ў Багдановіча не чыстая мова. […].

*26 снежня, пятніца*

Пазваніў Роўда. Віцебск выдзеліў 37 млн калхозных рублёў на музэй Васіля Вялікага. Раённыя мудрацы ўжо хацелі побач са старой хатай новую. Мы з Генадзем папрасілі Роўбу аднавіць сядзібу. Валя — сястрыца Васілёва пакажа й раскажа, што як і да чаго. Роўба — апошні натуральны вушацкі, крывіч. Сказаў: пакуль жывы — будзе рабіць усё. Патэлефанаваў Ірыне Міхалішцы. «А ці трэба ў Бычках? П'яныя мужыкі расцягнуць ці падпаляць. Вось Белы, дык гэны ўсё робіць». Гаварыць пра Белага з ёй бескарысна.

[…]. Як утрымацца, каб не звар'яцець? Хочацца ж яшчэ нешта зрабіць. Праўда, Пётра кажа, што мне на тым свеце будзе лягчэй. Не шкодзіла б, каб і на гэтым палёгка была. Як Бог дасць, так і будзе. Дзякуй Усявышняму! Радуе толькі Рысік. «Расце»[3]. Пачытаў Пётру. Смяецца: «Дзяцінееш». «Стары…»[4], «Які?: Сапраўды…» [у дзённіку].

*27 снежня, субота*

Цэлы дзень дома. Галава, як каменаломня. Ледзь Пётра выцягнуў. Нахабным ценем, які бярэ мяне за горла, ходзіць адчай. Як пазбыцца ад яго? Дзякуй ім, прыходзілі Мая й Алесь. Мая — крывіцкая ласка й дабрыня. Шчырая й шчырадайная да рэліктавасці. Алесь — маладая ўважлівасць і шчыры клопат. Крывіч. Ён і падключыў Дамініцы інтэрнэт. Для мяне гэта з жыцця казак.

---

[1] Гл.: Анікому (25.12.03) // Руны Перуновы. С. 393.

[2] Брыль Янка (Іван Антонавіч; 1917–2006), беларускі празаік, крытык, перакладчык. Народны пісьменнік БССР (1981). Ганаровы акадэмік НАНБ (1994). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1952), Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1963), Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа (1982).

[3] Гл.: Расце (26.12.03) // Ксты. С. 327.

[4] Гл.: Ахвярынкі: Стары… (26.12.03) // Тамсама. С. 453.

*28 снежня, нядзеля*

Пайшоў купіць елачку. З Валожыншчыны. Не магу прыйсці ў сябе. Безвыходнасць, непатрэбнасць цябе ні таго, што робіш, нікому, неяк бянтэжыць. Хоць разумею, што ўсё натуральна. З чаго пачынаеш, да таго вяртаешся. Толькі з возам клопатаў, абавязкаў і сямейнікаў. Хочацца пабыць сам-насам з сабой. Не ўдаецца. Поўна хата шуму, гвалту. Не звар'яцець бы.

*29 снежня, панядзелак*

Прыехаў Косця. Бомж. На такога бацьку як Дамінічку пакідаць? Пераглядаў паперы. Узгадалася, як магільшчык беларускай мовы Крапіва[1] раіў Караткевічу: «Вам трэба біць камяні, а не займацца літаратурай». Добра сказаў Пётра: «Біць камяні на ягоным помніку». Акадэмік, выслужнік 37-га года, змрочная асоба, крапіва — занадта мякка для яго. Нанач і ўзгадваць не варта, яшчэ прысніцца.

*30 снежня, аўторак*

З Пётрам па клопаце прапіскі. У «Коўню». Сустрэча Новага. Званіў Кірпіч[2] з Вушачы. З музеем у Бычках справа пачынае рухацца. У хаце захавалася печ. Вокны. Аканіцы. Трэба ўсё гэта ў лад пусціць.

«Не ўсім...»[3]

*31 снежня, серада*

Апошні дзень старога года. Да Маі з зубамі. Распавяла: мяншук сынок прынёс па расійскай мове 4, а па ангельскай 8. Пытае: чаму так? Сынок адказвае: «Гэта ж нягодная мова». — «Выходзіць, што ангельская радней?» — пытаецца мама. Шмат званкоў адусюль. Значыць, не памёр зусім. Цікава пажадаў Алесь Камоцкі: каб новы год быў навейшым і падабаўся. Прыйшлі мае. Баліць сэрца й нейкі сорам бярэ за Ілону. Як вытрымаць, як выжыць?

Пісаў верш: «Калі маэстра пан...» [прысвечаны У. Вішнеўскаму; у дзённіку].

---

[1] Крапіва Кандрат (сапр. Атраховіч Кандрат Кандратавіч; 1896–1991), беларускі паэт, драматург, лексікограф. Народны пісьменнік БССР (1956). Акадэмік АН БССР (1950). Доктар філалагічных навук (1953). Герой Сацыялістычнай Працы (1975). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941, 1951, 1971).

[2] Кірпіч Мікалай Мікалаевіч (н. 1950), дырэктар Ушацкага дзяржаўнага музея народнай славы імя У. Лабанка (1975–2010).

[3] Гл.: Не ўсім... (29–30.12.03) // Руны Перуновы. С. 305.

## 2004

*1 студзеня, чацвер*

Дзень добры, Новы год! Не будзь сярдзіты, паспагадай. Дазволь мне нешта яшчэ зрабіць, нешта давесці да толку, як мама казала. Чым далей, тым мацней мая туга па Маме. Адчуванне сваёй самотнасці й напамін пра зборы ў апошнюю дарогу. Пазваніў Зелімхан. Віншаваў. Казаў, што ў нармальнай чэчэнскай прэсе мой верш, яму прысвечаны, і ягоны мне. Кажу яму як брату, што пераклаў яго й Папу Рымскага. Алексія[1] ніколі б не перакладаў […]. Смяецца. Дадаю, што Васіль Вялікі казаў: сапраўдных вернікаў вынішчалі […]. Перадаю яму паклоны ад усіх нармальных беларусаў, ад крывіцкага ведзьмара Пётры павагу й захапленне, перадае ўзаемна. Добра новы год пачаўся такім званком. «Свята святаў»[2]. Званіў Куксо[3]. У Маскве. Колькі мы талентаў разбазарылі, а ўзамен набрыдзь наплыла. Сёння дзень народзінаў Сітніцы: «Допыт і вопыт: Не могучы насыціцца…» [у дзённіку].

*2 студзеня, пятніца*

Праблема з зубамі. Наогул, нейкі вялы стан. Затое на двары гожы снег. Як з маленства прыляцеў. Засняганыя вейкі дрэваў. Белыя веі завеі. Чысціня. Вечарам перабіраў паперы. Гэтае праца хопіць на гады, калі іх Бог дасць.

*3 студзеня, субота*

Сустрэча з Пётрам. У «Коўню». Тут толькі душа адпачывае. Дома, як магіла ці як вар'ёўня. Іншы стан бывае рэдка. Ратаваўся вушацкімі словамі, перапісваў. Яшчэ ад мамы.

*4 студзеня, нядзеля*

Нарэшце сонейка! Снежна, сонечна на двары, і на душу нешта перабягае. З раніцы ў галаве круцілася: «Сонцакропка»[4]. Учора Генадзь

---

[1] Алексій II (сапр. Рыдыгер Аляксей Міхайлавіч; 1029–2008), Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі (1990–2008). Доктар багасловія (1984). Акадэмік Расійскай акадэміі адукацыі (1993). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РФ (2005).

[2] Гл.: Свята святаў (1.01.04) // Ксты. С. 321.

[3] Куксо Канстанцін Мікітавіч (н. 1954), беларускі мастак-карыкатурыст, кніжны графік. Жыве ў Маскве.

[4] Гл.: Сонцакропка (4.01.03) // Руны Перуновы. С. 447.

казаў, што на «Свабодзе» Галубовіч[1] дагаварыўся, быццам [… А.] зацемкі — вяршыня. З’ява года, ледзь не века. […]. Аксак [назвала] з’явай года першы том самвыдаду лагойскага […]. Абы не заўважыць Васіля. І мёртвага ненавідзяць з чорнай зайздрасцю. Але позна. […]. Пётра неяк заўважыў: філосафам робіцца той, каму не шанцуе ў каханні. […].

*5 студзеня, панядзелак*

Крыху за горадам пабыў. Магільнікі пад снегам, нібыта ў нябёсы ўзляцелі, а ім белааблочча на плечы апала адпачыць. Прыехаў дамоў, Ілона дала газэту з зацемкамі Томаса Венцлавы[2] пра Беларусь. Жыве ў Штатах, тужыцца быць эўрапейцам, антысаветчыкам. А на справе — савецкі, правінцыйны. Усё ў нас літоўскае. Скарына жыхар Вільні, Ластоўскі[3] — муж літоўскае пісьменніцы[4]. Да агіды смешна. Пазваніў Генадзю, хоць настрой падняў. Палю Пётраву свечку. «У каго?..»[5]

*6 студзеня, аўторак*

Да Алеся. Да Маі. Галава абручамі сціснута. Дзякуй, Пётра! Толькі ты й ратуеш мяне. Цэлы дзень у галаве круцілася: «Нашча»[6]. «Тае розніцы…: У рай ні на таксі, ні трамваем не ўехаць…» [у дзённіку].

*7 студзеня, серада*

З Генадзем да Васіля. На кватэру. Перабіралі паперы, дапамагалі Ірыне Міхалішцы. Усё Васілёва, здаецца, чуеш ягонае дыханне. А якая працавітасць, грунтоўнасць, дасведчанасць. На сотню дактароў філалёгіі, філясофіі, палітыкі хопіць і яшчэ застанецца. Па дарозе Генадзь распавёў пра лагойскага […] Нілка. Прыехаў на колькі дзён з Нямеччыны Васіль. Самазакаханы рыфмагон й пытаецца ў Генадзя, чаму Васіль не пазваніў яму. Генадзь адказвае, што меў мала часу й багата клопату па дому й трэба было ехаць да сына ў Гародню. Тады […]: «Што сын, хіба ён не ведае, хто такі Ніл Гілевіч?» Клініка. […]. Прыйшоў дамоў. Званок

---

[1] Галубовіч Леанід Міхайлавіч (н. 1950), беларускі паэт, крытык. У 2002–2010 гг. супрацоўнік газ. «Літаратура і мастацтва».

[2] Венцлава Томас (н. 1937), літоўскі паэт, перакладчык, літаратуразнавец, эсэіст; праваабаронца. У 1977 г. быў пазбаўлены савецкага грамадзянства. Прафесар Йельскага універсітэта (ЗША).

[3] Ластоўскі Вацлаў Юсцінавіч (1883–1938), беларускі крытык, літаратуразнавец, паэт, празаік, публіцыст. Акадэмік АН БССР (1928). Рэпрэсаваны.

[4] Ластоўская Марыя (Іванаўскайтэ-Ластаўскене; 1867–1957), літоўская пісьменніца; разам з сястрой Сафіяй Іванаўскайтэ-Пшыбіляўскене (1867–1926) публікаваліся пад псеўданімам Ладзіну Пеледа.

[5] Гл.: У каго (5.01.04) // Ксты. С. 359.

[6] Гл.: Нашча (6.01.04) // Руны Перуновы. С. 96.

з Прагі — Вольга Караткевіч пытаецца: «Дзядзька Рыгор, як рыхтуешся да юбілею?» Кажу, што трэба дажыць. Смяецца: «Калі сам не думаеш, мы падумаем». Днямі перадасць мне вершы Зелімхана. А ў хаце Васіля званіў Кіт, віншаваў Ірыну са святамі. І я некалькі словаў сказаў Кіту. Малады голуб, ясная памяць. Элітны крывіч.

*8 студзеня, чацвер*

З Алесем да вушніка. [...]. Пазваніў Сёмуха. Ягоная Лесенька так і зрабіла, як я жадаў, — нарадзіла, як перднула. У Васіля ўнучак.

*9 студзеня, пятніца*

Клясычная крывіцкая зіма! Беладымна, снегавіта. Перабіраю паперы. Трэба пра Васіля напісаць. Цяжка. Бо дужа ён урос у маю душу. Не ведаеш, з чаго пачынаць. Як у душы носіш, цёпла й родна. Начнеш пісаць — сцюдзёна атрымліваецца. «Узысці...»[1] Пісаў па просьбе віншаванкі. І такое: «Юбілей: Што такое юбілей...» [у дзённіку].

*10 студзеня, субота*

З Алесем Шатэрнікам заязджаліся ў галерэю Шаранговіча[2]. Выстава 12-ці. Перапяваюць адзін аднаго й самі сябе. Пад мадэрн ці пад эўрастандарт. Бяздушна, бяздумна, а галоўнае — без нацыянальнага ўспрымання. Шэра-шараговае мастацтва. Потым да Ірыны Пісьменнай[3]. Яна здымае фільм пра Васіля. Студыю «Тацяна» выгналі з будынка кіно. Цяпер яна на кватэры, як падпольная. Калхозны сацыялізм у дзеянні. З Сяргеем Шапранам абмеркавалі паездзіны ў Вушачу, у Бычкі. Дасць Бог, усё атрымаецца. Чытаў рукапіс Глеба Лабадзенкі. Шалёна цікава. Свежа. Нова. І напісаныя кампутарна вершы. Трэба не чытаць, як звычайна, а слухаць вачыма. Гэта прарыў у новае ўспрыняцце паэзіі. Гэта для новай змены. Безумоўна, на кампутары Біблія не пісалася. Рука й перо ўсё-ткі трапятлівей і трымтлівей перадаюць і думку, і душу. Але няма нічога канчаткова застыглага. Веру, што з Глеба вырасце штосьці сапраўды новае ў сваёй непаўторнасці.

*11 студзеня, нядзеля*

Роспач цісне й цісне. Стараюся не паддавацца. Дзякуй Пётру, дапамагае. Каб не ён, відаць, быў бы ці на Бутаўшчыне, ці ў вар'ёўні. А тут яшчэ

[1] Гл.: «Падкова зрываецца з вухналя...» (9.01.04) // Халодная памяць вады. С. 305.

[2] Шаранговіч Васіль Пятровіч (1939–2021), беларускі мастак, графік, педагог. У 1997–2009 гг. дырэктар Музея сучаснага выяўленчага мастацтва. Прафесар (1981). Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1978). Заслужаны дзеяч культуры Польшчы (1986). Народны мастак Беларусі (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986).

[3] Пісьменная Ірына Леапольдаўна, беларускі кінарэжысёр.

Генадзь распавёў, што ходзіць стэнаграма сустрэчы (Лукашэнкі) з творцамі. І мёртвы Быкаў не дае яму спакою. «Что вы хотите, чтобы издавались Быковы, Буравкин, Вяртинский и этот поэт, как его, Бородавкин?» Падсрачнікі ўдакладняюць: Барадулін. «Да какая разница». Сапраўды, [...]. А ўсё роўна пішу вершы. Хай для сябе. Яшчэ ратуюць вушацкія словы, папеўкі, хохмы. Імі жыву. Пётра мне радок сказаў: «Пакуль стаіць, датуль імкнуся...» Душу весяліць Рысік. Рыжы. Вушацкі.

«На ўзвіў...»[1] пачытаў Генадзю. Кажу: альбомны. Смяецца: сексуальны. [...]. «Толькі...»[2]

*12 студзеня, панядзелак*

З Алесем да зубнога на аўта. Снег, як з маленства. Нібы стараецца забяліць усю чарнату. Выпісваю пра Васіля занатоўкі. Балюча. Сумна. Як у нас казалі: прыйшлі канцы к гародам.

*13 студзеня, аўторак*

Адкачаўся з галавой. Пётра выцягнуў. Да Кастуся Цвіркі[3]. Патрэбную, вялікую справу робіць. Па-беларуску. Без крыку. Спакойна. Дома ўтульна. Спакойна, грунтоўна. Сын сыну свайму ў падарунак купіў Samsung — у ліфт не лезе. А Дамінічка пайшла варажыць да сяброўкі. У пальчатку паклаў калхозную тысячу. Дзякуй Богу за ўсё! З чаго пачынаеш, да таго й вяртаешся. А ўсё-ткі ў ціхім дабрабыце я ашалеў бы. Відаць, у кіпені купалі. Пасля мамы Васіль быў апорай душы маёй. Цяпер адзін застаўся.

*14 студзеня, серада*

У старажытны горад. Усё у снезе. Светла. Дамінічка варажыла з сяброўкай да 2-х ночы. І так пасля спалі, што не змаглі ўспомніць, што ім праснілася. А наогул, усё жыццё — вяртанне ў маленства. Старасць — гэта стомленае, здарожанае маленства.

*15 студзеня, чацвер*

Ірына Міхалішка званіла, што не хоча даваць Шапрану лісты Васілёвы й да Васіля. Яно так, яшчэ не прайшло часу. Шмат жывых, пра якіх блага гаварылася. Не трэба турбаваць Васіля. На выставу Шатэрніка не пайшоў, клопат з клінікай. Дый так цяжка мне й марна ўсё гэта.

---

[1] Гл.: На ўзвіў... (11.01.04) // Руны Перуновы. С. 306.

[2] Гл.: «У Вечнасць хочацца ўвайсці...» (11.01.04) // Халодная памяць вады. С. 299.

[3] Цвірка Кастусь (Канстанцін Аляксеевіч; н. 1934), беларускі паэт, перакладчык, даследчык, выдавец. Кандыдат гістарычных навук (1972). З 1996 г. гал. рэдактар выд-ва МГА «Беларускі кнігазбор» (з 2006 г. ПУП «Кнігазбор»).

*16 студзеня, пятніца*

Адзін. Нідзе блізкай душы. Нікому не патрэбны. Усё, што зрабіў, нікому не патрэбна. Сканаць бы пры сваім розуме. Колькі мяне трымаць будзе Пётра? Сорамна перад ім. Няма душэўнай апоры. Безвыйсцёвасць і роспач. Роспач і безвыйсцёвасць. Яны кепскія памочніцы.

*17 студзеня, субота*

Перачытваю Васіля. Як гавару з ім. Цісне ўсё — і надвор'е, і акаляева. Пазваніў Роўбу, каб лісты Васіля з фронту забраў да сябе. Прыедзем сканаваць. Можна зрабіць нізку: «Фаласафемы. Ахерызмы». [...]. «Ідэі не ўстрах завеі: Запрасіла камуніста...», «Дзе два, там трэці: Маладое нецярпенне...» [у дзённіку]. Жарты жартамі, а ўва мне сядзіць нейкі боль да жаху. Сарваў галаву.

*18 студзеня, нядзеля*

Яшчэ раз перачытаў рукапіс кнігі Глеба Лабадзенкі. Па-крывіцкі ўтрапёна, па-пагански шалёна, па-шляхетнаму вытанчана. Сапраўды, новая беларуская паэзія. Гэта не опусы — гексаметровыя плачы плакальшчыкаў па роднай мове. Тут і пагер-вершы, якія трэба слухаць вачыма. Глеб абеларушвае пэйджэр. Піша без аглядкі на спадкі (спадчыну). «І каровы бываюць з крыламі, І анёлы бываюць без крыл». Гэта ў «Кахалістах» (лістах каханай). А «Здымкі жыцця». [...]. Тут і маладое вока, і распрыгоненая, так бы мовіць, жарабцаватая жарсць, як і ў вершах. Маладая сталасць, якая асаблівая. І таму ўражвае. Гэта вольны талент кажа: «...верыць у гэтым свеце можна толькі сабе», бо разумее, «што жыць — гэта не толькі дыхаць». Малады майстар задумваецца над вечным пытаннем паэта ў гэтым жыцці ў маленькай сцэнцы «Смерць паэта». Глеб Лабадзенка ўваходзіць у літаратуру, я сказаў бы, шляхам Максіма Багдановіча. Мне заўсёды хацелася чытаць ягонае прозвішча як Laba dzena — па-латышску добры дзень. І тут міжволі ўзгадалася, як сябры латышы казалі мне пра дасаветызаваную Латвію. Латвія брала курс на мяса-малочны напрамак. І паўсюль віселі лёзунгі: «У цялятах нашая будучыня». А пад словамі подпіс: «Геніяльны правадыр доктар Карлс Ульманіс[1]». Падумалася, у нас яшчэ ўсё наперадзе.

*19 студзеня, панядзелак*

Шалёны дзень. Галава ў абручах. Выйшаў заплаціць за кватэру. Цэны растуць. У чэргах кажуць, што на бібліятэку ймя. Сустракае малады хлопец з шалёнавострымі вачыма. Пытае, колькі мне гадкоў? Кажу,

---

[1] Ульманіс (Улманіс) Карл (1877–1942), латвійскі дзяржаўны дзеяч. У 1936–1940 гг. прэм'ер-міністр і прэзідэнт Латвіі.

з 1935 года. Ён зноў: колькі? Кажу: будзе 64. «Ну, што ж, яшчэ дужы. Ці ваяваў?» — зноў пытаецца. Кажу: я з 35-га года. «А ўсё-ткі, ці ваяваў?» Кажу: спрабаваў з камуністамі. «Правільна. Забіваць іх трэба. Жыдоў і камуністаў». Вымаўленне чыста расейскае. А ў сувязі з цэнамі ўзгадаліся радкі, якія пісаліся пры развітым сацыялізме. Праўда, мне было цікава чуць развіты (цэлая дыскусія была, як гучыць — развітой ці развіты), бо па-вушацку калі казаць рука развілася, значыць, яна не можа нічога рабіць. Дык у развіты сацыялізм пісаліся: «У заўтра наш поступ каменны, І грошай мы не рабы. Калі падвышаюцца цэны, Падвышаецца наш дабрабыт». Аднадзённыя радкі выявіліся сугучна й пры калхозным сацыялізме. [...]. «Хто каго?»[1]

*20 студзеня, аўторак*

У «Коўню». Тут могуць і Пегаса падкаваць на ўсім скаку. Ад пярсцёнка й крыжыка да рыцарскіх строяў — усё могуць майстры. Мэталёвы характар паслухмяны майстрам. Даўно чуў, што ў Леніна насупраць Дома ўрада на жаночы бок зашпілены гарнітур. Сёння рашыў паехаць. Вядома, станцыя мэтро «Плошча Леніна», а наверсе яшчэ «Плошча Незалежнасці». Леніна ў падзямелле, у падполле загналі. Даехаў да плошчы. Пераход быў накрэслены фарбай: «Дом урада, плошча Незалежнасці». Зараз на трывалай шыльдачцы па-расейску. На адной шыльдачцы «вул. Свярдлова», а на ёй нехта накрэсліў: «Убийца русского царя». Іду паглядзець, як зашпілены Ільіч. У снегавітым прыцемку душэўна свецяцца крыжы касцёла. Перад Домам урада й перад Ільічом вялікая яміна, ці, па-сучаснаму, катлаван. Ці не на пастамент для некага. Ленін без кепкі. Засняганы. Неабмецены. На пэнсіі. Кепка ў руцэ. Паліто сапраўды захінуты на жаночы бок. Але не зашпілены. Можна й так і так думаць. Узгадваецца, як на першых часах афіцыйнай незалежнасці, калі ў Маскве падымалі пытанне аб зносе Маўзалея, кіраўнікі Беларусі заявілі пра гатоўнасць узяць рэшткі Леніна ў Менск. Неяк я нагадаў пра гэта майму плацінаваму сябру Генадзю Бураўкіну, на што ён заўважыў: «І «Аўрору» на беразе Свіслачы паставіць».

*21 студзеня, серада*

У «Коўню». Пётра мяне гадзіны дзве выцягваў. А Юрась адліваў мэдалі «Пагоні». Цікавы працэс. Ну, вядома, форма робіцца. Потым паяльнай лямпай (у маладыя гады смалілі вепрукоў) расплаўліваецца срэбра з манэт, з кавалачкаў. Заліваецца ў форму, а каб запоўніла ўсе праточыны, раскручваецца ў бляшанцы, якраз жароўня. З жароўнямі на пасце пастухі хадзілі, грэліся, адганялі камароў, асвятлялі змрок прыцемкаў. Школьні-

---

[1] Гл.: «Хто каго ловіць...» (19.01.04) // Халодная памяць вады. С. 310.

кі ў школу з далёкіх вёсак з жароўнямі йшлі, каб сцежкі завеяныя й залістападжаныя асвятляць. А Генадзь Асташонак тлумачыць: «І ваўкоў палохаць». Пытаюся, а ці ён хадзіў? Кажа: «Старэйшы брат». Плавяцца партрэты, аблiччы цароў, валадароў. Зямля й срэбра хочуць быць чыстымі, пазбавіцца ад манумэнтаў і скульптураў, ад выяваў. А ў Дубатоўкі[1] ёсць запальнічка ад Освальда[2]. Быў у яго на вяселлі. Жонцы Міколавай дасюль здаецца, што за ёй сочаць.

*22 студзеня, чацвер*

Мароз узяўся нагадаць пра сябе канкрэтна. Маленствам крыху дыхнула. Бегаў у ПЭН перадрукаваць колькі старонак для «Свабоды» на заўтра. Назваў «Дзень за днём, як цень за аваднём».

*23 студзеня, пятніца*

Запісаўся на «Свабодзе». У «Коўню». Добра сказаў Тэнгіз: «У Беларусі ўзначаліць Акадэмію навук і мёртвы можа». А Юрый Гудзіновіч ўзгадаў даўнюю быліцу. Архітэктару далі волю — што хочаш узводзь, не абмяжоўваем ні ў матэрыяле, ні ў памерах, ні ў фантазіі, толькі зрабі нешта адметнае. Думаў-думаў і прыйшоў — абмяжуйце. Вярнуўся дахаты [...]. Так, сям’я нармальная, крывіцкая — аснова для жыцця й тварбы. [...]. «Скнара: Доля — вясёлая скнара...», «Ды...: Змей лютых і ядаў шмат...» [у дзённіку]. Пачытаў Генадзю, сказаў, што напісана з веданнем матэрыялу.

*24 студзеня, субота*

Прагучала па «Свабодзе». Адна Марыя (Андруковіч) й сказала, што слухала. Пазваніў Глебу, ці чуў, ён чытае ўсё. Па голасе Глеба зразумеў, што маладыя, як і належыць, у сваім свеце жывуць. А бласлаўленні старых і парады іхныя ім да лямпачкі. Усё натуральна. Інтэрнэт неўпрыкметку ўсё жывое пластмасіць. Бо прагрэс як такі скіраваны на адрыў чалавека ад прыроды, на хутчэйшае ягонае самазнішчэнне. Самаспадман, што чалавек ўступае ў двубой з прыродай. Асабліва стараліся пераканаць сябе ў гэтым камуністы. У прынцыпе, чалавек сам сябе знішчае непрыкметна, але ўпэўнена.

*25 студзеня, нядзеля*

Галава ў абручах. Нейкая трывога разліта па мне. Трэба пайсці на вуліцу, не магу. Не магу выгнаць з галавы безвыйсцевасць. Госпадзі, пашлі

---

[1] Дубатоўка Мікалай Уладзіміравіч (н. 1938), беларускі мастак.

[2] Освальд Лі Харві (1939–1963), адзіны афіцыйна падазраваны ў забойстве амерыканскага прэзідэнта Дж. Кеннедзі.

мне трошку ясных дзён. Выпісваю запісы розных гадоў пра Васіля. Шмат неразборлівага почарку. Здаецца, цвярозы запісваў.

*26 студзеня, панядзелак*

Знасілася галава, — казала мама. Гэта пра цяперашнюю маю. Ратуе Пётра. Сёння цешчы 90. Як быў малы, вясёла ці абыякава глядзеў на старых. Цяпер, калі сам йду з кірмашу, з сумам, жахам і спачуваннем. Напаўраслiннае жыццё, бадай, горай ад смерці. Але ні радасці, ні здароўя, ні смерць нельга замовіць, заказаць. Быў такі гаротнік — Баляслаў Гатоўка. Нешта пісаў. Выдалі ягоную ксёнжачку[1] сын і жонка. Напісаў колькі слоў анатацыйна. Званіла жонка, ксёнжачка выйшла, дзякавала. Казала, што пэнсіі мала, прадае калготкі ці панчохі, міліцыя гэтых жанчын ловіць, вязуць у суд, абшукваюць да сподняга. Колькі маладзіц атрымалі інсульт, адна памерла. Калхозны сацыялізм. Перачытваючы Васілёву споведзь, падумаў, што цяпер жыву як у замежнай паездцы. Вакол усяго шмат, а купіць няма як. Абмежаваныя камандзіровачныя ў падарожжы на гэтай зямлі.

*27 студзеня, аўторак*

У «Коўню». Пакуль Пётра ездзіў з Генадзем, чытаў пра сымбалі. І зорка, і свастыка, і крыж з сівое даўніны. Шкада, што раней не траплялася мне ўсё містычнае. Цяпер цікава й толькі. Юрась каваў аснову для шпагі. Толькі ручная праца дакранаецца да даўніны. Як усё ў творчасці, толькі не стандартнае й нештампаванае мае каштоўнасць.

*28 студзеня, серада*

У старажытныя мясціны. Як дома некалі — зімова й снегавіта. Па дарозе стала блага. Зноў ратаваў Пётра. Дачакацца б вясны й Вушачы. Можа, што зменіцца ў маёй галаве й з маёй галавой. Жахлівае адчуванне, што ты адыходзіш, здавалася б, яшчэ жывы.

*29 студзеня, чацвер*

З Пётрам у «Коўню». Выцягваў мяне на гэты свет. Марачкін ладзіў выставу «Пагоні»[2], прысвечаную ў асноўным Сікору. Цікавыя маладыя ёсць. Ілоніна сценка даволі арыгінальная. Праўда, калі б яна зразумела, што толькі на нацыянальнай глебе можна нечага дасягчы. Ада Райчонак[3] рас-

---

[1] Гатоўка Б. Шаргуны. Мінск: «Беларускі кнігазбор», 2004.

[2] «Пагоня» — мастацкая суполка ў складзе Саюза мастакоў Беларусі (з 1990).

[3] Райчонак Ада Эльеўна (н. 1937), беларуская настаўніца, грамадская дзячка; заснавальніца Музея Я. Драздовіча (1995) і Музея М. Райчонка (сына Міхася; 2005). Лаўрэат прэміі імя В. Быкава «За свабоду думкі» «Руху за Свабоду» (2010).

павяла, што Сікора памёр, і не было што надзець у труну. У складчыну куплялі й на спіну, і на ногі. Дом купіў сусед (даў задатак) на дровы. Ледзьве перакупілі. Цяпер абшалявалі, падладзілі. Лёс беларуса ў Беларусі. Цікава, што Дамінічка заўважыла — адна карціна Ілоны вісіць дагары нагамі. Ані сама Ілона, ні выставачы не заўважылі. Што значыць авангард.

*30 студзеня, пятніца*

Прыехаў Генадзь з Віцебска. Там яшчэ цепліцца беларускасць. Крывіцкая кроў. А наогул, такі цяжкі змрок цісне на душу. Вытрымаць бы. Божа, дай светлую галаву. Дзякуй Табе!

*31 студзеня, субота*

Апошні дзень шалёнага месяца. Раслінна амаль пражыў яго. Трохі перабіраў паперы. А іх завалы.

*1 лютага, нядзеля*

Дзень добры, месяц мой! Хоць ты паспагадай мне. Ад снегавею бела. Можа, на душы пасвятлее… І працаваць цяжка, а калі не працаваць, пачынаю шалець, адчуваючы, як роспач дыхае ў патыліцу. Як бы гэта прыйсці ў сябе.

*2 лютага, панядзелак*

Болей не вытрымаў. У Лечкамісію. Будуць заўтра галаву кампутарна глядзець. Відаць, давядзецца легчы на які дзясятак дзён. «Самі: Каб жыццё не здавалася раем…» [у дзённіку].

*3 лютага, аўторак*

Зноў у лякарню. Кампутар шукае ў галаве маёй нешта. Далі ўчора пігулак, прымаю, хаджу абалдзелы. Хварэць таксама трэба ўмець, а дакладней, любіць, тады ўсё добра. А я не прывык. Мейсца сабе не знаходжу хворы.

*4 лютага, серада*

Зноў кроў на аналіз. І абыякавасць, і крыўдлівасць, і ўсё не так. Бо не магу працаваць, каб забыцца на ўсё. У галаву нічога не лезе. «Праверка: Правярае кум мачу На адданасць кумачу». Галава супраціўляецца ўсялякім думкам і клопатам — баліць. Ці буду я калі з небалючай галавою? Хацелася б. Божа, дзякуй Табе за ўсё, за ўсё, за ўсё! Так і не пажыў у хаце, дзе разліта ласка, спакой, увага. І сам вінаваты, і кон мой такі. Нічога не паробіш. Разумею, што Валі цяжка. Нельга ў ёй адной шукаць прычыну благаты. І ў сабе самім варта. Ці прыйду ў сябе хоць на развітанне? Усё

астыла, нічога ўжо амаль не цешыць, акрамя працы, а працаваць не магу. Крывіцкай сям’і не атрымалася. А савецкая — гэта катарга. Тут цяжка знайсці вінаватых.

*5 лютага, чацвер*

Адна ўжо дарога — да дактароў. Прасвятленне галавы асабліва дрэннага нічога не паказала. Трэба класціся, будуць цыраваць, лапіць.

*6 лютага, пятніца*

Выйсці б на траву, як казалі ў нас. Нічога не міла. Глытаю пігулкі. Загнаў сябе. У імя чаго? Дзякуй Звышняму за ўсё, за ўсё, за ўсё! Мамачка, даруй, вінаваты перад табою. Ці змагу я ўжо з больш-менш яснай галавой жыць і нешта яшчэ паспець? Хоць бы Вушацкі словазбор дагнаць да канца й неяк выдаць. Гэта мой абавязак перад крывіцкай мовай, перад мамінай мовай.

*7 лютага, субота*

Ледзьве падняўся. А пасля граф ўсё ж прывёў мяне ў нейкую норму. Можа, выжыву. Збіраюся ў больніцу, як некалі ў падарожжа. У адной запісной знайшоў Васілёў накід «Бычкоўскія могілкі. 16.VI.2001». Якраз перад гэтым я думаў, каб мяне абавязкова каля мамы на Бутаўшчыне пахавалі. «З якога?:

Сям’я з семя…» [у дзённіку]. А ў галаву яшчэ нешта лезе: «Няўседнае лісце»[1].

*8 лютага, нядзеля*

Стаў крыўдлівы, як малое дзіця. Лёг учора з небалючай галавой, заснуў. Крыкам апалове другой разбудзіла Дамініка. Усю ноч пракруціўся. Злосць на ўсіх. Раніцай аднёс Генадзю ўспаміны Валянціны Уладзіміраўны. У людзей ўтульна, ціха, прыстойна. Хто чаго заслужыў.

*9 лютага, панядзелак*

Залёг у Лечкамісію, былы адкормачны пункт саўковых кіраўнікоў. Палата на чатырох. Раней было б лепей на трох.

*10 лютага, аўторак*

Патроху хаджу па кабінэтах. Нешта прызначаюць. Галава ўсё роўна дурная. Можа, нешта й зрушыцца. Прыходзіў Ганад. Троху падтрымаў у жабрацтве. Быў Сяргей і Глеб. Глеб прывёз з Вільні драўлянага салаўя[2] —

[1] Гл.: Няўседнае лісце (7.02.04) // Халодная памяць вады. С. 322.
[2] Гл.: Глеб Лабадзенка (21.05.04) // Дуліна ад Барадуліна. С. 74.

чарцей адпуджваць. Пасялілі ў нумар палкоўніка КГБ, пракурора, як ён сам кажа. Рабінавая ноч. Чытаў Ясеніна[1], спяваў, перарываў усё ў палаце, быццам шукаў валізу. Замест Навінак сюды. Ці не для мяне. Ноччу праз сон крычаў я, сніўся Мірон.

*11 лютага, серада*

На розных працэдурах. Нарэшце перавялі мяне ў другую–412-ю палату, а палкоўніка дачка дамоў забрала. Як гэта КГБ за мной ценямі гоняцца. Хай звар'яцелымі. Цікава кажуць: Расія падымаецца, а мы яшчэ не ўпалі. Учора Алесь вусна карэктаваў маю прадмову, круціць яго самалюбства. Яму лепей бы самому напісаць прадмову. Тое ж і з Глебам. Маладым дарога!

Паклалі ў палату (а трэба было ў Навінкі!) палкоўніка гэбіста, пракурора, як ён сам сказаў. Я ледзь сам не дайшоў да яго стану. Вочы жахлівыя. Так яны ўсе канчаюць жыццё. Душы нявінныя помсцяць. І цікава, ці варта лечыць катаў, забойцаў?

*12 лютага, чацвер*

Перавялі, дзякуй добрым людзям, у 412-ю. Тут Валера Кучынскі, вынаходца нейкі. Кучынскі не на хвіліну не змаўкае. Выходзіць, наадварот — пасля інсульту цяжка гаварыць. Хоць раўнавага нейкая. А наогул, у палатах болей і болей удзельнікаў штурму Зімняга.

*13 лютага, пятніца*

Чорны дзень. Усё-ткі дабраліся да Зелімхана. Падарвалі машыну. КГБ усясільнае. Светлая памяць, вечны спакой пакутніку й верніку Зелімхану. Звышні, прымі ягоную душу.

*14 лютага, субота*

Званіла дамоў Вольга з Прагі. За дзве гадзіны да жаху яна размаўляла з Зелімханам. Ён ехаў маліцца, казаў, што й за мяне памоліцца, папросіць здароўя. Узарвала ФСБ[2], калі вяртаўся з намазу. Перад гэтым знішчылі двух братоў і пляменніка. А з Зелімханам быў сынок, абгарэў. Зелімхану адарвала дзве нагі. Яшчэ дзве гадзіны пакутваў у лякарні. Не думаю, што будзе добры канец у злачынцаў, Бог аддасць.

Прыходзіла Валя з Дамінічкай. Шапран прыходзіў. Душа баліць за Дамінічку. Худзенькая, апранута не так, як бы мне хацелася. А няма за што.

---

[1] Ясенін Сяргей Аляксандравіч (1895–1925), рускі паэт.
[2] Федэральная служба бяспекі (РФ).

Бог-бацька. «Перачытваю кнігу паэзіі «Каб неба сагрэць...»: Ані ў якае ўложжа Пракрустава...»[1]

На ліфце: грузавы ліфт пасажыраў не бярэ. Пытаюся: а як нябожчыкаў? Сястрычка ўсміхаецца: бярэ. Гэта ўжо груз і фізычна, і на сэрцы блізкіх.

*15 лютага, нядзеля*

Учора ў Маскве абрынулася страха аквапарка. У пятніцу падарвалі імама, які ехаў з набажэнства, у суботу адплата. Людзей шкада. Хай бы гэбістаў. Прыехаў Пётра. Мне адразу стала лепей. Потым Шапран, Валя й Дамінічка. Шапран хоча нешта зрабіць для «Комсомолки». Да 24-га. Колькі яшчэ Бог дазволіць мне сустрэць? За ўсё дзякуй, дзякуй Звышняму!

*16 лютага, панядзелак*

Пачынаю троху прыходзіць у сябе. Пішу як бы «дурноты»:

*Вынік*

За славай пёр, як на ражне,
Аж адусюль свістала полымя.
А слава паказала мне
Свае дзве палавінкі голыя.

*Не зацёрлі...*

Як ні свярбела ў срачцы паклёпам,
А голас ісціны не зацёрлі.
Усім часовым уладахопам
Генадзь Бураўкін як костка ў горле.

І любімага Някляева шаную:

*У адпадзе*

Я ў адпадзе ад Вовы Някляева
І ад ягонага акаляева —
Пафасна-найкрытычнага,
Бахусна-эратычнага.

*17 лютага, аўторак*

Прыходзіў Пётра. Сустракаўся з лячкаркай. У мяне ў прынцыпе ўсё ў норме. А ўсё благое ад маёй хаты. Прыходзіў Сітніца, залатая Мая, Глеб. Глеб, выходзіць, не казаў, што Колас га.но. Хочуць счубіць нас зайздросні-

---

[1] Кустава В. Каб неба сагрэць... Мінск, 2004. Прадм. Р. Барадуліна.

кі. Званіў дамоў [...]. [...]. Вушацкая загадка: дзесяць братцаў цягнуць невад на Пердунову гару (штаны, пальцы). Сёння угодкі пана Вішнеўскага. Пазваніў, павіншаваў. Праспяваў Sto lat і сто год. Быў рады. «Там: Дзе пан Вішнеўскі...» [у дзённіку]. Званіў ў майстэрню, чытаў.

*18 лютага, серада*

Заходзіў Ул. Скарынкін[1] — перакладач «Боскае камэдыі» [Дантэ[2]]. Прапаноўваў нешта напісаць у кнігу, прысвечаную юбілею Перамогі. Гэта разам з Савіцкім[3], Лукшам[4]. Ён (з 1939 года) таксама піша. Стырно яму ў рукі! Шапран прынёс фота. Хочацца напісаць пра Васіля, няма як. Кучынскі, як радыё на раённым слупе, не выключаецца. «Хоць адна: Кожнаму дадзена звіліна хоць адна...» [у дзённіку].

*19 лютага, чацвер*

Прыйшоў мой залаты Глебачка. Прынёс ліцэйскі палудзень. Крануў сваёй шчырай адкрытасцю. Маэстра Зміцер [Вайцюшкевіч] сказаў, што напісаў 10 песень. Адна будзе ў рытме, калі едзеш па дарогах Тэхаса. Падабаецца ён мне нейкай крыху авантурнай рамантычнасцю. Ілона толькі расхвалявала. Нічога робіць не будзе, акрамя мастацтва. Лепей пакончыць з сабой, чым займацца чым, акрамя мастацтва. Яна — мастачка. Мастачка добра, але жыць жа трэба. Я ўжо болей дапамагаць не магу. Як бы неяк Дамінічку падкачаць дый Рысік расце. І сюды прарваўся шызік, які піша вершы й зрабіў адкрыццё з геліем. Жах.

*20 лютага, пятніца*

Званіла Вольга з Прагі. Апошні сынок светлай памяці Зелімхана ў цяжкім стане — абгарэў, руку пашкодзіла. У Зелімхана (сказала жонка) верш мой, прысвечаны Зелімхану, вісеў у яго над сталом, а Зелімхан шукаў мне падарунак. Ляжаў ён са сцятымі зубамі й губамі. А калі жонка адхінула апошні раз ахінала — на халодных губах шчаслівая ўсмешка: адпакутваў, пагутарыў на развітанне з Усявышнім. Светлая памяць табе, брат мой Зелімхане! Спачывай са святымі. Выйду з лякарні, даперакладаю ўсё, што абяцаў. Божа, спашлі мне спакой душы. Глеб быў учора расхваляваны. Колас [Уладзімір], здаецца, болей думае пра свой палітімідж, чымся пра ліцэістаў. А гэта ж мазгі нацыі, маладыя, крывіцкія.

---

[1] Скарынкін Уладзімір Максімавіч (н. 1939), беларускі паэт, перакладчык.

[2] Дантэ Аліг’еры (1265–1321), італьянскі паэт.

[3] Савіцкі Алесь (Аляксандр Ануфрыевіч; 1924–2015), беларускі пісьменнік. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1970).

[4] Лукша Валянцін Антонавіч (1937–2012), беларускі паэт, драматург. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя П. Броўкі (1994), Дзяржаўнай прэміі РБ (1996).

*21 лютага, субота*

Жанна Дапкюнас прынесла купалаўскі падарожнік. Учора адбылася прэзэнтацыя апошняга тома Збора твораў Янкі Купалы[1]. Нікога ні з мінкультуры, ні з тэле, ні з радыё. Але людзі былі. А гэта трэба было праводзіць прынамсі хоць бы ў Купалаўскім тэатры, а не ў маленькім музэі. Для мяне гэтага свята хапіла для пагоды духу. Лічу, што недарэмна працаваў у «Мастацкай літаратуры». Усё-ткі настоіў запланаваць Поўны збор Купалы, зборы твораў Караткевіча[2], Васіля[3]. І цяпер помню, як ледзь не замерз на вуліцы, даказваючы Віктару Каваленку[4], што спачатку творы поўна Купалы выдаць, а Коласа[5] пасля. Двухтомнік Пушчы[6] ўдалося выдаць. Былі сабраны матэрыялы на 4 тома Дубоўкі[7]. Не далі. Учора сястрычка з электрапрацэдурнай папрасіла аўтограф. Дужа ж чароўная. Аж напісалася: «Перамагае прыгажосць: Усё, што ў гэтым свеце ёсць…» (верш прысвечаны Вікторыі Пікарэвіч; у дзённіку). Як Пётра ні забараняе нічога не пісаць, нічога не браць да галавы, словы самі лезуць.

*22 лютага, нядзеля*

Прыходзіла Валя й Дамінічка. Балючая радасць мая. Без яе — хоць звар’яцей, думаючы пра яе. Ды ўсё, як Бог дасць. Дзякуй Усявышняму за ўсё! Першы раз выйшаў на вуліцу. Сячэ снег. Вецер. А ўсё роўна — на вуліцы добра. Пад самы вечар прыйшоў Глеб. Да чорцікаў таленавіты. Толькі б не звіхнуўся. Які раз перапісваў верш: «Паломніцтва ў вечнасць»[8].

*23 лютага, панядзелак*

Дзень абаронца так званага савецкага мяса. Выходзіў вечарам на вуліцу. У краме, дзе купляў зялёную гарбату, сустрэў пана Вішнеўскага. Потым сустрэў у двары Лукашука, з Прагі прыехаў на юбілей сябра. Дамовіліся, што буду рабіць для яго (падборку) «Як беларусы…». А як ловяць

---

[1] Купала Я. Поўны збор твораў: У 9 т. Мінск, 1995–2003.

[2] Караткевіч У. Збор твораў: У 8 т. Мінск, 1987–1991.

[3] Быкаў В. Збор твораў: У 6 т. Мінск, 1992–1994.

[4] Каваленка Віктар Антонавіч (1929–2001), беларускі крытык, літаратуразнавец, празаік. Доктар філалагічных навук (1978). Член-карэспандэнт АН БССР (1984). Акадэмік АН БССР (1989). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1981). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СП СССР (1976), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1980).

[5] Колас Якуб (сапр. Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч; 1882–1956), беларускі пісьменнік. Народны паэт БССР (1926). Акадэмік АН БССР (1928). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1944).

[6] Пушча Я. Збор твораў: У 2-х т. Мінск, 1993–1994. *Пушча* Язэп (Плашчынскі Іосіф Паўлавіч; 1902–1964), беларускі паэт. Быў рэпрэсаваны.

[7] Рупліва з 90-х гадоў збіраныя Дз. Давідоўскім матэрыялы нарэшце былі выдадзены. Гл.: Дубоўка У. Збор твораў: У 2-х т. Мінск: «Лімарыус», 2017. *Давідоўскі* Дзмітрый Мікалаевіч (н. 1958), вядучы бібліятэкар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі (з 1980).

[8] Гл.: Яндарбі З. Сэрца майго сьвятыня. (Верш памяці З. Яндарбіева; на вокладцы.)

аракаў[1] — ягонай маме спадабалася. Дзень народзінаў у Кучынскага. Павіншаваў: «Не нуднымі пытаннямі...» [у дзённіку]. Жарты жартамі, а наогул, сумнавата, дзікавата, самотна.

*24 лютага, аўторак*

Прачхнуўся, а ў душы гучыць мамін голас з велікоднае песні, з Вялічка, як мама казала:

Устань раненька,
Мыйся беленька,
Мыйся беленька,
Трыся суханька.
Хрыстос васкрос,
Сын Божы.

Цэлы дзень, як у маладыя гады, сябры. Толькі без п'янкі. Былі Генадзь Бураўкін, Сяргей Законнікаў, Рыгор Сітніца, Пётра (!), Акулін, Скобла, Ганад, Марына Загорская[2] («Салідарнасць»), Вікторыя (Валерыя) Кустава, Алесева Кася[3], князь Тэнгіз (скрынку «Баржомі» з Грузіі), Юрась Гудзіновіч, пан Вішнеўскі (карціну (падарыў)), дарагі Глебачка прынёс мне мяккага мішутку для супакою нэрваў, званіў Някляеў[4] з Фінляндыі, Вольга Караткевіч з Прагі, перадалі хлопцы вершы Зелімхана. Дамінічка казала, што дадому званіў Зянон і пажадаў, каб мы сустрэліся ў вольнай Беларусі. Кахінаў унук, талыш[5], напісаў верш па-беларуску, павіншаваў мяне. Ілона блакнот цудоўны хоць без памылак падпісала па-беларуску. Расце. Прыходзіла Вольга Улевіч[6] («Комсомолка»).

Валянцін Тарас

*Рыгору*

*

Трохрадкоўнік Рыгора — тры паралелі
На блакіце Шара Зямнога,
Якія перакрыжоўваюцца ў Сусвеце Паэзіі
З паралелямі Бога.

---

[1] Гл.: Як беларусы ракаў ловяць (2004) // Дуліна ад Барадуліна. С. 174.
[2] Загорская Марына, беларуская журналістка, супрацоўніца газ. «Салідарнасць».
[3] Камоцкая Кацярына Аляксандраўна (н. 1963), студэнтка Мінскага педагагічнага ўніверсітэта імя М. Танка. Дачка А. Камоцкага.
[4] Гл.: Уладзімер Някляеў // Дуліна ад Барадуліна. С. 54.
[5] Талышы — народ на Паўднёвым Усходзе Азербайджана і на Поўначы Ірана.
[6] Улевіч Вольга (н. 1978), беларуская журналістка.

*

Трохрадкоўнік Рыгора — тры ўздыхі душы,
Тры тужлівыя ноты,
Тры апоры трывалыя будана самоты.

*

Трохрадкоўнік Рыгора — тры сціплыя кветкі:
Маме, Васілю і Ушачам,
Тры ўдары сэрца, што заходзіцца плачам.

*24 лютага 2004, Валянцін*

*25 лютага, серада*

Заходзіў Ул. Пузыня. Ён тут ляжыць. Алег Маціевіч[1] і Марачкін. На «Камсамолцы» экспромтам напісаў: «Я гарэлкі «Нарач» кіну…» (А. Марачкіну; у дзённіку). Патроху пішу пра Васіля.

*26 лютага, чацвер*

Масажыстка сказала, што яна трохі папрацавала ў Доме калхозніка (былое ЦК). І не змагла. Усё ціснe. Будавалі палонныя немцы й, можа, каго замуравалі, ці на могілках, бо шмат варон кружыць. […]. Прыходзіў Сяргей Шапран з Андрэем Палудам[2]. З Чавусаў, міліцыянер, на курсах быў, з ім паедзем у Вушачу па франтавыя лісты Васіля. Шчыры беларус, аж душа мая засмяялася, што ёсць яшчэ такія маладыя. Дзякуй Звышняму, што не дае вырваць карані беларушчыны.

*27 лютага, пятніца*

Прачхнуўся з вершам: «З гасцей…»[3] Такі настрой. Дый нешта дужа шчыра й шырока віншавалі мяне з днём народзінаў. Галава кругамі, як і да лякарні. Прыходзілі Алесь Камоцкі з Вадзімам, Пузыня. Як з сябрамі — забываецца боль. Яны з хаты — боль у хату, дакладней, у зношаную галаву. […].

*28 лютага, субота*

Добра падагнаў узгадкі пра Васіля. Умоваў ніякіх. Нідзе няма мне спакою. Толькі там, можа, будзе. Чакаў Валю з Дамінічкай, бедная Валя з хворай нагою прыйшла, а Дамінічка — не. Расце яшчэ горшы паўтор Ілоны. […]. Даб'юць яны мяне. Шкада іх, як яны будуць? Але як Бог дасць.

[1] Маціевіч Алег Мікалаевіч (1949–2016), беларускі мастак.

[2] Палуда Андрэй Пятровіч (н. 1976), да 2004 г. нам. начальніка аддзела прафілактыкі і правапарадку Бялыніцкага РАУС (г. п. Бялынічы Магілёўскай вобл.).

[3] Гл.: З гасцей… (27.02.04) // Халодная памяць вады. С. 300.

Дзякуй Табе, Звышні, за ўсё, усё, усё. Дазволь хоць нешта яшчэ напісаць і да нейкага ладу давесці. Ілона даслала фотаздымкі й з'едлівае як бы ныццё, што я не магу яе бачыць. Мне балюча й сорамна за яе, ды яна гэтага не зразумее. Як моладзь кажа: косіць пад расейскага бамжа. А карані ж яе крывіцкія, хоць з майго боку. Трымалася б беларушчыны, даражыла б родным, быў бы толк.

*29 лютага, нядзеля*

Рэдкая лічба ў лютым. Скончыў нейкія словы пра Васіля. Кажу «нейкія» не таму, што абы запісаць, а не было ўмоваў, здароўя. Бог дасць, у спакоі напішу тое, што хочацца. А на душы самотна й пахмурна. Адзін. Нікому не трэба я. Адно мне самому. А каб пабыць хоць колькі самім сабой, няма ніякога сподзеву. Пачынаеш шызікам зайздросціць — усё ў іх урачыста, як на з'ездах капээсэсаўцаў некалі. Сумны жарт сабе самому. Госпадзі, дазволь затрымацца хоць трошкі, азірнуцца на сябе самога не правалачнымі мазгамі. Памяць ад мяне некуды ўцякае й старанна хаваецца. Не знайсці, не адшукаць, не пагукаць.

*1 сакавіка, панядзелак*

Прачхнуўся з даробленым вершам: «Млын»[1]. І падгабляваў даўні накід у нататніку: «Утопія»[2]. А далей пайшлі мукі аж да вечара. Рыхтавалі для прагляду страўніка. І дзве гадзіны на стале. Хоць урач пацешыў: «У Вас кішка закручана, як Вашы рыфмы». Выходзіць, што нехта нешта недзе чытае. Дзве гадзіны чакалі мяне Ганад і Каміль[3]. Везлі на калясцы. Адразу — не рухацца, лёд на жывот. Здалося, што гэта ўжо рэпетыцыя адыходу. Але ўсе прыхінуліся да мяне — і сёстры, і сябры, і аднапалатнікі. Гэта й утрымала. Да ўсяго трэба дадаць, што галадаў двое сутак. Уночы бяссоніца ўзяла ў свае лапы. Узгадалася вушацкае: лёг не еўшы, устаў не спаўшы… Яшчэ ўрач, які «катаваў» мяне, казаў прафэсійную ўсмешку. Хворы пытаецца, якія вынікі, урач адказвае: «Я задаволены». Хворы: «Чым? Вынікамі абследавання?» Урач: «Не, тым, што гэта не ў мяне…»

*2 сакавіка, аўторак*

Ноч была рабінавая. У галаву лезла ўсякая бязмозгліца. І чаму Пушкін[4] быў вялікадзяржаўным шавіністам. «…приют убогого чухонца», «…грозить мы будем шведам»[5] і да бясконцасці. Бо не расеец. Хацеў быць

[1] Гл.: Млын (1.03.04) // Ксты. С. 367.
[2] Гл.: Утопія (22.09.03–1.03.04) // Руны Перуновы. С. 307.
[3] Камал Каміль (Камал Гамза аглы Гаджыеў; н. 1954), азербайджанскі і беларускі мастак.
[4] Пушкін Аляксандр Сяргеевіч (1799–1837), рускі паэт.
[5] Радкі з паэмы А. Пушкіна «Медны коннік». Дазволю сабе дадаць, што, можа, і праўда, вінавата «рабінавая ноч і ўсялякая бязмозгліца» і Рыгор Іванавіч капрызіста блазнаваў,

стоадсоткавым расейцам. Комплекс непаўнацэннасці гэта, праўда, не шкодзіла пісаць шэдэўры. Прыходзіў Пётра. Заўтра выпіска. Праз тыдзень да хірурга. Чаго толькі не наслухаўся. Кучынскі распавядаў, як малады актор за мяжой суп з канцэнтратаў варыў у бідэ.

*3 сакавіка, серада*

Выпісалі. Алесь прывёз дахаты. Дзякуй яму! Чулы, клапатлівы, таленавіты. На маё мейсца вясёлы Пузыня лёг. Званкоў, напамінаў, заданняў мех з торбачкай. Генадзь забраў згад пра Васіля «Сам-насам з Вечнасцю». Не дужа хваліў, але й не ганіў. І так, дзякуючы яму, плацінаваму сябру майму, я нешта напісаў.

*4 сакавіка, чацвер*

Як з галоднага краю на ежу, наваліўся на працу. Спачатку захацелася пакруціць словы:

*Сабе самому*

Вёз разважлівы лёс
Цабэрак слёз,
Мех смеху,
Дзежку ўсмешак.
Задумаўся лёс
І ўз'ехаў на ўзмежак,
А на камень-зламень,
На якім прыдрамала восень,
Ускочыла кола
І з восі зляцела вясёла.
Цабэрак выліўся,
Падзёрся мех,
Дзежка з узмежка
Паляцела з падскокам,
Бугрынкі ды ўпадзіны
Лічачы кожным бокам.
Пасмялеў смех праз слёзы,
Загарэліся ўсмешкі праз клёпкі,
І настрой нетаропкі
Распагодзіўся навакола.
І сябе самога,
Пакуль трымала змога,
Даганяць пакацілася кола…

---

знаходзячы абра́зы ў «приюте убогого (*бедного)* чухонца», шавінізм у «грозьбах» шведам і пачуцці «комплексу непаўнацэннасці» з-за «арапска»-нямецка-рускага паходжання рускага паэта.

*5 сакавіка, пятніца*

Пазваніла Вольга з Прагі. Пра Чэчэнію, пра Зелімхана распавяла. Ёй трэба пісаць кнігу. Цікавае вітанне ў чэчэнцаў. Будзь вольны! (Добры дзень нам.) Заставайся вольным! (Да пабачэння.) Такі народ маскалі не звядуць. Самі сябе звядуць хутчэй. Варвары ўсіх стагоддзяў аднолькавыя.

*6 сакавіка, субота*

За горад. Ужо вясна йдзе. Хочацца дамоў. «Талент»[1]. Некалі, відаць, п'яны, пісаў для Глебава[2] тэкст па-расійску ў нейкі фільм. Пазваніў Эдуард Зарыцкі, будзе маэстра Фінберг рабіць вялікі канцэрт. Вось гэты тэкст знайшлі:

Когда возьмёт тоска,
Не вырваться из плена.
Желанно-неизменна
Ты — быстрая река.

Прошедших лет обман
Яви собой однажды.
Я горьким стал от жажды,
Как над рекой бурьян.

Позволь ответно мне
Под небом цвета ситца
Рассветно отразиться
В изменчивой волне.

Надежды облака
Проходят стороною.
Каснись меня волною,
Желанная река…

Зрабіў беларускі тэкст:

*Спаткання бусел белы*

Туга з апошніх сіл
Тужэй зацягне вузел,

[1] Гл.: На ўскрайку Вечнасці: Трыпціх. 1. Талент — гэта праклён… (6.03.04) // Ксты. С. 217. Трыпціх памяці В. Быкава.

[2] Глебаў Яўген Аляксандравіч (1929–2000), беларускі кампазітар, педагог. Прафесар (1983). Народны артыст БССР (1973). Народны артыст СССР (1984). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1970).

Расстання чорны бусел
Захмарыць небасхіл.

За небасхіл пайшла
Трывога трапяткая.
А сэрца ўсё чакае
Світальнага святла.

Нядолі вырак злы
Ад зайздрасці знямее.
Той, хто чакаць умее,
Развяжа ўсе вузлы.

Пашле ўдагон красе
Дзень сонечныя стрэлы.
Спаткання бусел белы
Прадвесне прынясе…

А галава шуміць. Настрой, як чорны дзень. Госпадзі! Дзякуй за ўсё. Дзякуй за ўсё! Дзякуй за ўсё!

*7 сакавіка, нядзеля*

Сустрэча з Пётрам. Да пана Вішнеўскага ў майстэрню. Пётра вывалак мяне з таго свету. Пану на «Калі рукаюцца душы…»: «Мы трымае заʼмкі свае ў непарушшы…» [у дзённіку]. Раніцай дапісаў пачаты вечарам плякатны верш: «БНР!: БНР — Бог, Народ, Радзіма» [у дзённіку]. У майстэрні пана Вішнеўскага напісалася: «Вялічка»[1]. Пазваніла жонка Зелімхана. Шчыра пагаварылі. Раптоўна тэлефон перапыніў размову. Хай чуюць, што ў Беларусі шануюць памяць змаганцаў за веру, за народ, за свой край. У нашых народаў лёс блізкі… […].

*8 сакавіка, панядзелак*

Перакладаю Зелімхана. Марачкін робіць калаж пра выбары. Прапанаваў яму подпіс: «Галасуй! А галасіць будзеш потым…» Перакладаў Зелімхана. І зноў з галавой блага.

*9 сакавіка, аўторак*

Да Роўбы ў лякарню. Сёння выпісваецца. Водзіць мяне ўбакі, галава як не мая. […]. Не магу не пісаць, а пісаць не магу. Баюся за сваю галаву. Пётра адзін толькі й трымае. Памяць стамілася трымаць мінулае. І ка-

---

[1] Гл.: Вялічка (7.03.04) // Ксты. С. 230. У дзённіку верш прысвечаны памяці маткі хроснай Феліцыі Антонаўне Міклашэўскай.

менны крыж — сама пушынка ў параўнанні з крыжам жыцця, які нясеш, пакуль жывы. «Напярэдадні…»[1]

*10 сакавіка, серада*

Нялёгка паразумецца са старасцю. Як з нялюбай жонкаю. У старасці нэрвы моцныя. Чакае з кепліваю ўсмешкай…

*11 сакавіка, чацвер*

У «Коўню». Адзначалі мінулыя дні нараджэння Юрася Гудзіновіча, Аляксандра Баглая[2] й мой. Хлопцы зрабілі мне адмысловыя сувэніры. Добра пасядзелі.

*12 сакавіка, пятніца*

Учора хлопцы казалі, што на шаблю-батароўку трэба надпіс. Яны яе рыхтавалі Васілю. Нешта ў мяне складвалася: «Князю крывіцкага духу Васілю Быкаву Шаблю-шчыруху Радзіма выкавала». Пазваніў Пётру. Пётра пытаецца: колькі ўчора яшчэ выпілі. Гэта супроць паганскіх законаў. Шаблю кладуць ў труну. А нябожчыку, які пайшоў да Бога, шаблю рабіць і падпісваць не трэба. Трэба адпусціць душу.

*13 сакавіка, субота*

[…]. Страціў надзею дажыць да вясны й з’ехаць у Вушачу. Ці прачнуся я калі ў ціхай хаце, ці лягу спаць у спакоі й лагодзе? Усё гэта было толькі ў мамы. Баюся за сябе самога. Каб трохі забыцца на ўсё, перакладаю брата свайго Зелімхана. Ён недзе зрадні нашаму Васілю.

*14 сакавіка, нядзеля*

У «Коўню». Пётра стараўся прывесці мяне ў нармальны стан. Галава разломваецца. Плыву. Божа, дай трошкі дзён хоць тое-сёе скончыць.

*15 сакавіка, панядзелак*

Паўдня пластом ляжаў. Ледзь выцягнуў мяне Пётра зноў. Пад такім настроем пераклаў тэстаментны верш Зелімхана.

*16 сакавіка, аўторак*

Вывалак сам сябе на «Свабоду» запісаць «Як беларусы адпачываюць»[3]. Узяў ад Вольгі вершы Зелімхана й прадмову ягоную да кнігі.

---

[1] Гл.: Напярэдадні… (9.03.04) // Ксты. С. 257.

[2] Баглай Аляксандр Канстанцінавіч (н. 1951), беларускі мастак дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

[3] Гл.: Як беларусы адпачываюць (2004) // Дуліна ад Барадуліна. С. 169.

*17 сакавіка, серада*

Дабіваю Зелімхана й адначасова сябе. Я не вытрываю. Куды мне ўцячы? [...].

*18 сакавіка, чацвер*

Алесь з Вадзімам завезлі ў 10-ю лякарню. У панядзелак, 22-га, буду класціся. Праз сілу пераклаў верш Зелімхана. Наташа ўзяла мне энцыклапедычны слоўнік «Беларуская міфалогія». Цікавы. Хацелася б, каб было болей паганства. Фільм пра Васіля не зацвярджаюць у рээстры, не тыя сябры ўспамінаюць і г. д.

*19 сакавіка, пятніца*

Ляжу ўлогам. Галава некуды адплывае. Госпадзі, дазволь затрымацца на зямлі... Ні хвіліны спакою. Хоць у вір галавой. Шкада й Валю. Усё трэба, а фінансавая пятля ўсё сціскаецца на горле. Дамінічка расце. З Ілонай толку ніякога. Не магу выкінуць з галавы, як далей жыць. Жах! «Збыўся...»[1]

*20 сакавіка, субота*

Змагаюся з болем. Нічога не люба. Прыехала Ілона.

*21 сакавіка, нядзеля*

Выстава Івонкі Сурвілы й Ілоны ў БНФ. Не пайшоў. Не змог. Рыхтуюся да бальніцы.

*22 сакавіка, панядзелак*

Зноў 10-я клініка, як у 1999 годзе.

*23 сакавіка, аўторак*

Патроху прыводзяць у сонны стан. Абыякавасць.

*24 скавіка, серада*

Алесь з Валяй прыходзілі. Прынесла вопратку. Можа, на вуліцу выйду.

*25 сакавіка, чацвер*

Дзень Волі. Я ў лякарні ў раслінным стане.

*26 сакавіка, пятніца*

Прыходзіў Пётра. Не падабаецца яму мой стан. Быў Глеб. Малады, закаханы. Дай Бог яму добрую долю.

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: Збыўся ... (18–19.03.04) // Халодная памяць вады. С. 465.

*27 сакавіка, субота*

Прыходзілі Валя й Дамінічка. Шкада іх. Сілы растаюць, як вясновы снег. Усё трэба. А дзе зарабіць? Праверыў сябе, ці зусім звар'яцеў: «Застаюцца...»[1]

*28 сакавіка, нядзеля*

Прыходзілі Мая, Алесь, Та'рас, Ларыса (Горцава). Зайздрошчу ім, што на волі. А я й сам не ведаю, калі ўжо буду мець больш-менш ясную галаву. Вывалак сябе на вуліцу. Маладая яліна. Коцікі на вярбінках пачынаюць курню спяваць, як наш Рысік. Раптоўна сцяплела. Заблудзіўся. Прыйшоў, аж мяне чакае Глеб. Пытанне пра казку. Казка — гэта дзіцячая біблія. Казка на паганскай глебе вырасла. Казка захоўвае паганскія карані нацыі. У казцы й звяры, і людзі адно аднаго разумеюць. Мова паганства адна, з крыху дыялектамі. У нас у свой час казку стараліся асавеціць, знішчыць паганства, нацыянальны дух. Пакуль жыве казка, а гэта значыць жывая мова, — жыціме Крывія.

*29 сакавіка, панядзела*

Напаўраслінны стан. І на вуліцу хочацца, і не магу. З галавы не выходзяць клопаты, як там дома? Як жыць далей? Госпадзе, дзякуй за ўсё! Хачу ў Вушачу. Хачу хоць збольшага сабраць Вушацкі словазбор. І яшчэ напісаць хоць трошкі. «Чуваць...»[2]

*30 сакавіка, аўторак*

Прыходзіў Генадзь, Алесь, Шапран. Ва ўсіх клопат на волі. Я як павязаны. Калі я не буду адчуваць сябе бездапаможным і бязвыхадным? А так хочацца толькі пісаць, чытаць, думаць і не думаць пра заўтрашні дзень. Засяродзіцца цяжка.

*31 сакавіка, серада*

Прыходзіў Сітніца. Поўны энэргіі, поўны задумаў, поўны таленту. Дай Бог яму плён ва ўсім! Быў на вуліцы, хораша! А душа ў Вушачы.

*1 красавіка, чацвер*

Прыходзіла мама Вольгі Караткевіч. Прынесла цёпленькіх аладак, боршч і смятану. Усё па-хатняму. Вольга такая шчырая па маме. Патроху даканчваю Зелімхана. Божа, дай сілы скончыць працу! Зелімхана ж пасля размовы з Усявышнім расійцы падарвалі.

---

[1] Гл.: «Пасвечвае залысінамі тло...» (27.03.04) // Халодная памяць вады. С. 56.

[2] Гл.: На ўскрайку Вечнасці: Трыпціх. ІІ. Людства... (29.03.04) // Ксты. С. 218.

*2 красавіка, пятніца*

Прыходзіла Ілона. Як мне шкада яе, бездапаможную, са зрухамі ў галаве. Гэта ж мая кроў. У яе шмат крывіччыны. Штовечар малюся за яе й за Дамінічку. «Акрайчык»[1].

*3 красавіка, субота*

Патроху перакладаю Зелімхана. Патроху дужэю. [...]. Бондар шалее. «Шалее злосцю Бондар ...» [у дзённіку]. [...]. На вуліцы вясна. Я, можа, і ачуняю, каб пісаць нешта й Вушацкі слоўазбор дабіць.

*4 красавіка, нядзеля*

Святая Вербніца! На вуліцы светла, сонечна. А мне на душы трывожна. Ілона даб'е мяне. Валю шкада. Яна стараецца. Як гэта звыкнуцца, што над душой стаіць галеча й беспэрспэктыўнасць. «На ўскрайку вечнасці»[2].

*5 красавіка, панядзелак*

Троху жывы, троху напалову жывы. Дзякуй Сарокіну[3] за клопаты. Даверлівы, як дзіця. Каля яго ацёрся Лецка[4] [...]. Шкада, можа прадаць яго Яўген за бесцань.

*6 красавіка, аўторак*

Збіраецца на дождж. Галава адпаведная. Успамінаецца вушацкае: дзень пражыў — бліжэй да смерці. Толькі ў труне, відаць, буду мець спакой, часовы. Бо яшчэ Страшны суд...

*7 красавіка, серада*

З раніцы галава, як да лякарні, такая ж. Прыходзіў Ганад. Верны сябра ў бядзе. Вечарам трошкі разышоўся.

*8 красавіка, чацвер*

Святы Чысты чэцвер! Не дома, не з мамай. У лякарні. А на душы светла, хоць галава туманная, як на вуліцы. Вычытваю для машынкі Зелімхана. Перакладаю ягонае слова да беларусаў.

[1] Гл.: Акрайчык (2.04.04) // Ксты. С. 347.

[2] Гл.: На ўскрайку Вечнасці: Трыпціх. III. Душою не крывілі крывічы… (4.04.04) // Ксты. С. 218.

[3] Сарокін Ігар Георгіевіч, урач-неўрапатолаг.

[4] Лецка Яўген Рыгоравіч (н. 1944), беларускі крытык, пісьменнік. Кандыдат філалагічных навук (1980).

*9 красавіка, пятніца*

Прыходзіў Пётра да Сарокіна. Відаць, дарэмна я гэта зрабіў. Скончыў правіць Зелімхана.

*10 красавіка, субота*

Прыходзіў Алесь. Сарокін пакрыўдзіўся. Я ў дурным становішчы. Чуў і бачыў шпакоў. Каля дарогі шпакоўня. Пазабытыя спевы. Вясна ў душу прыйшла.

*11 красавіка, нядзеля*

Хрыстос уваскрос! Святое Вялічка. Без мамы, без Вушачы. У лякарні. Трывога й туга. Прыходзілі Валя, Ілона, Дамініка, Алесь, Глеб. Галава мая баіцца нагрузак. Безвыходнасць. Але дзякуй Богу за ўсё, за ўсё, за ўсё! Можа, некалі праясніцца галава? Ілона пасвяціла ў касцёле й яечкі, і страву, і вербачку, і свечку.

*12 красавіка, панядзелак*

Патроху збіраюся. Яшчэ перачытаў і паправіў Зелімхана. Хочацца дамоў і не хочацца. Клопат.

*13 красавіка, аўторак*

Дома! Усё па-ранейшаму. Водзіць убакі. Для Аксак Валюты на «Свабодзе» начытаў вушацкіх папевак, якія новым, чарговае незлічоным указам лічацца парнаграфіяй. […].

*14 красавіка, серада*

Пётра сілай выцягнуў мяне ў 214-ю гімназію ў Чыжоўцы. Залатыя дзеці. Ажыў душой. Душатэрапія падняла мяне. Потым да Шатэрніка, а з ім да Ірыны Міхайлаўны. Шатэрнік робіць надмагілле Васілю. Цікава. Але конкурс трэба. У Васілёвай хаце слёзы самі папрасіліся на волю. Васіль быў для мяне ўсім. А я цяпер пнею.

*15 красавіка, чацвер*

Да Вамуша[1]. Разам з Пётрам яны, здаецца, выцягнуць мяне з таго свету. Пачынаю ажываць.

*16 красавіка, пятніца*

Зноў да Вамуша. Сонна-спакойны. Падводзіць Павал Жук з Зелімханавай кнігай. Традыцыйна ўсе аля адраджэнцы неабавязковыя. А [Лукашэнка] гэта й скарыстоўвае.

---

[1] Вамуш Уладзімір Аляксеевіч, псіхолаг.

*17 красавіка, субота*

Вычытаў перадрук Зелімхана. Аддаў. Званілі з Канады. У верасні з’езд беларусаў. Запрашалі. Але трэба спачатку ў Польшчы ўзяць даведку пра здароўе. Хацеў сказаць: я такую ласку і ў жыда знайду. Але дама. Пасаромеўся.

*18 красавіка, нядзеля*

Вятрыстая вясна. Патроху наводжу парадак у паперах. «Чакае…»[1]

*19 красавіка, панядзелак*

Хаджу сонны. Галава ломіць. Хадзіў у парк. На пяньку напісалася: «Смялей…»[2]

*20 красавіка, аўторак*

Радаўніца. Удавее маміна магілка. Летам, калі дасць Бог, буду. А так у думках я ля магілкі. Адпачывай са святымі, мама.

*21 красавіка, серада*

Сыгнал «Рымскага трыпціха»[3]. Цудоўна выдадзена. Меўся ехаць у Рым, а пашпарт з Пагоняй несапраўдны. Відаць, нічога не будзе.

*22 красавіка, чацвер*

Праз Паўла Жука паслаў віншаванне Зянону: «Змые нечысць Вечнасці рака...» [у дзённіку].

*23 красавіка, пятніца*

У «Коўню». Адзначылі дзень народзінаў Пётры. Вамуш мне дужа дапамагае. Можа, і вырвуць мяне з дэпрэсіі.

*24 красавіка, субота*

Пракачаўся з галавой увесь дзень.

*25 красавіка, нядзеля*

Праз сілу нешта раблю. Перакладаю Ганадавы чаргаві.

*26 красавіка, панядзелак*

Вамуш, здаецца, выцягне мяне. У дадатак Сарокін, Пётра. Усе разам. Дзякуй ім!

---

[1] Гл.: «Жыццё — кароткі шлях…» (18.04.04) // Халодная памяць вады. С. 190.

[2] Гл.: Смялей… (19.04.04) // Ксты. С. 370.

[3] Вайтыла К. (Ян Павел II). Рымскі трыпціх: Вершы. (2004).

*27 красавіка, аўторак*

Патроху адыходжу. Перакладаю Ганада. Да Вамуша.

*28 красавіка, серада*

Можа, удасца з дапамогай выдаць «Ноч мае форму яйка»[1], якая ўжо 5 гадоў ляжыць у Лапцёнка.

*29 красавіка, чацвер*

Да Вамуша. Скончыў Ганадавы чаргаві.

*30 красавіка, пятніца*

Хаджу як п'яны ад пігулак. Усё няміла, роспач. Стараюся перамагчы сябе самога. Ілонка паехала на лецішча. Баліць душа па ёй. Хоць ведаю, ейнае жыццё не пражыву. Вамуш: маці, як Хрыстос, прымаюць смерць за сына.

*1 травеня, субота*

Як у далёкім сне дэманстрацыі, мітынгі, лёзунгі. Усё зелянее, йдзе ў рост. Вечарам пачало пісацца: «Сіла вышыні»[2].

*2 травеня, нядзеля*

Званіў Зянон з Варшавы. Дзякаваў за віншаванне, за «Калі рукаюцца душы…». Асабліва ўсцешаны перакладам верша Зелімхана, прысвечаным яму[3]. Я рад, што хоць як падтрымаў настрой шчыруна за вольнасць Крывіі.

Спадар Лісоўскі робіць надмагіллі землякам вёскі Выня́ (гэта мейсца, дзе высечаны лес, выняты. Цікавае слова). Прасіў надпіс.

Тут ляжаць нявінныя ахвяры —
Ратнікі, ратаі, кавалі.
Хоць паплачце вы над імі, хмары,
Каб да Бога душы адышлі…

Як мне выйсці з роспачы, са страху, што ўсяму канец. Грашовая пятля тужэй зацягваецца. Трэба на ўсіх, а ўзяць няма дзе, у сэнсе зарабіць. Дзякуй, Госпад, за ўсё! Ты даеш мне спадзеў трымацца. Знайшоў у запісной: «Не вятрыста»[4].

---

[1] Зборнік вершаў і гумару не пабачыў свету, і, на жаль, змест ягоны не захаваўся.

[2] Гл.: Сіла вышыні (1.05.04) // Ксты. С. 357. Верш прысвечаны У. Вамушу.

[3] Гл.: Беларус // Яндарбі З. Сэрца майго сьвятыня. С. 102.

[4] Гл.: Ліст семдзесят пяты: Многа жніва, а рупліўцаў мала (7.09.02) // Калі рукаюцца душы… С. 186.

*3 травеня, панядзелак*

Цікавая гутарка з Вамушам. Яна й навеяла верш: «І…»[1]

*4 травеня, аўторак*

Аддаў Ганаду чаргаві. Калі каўказец сябра, дык ён сябра сапраўдны.

*5 травеня, серада*

Да Вамуша. Можа, ўдасца паказаць Ілону яму. Ён згодзен, а вось яна. Трэба неяк яе выцягваць. «Наканаванасць»[2].

*6 травеня, чацвер*

Ганад проста выручае мяне. Дзякуй яму! Перакладаю чаргаві. Найшло некалькі радкоў: «Спакон», «Прыкуты»[3].

*7 травеня, пятніца*

Да Вамуша. Пётра прыводзіў мяне да ладу. Пачынаю знадакучваць самому сабе хворы. Няўжо гэта старасць бярэ верх нада мною?

*8 травеня, субота*

Дождж. Змрок. Нуда. Адпаведна і ў маёй галаве. А тут яшчэ роспач цікуе. А вось у шызікаў не баляць галовы. «Засталося…»[4]

*9 травеня, нядзеля*

Званіў Палякоў з Ізраіля, Бурсаў з Масквы. Змагаўся з галаўным болем і перакладаў чаргаві. Накідаліся радкі: «Дасць…»[5] «Вяду…: Вядома, стома…» [у дзённіку].

*10 травеня, панядзелак*

Скончыў Ганадавы чаргаві. Можа, выкараскаюся як… Додзік (Сімановіч) прасіў нейкія радкі яму для вечарыны Васілёвай. Уночы прамармыталася:

Неўміручасці не абмялее рака,
Яна, як думка Быкава, у руху.
Віцебск шануе заступніка, земляка —
Князя крывіцкага, вешчага духу…

---

[1] Гл.: І… (3.05.04) // Руны Перуновы. С. 441. Па першым радку гл.: «Мана і нябесная манна…» // Халодная памяць вады. С. 418.

[2] Гл.: Наканаванасць (5.05.04) // Халодная памяць вады. С. 339.

[3] Гл.: Спакон; Прыкуты (6.05.04) // Тамсама. С. 308; 301.

[4] Гл.: «Праляцелі, як гусі, дні…» (8.05.04) // Тамсама. С. 345.

[5] Гл.: Дасць… (9.05.04) // Тамсама. С. 281. (У дзённіку апошнія радкі: «Бог даў жыццё, Ён дасць і на жыццё…»)

*11 травеня, аўторак*

[…] на помніку Караткевічу накрамзолілі свастыку. А перад гэтым у хаце Адамовіча[1] Алеся. Адна рука накіроўвае. […].

*12 травеня, серада*

З Ілонай да Вамуша. Уліцёнак[2] прапанаваў на «Свабоду» вясёлыя кароткія ўспаміны рабіць. Паспрабую. Не адпускае галава. Пятля роспачы. Безвыходнасць. Дзякуй Пётру й Уладзімеру, хоць трымаюць мяне.

*13 травеня, чацвер*

Да Пётры. Выцягваў мяне. Як выйсці з безвыходнасці?

*14 травеня, пятніца*

З Вамушам у 214-ю гімназію. Дзеткі цэлы спектакль паставілі «Муха-цакатуха»[3].

*15 травеня, субота*

Пазваніў Мікола Вяршынін[4]. Сам у захапленні ад кніжкі сваёй. Шчаслівы чалавек, калі ён можа радавацца. Не мае значэння, чаму. Рабіў абразкі для «Свабоды». У руках калатня, як пасля застолля. Нэрвы. «Кароткія…: Гарластыя ў нас ёсьць хвалевічы…»[5], «Не перамог…: Хоць зведаў рызыкі й страху смак…»[6], «Не ўся…: А цёзка Броўкаў, Пётра Першы…»[7], «Нарабіў…: Грачанікаў[8] з канкрэтных дзеячоў…».

---

[1] Адамовіч Алесь (Аляксандр Міхайлавіч; (1927–1994), беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, крытык, выкладчык, грамадскі дзеяч. Доктар філалагічных навук (1963). Прафесар (1971). Член-карэспандэнт АН БССР (1980). Лаўрэат прэміі Міністэрства абароны СССР (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1976).

[2] Уліцёнак Аляксандр Леанідавіч (н. 1954), беларускі журналіст, выдавец, грамадскі дзеяч. У 2002–2005 гг. дырэктар, нам. дырэктара ТАА «Сободные новости плюс», у 2005–2010 гг. рэд. эфіру Радыё «Свабода».

[3] Па вершаванай казцы К. Чукоўскага. *Чукоўскі* Карней Іванавіч (сапр. Карняйчук Мікалай Васільевіч; 1882–1969), рускі пісьменнік, літаратуразнавец, перакладчык. Лаўрэат Ленінскай прэміі (1962).

[4] Вяршынін Мікола (Мікалай Пятровіч; н. 1940), беларускі паэт-сатырык.

[5] Гл.: Уладзімер Караткевіч // Дуліна ад Барадуліна. С. 84.

[6] Ягораў Міхаіл Аляксеевіч (1923–1975), беларускі партызан. Герой Савецкага Саюза (1946). З 1944 г. на фронце. У ноч на 1 мая 1945 г. разам з Мілітонам Кантарыя ўзняў Сцяг Перамогі над Рэйхстагам. Гл.: Міхаіл Ягораў // Тамсама. С. 8.

[7] Гл.: Пятрусь Броўка // Тамсама. С. 132.

[8] Грачанікаў Анатоль Сымонавіч (1938–1991), беларускі паэт, перакладчык. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР (1984). Гл.: Анатоль Грачанікаў // Тамсама. С. 104.

*Пімен Панчанка*[1]

Змяняліся ўлады і ўладкі,
Ды Панчанка духам не падаў.
Не дужа-ткі пляскаў у ладкі,
Не кленчыў, не клянчыў пасадаў.
На бюракратычныя дзоты
Ён кідаўся ў вечным запале,
Квола словы любові й пяшчоты
Ў чытацкія сэрцы запалі.
Святая, ды цяжкая праца
З нячыстаю сілай змагацца.

*16 травеня, нядзеля*

У Чырвоны касцёл. Служба. Усё па-беларуску. Душа дыхае. Шмат моладзі, малечы. Паўнюткі касцёл. Людзі да Бога хінуцца.

*17 травеня, панядзелак*

На «Свабодзе» запісаў абразок з эпіграмамі. Выйшаў том «Быкаў на Свабодзе»[2]. Выдатны. Гэта подзвіг Сяргея Навумчыка.

*18 травеня, аўторак*

Да татараў. 60 год дэпартацыі крымскіх татараў. Раніцай на «Свабодзе» павіншаваў Папу Рымскага. Яму сёння 84. «Выдумалі…»[3]

*19 травеня, серада*

Цэлы дзень змагаўся з галаўным болем. Малапаспяхова.

*20 травеня, чацвер*

СП. Прэзентацыя «Быкаў на Свабодзе». Цудоўны вечар.

*21 травеня, пятніца*

Зноў змаганне з галаўным болем. Зноў ратаваў Пятро. Божа, дай моцы вытрымаць! Усё па Бібліі: ворагі чалавеку блізкія ягоныя. […]. Дзякуй Табе, Госпадзе, за ўсё, за ўсё, за ўсё! У людзей на схіле спакой і мажлівасць давесці справы да канца. Нешта напісалася да прадмовы Глебу Ла-

---

[1] Панчанка Пімен Емяльянавіч (1917–1995), беларусі паэт, перакладчык, крытык. Народны паэт БССР (1973). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1959), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1967), Дзяржаўнай прэміі СССР (1981). Гл.: Пімен Панчанка // Тамсама. С. 50.

[2] Быкаў на Свабодзе. (Мінск:) Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.

[3] Гл.: Выдумалі… (8.05.04) // Халодная памяць вады. С. 315.

бадзенку[1]. Адна надзея на моладзь. Яны мусяць выстаяць, вытрымаць, не сагнуцца.

*22 травеня, субота*

Зноў змаганне з галаўным болем. Адчуванне пятлі, якая сціскаецца. […]. Як выжыць? Перачытаў учора «Лісты да сабакі» Язэпа Пушчы. Савецкае гестапа ведала, каго нішчыць, каму не даваць раскрыцца. «Малю»[2]. Пачытаў Васілю Сёмуху. Раіў не друкаваць. Мы ўжо ўсе, аднагодкі, сам-насам са Звышнім мусім гаварыць, без пасрэднікаў.

*23 травеня, нядзеля*

Паўдня ў ложку. Пазваніў Уліцёнак. Ёсць праца, можа, яна мяне выведзе з роспачы…

*24 травеня, панядзелак*

Патроху раблю ўсмешкі для «Свабоды».

*25 травеня, аўторак*

За горад. […]. Вечарам пазваніў Кастусь Цвірка. Яшчэ засталіся людзі з чыстай беларускай душою. Дзякуй, Кастусь, хоць я адчуў сябе патрэбным.

*26 травеня, серада*

Да Вамуша. Прыводзіў мяне ў сябе. […]. Божа, дай мне сілы вытрымаць…

*27 травеня, чацвер*

Душа ў Вушачах, а сам тут. Нейкі падвешаны. Госпадзе, дай мне сілу выйсці з роспачы.

*28 травеня, пятніца*

На трамвайным прыпынку школьніца сціплая, акуратная, дала мне некалькі гронак бэзу. Папрасіла аўтограф. Жыве ў нашым доме. Піша вершы сама. Хораша гаворыць па-беларуску. Пад крыгамі рака цячэ.

*29 травеня, субота*

Бегаю па справах пашпарта. Можа, удасца ўбачыць Святы горад. Апускаюцца рукі. Як быццам жыву не я, а за мяне нехта.

---

[1] Лабадзенка Г. Pager-вершы. Вільня, 2005.
[2] Гл.: Я пачую Цябе… (22.05.04) // Ксты.С. 164.

*30 травеня, нядзеля*

Хаджу ў парк. Цэлы базар шпачкоў. Дзе яны жывуць, тут жа шпакоўняў няма. Мае шпакі адляцелі ў вечны вырай. А мама мяне шпачком называла. [...]. Як выжыць, каб страха не пехала?

*31 травеня, панядзелак*

Увесь травень празмагаўся з болем.

*1 чэрвеня, аўторак*

Дзень добры, Чэрвень! Хоць ты будзь ласкавейшым. Аднёс Лапцёнку карэктуру «Песьні матчыны з Вушаччыны». Нарэшце [Павел] Жук вырваў у соннага генія Бушлякова. Не разумею моладзь, ды яшчэ адраджэнскую. Месяц чытаў карэктуру. Пра такіх у нас казалі: у яго ў роце мухі .буцца. І многа мух яшчэ ў носе. Чалавек загінуў, ніякой павагі. Толькі сябе помняць младагеніі.

*2 чэрвеня, серада*

Вяду прамовы з Генадзем Быкавым наконт магчымага выдання кніжкі вершаў. Пішу патроху для «Свабоды».

*3 чэрвеня, чацвер*

З Пётрам у «Коўню». Хлопцам нейкі заказ падваліўся. Аж настрой у іх добры. Як мне люба ў іх, у сваёй сям'і жаданай.

*4 чэрвеня, пятніца*

Вычытваю карэктуру Зелімхана. Змагаюся з галаўным болем. Дамінічка паехала са школай у Варшаву. Хай ёй шчасціць. Балючая мая крывінка. Ілона як у ваду.

*5 чэрвеня, субота*

Змаганне з галаўным болем. Сам сабе надакучыў. А хочацца, каб нешта дакончыць, да ладу давесці. Божанька, патрывай мяне. Дзякуй Табе, Госпадзе, за ўсё!

*6 чэрвеня, нядзеля*

Прыехала Дамінічка. Трохі адпусціла галаву пад вечар. Прыйшлі радкі: «Сляды»[1].

---

[1] Гл.: Рымскі дыптых: Узрушэнне. II. «Як ішоў малады Хрыстос...» (6.06.–31.08) // Ксты. С. 424.

*7 чэрвеня, панядзелак*

Усё, што Пётра за гадзіну зробіць, за хвілінаў пяць звядзе на нуль […]. […]. Як вытрываць? Госпадзе! Патрывай мяне, дай трошкі сілы вытрымаць. Хоць пад канец дай мне святлінку.

*8 чэрвеня, аўторак*

Патроху пісаў для «Свабоды». Потым з Пётрам праходка. Абяцае выцягнуць мяне. Зняць з мяне стрэс. У мяне стрэс на стрэс наклаўся. Хоць бы колькі пажыць з нармальнай галавой — без боляў, без роспачы.

*9 чэрвеня, серада*

Паўначы не спаў. Круціць надвор'е й адпаведна мяне. Узгадалася калыханка-засыпанка:

Ішоў Бай па сцяне
У чырвоным жупане.
Нёс сямёра лапцей —
І сабе, і жане,
І дзіцёнку па лапцёнку.
Баіць ці не?

Мамачка, бай! А на душы неспакой. Прыходзяць радкі:

*Прашу…*

Душа збіраецца дадому,
Наважыўшыся ўзяць з сабой
Зямную згорбленую стому,
І чорны смех,
І чорны боль.

Ідуць упрочкі дочкі мроі,
І сны сыны — шукаць сябе.
За даляглядную гарою
Мурог трывогі скон скубе.

Што ашукаць спрабую працу,
Я лёсу смутнаму хлушу.
Яшчэ са мной патаргавацца
Прашу душу,
Прашу душу…

Ці будзе калі ў мяне светлая галава, каб напісаць і запісаць, што яшчэ турбуе мяне? Стома, роспач, цямноцча.

*10 чэрвеня, чацвер*

Сёння дзень нараджэння мамы. Дзе душа ейная, як яна пачуваецца? Ці ўбачымся, ці пачуемся? Дзякуй табе, мамачка, за ўсё. Калі можна, даруй мне за ўсё.

*11 чэрвеня, пятніца*

З Пётрам сустракаўся. Выцягвае мяне. Я сам сабе надакучыў. А як жа ён мяне трывае? Бог паслаў мне яго. А наогул, жыву там, дзе бацькаў вяз, дзе Верасовачка, дзе Бутаўшчына. Тут мой цень, а душа там. Каб не звар’яцець, нешта пішу, каб забыцца…

*12 чэрвеня, субота*

Ад Ілоны ні пачуткі. Дзе яна? Што з ёй? Балючая мая крывінка. Злуюся на яе, бо баліць, бо не магу ёй дапамагчы. У такія гады памагаць — гэта ненармальна. Дамінічка без бацькоў фактычна.

*[Васіль Быкаў]*

Дрэва ўдзякі з тонкаю карой,
Рэчцы не шкада зімою лёду.
За любоў народную герой
Мусіць заплаціць свайму народу.

(Выпадак з таксістам.)

*13 чэрвеня, нядзеля*

Пішу для «Свабоды». Ад Ілоны ні гуку. Як я прывязаны да ўсіх сваіх.

*14 чэрвеня, панядзелак*

Ледзь выцягнуў мяне Пётра. Можа, усё-ткі скрануся з мёртвай кропкі — з’езджу ў Віцебск і Вушачу. Дай Божа!

*15 чэрвеня, аўторак*

Запісаў казытышкі. Атрымаў пашпарт. Мабыць, удасца пабыць у Рыме. Ілона недзе блукае. Для Уладзімера Арлова[1] ў нейкі пераклад п’есы пераклаў так: «На пазалочаным ганку Сядзелі зранку Цар, царэвіч, Кароль, каралевіч, Бізнесовец круты. А кім будзеш ты?» [Ці:] «Два рыбакі. А ты хто такі?»

[1] Арлоў Уладзімір Аляксандравіч (н. 1938), беларускі кінарэжысёр, сцэнарыст, тэлевядучы.

*16 чэрвеня, серада*

З раніцы ў консулят Германіі. Можа, усё-ткі паеду ў Рым праз Берлін. Вушацкае начальства прывезла запрашэнне на ўрачыстасці з нагоды 80-годдзя Васіля. Колькі вагаліся, колькі раіліся.

*17 чэрвеня, чацвер*

На *Вушачу*! Міхась Скобла за рулём. Седакі — Сяргей Шапран, Валя, я. Машына выязджаць не хацела, папрасіла рамонту. Трохі пастаялі. У Бычкі, па дарозе забралі Валю Быкаву. У Бычках грукат малаткоў, візг пілаў. Поўным ходам канец працы. Усе пабудовы новыя, белыя. Валя кажа: «Як царкоўка». У хаце новая печ, але заслона тая, з той печы. У сенцах жорны. Валя з газэтаў выразала ўзорчатыя фіранкі. У двары дарожка з гравіню (так у нас казалі — гравінь). Двумясцовая шпакоўня-туалет. Пасеялі траву. Ужо курыца прыйшла з суседняга двара дзяўбсці гэтую траву. Ластаўкі пачалі віць гняздзечка ў сенцах, іх выгналі. Тады яны пад столлю ў пуні, выгналі. І нарэшце яны звілі гняздзечка ў вільчаку пуні. Значыць, будынінам стаяць доўга. Ластаўкі прызналі. Едзем назад, а Валя кажа, што асфальтаванку, якую Васіль выбіў як дэпутат, завуць Васілёва дарога — ад Бычкоў да Кублічаў. Дзяўчынка чатырохкласніца Міхасю пераказала «Альпійскую баладу». Жыве Васіль у новых пакаленнях. Па дарозе дамоў да мамы на Бутаўшчыну. Якраз мейсца побач хапае. Як Бог пашле, хачу толькі каля мамы мець вечны дом. У нашай хаце зноў узламаны замкі, нехта лазіў. Нічога, здаецца, не ўзята. Гэта ўсё-ткі «біографи невтомни» з «канторы глыбокага бурэння». Хачу дамоў. Астад'яблеў мне Менск.

*18 чэрвеня, пятніца*

Вечарына Быкава ў СП. Нуднавата й беднавата. Але шчыра.

*19 чэрвеня, субота*

Святы дзень. Васілю, ты з намі. Хоць мы табе й надакучылі. На могілках народу шмат. Чым далей, тым велічней будзе паўставаць асоба Быкава. Беларусь, ссавечаная, знявечаная, будзе дарастаць да разумення генія, пасланага Усявышнім.

*20 чэрвеня, нядзеля*

Генадзь Бураўкін казаў. Як засядала камісія па святкаванню Васіля, калі Пашкевіч назваў, што павінны выступіць я, Генадзь, Сяргей [Законнікаў]. Ускочыў парторг Вярцінскі й закрычаў: «Пара канчаць з прыватызацыяй Быкава. Ёсць і іншыя, хто ведаў. Напрыклад, я». Яго падтрымала Волечка-камсамолачка Іпатава. Савецкія людзі. Сівыя галовы, а сэрцы камсамольскія, [...].

*21 чэрвеня, панядзелак*

Па старой праграме: абміраю, а мяне Пётра ажыўляе. Галава чыгунная. Праз сілу нешта раблю. Гэта мне адгукаюцца вясёлыя дзянькі маладых гадоў. Гэта выходзяць градусы. Так трэба. Дзякуй Госпаду за ўсё, за ўсё, за ўсё! Часам пачынаеш зайздросціць вар'ятам — у іх галовы не баляць. А самому да вар'ятаў не хочацца. Хочацца яшчэ нешта зрабіць.

*22 чэрвеня, аўторак*

Імша па Васілю. На могільнік. Жалобны стол. Госпадзе, прымі душу Васіля!

*23 чэрвеня, серада*

Рыхтаваў Даменіку да пілігрымкі (заплечнік, спальнік купляў). Рыхтаваў сябе таксама да пілігрымкі.

*24 чэрвеня, чацвер*

Усявышні, дазволь пабыць у святым месце. Ад'язджаем.

*Кастамлоты.* Уніяцкая царква ≈ 1579 г. Ікона пакутніка Мікіты (1631). Анёл з чорнымі крыламі (д'ябал). Айцец Раман.

*Люблін*. Начлег у мар'янаў.

* Збіраліся рана, а выехалі з Менска пасля 10-ці. У *Івацэвічах* прыпынак. […]. У царкве ікона пакутніка Мікіты (1631), адна з дзеяў катавання.

Люблін… Сустрэў айцец Сяргей. Утульны двор. Ружы такія гожыя й вялікія, аж не верыцца, што яны натуральныя. Сапраўды, як у Бога за пазухай. Уночы машына, як дождж ціхі.

*25 чэрвеня, пятніца*

*Лехань.* Святыня Маткі Божай Леханьскай. 12 гадзін у машыне.

* Лехань… Веліч і вакол зеляніна, валуны, вада. Ікона Маткі Божай. Матка Божая з'явілася ў лесе. Начлег у *Слубіцах*. Гатэльчык савецкі — усё развальваецца, як дома начавалі. 12 гадзін у машыне. Дрэвы без нацыянальнасці, бо душы не маюць…

*26 чэрвеня, субота*

*Берлін*. Усходняя частка. *Рым!* Дзякуй, Госпадзе!

* Берлін. Аэрапорт. За саветамі будавалі.

Рым! Фантан Трэві. Плошча Венецыі. Плошча Гішпаніі. Саборы захінае рэклама. Турысты. Жывымі выглядаюць толькі коні, гожа ўбраныя для турыстаў. Эўрапейцы сінтэтычнай нацыяй робяцца. А я сябе адчуваю, як і ў савецкі час. Бедны, няўпэўнены, затуканы, загнаны. Госпадзе! Дзякуй за твой дазвол пабачыць святы горад!

Аўрамчык, цёзка святога Міколы.

*27 чэрвеня, нядзеля*

Генеральны дом мар’янаў. Зязюля кукуе ўранку. Саборы. Плошчы. Стоды.

* Рым. Раніцай гарадская зязюля кукуе. Будзіць. Вяшчуе. Птушкі заліваюцца. За сняданнем славак спявае «Цячэ вада ў ярок». Базіліка Санта Марыя Маджорэ (Санта Марыя Снежная). Летам 352 года выпаў снег. І папа Ліберый накрэсліў на снезе кола па перыметру будучай царквы. Служба ў Рускай каталіцкай царкве (фактычна ўніяцкай). Служба на царкоўнаславянскай мове. Надгубіў святога прычасця — віна.

Сабор святога Пётры. Як выдыхнуты. З боскай дапамогай узнесены, дазволены Богам. А леханьскі ўсё-ткі збудаваны.

Асвячэнне касцёла першых рымскіх мучанікаў. Дзеці з Беларусі. Консул **[...]**: «Ребята, встаньте и помашите». Дзяўчаткі падбеглі сфатаграфавацца (з Маладзечна), каб паказаць настаўніцы беларускай мовы.

*28 чэрвеня, панядзелак*

Прыняў Папа! Перадаў яму «Рымскі трыпціх». Прывітанне й паклон ад беларускай інтэлігенцыі. Папа з падзякай прыняў кнігу. Блаславіў усіх, хто працуе на развой беларускай культуры. Падараваў ружанец у пудэлачку з папскай манаграмай.

Тэрэнскае мора. Салёнае.

* Да Сан-Петра. І нас прыняў Папа. Яму ўручыў «Рымскі трыпціх». Павітаў ад імя беларускай інтэлігенцыі, сказаў, што меў радасць перакласці трыпціх, дзе ён звяртаецца да Слова, з якога ўсё сталася, да Звышняга. Набліжаецца да Вечнае Кнігі, размаўляе з Вечнасцю. Сфатаграфаваліся з Папам. Папа падарыў кожнаму з нас па ружанцу.

«Daragi Petra Paklon z Rymu Senja prynjau sam Swiaty Aicec Winszuj Uladzimera Abdymaju *dzidzka Rygor*». 10 грыўнаў за запіс. Лекар: «П’еш, раніцай пахмяляешся, хатніх б’еш, нажніцамі соль бярэш, дай яшчэ 40 грыўнаў, і я дам табе мой партрэт, і ты кінеш піць, і два дні зніч» . — «У мяне няма». — «Тады йдзі адсюль і праз другі выхад». У каробку з-пад тэлевізара грошы. Тэрэнскае мора. Пініі — сёстры вушацкіх соснаў, як хмары, якія выраслі з зямлі.

! «Быць у Рыме і не бачыць Папы?»

*29 чэрвеня, аўторак*

Радыё Ватыкана. Адно з пытанняў пра Быкава.

* Радыё Ватыкана. Невялічкае інтэрв’ю. Запыталі пра Васіля. Потым да Сафіі. Усе святыя, вядома ж, украінцы. На дварэ помнік Тарасу Шаў-

чэнку. Алтар Айчыны — пл. Венецыі. Помнікі ў Рыме як жывыя. Проста людзі стаміліся й забранзавелі ў нейкім сне ці замроенні. Але ў любое імгненне прачнуцца — і загукаюць, пачнуць рухацца, хадзіць. Тыбр хатні. Вечны горад — Вечнасць на хвіліну спачыла перадыхнуць. Ціна на Тыбры — незастылая бронза.

Меса святым апосталам Пятру й Паўлу. Служыў Папа. Патрыярх Усяленскі, як певень, убраны. Фактычная ўнія. Папу цяжка гаварыць, але яго трымае дух. Святасць сыходзіць ад яго. Цяжка дыхае. Словы качае, як камяні, яны ад душы, яны падслуханыя ў вышынях. Слухае, услухаецца ў сябе й прамаўляе. Прыняў я й прычасце ў святы дзень.

*30 чэрвеня, серада*

Зязюля зноў на развітанне пракукавала. Катакомбы Прысцылы[1]. Раней як усыпальні. Людзі карацейшыя былі. На вуліцы +36°. Як казаў Святлоў[2]: яшчэ 4 градусы й піць можна. Finita, finita, labella vita [Скончана жыццё].

* Зязюля зноў пракукавала мне на дарогу дадому. Яшчэ ніколі не будзілі мяне зязюлі й на дарогу не жадалі нечага. Дзякуй і зязюльцы, і вераб'ям. Занатоўваю, а пад вакном кот нешта перадае Рысіку, адначасна сварыцца з сябрам сваім ці з канкурэнтам. За вакном падрастаюць пальмы. Голуб і кажан [крыламі? спяць?] з бел. і чорным.

Катакомбы. Усыпальні. Студні святла. Крыж і якар. Якар — раскрылле, асабліва чаек. Рабавалі варвары ў пошуках золата, потым прадавалі косці як святыя. З фантана папіў і абмыў твар і галаву. Вада надзвычай смачная. Апошні абед. Дзякуй Госпаду!

Базіліка Сан-Петра — зямное лецішча Пятра. Ключы пакінуў, каб адмыкаць душам браму ў неўміручасць. Каля ўсыпальні Езафата. ! Лехань — Рым — Чанстахоў. Ад'езд — на вуліцы + 36°. Катавіцэ, Чанстахова.

*1 ліпеня, чацвер*

*Чанстахоў*. *Ясна Гура.* Святая ікона. Стоды (14). Крыжовы шлях. *Люблін.*

* Ясна Гура. Ікона Маткі Божай (з Грэцыі.) Меса, прычасце. Абарончы вал. 14 выяў Хрыста. Адухоўленая бронза. Сандамірскі замак. Рака Сан дападае да Віслы. Крыжовы шлях.

---

[1] Катакомбы Прысцылы — падземныя хрысціянскія катакомбныя пахаванні II — IV стст. у Рыме.

[2] Святлоў Міхаіл Аркадзьевіч (1903–1964), рускі пісьменнік. Лаўрэат Ленінскай прэміі (1967, пасмяротна).

Люблін. В’етнамская харчэўня. У жываце пажар. Праходка па замчышчу, па замку. Адбудоўваюць, рэстаўруюць. А ў нас ўсё нішчыцца, абмаскальваецца.

*2 ліпеня, пятніца*

Ад’езд. Менск.

* Ад’езд з Любліна. У каго ёсць душа, пільнуецца свайго, звяры, усё плавае, лётае, поўзае. «Бацян, бацян даўганосы, Прапіў боты, а сам босы» [народная цвялілка]. А як з дрэвамі? Хмары й вятры дэнацыяналізаваныя.

*3 ліпеня, субота*

Гулянні, наладжаныя [Лукашэнкам]. […]. Сустрэча з Радзікам. Хоць адна аддушына душы […]. Дома, як заўсёды.

*4 ліпеня, нядзеля*

На імшу. Айцец Сяргей, айцец Андрэй. На стале ў кухні пасівелі васількі.

*5 ліпеня, панядзелак*

Сёння 15 гадоў Дамінічцы. Ілона ўчора званіла, сёння не з’явілася. Званіў з Піцера бацька. Беднае дзіця. Госпадзе, убач яе! Да Генадзя Быкава, да Пётры й Вамуша. Прымаюць […] Вярхсаветам закон пра неабмежаваныя правы КГБ, дакладней, узаконьваюць тое, што яны рабілі й робяць.

*6 ліпеня, аўторак*

Аддаў Шапрану невялікае слова пра Някляева. Выйшла інтэрв’ю ў «Комсомольской правде». Уладзімер (Вамуш) выцягваў мяне зноў. Дзякуй Пётру й яму. Яны мяне трымаюць. Ілона, як цвік у сэрцы.

*7 ліпеня, серада*

Пішу для «Свабоды». У парку прыйшоў верш:

*З берагамі*

*Зміцеру Вайцюшкевічу*

Спявак, як шпак,
Сядзіць на тым суку,
Які згінаецца, але трывае.
Яму самота падае руку,
Ягонай шчырасцю яна жывая.

Спявак вітае новы дзень,
Які
Займаецца ў душы расчараванай.
Хай учарнела крумкаюць крукі,
Надзея выплывае светлай паннай.

Спявак, як той чарот, што сніць рака
І для яго пяшчоту зберагае.
Вітае лёс яго, як земляка,
І поспех поўніць чару з берагамі…

Яшчэ дапісаўся верш з дарогі: «І…»[1]

*8 ліпеня, чацвер*

Да Пятра і Уладзімера. Раблю для «Свабоды». Нейкая разгубленасць і страчанасць.

*9 ліпеня, пятніца*

Валі дзень нараджэння. Ад Ілоны ні гуку. […]. Валя перажывае. Галава разломваецца. Сёння імяніннікі Глеб і Уладзімер, Лабадзенка і Някляеў. Да Валодзі дазваніўся, да Глеба не. […].

*10 ліпеня, субота*

Адправілі Дамінічку ў лагер ля Віцебска ад уніятаў. Намучыліся. Я завіўся. Цяпер галаву хапіла й Дамінічку шкада.

*11 ліпеня, нядзеля*

Галава ў абручах. Усё роўна раблю для «Свабоды». Такі ўжо характар, як улягу, пакуль пастронкі не лопнуць. Роспач не хоча выпускаць мяне са сваіх абдымкаў. Пакахала. Ад яе ўцякаю, толькі ўлёгшы ў працу.

*12 ліпеня, панядзелак*

Троху за горад.

*13 ліпеня, аўторак*

Запіс на «Свабодзе».

[1] Гл.: Да мроі… (7.07.04) // Халодная памяць вады. С. 361.

*14 ліпеня, серада*

Колькі плётак, колькі нянавісці ў [...] кшталту Федасеенкі[1]. Ён, выходзіць, Быкава вучыў пісаць. А я паклёпнічаю на Радзіму, хоць за кватэру плачу па дзяржаўнай цане.

*15 ліпеня, чацвер*

Да хлопцаў у «Коўню». Працуюць шчыра. Прыехала Ілона.

*16 ліпеня, пятніца*

Змагаюся з болем. Патроху абдумваю для «Свабоды» пацешкі. То абміраю, то ажываю. Я й тут, і часам здаецца, што ўжо там. Госпадзе, дзякуй за ўсё!

Шашкí гулялі ў шáшкі; краты прагрызлі крáты; купцы́ … ў кýпцы…

*17 ліпеня, субота*

Да Генадзя ў «Коўню». Ілона паехала да Косці. Баліць яна мне да роспачы. Ці вытрымаю?

*18 ліпеня, нядзеля*

Святая нядзелька. Якая святая была яна ў мамы. Свята душы. Толькі туды й ляціць душа.

*19 ліпеня, панядзелак*

Трохі пад вечар адлягло ад галавы. За працу. Вісіць нада мной яна, каб якая хвіліна спакою. Тлумна. Сумна. Роспачна.

*20 ліпеня, аўторак*

Вечарына Зміцера Вайцюшкевіча. Расце хлопец.

*21 ліпеня, серада*

У «Коўню». Добра ў іх. Працуюць.

*22 ліпеня, чацвер*

Прыехала Даманіка. Завялі мяне, як заўсягды. Але пайшлі нейкія радкі ў «Рымскі дыпціх»[2].

*23 ліпеня, пятніца*

На «Свабоду». Колькі словаў пра Валодзю [Караткевіча]. Гэта ж ужо дваццаць год, як няма яго. А для мяне ён ёсць. Без яго ды без Васіля не

---

[1] Федасеенка Уладзімір Канстанцінавіч ( 1926–2018), беларускі пісьменнік.

[2] Гл.: Рымскі дыпціх: Узрушэнне // Ксты. С. 417.

ўяўляю сябе на гэтай зямлі. А душы няма спакою, жыву, як у канцлягеры. […]. Прачынаешся і баішся жыць. Давялі.

*24 ліпеня, субота*

Вечарам у парк. Ідуць нейкія радкі для магчымага «Рымскага дыпціха». На схіле не даў мне лёс спакою. Падумаць. Папісаць. Каб спакой быў на душы.

*25 ліпеня, нядзеля*

Дзень нараджэння Генадзя Асташонка. Павіншаваў па тэлефоне. Хачу ў Вушачу! У думках толькі там і жыву.

*26 ліпеня, панядзелак*

У «Коўню». Адзначылі Генадзеў дзень. Вечарам скончыў пасміхушкі на «Свабоду». Пётра дапамог прыйсці ў сябе. Ён толькі й трымае мяне. Дасюль дрэнны асадак. Новазаяўлены геній Зміцер Вішнёў[1] прапанаваў выдаць зборнік вершаў. Цікавы памер — 15 старонак. «Толькі ж не давайце такіх, каб нас закрылі». Потым звоніць: «Падрыхтуйце смяшынкі, што йшлі ў «Нашай ніве»». Выходзіць, не дацягваю да іхняй плянкі. […]. Няхай красуецца. Усім мейсца хопіць.

*27 ліпеня, аўторак*

Запісаў апошнія 16 пасмяхушак на «Свабодзе». […].

*28 ліпеня, серада*

Да Генадзя Быкава. Пётра трошкі мяне падрамантаваў. Вечарам у парк, а потым як даў лівень. Да нітачкі змок, як у маладыя гады. Усю дурносць з мяне змыла.

*29 ліпеня, чацвер*

Даводзяць магнітныя буры. У маладосці іх не было. Бываюць імгненні, што з жыццём развітваюся. Як чалавеку мала трэба, каб не стаць ім. А чалавек пакуль жыве, усё яму мала.

*30 ліпеня, пятніца*

У «Коўню». Хлопцы працуюць і працуюць. А мяне Пётра толькі выцягвае й выцягвае.

---

[1] Вішнёў Зміцер Юр'евіч (н. 1973), беларускі пісьменнік, мастак, выдавец. Адзін са стваральнікаў літаратурнай суполкі «Бум-бам-літ».

*31 ліпеня, субота*

Апошні дзень шалёнага месяца. То халодны, то спякотны, то ліўневы. З галавой даходжу. Усё раздражняе. Самая большая кара — гэта мае ўмовы жыцця. […]. Толькі пад зямлёй будзе спакой, і тое наўрад. Госпадзе, за што мне такая кара?

*1 жніўня, нядзеля*

Дзень добры, Жнівень! Дай мне пажаць нейкі плён. Дай супакой душы маёй. Можа, хоць у Вушачы адыду […].

*2 жніўня, панядзелак*

*Вушача!* У хаце нехта быў. Усё пазаліта свечкаю. Нешта шукалі й пілі. Укралі тэлефонны апарат. Замкі выламаны з мясам. Спрытныя землячкі. Добрыя мальцы, толькі сцацца. Пайшоў купляць тэлефон. Падключыў. Не робіць. Адарвалі дрот, відаць. Пайшоў да касцёла. Будуюць, дакладней, рамантуюць. Уніз да рэчкі. Абмялела. Вушача чужая, халодная, хоць і душна да поту. Толькі на Бутаўшчыне ўсе свае. Пайду да мамы. Пасяджу, пагутару. Быў нейкі накід: «Паспее…: У сонца з днём развітанне сумнае» [у дзённіку]. А па даху дождж нэрвовымі пальцамі стукае. У душу вяртаецца спакой. Толькі б тут і жыць…

*3 жніўня, аўторак*

На Ваўчэнскае возера. Сцежкі ўсе пазараслі. Новыя калхознікі грохаюць сабе даміны. Ледзь выбіўся на возера. Паплаваў. Ля берага так густа дзядоўніку. Сівы так далікатна цвіце. Як стары, што апошні раз закахаўся. Верасовачка зарасла. Багата катовых мудак. Валуна даўно няма. Сум.

*4 жніўня, серада*

Зайшоў нейкі затлум, і проста выйшаў у дзверы на гарышчы. Пабіў усё, што можна. Цяпер ні сагнуцца, ні разагнуцца. Мог быць і апошняе лета ў Вушачы. Яшчэ Бог дома быў.

*5 жніўня, чацвер*

Як не трэба загадваць наперад. Збіраўся на Быкаўскі плэнэр у Бычках. Сёння заехаліся хлопцы. А я як калода. І ломіць, і коле, і за сэрца хапае. Пра галаву ўжо не кажу — як у чыноўнікаў […]. Ніколі не думаў, што будзе такое лета ў Вушачы. Не магу прыйсці ў сябе пасля начнога палёту. Ікара пераймаць загілела. Гэта ўсё ж боскае папярэджанне.

*6 жнівеня, пятніца*

Ехалі з Бычкоў Някляеў, Законнікаў, Генадзь Быкаў. Завіталі да мяне. Крыху традыцыйна пасядзелі. Яны паехалі. А я застаўся, разбіты, разгублены. Вывеў сам сябе з працы. Дакладней, не я, а нейкі затлум на мяне насланы быў. Зараз, як кажуць, ні ў дзеўках, ні замужам. Трывога. Роспач. Так да мамы й не схадзіў. Давядзецца чакаць, пакуль змагу хадзіць. Мне ж трэба яшчэ скончыць дыпціх, прысвечаны Папу Рымскаму. Божанька, дай крыху яснасці маёй галаве.

*7 жнівеня, субота*

У вушацкую паліклініку. Рэнтген. Уколы. Не магу працаваць. Усё абыякава. Ці выйду я з гэтага стану?

*8 жнівеня, нядзеля*

Прыехала Валя Быкава. Колькі вушацкіх словаў запісаў. Вядома, узгадвалі Васіля. Хадзіў на ўколы.

*** [Валянціна Быкава:] «Пачнець дудзець [бацька] на маму. А мама прамоўчыць, зважыць, і ўсё добра; чуць што не так, перажаываіць, толькі не скажаць; я ў Бычкі ляту птушачкай; на вязах арэлі, як разгатутаʹюцца; Васіля кохлік чуць не забіў, і на кор захварэлі разам; Васіль палез абіраць вішню, вішэннік. Далоў зваліўся з вішні. Бацька да доктара вазіў; свая зямелька грэіць лепі, чым чужая; валасок ад смерці быў Васіль».

*9 жнівеня, панядзелак*

З раніцы ў бальніцу на ўколы. Не хоча праходзіць хвароба. Галава як у катле. На Ваўчэнскае возера. Пакупаўся, паплаваў сярод далоняў лілеяў. Возера зарастае. Як памяць.

*10 жнівеня, аўторак*

Імша ў капліцы. Сёння дзень святога Лаўрэна, апекуна нашага краю. Дзякуй Богу, вернікаў трохі ёсць. Касцёл неўзабаве адновяць.

*11 жнівеня, серада*

З Прагі званіў Сяргей Навумчык. Дзякуй яму за ўвагу, за клопат! Можа, выдадуць на «Свабодзе» мае выступленні, прасміхушкі, як беларусы сэксам займаюцца. З Роўбам слупкі на магілах Пятра й Марушкі[1] ставілі. Лясны магільнік. Вусціш. Голас крука неяк містычна гучыць. Вушацкія спяць у спакоі.

---

[1] Трафімава Марыя Рыгораўна (1902–1997), стрыечная сястра па бацьку, і яе сын Трафімаў Пётр Аляксандравіч (1924–1998).

*12 жніўня, чацвер*

Раніцай цэлы цуг машын. Прыехалі мастакі з Быкаўскага плэнэру. Застаўся Яўген Шатохін[1] памаляваць наш сад і мяне. Цікавы, самастойны, таленавіты. У свой час мы часцей бачыліся на соймах нерасколатага БНФ. Заўтра паеду ў Бычкі. Вышкі плэнэру. А ў суботу з кім-небудзь у Менск. Трэба праверыцца. Мне не лепшае. Нейкая адсутная галава. Да мамы на Бутаўшчыну. Пагутарыў, пажурыўся, прымерыўся. «Хапае…»[2]

*13 жніўня, пятніца*

Упарадкавалі магілкі Марушкі й Пятра. На магілу да бабулі Маланні[3]. У Бычкі. Закрыццё плэнэра Васіля Быкава. Чатыры маладыя буслы на бетонных слупах. Бацькоў выгналі. Бацькі толькі есці прыносяць. Кормяць яшчэ, пакуль у дзяцей насы не пачырванеюць. Кошка, у яе кацяняткі, задзірала прыезджага сабаку. Кошкі й тыя ляпей сябе пачуваюць у сваёй хаце, чымся беларусы.

*14 жніўня, субота*

З Георгіем Ліхтаровічам у Менск. Як мёртвы. Блага мне. Няўжо гэта канец? Нічога не дароблена. А ўсё, што зроблена, нікому не трэба. Ні я ў Менску, ні я ў Вушачы. Гэтак і пражыў нідзе. Быў Васіль, была апора, ведаў, што ёсць родная душа. Цяпер ні з кім не пагаварыць. Дзяржава савецкая. Асяроддзе савецкае. І сям'я савецкая. Панапіналіся камунякі ў кланаванні.

*15 жніўня, нядзеля*

Як не цэлы дзень абміраў. Сам сабе знадакучыў. Як страціш здароўе, тады й зразумееш, чаго яно вартае. Нішто не міла, ніхто не мілы. Адведаў магільнікі ў Вушачы. Яшчэ сумней стала.

*16 жніўня, панядзелак*

У «Коўню». Пётра й Вамуш. Пётра вярнуў мяне да жыцця. Дзякуй яму!

*17 жніўня, аўторак*

Цэлы дзень абміраў. Рабінавая ноч. Хворы, бедны, нікому не патрэбны. Мне ніколі не праглася шмат грошай. Хацеў, каб было на спакойную працу. Нічога не атрымалася.

---

[1] Шатохін Яўген Сяргеевіч (1947–2012), беларускі мастак, педагог, грамадскі дзеясч. Ганаровы грамадзянін г. Альберт (Францыя).

[2] Гл.: «На могільніку месца суму й сну…» (12.08.04, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 292.

[3] Гайко Малання Несцераўна (1887–1947), бабуля па маці.

*18 жніўня, серада*

Кахінаў шафёр прывёз у Вушачу. Адразу накінуўся на працу, наколькі моцы маёй. Пераклаў верш талыша. І на гэтым стоп. Як мы прыехалі, была госцяй у нас Валя Быкава. Яна без мяне казала: «Пасля Васіля й Рыгор ахлыў». Ужо цяпер ні ад кога, акрамя Валі, не пачую я вушацкай гаворкі, вушацкага вымаўлення. На сон, дакладней, на бессань узгадвалася: «Што ў пытаннях нацый рыцца…» [у дзённіку]. Калі круцілі на расейскі лад усё пры камуністах, Зарыцкі[1] пачаў пісаць па-расейску. І яшчэ ўзгадалася: «Как секретарь…» [у дзённіку].

* [Валянціна Быкава:] «Гэта табе Бог пасцель паслаў [пра падзенне з гарышча]; яны ўжо спецаліўшыся; яна прыветная такая; ужо гэткай даўжыні кот, не *вылінаваў* вясной, *вылінаваіць* поўсць; цяпер *спудліла;* учора цыбулю *лушчу,* сагнуўшыся ў гародзі, ён пішчыць, *кугакаіць* і *кугакаіць;* а людцы мае, што ж мне робіць? Я на гару палезла *з таго страху,* а ён пісь, пісь, пісь, і дзень пішчыць, і ноч пішчыць; *адвечарак,* як пахаладнеіць, ён пішчыць».

*19 жніўня, чацвер*

Іспас. На Бутаўшчыну да мамы занёс яблыкі. Паклаў яблыкі й на магілу свайго любімага настаўніка [беларускай мовы] Фадзея Францавіча Багдановіча. Пагутарыў з мамай. Папрасіў прабачэння, падзякаваў. На сасне з прыходу магільніка шпакоўня. У лётку, здаецца, душы ўлятаюць. Яблыня Сусвету багатая на яблыкі плянэтаў. Ньютану[2] адзін яблык зваліўся на галаву, і ён адкрыў закон прыцягнення. А нашай Зямлі й вадародныя, і атамныя яблыкі валяцца. Як трывае ад думак, ад адкрыццяў?

*20 жніўня, пятніца*

Прачнуўся з радкамі: «І верабей чырыкае…»[3] Нарэшце перарабілі камін, прачысцілі комін, памянялі люшку ў печы. Цяпер можна будзе зімой бываць. Калі Бог дасць. А так раздражнёнасць, роспач. Перакладаў талышоў. Пісаў нешта ў дыпціх.

*21 жніўня, субота*

[Верш, напісаны Дамінікай з выпадку падзення Рыгора Іванавіча з падстрэшша:]

Птушкай я зляцеў з падстрэшша —
Не пішу я болей вершаў…
Тапкі ля кустоў пакінуў

---

[1] Зарыцкі Аляксей Аляксандравіч (1911–1987), беларускі паэт, перакладчык.
[2] Ньютан Ісаак (1643–1727), англійскі матэматык, механік, астраном, фізік.
[3] Гл.: Ахвярынкі: І верабей чырыкае… (20.08.04, Ушачы) // Ксты. С. 455.

І ў трусах дахаты двінуў…
Напачатку дом суседа[1] —
Ад рання цякла бяседа.
Тое-сёе, вось глядзі,
Мо да хаты давядзі…
Валя з жахам паглядзела:
Што за птушачка ўляцела?!
Босы, голы, нос падбіты
Ды яшчэ з вялікай світай…
Вось і скончым наш аповед,
Наш, на роднай, блізкай мове.
Нам гісторыя вядома,
Вось цяпер набіла мову.
Цяпер ведае ўвесь свет,
Што вандроўнічаў наш Дзед…

*21.08.2004, Вушача*

Гэта мне Дамініка перапісала свой верш. А наогул, цэлы дзень прайшоў, як у мяху. Прыходзіла маладая паэтка Сняжана Мялешка. Чыстая, шчырая, вушацкая. Калі такія яшчэ засталіся, жыве Беларусь.

*22 жніўеня, нядзеля*

Прачнуўся з адсутнай галавой. Адчуванне, што галава пакідае мяне. […]. Ці утрымае мяне Пётра? «Храм жоўтага вала» (з Су Дун-по)[2]. Пад настрой адпаведны пераклалася. Што значыць вечная паэзія. У вечнага народа й паэзія адпаведна вечная. Зноў не мог доўга заснуць. Усё баліць. Прыйшлі радкі: «Начую на гарышчы»[3].

*23 жніўеня, панядзелак*

Савецкія людзі землякі. Адзін, што перакладаў камін, калі добра замачылі, на развітанне казаў, што чытае вершы мае. Праз дзень прыходзіць пасля добрага прыёму ў нутро, з просьбай: «Дайце на бутэльку 10 тысяч». Тыя грошы недзе згубіў. Калі пачыналі працу, папрасіў 10 тысяч на фотаздымак на пашпарт. Спаілі камуністы людзей. Сёння ранічай пазваніў Уліцёнак са «Свабоды». Хоча прыехаць заўтра, каб землякі нешта ўзгадалі пра мяне. А мне не да гэтага. Блага. А ў двары з раніцы

---

[1] Пад раніцу, у затлуме зваліўшыся з гарышча, Рыгор Іванавіч сапраўды спачатку пайшоў да суседзяў, Бялевушаў, якія і прывялі яго дадому.

[2] Гл.: Су Дун-по. Храм жоўтага вала // Барадулін Р. Гуканне паэзіі Усходу. Мінск: Рымска-каталіцкая парафія свсв. Сымона і Алены, 2007. С. 61. *Су Дун-по* (Су Шы; 1036–1101), кітайскі паэт; палітычны дзеяч эпохі Сун.

[3] Гл.: Начую на гарышчы (22.08.04, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 315.

сарокі трашчаць. «Ніяк…»[1] Адвячоркам схадзіў да мамы. Памаліўся, пагаварыў, прапяяў ёй «Перапёлку» й «Добра мне». «Бутаўшчына»[2].

*24 жніўня, аўторак*

Цэлы дзень клопат з замкамі. Дзверы ж усе павыламаныя. Лёля паставіў. Распавёў пра выбары. У нас тут дэпутатам назначаны нейкі Сасёнка — сакратар райкама суседняга раёна. Як выбралі, 4 гады вачэй не паказваў. Цяпер указанне яго зноў зрабіць дэпутатам. Віцебскі вертыкальшчык Андрэйчанка[3] прыгразіў Пачэпку[4] вушацкаму, калі Сасёнка не будзе аформлены дэпутатам, ён яго, Пачэпку, не адпусціць з пасады. Бо Пачэпка намыліўся ўзначаліць Гаргаз — мейсца цёплае. А Пачэпка ў сваю чаргу прыгразіў намесніцы Карчэўскай[5], што калі праваліцца Сасёнка, ён яе зволіць. Вясёлая гульня […] савецкага разліву. А [Лукашэнка] даў указанне пакінуць 30 адсоткаў старых […] і выбраць 30 адсоткаў жанчын. Дэмакратыя, уср.цца можна. У Расеі 450 дэпутатаў, а ў нас 100. Цікавая прапорцыя на душу насельніцтва. У краме саветызаваная […] дуня крычала мне: «У нас гарэлкі нет, ёсь толька водка й віно!»

*25 жніўня, серада*

Прыходзіла Валя Быкава. Хоць наслухаўся нашае гаворкі. Пра Васіля ўсё казалі. […]. Да вайны адзіная капейка была, калі бацька за 25 км нёс у Вушачу 5 дзясяткаў яек у кошыку. Мануфактуры не было. Чарга з вечара стаяла, калі што прывозілі. Паркаль. Маці занесла воўну ці шкурку й купіла дзве хусцінкі ў гарошак. З іх пашыла Васілю кашулю. Не хацеў надзяваць: «Будуць смяяцца з мяне…» Перад вайной паркалю ў палосачку купілі й пашылі Васілю кашулю. Яе ўпадабаў і на пашпарт у ёй фатаграфаваўся. Цяпер ў Валінага суседа барометр: у бутэльку пасадзіў п’яўку. Як на пагоду — на дне, а на холад — уверх лезе, на дождж у самае горла бутэлькі. «Лепі праўдзіць, як радыёпрагноз». Заўтра апошні дзень. Нічога не зрабіў. Адзінае, што выжыў. Значыцца, так трэба было. Хадзіў сёння ў капліцу. Зачынена. Касцёл дарабляюць. Зайшоўся на магільнік. Савецкае быдла ў што ператварыла мейсца смутку й кайнасці. Вынікі саветызацыі.

---

[1] Гл.: Прыляцелі… (23.08.04, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 183.

[2] Гл.: Бутаўшчына (23.08.04, Ушачы) // Тамсама. С. 340.

[3] Андрэйчанка Уладзімір Паўлавіч (н. 1949), беларускі дзяржаўны дзеяч. У 1994–2008 гг. старшыня Віцебскага аблвыканкама. Член Савета Рэспублікі Нацыянальнага схода РБ (1996–2008).

[4] Пачэпка Канстанцін Анатольевіч (н. 1954), старшыня Ушацкага райвыканкама (1996–2007).

[5] Карчэўская В. І., нам. старшыні Ушацкага райвыканкама.

* [Валянціна Быкава:] «Чую, холад зайдзіць у шыю, на магу варочаць; памаленьку ж кратаюся; і спрытны, і разумны, і такі характар у яго спакойны; правіць усім, чым можа; так і будзіць *да налецця* стаяць; як ластаўка каля яго; для першага начала сустрэніць; увесь час на Васіля вурчэла, усё крыўдзілася на Васіля, Васіль быў не ў лад; Сяргей болі на бацьку пахож, ён адма′лі не дужа любіў гаварыць. Меншы як жанчына любіў гаварыць; трава пусцілася, зарасла, не відаць барозны; бульбу садзіла, яна развілася, бульба як лапці, на бліны садраць; летась не дужа было дроў, але хапіла, зіма была лёгкая; ! *прымурачак* ззаду за шчытком, там і кот са мной сядзіць, спаў на прымурку; мая кошачка так мяне даядаіць, ! *учупіцца* лапамі за падол; *на прыпале* б сядзела цэлы дзень кошачка; мне сны сняцца ўсякія, а ён ні разу не сасніўся; нейк невыяўна прысніўся; каб гэта на рэдчас, дык нічога; вечарам прыходзіць часценька *выпіты;* у Сямёна Бурака было нейкае гулянне; на саначкі ўскуліла; жыдкога супу з'ела: цяпер цэны параўняліся; ні чыну, ні ўспаміну; а там сусед к ей падсякаецца; іх чорт не пойміць».

*26 жніўеня, чацвер*

Няўжо й на тым свеце ўсё паўторыцца, як адбітае ў ціхім возеры вечнасці? І сям'я? Вечарам да Галіны Варатынскай. Шчырая, даверлівая. Цяжка ёй у ссавечаным мястэчку. Дачка Наташа[1] з анёльскім голасам. Медык. А спявае так, што пасля голас гучыць у табе. Апошні вечар у маміным садзе. І нікуды не хочацца ехаць. Застаўся б, здаецца, тут, пакуль падаўся ў свет як у капейку. Божанька светлы, Божанька ясны, дазволь яшчэ не адзін раз быць дома жывым. А потым на Бутаўшчыну. «Спяшаюся…»[2]

*27 жніўеня, пятніца*

На Менск. За намі гнаўся лівень. Паспелі. Званіла жонка Яндарбіева. Пытаецца, што з кнігай? А што магу адказаць? Нешта круцяць розныя Жукі. Пані Яндарбіева кажа: «Калі трэба грошы, я пералічу на рахунак». А куды, а каму? Гэта не мая кампетэнцыя. Я пераклаў. У лякарні перакладаў. А розныя Бушляковы тры месяцы чытаюць набор. Генэтычна савецкія кадры. Гэта знявага памяці нябожчыка. Гэта на руку маскалістым гэбістам.

*28 жніўеня, субота*

Хатнія клопаты. Зацягнуў сябе на базар. А ў вачах стаіць сусед Васіль Бялевуш. Шчыры, даверлівы. А гэтак яго спаілі на працы ў Наваполацку.

---

[1] Варатынская Наталля Пятроўна (н. 1977), урач-тэрапеўт.

[2] Гл.: «Ацалелая брукаванка…» (26.08.04, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 333.

*29 жніўня, нядзеля*

Алесь прывёз мне свой зборнік «Наспадзяванае». Светлы, чысты, шчыры. Хочацца чытаць і перачытваць. Дай Бог Алесю моцы!

*30 жніўня, панядзелак*

Ад Вольгі Караткевіч хлопец. Жук нешта круціць з Яндарбіевым. На «Свабоду» пра Міхася Стральцова тэрмінова запісаў. Учора прыйшоў ліст ад Сяргея Чыгрына[1] са Слоніма. Ян Чыквін[2] дагаварыўся да абразаў у адрас Янкі Купалы. Хоча, каб палякі за свайго прызналі. Недароблены шляхцюк. З раніцы трылузілася: «А наогул…»[3] Зміцер Вайцюшкевіч робіць альбом. Загаловак «І яшчэ раз пра зоркі ды Эрас» даўгаваты. Алесь кажа, што трэба нейкі іншы. Прапанаваў «Каханне да заікання». Не тое. Можа, «Паравоз кахання»? «Паравоз кахання возіць пары…» [у дзённіку]. Сустракаліся ў Алеся. Зміцеру назоў спадабаўся.

Званіла Ірына Міхалішка. Гэта ж трэба. Васіль, прыехаўшы з Вушачы, пра мой габінэт на гарышчы сказаў: «Дабром гэта не скончыцца». Прадбачыў мой палёт.

*31 жніўня, аўторак*

Апошні дзень не зусім нармальнага месяца. Месяц, увогуле, нармальны, гэта я ненармальны. Здаецца, скончыў «Рымскі дыпціх». Дзякуй Богу! З Прагі званіла Вольга Караткевіч. Пакутуе шчырая й чыстая душа. Б’ецца як рыбіна аб лёд. Адраджэнцы нашыя блізяцца да выраджэнцаў.

*1 верасня, серада*

Пра ўчарашні лівень уночы прыйшлі радкі: «Перасмыкае…»[4] У «Коўню». Дубатоўку 66. Пісаў экспромт: «Міколу Дубатоўку на 1 верасня: Час — цырульнік…» [у дзённіку]. Званіла Вольга. Рюсские ўжо новую тэорыю пад русіфікацыю падводзяць: нацыянальнасць твая такая, на якой мове размаўляеш. А калі на 6-ці мовах? Гэта болей для такіх: рюсский со словарём, уставной и матерный свободно…

*2 верасня, чацвер*

На Кальварыйскіх могілках імша па Яну Матусэвічу. Завёз мяне Яўген Андросік. Дзякуй яму. Шчыры, чысты. Такіх ужо мала. Заехаліся да яго. Жыве ў цеснаце, шчыгульна. Бо не крадзе. Пародыя на дзяржаву. […].

---

[1] Чыгрын Сяргей Мікалаевіч (н. 1958), беларускі паэт, журналіст, краязнавец.

[2] Чыквін Ян (псеўд. Янка Дубіцкі; н. 1940), беларускі паэт, перакладчык, літаратуразнавец (Польшча). Доктар філалагічных навук. Прафесар.

[3] Гл.: «І жыццё пранасілася…» (30.08.04) // Халодная памяць вады. С. 295. Таксама гл: Ахвярынкі: І жыццё пранасілася… // Anima. С. 122.

[4] Гл.: Перасмыкае… (1.09.04) // Халодная памяць вады. С. 318.

*3 верасня, пятніца*

Нічога рабіць не магу. Ломіць і галаву, і спіну. З'ездзіў, лічы, за горад. […]. Жыць немагчыма. Як яшчэ мне Бог дае нейкія хвіліны штосьці напісаць? […]. Нідзе мне няма спакою. А хацелася б яшчэ нешта напісаць, прывесці да ладу розныя накіды, уражанні. А яшчэ над каркам і над душой — безграшоўе. Няма свежай галавы. Яе ні на якім кірмашы не купіш. Камуністы й самое паняцце, і сутнасць сям'і зрушылі, збаўталі, перакавэркалі.

*4 верасня, субота*

Якраз месяц майго начнога палёту з гарышча роднай хаты. Блага мне. Усё нялюба. Пачаў перапісваць «Рымскі дыпціх». Доўга за сталом не магу сядзець. Ляжаць таксама цяжка. Хадзіць няма моцы.

*5 верасня, нядзеля*

Рабіў праз сілу ўстаўкі для Зміцера ў «Паравоз кахання». (Двухрадкоўі да дыска, у дзённіку).

*6 верасня, панядзелак*

Традыцыйнае змаганне з галаўным а цяпер і са спінным болем. Прыйшлі радкі: «Працяг: Рэвалюцыя мае застольны працяг…» [у дзённіку]. На праспэкце сустрэў Лявона Дранько-Майсюка. Цікава пагутарылі. Ён усёткі асоба. Мае закіды ў ягоны бок ў аснове сваёй неабгрунтаваныя. Болей бы такіх творцаў!

*7 верасня, аўторак*

Ракам-бокам перапісаў дыпціх. Толькі Пётра і трымае. Тарас сказаў навіну — днямі аб'явяць рэферэндум пра змены ў […] Канстытуцыі. (Лукашэнка) будзе на трэці тэрмін «выбірацца». А там пажыццёва […]. Мая даўняя «дурнота» (1996) дарэчы:

Кот праводзіў рэферэндум,
Клапаціўся пра мышэй.
Мышы верылі легендам
І пішчалі ўсё цішэй.

І вось! (Лукашэнка) па тэле заявіў пра сябе. «Пажыццёвы: Беларусы! Сала рэжце….» [у дзённіку].

*8 верасня, серада*

Трошкі за горад. Распавялі: пані, якая дужа любіць чарку, насабірала поўны мех пустых пляшак. І крыўдзіцца на няроўнасць: «Повен двор

машынаў, а нам даводзіцца на плячах цягаць мяхі». У электрычцы. Маладзіца. Муж памёр. Пэнсія 160 тыс. Уладкавалася прыбіральшчыцай. Толькі Лукашэнку бачыць на пасадзе. А каго яшчэ? Распавядае суседцы, як яны кралі на свінаферме гной для гароду на лецішчы. Яма. Пілавінне. Каб не ўтапіцца, намасцілі дошкі. Толькі па палове вазкоў набралі гаўна, як міліцыянэр. Загадаў выкідваць назад, бо пратакол і штраф. Ледзьве ўгаварылі. Міліцыянт паехаў, а яны па поўнаму вазку дабралі. Дайшла шчаслівая. Усё дзякуючы Лукашэнку. «Простые советские люди повсюду творят чудеса».

*9 верасня, чацвер*

Дзень народзінаў Зелімхана. Вечар Алеся Камоцкага ў Музэі Янкі Купалы. Добра ўсё прайшло. Алесь малайчына!

*10 верасня, пятніца*

Пайшоў у парк да бяроз. Іду. Простые советские люди п'юць. Адзін дабрачынна пытаецца: «Дзед, бутэлькі возьмеш?» Учора авацыі, кветкі, сёння бутэлькі. Паняцце такое: раз стары ў парку — значыць, збірае пляшкі. Такі дабрабыт [...]. Некалі Броўка зімой у кажуху выйшаў з лецішча. Падыходзіць адзін: «Што, дзед, вартуеш? Жывуць жа сволачы, га?» Напісаліся радкі: «Досыць павукамі павучыцца...» Пачытаў Алесю. Параіў зрабіць яму для песні. Гэта прыпевам. Паспрабаваў: «Досыць!»[1] Чытаю зборнік Ірыны Багдановіч[2] «Сармацкі альбом». Выкшталцона, узнёсла, мудра. Такіх паэтак у нас мала было й мала ёсць. Адраджэнне мілосцю — самая надзейная праца паэзіі. І яна якраз у Ірынкі — іскрынкі з крывіцкага вольнага вогнішча.

*11 верасня, субота*

Званіла Вольга Караткевіч. Пакутная душа, бо трымтлівая й мудрая, узнёслая й ўзважлівая. Ёй бы вартага яе хлопца. Прыйшлі радкі, навееныя рэферэндумам: «Усё адно: Лёс — касалапісты мядзведзь...» [у дзённіку]. [...].

«Там...»[3]

---

[1] Гл.: Досыць! (10.09.04) // Ксты. С. 220.

[2] Багдановіч Ірына Эрнстаўна (н. 1956), беларуская паэтэса, крытык, літаратуразнавец. З 1997 г. выкладык БДУ. У 2002–2003 гг. вядучы навуковы супрацоўнік Музея Я. Купалы. Кандыдат філалагічных навук (1985).

[3] Гл.: Там... (11.09.04) // Халодная памяць вады. С. 58.

*12 верасня, нядзеля*

Успомніліся радкі, як пра мяне:

С утра болела голова.
Хоть мне ужасно надоела
Старинная игра в слова.
Но я не знал другого дела[1].

Хадзіў да бяроз лечыць дурную галаву. А ў яе лезе:

*Не шкадуюць...*

Нястомная хада.
Упартае вясло.
Руплівая вада.
Бяссоннае святло.

Сябе ім не шкада —
Каб сны вясны жылі,
Каб толькі ўсім было
Трывала на зямлі…

*13 верасня, панядзелак*

Аддаў Бушлякову праўкі Яндарбіева. Хай цягнуць далей прафэсійныя адраджэнцы. Быццам бы аб’явіўся Жук. Усе цягнуць з Зелімханам. Бога ў душы не маюць. Калі карэктуру ў 100 старонак чытаць паўгода, дык пра адраджэнне й заікайца няма чаго. Падабаецца быць пры нейкім клопаце. Як той яйкі варыў і прадаваў па той жа цане, што й купіў. Затое навар і пры справе.

*14 верасня, аўторак*

Даходжу з галавой. Усё няміла. Адзін. А ўсё-ткі якое гэта цуда — выданне Поўнага збора Янкі Купалы! Дакумэнты кажуць самі за сябе. Паказваюць, хто ёсць хто. Узяўся б нехта напісаць кнігу пра Янку Купалу без аглядак, з улікам дакумэнтаў, архіваў. Тады й розныя фальваркоўцы Чыквіны не брахалі, каб перад палякамі выслужыцца.

*15 верасня, серада*

Перачытваю Артура Вольскага[2]. Светлы быў чалавек і паэт. 23-га 80. Толькі дабрыня ад яго сыходзіла. Я ўдзячны яму за многае. Светлая па-

[1] «С утра болела голова. Но хуже то, что надоела старинная игра в слова, а я не знал другого дела», — радкі з верша С. Куняева. *Куняеў* Станіслаў Юр’евіч (н. 1932), рускі паэт, публіцыст, перакладчык, крытык.

[2] Вольскі Артур Вітальевіч (1924–2002), беларускі паэт, драматург, перакладчык.

мяць. Узгадалася, як Цітовічу[1] пісаў: «Мы славім Вас і Ваш «Бахор», Няхай не гнецца Ваш багор!»

*16 верасня, чацвер*

Галава тармозіць. Чытаю «Памяць»[2] пра Вушаччыну. З савецкіх пазіцый. Дадзеныя пра мяне да 86-га года. Так зручней. Хамуты, як некалі казаў Броўка.

*17 верасня, пятніца*

Трохі за горад. Хоць на колькі на ўсё забыўся. На душы камень.

*18 верасня, субота*

Галава расколваецца. Роспач. А ўсё роўна радкі лезуць: «Ёсць!»[3], «У каго?»[4]

*19 верасня, нядзеля*

Адам[5] нагадаў, што трэба ўступ да перакладу вершалістоў. Чэслаў Сэнюх[6] пераклаў. Сабраўся з духам — накідаў уступ. І перадрукаваў «Рымскі дыпціх».

*20 верасня, панядзелак*

Аднёс Адаму, каб пераслаў Сэнюху, уступ. Сустрэў там Дзінглі[7]. Напісаў невялікае слова пра Артура. Усяго круціць, дабівае кашаль. Як у нас казалі: кашаль пярэць. Адам даў Ушацкую вуліцу ў вёсцы Цна, яна называлася Кветкавай. Цяпер яна ўвайшла ў рысу Менска.

---

[1] Цітовіч Генадзь Іванавіч (1910–1986), харавы дырыжор, музыказнавец, этнограф. Народны артыст СССР (1968). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1968), Дзяржаўнай прэміі БССР (1978).

[2] «Памяць» — шматтомнае серыйнае выданне энцыклапедычнага характару гісторыка-дакументальных хронік раёнаў і гарадоў Беларусі. Выд-ва «Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі» (з 1985).

[3] Гл.: Ёсць! (18.09.04) // Ксты. С. 320.

[4] Гл.: У каго? (18.09.04) // Халодная памяць вады. С. 279.

[5] Мальдзіс Адам Восіпавіч (1932–2022), беларускі вучоны-філолаг, пісьменнік. У 2003–2006 гг. рэдактар аддзела газ. «Голас Радзімы». Доктар філалагічных навук (1987). Прафесар (1990). Заслужаны дзеяч польскай культуры (1982). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1980).

[6] Сенюх Чэслаў (н. 1930), польскі журналіст, публіцыст, перакладчык, паэт. Лаўрэат прэміі POLCUL (Аўстралія) за ўклад ў развіццё беларускай культуры ў Польшчы (1996). Пераклаў кнігу Р. Барадуліна і В. Быкава «Калі рукаюцца душы...».

[7] Дынглі Джым (н. 1942), англійскі русіст і беларусіст, выкладчык Лонданскага ўніверсітэта. Віцэ-прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў (з 1991).

*21 верасня, аўторак*

Хавалі Рыгора Рэлеса — апошняга габрэйскага паэта. На вянках каб літара на ідыш, у развітаннях каб слова на ідыш. Дазмагаліся габрэі за светлае будучае.

*22 верасня, серада*

Нарэшце ў Бушлякова вырвалі карэктуру. Бычок замаруджанага дзеяння. [...]. І гэта называюцца адраджэнцамі.

*23 верасня, чацвер*

80 год Артуру Вольскаму. Вечарына ў Музэі Якуба Коласа.

*24 верасня, пятніца*

У «Коўню». Вечарам дамоў. Прычапіўся п'яны ці чокнуты, [...], мент. Адчуў вяртанне сталінскіх часінаў. Ад Пётры (запісаў) адэскую песеньку:

Азохэн вэй, салям алейкум, крейцан.
Я снова здесь, я в бархатных штанах.
Ай, Соня, не томи мне пламень в бейцах
И волосы умой в своих духах.

Я наконец задвинул занавеску,
Пусть смотрят на меня, кому какое что.
Я ей сказал: — Послушай-ка, принцесска,
Я был бы очень Вам обязан, сняв пальто.

И в этот миг она меня узнала
И прошептала: — Нет, не может быть…
И вероятно в обморок упала б,
Но я успел её роскошный бюст словить.

*25 верасня, субота*

Пётравы зёлкі дзейнічаюць. Трохі гуляў канкрэтна. Хоць трэба адпачываць, пісаў для «Свабоды». [...] дракахрусцік у 10-сэрыйным так званым дакумэнтальным фільме (10 год царавання [Лукашэнкі]) адкрэсліў, што [Лукашэнка] умацаваў рубель, а подпіс, што аналітык «Свабоды». [...]. А бацька такі нармальны.

*Юрый Дракахруст*

У кожнай птушкі свой куст і густ.
Хто любіць спёку, а хто завею.
Днём рупіцца пра Беларусь Дракахруст,
А думкі лятуць начаваць у Расею.

*26 верасня, нядзеля*

Дабіваю, сам дабіты, эпіграмы на свабодаўцаў[1]. Найбольшая кара — сям'я. Камуністы зруйнавалі асновы крывіцкай сям'і. І цяпер маем савецізаваныя сем'і. Праўда, відаць, ёсць, можа, і нармальныя. Хай ім шчасціць!

*27 верасня, панядзелак*

Амаль дабіў эпіграмы на свабодаўцаў. Вечарам іду ў краму. На ганку клясычны бомж (савецкае слова), ля ганка клумкі, карабкі, зарослы, нешта бубніць, думаў — просіць дабавіць, бо не хапае. Аж расчуў: «Дзед, на двух возьмеш?» Народ за свайго прымае. Я ўсё-ткі — народны ў такім разуменні. Для Зміцера: «Пан не пытае ў пані пра гады...» [у дзённіку]. Эпіграма па заказу: «У арыйкі Марыйкі...» [у дзённіку].

*28 верасня, аўторак*

Дапісаў апошнія эпіграмы. 43. Галава, як мангольскі стэп, такая ж шырокая й такая ж дурная. Так любіў казаць Караткевіч. Званіў Някляеў. Шалёна люблю яго й ганаруся ім. Сапраўдны!

*29 верасня, серада*

Амаль жывы паехаў з Алесем запісваць двухрадкоўі для Зміцера Вайцюшкевіча. На ходу давялося пісаць: «У кожнага ўстае адно пытанне...», «Да партрэта Зміцера Вайцюшкевіча: Агонь ў паглядзе...» [у дзённіку]. Жарты жартамі, а галаву сарваў грунтоўна. Пётра сказаў тыдзень адпачываць. А ў галаву ўсё роўна лезе й лезе: «Вяртаем...»[2] У запісах мінулага стагоддзя (1995) знайшоў: «Разгон: Адчувае, што яна старая...» [у дзённіку].

*30 верасня, чацвер*

Мне ўсё цяжэй быць Барадуліным. [...].

*1 кастрычніка, пятніца*

Дзень добры, месяц сталай восені! Будзь спагадлівы. А ў галаву лезе: «Сэнс»[3]. Узгадалася, як некалі пісалася ў Караткевіча: «Мы сядзелі ў Фаміча доўга і цярпліва. Стала піва, як мача і мача, як піва». Званіў Генадзю. Ён распавёў, як у лесе заблудзіўся. Шчыры быў, бо арыец, крывіч.

---

[1] Гл.: Дуліна ад Барадуліна. С. 224–245.
[2] Гл.: Вяртаем... (29.09.04) // Ксты. С. 256.
[3] Гл.: Сэнс (1.10.04) // Халодная памяць вады. С. 320.

*2 кастрычніка, субота*

У Купалавым доме прэзентацыя кнігі Паўлікавай[1] «Плач па анёлу». Пакуль збіраўся народ, напісаўся экспромт: «Прэлюдыя: Пра Люду колькі слоў…» [у дзённіку]. Люда за багатым бізнесмэнам, перажывае, што кот уцёк у багацэйшы катэдж. Ларыса (Горцава) пекліцца на чатырох працах. […]. Час не мае літасці. Кожны павінен адпакутваць сваё рана ці позна. Распавялі, як Брэжнеў[2] выступаў перад іванаўскімі ткачыхамі: «В вашем многосисечным коллективе…» Цяжка было вымавіць — шматтысячным (многотысячным).

*3 кастрычніка, нядзеля*

Заўтра адстраляюся на «Свабодзе», калі дасць Бог. Галава ўжо не вытрымлівае. «Вертыкаль адверху ўніз…» [у дзённіку].

*4 кастрычніка, панядзелак*

На «Свабоду» яшчэ трэба 3 эпіграмы. Сустрэўся з Шапранам. Ён будзе рабіць фота для магчымай кнігі «Дуліна ад Барадуліна». Прыехаў Лукашук. Усе ўпэўненыя, бо пры справе й грашах. Ніякавата пачуваць сябе старым, хворым, бедным, непатрэбным.

*5 кастрычніка, аўторак*

Ала[3] распавяла. Урача-псіхіятра з псіхіятрычнай лякарні выклікалі і загадалі забяспечыць 100-адсоткавае галасаванне, іначай будзе кепска і ўрачам, і ўстанове. «Галасуйце…» [у дзённіку].

*6 кастрычніка, серада*

Да пана Станіслава. […]. Вечарам у габрэяў памяці Рэлеса вечарына. Каб слова хто на ідыш. Русский язык — язык коммунизма. Званіў Лявону Дранько-Майсюку. […].

*7 кастрычніка, чацвер*

Яшчэ порцыю эпіграмаў на свабодаўцаў трэба зрабіць. Патроху рабіў. Дома, як у вар'ёўні. […]. Трэба цярпець.

---

[1] Паўлікава (Хейдарава) Людміла Фёдараўна (н. 1952), беларуская паэтэса, празаік.

[2] Брэжнеў Леанід Ільіч (1906–1982), савецкі палітычны і дзяржаўны дзеяч. У 1964–1982 гг. 1-шы сакратар, Генеральны сакратар ЦК КПСС, адначасова з 1977 г. старшыня Прэзідыума ВС СССР. Герой Сацыялістычнай Працы (1961), Герой Савецкага Саюза (1966, 1976, 1978).

[3] Сакалоўская Ала Станіславаўна (н. 1937), беларускі філолаг, выкладчык Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта. Кандыдат філалагічных навук (1967).

*8 кастрычніка, пятніца*

Нарэшце! Скончыў эпіграмы на свабодаўцаў. Дзякуй Пётру за падтрымку! Старэю — раздражняюць старыя. Асабліва расейскага разліву. Цешаць душу, хто падобны да мамы, да нашых вушацкіх гадоў маёй маладосці. Жыццё робіцца мулкім — трэба прывыкаць да мулкай пасцелі…

*9 кастрычніка, субота*

Вечарына Алеся Камоцкага. Добра прайшло ўсё. Было моладзі. Гэта галоўнае. Алеся пыталі, ці помніць свае вершы першыя. Мне прыйшло ў галаву — адзін з першых пачаткаў: «Пасуцца ў лузе бугаі, А ў бугаёў х.і, х.і!» Толькі вушацкімі словамі й жыву. Яны да мяне йдуць і ўдзень, і ўночы. Памяццю землякоў, памяццю крывіцкасці жыву. Са мной заўсягды Мама. Ці сустрэнемся там?..

*10 кастрычніка, нядзеля*

Халадае. Бярэцца на золь, на сур'ёзную восень. Прыйшло: «Пабяжыць…: Сын зацятага парторга…» [у дзённіку].

*Не бывае…*

Як затанулыя Атлантыды,
Усплываюць каханыя.
Быкі рэўнасці стаміліся ад карыды,
Мілосць прыкінулася пашанай.

Каханыя — прывідныя аблачыны,
Выдыхнутыя непазбежнасцю.
І ты, як ліст сарваны з ляшчыны,
Ляціш,
Каб самога сябе ж знайсці.

Мілосць
Сваім нахабствам жывая.
Былосць
Адплывае ў сны караванамі.

На свеце каханых былых не бывае.
Яны нечаканасцю пагуканыя…

*11 кастрычніка, панядзелак*

На «Свабодзе» запіс, Сяргей [Шапран] рабіў кадры для магчымай кніжкі. Шкада, але трэба змякчаць эпіграмы на [Дракахруста] й на [Бушлякова]. Былі: «У кожнай птушкі свой куст, свой густ…», «— Ад каго ты ўця-

каеш, крывіцкая мова?» [у дзённіку]. І, вядома, не пойдзе пра лагойскага […]:

Абы яго пяро не спала,
Паэт узводзіць самагмах.
Адсталі Колас і Купала —
Ніл абышоў іх па тамах.
А хочацца хоць з-за пляча
Наблізіцца да Ільіча…

У выдавецтве, дзе ён галоўным рэдактарам, запланаваў сабе 23 тамы. У Леніна ўсё-ткі было болей.

*12 кастрычніка, аўторак*

Трохі за горад. На ўзбочыне цвіце дзьмухавец. Адзін. Як заспанае сонца. Учора сустрэў сына Кляўко[1]. Палкоўнік міліцыі. 50 гадоў. Каб слова па-беларуску. Савецкае пакаленне. Чаго хочам тады ад астатніх, калі дзеці паэтаў такія.

*13 кастрычніка, серада*

Апошнія эпіграмы на «Свабодзе» запісаў. Пётра загадаў адпачываць два тыдні. Пастараюся. «Зямная радасць: За ўзгорак закаціўся бас Ярылы» [у дзённіку]. Галаву сарваў канчаткова. Нічога няміла. Зайздросціць пачынаю шызікам […] — любяць сябе да ўсёру й шчаслівыя.

*14 кастрычніка, чацвер*

Снілася Мама. Яна мяне чакала як бы дома, а я аднекуль не мог сабрацца. Чакае. «Не трэба»[2].

*15 кастрычніка, пятніца*

Хаджу па гарачых гурбах кляновых лістоў. Прыкладваю лоб да бяроз. Галава дурная. Па вуліцы мацюгальнікі. […]. У нас некалі пра вар’ята казалі: у Магілёве пабыў. Там быў галоўны вар’яцкі дом. Цяпер уся Беларусь — вар’ёўня. Хавалі Шамякіна. [Лукашэнка] не прыйшоў. На Мулявіна хадзіў. Ну вось Іван Пятроў сын і не дачакаўся ўвагі ўлады, якую падтрымліваў. Светлая памяць, чалавек быў нармальны, сам жыў і іншым даваў. Сын свайго часу, сын рэжыму.

---

[1] Кляўко Артур Генадзьевіч, палкоўнік міліцыі; сын Г. Кляўко. *Кляўко* Генадзь Якаўлевіч (1932–1979), беларускі паэт, перакладчык.
[2] Гл.: Ахвярынкі: Прафесіяй рабіць не трэба злосць… (14.10.04) // Ксты. С. 455.

*16 кастрычніка, субота*

Ашалець можна! (Лукашэнка) прысніўся. Каб выгнаць з галавы, хадзіў па апалым лісці ў парку. Круцілася ў галаве: «Самотны санэт»[1].

*17 кастрычніка, нядзеля*

Чытаю, як бавіла час шляхта на вушацкіх сейміках. З-за Вячоркі давялося прыняць удзел у постсавецкай камэдыі выбараў і (рэферэндуму). [...]. «Хуткамоўка: Ходзячы па сьцежках босых...» [«Воз вёз лёс»].

*18 кастрычніка, панядзелак*

Прагаласілі, як указаў [Лукашэнка]. Толькі скрамнягі — маглі б даць 101 %. Гэта было б дакладней. Цяпер трэба чакаць нечаканага.

«Вынік»[2].

*19 кастрычніка, аўторак*

Ад Алы атрымаў цікавыя звесткі па вушацкім касцёле. Праўда, іх мала. [...].

*20 кастрычніка, серада*

У «Нашу веру» аднёс «Рымскі дыпціх». Па дарозе купіў шнуркі. Бо зніклі. Па-ранейшай студэнцкай традыцыі трэба было б замачыць. Замачу зялёнай гарбатай.

*21 кастрычніка, чацвер*

Трапіў на прыём з нагоды XXVI гадавіны ўрачыстага пачатку Пантыфікату Яго Святасці Папы Яна Паўла II і 90-годдзя Свёнтака[3]. Рэстаран «Сёмае неба». Паўнютка ўсіх, пачынаючы ад Ніла, сканчаючы Шаранговічам ды іншымі. [...].

*22 кастрычніка, пятніца*

Нагульваў галаву, ходзячы па апалым лісці. Працаваць не магу, таму й вар'яцею. У запісах знайшоў ад Марушкі: «К гарэлцы нічога не прыставіць». Не звар'яцець бы ад думак пра безвыходнасць і галаўнога болю.

---

[1] Гл.: Самотны санет (15–16.10.04) // Ксты. С. 361. Верш прысвечаны А. Макміліну. *Макмілін* Арнольд (н. 1941), англійскі беларусіст. Прафесар Лонданскага універсітэта. Доктар славянскай філалогіі.

[2] Гл.: «На растрачанай душы зіма...» (18.10.04) // Халодная памяць вады. С. 347.

[3] Свёнтак Казімір (1914–2011), рымска-каталіцкі царкоўны дзеяч Беларусі. У 1991–2006 гг. узначальваў Мінска-Магілёўскую архідыяцэзію, у 1991–2011 гг. апостальскі адміністратар Пінскай дыяцэзіі.

*23 кастрычніка, субота*

Рыхтаваўся да сустрэчы у Вушачах. Заўтра асвячэнне святога касцёла. Можа, Яўген завязе. […].

*24 кастрычніка, нядзеля*

*Вушача!* Асвячэнне нашага шматпакутнага касцёла. Паўнютка людзей. Нават (адміністранцы) былі. Асвячаў біскуп Блін[1]. Былі дэлегацыі і з суседніх раёнаў. У душы святасць. Урачыста й чыста. Потым у нашу хату. Сумна ёй самой быць. Лукамольцы абярнулі туалет. Расце змена камуністаў. Гэтулькі смутку павёз з сабою. Сад мокры. Яблыкі доле. Козы чужыя ў садзе. Спрабавалі дарагія землячкі вывернуць вароты жалезныя. «Простые советские люди повсюду творят чудеса». Хочацца павушацку пажадаць: каб па іх вошы пехатой хадзілі!

*25 кастрычніка, панядзелак*

Адыходзіў ад паездзінаў. Вычытаў прасміхушкі на «Свабодзе». Хадзіў па апалым лісці. Выхадзіў: «Дагасанне»[2].

*26 кастрычніка, аўторак*

На «Свабодзе» амаль апошнія праўкі. Сустрэў Алеся Пашкевіча й Барыса Пятровіча. Ва ўніверсітэце закрылі, ліквідавалі кафедру беларускай літаратуры XX ст. Як гняздо нацыяналізму. Шчырэюць […].

*27 кастрычніка, серада*

З раніцы па апалым лісці — прыводзіў галаву ў норму. […]. Хоць Пётра забараніў нешта рабіць, круціліся радкі: «Кропля»[3]. На ўступ да нейкага вадэвіля папрасілі напісаць:

Старинный водевиль
Твердит одно и то же,
Что деньги — это пыль,
Любовь всего дороже.

Пыль золотая всем
Туманить взор умела.
Любую из проблем
Любовь решала смело.

---

[1] Блін Уладзіслаў (н. 1954), польскі каталіцкі святар. У 1989 г. вярнуўся з Польшчы на гістарычную радзіму бацькоў. У 1999–2013 гг. біскуп Віцебскай дыяцэзіі. Доктар тэалагічных навук (1998).

[2] Гл.: Дагасанне (25.10.04) // Халодная памяць вады. С. 151.

[3] Гл.: Кропля (27.10.04) // Руны Перуновы. С. 311.

*28 кастрычніка,чацвер*

Уночы быў прыступ. Я нічога не памятаю. Нэрвовы зрыў, зрыў галавы. Як гэта адключыцца ад усяго? У галаву лезуць вушацкія словы, імі й жыву. Узгадваецца ўсялякая тлуматня: «Абы: Пад Янку…» [у дзённіку]. Некалі пра Дуньку ў Таджыкістане склалася: «Коль на дружбу повелось, Ваш ишак, а наша — Лось!» Бартэр. Дунька ад'язджала ў Манголію: «Дуня мілая, май голаў, Хутка едзеш да манголаў» [у дзённіку].

*29 кастрычніка, пятніца*

Адзмагаўся з галаўным болем. Божанька, дазволь затрымацца. Дай мне трошкі здароўя. Дзякуй Табе, дзякуй Табе, дзякуй Табе!

*30 кастрычніка, субота*

У «Коўню»! Пётра мяне падняў, дзякуй яму! А з устанаўленнем каменя на магіле Васіля цэлую нейкую эпапею з кепскім адценнем задумалі. Збор грошы на магільніцу. Каму гэта трэба? Ці гэта правакацыя […]. Не даюць Васілю спакойна ляжаць.

*31 кастрычніка, нядзеля*

Жывем па зімовым часе. А ў Беларусі зіма пасялілася, відаць, надоўга. […].

*1 лістапада, панядзелак*

Ледзь ачухаўся. Падымаў Пётра. Як схопіць галаву, развітваешся з жыццём. Нічога няміла, нічога не трэба. А тут яшчэ закруцілі з каменем Васілю. Валю Быкаву неяк з Вушачы прывезці. Правільна сказаў Генадзь: «Наш час мінуў». Сучасныя хлопцы ўжо падлічваюць, ці выгодна рабіць тое ці іншае. Дар зá дар, а дарам ніц.

*Васілёў вякáмень*

Вякамень — сын ледавіка сівога,
На пасвішчах сцюдзёных гадаваны,
Падушкай мулкаю людской пашаны
Лёг,
Каб прысніла зябкі сон трывога.

З апосталам зажураным трывога
Маўкліва лёс выгнанніцкі дзяліла.
Трымацьме ўкамянелы сум магіла,
Каб светла йсці душы да пана Бога…

*2 лістапада, аўторак*

Адкрыццё помніка Васілю. Вякамень дужа добра глядзіцца сярод пудовага граніту, адпушчанага ЦК і КГБ сваім служкам. Сціпла, па-быкаўску. Імшу вёў айцец Андрэй. Айцец Сяргей з Рыма прыслаў слова. Былі паслы Эўразвяза. Не было толькі з Расіі й Украіны. З [адміністранцаў] нікога не было. І добра. […].

*3 лістапада, серада*

На «Свабодзе» рабіў подпісы пад фотаздымкамі. Агульны загаловак пра свабодароў: «Быць з праўдаю ў згодзе і — на свабодзе!»; «Мужная праца — думак сваіх не баяцца» [да раздзела].

*4 лістапада, чацвер*

Зноў на «Свабоду». Рабіць нічога не магу — галава чыгунная.

*5 лістапада, пятніца*

Перабіраю завалы вершаў. Яны мяне ўжо завалілі, як жаўталіст зялёны грудок. Трэба аднесці хлопцам у «Дзеяслоў». Болей няма куды.

*6 лістапада, субота*

У «Коўню». Пётра падымаў мяне. Дзякуй яму! Толькі сярод сяброў і ажываю, забыўшыся на ўсе пакуты.

*7 лістапада, нядзеля*

Алесеў канцэрт ва ўтульнай кавярні. Па дарозе. Цераз праспект расцяжкі: «87-я годовщина Ленинской Октябрьской социалистической революции». Мне нагадалася чатырохрадкоўе:

Разрубил берёзу на поленья
Он одним движением руки.
Мужики спросили:
— Кто ты?
— Ленин!
И оп..денели мужики.

*8 лістапада, панядзелак*

Сустрэча з Валерыем Дубоўскім[1]. Унікальна цікавы й глыбокі чалавек. Цікавая прапанова. Можа, з’ездзім у Вушачу. Можа, у мяне будзе кніжка да 70-годдзя. Ёсць яшчэ ў Беларусі глыбінныя натуры. Мяноўна

[1] Дубоўскі Валерый Леанідавіч (н. 1948), беларускі паэт, выдавец. З 1995 г. заснавальнік, кіраўнік, гал. рэдактар, старшыня схода акцыянераў выдавецтва і друкарні «Юніпак».

глыбінныя, мяноўна натуральныя беларусы. Цікава, што й мабільнік адключае, каб не слухалі хлопцы з канторы глыбокага бурэння.

*9 лістапада, аўторак*

Мяняецца надвор'е. Мяняецца й надвор'е майго настрою. Як падумаеш, дык лепей не думаць. Штодня бліжэй і бліжэй…

*10 лістапада, серада*

Вар'яцтва ў жыцці, вар'яцтва ў надвор'і. Не звар'яцець бы… «Вечнасць»[1]. Мяне замуроўвае побыт […]. […].

*Няўцямна…*

Радасць праз усе вякі маладая.
І я адчуваю няўцямна неяк,
Як нячутна іней спадае
У вушацкіх бярэзінак з веек…

*11 лістапада, чацвер*

Дворнікі ў цэлафан зграбаюць лісце, і машыны некуды яго вывозяць. Як нябожчыкаў. Неяк нязвыкла бачыць. Толькі калі нешта пішу, нешта раблю, забываюся, што я нямоглы, бедны, нікому не патрэбны, старэннік, які лавіў вецер. «Пяцізоркавы смутак»[2].

*12 лістапада, пятніца*

Да Сяргея ў «БДГ». Электроннай поштай Пучынскаму[3]: «Юзэф! Весялей па жыцці ступай…» [у дзённіку]. Нікіфаровічу 15-га 70. З Сяргеем нешта рабілі. Можа, «Комсомолка» дасць.

*13 лістапада, субота*

Пазваніў Глеб. Рыхтуе матэрыял пра графа [Кухарскага]. Папрасіў нешта напісаць. Каб карацей — зарыфмаваў: «Хто ён?: Цёзка апостала, лекар…» [у дзённіку]. А на душы зіма, хоць за вокнамі клясычная восеньская імжа. Тады й пачынаеш разумець жыццё, калі яно знікае. «Найвышэйшае ў свеце мастацтва…»[4]

---

[1] Гл.: «Жмурыцца…» (10.11.04) // Халодная памяць вады. С. 330.

[2] Гл.: Пяцізоркавы смутак (11.11.04) // Толькі б яўрэі былі!.. С. 223. Верш прысвечаны В. Нікіфаровічу.

[3] Пучынскі Юзеф Вульфавіч (1922–2007, ЗША), беларускі графік, мастак.

[4] Гл.:«Найвышэйшае ў свеце мастацтва…» (13.11.04) // У неба пехатою. С. 98.

*14 лістапада, нядзеля*

Да Шапрана ў «БДГ». З вакна аўтобуса перадзімовая вада ў Свіслачы нейкай трывогай і ўспамінамі кранула. А наогул, жыву ў Менску, як за мяжой. Каб беларускае слова, каб крывіцкі твар, ссавечанае быдла. Хоць яна ў гэтым з аднаго боку й не вінаватае. Але ад гэтага мне не лягчэй.

*15 лістапада, панядзелак*

Хочацца працаваць, а не магу. Калі працую, тады й жыву. Пачынаю зайздросціць тым, хто мала піша. Не мае клопату перадрукоўваць, не кажучы ўжо пра думку, дзе б надрукаваць. Горы напісанага, накіданага, непрыбранага, не даведзененага да толку. І ўсё гэта нікому не трэба.

*16 лістапада, аўторак*

Абязлісцеў парк. Дрэвы, як быццам цені летніх жывых, гаманкіх, шумлівых дрэваў. Сівер пачынае злавацца. Перадзім'е. І ў палітыцы [...]. Званіў Рыгор Сітніца. Колькі ў яго энэргіі, як ён можа падтрымаць, падзяліцца радасцю жыцця. Дай Бог яму моцы й натхнення!

*17 лістапада, серада*

Зайшоўся ў «Вясёлку» да Чарняўскага[1]. Прыйшлі Панізнік[2], Місько[3], Курбека[4], Кудравец. У іх яшчэ нейкая сіла ёсць. Хоць усе прыбітыя. Савецкая фабрыка выпускала пісьменнікаў. А цяпер яны не трэба нікому. Нават і сабе. Сумна. Зайшоўся ў «Дзеяслоў». Там камічны граф Прушынскі[5]. Хоць павесяліў. Алесь Пашкевіч малады, энэргічны. Дай Бог яму поспеху! Вечарам на праходку. Які беспрытульны й самотны маладзік над горадам. Аж шкада яго. Хоць суцеш, але ж не пачуе...

*18 лістапада, чацвер*

Мокры снег. Сухі гром. Гарачая бліскавіца. Так пачынаўся дзень. Зганяў сябе на «Свабоду». Забраў вёрстку. Можа, будзе кніга. Цяпер нічога не вядома, што будзе заўтра. [...]. А жыць трэба. Як той жыд еў мыла замест масла. Яму кажуць: «Ты ж мыла ясі», — а ён у адказ: «Міла не міла, а раз купіў, дык трэба есці». Пераклаў верш Ганада, прысвечаны Расулу[6].

---

[1] Чарняўскі Мікола (Мікалай Мікалаевіч; н. 1943), беларускі паэт, перакладчык. З 1989 гг. літ. рэдактар час. «Вясёлка».

[2] Панізнік Сяргей Сцяпанавіч (н. 1942), беларускі паэт, перакладчык.

[3] Місько Павел Андрэевіч (1931–2011), беларускі пісьменнік, перакладчык.

[4] Курбека Іван Сцяпанавіч (1934–2009), беларускі паэт-сатырык, літаратуразнавец.

[5] Прушынскі. У пачатку 90-х пераехаў з Канады ў Беларусь. Безвынікова рабіў спробы балатавацца на пасаду прэзідэнта.

[6] Гамзатаў Расул Гамзатавіч (1923–2003), аварскі паэт, празаік і грамадскі дзеяч. Народны паэт Дагестанскай АССР (1959). Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай

*19 лістапада, пятніца*

Ледзь падняўся. Гэта ўжо не арыгінальна. Але суцешыў сябе, што ў мае гады Савецкі Саюз рухнуў, а я яшчэ трымаюся, хоць за плот сподзеву. Што нешта зраблю для роднай Крывіі. Што, можа, скончу, давяду да ладу Вушацкі словазбор. У «Коўні» адзначалі Дзень артылерыста. Толькі там адпачываю душою.

*20 лістапада, субота*

Зіма, здаецца, бярэцца ўсур'ёз, а восень здаецца. Чытаю вёрстку кнігі свабодаўскай. Сур'ёзна працаваць не магу. З халадамі, зазімкамі цягне дамоў. У маладыя гады. Ад старасці не адкруціцца, яе не перахітрыць. Трэба прывыкаць да тытула дзед. А душа пратэстуе. Радуе гэты тытул з вуснаў Дамінічкі й крыху нэрвова бянтэжыць, калі чуеш яго на вуліцы ад чужых.

*21 лістапада, нядзеля*

Дачытаў вёрстку. На базары купіў польскай цыбулі й палескага часныку. Цыбуля замежная. Пры калхозным сацыялізме хутка будзе чыстая вада замежная. Хадзіў па марознай начы, праветрываў галаву. Недарэмна Пётра кажа: «Чым пусцейшая галава, тым яна лягчэйшая…» Па дарозе прыйшлі радкі: «Проста…», «Іначай…»[1].

*22 лістапада, панядзелак*

Ала Сакалоўская (дзякуй ёй, шчырай верніцы й беларусцы!) зробіць кнігу на хрысціянскую хвалю. Даўно пра гэта марыў. Дадаць касэту Алеся з «Псальмамі». Гутарыў з Рыгорам Сітніцай. Душа на мейсца стала. Між іншым, пра «Arche» напісалася: «Археўраўцы, архераўцы…» [у дзённіку].

*23 лістапада, аўторак*

Снегаабвал. Даўно такога не было. Як з маладых гадоў. Украіна вулканіць. Хай бы прайшоў Юшчанка[2]. […].

*24 лістапада, серада*

Пачаў передрукоўваць вершы. Колькі іх — жах. Галава мая ўжо не ўмяшчае іх. […]. Госпадзе, да моцы не звар'яцець, утрымацца.

---

прэміі СССР (1952), Ленінскай прэміі (1963), Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя М. Горкага (1980).

[1] Гл.: Проста…; Іначай… (21.11.04) // Халодная памяць вады. С. 311; 74.

[2] Юшчанка Віктар Андрэеевіч (н. 1954), украінскі дзяржаўны і палітычны дзеяч. У 2005–2010 гг. прэзідэнт Украіны.

*25 лістапада, чацвер*

Нарэшце, здаецца, выйшаў верш: «Чырвоны касцёл»[1]. Чытаў Але. Яна: «Сапраўды, ён увесь у лямпачках». Тарас не разумее, што такое «арыстакратка кахання» й назоў альбома «Паравоз кахання». Гэта як у мяне спытала адна актрыса, ці заплаціў мне Папа Рымскі за пераклад?

*26 лістапада, пятніца*

На вуліцы падышоў маладзенькі хлопчык і спытаўся, ці я Барадулін. «Першы раз жывога Барадуліна бачу». Яшчэ ж жыву. «Леў за жытло не прымае хлеў...»[2].

*27 лістапада, субота*

Да пана Вішнеўскага ў майстэрню з Пётрам. Яшчэ жывуць натуральныя беларусы творцы!

*28 лістапада, нядзеля*

Сапраўдная зіма. Не суровая. Светлая. Пахадзіў, пагутарыў з дрэвамі. Капаюся з вершамі для кнігі, якую, можа, выдасць касцёл.

*Першаснежаньскае*

*М. К. А.**

Спешчаны марознаю пашанай
З-пад павек завеістых пагляд
Снежань здзіўлена адводзіць ад
* Маладой, Кунежнай, Апантанай.
Бо баіцца, што спякотна стане,
Зарунее ўсё, як па вясне.
На душы суровы лёд растане,
І яго пяшчота захлыне,
Як і мяне...

*29 лістапада, панядзелак*

Трошкі за горад. Заснежаны лес патыхае цяплом роднай стараны, маленствам. Зіма вяртае на карані.

*30 лістапада, аўторак*

Вечар памяці Расула Гамзатава. Малайцы дагестанцы, помняць сваіх. Не тое што мы. Потым застолле ў каўказскай хаце. Там пазнаёміўся з маскалём Уласавым Генадзем. У яго 11 лістоў Васіля з Гародні. Абяцаў

---

[1] Гл.: Чырвоны касцёл (25.11.04) // Ксты. С. 17. Верш прысвечны У. Завальнюку.
[2] Гл.: Ахвярынка: Леў... (26.11.04) // Тамсама. С. 454.

аддаць. А Ганад — малайчына. Перагнаў на дыскету й аддаў Пашкевічу два тамы Васіля гатовыя.

*1 снежня, серада*

Дзень добры, Снежань! Будзь маім спагадцам. Вяртай хоць у думках дамоў. «Каб не згас…»[1]

*2 снежня, чацвер*

Вечар Генадзя Бураўкіна ў СП. Відаць, апошні ў гэтае залі. [Адміністранцы] на чале з [Чаргінцом] забіраюць і апошнія два пакойчыкі. Ідзе на тое, каб зліквідаваць СП, стварыць новы, […]. На чале будзе [Чаргінец]. Пасля вечара застолле. Як раз'еўся Дудараў — змест не месціцца ў форму.

*3 снежня, пятніца*

Патроху друкую адным пальцам для кнігі, што мае выдаць касцёл. Дзякуй Але, яна мяне падганяе.

*4 снежня, субота*

Інтэрв'ю з прычыны «Паравоза кахання». Зміцер проста залаты беларус. Умеру геніяльны. Толькі б не занесла.

*5 снежня, нядзеля*

За машынкай. Адным пальцам друкую. Роспач. Трывога. Як я не люблю менскую вуліцу з расейскай мовай. Праз слова б…., не чую сваёй мовы. Чужы й непатрэбны.

*6 снежня, панядзелак*

У СП, у «Дзеяслоў». [Чаргінец] з Бондаркамандай хутка выганяць хлопцаў з пакою старшыні. Трэба ліквідаваць саюз, стварыць пралукашынскі.

*7 снежня, аўторак*

Да Лапцёнка. І ягонае выдавецтва імя лагойскага […] таксама ціснуць. Абяцае ўсё-ткі выдаць «Песьні матчыны з Вушаччыны».

*8 снежня, серада*

Прэзентацыя альбома «Паравоз кахання». Колькі ў Зміцера энэргіі! Рэвалюцыю мог бы зрабіць. Каб вагон золата немцы далі, як Леніну.

---

[1] Гл.: Каб не згас… (1.12.04) // Ксты. С.185.

*9 снежня, чацвер*

У Чырвоным касцёле. З айцом Уладыславам Завальнюком[1] наконт «Кстоў». Потым у Дольнай зале з айцом Аляксандрам Надсанам. Наіўнага й шчырага айца Аляксандра пільна пасуць і трасуць руплівыя прафесійныя адраджэнцы й дазволеныя апазыцыянэры. Ім ці [Лукашэнка], ці айцец — абы нешта ў кішэню. [...] Уладзя наперадзе.

*10 снежня, пятніца*

Госпадзе! Памажы не звар'яцець! Ад усяго, што наўкол, у хаце, у галаве, у душы.

*11 снежня, субота*

Пад уражаннем дакументальнага фільма пра Мусаліні[2]. Усе дыктараты практычна па аднаму сцэнару прыходзяць да ўлады. Розніца ў маштабах. [...].

*12 снежня, нядзеля*

Прачнуўся з вушацкай папеўкай у галаве: «А старой сто гадоў, А старому дзвесце. Стары лесвіцу мастпуіць На старую ўзлезці». Як бы пераклад расійскай фразы «любви все возрасты покорны»[3].

*13 снежня, панядзелак*

Трохі за горад. Па дарозе прыйшлі радкі: «Даганяючы...»[4]

*14 снежня, аўторак*

На «Свабоду». Сыгнал кніжкі![5]

* * *

Талент, як самы бедны на свеце,
Чакае мілосці ад Усявышняга,
Чым і жыве.

---

[1] Завальнюк Уладзіслаў Мацвеевіч (н. 1949), беларускі рыма-каталіцкі святар, душпастыр; гісторык, перакладчык, публіцыст, выдавец; культурна-грамадскі дзеяч. Доктар тэалогіі. Пробашч касцёла свсв. Сымона і Алены (з 1989).

[2] Муссаліні Беніто Амількарэ Андрэа (1883–1945), лідар італьянскай фашысцкай партыі (1919–1943), прэм'ер-міністр Італіі. Пакараны смерцю італьянскімі партызанамі.

[3] Радок з рамана А. Пушкіна «Яўгеній Анегін».

[4] Гл.: «Як у казцы...» (13.12.04) // Халодная памяць вады. С. 313.

[5] Барадулін Р. Дуліна ад Барадуліна. (Мінск:) Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.

*15 снежня, серада*

70 гадоў Станіславу Шушкевічу. Усю раніцу званіў, не дазваніўся. З паўдня дазваніўся да цешчы. Вечарам пазваніў сам спадар Станіслаў, запрасіў на заўтра на вячэру. Будзе лагойскі […], але давядзецца йсці. «Крывіцкі тост»[1].

*Vivat!*

З крывіцкай непахіснай вераю
У нашу моц і неўміручасць
Прысуд пражэрлівай імперыі
Шушкевіч падпісаў рашуча.
Душа жыве высакароднасцю.
Народ трываліцца элітаю.
Стаў чалавекам веку з годнасцю
Сын Беларусі панавітай.

*16 снежня, чацвер*

Вячэра ў Шушкевіча. Ён увесь бацька і вонкава, і ў рухах, і ў інтанацыях. Пасядзеў разам з Генадзем. Душа пацяплела. […]. Паглядзеў на дазволеных апазыцыянэраў, […].

*17 снежня, пятніца*

З Ганадам да Кахіна. Ва ўсіх народаў свае праблемы. Ганаду падпісаў кніжку:

Мой сябра залаты Ганадзе!
Сканаюць хцівасць, здрада, злосць.
Сумленным пры любой уладзе
Нялёгка быць.
Але мы ёсць!
І будзем!

Прыйшло ў галаву, што блэдзі павінны быць і арыстакраткі, і чорнарабочыя. Усялякія патрэбныя.

*18 снежня, субота*

Інтэрв'ю па тэлефоне з Глебам. Для «Комсомолки». «Камсамолцы» шчыра раю…» [у дзённіку]. Загаварылі, ці варта варушыць мінулае. Мне склалася:

У віны няма даўніны.

[1] Гл.: Крывіцкі тост (15.12.04) // Халодная памяць вады. С. 343.

Эпіграму на сябе:

Калі ўжо сватаецца змога
І толькі льга гарбату піць,
Ты пачынаеш з іншых кпіць,
А лепей бы з сябе самога.

А наогул, усё знадакучыла. Часцей і часцей хочацца на Бутаўшчыну да мамы.

*19 снежня, нядзеля*

Тацяна Лаўрык папрасіла нешта для «Роднага слова»[1]. Яны хочуць даць пра мяне пад юбілей. «Лёс да ўсіх па-свойму суровы» [у дзённіку].

Да Сяргея ў «БДГ». Узгадваў пра Валодзю [Караткевіча]: «Скажите, славный витязь, Когда Вы отрезвитесь?» Валодзя адказваў: «Ніколі!» Пра Лось. Ідэалагічная нарада. Машэраў вывозіў, здаецца, у Докшыцы. Багатае застолле. «Дунька з'ела парася, І на тым нарада ўся». [...].

*20 снежня, панядзелак*

Заўтра прэзентацыя кніга «Дуліна ад Барадуліна», якую выдала «Свабода». Калі трэба будзе казаць пра сэкс, напісалася: «І яснадумца, і склеротыка...» [у дзённіку]. І тут згадалася вушацкае: «Ой, дзякаваць Богу За трэцюю ногу, — Хоць яна каротка, Затое салодка».

*21 снежня, аўторак*

Вечарына прайшла добра. Народу было паўнютка, аж заля не змясціла. Натоўп быў на вуліцы, аж выклікалі АМОН і міліцыянтаў. Выступалі сябры, як на сарачынах. Мне прыдаўся знойдзены ў нататніку верш:

*Галоўнае*

Здароўем трэба даражыць,
Галоўнае, каб перажыць
Усіх вялікіх
Нешматлікіх,
Запомніць гузік
І гаплік іх,
А потым пераварушыць
І прах, і памяць,
Іх бялізну
І гэткую падняць пылізну,
Што чхнеш,

[1] Лаўрык Таццяна Анатольеўна, беларуская журналістка. «Роднае слова» — навукова-метадычны ілюстраваны час. (з 1988).

А нехта з плеткароў
Наступных
Скажа:
— Будзь здароў![1]

Пісаў пра некага, а самому прыдалося.

*22 снежня, серада*

Да Алеся, сустрэча з Зміцерам Вайцюшкевічам. У іх цікавы праект наконт 24 лютага. Можа, што й выйдзе.

*23 снежня, чацвер*

Савік[2] передала мне кнігу пра Кіта. Выдадзена шыкоўна. 250 асобнікаў. Шмат фотаздымкаў Вольгачкі-камсамольгачкі, на цэлую старонку падмалоджаная. Пры чым тут Кіт? Мой верш вырваны бязглузда. Навошта было даваць? Як я не стаю ў чарзе па прэмію Кіта, у чарзе па даенню эмігрантаў.

Разявіўшы ратоў кішэні,
Занятыя канкрэтнай працаю,
Майстры машыннага даення
Наіўнай нашай эміграцыі.

У кнізе пра Кіта Волечка […] на фота передае Кіту хлеб з Беларусі. Ручнік, на ім бохан у цэлафане. Густу не хапіла цэлафан зняць.

*24 снежня, пятніца*

На вуліцы дождж. Шчырая восень. Адпаведна на душы. Толькі Пётра й трымае мяне. Дамінічка: «Ніколі не выйду замуж за таго, у каго ймя Ілля. Бо дзеці будуць Іллічы, як Ленін». Саветызм выходзіць з новых пакаленняў, як градусы з адкупаранай гарэлкі.

*25 снежня, субота*

Хрыстос нарадзіўся!
Свет увесь змаладзіўся.
Святыя Каляды,
Усе мы вам рады!

---

[1] Савось Авось (Р. Барадулін). Галоўнае (4.01.88) // Дзень паэзіі-89. Мінск, 1989. С. 285.

[2] Савік Лідзія Сымонаўна (н. 1936), беларуская пісьменніца, літаратуразнавец, крытык. Кандыдат філалагічных навук (1977). Аўтар кн. «Космас беларуса. Жыцьцяпіс Барыса Уладзіміравіча Кіта, асьветніка, вучонага, патрыёта» (1996; 2-е выд. 1998).

Дзякуй, Госпадзе, за ўсё. Дазволь яшчэ затрымацца тут. Цяжка мне, невыносна, роспачна. Як вытрымаць?

*26 снежня, нядзеля*

Змагаўся з болем. Дапамагаў Пётра. Як, вядома, я знадакучыў Пётру. Колькі ў яго цярплівасці! Кожны адзін [дзень?] прашу ратунку. Хвароба надта ўжо ўпадабала мяне. Ніяк не магу адбіцца. Усё няміла, усё абрыдла. І сам сабе.

«Не толькі…: І пасылае жарсць не толькі вочы…» [у дзённіку].

*27 снежня, панядзелак*

Званіла Вольга Караткевіч. Трэба нешта зрушыць з Зелімханам. Масква сустракала забойцаў Яндарбіева на дывановай дарожцы. Намміністра ўнутраных справаў. Ашалелыя расейцы патрабавалі ім узнагародаў. Усё роўна імпэрыя лясне. Рана ці позна. Рабаваць, забіваць — асноўная прафэсія імпэрцаў.

*28 снежня, аўторак*

Выстава Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва. Цікава, каларытна. Потым трохі пасядзелі. Мастакі дружнейшыя між сабой, чым нашыя члены. І што прыемна — нацыянальныя. Прынамсі, акадэмікі.

*29 снежня, серада*

Запіс на «Свабодзе».

Лятуць намеры нашы ў высі.
Рашучасці, як грошай, мала.
Чаго мы ўрэшце дамагліся,
Нам смела Малпа паказала.

Няхай бы сіні Певень гэны
Гарласта так пракукарэкаў,
Каб разбудзіць хоць нашы гены,
Бо мы ж не з племя недарэкаў.

*30 снежня, чацвер*

У «Коўню». Добра пасядзелі з хлопцамі. Юрасёва дачка жыве ў Нямеччыне. Выдатна гаворыць па-беларуску. Распавяла пра сяброўку з Польшчы. Калі вып’е, жартуе: «Хлопцы, мне болей не налівайце, бо я ўжо такая, як вам трэба». Байрачны[1] цытаваў Мазэпу[2]: «Нехай вічна буде слава, жэ

[1] Байрачны Мікалай Іванавіч (н. 1950), беларускі скульптар, мастак-кераміст, аружэйнік, ілюстратар.
[2] Мазепа Іван Сцяпанавіч (1644–1709), гетман Украіны (1687–1708 ).

през шаблю маем права». У мяне ўзнікла ідэя. На шаблі-батароўцы выразаць гэтыя словы і каб Шушкевіч уручыў Юшчанку. Здорава было б. Прыйшоў дамоў — звоніць Ілона, прастуджаная, бедная, разгубленая. Мне як нож у сэрца. Нічым не магу дапамагчы. Сам хворы, бедны, згублены ў гэтым прамаскаленым, прасавечаным, [...] Мінску. Пётра правільна сказаў: «Зямля — планэта пакутаў». Душы нашыя прылятаюць з іншых зорак адбываць пакуты. Душа ў целе, як у цямніцы, а яшчэ на Зямлі мусіць адбыць кару. Каб потым паляцець зноў на сваю зорку. «Спакойна ў вечнасць, як на шпацыр, Ідзе сабе маэстра Мацур[1]» [у дзённіку] . Пад вечар напісалася [«Ахвярынка»][2].

*31 снежня, пятніца*

Не хоча мяне спакойна адпускаць гэты год. Уночы быў прыступ. Ледзь выжыў. А тут яшчэ Ірына Міхалішка пазваніла, што Кіт пакрыўдзіўся на адно ўпамінанне, як ён пабіўся. Гэта ж пісаў не я. А Валя ў гутарцы з Уліцёнкам. Званіў, прасіў прабачэння. Здаецца, Вялікі Беларус дараваў. Я ж яго шаную.

---

[1] Мацур Генадзь (н. 1960), беларускі мастак, каліграф, кніжны графік, выкладчык.

[2] Гл.: Ахвярынкі: Усё разумна ў гэтым жыцці (30.12.04) // Ксты. С. 453.

## 2005

*1 студзеня, субота*

Дзень добры, новы год! Будзь хоць ты болей спагадлівым і цярплівым. Не лютуй! Не звярэй! Будзь чалавекам. Хоць у чалавеку гэтулькі ўжо намяшана — ашалець можна.

*2 студзеня, нядзеля*

Ваяваў з галаўным болем. Леташняя роспач. Дзякуй Пётру, хоць ён трымае мяне. Дашчэнту сарваў галаву й нэрвы. Варта падумаць пра самы дробязны клопат — сэрца пачынае тахкаць, па целе ворах ідзе. Для «Кстоў» напісаў верш: «Вераю»[1].

*3 студзеня, панядзелак*

Па традыцыі — абміраў і ажываў. Узгадваецца Байран: «My Soul is Dark» («Душа змрочная»). Дзе прасвет?

*4 студзеня, аўторак*

Трохі друкаваў для «Кстоў». Званіла Вольга Караткевіч з Прагі. Сама Беларусь, сама Перамога. Дай Бог ёй моцы духу яшчэ болей! На такіх Беларусь трымаецца.

*5 студзеня, серада*

Аднёс Але яшчэ рату для «Кстоў». Прыехала Ілона — прыехала трывога. Як вытрываць?

*6 студзеня, чацвер*

У Вольныя прафсаюзы да Генадзя Быкава. Завёз колькі «Дулін…». Карэктуру ў «Крыніцу». Каб не звар'яцець ад болю, пераклаў верш талыша. Яшчэ болей болю й трывогі. Як утрымацца?

*7 студзеня, пятніца*

Каляды. Як пагляджу на Ілону — жыць не хочацца. Беспрытульная, зацкаваная, бездапаможная. […]. Як выжыць? Дажываю, як сапраўдны паэт — бедны, нікому не патрэбны. Хоць гэта цешыць.

---

[1] Гл.: Вераю (2.01.05) // Ксты. С. 176.

*8 студзеня, субота*

Магутныя буры дзень за днём. Няма моцы трымацца. Вар'яцею, калі нічога не раблю, а рабіць не магу. Роспач, безвыходнасць, марнасць усіх турботаў.

«З годнасцю»[1].

*9 студзеня, нядзеля*

Генадзь [Бураўкін] ездзіў у Полацк да маці. Шчаслівы. Хай доўжыцца шчасце ягонае. Няма маці — няма для каго жыць. Саветызаваныя сем'і — рэпетыцыя перад апраметнай.

[«Ахвярынка»[2]].

*10 студзеня, панядзелак*

Прыйшла Ілона з [Косцем] сваім. [Косця] заявіў Валі, што хоча ехаць за мяжу. Мала нам Дамінікі. Дык яшчэ Ілону на нашую шыю. Як не звар'яцець?

*11 студзеня, аўторак*

Сабраўся ў ПЭН да Баршчэўскага. З ног зваліў боль. Марачкін папрасіў нешта для альбома з Быкаўскага плэнэру.

*Васілёва зорка*

Збегшы з палыновага пагорка,
Сцежка ў свет прарока павяла.
Над Бычкамі Васілёва зорка
Не шкадуе, як і ён, святла.
Векавечным словам Васіля
Ясніцца крывіцкая зямля.

*12 студзеня, серада*

На сустрэчу з Міхасём Скоблам перапісаў ад рукі два вершы, прысвечаныя Зелімхану. Так мяне завяло, што на зрыў галавы й пераклаў два вершы Зелімхана. «Сны маленства майго залатога...», «Так памірае зорка...»[3]. З выданнем будзе цяжка. Цэнзура горай за сталінскую.

---

[1] Гл.: З годнасцю (8.01.05) // Ксты. С. 178. Верш прысвечаны А. Сакалоўскай.

[2] Гл.: Ахвярынкі: Вечная толькі вечнасць... ( 9.01.05) // Тамсама. С. 454.

[3] Гл.: «Сны маленства майго залатога...»; «Так памірае зорка...» (12.01.05) // Халодная памяць вады. С. 120; 384. З дзённіка не зразумела: гэтыя два вершы — пераклады з Яндарбіева (бо падаюцца ў яго кнізе «Сэрца майго сьвятыня», с. 114, 115) і трапілі ў зб. Р. Барадуліна «Халодная памяць вады» памылкова ці яны таксама напісаныя ім «па матывах» (гл. наступны запіс).

*13 студзеня, чацвер*

Любае маё чысло. Крыху за горад. Вясна. Пупышкі прачнуліся. Мядзведзі, якія ацалелі, вылязаюць падыхаць паветрам з мярлогаў. Патэлефанаваў Міхась Скобла. Па вёрстцы трэба адзін верш Зелімхана. Давялося рабіць «па матывах». Светлай памяці брат мой даруе. «На тое Звышнім даецца Радзіма...»[1]

*14 студзеня, пятніца*

Прачхнуўся з галаўным болем і радкамі: «Ціха ўкленчы нябёсам...»[2] У парк, каб праветрыць клець галавы маёй зношанай. Вавёрка на голых галінах. Неяк ненатуральна, бо не ў лесе. Тым болей што не ў вушацкім. Прыйшлі радкі: «Разляцеліся прыцемна над гарою...»[3] Сёння 85 Міколу Аўрамчыку — чыстаму, шчыраму, пакутнаму беларусу. Патэлефанаваў.

Не біў ні ў бубен, ні ў тамтамчык,
Жыццю маліўся ў вечным храме
І быў заўважаны Аўрамчык
І шчырай музай, і сябрамі.
Няхай сын Якава Мікола
Сустрэне сто гадоў вясёла!

*15 студзеня, субота*

Дабіваючы сябе, дабіваю талышоў. Як прывыкнуць да амаль жабрацтва, да непатрэбнасці сябе нікому, да бесперспэктыўнасці? Галоўнае, каб не хвалявацца, не даводзіць сябе марна. Разумею, а не магу.

*16 студзеня, нядзеля*

Здымаў пытанні па Яндарбі ў Наташы [Давыдзенка]. Бушлякоў ужо дайшоў у рэфармаванні — робіць *Алаг* [Алах] (чаму ўжо не Аляг?), *муджагеды*. Форма *баляда* шаленіць мяне. Ні ў воднай эўрапейскай мове тут *я* няма. Чаму мяноўна польскі ўхіл? На вуліцы стала блага. [...]. («Ахвярынка»[4].)

*17 студзеня, панядзелак*

Скончыў з талышамі. Цяпер на мне Ганадавы чаргаві. Гэта ўжо лягчэй. Дарабіў верш для «Кстоў»: «Толькі той...»[5]

---

[1] Гл.: «На тое Звышнім даецца Радзіма...» (13.01.05) // Яндарбі З. Сэрца майго сьвятыня. С. 116.
[2] Гл.: Ахвярынкі: Ціха ўкленчы нябёсам... (14.01.05) // Ксты. С. 454.
[3] Гл.: Ахвярынкі: Разляцеліся прыцемна над гарою... (14.01.05) // Тамсама. С. 454.
[4] Гл.: Ахвярынкі: Ісціна не давярае папроку... (16.01.05) // Тамсама. С. 455.
[5] Гл.: Толькі той... (17.01.05) // Тамсама. С. 357. Верш прысвечаны П. Кухарскаму.

*18 студзеня, аўторак*

Пётра забараніў працаваць. Хадзіў да бяроз. Прыйшлі радкі: «Ці ў сэрцы, ці ў галаве…» [у дзённіку]. «Падумай, жывы смяротны…»[1]

*19 студзеня, серада*

Аднёс Але рэшту вершаў для «Кстоў». Можа, Бог дасць, выйдзе кніга.

*20 студзеня, чацвер*

У «Коўню». Пётра падняў мяне. Цікава пасядзелі. Юрась пра сібірскае вяселле й пра астраханскае. Масковія заглынула Азію й падавілася ёю. […]. «Народ зарабляе свайго караля…» [у дзённіку].

*21 студзеня, пятніца*

Снегапад. Бронзавы Максім і Янка заснягалі. І спяшаюць абтрэсціся. За лета напякліся на сквары.

*22 студзеня, субота*

Да Кахіна. Каміль намаляваў цікавы партрэт. Як каўказцы свайго трымаюцца. Зайздросна. А пад вечар да Генадзя Мацура. Цікавейшы мастак. Натуральны беларус. З Чашнікаў. У размове ў яго раптам урываецца слова *паўшабэлак.* Наша. І ён мне яшчэ радней робіцца. Я ж дурны, памешаны, звар'яцелы на слове.

*23 студзеня, нядзеля*

Да Валерыя Дубоўскага. Цікавая асоба. Зноў жа — зацяты беларус. Адукаваны, абчасаны скразнякамі часу. Філосаф. Паэт у душы й на справе. Цікавыя вершы. Калі чалавек паэт, яго нішто ад паэзіі не адцягне.

*24 студзеня, панядзелак*

Да Шапрана ў «БДГ». Доўга гутарылі. Якая чыстая душа ў Сяргея! Якая ранішняя! Дома воз праблемаў. З Ілоны ніякога толку. Мне хоць у вір галавой. Божа! Дапамажы! Днямі прыйшлі ў галаву радкі: «І лапаць хацеў бы плакаць…»[2] Успомнілася, як у «Коўні» грузінскі князь Тэнгіз заўважыў пра пасла Грузіі на прыёме ў Пуціна: «У яго прыгонная паходка».

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: Падумай, жывы смяротны… (18.01.05) // Ксты. С. 455.

[2] Гл: Ахвярынкі: І лапаць хоча плакаць… (20.01.05) // Тамсама. С. 457.

*25 студзеня, аўторак*

Зноў блага. Дапамагае Ілона. Па заданню Пётры пісаў на «Босае зорцы»[1] нейкай Святлане: «Вам!: Дзе прыгажосць…» [у дзённіку].

*26 студзеня, серада*

Уручэнне прэміі імя Алеся Адамовіча Бураўкіну. Усё цёпла прайшло.

Ёсць і ў класікі папраўкі на
Эксклюзіўнага Бураўкіна.
Нездарма ж гэны гены
Гені
 яльнай пробы ў Гены.

*27 студзеня, чацвер*

Беганіна па Лечкамісіі, каб здабыць курортную карту. Хізры[2] прынёс пуцёўку ў «Крыніцу».

*28 студзеня, пятніца*

Зноў Лечкамісія. Далі карту. Алесь, дзякуй яму дасконна, адвёз мяне ў «Крыніцу». Выдатна ў лесе. Жыві ды не хачу. А галава дурная. Баліць. Я нейкі адсутны. Публіка ссватызаваная […]. Выжываецца ўсё беларускае, што яшчэ засталося. Абслуга беларуская ў прынцыпе. Нават добра гаворыць на мове.

*29 студзеня, субота*

Хадзіў да мора. Замёрзла. Ля вадаспада чароды качак і лебедзяў. Цікава качкі йдуць па лёдзе, як вясковыя кабеты па паркеце, але цвёрда. Лебедзі йдуць здзіўлена-няўпэўнена. Частка качак сядзіць на засняганым лёдзе. Як балотныя купінкі. Рабілі нейкія працэдуры, і прыйшлі радкі: «Чалавек — пясочны гадзіннік…»[3] Чытаю Біблію ў Сёмухавым перакладзе[4].

*30 студзеня, нядзеля*

Пайшоў да качак і лебедзяў у проламцы. Лебедзі, як лілеі жывыя. Неяк ненатуральна крыгі й мора засняганыя й белыя лебедзі. Прыехаў Валеры Дубоўскі. Ідзем з ім. Галачка Раманчыкава. Аднакурсніца. Такая ж чараціністая. Але гады сваё ўзялі. Пасядзелі ў мяне з Валерам. Ціка-

[1] Барадулін Р. Босая зорка. Мінск: ГА БТ «Кніга», 2001.

[2] Асадулаеў Хізры Газіевіч (н. 1956), карацінскі паэт, перакладчык, мастак, скульптар, кампазітар. Заснавальнік сучаснай карацінскай літаратуры. Заслужаны мастак Рэспублікі Дагестан. Жыве ў Мінску.

[3] Гл.: Ахвярынкі: Чалавек — пясочны гадзіннік… (29.01.05) // Ксты. С. 455.

[4] Новы Запавет. Псалтыр. Мінск: ВЦ «Бацькаўшчына», 1995. Пер. В. Сёмухі.

вы чалавек, сучасны бізнесовец. Але нацыянальны. Крывіч натуральны. Маці пасля вайны адна чатырох узняла. Нават быў выпадак, што палезла на гару (гарышча) з вяроўкаю, каб павесіцца. Валера перахапіў задуму гэтую жахлівую. Ён быў старэйшы ў сям'і. Праводзіў яго да Ждановічаў. Тут усё блізка. Было б здароўе, можна было б з'ездзіць у мястэчка. Апускаюцца рукі. Дужа раўнівая спадарыня роспач.

*31 студзеня, панядзелак*

Канец шалёнага месяца. Усё-ткі выжыў. Дзякуй Госпаду! З касцёлу прыязджалі наведаць. Айцец Уладыслаў (Завальнюк) такі спагадлівы й клапатлівы. Зусім іншыя людзі, у чыіх душах Бог жыве. А публіка адпачыванцаў шаленіць мяне. […].

*** Буфет, дзе п'юць ваду мінеральную й напоі ад нэрваў, ад страўніка. Адна з састарэлых райкомаўскіх […] пытаецца, а ці можна разбавіць мінеральную вадой? Адпускальшчыца:

— Навошта?

— Каб болей было.

Савецкі чалавек.

*1 лютага, аўторак*

Мой месяц, дзень добры! Май спагаду. Не лютуй. «Белая цішыня»[1]. У раздзявальні гардэробшчыца вартуе (на падваконні за спіной) пыжыкавыя шапкі былых […] кіраўнічкоў. Раздзявальня адкрытая, кожны сам вешае сваё. Пыжыкавыя шапкі, яны ж з цэкоўскага размеркавальніка. Баяцца, каб свае ж ніжэйшыя былымі чынамі не спёрлі. Электарат [Лукашэнкі] яшчэ дужы. Моладзь адаб'е мазгі папсой. Ёй усё да лямпачкі. Нацыянальнае вынішчаецца пад корань. […].

*2 лютага, серада*

Прыязджаў Алесь і Ліхтаровіч. Гляджу — за вакном на дрэвах шапкі снегу. У іх купаюцца сарокі. Нешта незямное й казачнае. Вечарам патэлефанаваў дамоў — адразу: Ілона кладзецца ў анкалогію, мяне як абухом. Потым дайшло, што на абследаванне. Алесь дапамагаў, а мне нічога не сказаў. […]. Шкада Дамінічку. Толькі вершамі ратуюся. Яны ж мяне й заганяюць у казіны рог. «Чорны дзяцел»[2].

*3 лютага, чацвер*

Дазваніўся да Скоблы. Зелімхан мае выйсці ў 20-х чыслах. Мне вечар СП робіць 2 сакавіка ў Доме літаратара. «Наша ніва» […] нават не дала,

---

[1] Гл.: Белая цішыня (1.02.05) // Халодная памяць вады. С. 423.

[2] Гл.: Чорны дзяцел (2.02.05) // Тамсама. С. 424.

што ў лютым у мяне юбілей. Усіх дала. Гэта мяне не чапае, але чым «НН» розніцца ад пралукашэнкаўскай прэсы? Што стукачы на мове гавораць? Дарэчы, прыйшло ў галаву. (Лукашэнка) робіць рэкламу Беларусі. Хто, напрыклад, у свеце шмат кажа пра Латвію, Румынію, нават Аўстрыю? А пра нашага […] ўвесь свет гаворыць. Хай і са смехам. Жарт сумны. А даводзіць [Лукашэнка] да тога, што хутка, каб навучыць гаварыць па-беларуску, чуць гаворку беларускую, давядзецца ехаць у замежжа да дыяспары. Раніцай іду ў сталоўку. Дзядзька пасыпае дарожкі пяском. І такім сейбітным рухам. Як сее. Аж здаецца, што пясок зарунее праз снег. Электарат [Лукашэнкі] даводзіць мяне.

*Прасцей*

Навошта тлум ідэй,
Навошта шчыры гнеў?
Патрэбна жыць прасцей:
Пад'еў — аюсь у хлеў!

*3 студзеня*

Сустрэў тут Захара Шыбеку[1]. Болей бы такіх шчыруноў беларушчыны!

*4 лютага, пятніца*

У Ілоны не анкалогія. Дзякуй Богу. Я ачуўся. Патроху адыходжу ад Менска. Электарат [Лукашэнкі] меней раздражняе. Нікуды ад жыцця не ўцячэш. Ёсць адно ціхае мейсца — Бутаўшчына. Дый невядома, як *там.* «Чакаю»[2].

*5 лютага, субота*

Сядзіць ува мне адчуванне канца й марнасці ўсяго зробленага. Жывеш-жывеш, усё збіраючыся жыць. А неўзнаку′ прыходзіць канец і трэба збірацца ў вечную дарогу. Застаецца толькі часу на зборы. Каму мала, каму задужа. А па сутнасці ўсё жыццё — зборы у вечную дарогу. Прыязджаў Хізры — горная вяршыня.

*6 лютага, нядзеля*

Заходзіў Захар Шыбека. Ёсць у нас яшчэ нармальныя беларусы са знакам якасці! Прыязджаў Ганад. Далікатны й клапатлівы. Цяжка й яму. Валеры Дубоўскі прывёз мне мабільнік. Дзякуй яму! Буду цяпер амаль

---

[1] Шыбека Захар Васільевіч (н. 1948), беларускі гісторык. У 2000–2012 гг. выкладчык Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта. Доктар гістарычных навук (1998). Прафесар (2003). У 2012 г. пераехаў у Ізраіль.

[2] Гл.: «Дзядзька вусаты…» (4.02.05) // Халодная памяць вады. С. 324.

круты, дакладней, падкручаны. Знайшлі загаловак для яго зборніка: «На пачатку маўчання». Гэта радок з вершаў. Дзень праляцеў у прыемных сустрэчах. А дзень, як з маленства, — светлы, марозны, бадзёры. [«Ахвярынка»[1]]. Як сустракаюся з прыемнымі людзьмі, як маю нейкі клопат, на ўсё забываюся. А роспач чакае, калі застануся адзін. Пётру спадабалася гарэзная думка мая, і я зарыфмаваў: «Павінны…: Каб клопат галоўны збыць…» [у дзённіку].

*7 лютага, панядзелак*

Сярод гэтай […]-партыйнай і прафсаюзна-райкомаўскай [публікі] пракідваюцца яшчэ беларусы нармальныя. Пад выглядам чарнобыльцаў едуць зноў жа тыя […]. Але хай ім на тым свеце цёпла будзе. [«Ахвярынка»[2].]

*8 лютага, аўторак*

Падышоў гімназіст з Гомеля. Кажа, што дужа любіць Быкава. І дадае: ён жа таксама Васіль. Якая мілая непасрэднасць. Піша вершы. Хоць пабеларуску нармальна гаворыць.

*Далягляд*

Глядзіць далей электарат,
Калі вісіць на ліхтарах.

Пад вечар за горад. Хоць душа адтае.

*9 лютага, серада*

Сёння Тарасу 75. У ПЭНе нешта адзначаюць. У чэргах на прыём наслухаўся ўсяго. Як цяжка кіраўнікам былым прывыкнуць, што яны пыл. Нават шкада робіцца. Хоць яны наўрад каго шкадавалі.

*10 лютага, чацвер*

Выйшаў Зелімхан! Міхась Скобла прывёз сыгналы кнігі Зелімхана. Нарэшце выйшла. Прыязджалі з Міхасём Сяргей Шапран і Рыгор Сітніца. Хоць налюдзіў з імі душу. Цікава, што маё меркаванне наконт [Д.] пацвярдзілася. Пасланы ў ПЭН праз Карласа, які на кручку як рэпатрыянт быў […]. Ён жа, [Д.], удзельнічаў з Шэляговічам[3] у стварэнні палескай літара-

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: Ліхвярка-доля пазычае дні… (6.02.05) // Ксты. С. 455.

[2] Гл.: Ахвярынкі: Жыццё — гэта час на зборы ў дарогу (7.02.05) // Тамсама. С. 455.

[3] Шэляговіч Мікалай (н. 1956), беларускі філолаг, грамадскі дзеяч, палітык, прадпрымальнік. Напрыканцы 1980-х — пачатку 1990-х гг. стваральнік і ідэолаг руху за аўтаномію Палесся і вылучэння палескага (ятвяжскага ) этнасу на землях Піншчыны і Берасцейшчыны. З 1990-х гг. працуе ў холдынгу «Shtleng Group».

туры, палескай мовы, закончыў інстытут замежных моваў. […]. А «Свабода» дайшла, што дае гутаркі з [Чаргінцом], з Якубовічам[1]. Усе пад калпаком […].

*11 лютага, пятніца*

Прыехалі Генадзь Бураўкін, Алесь Пашкевіч, Барыс Пятровіч, Сяргей Шапран. З будынка СП выганяюць. Хочуць, каб самаліквідаваўся Саюз пісьменнікаў. Створаць новы на чале з бондар ці [чаргінцом]. Усё паўтараецца, толькі паўтараецца ў камічнай форме. А яшчэ я падхапіў застуду. Генадзь прывёз лекі.

[«Ахвярынка»[2].]

*12 лютага, субота*

І дома хварэю, і тут хварэю. Надакучыла. Кармлю сінічак. Ім усё перабіваюць галубы. Усё, як у жыцці. Хто дужэйшы, той і сыцейшы.

*13 лютага, нядзеля*

Прыязджаў Валеры Дубоўскі. Які цікавы чалавек. Як цікава жыў. Гэта яму трэба запісаць. Будзе чытацца як лепшы дэтэктыў пра ягоную працу ў ЦК, у раёнах. Як няўтульна мне адчуваць сябе хворым і бедным. Без пэрспектывы. Устаеш і кладзешся з нейкім цяжарам. Разумею бальшавікоў, чаму рабілі ўсіх беднымі. І вушацкі выраз: добры чалавек, ды няма чаго даць. Божа! Пашлі прамень надзеі. Дамінічка — мой боль, мой страх, мой адчай. А яшчэ Ілона. А як было маме, калі я піў!

*14 лютага, панядзелак*

Дзень закаханых сярод […] электарату — гэта непаўторна. Ратуюся, калі хаджу ўздоўж затокі ці кармлю сінічак. Пад вакно падлятае й сарока, і дзяцел. Вераб'і па штату павінны быць. Напісаў к заўтраму акраверш: «Жаўранак кахання»[3].

*15 лютага, аўторак*

Па дарозе да карыта прыйшлі радкі: «Варона ў дасвецце валюхае»[4].

---

[1] Якубовіч Павел Ізотавіч (н. 1946), беларускі журналіст. У 1995–2018 гг. гал. рэдактар газ. «Советская Белоруссия».

[2] Гл.: Ахвярынкі: Не ўцячы жывому ад долі (11.02.05) // Ксты. С. 456.

[3] Гл.: Жаўранак кахання (14.02.05) // Тамсама. С. 372. Акраверш А. Сакалоўскай.

[4] Гл.: Ахвярынкі: Варона ў дасвецце валюхае (15.02.05) // Тамсама. С. 457.

*16 лютага, серада*

Прыязджалі Сітніца й Скобла. Наконт вечарыны. Чым бліжэй, тым болей мне не хочацца нічога. Так і не ўдалося адпачыць ад усёй пустой крутні.

*17 лютага, чацвер*

Мой залаты Алесь Камоцкі прыязджаў па мяне. Адразу на юбілей (50) да пана Вішнеўскага.

Супольна з Бахусам і Эрасам
Стварае пан Вішнеўскі эру сам
Сваю
І ўпэўнена, і смела.
Прапахлі пафасам і верасам
Капцы, што ён аперазаў,
Каб тая глеба не гавела,
З якой павінны нарадзіцца
Шэдэўры — Veni, vidi, vici![1]

Хоць пабыў з нацыянальнымі мастакамі, душу адвёў пан Вішнеўскі — эталон шляхетнасці.

*18 лютага, пятніца*

Не магу прыйсці ў сябе. І не хворы, і не здаровы. Глеба Лабадзенку хоча падмяць пад сябе [...] Г. Можа закруціцца галава ў малога. Напісаў як бы прадмову да ягонага зборніка: «Далёка...: Лятуць не зусім жураўліным клінам...» [у дзённіку].

*19 лютага, субота*

Вечарына Генадзя Аўсяннікава[2] ў Купалаўскім. Мона-спектакль з Генадзем. Потым савецкі капуснік. Адрас нават [Лукашэнка] прыслаў. Перадаў праз Валю яму кнігі. На адной напісаў:

Каб markdown розны набрыдзі сканаць,
Пан лёс паслаў цябе, Генадзь.
Да ста і больш кахай, смяшы,
Ані тушы агонь душы!

[1] Veni, vidi, vici — прыйшоў, пабачыў, перамог (*з лац*).

[2] Аўсяннікаў Генадзь Сцяпанавіч (н. 1935), беларускі актор. З 1957 г. актор Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Народны артыст БССР (1974). Народны артыст СССР (1991).

На віншавальнікаў глядзець страшна, […], пачынаючы з так званага міністра культуры Гулякі[1].

*20 лютага, нядзеля*

Святочны дзень. Шапран і Пётра завезлі ў Лошыцкі парк. І я трохі пакатаўся на кані. Уражанне непаўторнае. Сувязь з вякамі й небам. Памяць генаў самая трывалая й ўрачыста-чыстая! «Доўг»[2]. А 6-й званіла Маліка Яндарбіева, атрымала толькі «Комсомольскую правду».

*21 лютага, панядзелак*

Званіў Хізры, што быццам бы Яндарбі жывы.

*22 лютага, аўторак*

Грып зваліў мяне. Усё зрываецца.

*23 лютага, серада*

Клінічна хварэю. Роспач. Куды ўцячы з такога жыцця? Толькі на Бутаўшчыну да мамы.

*24 лютага, чацвер*

Вось мне і 70. Каля 140 званкоў з ўсяго свету. Дзякуй шчырым душам! А яшчэ з паўсотні тэлеграмаў. Галава як цэбар. Душа баліць. Сумна быць і старым, і хворым. Ратуе Пётра. Як толькі ён трывае мяне? Ладзіўся ў «Коўні» з хлопцамі быць. Дык не.

*25 лютага, пятніца*

Пад вечар выйшаў на вуліцу купіць лекі й градуснік. Улезлі радкі ў хворую галаву:

*Ваўкі ўспамінаюць латынь*

Чэрці ў коміне ладзяць фэст,
А ваўкі, як у цёмным лесе,
Свой шукаюць след у прагрэсе.
Homo homini lupus est…[3]

---

[1] Гуляка Леанід Паўлавіч (н. 1949), беларускі дзяржаўны дзеяч. У 2000–2005 гг. міністр культуры, у 2005–2006 гг. старшыня Камітэта па справах рэлігіі і нацыянальнасцяў пры СМ РБ.

[2] Гл.: Доўг (16–20.02.05) // Халодная памяць вады. С. 291.

[3] «Чалавек чалавеку — воўк» (*Плаўт* Ціт Макцый, сяр. 3 ст. да н. э. — каля 184, рымскі камедыёграф).

*26 лютага, субота*

Званіў Ст. Шушкевіч. Ён быў з Польшчы й Літвы. Не магу ўзяць моцы. Узгадалася даўняе: «З запою Я выходжу, як з забою» [у дзённіку].

*27 лютага, нядзеля*

Уваліўся грып у хату. Як выгнаць яго? Трошкі пахадзіў па вечаровым двары. Пераклаў колькі чаргавінак Ганадавых. Хочацца нешта рабіць і страшна сарваць галаву. Удзень званіў Някляеў. Яму спадабаўся «Рымскі дыпціх». Хай Бог беражэ яго — безаглядна шчырага!

*28 лютага, панядзелак*

Пазваніў Сёмуха. Пасвятліў душу. Пайшоў у парк. Доўга хадзіць не змог. Перабіраў нататнікі. Горы напісанага, непрыбранага, незапатрабаванага. Навошта? А здароўе — ні жыць, ні працаваць. [«Ахвярынка»[1].]

*1 сакавіка, аўторак*

Адышоў хворы й тлумны люты, люты да мяне й цёплы. Праз боль галавы, а ўсё-ткі напісаў:

*Акравітанне*

Валуны, як сведкі даўніны,
Атачылі змоўклую прастору.
Лес, зялёныя дасніўшы сны,
Едзе ў печы на спіне дакору.
Рупіць ранняй руні як хутчэй
Узысці і ўперціся ў нябёсы.
Дождж тугу сваіх сухіх вачэй
Узгадаць падаўся на пакосы.
Берагам складаюць чараты
Оду непаўторнасці й пашаны.
Ўзроўям з восені свярбіць хрыбты.
Сонцавейна жмурацца паляны.
Каласкі — калыскі зор ручных
Аддаюць даўгі зямной лагодзе.
Маладзік — святла двухрогі ўздых
Уначэлай патурае згодзе.

Гэта Валеру Дубоўскаму, у якога паэзія прарасла ў сэрцы, як дзятлінка.

[1] Гл.: Ахвярынкі: Жыць — значыць... (28.02.05) // Ксты. С. 457.

*2 сакавіка, серада*

Пазваніў Уліцёнак. Павёз мяне ў фірму й купіў мне мабільнік па просьбе Вольгі Караткевіч. Навошта ён мне, толькі прывязваць будзе. Але за ласку дзякуй. Нічога сур’ёзна рабіць не магу. А тут трэба збірацца ў Вушачу з айцом Уладыславам. Дужа хачу. Бог дасць удасца з’ездзіць.

*3 сакавіка, чацвер*

Ледзь падняў Пётра. Даходжу. Божа, пацярпі мяне. Я ўжо не магу, дапамажы.

*4 сакавіка, пятніца*

Да Ігара Сарокіна. Кучку лекаў атрымаў. Пачынаю прымаць. Можа, дапаможа.

*5 сакавіка, субота*

Памёр Карлас Шэрман. Вечная памяць. Дзякуй, дружа, і даруй, калі чым пакрыўдзіў цябе. «Прысталі ногі ад зямных дарог…»[1] Перадаў Сяргею «Дуліну…»: «Грэе вечны сум шчаку…» [ С. Навумчыку; у дзённіку].

*6 сакавіка, нядзеля*

Званіў Радзік. Яму тое-сёе трэба. Я рады ягонаму голасу. Колькі чысціні, якой ужо амаль няма.

«Сцюдзёна…», «Не адгоніш…»[2]

*7 сакавіка, панядзелак*

Устурыўся ўночы, бо прышлі радкі: «Залічыцца…: На схіле год прыйшоў да адкрыцця…» [у дзённіку]. А ўдзень змагаўся з галаўным болем. Перабіраў накіды.

*8 сакавіка, аўторак*

Прыйшла Ілона. […]. Пазваніў Пётру. Прывёў мяне трохі ў парадак. Пад вечар прачытаў два лісты ад Мамы. І жыць захацелася.

*9 сакавіка, серада*

Такія-сякія справы. Падправіў верш «На дне прадоння»[3]. Якраз ён можа быць у магчымых «Кстах».

---

[1] Гл.: «Прысталі ногі ад зямных дарог…» (5.03.05) // Халодная памяць вады. С. 352.
[2] Гл.: Сцюдзёна…; Не адгоніш… (6.03.05) // Тамсама. С. 289; 340.
[3] Гл.: На дне прадоння (9.03.05) // Ксты. С. 226.

*10 сакавіка, чацвер*

*Вушача!* Марозна. Сонечна. У касцёл. На Бутаўшчыну. На магілу Мамы паставілі знічы. Айцец Уладыслаў памаліўся. *Бычкі.* Музэй так і незавершаны. Людзі едуць, а хата пуставатая. Валя Быкава на вокны з газэт выразала як бы карункі. Хоць яны цепляць хату. У трысцене жорны. На магілах Васілёвых бацькоў айцец памаліўся. Выязджаючы з Бычкоў, забуксавалі. І штурхалі машыну, і лапатамі снег капалі. Грэліся. Потым нашую хату айцец Уладыслаў асвяціў. Перад гэтым музэй асвячаў. Палудзень і вячэра ў Валі Быкавай. Адна, бедная. Толькі й жыве ўспамінамі пра Васіля. Едзем, едзем. Імёны вёсак усплываюць у памяці. Здаецца, мама прыйшла дамоў і кажа, дзе яна была. А наогул, вёскі глухія. Большае пустых хат. Вокны забіты дошкамі, як пальцамі засланілі вочы.

*11 сакавіка, пятніца*

Прыходжу ў сябе. Хоць і недалёка з сябе выходзіў. Пазваніў Пехцераў[1], як голас са студэнцкіх гадоў. Прачытаў радкі, асабліва дарагія мне пра маю Маму. Дзякуй яму.

*12 сакавіка, субота*

Яшчэ жыву Вушаччынай. Такім спакоем дыхнула хата. Цяжка было з мейсца скрануцца, як таму валуну. Адтуль радкі: «Перагукі»[2].

*13 сакавіка, нядзеля*

Як мне не звар’яцець […]?! Госпад! Падтрымай. Каб родная душа. […]. Як вытрымаць? Толькі й забываюся не ўсё, калі нешта пішу. І пачытаць няма каму. Толькі сабе самому.

*14 сакавіка, панядзелак*

Нагадалі пра паездзіны ў Прагу. Трэба руліцца з паперамі. […]. Ілона ў сваім рэпертуары. […]. Куды мне дзецца?

*15 сакавіка, аўторак*

З раніцы ў чэскую амбасаду па візу. На скразняках адкалеў звыш дзвюх гадзінаў. Дамоў — снапом паваліўся. Думаў, канец. А тут раптам — гром. Маланка, снег сцяна сцяной. І ў галаве пасвятлела. «І апошняе слова...»[3]

---

[1] Пехцераў Іван Ягоравіч (1938–2013), беларускі журналіст, паэт. Лаўрэат прэміі імя А. Пысіна.

[2] Гл.: Перагукі (12.03.05) // Халодная памяць вады. С. 323.

[3] Гл.: Ахвярынкі: І апошняе слова... (14.03.05) // Ксты. С. 446.

*16 сакавіка, серада*

У ПЭНе сяброўская вечарына. Усе свае, усе шчырыя. Дзякуй ім! Шчымліва й сумна. Мы ўсе ўжо амаль рэліктавыя. Самім сабе хіба што цікавыя. Добра, што маладыя йдуць на змену. Светлага шляху ім!

*17 сакавіка, чацвер*

Вечарына з нагоды кнігі Ал. Лукашука «Прыгоды АРА ў Беларусі»[1]. Грунтоўна навукоўна. Як усюдыход, Уладзя Арлоў так ужо падкрэсліваў антысавецкасць Лукашука — загадчыка аддзела ідэалогіі «Звязды», што пачало гучаць адваротна. І ў адносінах да самога Арлова. Хай будзе, як Сора казала. Так у нас дома ўсміхаліся. Мне заставалася на хаду нешта зрыфмаваць: «Экспромт: Панна рыфма: Лукашук і пошук...» [у дзённіку]. Адбрахаўся й дамоў.

*18 сакавіка, пятніца*

У «Коўні»! Родныя сябры мае зрабілі мне царскія падарункі — шапку-рагоўку з бабра з сакалінымі пер'ямі й посах, акуты срэбрам з выявамі Пагоні ды ініцыяламі. Аж нялоўка, такія дарагія. Чым жа мне аддзячыць майстрам?!

*19 сакавіка, субота*

Пахаванне Алеся Траяноўскага[2]. У касцёле імша. Магіла на Кальварыі. Адпакутваў шчырун беларускасці.

*20 сакавіка, нядзеля*

Задыхаюся ад безвыходнасці. Ілона й ейны мужычок нічога не робяць. Дамінічка расце. Трэба грошы. А дзе іх узяць? Прачынаюся са страхам. Добра, што Сарокін выпісаў Lerivon. Хоць трохі расслабляе. Прыходзіў Вячорка, хоць з ім паеду ў Прагу. Бо аднаму ўжо ніякавата да страху. Аслабеў. Адзічэў. [...].

*21 сакавіка, панядзелак*

Зборы ў дарогу. Прыязджаў Дубоўскі. Дзякуй яму — рупіцца, каб выдаць мне кніжку. Для яго прыйшло ў галаву слова *аднакрэўнік*. «Доля: З калаўротам пяяла праля...»[3] [Памяці маці В. Д. — Н. А. Дубоўскай; у дзённіку].

---

[1] Лукашук А. Прыгоды АРА ў Беларусі. (Мінск:) Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. ARA — American Relief Administration — Амерыканская адміністрацыя дапамогі (харчовая дапамога галадаючым, 20-я гг. XX ст.).

[2] Траяноўскі Алесь (Аляксандр Пятровіч; 1925–2005), беларускі перакладчык.

[3] Гл.: Доля (8.06.97) // Дзённікі і запісы. Вып. 8. С. 231.

*22 сакавіка, аўторак*

Мітусня перад дарогай. Адвык ужо ездзіць.

*23 сакавіка, серада*

Увесь дзень у цягніку. Добра, што са мной быў Вінцук Вячорка. І клопат ягоны. З мытнікамі праблем не было.

*24 сакавіка, чацвер*

*Praha!* Ve Smeckach 27 apt. 4, 5-ты паверх, tel. 222.211.899. Гэта на вуліцы Чырвоных ліхтароў. Асобная кватэра з усімі выгодамі, можна й парыць, і скварыць. Цэнтр горада. Сустрэў Сяргей Навумчык. Перадаў ад сваёй мамы два лусцені й пакецікі гарбаты. Вечарам да Сяргея. Там прыехалі да яго бацькі.

* Дзень добры, Прага! Ты прымала й Скарыну, і Быкава. Ты была добрай калыскай нашай культуры. Ты маладзіла крывіцкую думку. Ты вучыла, як трэба шанаваць сваё, як адстойваць сваё. Сустрэў Сяргей Навумчык. Адвёў мяне ў кватэру, дзе зручна жыць. Дарога здалася кароткай, бо ехаў з Вінцуком Вячоркам. На мяжы з Польшчай Вінцук адмыслова завязваў дзверы купэ, правадніца дала яшчэ нейкае драўлянае прыстасаванне, бо рабуюць цыганы. Нас гэта прыгода абмінула.

На імперыю радыё «Свабода». Па тэле падзеі ў Кіргізіі. […] Малайцы, кіргізы!

Вячэра ў Сяргея Навумчыка. Да яго прыехалі бацькі. Як ў Віцебску пабываў, як сустрэўся з Іосіфам Адамавічам.

*25 сакавіка, пятніца*

Дзень Волі! На магілы Крэчаўскага[1] й Захаркі[2], Забэйды-Суміцкага[3]. Пагутарыў па тэлефоне з Івонкай Сурвілай і Зянонам Пазьняком.

* На магіле Забэйды новыя рюсские амаль наступілі мармуровымі плітамі. Расейцам і на магільніку цесна. Шырокія душы.

*26 сакавіка, субота*

Святочная імпрэза ў рэстаране Zofin. Размова з Сяргеем Юрчанкам (з Віцебска), ён тут даўно. Склаў медычны расейска-чэшскі слоўнік. Васіля ў Менску фактычна забілі. Не пазванілі, не звязаліся з Прагай, якія вынікі апэрацыі, далі ўколы заместа швэйцарскіх таблеткаў.

---

[1] Крэчаўскі (Крачэўскі) Пётр Антонавіч (1879–1928, Прага), беларускі палітычны і грамадска-культурны дзеяч. 3-ці старшыня Рады БНР.

[2] Захарка Васіль Іванавіч (1877–1943), беларускі палітычны дзеяч, публіцыст. З 1919 г. у эміграцыі. Прэзідэнт БНР (1928–1943).

[3] Забэйда-Суміцкі Міхаіл Іванавіч (1900–1981, Чэхаславакія), беларускі спявак; педагог. З 1920 г. у эміграцыі — Кітай (Харбін), Італія, Польшча,Чэхія.

* Па тэле чэхі паказвалі фільм пра Шаміля[1] (распавяла Алена Радкевіч[2]).

*27 сакавіка, нядзеля*

Вялікдзень. З Сяргеем Абламейкам[3] і ягонай мілай Вольгачкай (дачка Усевалада Краўчанкі[4]) у сабор уніяцкі. Прычасце. Прыняў біскуп (10 гадоў сядзеў пры камуністых). Потым вячэра ў Абламейкаў.

*28 сакавіка, панядзелак*

Цэлы дзень па старой і вечна юнай Празе. Толькі сум, што ў нас усё камуністы знішчылі. [...]. Чэхі паказалі фільм пра Шаміля, калі цар запытаўся ў Шаміля, ці праўда, што елі расійцаў, Шаміль адказаў: «Мы ж мусульмане, а мусульмане свініну не ядуць».

*29 сакавіка, аўторак*

Дарога. Бачыў ужо бусла ў гняздзе. Нешта ладзьбаваў. Вячорка ў Берасце выходзіў. Прынёс газэту «Дзедзіч». Папрасіў нешта напісаць. Напісаў: «Vivat!: На тое, што дзееца сёння, гледзячы...» [у дзённіку]. Дома! Усё, як заўсёды.

*30 сакавіка, серада*

Патроху прыходжу ў сябе. Бачыў у цэнтры, як [Лукашэнка] едзе ў Дразды. Увесь праспект ачысцілі.

*31 сакавіка, чацвер*

Пачаў пісаць сумны верш: «На ручніках»[5]. Хай будзе пухам зямля Алесю... [«Ахвярынкі»[6].]

*1 красавіка, пятніца*

Дзень весялосці. А мне сумна. Баліць галава. Душа ў Вушачы. Толькі ў той, якой ужо няма. Мама, ты зноў мяне чакаеш, як і тут, на зямлі...

---

[1] Шаміль (1799–1871), 3-й імам Дагестана і Чачні (1834–1859), кіраўнік вызваленчай барацьбы горцаў супраць царскіх уладаў. У 1859 г. узяты ў плен, сасланы ў Калугу. Памёр па дарозе ў Мекку (у Медзіне, Аравія).

[2] Радкевіч Алена, беларуская журналістка.

[3] Абламейка Сяргей Сяргеевіч (н. 1962), беларускі журналіст, эсэіст. Доктар гістарычных навук. З 1995 г. жыве ў Празе, карэспандэнт Радыё «Свабода».

[4] Краўчанка Усевалад Ігнатавіч (1915–1961), беларускі пісьменнік, перакладчык.

[5] Гл.: На ручніках (31.03.05) // Ксты. С. 213. Верш памяці А. Траяноўскага.

[6] Гл.: Ахвярынкі: Ані ўдзень, ні ўначы...; І свята — таксама праца... (31.03.05) // Тамсама. С. 458.

*2 красавіка, субота*

Памёр Чалавек Стагоддзя[1]. Хай Усявышні прыме яго. Дух вышэйшы за ўсе зямныя ўлады. Бо пасылае да людзей пасланцаў, а людзі занятыя пустой дзяльбой і звадамі і не бачаць нічога. І так пралятае жыццё. Хадзіў паркам. Прыйшлі радкі: «Перадвесне»[2]. Яшчэ ў Празе пачаў верш. А тут залаты мой сябра Сяргей Шапран падагнаў інтэрв'ю, каб мне закончыць верш: «Тут: Прага — Гэта прага вышыні» [С. Абламейку; у дзённіку].

*3 красавіка, нядзеля*

Увесь свет у жалобе. Перабіраю ружанец і ўзгадваю тую святую хвіліну, калі чуў і бачыў Папу. Дзякуй Усявышняму!

*4 красавіка, панядзелак*

Здаецца, з «Кстамі» ўсё ў парадку. Дзякуй Але за клопаты! І галаву боль адпусціў, калі пайшлі радкі памяці Папы: «Вяльмуе Бог...»[3] Званіў Сяргей Абламейка з Прагі. Заўтра трэба пачытаць і паслаць на сайт верш са словам.

*5 красавіка, аўторак*

На «Свабоду». Аднёс Але верш з уступам у «Ксты». [«У бажбе, У шчырай мальбе...»] Можа, яны выйдуць. Дзякуй Але за турботы!

*6 красавіка, серада*

Пазваніў радасны Ганад. Курда абралі прэзідэнтам Ірана[4]. [...].

*7 красавіка, чацвер*

Да Ганада. Сустрэў Абрама Рабкіна[5]. Хоча свае карціны падарыць Бабруйску. Нічога нікому не трэба. Падбрэхічы з міністэрства так званай культуры водзяць за нос. [«Ахвярынка»[6].]

*8 красавіка, пятніца*

Не адарвацца ад тэлевізара. Развітанне з Папам сапраўды сусветнае. Корпаўся з нататнікамі. Знайшоў накід:

---

[1] Спачыў Папа Рымскі Ян Павел ІІ.

[2] Гл.: Перадвесне (2.04.05) // Халодная памяць вады. С. 251.

[3] Гл.: Вяльмуе Бог... (4 .04.05) // Ксты. С. 427.

[4] Ахмадзінежад Махмуд (н. 1956), іранскі палітычны і дзяржаўны дзеяч. У 2005–2013 гг. прээзідэнт Ісламскай Рэспублікі Іран.

[5] Рабкін Абрам Ісакавіч (1925–2013, СПб, РФ), беларускі мастак.

[6] Гл.: Ахвярынкі: Прыгнаныя з прадоннай цішыні... (7.04.05) // Ксты. С. 460.

*Памалу...*

Як запалкі ад малога некалі,
Ад мяне памалу ўсё прымаецца.
Страшна разлучыць з сваёй апекаю
Гэты свет,
Што за зямлю трымаецца...

Во свабода настала. Вольны ад грошай, ад абавязкаў хадзіць на нялюбую працу, пішы для сябе колькі ўлезе. Нідзе не надрукуеш, нідзе не выдасі. Свабода! [«Ахвярынка»[1].]

*9 красавіка, субота*

Сустрэча ў «БДГ» з Арнольдам Макміліным. Аж душа радуецца й баліць, як дасведчаны ангельскі вучоны стаіць за ўсё беларускае. Шырока мысліць, вольна шукае новыя ймёны.

*10 красавіка, нядзеля*

Прачнуўся з ахвярынкай[2]. Толькі калі нешта пішу, калі ўсплываюць вушацкія словы, я й жыву. Бо прачынаюся адразу ў безвыходнасць, у трывогу. Як выжыць, як хоць трошкі давесці да людзей Дамінічку. Зарабіць няма дзе, няма як. [«Ахвярынкі»[3].]

*11 красавіка, панядзелак*

Прысніўся Зянон Пазьняк. Нейкі хворы. Што там з ім? Беражы яго, Божа! Гавэнда з Алай наконт «Кстоў». Хутчэй бы ўсё скончылася. Хадзіў да бяроз.

[«Ахвярынка»[4].]

*12 красавіка, аўторак*

Пацяплела. Відаць, вясна сваё возьме. А мой настрой зімовы. Апускаюцца рукі. Наперадзе — цемра.

*13 красавіка, серада*

Прэзентацыя фотакнігі Вадзіма Грудзька «Край». Трохі пагутарыў з людзьмі. Адчуў сябе на нейкае імгненне чалавекам.

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: Няўтульна думцы на чужых падворках (8.04.05) // Ксты. С. 460.

[2] Гл.: Ахвярынкі: Ранняму жаўранку не да сну (10.04.05) // Тамсама. С. 460.

[3] Гл.: Ахвярынкі: Зоркі робяць вечны сусвет маладым; Маміна слова, ласка твая без меж (10.04.05) // Тамсама. С. 460.

[4] Гл.: Ахвярынкі: Ціха з памяці адыходзяць імёны... (11.04.05) // Тамсама. С. 461.

*14 красавіка, чацвер*

Шапран прапанаваў для «БДГ» напісаць пра Броўку. Трэба хоць трохі адмыць старога ад празмернага ўпікання яго ў саветызме. Той самы Максім Танк[1] не меней прасавецкі быў. Нават псэўданім узяў мала што Танк, дык яшчэ кулямёт «Максім». Суцэльны панцаркамунізм. [«Ахвярынка»[2].]

*15 красавіка, пятніца*

У «Дзеяслове» пачытаў пераклады Ф. Г. Лоркі[3] Максіма Шчура[4]. Крыху рытмізаваны й так-сяк зарыфмаваны дослоўнік. А ў «Нявернай жонцы» Шчур падараваў каханцы часовай кросны. Ці ведае Максім, што такое кросны? Усё-ткі перакладаць трэба, каб чытаўся, як арыгінал на мове перакладу.

*16 красавіка, субота*

Раптоўна пацяплела. Можа, ужо вясна ўсталюецца. Хочацца цяпла. А на душы нейкі камень. І надвор'е ўжо не радуе.

*17 красавіка, нядзеля*

У нядзельку прыйшлі вясновыя радкі: «Перазімавалі...»[5]

*18 красавіка, панядзелак*

Да айца Уладыслава. Наконт «Кстоў». Дзякуй яму, ён хоча выдаць паважны том. Перад гэтым Ала вывела з сябе Алеся. А я ў дурным становішчы. [«Ахвярынка»[6].]

*19 красавіка, аўторак*

Для «БДГ» прапанавалі напісаць пра Броўку. Трэба. Бо маладзейшыя зусім ужо гноем закідваюць. А так нельга. Чалавек, які заснаваў Энцыклапедыю, варты пашаны. Дый вершаў у яго на добры том ёсць. 16-га Анатолю Клышку споўнілася 70. Не дазваніўся быў, павіншаваў сёння:

«Я п'ю з паўнюткага кілішка...» [у дзённіку].

---

[1] Танк Максім (сапр. Скурко Яўген Іванавіч; 1912–1995), беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Народны паэт БССР (1968). Акадэмік АН БССР (1972). Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1948), Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1959), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1966), Ленінскай прэміі (1978).

[2] Гл.: Ахвярынкі: Крыж — летуценны чалавек, які... (14.04.05) // Ксты. С. 461.

[3] Гарсія Лорка Федэрыка (1898–1936), іспанскі паэт і драматург. Расстраляны франкістамі.

[4] Шчур Максім (н. 1977), беларускі паэт, перакладчык, эсэіст. Лаўрэат прэміі Я. Юхнаўца (2004), прэміі імя Е. Гедройца (2016). З 1998 г. жыве ў Чэхіі, дзе атрымаў палітычны прытулак.

[5] Гл.: Перазімавалі... (17.04.05) // Халодная памяць вады. С. 165.

[6] Гл.: Ахвярынкі: На небе зоркі рая'цца і ра'яцца (18.04.05) // Ксты. С. 461.

*20 красавіка, серада*

Зрабіў пра Броўку. Уночы стала кепска тры разы. Ледзь не адышоў да продкаў. Цэлы дзень прыходзіў у сябе. Паступова рыхтуюся…

*21 красавіка, чацвер*

Аднёс пра Броўку ў «БДГ». Чытаю карэктуру «Кстоў». Ужо адвык ад карэктураў. Галава гудзе. Усё здавалася, што хваравітая старасць далёка. Усё збіраўся жыць. А зараз усё астыла. Не магу выгнаць з сябе роспач, трывогу за тое, што будзе. Хворы, амаль жабрак, нікому не патрэбны.

*22 красавіка, пятніца*

У «Коўню». Аднёс тэкст для вітання ў панядзелак Пётры:

Прымярае галовы карона.
Пётра! Гэта да ўвагі прымай.
Долю лепшую лекуй натхнёна
І з вядзьмарскім імпэтам кахай!

У «БДГ» матэрыял пра Броўку пайшоў.

*23 красавіка, субота*

Лёгкі сняжок за вокнамі. Сёння дзень нараджэння Пётры. «Граф! Віншую з светлым днём» [у дзённіку]. Дачытаў набор «Кстоў». Мала што самому падабаецца. Усё думаецца, што лепш напішу…

*24 красавіка, нядзеля*

На пару з роспаччу дзень правёў. А боль галаўны таксама раўнівы. Ці будуць у мяне нармальныя дні? Дабіў сам сябе.

*25 красавіка, панядзелак*

У «Коўню». Адзначылі дзень народзінаў майго паратоўцы Пётры. Прыйшоў пан Вішнеўскі. Які шчыры беларускі асяродак, якое лунанне думак. І сімвалічна, што ў падвале, як і ўсё беларускае вякамі.

*26 красавіка, аўторак*

Да папскага нунцыя. У «Ксты» ўключыць пераклад «Рымскі трыпціх» Папы не ўдасца. Нунцый — чыноўнік, не слабейшы ад савецкіх цыкуноў. Ян Павел ІІ быў, відаць, белай варонай у Ватыкане.

*27 красавіка, серада*

У «Коўню». Пётра пачаў мяне мясіць, масажыраваць.

*28 красавіка, чацвер*

Да Пётры. Ягоны (персідскі кот) Норык, 10 кілаграмаў, пацягваецца, як чалавек. Вочы разумныя. А я ўсё-ткі звык да звычайных катоў.

*29 красавіка, пятніца*

У «Кнізе» забраў аўтарскія[1]. Прыехаў Сяргей Абламейка. Да Пётры зноў. Пётра прыводзіць мяне да толку. [...].

* * *

Каго Бог любіць, таго й нагружае.
Каго не любіць — не заўважае, —
Сабе ў суцеху чалавек разважае.

*30 красавіка, субота*

Змагаюся з галаўным болем. [...]. Накідаліся радкі для Зміцера Вайцюшкевіча: «Ловім кайф: Ай лаўю ю!» [у дзённіку].

*1 травеня, нядзеля*

Дзень добры, Травень! Дзякуй Богу, выйшаў я на траву, як у нас некалі казалі. Нічога больш-менш разумнага ў хворую галаву не йдзе. Днямі прэзэнтацыя кнігі Георгія Ліхтаровіча. Каб меней гаварыць (напісаў): «Да славы сцежкі карацелі...: Ані ў камсоргі, ні ў парторгі й...» [у дзённіку].

*2 травеня, панядзелак*

Да Пётры. Нарэшце адчуў, што такое п’яўкі. Смокчуць не горай за жонку. Адразу палягчэла. Дзякуй Пётру, ён адзін мяне трымае. Бо дома, лепей не казаць. Хоць з Алай уладзіў наконт уніяцкіх вершаў у «Кстах». Доля ўніятаў цярпець за веру.

*3 травеня, аўторак*

Да Пётры. Зноў п’яўкі. Яны асабліва лютыя, бо расейскія. У маскалёў навучаныя смактаць кроў. У маршрутцы можна ашалець ад расейскай папсы. [...]. Генадзь мне патлумачыў, што п’явак гадуюць у падвалах Крамля. Яшчэ да Ліхтаровіча: «Post skriptum: Спяшайце, спадарыні й спадары...» [у дзённіку].

---

[1] Барадулін Р. Сама пайду дарогаю, голас пашлю дуброваю...

*4 травеня, серада*

Прэзэнтацыя «Ліхтарыкаў» Георгія Ліхтаровіча. Цікава, трохі зацягнута. Асабліва ўразіла Галіна Вайханская[1]. Спявае вачыма.

*5 травеня, чацвер*

На вячэру да амбасадара ЗША Джорджа А. Крола[2]. На чысцюткай беларускай мове. Тонка ведае Беларусь. У Воршы ў Музэі Караткевіча падбегла тэле[…] й па-расійску папрасіла колькі хвілін сказаць пра ўражанні. Джордж без паперкі па-беларуску 10 хвілін [гаварыў]. На канфэрэнцыі ў АН так званы вучоны Мясніковіч[3] па-расійску, а Джордж зноў жа па-беларуску. Яму прыемна, што беларускія сэрцы адгукаюцца на беларускую мову. І гэта яго пэўніць, што наша мова выжыве. Вячэра з беларускіх страваў. Нават меню па-беларуску. Былі Ірына Быкава, Вал. Тарас, Алесь Пашкевіч. Зразумеў, як цяжка было светлай памяці Васілю. «На дно…»[4] У канцы трамвайнага шляху. Імпразаваны базарчык. Акуратная, інтэлігентная кабетка прадае нейкую драбязу. Падыходзіць да мяне й жадае здароўя на чысцюткай мове. Сумна ўсміхаецца, што трэба выжываць. […].

*6 травеня, пятніца*

Да Пётры. У БНФ прэзэнтацыя «Васілёвай зоркі». Павіншавалі мяне з сумнай датай. «Немагчыма…: Шляхетнее песня наская…» [Г. Вайнахскай; у дзённіку]. Цікава. Тарасу Васіль у Празе сказаў: «Мне дужа цяжка апошнія гады з гэтай жанчынай».

*7 травеня, субота*

Да Шапрана ў «БДГ». І. М. казала Сяргею, што ў Васіля быў вялікім сябрам В. Гэта той, пра каго Васіль казаў, ці не супрацоўнічае ён з вечнай службай. Як Васіль быў абчастаколены гэбістамі ад сяброў так званых […].

*8 травеня, нядзеля*

[Лукашэнка] перамейнаваў праспект Францыска Скарыны. […]. Рэзыдэнцыя на касцях[…]. У Драздах жа быў лагер смерці. З Машэрава перайменаваў у Пераможцаў. […]. «Хуткамоўка: Вадаспаду даспадобы…» [«Воз

---

[1] Вайханская Галіна Уладзіміраўна (н. 1959). З 1979 г. выканаўца паэтычнай песні ў дуэце з мужам Барысам Вайханскім, аўтарам песень.

[2] Крол Джордж Альберт (н. 1956), амерыканскі дыпламат, Надзвычайны і Паўнамоцны пасол ЗША ў Беларусі (2003–2006).

[3] Мясніковіч Міхаіл Уладзіміравіч (н. 1950), беларускі палітычны і дзяржаўны дзеяч, эканаміст. Доктар эканамічных навук (1998). Прафесар (2003). Член-карэспандэнт НАНБ (2009). У 2001–2004 гг. прэзідэнт НАНБ, у 2004–2010 гг. старшыня Прэзідыума.

[4] Гл.: На дно… (5.05.05) // Халодная памяць вады. С. 254.

вёз лёс»]. Куды ўцячы ад сябе? Ад чорнахмар'я сваіх думак пра безвыходнасць, пра Ілону, пра Дамініку. Жыццё загнала мяне ў парог і трымае. «Ахінуць небакрай…»[1]

*9 травеня, панядзелак*

Памёр Анатоль Сыс[2]. Яшчэ 4-га. Знайшлі на падлозе ў кватэры. […].

*Мары і адной…*

Спаткаць нарэшце, каб адчуць, што ты
Жыў, каб вітацца з гэтаю сустрэчай.
І меркаваць з рашучасцю хлапечай,
Што за сабой паспеў спаліць масты.
І думаць, што яшчэ збярэцца сіл
Хоць кладку над ракой журбы пакласці,
Каб пабліжэў туманны бераг шчасця,
Што далячэй, як і небасхіл.
Хоць і застаўся ўжо ад поўні дзён
Прыцмелы веташок — дарадца стомы,
Ды шчырай ласкі дотык невядомы,
Ён ёсць ці сніцца, як наіўны сон?..

Колькі словаў на «Свабоду» пра Сыса. Пазваніла Вольга Караткевіч. Якія каменнавекія ветэраны. Адзін кажа, што Машэраў гутарыў са мной 2 гадзіны, каб я апомніўся. Дык не. Застаўся здраднікам. Я, кажа, кулямётчык. Перастраляю ўсю апазыцыю. […]. Званіла Варатынская. [Лукашэнка] на «Прарыў» не прыехаў. «Малітва матчына»[3]. Прачытаў па тэлефоне Але, каб дадала ў «Ксты». Наогул, «Ксты» ўжо мяне даканалі. Ала робіць вялікую працу, але датошнасць перавышае меру. З маімі нэрвамі.

*10 травеня, аўторак*

Мне б пабыць аднаму, каб тэлефоны не тузалі, каб не думаць пра безвыходнасць. Каб чытаць, думаць, пісаць. Гэтага ўжо не будзе. Па ўсім душа трымціць. Хачу ў Вушачу. Але ў тую, якой ужо няма. Гаркота.

*Каб сагрэцца…*

І табе, й вясёламу віну,
Што ўзялі мяне ў палон знянацку,
Дзякуй за салодкую ману,
У якую верыў па-юнацку.

---

[1] Гл.: Ахінуць небакрай… (8.05.05) // Руны Перуновы. С. 450.
[2] Сыс Анатоль Ціханавіч (1959–2005), беларускі паэт.
[3] Гл.: Малітва матчына (9.05.05) // Ксты. С. 276.

Не віна вясёлага віна,
А майго шалёнага наіву,
Што хацеў свой лёс, як скакуна,
Ухапіць за ўхмараную грыву.

І цябе, вядома, не віню.
Значыць, дазвалялася не мною
Ува мне спалохацца агню,
Каб сагрэцца жарсцю незямною.

Чым болей самотны, тым болей душа ласкі й шчырасці прагне. Вечарам пайшоў, і знайшліся радкі: «Уездзіны»[1].

*11 травеня, серада*

У «Коўню». Распавялі вясёлы сюжэт. Наколькі моцная саветызацыя. Працаваў экспэдытарам. Вазіў рознае мясное смакоцце, каньякі па саўкручках. Цяпер не робіць. Пытаюцца: чаму не робіш? Адказвае: «Усе кіруючыя пасады занятыя, а працаваць не мяне навучылі».

*12 травеня, чацвер*

За горад. Назад сустрэў у электрычцы Ілону з ейным [Косцем]. Клінічныя маладыя бамжы. Ніхто не робіць. Ілона пра нейкія выставы лапоча [...]. Хапіла галаву, хоць пад цягнік кідайся. А дома пазваніла Ала; гэтая кніжка мяне ў зямлю звесці можа. Не рад, што згадзіўся. Як вытрымаць? Як не звар’яцець?

*13 травеня, пятніца*

У Чырвоным касцёле выстава з Быкаўскага плэнэру. Сустрэча з мастакамі. Добрая выстава. Нацыянальная й сучасная. Невялічкае застолле. Добра пагутарылі з Лявонам Баршчэўскім, унікальна таленавітым і мудрым крывічом.

*Клопат*

Вёскі знікаюць,
Не затуленыя ад скразнякоў
Занядбанасці ўсеагульнае.
Клапатлівыя дзеткі
Забіраюць у горад бацькоў
Пакаёвых сабак выгульваць.

---

[1] Гл.: Уездзіны (10.05.05) // Халодная памяць вады. С. 321.

Толькі на людзях, асабліва ў беларускай гамане, і пачуваю сябе чалавекам. [...].

*14 травеня, субота*

Не магу адысці пасля сустрэчы з Ілонай. Калі яна возьме мазгі ў жменю? Што чакае Даменіку? Ведаю, што нічога не змяню, а не магу ўсё бачыць. Да Пётры. Трохі падправіў мяне. «Чарговы: Каб даць адпор любой крамоле...» [у дзённіку].

[«Ахвярынкі»[1].]

*15 травеня, нядзеля*

Да Пётры. Кампазітар і спявак Тато[2] хоча напісаць песні на мае словы. Назад ехалі ў ягонай машыне. Уключылі дыск. Выдатна на расійскай і на грузінскай. Адносна добра размаўляе па-беларуску. Ішлі ахвярынкі[3]. «Пеня пню»[4].

*16 травеня, панядзелак*

Учора ехаў маршруткай, дзе кемлівая просьба: «Не грукайце дзвярыма, кіроўца палохаецца». Не зваліся яшчэ людзі з гумарам. Выбіраў вершы для «Кстоў», некалькі трэба для вёрсткі. Горы вершаў, куды іх дзець? [«Ахвярынка»[5].] Прыходзіла Ілона. Завяла мяне. [...]. Не ведаю, як трымацца, як выжыць. І для чаго?

*17 травеня, аўторак*

З раніцы ў зялёную рэзэрвацыю — у парк. Як акравачак маленства. І сарокі, і вароны, і шпакі. Ігрушыны цвітуць ці гэта аблокі спусціліся на зямлю, каб падзяліцца радасцю чысціні. Цвітуць стрымана, як мама называла іх — гарлянaчкі. Прыйшлі радкі ўслед за пачутым словам: «Хоць нешта...»[6] Потым да Пётры. Выцягвае мяне з пекла маіх думак. Зямны паклон яму. Прыслаў верш, прысвечаны Караткевічу, Андрыс Веян[7]. Трэба мучыцца, але перакласці.

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: І як ні тапі...; Выгнанніку ў няспыннай дарозе... (14.05.05) // Ксты. С. 459.

[2] Тато (сапр. Рамазанаў Цімур Джафаравіч; н. 1983), расійскі рэп-выканаўца, кампазітар, спявак.

[3] Гл.: Ахвярынкі: Па сынах, што стаяць па шчасце ў чарзе...; У Бога мёртвых няма...; Радасць ранішняя ваконца... (15.05.05) // Ксты. С. 459; 460.

[4] Гл.: Пеня пню (15.05.05) // Халодная памяць вады. С. 310.

[5] Гл.: Ахвярынкі: Лятункі нізіць сонная аблога (16.05.05) // Ксты. С. 459.

[6] Гл.: Хоць нешта... (17.05.05) // Тамсама. С. 271.

[7] Веян Андрыс (сапр. Калнач Данат; н. 1927), латышскі паэт, празаік.

*18 травеня, серада*

Зноў Пётра выцягваў. Каб адагнаць ад сябе думкі пра беспрасвецце, адплываю дамоў, у край мамы. Згадалася, як малога будзілі: «Рыгор, цягні багор, бо тачыла плывець…» З маленства прывучалі думаць нетрадыцыйна. З размовы з Пятром вырас верш: «Жыві!»[1]

*19 травеня, чацвер*

Зарадзіў дождж, як на патоп. Трэба было быць на прэзэнтацыі «Краю» ў Славацкай амбасадзе, не пайшоў. Зварыла ўсяго. Вечарам званіў Алесь. Нейкі добры прадпрымальнік мае намер выдаць мяне. Выдасць не выдасць, а ўжо настрой мой падрос, як вясновы дзень. Як стала мала, каб абнадзеіцца й гэтак жа мала, каб пакрыўдзіцца. Прыходзіў Глеб. Прынёс мне кубачак, на ім Чырвоны касцёл і мае чатыры радкі з «Трэба дома бываць часцей». Падарыў Глебу берэтку — ён у ёй, як малады Францыск Скарына. Хоць я й старога Скарыну не бачыў.

*20 травеня, пятніца*

Да Пётры. Распавёў, як шкоднічалі малыя. На падлогу, дзе меліся адбыцца танцы, сыпалі чырвоны перац. Дзяўчаты трусікаў не насілі. І потым было вясёла, як чухаліся бедненькія. Нарэшце дамучыў верш Андрыса Веяна, прысвечаны Караткевічу. Цяжка з асфальту рабіць мурог. Пайшло нешта сваё: «Непадуладны»[2].

*21 травеня, субота*

Надвор'е шалёнае. А тут павесялілі. Дамінічына сяброўка распавяла, што ў іхняй школе адмянілі ўрокі, каб пагнаць усіх на плошчу, дзе [Лукашэнка] катаецца на роліках. «Калі:…: Калі заходзяць ролікі за шарыкі…», «Пакуль: Пакуль мы абяцанкам верым…», «Як ураджай…: Як на бязлітасную ні зважай…», «Не спяшайся…: Што табе дадзена, мала ці многа…» [у дзённіку].

«Няма…»[3]

*22 травеня, нядзеля*

На лецішча да Дубоўскага. Неапаганены кавалак, куточак лесу. Даўно быў ў такім натуральным кутку. Пачуў зязюлю. Не было драбязы патрэсці. […].

---

[1] Гл.: Жыві! (18.05.05) // Ксты. С. 428.
[2] Гл.: Непадуладны (20.05.05) // Руны Перуновы. С. 398.
[3] Гл.: Няма… (21.05.05) // Халодная памяць вады. С. 342.

*23 травеня, панядзелак*

Пра ўчорашняе ўражанне радкі прыйшлі: «Заікаецца...»[1] Хачу дамоў і пабойваюся. Усе паравіны года цягнуць у родныя мясціны й кожнагу па-свойму, але неадольна. Па што я падаваўся з дому — па сум, па нямоглacць, па роспач? Як мне вярнуцца ў жыццё, дзе ёсць надзея, ёсць радасць, ёсць жаданне болей пабачыць, скрозь пабываць, не бачыць ва ўсім канца і не адчуваць сваёй беднасці? Самому мне ўжо нічога не трэба, акрамя спакою. Баліць Дамініка й Ілона.

Андрыс Веян «Ля Даўгавы: Нас паяднaлі Даўгава і песня» [пер. Р. Барадуліна].

*24 травеня, аўторак*

Да Пётры. Зноў выцягнуў мяне амаль з тагосвецця. Надвор'е, як указы (Лукашэнкі). Пад +30°. Як Святлоў казаў: яшчэ 10 градусаў і можна піць. [...]. Толькі й трымае праца й меркаванне, што яшчэ патрэбен я беларушчыне. Дый Вушацкі словазбор не скончаны.

*25 травеня, серада*

Такія-сякія зборы ў дарогу. [...]. Божа, ратуй мяне!

*26 травеня, чацвер*

*Вушача!* На душы трывожны спакой. Адразу нікуды не хочацца рухацца. Чакаць у хаце, калі дзверы адчыніць Мама. Да Валі Быкавай — апошняй шчырухі зямлі крывіцкай. У Бычкі. Валя цікава распавядала, як цяжка нараджаўся Васіль. Дужа вялікая галава й сам дужа вялікі. Ледзь бабка ўратавала маму Васілёву. У Пліна да Роўбы на лецішча. Шалеюць салаўі, жабы, камары, усё, што можа рухацца й голас мае. Чарадзейнае возера. Дакладна высніў, што Іван Роўба мой стрыечны брат па маміной лініі.

*27 травеня, пятніца*

На Бутаўшчыну да мамы. На ільнозавод да бабы Маланні. На надпісу бабе Маланні ўмяціна, камянём ці чымсьці яшчэ білі [...]. Відаць, таму, што надпіс па-беларуску. Учора ехалі ў Бычкі праз Селішча. Якое велічы касцёл, разбураны, знявечаны, але трымаецца, цягнецца ў неба й святлом дзеліцца [...]. Вёскі глухнуць. Хаты слепнуць, асядаюць у зямлю. Вынішчэнне ўсяго жывога, натуральнага, крывіцкага. У мяне ў хаце на гэты раз толькі адну шыбіну выбілі [...]. Нехта спудзіў. Заехаліся ў Віцебск, у музэй

[1] Гл.: Заікаецца... (23.05.05) // Халодная памяць вады. С. 329.

па лісты Васіля. Сяргею (Шапрану) трэба для кнігі. У музэі прыветлівыя людзі. [...]. Андрэй Палуда, які вёз нас, папрасіў напісаць нешта для «Зуброў»[1]. «Няхай жывуць магутныя зубры...» [у дзённіку].

*28 травеня, субота*

На сонцы +42$^0$! Адпаведны настрой. Пачынаеш разумець, што адчувае рак ці шчупак у катле кіпеню. А ў вачах сосны, якія цвітуць, ці, дакладней, узносяць у нябёсы свечкі, зацэпленыя заспаным святлом. Дараг той куток, дзе адрэзаны пупок. І кладуся, і ўстаю там, дзе сляды зямлю грэлі.

*29 травеня, нядзеля*

Пекла доўжыцца. [...].

*30 травеня, панядзелак*

«...Пякуся, як арачак на сонцы», — успамінала мама. І мне сёння пачуліся яе словы. Бо спёка шалёная. [...]. Госпадзе, памажы затрымацца, не страціць клёк. Яго ўжо й так меней і меней робіцца. Пад вечар выпаўз у парк. Удзень у кабінеце маім нельга сядзець — савецкія вылюдкі на ўсю галаву ўключаюць расейскую папсу. Шалею. У парку прыйшлі радкі з вечаровага лесу: «І надзею мае...»[2]

*31 травеня, аўторак*

Пазванілі, запрашалі на колькі дзён у Стакгольм у верасні. Згадзіўся. Пётра дабраслаўляе. Скончыўся месяц залевамі й пахаладаннем. Хацеў разабрацца трохі з заваламі папераў — ніхуютанькі, як у нас казалі. Толькі галава стала стогам. Няма парадку ні на стале, ні ў галаве. А ў душы спакою. Як бы ў суцеху сабе вычытаў з латыні: Mater ártium necéssitas = Маці мастацтваў — неабходнасць.

*1 чэрвеня, серада*

Дзень добры, Чэрвень! Ты даў на святую Тройцу Маму і Васіля. Ты быў заўсёды жыццядайным. Убіўся ў запісы вушацкіх словаў, яшчэ ад мамы запісаных, і на ўсё забыўся, ажыў. Загучаў мамін голас, вярнуўся той залаты час.

---

[1] «Зубры» — моладзевая суполка.

[2] Гл.: Дома (30.05.05) // Руны Перуновы. С. 103. Пад назвай «І надзею мае...» // Халодная памяць вады. С. 356.

*2 чэрвеня, чацвер*

За горад. Як у пасляваенную Вушачу. У трамваі сустрэў Ілону. Казала, што едзе на працу. [...]. На душы стала спакайней. Дома прыйшоў — Дамінічка здала беларускі дыктант на 9. [...].

*3 чэрвеня, пятніца*

Заўтра з Шапранам едзем у Гародню. Па справах Сяргеевых для кнігі пра Васіля. Будзем у Музэі Максіма Багдановіча. У парку прыйшлі радкі:

*Максім Багдановіч*

Крывіцкую думку ў людзі
Праводзіў з багатым пасагам.
Выкрасаў бліскавіцаю слова
Агонь з непрабуднай начы.
Уваскрашаў галасы панавітасці,
Каб падзяліцца тугой незямною
З таксама самотнымі зоркамі...

У пакоі нельга сядзець. Савецкія [...] на ўсю галаву расейскую папсу [ўключаюць]. «Весняе»[1]. На трамваях рэкляма цырку ліліпутаў. [...].

*4 чэрвеня, субота*

На Гародню. Жывы Музэй Максіма Багдановіча. Чароўнейшая Алена Гайко[2], маладая гаспадыня. У Музэй Васіля Быкава. Пакойчык у будынку былога суда. Пашаны вартыя энтузіясты ў дужа сталых гадах. Дзякуй ім.

Адсюль пачынаўся ў неўміручасць шлях
Скалаглыбага крывіча Васіля.
Арол прымярае крылы на ўвесь размах.
Дуб падпірaць небасхіл пачынае з камля.
Быкавым спавядацца мусіма перад вякамі.
Слова прарочае ў небыццё не знікае...

Самая душэўная бяседа ў Іны [Інгі] Анатолеўны Карпюк[3]. Яна як дачка ворага народа выхоўвалася ў дзіцячым доме ў Расеі. Бацьку расстралялі. Была, зразумела, апорай няўрымсліваму Аляксею[4]. Уразіла, што [...] Міцкевіч[5] перад смерцю прыйшоў на з'езд пісьменнікаў і папрасіў пра-

[1] Гл.: Весняе (3.06.05) // Халодная памяць вады. С. 328.

[2] Гайко Алена, дырэктар Музея М. Багдановіча ў Гродна.

[3] Карпюк Інга Анатольеўна, беларуская настаўніца, жонка А. Карпюка.

[4] Карпюк Аляксей Нічыпаравіч (1920–1992), беларускі пісьменнік. Заслужаны работнік культуры БССР (1980). Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1986).

[5] Магчыма, маецца на ўвазе (хварэўшы на той час на рак) Мацкевіч Уладзімір Аляксандравіч (н. 1947), старшыня КДБ (1995–2000).

бачэнне ў Карпюка[1]. А якая тонкая душой і пакутная вачыма дачка Аляксеева Валя[2].

*5 чэрвеня, нядзеля*

Зноў у музэй. Пяткевіч[3], Голуб[4]. Цікава распавядалі пра Васіля. Алена Гайко паказала данос у газэце недзе ў 98-м годзе на яе, падпісаны [...] Ч. [...]. Хваліць [Лукашэнку] і вінаваціць, што Алена ў БНФ, не любіць [Лукашэнку]. Як не хацеў сустракацца з Данутай [Бічэль], пры ад'ездзе сустрэліся. Уся з сябе, недаацэненая, ні слова без падколак. Шкада, пачыналася як таленавітая й шчырая.

*6 чэрвеня, панядзелак*

Сустрэўся з Галінай Шаблінскай[5], аддаў пераклад Андрыса Веяна і ўспаміны пра Уладзімера Туматупаса [Караткевіча]. Галя неацэнна вялікую працу робіць, рыхтуючы таміну пра Караткевіча[6]. Пакуль перапісваў пераклад, прыйшлі радкі: «На хутары…»[7]

*7 чэрвеня, аўторак*

Пачытаў брашуру Аляксандра Мілінкевіча[8] пра пакуты труны Панятоўскага[9]. Сумна. А тут яшчэ дадалі. У Беласточчыне таксама беларусы не дома. Хацелі пагутарыць з адной маладзіцай, дык яна запрасіла ў хату,

---

[1] У час вайны А. Карпюк — удзельнік падпольнай дыверсійнай групы, быў арыштаваны немцамі і высланы ў лагер; здзейсніў пабег, партызаніў, ваяваў у радах Савецкай арміі. У 1972 г. была распачата і разбіралася справа, нібыта ён атрымліваў нейкія грошы ў лагеры і, значыцца, супрацоўнічаў з немцамі. Паўторна да гэтага паклёпу звярнуўся час. «Политический собеседник» (верагодна, у 1989 г.).

[2] Карпюк Валянціна Аляксееўна, урач-псіхіятр. У 1999–2006 гг. выкладчык кафедры псіхалогіі і псіхатэрапіі ГГМУ. Кандыдат медыцынскиі навук (1998).

[3] Пяткевіч Аляксей Міхайлавіч (н. 1931), беларускі літаратуразнавец і краязнавец. Кандыдат філалагічных навук (1963). Прафесар (1994). З 1990 г. выкладчык, заг. кафедры ГрДУ імя Я. Купалы.

[4] Голуб Юрка (Юрый Уладзіміравіч; 1947–2020), беларускі паэт.

[5] Шаблінская Галіна Васільеўна (н. 1959), беларуская журналістка. У 2003–2008 гг. спецыяльны карэспандэнт Каардынацыйнай дырэкцыі вяшчання Беларускага радыё.

[6] Уладзімір Караткевіч. Быў. Ёсць. Буду!: Успаміны, інтэрв'ю, эсэ. Мінск: «Мастацкая літаратура», 2005. Уклад. Г. Шаблінская.

[7] Гл.: На хутары… (6.06.05) // Руны Перуновы. С. 400.

[8] Мілінкевіч Аляксандр Уладзіміравіч (н. 1947), беларускі навуковец, грамадскі і палітычны дзеяч. Кандыдат фізіка-матэматычных навук (1976). У 1999–2005 гг. старшыня Беларускай асацыяцыі Рэсурсных цэнтраў, у 2003–2005 гг. старшыня Гродзенскага таварыства беларускай школы. У 2005–2007 гг. старшыня Рады Аб'яднаных дэмакратычных сіл. Знайшоў пахаванне С.-А. Панятоўскага. Лаўрэат прэміі Еўрапарламента імя А. Сахарава.

[9] Панятоўскі Станіслаў Аўгуст (1732–1798), апошні кароль Польшчы і вялікі князь Вялікага княства Літоўскага.

каб суседзі не чулі, што па-беларуску гаворыць. Данясуць. Палякі й маскалёў пераўзыходзілі здаўна. А беларусы й дома, як у гасцях. Такі лёс.

*8 чэрвеня, серада*

Сустрэўся са Зміцерам Бартосікам[1]. Нагаварыў яму трохі пра Юрку Гаўрука[2]. Сто гадоў споўнілася. Накруціўся верш: «Знядзеленыя вочы»[3]. Бартосік даў чарговы том «Вострай брамы» Дубаўца[4]. Зноў пляжаць Броўку, узвялічваюць Г. [...]. Зноў-такі Максім Танк. Паэт сапраўдны. Але. КПЗБ вынішчана, а яму Сталінскія прэміі ўсіх ступеней. [...]. Ды няхай красуюцца, тужацца быць незалежнымі інтэлектуаламі. [«Ахвярынка»[5].]

*9 чэрвеня, чацвер*

Сёння дзень народзінаў Мамы! Хаджу з трывожным святлом у душы. З кожным днём бліжэй сустрэча. «Дамаўляюцца...»[6].

*10 чэрвеня, пятніца*

Даруй, Мама! Сёння твой дзень народзінаў у згодзе з пашпартам. А можа, усё-ткі 9-га. Трэба паглядзець, калі была Тройца ў 1909 годзе. Мамачка, ты кожную хвіліну са мной. Мамачка мая светлая, мамачка мая родная. Дзякуй табе! І даруй.

*Тлумачальная зацемка*

Спадар Белы Верш і пан Верлібр,
Ці, па-крывіцку кажучы, Вольнік!
Хачу патлумачыць, чаму
Мяне з палону свайго
Не адпускае паненка Рыфма.
Сталася так, што ў роднай хаце
Кажнюткае слова не проста казалася, —
Яно абцалоўвалася, абмілоўвалася,
Слухалася, як сугучных сабе шукала.
Рукі пра рухі нагадвалі.

---

[1] Бартосік Зміцер Валер’евіч (н. 1968), беларускі бард, пісьменнік. Лаўрэат прэміі імя Е. Гедройца (2017), Літаратурнай прэміі імя А. Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра (2017).

[2] Гаўрук Юрка (Юрый Паўлавіч; 1905–1979), беларускі перакладчык, паэт. Быў рэпрэсаваны.

[3] Гл.: Знядзеленыя вочы (8.06.05) // Халодная памяць вады. С. 107. У дзённіку верш прысвечаны А. Гайко.

[4] Дубавец С. Вострая брама. (Мінск:) Радыё Свабодная Еўропа. 2005. *Дубавец* Сяргей Іванавіч (н. 1959), беларускі журналіст, пісьменнік, крытык. У 2001–2008 гг. гал. рэдактар газ. «Свабода».

[5] Гл.: Ахвярынкі: Ні ў радасці, ні ў бядзе... (8.06.05) // Барадулін Р. Ксты. Мінск: Рымска-каталіцкая парафія свсв. Сымона і Алены, 2006. Выд. 2, дапоўненае. С. 504.

[6] Гл.: Дамаўляюцца... (9.06.05) // Руны Перуновы. С. 399.

Ногі, вядома, дарогі шукалі.
Вочы позірк дзявочы помнілі.
Галёкалі перагуды далёкія.
Мяне малога будзілі, каламбурачы,
Каб сон урачы:
— Рыгор, цягні багор,
Бо тачыла плывець…
І цікаўнасць тачыла, дзе ўзяць багор?..
Сугуччы маміных словаў дагэтуль
Слухаю са скрухаю.

*11 чэрвеня, субота*

Да пана Вішнеўскага ў майстэрню. Гэта ўнікальная з'ява — ягоная творчасць. Кожны раз новая форма. Усё яму падуладна: і дрэва й камень, і святло й цемра. Цікавая дэталь. Як выпівае, робіцца твар яшчэ больш панавітым, інтэлігентным, пародзістым. Потым да дызайнэра Анатоля Волкава[1]. У яго не кватэра, а музэй. Творам цесна. Яму б палац! Шматзначны лацінскі выраз: Mater ártium necéssitas = Маці мастацтваў — неабходнасць.

*12 чэрвеня, нядзеля*

Сустракаўся з Дубоўскім. Абяцае выдаць кніжку. Ягоныя вершы пачынаюць быць усё болей і болей цікавымі. Паэзія душы праб'ецца з-пад жалезабетону сыстэмаў і пасадаў. Яна спаконная. Вечарам пазваніў Шапран. Казулін[2] […] аб'яўляе падпіску на 14-томнік Васіля Быкава[3]. Прычым выдаць за два гады, а з ліпеня прэзэнтацыя першага том. Хто толькі не грэецца каля святога ймя пакутніка.

*13 чэрвеня, панядзелак*

Нічога не магу рабіць. Галава, як у члена Палітбюро ЦК. Дзякуй Пётру, хоць ён мяне выцягвае з багны роспачы. […].

*14 чэрвеня, аўторак*

Ратуюся вершамі. Калі нейкі пробліск у мазгах. «Пазычае…»[4]

---

[1] Волкаў Анатоль (н. 1960), беларускі мастак, кераміст, дызайнер.

[2] Казулін Аляксандр Уладзіслававіч (н. 1955), беларускі вучоны, педагог, грамадскі і палітычны дзеяч. Кандыдат фізіка-матэматычных навук (1988). Доктар педагагічных навук (1996). Прафесар. Акадэмік Акадэміі адукацыі РБ. Рэктар БДУ (1996–2003). У 2005–2007 гг. старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада). Адзін з кандыдатаў у прэзідэнты, асуджаны «за арганізацыю беспарадкаў» пасля выбараў (2006–2008).

[3] Быкаў В. Поўны збор твораў: У 14 т. 1–10 (кн. 2), Масква — Мінск, 2005–2019.

[4] Гл.: Пазычае… (14.06.06) // Халодная памяць вады. С. 395.

*15 чэрвеня, серада*

Сігнал «Кстоў». Прыстойна й дагледжана выдадзена. Дзякуй айцу Уладыславу Завальнюку! Дзякуй Але! Хоць трохі яна накруціла з фотаздымкамі. Але кніга ёсць. Пакуль яна не мая. Трэба перачытаць.

*16 чэрвеня, чацвер*

Спёка. У «БДГ» да Сяргея. Даў яму колькі лістоў Васіля. «Паразважалі...»[1]

*17 чэрвеня, пятніца*

У Чырвоны касцёл. Айцец Уладыслаў даў пачак «Кстоў». У «БДГ» сустрэча са Скоблам. Ён такой жа думкі наконт выдання Збору твораў Быкава [...] Казулінным. Алесь Пашкевіч сябра (чаргінца). Вясёлае жыццё!

*18 чэрвеня, субота*

Выйшаў нарэшце пераклад «Доўгай дарогі дадому» [В. Быкава]. А я цэлы дзень змагаўся са сваёй хворай галавой. Хто каго?

*19 чэрвеня, нядзеля*

Дзень народзінаў Васіля. Занёс васількі на ягоную магілу й на Караткевічаву. Яны там суседзі. Як мне іх не хапае. Гэта мая маладосць і сталасць.

*20 чэрвеня, панядзелак*

У ПЭН. Баршчэўскі падараваў унікальную кнігу «Штодзённасць за лініяй фронту». Гэта ягоны пераклад немца Бернгарда К'яры[2].

*21 чэрвеня, аўторак*

У «БДГ». Унук сяброўкі цёці Уладзі[3] распавёў чуты міф пра забойства Янкі Купалы. Зноў жанчына, якая скінула паэта.

*22 чэрвеня, серада*

Рыхтуюся да прэзентацыі. Як рыхтуюся? Не хочацца, нічога не раблюся. Пад вечар прыйшлі радкі: «Не згінаючыся...»[4]

---

[1] Гл.: Паразважалі... (16.06.05) // Халодная памяць вады. С. 288.

[2] К'яры Б. Штодзённасць за лініяй фронту: Акупацыя, калабарацыя і супраціў у Беларусі (1941–1944). 2005. *К'яры* Бернгард (н. 1965), нямецкі гісторык.

[3] Станкевіч (Луцэвіч) Уладзіслава Францаўна (1891–1960), беларускі педагог. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1959). Жонка Я. Купалы.

[4] Гл.: Трыпціх Чырвонага касцёла. II. Не згінаючыся... (22.06.05) // Ксты. Выд. 2. С. 16. Трыпціх прысвечаны а. У. Завальнюку.

*23 чэрвеня, чацвер*

Прэзэнтацыя «Кстоў» у Чырвоным касцёле. Людзей было, аж залішне хвалілі Генадзь Бураўкін, Лявон Баршчэўскі, Уладзімер Някляеў, Рыгор Сітніца. Айцец Андрусь Абламейка выдатнае слова сказаў. І, безумоўна, найлепей за ўсіх айцец Уладыслаў сказаў. Дзякуй усім. Гэта як развітанне. Доўга падпісваў аўтографы. На вячэры дагаварыліся да Нобелеўскае прэміі. Калі б быў Гілевічам, успрыняў бы ўсур'ёз. Добра, што Дамініка пабыла між людзей.

*24 чэрвеня, пятніца*

Прыходзіў у сябе. Усё-ткі мне нагрузка цяжкаватая. Роспач — раўнівая пані. Не хоча адпускаць на волю.

*25 чэрвеня, субота*

У «Коўню». Генадзь працуе, як прыкуты да клопату. Прыходзіла Ілона. Пасля доўга не магу апрытомнець. Як выжыць? Дамінічка расце, а бацькі нават не ўяўляюць, што яна ў іх ёсць. Не магу звыкнуцца, што я — жабрак. Самому мне нічога не трэба, а як падумаю пра Дамінічку — вар'яцею. На каго застанецца? Пры жывых бацьках сірата.

*26 чэрвеня, нядзеля*

Ілона яшчэ ліст прынесла сёння. Кругом вінаваты. Пакараў Бог сямейкай. Дзе знайсці душэўны спакой? За што ўхапіцца? Куды ўцячы? Галаўны боль. Роспач. З імі кладуся, з імі ўстаю. «І летам…»[1]

*27 чэрвеня, панядзелак*

Прэзентацыя «Быкаў на Свабодзе», дапоўненае выданне. Не змог быць. Зваліла мяне. Збіраюся на троху паехаць дамоў. Усё цяжка.

*28 чэрвеня, аўторак*

У «Коўню». Вамушу сёння 51. Год таму яго святасць Ян Павал II прымаў нас. Светлая яму памяць. Святы быў. Сабраўся было ехаць у Вушачу, аж тут айцец Уладыслаў задумаў выдаць мяне па-ангельску. У панядзелак сустрэча. А там 5-га — 16 Дамініцы.

*29 чэрвеня, серада*

Хочуць яшчэ наклад «Кстоў» зрабіць. Першы практычна разышоўся. Патроху перачытваў. Лавіў памылкі. Перадаў паасобнікі Алесю, Вадзіму, Маі, Сарокіну. Усім ім ёсць прысвячэнні.

---

[1] Гл.: І летам… (26.06.05) // Халодная памяць вады. С. 340.

*30 чэрвеня, чацвер*

Да Пётры. Зрабіў мне зёлкі. Прыходзіў Вамуш, таксама падмацаваў мяне. Ад Пётры ехалі разам з Вамушам. Распавядаў пра бабулю, якая была эканомкай у Нясвіжы ў некага з багатых. Закончыла інстытут шляхетных паненак. Бальшавікі расстралялі мужа, яна з двума малымі ўцякла на Віцебшчыну. Прыкінулася непісьменнай. Калі прыйшлі немцы, босая сялянка вітала нямецкага маёра на чысцюткай нямецкай мове. Маёр ледзь не ашалеў. У яе адкрыўся дар вядзьмарства. На хутар на ганак ваўкі прыносілі авечак. І цікава распавёў, як на «Беларусьфільме» зрабілі фільм «Глыбокай плыні» Шамякіна. Удзельнікі штурму Зімняга цалавалі […], дзякавалі. Павезлі фільм у Чалябінск на конкурс, нават у прагляд не ўключылі. […]. Склаў радкі: «На мове матчынай…»[1]

*1 ліпеня, пятніца*

Як пчолы з вулля, дні народзінаў пасыплюцца. 5-га — Дамінічкіна, 9-га — Валя, 18-га — Ілона. Дамінічка пакуль светлая ад радасці. […]. Ілону шкада да злосці. […].

*2 ліпеня, субота*

Перачытваю, дакладней, вычытваю «Ксты» для новага накладу. Шмат чаго хацелася б паправіць. Бальшыну чытаю, як не сваё. Забываецца.

*3 ліпеня, нядзеля*

Прыходзіла Ілона. Трэба даваць грошы, каб яна купіла Дамінічцы падарунак. Жыве, як у прастрацыі. […]. Прыступы болю галавы да роспачы. Нялоўка перад Пётрам, што ён так мяне выцягвае штодня. У хаце ніколі спакою не бывае. […]. І іх шкада.

*4 ліпеня, панядзелак*

У Чырвоны касцёл. Быў Някляеў. Можа, што атрымаецца з кнігай па-ангельску. Званіў Яўген Андросік. 9-га ў Полацак, там завяршаецца вуніяцкая пілігрымка. З'езджу. Заадно і ў Вушачу зазірну. Даюць яшчэ наклад «Кстоў». «Вершасказ: Словам можна перавязваць раны»[2].

*5 ліпеня, аўторак*

Дамінічцы 16! Чым яна сталейшая, тым яна капрызнейшая, а я старэйшы. Заўтра прэзентацыя трох тамоў Васіля. Трэба йсці. Хочацца, а клёку мала.

---

[1] Гл.: На мове матчынай… (30.06.05) // Халоданая памяць вады. С. 77.

[2] Барадулін Р. Навошта: Вершасказы. Мінск: «Медысонт», 2009. (Без нумарацыі.)

*6 ліпеня, серада*

Прэзентацыя. Тры тамы выдадзеныя добра. І на гэтым дзякуй, калі нават спыняцца. Віншаванне нават Сяргей Міхалкоў[1] прыслаў, як з таго свету. Калі выконвалі ў запісе «Магутны Божа», Казулін стаяў [...], нібы ўпершыню чуў. Па паперцы чытаў тэкст з расійска-маскоўскім акцэнтам. Жыруюць на святым Васілю ўсе.

*7 ліпеня, чацвер*

Дазваніўся да Вушачы. У нядзелю еду. «Наша ніва» дала ўсё-ткі слова Тараса пра Чэчэнію — «Сэрца майго сьвятыню». Валянцін годна сказаў пра Зелімхана. Знайшоў шмат лістоў Васіля.

*8 ліпеня, пятніца*

Перадаў Сяргею Навумчыку «Ксты» і дзве дзіцячыя кніжачкі для ягонай Ганулькі. Хай расце шчаслівенькая. Дапісаў прыпеў, сам Някляеў прасіў для кампазітара: «Сеяў зоркі спагадлівы лёс...» [у дзённіку]. Абышоў усе амаль «Саюздрукі», каб дзе паштоўка па-беларуску, усё по-рюсски.

*9 ліпеня, субота*

Дзень народзінаў Валі. Прыходзілі Мая й Алесь. З раніцы да Пётры. Ён мяне падцягнуў. Сёння й дзень народзінаў майго ўлюбёнага Някляева. «Вяльможны Валадзімер, сын Пракопа...» [у дзённіку].

*10 ліпеня, нядзеля*

Раньком у Полацак. Завяршэнне вуніяцкай пілігрымкі ў памяць Езафата. Урачыстая служба. Чыстыя ўніяцкія душы ў вернікаў і святароў. І нарэшце — *Вушача!* Душа вярнулася дадому. Да Бялевуша па ваду з нетраў Вушаччыны. Салодкая вада. Паліў камін. Па вуліцы малыя на роварах крычалі: «Рыгор Барадулін прыехаў!» Хоць у іх цікаўнасць нейкая радасная. У Менску сядзіш, кожную хвілю ў думках вяртаешся ў Вушачу. У былую, якой ужо няма. Прыедзеш — настрой развітання. Каб твар вушацкі, крывіцкі, каб слова крывіцкае. Расейска-калхозная трасянка. Адны птушкі па-крывіцку з лясным акцэнтам шчабечуць. Ясенін згадваецца: «Я ў родным краі як іншакраінец...»[2]

---

[1] Міхалкоў Сяргей Уладзіміравіч (1913–2009), рускі паэт і грамадскі дзеяч. Акадэмік АН СССР (1971). Герой Сацыялістычнай Працы (1973). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941, 1942, 1950, 1978), Ленінскай прэміі (1970).

[2] «В своей стране я словно иностранец». Радкі з верша «Русь советская» ([1924]).

*11 ліпеня, панядзелак*

Рана разбудзіла сарока ў маміным садзе. Перачытваў Су Дун-по. «Надпіс да малюнка з выявай сарокі на пакрытай снегам страсе»[1]. «Вершаказ: Спяшаецца марудна ў вясну лес па калені ў снезе»[2]. Верш з маім настроем паразумлены: «Шукаць»[3]. Дом ужо там… Тут ён знік.

*12 ліпеня, аўторак*

Нарэшце хоць невялікі, але дождж. Перабіраў такое-сякое барахло. Усё ў воску ад свечак. Рукапісы ўсе, накіды вершаў, вершы дагестанскага паэта ў парадкоўніках таксама ў вёску. Хоць даведаліся, што існуе табасаранская мова й паэт Муталіб Мітараў[4]. Адно што нязменна роднае — котлішча, маміна хата, дзе ўсё яе помніць. «Імяніны…»[5]

*13 ліпеня, серада*

Да Роўбы на Пліна. Хоць трошкі праплыў. Вёска амаль мёртвая. Дачнікі з Менска купляюць хаты, узводзяць палацы вычварныя, у якіх не жывуць і жыць не будуць. [Лукашэнка] трымае калгасы. Канаплёў[6] — участковы мент са Шклоўшчыны. Здаецца, другая асоба ў цырку, які завецца дзяржавай.

*14 ліпеня, чацвер*

Заходзіў Генадзь Аўласенкаў[7]. Ён родам з Ліпаўца. Цікавы паэт. Піша яшчэ й п’есы. Трохі завінуўся каля хаты, знёс друз ад разбітых шыбінаў. Потым да Галіны Варатынскай. Уся ў энэргіі. Гэта яе трымае. На хапку зборы. А ехаць нікуды не хочацца.

*15 ліпеня, пятніца*

Усю дарогу ад Вушачы да Мінска хоць наслухаўся вушацкай гаворкі кіроўцы маршруткі. Наша вымаўленне.

---

[1] Гл.: Надпіс на малюнку… (11.07.05) // Гуканне паэзіі Усходу. С. 58.

[2] Гл.: «Яшчэ заспанаму лесуну…» (30.06.06) // У неба пехатою. С. 97.

[3] Гл.: Шукаць… (11.07.05) // Руны Перуновы. С. 401. Падобна, як гэта неаднаразова здаралася, Рыгор Іванавіч, пераглядаючы старыя нататнікі, знаходзіў радок ці накід і пісаў новы верш, забыўшыся, што існуе першапачатковы тэкст. Параўн.: Душа вяртаецца дадому (23.05.03) // Ксты. С. 263.

[4] Мітараў Муталіб Мітаравіч (1920–2011), табасаранскі паэт, празаік. Народны паэт Дагестана.

[5] Гл.: Імяніны… (12.07.05) // Руны Перуновы. С. 190.

[6] Канаплёў Уладзімір Мікалаевіч (н. 1954), беларускі дзяржаўны і палітычны дзеяч. Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага схода РБ (2004–2007).

[7] Аўласенка Генадзь Пятровіч (н. 1955), беларускі настаўнік, рэдактар; паэт, празаік, перакладчык.

*16 ліпеня, субота*

З’езд беларусаў свету «Бацькаўшчына». Загналі некуды на паўднёвы захад. Трохі прыехала адусюль. Сорамна перад суайчыннікамі за калхозны ўрад. Так званы ўрад. У сваім рэпертуары галасіў Ніл па мове. Голас крыху аслаб.

*17 ліпеня, нядзеля*

Апошні дзень. Галасаванне. Усё, як у савецкія часіны. […] Шатэрнік спалохаўся, што яго не ўключылі ў раду. Аж парыжэў […]. Уключылі. «Дзеці капітана Гранта». Суседзі з Захаду, суседзі з Усходу зрабілі з Беларусі бедную сваячку. Гэтыя намаганні праз вякі давяршылі камуністы расійскага разліву.

*18 ліпеня, панядзелак*

Ачухваюся ад двухдзённага тлуму. Роспач толькі падужэла й пасталела. Божа, памажы выстаяць. Дзякуй Табе за ўсё! Хіба камічнае можа трымаць. На з’ездзе Ніл прапанаваў, каб па «Свабодзе» гучаў як гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі…». А ў свой час ён жа заваліў прапанову, каб гімнам быў ці «Магутны Божа», ці «Мы выйдзем шчыльнымі радамі…» Хацеў на свае словы з музыкай Лучанка […].

*19 ліпеня, аўторак*

Зваліўся з балкона Рысік. Паўтарыў мой леташні подзвіг. Працаваць не магу. Усё і ўсе раздражняюць. Галава ў абручах.

*20 ліпеня, серада*

У «Коўню». Пётра мяне падняў. У касцёл — падпісаць «Ксты» біскупу Уладыславу Бліну. Дзень народзінаў Зміцера Вайцюшкевіча. На канцэрт не пайшоў. Паслаў на кніжцы віншаванне: «Дык няхай жыве вялікі Зміцер…» [у дзённіку].

*21 ліпеня, чацвер*

Пазванілі з прадстаўніцтва ААН, прапанавалі перакласці гімн ААН. З радасцю згадзіўся. Гэта ж не Туркменбашы перакладаць.

*22 ліпеня, пятніца*

У Чырвоны касцёл. Прэзэнтацыя «Кстоў» у Вушачы будзе 11 верасня, будзе біскуп Блін. Адразу з маёй галавы клопат зваліўся. Алесь Пашкевіч званіў, хочуць у «Дзеяслове» даць мае празаічныя лісты да Васіля Вялікага. Хай даюць.

*23 ліпеня, субота*

Знайшоў накід верша пачатку двухтысячагоддзя, паспрабаваў паправіць: «Прыйдзе...»[1]

*24 ліпеня, нядзеля*

У ТЮГ да Шайко. Трэба перакласці два вершы Кузміна[2] саладжавабанальных ў п'есу Шэкспіра[3] «Марныя намаганні кахання». Шайко выбраў. Яшчэ старонку з Шэкспіра ў расійскім перакладзе з блакітным настроем. [...]. Знайшоў накід[4]. Лёг, а ў галаву лезуць «ахвярынкі»[5].

*25 ліпеня, панядзелак*

Сёння 50 Генадзю Асташонку — шчыраму рупліўцу, рашучаму ў працы й нясмеламу ў жыцці. Пайшоў у «Коўню». Яго не застаў. Адклалі святкаванне застольнае на сераду. Накідаў віншаванне: «Яшчэ на год да вечнасці бліжэй» [у дзённіку].

*26 ліпеня, аўторак*

Пераклаў для Шайко: «Апалены ў вясновы час...», «Разлятаюцца, каб збыцца...» Гэта з Кузміна. А яшчэ Шэкспіру ўстаўку, якую знайшоў Шайко «Бірон: Не попы — вочы...», «Матылёк: Што да натхнёных скіравалі вочы...», «Бірон: Прэч, шэльма...» [у дзённіку]. Якой муццю прыходзіцца займацца хвораму й жабрачыстаму! А тут яшчэ з гарачкі пагадзіўся перакласці гімн ААН. Да вар'яцтва халодны тэкст і няўлоўна-расплывістая мэлёдыя. Ноччу лезлі радкі: [«Ахвярынка»[6]].

*27 ліпеня, серада*

Хоць у «Коўні» адтаў душою. Адзінае мейсца, дзе сябе адчуваю чалавекам, забываюся на роспач і нэндзу. Творчыя душы, шчырыя беларусы. [«Ахвярынка»[7].]

---

[1] Гл.: Прыйдзе... (23.07.05) // Руны Перуновы. С. 102. Той самы выпадак, калі Рыгор Іванавіч знаходзіць накід, забыўшыся на напісаны верш. Параўн.: Лісты ў Нямеччыну: Ліст дзевятнаццаты: Баяцца кветкі абразіць дол... (22, 27.02–10.10.00) // Калі рукаюцца душы... С. 128.

[2] Кузмін Міхаіл Аляксеевіч (1875–1936), рускі паэт, празаік, драматург, перакладчык, кампазітар.

[3] Шэкспір Вільям (1564–1616), англійскі драматург, паэт.

[4] Гл.: Час (19.08.02, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 292.

[5] Гл.: Ахвярынкі: У ветракоў спадзяванняў маіх... (24.07.05) // Ксты. Выд. 2. С. 482. Гл.: Ахвярынкі: Душа не хоча прызнаваць за свае... (24.07.05) // Халодная памяць вады. С. 475.

[6] Гл.: Ахвярынка: Сам сябе дагнаць спрабуе *свет* (26.07.05) // Ксты. Выд. 2. С. 500. Правільны радок: Сам сябе дагнаць спрабуе *след.*

[7] Гл.: Ахвярынкі: У няба ўсё на прыкмеце... (27.07.05) // Халодная памяць вады. С. 467.

*28 ліпеня, чацвер*

Еду ў тралейбусе. Чытаю: «Цырк на лёдзе», — а калі замест *е* паставіць *і*, будзе: цырк на Лёдзі. Гэта ўжо цікавей. Міністэрства ўнутраных спраў па-беларуску болей сэнсу было б — Міністэрства вантробных спраў.

*29 ліпеня, пятніца*

Мучаючы, мучаюся з перакладам гімна ААН. Ці сапраўды гэтак цяжка без нотаў, ці гэта ўжо гады. З Новага Ёрка званіў Сяргей Навумчык. Трэба прадмова да кнігі паэм і вершаў Зянона. Потым пазваніў Зянон. А пад канец даканала Ала сваёй настырнасцю. Добрую справу робіць. Дзякуй! Толькі трэба пашкадаваць мяне. Дабілі ўсе! Знайшоў даўні накід: «Каб вольны…»[1]

*30 ліпеня, субота*

На вуліцы, як казаў некалі Святлоў, 7 градусаў яшчэ — і можна піць. Шалею ад болю. Трымае Пётра. Ілона — грошы, грошы. Толькі на Бутаўшчыне й адпачну. З раніцы пахадзіў пад дрэвамі. Напісалася: «Трымаемся…»[2]

*31 ліпеня, нядзеля*

Скончыўся месяц спёкай і дажджамі. На грыбы. Чытаю Зянонаву паэму (звыш 6 тысячаў радкоў) «Вялікае княства». Настальгія, сяганне да нябёсаў і размоваў з Анёлам да зямных драбнічкаў, да паху любімага Кося. Гэта, так бы мовіць, свая «Новая зямля», толькі на разнастайным матэрыяле. Роздум, споведзь і сподзеў. Яшчэ раз перакладаў гімн ААН. Цяжка. Бо толькі словы, а нотаў няма.

*Уістэн Одэн*[3]

Струны, музыʹка, разбудзі,
Каб разам пець.
Настрой распагодзяць нашыя галасы,
А не дзяльба —
Ў спаборніцтве вольным,
Спеве супольным знойдуць сябе.
Ў поясе гуку і тая зямля святая,
Дзе ўсе братамі,
Дзе ўсе з пашанай слоў сцерагуцца,

[1] Гл.: Каб вольны… (Каптан; 10.06.94) // Халодная памяць вады. С. 307. 2-ю, недрукаваную, страфу гл.: Каптан // Барадулін Р. Дзённікі і запісы. Вып. 7. 1994–1995. Смаленск: «Інбелкульт», 2020. С. 77–78.
[2] Гл.: Трымаемся… (30.07.05) // Руны Перуновы. С. 397.
[3] Одэн Уістэн Х'ю (1907–1973), англійскі паэт. З 1939 г. жыў у ЗША.

Бо можам словамі лгаць
І называць мірам вайну.
Толькі ашуквае подлая думка.
А ў песні сэнс.
Хай музыка ўсім мір растлумачыць.
Мір — зменаў знак.
І Гадзіннік Сусветны падтаквае цік-так.
Хай гісторыя места людскога зараз
Натхнёна йдзе, як музыка.
Узніклы гук гукае новы,
Плынь падганяе,
Каб мог адбыцца наканавана
Час-гаспадар,
Дзе нават смутак — радасці воблік,
Дзе лёс — свабода, спасланы дар.

*1 жніўня, панядзелак*

Так павітаў месяц маіх начных палётаў, што разбіў нос, ідучы дамоў. Зачапіўся за плітку. Аддаў пераклад гімна. Хай робяць, што хочуць. Канкрэтна трэба падганяць з выканаўцам. Дачытаў Зянона.

*2 жніўня, аўторак*

Вельмі цікавая гутарка з Сяргеем Баршчэўскім. З Украінскае амбасады. Паэт, перакладчык, дасціпны палітык. З'язджае ад нас. Шкада, што позна пазнаёміліся. З шалёнай галавой накідаў уступчык да Зянона.

*3 жніўня, серада*

Такія-сякія зборы ў дарогу. […].

*4 жніўня, чацвер*

На *Вушачу!* Па дарозе ўся біяграфія крывічоў — Крывічы, Княгінін. Тут і вёскі, якія помню па маме, — Чарнаруччa, Стайня. Нешта ад цюрскага — Ула, Бешанковічы. Вацлавова — некалі латыскае паселішча. Некалі, да камуністаў. Нарэшце маміна хата! Ахінула спакоем і нейкай салодкай трывогай. Адразу разуўся. Да суседа па ваду. Круцілі вочап. Усплывае паўнюткае вядро. На вуху вядра, каб добра ляцела ў ваду, як у цыгана, завушніца. Кавалак брукаванкі. Па ім хадзіў босы болей як 60 гадоў таму. Камяні цёплыя. Пясок ласкавы. А вуліца глухая. Нідзе не чуваць вушацкай гаворкі. Адны птушкі ды сабакі не стараюцца падладзіцца пад расійскі лад.

*5 жніўня, пятніца*

На базар. Дзе-нідзе чуваць вушацкае слова, наша інтанацыя. Чытаю шматпудовы плён працы[1] Сяргея Шапрана пра Васіля. Сяргею трэба помнік. Гэтулькі сабраць і арганізаваць! Ён па-паганску захоплены Васілём Вялікім. Дзякуй яму! «Аддаваць…»[2]

*6 жніўня, субота*

Чытаю подзвіг Шапрана. Мазаічны партрэт Васіля Вялікага. Тут, у падстрэшшы Мамінай хаты, па-асабліваму гучаць словы Васілёвы: «… ня трэба імкнуцца на сустрэчу з мінулым. Бо рэчаіснасць ніяк не адпавядае вобразу, створанаму ў тваёй памяці… Каб не разбурыць у сабе дарагое, ня трэба наноў шукаць яго…»

*7 жніўня, нядзеля*

Першае ўпамінанне Вушачы 1624 г. Васіль нарадзіўся ў 1924 годзе. Аднагодкі, толькі ў разрыве трох вякоў. Чытаю Шапрана. За некалькі інстытутаў працу зрабіў. Як Васілю не давалі пісаць і ворагі, і сябры. Усе адцягвалі яго ад пісьмовага стала й цягнулі на крыж. Богам быў пасланы на зямлю на большы час, каб зрабіць болей. Не далі. І так толькі Васіль Быкаў змог выстаяць і гэтулькі зрабіць. Каля вялікага вогнішча грэюцца ўсе. Хто душу грэе, а хто рукі.

*8 жніўня, панядзелак*

Адолеў палову фаліянта. Дай Бог да канца дачытаць. Даходжу з галавой. Каб крыху адцягнуцца ўвагай, напісаў. Люблю, каб лічба дня супадала з лічбай месяца (8.08). «З дзённіка *бяссонніка*»[3]. Цікава чалавек задуманы Усявышнім. Усё яму трэба, усё клапаціцца пра наступныя дні, хоць дзён тых меней і меней.

*9 жніўня, аўторак*

Ледзь падняўся. Лівень сцябае без літасці. Вецер шалее. Вось і напрацаваўся. Званіў у Менск. Там дрэвы павырывала. Божанька, калі ты мне яшчэ даеш дзён, дык дай іх з нармальнай галавой! Хачу яшчэ нешта напісаць і трохі прыгрэбсці Вушацкі словазбор. Можа, удасца выдаць.

---

[1] Шапран С. Васіль Быкаў: Гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах: У 2-х ч. Мінск — Гародня, 2009.

[2] Гл.: Аддаваць… (5.08.05) // Руны Перуновы. С. 105.

[3] Гл.: З дзённіка *бяссонніцы* (8.08.05, Ушачы) // Тамсама. С. 249.

*10 жніўня, серада*

Лівень, вецер. Галава ў абручах. Прыехаў у Менск Пётра з Масквы. Хоць ўратаваў. А наогул, нічога не хочацца. Жах. У памяці ўсё адрэзана, што было.

*11 жніўня, чацвер*

Сяку сучча. Чытаць не магу. Галава як не мая, а пазычаная.

*12 жніўня, пятніца*

Прыходзіла з Ваўча Валя Быкава. Яна ўся з ласкі. Васіль быў такі ж. Толькі трымаўся.

* [Валянціна Быкава:] «Перадкуюць перад ім; усе цёмныя ўвераныя яму, якія больш-менш прыхільныя, таго да радыё дапускаюць. Як сталі ўсякія фальшы на яго [Васіля, казаць]».

*13 жніўня, субота*

Няма маёй Вушачы. У Менску я ў той Вушачы, якую помню. Прыязджаю ў Вушачу, зноў у той, якую помню. Куды ўцячы, каб пабыць самім сабой, былым? Клопат, боль, роспач. Сапраўды, жыць будзеш, толькі не захочаш. [...].

*14 жніўня, нядзеля*

Ліе й ліе. Чытаю працу Шапрана. Пётра правіць галаву. А яна дурная. Не магу ўстаць з нармальнай галавой. Сціскае мяне ўсяго. Не міла нічога. Стома. Роспач. На сон пачытаў Су Дун-по. Вечная паэзія дае душы спакой. «Усё жыццё чалавека падобна Да разгібу й згібу рукі...»

*15 жніўня, панядзелак*

Прыходзіла Свяжана Мялешка. Відаць, апошняя шчырая крывіцкая душа. Вушаччына саветызаваная. Дробныя чыноўнічкі косяць пад [Лукашэнку]. Татальнае вынішчэнне ўсяго беларускага. Пайшоў да мамы. На магільніку, як і ў жыцці, савецкае быдла адно на аднаго лезуць. Каб болей угарадзіць, як гарод каля хаты. Пахадзіў, так-сяк прадзіраючыся, пачытаў прозвішчы. Шмат знаёмых, каля дарогі чытаю: «Харчанка». І дурная ўсмешка казыча. Гэта ў яго быў самы вялікі «хобат». У лазні мы малыя глядзелі, каб пераказаць дарослым паненкам. Жыццё суправаджае ў нябыт. Званіў Глеб. Вольныя прафсаюзы высялялі. На Зянона ліюць памыі. [...].

*16 жніўня, аўторак*

З Роўбам пахадзілі па Вушачы. Зайшлі ў ахову. Відаць, пастаўлю хату на ахову. Спакайней будзе. Хаця ўжо няма чаго красці. Усё выграблі. [...].

*17 жніўня, серада*

Прыходзіла Валя Быкава. Хоць душой адтаў. Шчырая крывічанка. Сазваніліся з Глебам. Маецца прыехаць у суботу. Пётра абяцае падтрымаць. А наогул, не ведаю, куды мне дзецца, куды ўцячы ад стомы й роспачы? Толькі да мамы. [...].

*** [Валянціна Быкава:] «Мама (родам) з Завулку, а бацька з Бычкоў. Помню, скрыня была абклеена нямецкімі і царскімі грашамі, якія ўжо ў ход ня йшлі. Бацька быў дабрахвочы, гатоў апошняе аддаць. І мама была не скупая. Возьмуць і хвастом накрыюцца. Крупы таўчы ў ступе, і пшаніцу таўклі на крупы, булён, і гарох, з яго гарохаўку варылі, гарох із бульбай. Пасля вайны не скора зажыліся. Камы — гарох, бабы і бульбу стаўкуць і прыскварацъ. Васіль любіў з крухмалам яечню. У яго самая яда была яечня».

*18 жніўня, чацвер*

Прыйшлі хлопцы ставіць ахову. Патроху чытаю шапранаўскую працу пра Васіля Вялікага. Цэлая эпоха. Якія пакуты прыняў на сябе апостал нацыі! І ўсё гэта, як гарох аб сценку. На Вечалле пешкі. Дзве гадзіны туды й назад. Старыя хаты пазнаю. Прозвішчы жыхароў у бальшыні сваёй забыліся. Замкавая гара зусім асела. Але ж Замкавая! Крывічы Полацкага краю — цемя нацыі. Вечалле зарасло чаротам. Дзе той адмел ледзь не кіламетровы з светлага пясочку?

*19 жніўня, пятніца*

Прыехаў айцец Уладыслаў. У наш касцёл. Потым я з імі ў Менск. Па фінансавую падмацоўку. Бо за ахову трэба плаціць каля 300 дал. Добра, што льга ў растэрміноўку. Толькі зайшоў у хату, звоніць Ул. Арлоў. У кнізе пра Караткевіча знялі ягоны ўспамін. Майго таксама няма. Гэтага трэба было чакаць. Хоць я занава не пісаў. Праўда, пераклаў Веяна. [...] Бондар [...], вядома ж, з ёй падобнымі лепей ведалі Уладзімера.

*20 жніўня, субота*

З Глебам і ягоным сябрам Сяргеем Ладуцькам (ён за рулём, бо рэдакцыйную «Комсомолки» разбілі) у Вушачу. НаВаўчэнскае возера. Усё ўзбярэжжа высокае забудавалі. Нічога не пазнаць. Ледзь прабіліся на Верасовачку. Ні следу ад хутара. На Вечалле. У Кавалеўшчыну. Усё глухне. На Баб’ю гару на магілы Марушкі й Пятра.

*21 жніўня, нядзеля*

На магілы бабы Маланні на лёнзаводзе й на Бутаўшчыну да мамы. У Бычкі. Антаніна ([Быкава] ідзе вуліцай) кажа: «Хутка мядзведзі будуць грукацца ў вокны, усё зарастае». Казала, як яна спраўляла вяселле. Чатыры бітоны самагонкі. Крамную гарэлку назад здала. На пожні так танцавалі, што 4 гады трава не расла. У селішчанскі касцёл. Веліч, якая не паддаецца разбурэнню. Падзем'е таямнічае.

*22 жніўня, панядзелак*

На Верасовачку. Душой адчуў тое мейсца, дзе хата стаяла. А так усё арана-пераарана, усё зарасло. Ігрушыну пастухі спалілі. Валун таксама некаму спатрэбіўся. Ледзь прабіўся наВаўчэнскае возера. Берагі параслі. Возера зарастае. Слізгануў малады вуж, як ачахлая бліскавіца. Сарок цэлы базар. Воддаль ад Ваўчэнскага возера ігрушына здзічэлая. У зялёных зорках цвярдых гарчакоў.

*23 жніўня, аўторак*

Дзякуй яму, пазваніў Генадзь Быкаў. Запытаўся, калі даваць машыну. Паедзем у панядзелак — 29-га. Пайшоў плаціць за ахову. У Вушачы збіты як на яблык, зарослы сустракае стрыечны брат Сіпакова, у торбе капуста й агуркі, недзе ўкрадзеныя. Замест вітання: «Дай тысячу!» Не хапае на «чарніла». Перачытаў факсімільнае выданне Тодара Лебяды[1] «Песьні выгнаньня» 1944 года. 500 асобнікаў было, друкавалася ў Вільні. Сумна. Пры любых уладах мы, беларусы, кватаруем у сябе дома. Узгадваецца японскае выслоў'е: у яго дом паўсюль, акрамя свайго дома. Амаль як у мяне.

*24 жніўня, серада*

Прыходзіла Валянціна Быкава з Ваўча. Колькі ў ёй шчырасці, непасрэднасці. Цяжкае жыццё не вытруціла. У ёй пазнаю Васіля. Учора прыйшоў ліст ад Шапрана з Себежшчыны. Беспадобная лірычная навэла, у прыватнасці, пра вожыкаў. А ў мяне справы дрэнь з галавой. А тут яшчэ шчырасць Алы. Робіць шмат, робіць апантана. А мне ўжо цяжка вытрымліваць напор. Народная мудрасць заўсёды сучасная. Чытаю японцаў: «За кім тыгр гнаўся, той і на малюнку яго баіцца. Калі гутарыш у полі, памятай, што й трава можа падслухоўваць. Не давярай таму, хто табе падарункі робіць». Прыходзілі вушацкія школьнікі. Двое пяцікласнікаў і трэцякласнік. Адносна нядрэнна гавораць па-беларуску з вушацкім прысма-

---

[1] Лебяда Тодар (сапр. Шырокаў Пётр Фёдаравіч; 1917–1970, РФ), беларускі драматург, паэт, празаік. Быў рэпрэсаваны.

кам. Прозвішчы — Марозаў, Суслёнак, а трэцякласнік Сапега. Ганарыцца сваім прозвішчам. Тонкія рысы твару.

*25 жніўня, чацвер*

Прыязджаў ксёндз Ежы з Валянцінай Пятроўнай. Цікава. Немцы пажадалі закансэрваваць і трохі прылюдзіць касцёл у Селішчы. Вушацкія савецкія верцікальшчыкі сказалі, што трэба зрабіць заключэнне, у якім стане храм ці рэшткі яго, і за гэта запатрабавалі 80 тысяч эўра. Амаль гэтулькі, колькі на рэстаўрацыю. Абы не было касцёла. Вось цыбуліны мураванкі ля кожнага рынку, ля кожнай піўной, бо пад эгідай […] Філарэта […]. Званіў Глеб. Прастудзіўся. Выйшаў у маладую ноч. Нейкае шахарэнне. У траве пад яблыняй спяшаецца некуды вожык.

*26 жніўня, пятніца*

Прыехаў Пётра з Літвы! Паставіў на мейсца галаву. Дзякуй яму! Чытаю Шапрана. Гэта — раман пра Васіля Вялікага. Для супакою душы перачытваю Су Дун-по (1037–1101): «Спит рыбак, и чайка тоже спит, Может быть, у них похожи сны?» Мае сны й сны вароны не падобныя. Рэдка нешта добрае сніцца.

*27 жніўня, субота*

Прыходзіла Валянціна Быкава. Хоць надыхаўся родным, крывіцкім. Потым прыходзіла Сняжана Мялешка. На вёсках няма вучняў, па 2–3 чалавекі ў першы клас. А [Лукашэнка] аграгарадкі будуе. Для каго? Чытаю пра Васіля. Паклаў жыццё, каб прачнуліся. Спяць толькі насамі, як хаты камінамі, храпуць дарагія беларусы.

*28 жніўня, нядзеля*

Да мамы. Па дарозе. Па цэнтральнай вуліцы, вядома ж, Ленінскай. Хоць каня ўбачыў пад сіняй дугой, калёсы на гумовых колах. На тумбе аб’явы пра розныя цуды лекавання, друкаваныя на кампутарах. І раптам ад рукі: «Прадаюцца козы. Вушача, Азёрна, 6». Аж душа засмяялася. А далей парк, як магільнік, абгароджаны. Музэй народнай славы — філіял крэматорыя. Падыходжу пад Бутаўшчыну, магільнік — былое паганскае капішча. Цёмнагаловыя сосны. Маміна магіла. Пабыў, памаўчаў з цішынёй. Пакуль не пачалі збірацца гарластыя саўкі […]. Ішоў назад. На голай, засохлай ліпе варона. Усё ў свеце аднолькава і ў людзей, і ў дрэў, і ў зёлак. «Графіка»[1]. З раніцы патэлефанаваў Генадзю Бураўкіну — яму 69. Павіншаваў майго плацінавага сябра. Позна вечарам па траве ўраселай

---

[1] Гл.: Графіка (28.08.05, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 325.

прыкуліўся вожык, сказаць, што за садам ён прыглядае. І ў калючых ёсць пяшчота.

*29 жніўня, панядзелак*

Трэба ад'язджаць. Не хочацца. Пастаяў пад вязам, пад яблынямі, прыклаў лоб да бярозы.

«Чакаючы...»[1]

*30 жніўня, аўторак*

Званіла з Нямеччыны Маліка Яндарбіева. Сыну (15 гадоў) рабілі двойчы апэрацыі, вымалі асколкі з рук. Яна дома зрабіла музэй Зелімхана. Усё, як у яго было. Запрашала мяне. Думае, што так лёгка вырвацца [...]. Папрасіла адрас. Хоча прыслаць фінікаў. Зелімхан жа двойчы прысылаў.

*31 жніўня, серада*

Да Пётры. Выцягваў мяне з нэрвовага зрыву. Не магу прыйсці ў сябе пасля адпачынку ў Вушачы. Клопат цісне на мяне. Не магу з'асяродзіцца. Званкі. Тузанне. Як падумаеш, што чакае, галава адключаецца. «Адвячорак ля мамінай хаты»[2].

*1 верасня, чацвер*

Дзень добры, Верасень! Будзь спагадлівы й светлы. Дапісаліся радкі, якія знайшліся па дарозе на Верасовачку: «Ля Верасовачкі»[3]. Няма той бадзёрай радасці, што была ў першым верасні. Заглухла беларуская мова. Падрасейскае чырыканне. Расейская папса.

*2 верасня, пятніца*

Трохі за горад. Скрозь сляды буравалу. Поштай прыслалі мне кнігу Паўла Севярынца[4] «Нацыянальная ідэя». Шмат цікавага. Папулярна, коратка. Але кідае ў бакі — хваліць [Лукашэнку] за ягоную гульню ў хакей, да нябёс узнёс N.R.M.[5] Але паболей бы такіх кніг.

---

[1] Гл.: «У весялосці вячэра сумная...» (29.08.05, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 350.

[2] Гл.: Адвячорак ля мамінай хаты (31.08.05) // Тамсама. С. 184.

[3] Гл.: Ля Верасовачкі (1.09.05) // Тамсама. С. 336.

[4] Севярынец П. Нацыянальная ідэя. 2005. *Севярынец* Павел Канстанцінавіч (н. 1974), беларускі моладзевы хрысціянскі палітык, публіцыст, пісьменнік. У 1997–2004 гг. заснавальнік і старшыня «Маладога фронту», з 2005 г. сустаршыня партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя».

[5] N.R.M. — беларуская рок-група (з 1994).

*3 верасня, субота*

Падціскае нэндза, роспач. Няма дзе зарабіць. Гляджу на Дамінічку, і блага робіцца. Пры жывых бацьках без бацькоў. Знайшоў у нататніку верш «Расце»[1] [у дзённіку].

*4 верасня, нядзеля*

Госпад! Дазволь крыху затрымацца тут і пры нармальнай галаве! Як вытрымаць? Як вытрываць?

*5 верасня, панядзелак*

Ужо гэта не арыгінальна. Не магу прыйсці ў сябе. А з усіх бакоў тузаюць.

*6 верасня, аўторак*

Пазваніў Акулін. Папрасіў вершы ў «Дзеяслоў». Яшчэ нехта помніць.

*7 верасня, серада*

Сустракаўся з Тарасам. Паўспаміналі, пасумавалі. Роспач.

*8 верасня, чацвер*

Вялікія зборы на паездзіны ў Вушачу. А мне нікуды не хочацца ехаць. Як гэта зноў адчуць смак жыцця?

*9 верасня, пятніца*

Прачнуўся з вушацкім: «Ой, ядуць госці, ядуць, Як мяцёлачкай мятуць, — На стале ні крошачкі, Пад сталом ні косточкі». Паганскае гасцяванне мела размах.

*10 верасня, субота*

Друкую патроху вершы для «Дзеяслова». Толькі тады й забываюся на галаўны боль, як нечым заняты. Як прывыкнуць, што не скончыш задуманае, што коцішся ў жабрацтва? Толькі й жывеш у сне.

*11 верасня, нядзеля*

*Вушача.* У касцёле прэзэнтацыя «Кстоў». Людзей было. Нават аднакласніцы былі. Быў біскуп Блін. У хату заехаліся. У садзе чырвонашчокі

---

[1] Першая назва «Як цень нетутэйшы» (17.04.98; у дзённіку ) // Барадулін Р. Дзённікі і запісы. Вып. 9. 1998–2002. Смаленск: «Інбелькульт», 2021. С. 47.

яблык. Лявону Баршчэўскаму даў. Былі ў Бычках. Быў консул[1] Швэцкай амбасады.

*12 верасня, панядзелак*

Друкаваў вершы. [...]. Баршчэўскі казаў, што «Калі рукаюцца душы…» ўсё-ткі выйдуць па-польску. А яшчэ — калі святкавалі юбілей «Салідарнасці», ліцэісты спявалі песні па-польску. Публіка была ўражана, калі грымнулі «Мур» па-беларуску. Трэба будзе даперакласці колькі песняў, і могуць выйсці двухмоўна. Яшчэ д'якан Пётра даў заданне. Трэба напісаць. А потым — у Вушачу! [...].

*13 верасня, аўторак*

Сёння прэзэнтацыя кнігі пра каханне «Яна і Я»[2]. Вечар будзе весці Рыгор Сітніца. Пайсці не змог. Напісаў і перадаў Рыгору: «Чытацкі водгук на «Яна і Я»: «Няхай як у лірыка і выдаўца…» [у дзённіку; Сіўчыкаву У.[3]] А ў вачох стаіць бычкоўскі бусел. Не паляцеў у вырай. Ходзіць балацявінкай ля Васілёвай хаты. «Смела…»[4] Папрасілі напісаць маленне да Маці Божай Чанстахоўскай.

*14 верасня, серада*

Змагаючыся з болем, напісаў: «Да Маці Божай Чанстахоўскай»[5].

*15 верасня, чацвер*

Не магу хадзіць. Так-сяк падняўся да тэлефона. Ксёндз пасылае машыну. Кажу, што не змагу, перадам праз пана Юрыя «Маленне да Маці Божай Чанстахоўскай». Трубку бярэ Ала: «У такім разе наш камітэт распадаецца». (Выдумалі камітэт па вылучэнню на прэмію.) Адказваю: «Хай». Праз колькі хвілінаў зноў Ала: «Ксёндз не прыме ад цябе малітву». Ала ўжо дастала мяне (і не толькі мяне) сваёй настырнасцю. Ксёндз ні разу сам нічога не сказаў. Яна ўсё ад яго імя. І ставіць яго ў нялоўкае становішча, бо ніхто не праверыць, казаў ксёндз ці не казаў. Потым звоніць Генадзь [Бураўкін] — яна яму гадзіну дурыла галаву, што я абразіў ксяндза. Чым? Фальварковы балаган наладзіла. Навошта мне ўсё гэта? Папрасілі

---

[1] Эрыкссан Стэфан (н. 1962), шведскі дыпламат. У 2005–2008 гг. Паўнамоцны міністр Пасольства Швецыі ў Расіі, кіраўнік аддзялення ў Мінску.

[2] Яна і Я: Вершы і песні пра каханне. Мінск: «Радыёла-плюс», 2005.

[3] Сіўчыкаў Уладзімір Мікалаевіч (1958–2021), беларускі празаік, паэт, перакладчык, драматург, мастак, выдавец.

[4] Гл.: Смела… (13.09.05) // Халодная памяць вады. С. 348.

[5] Гл.: Да Маці Божай Чанстахоўскай (14.09.05) // Ксты. Выд. 2. С. 172. Верш устаўлены ў экзэмпляры *дадрукаванага наклада 1-га выдання* на месцы верша «Няма калі» (узноўленага ў 2-м выд-ні зборніка).

напісаць уступ перадачаў для баптыстаў. З многіх краінаў хочуць чуць беларускую мову.

Мае маленькія сябры!
Жыццё — Гасподнія дары.
Каб Госпаду за іх аддзячыць,
Павінны мы і чуць, і бачыць
Душой сваёй святое слова,
Бо слова — усяго аснова.
Мане скажыце цвёрда «не!».
Ну, а цяпер ці вы гатовы
Паслухаць сцішана мяне?
Я раскажу пра шлях Хрыстовы,
Якім усе ў сваім жыцці
Да Госпада павінны йсці…

А то баптысты […] русскоязычники.

*16 верасня, пятніца*

Званіў Генадзь. Ён гаварыў з пробашчам. На тым тыдні трэба сустрэцца, толькі без Алы. А ў мяне ў душы цвік ад слоў шызічкі: «Ксёндз не прыме ад цябе малітву…» Змагаючыся з болем, пісаў: «Купіць…: Кандыдат чарговы ў правадыры…» [у дзённіку]. Не магу звыкнуцца, што сіла пакідае мяне, што не магу доўга засяродзіцца. Хай бы шлях мой жыццёвы скончыўся ў роднай старане. Хай бы рука мая трымала ці малаток, ці сякеру… «Жыць…»[1] Каб не паехала страха, стараюся нешта пісаць. Тым самым заганяю сябе яшчэ болей. І нанач прыйшлі радкі: «Добрай ночы!»[2] Загнаны, загуканы, хворы. Бадай аднаго Рысіка толькі шкада. Адысці толькі на Бутаўшчыну пры сваёй памяці…

*17 верасня, субота*

У галаву лезуць вобразы кшталту: магіла — запыненая баразна. З яе вырастае дух, у якім паўтараецца душа. А маёй душы няма прыпірышча, няма апірышча.

*18 верасня, нядзеля*

Расце папулярнасць. Стаім з кіношнікам (з асаднікаў). Падыходзіць бомж і кажа: «На Рыгора Барадуліна падобны». І прапануе паліць. Кіношнік потым просіць тысячу на піва.

---

[1] Гл.: «Жыць — значыць жаць…» (16.09.05) // Халодная памяць вады. С. 59.
[2] Гл.: Добрай ночы! (16.09.05) // Тамсама. С. 285.

*19 верасня, панядзелак*

Горы запісаў, вершаў, перакладаў. Не магу засяродзіцца. Дый навошта? Ала справу з прэміяй ператварыла ў фальварковую камэдыю. Клініка.

*20 верасня, аўторак*

У ПЭН да Лявона Баршчэўскага. Крывіч, арыец, асоба. Аж на душы пасвятлела. Не чую Алінай дураты. У Польшчы, можа, усё-ткі выйдзе «Калі рукаюцца душы…». Прыйшоў дамоў — званіла Ала, ксёндз прасіў яму пазваніць. Па-першае, не даваў мне тэлефона, па-другое, ніколі сам не пазваніў. Незразумела. Яны як бы нанялі мяне.

*21 верасня, серада*

За горад. Хораша. Спакойная восень. Душа адпачывае. Заўтра ў касцёл. Зноў пачнецца, як выдаваць па-ангельску, як перакладаць. Усё можна звесці на самоў хвост. Саветызацыя мазгоў яшчэ трывае.

*22 верасня, чацвер*

Паўдня прачакаў, калі прыедзе абяцаная машына. Не прыйшла. Рух быў перакрыты, (Лукашэнка) ездзіў па горадзе. Потым у касцёле прыйшлі да паразумення, што ўсё ўзначаліць ксёндз Уладыслаў. Добра, што быў Генадзь. Ён акрамя таго што таленавіты крывіч, яшчэ й дыпламат. Можа, з ім і Сяргеем (Законнікавым) паедзем у Кіеў. Пакуль чакаў машыну, напісалася хуткамоўка: «Заробак інтэлектуала»[1]. Пачынаецца валтузня вакол вылучэння на прэмію. Адным з першых […] Г. […]. Не ведае вушацкага выразу: злосцю людзей не пераживеш. Хіба што вылучыцца. А я знайшоў у нататніках, недзе ў 1974 годзе:

*Прэтэндэнт на Нобелеўскую*

Да прэміі мне як ісці?
Па шчырасці скажу:
Не выцягнуў па якасці,
Вазьму па тыражу!

*23 верасня, пятніца*

У «Коўню». Хоць адтаў душою. Хоць забыўся на ўсе мітрэнгі, на клопаты. З Юрасём доўга стаялі на трамвайным прыпынку. Прыйшоў дамоў, перадаю Дамінічцы аздобу, падрамантаваную Генадзем. Як маладая копія гаспадыні. Толькі нармальны голас, калі даеш грошы, калі ёй што

[1] Гл.: Заробак інтэлектуала (22.09.05) // Халодная памяць вады. С. 309.

трэба. Гэты пераходны ўзрост перавядзе мяне ў вечны спакой. [...]. «Неразгаданая...»[1].

*24 верасня, субота*

*[...]*. Не магу сесці й спакойна што-небудзь закончыць, давесці да ладу нейкія накіды. Злосць, прэтэнзіі ды яшчэ званкі. Усім абавязаны. Пётра, дзякуй яму, трохі падняў, бо галава разломвалася.

*Не надакучыць*

Чым злей галава пачынае гусці,
Шчырэй спачуваю ахрыпламу бому.
Адно застаецца ў гэтым жыцці —
Не надакучыць сабе самому...

Калі так будзе цягнуцца дома, дык і надакучу сабе самому. Бо дзе згода, там лагода.

*25 верасня, нядзеля*

Дачытаў твор Шапрана пра Васіля. Які малайчына Сяргей. Гэтулькі сабраць. Тут цэлы інстытут не саўладаў [бы] з матэрыялам. 6 кг рукапіс. Аднёс Сяргею ў «БДГ». [...]. Трэба ехаць у Вушачу. Іначай — канец. А хочацца нешта зрабіць яшчэ. [...]. А расце ўнучка — як яе падгадаваць, за што? І за што мне такая кара? [...]. А наогул, суму яшчэ паболела, калі дачытаў кнігу пра Васіля Вялікага. Усё па Адаму Міцкевічу: «Спадчыну ціха возьмуць сабе Цёмныя людзі...»

*26 верасня, панядзелак*

Некалі Гітлер казаў: «Калі б жыдоў не было, я б іх выдумаў». Так і з нашай цяперашняй апазыцыяй: калі б яе не было, [Лукашэнку] трэба было выдумаць. Прыходзіць запрашэнне як дэлегату на Кангрэс дэмакратычных сілаў. Усё па-рюсскі. У дадатак: «Григорий Иванович». Камуністы й тыя Рыгорам менавалі. Чым гэтыя дэмакраты ад [Лукашэнкі] розняцца?

*27 верасня, аўторак*

Прыйшла пасылачка ад Малікі з Катара. Колькі трэба запаўняць анкетаў. Круцей, чымся пры Сталіне. Прыслала мне сцяжок Чэчэніі — на зялёным абсягу бел-чырвона-белая паласа. Фотаздымак Зелімхана, ягоную візітоўку, фінікі (як і ён некалі), яшчэ — шалік летні й шкарпэткі. У лісце поўная ўпэўненасць, што расце моладзь у эміграцыі, валодае ўсімі мо-

---

[1] Гл.: Неразгаданая... (23.09.05) // Халодная памяць вады. С. 130. У дзённіку верш прысвечаны М. Дубатоўку.

вамі, якраз яна й верне Чэчэнію. Сынку рабілі зноў апэрацыі. А я знайшоў у сшытках пераклады Эмілі Дзікінсан[1] — цікавейшай паэтэсы. Недзе ў 96-м годзе перакладаў. Перадрукаваў для Скоблы ў ягоную анталогію[2].

*28 верасня, серада*

Хоць з хворай галавой, а трэба ўдакладняць парадкоўнікі. Ала, вядома, робіць вялікую справу. Але мне цяжка вытрымліваць напор. Дый роспач, безвыходнасць.

*29 верасня, чацвер*

Сход ПЭНа. Напрымалі аж 130 чалавек. Усё гэны [… Дынько[3]]. Усчалі размову пра вылучэнне на Нобелеўскую. Ускачыў з вачыма яшчэ шалёнейшымі, […], Ігар Бабкоў[4], чаму не Разанава[5]. Савецкія людзі, грантахопы. Як быццам гэта па пастанове ЦК даецца. Следам [Дынько]. Ваўчыстыя сабакі. Эпатажнасць, павучыстасць. Хай бы мяне пакінулі з гэтай прэміяй у спакоі. І так здароўя няма. Добра, што прэзідэнтам стаў Някляеў[6].

*30 верасня, пятніца*

У парк. Разбудзіў прыгаслае цяпельца. Хоць дымком абагрэў душу. Глядзеў, які шчыры агонь. Круціліся радкі: «Ціха…»[7] А на душы асадак ад маладых (хаця й не такіх маладых) ваўчыстых сабак. Да ваўкоў не дарастуць, зайздрасць з’есць.

*1 кастрычніка, субота*

Шаноўны Кастрычнік! Патрымай добрае надвор’е. Усё-ткі вырвуся з сямейнага раю ў Вушачу. Пётра сказаў: «Ці ў Вушачу, ці на той свет». Пакуль лепей у Вушачу. Той свет пачакае, думаю. Як прагнаць трывогу ў душы? Прыйшло ў галаву. Перамога — магутнасць, могасць. По-беда. Бядой заканчваецца.

---

[1] Дзікінсан Эмілі Элізабэт (1830–1886), амерыканская паэтэса.

[2] Галасы з-за небакраю: Анталогія паэзіі свету ў беларускіх перакладах ХХ стагоддзя. Мінск: «Лімарыус», 2008. Склад. М. Скобла.

[3] Дынько Андрэй Васільевіч (н. 1974), беларускі перакладчык, публіцыст. У 2000–2006 гг. гал. рэдактар газ. «Наша ніва». У 2002–2004 гг. віцэ-прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра. Лаўрэат прэміі імя Г. Эленбоген (2003, Чэхія).

[4] Бабкоў Ігар Міхайлавіч (н. 1964), беларускі паэт, празаік.

[5] Разанаў Алесь (Аляксандр Сцяпанавіч; 1947–2021), беларускі паэт, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я. Купалы (1990).

[6] Някляеў У. П., старшыня Беларускага ПЭН-цэнтра (2005–2009).

[7] Гл.: Ціха… (30.09.05) // Халодная памяць вады. С. 32.

*2 кастрычніка, нядзеля*

Зноў для баптыстаў для радыёперадачы:

Мой сябра, Божае ягнятка!
Табе спагадліва даю
Нябеснай мілаты зярнатка,
Пасей яго ў душу сваю,
Каб узышло і каласіла,
Бо толькі ў шчырай веры сіла!

Патроху збіраюся ў Вушачу. Варушу кніжны пыл у мазгах.

*3 кастрычніка, панядзелак*

Да Пётры. Даў новых зёлак. Каб лепей спаць і не заводзіцца. Пазваніў Арлен Кашкурэвіч[1]. Яму спадабаўся пераказ «Найвышэйшай песні»[2]. Прапанаваў зрабіць подпісы пад ягоныя працы — арыгінальнае выданне. Дужа рады прапанове. З хаты трэба бегчы ў Вушачу. Каб не звар'яцець.

*4 кастрычніка, аўторак*

У парку прыйшлі радкі: «Свой каўнер настаўляе абшар...»[3] Званіў Радзік. Алесь дамовіўся з Сіўчыкавым наконт выдання майго выбранага.

«Ад сямейнага ГУЛАГа І анёлу стане блага». Пачытаў Някляеву, яго рэцэнзія: «Выдыхнуў...»

*5 кастрычніка, серада*

Збіраўся сёння збірацца ў дарогу. А ноччу прыступ. Ледзь к вечару троху ачухаўся. Пераносіцца паездка. Нічога ўжо не магу планаваць. [...].

*6 кастрычніка, чацвер*

Галава як цэбар. А яшчэ чытаю даследаванне Георгія Коласа[4], як Панамарэнка[5] й яму падобныя стараліся ў 37–38-х гадах. У нас пакуль чакаюць такой нагоды. Ды час не той.

---

[1] Кашкурэвіч Арлен Міхайлавіч (Арсен; 1929–2013), беларускі графік. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1973). Народны мастак Беларусі (1991).

[2] Гл.: Песня над песнямі Саламонава //2005)) // Ксты. С. 129.

[3] Гл.: «Свой каўнер настаўляе абшар...» (4.10.05) // Халодная памяць вады. С. 321.

[4] Колас Г. Карані міфаў: Жыццё і творчасць Я. Купалы. Беласток, 1998. *Колас* Георгій Данілавіч (1929–1994), беларускі літаратуразнавец, тэатральны крытык, публіцыст, кінадраматург.

[5] Панамарэнка Панцеляймон Кандратавіч (1902–1984), беларускі партыйны і дзяржаўны і дзеяч. У 1938–1947 гг. 1-шы сакратар ЦК КП(б)Б.

*7 кастрычніка, пятніца*

З гімнам ААН фатыга, як нельга шмат. Націскі не супадаюць. Казаў жа, дык цягнулі.

*8 кастрычніка, субота*

Б'юся над гімнам. Гэта трэба, каб хто іграў. А так на пальцах — лухта.

*9 кастрычніка, нядзеля*

Аднёс Наташы рукапіс. У яе цікавыя новыя вершы. Новае дыханне. Балючая душа. Шчырая.

*10 кастрычніка, панядзелак*

Сустрэча з двума выдаўцамі. Сіўчыкаў і Дубоўскі. Можа, будзе дзве кнігі. Перабіраю рукапісы. Цяжка з'асяродзіцца.

*11 кастрычніка, аўторак*

Памерла цешча. Адпакутвала. Даруй, калі што не так.

*12 кастрычніка, серада*

У крэматорый. Вусцішна. Зябка. Усё-ткі ў зямлю адпускаць цяплей. У хаце не стае пакутнай душы.

*13 кастрычніка, чацвер*

З Алесем па зубных урачах. Вярнуўся айцец Уладыслаў з Польшчы. У Чанстахове падаравалі абраз Чорнай Панны (4 тыс. даляраў). Упершыню імша па-беларуску. [...] Г. [казаў] Пятровічу: «Цябе заказалі...» [Дынько] and K° вайну супроць «Дзеяслова» і ўсіх [...], супроць беларушчыны. Яшчэ падвязаўся Фядута[1]. [...]. Знайшоў у запісах:

* * *

Дамоў
Да моў
Сваіх
Сцяжына ўсіх
Цяжкая.
Айчына іх
Чакае.

Як утрымацца ў беспрасвеццi?

---

[1] Фядута Аляксандр Іосіфавіч (н. 1964), беларускі літаратуразнавец, журналіст, палітолаг. Доктар габілітаваны гуманітарных навук (2017, Польшча). Лаўрэат прэміі імя А. Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра.

*14 кастрычніка, пятніца*

Божа! Злітуйся. Зірні на мяне спагадліва. Хоць я гэтага й не заслугоўваю.

*15 кастрычніка, субота*

Да Алеся. Гімн ААН, каб спяваўся, трэба доўга даводзіць з музыкантам. Ломіць галаву. Роспач абдымае, як самая жарсная каханка. І раптам — ліст ад Анатоля Клышкі. Колькі шчырасці і добрых словаў! Дзякуй, даўні дружа! Аж захацелася жыць. Кожны дзень на краю берага стаю, задаю пытанне, ці гэта ўжо час дадому? Ці варта было ўсё рабіць, каб прыйсці да безнадзейнасці?

*16 кастрычніка, нядзеля*

Да пана Вішнеўскага ў майстэрню. Пётра паглядзеў мяне. У пана на балконе каменныя стоды нараджаюцца. Хоць трохі душой адтаў.

*17 кастрычніка, панядзелак*

У «Коўню». Хлопцы без заказаў чакаюць. Падступаюцца халады і ў хату, і ў душу. Колькі засталося, вядома Усявышняму. Не думалася, што так дажываць давядзецца. Так да ладу й не прывяду накіды, задумы, вершы. Апускаюцца рукі. [...].

*18 кастрычніка, аўторак*

Прыехаў Андрусь Абламейка. Хоць пагрэў душу — паспачуваў мне наконт актыўнасці Алы й іншых. З Алесем да Сіўчыкава. Як чалавека прыняў мяне спадар Уладзімер. Можа, выдасць выбранае з імем «Руны Перуновы». Па дарозе ў трамваі налюляўся экспромт: «Знадзеена курсіў чакаў...» [у дзённіку]. Зараз сяджу перабіраю рукапісы й друкапісы.

*19 кастрычніка, серада*

Сёння паўнагоддзе Наташы. Павіншаваў. Учора віншаваў Ганада. Суцэльныя дні народзінаў. [...].

*20 кастрычніка, чацвер*

Патроху перадрукоўваю для «Рунаў Перуновых». Я ў сваіх вершах заблудзіўся, як у лесе, у якім даўно не быў.

*21 кастрычніка, пятніца*

Прыходзілі Мая й Алесь. Памянулі Тацяну Харлампіеўну. 9 дзён. А ўсё здаецца, што яна ў хаце.

*22 кастрычніка, субота*

Пачынае надвор'е асеніцца. І настрой мой адпаведна. Хачу дамоў, а клопат не пушчае. За машынкай. Аж самому не верыцца часам, што гэта я пісаў. Усё сціраецца ў памяці.

*23 кастрычніка, нядзеля*

Снілася, што Васіль напісаў некалькі вершаў. Мы з Камейшам[1] рыхтуем за яго заяву на паступленне ў Саюз пісьменнікаў.

*24 кастрычніка, панядзелак*

Як цяпер кажуць, знайшлі з залатым Алесем канцэпцыю «Кстоў»[2]. Будзе 5 раздзелаў. Друкую. Званіла Наташа Семашкевіч. У «Мастацкай» цуды. Пачынаюць серыю кшталту савецкага ЖЗЛ[3]. І туды жывых [...]. Хіба з пэрспэктывай, што хутчэй памруць? Сэрыю паэзіі XXI ст. пачынае Навум Гальпяровіч[4]. [...].

*25 кастрычніка, аўторак*

Пад вечар мокры снег. Адпаведна й настрой разлезлы. Ратуюся працай, а працаваць няма як — няма душэўнага спакою. Не адстае роспач. Гэта калі загрымлю, дык няма грошай, каб пахаваць. Але вершы штурхаюць пад руку, ці пад ручку. Наталі, наталі! «Слухаць…»[5]

*26 кастрычніка, серада*

Крыху за горад. Хоць душой адпачыў. Пачынае рана цямнець. На душы таксама. Як выйсці з безвыходнасці, як не думаць, што не выжыву? Як не баяцца за Дамінічку? Добра адно, што ёсць пра каго думаць, каго хацець бачыць і чуць. Дзякуй Богу за ўсё!

*27 кастрычніка, чацвер*

Званок. Гэта звоняць з морга. Хацеў спачатку пасла́ць, потым дайшло, што гэта наконт цешчы. У маладыя гады маглі пазваніць з міліцыі. Зараз з морга. Пахадзіў па вуліцы. [...].

---

[1] Камейша Казімір Вікенцьевіч (н. 1943), беларускі паэт, перакладчык. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1989).

[2] Агаворка, маецца на ўвазе зб. «Руны Перуновы».

[3] Папулярная з савецкіх часоў серыя «Жизнь замечательных людзей» выд-ва «Молодая гвардия» (Масква).

[4] Гальпяровіч Навум Якаўлевіч (н. 1948), беларускі паэт. З 2002 г. гал. рэдактар, нам. галоўнага дырэктара, гал. дырэктар Дырэкцыі замежнага вяшчання Беларускага радыё. Ганаровы грамадзянін г. Новаполацка (2012) і г. Полацка (2014). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Савіцкага (2018). Заслужаны дзеяч культур РБ (2018).

[5] Гл.: Слухаць… (25.10.05) // Руны Перуновы. С. 348.

*28 кастрычніка, пятніца*

Захавалі прах цешчы. Ілона з Косцем былі. Ілона такая страшненькая, а таму балючая. Вечарам пазваніла Маліка з Катара. Запрашала ў Катар. Сыну яшчэ трэба рабіць аперацыю. Некаторыя асколкі вымаць нельга, можа застацца без працаздольных рук.

*29 кастрычніка, субота*

У дарогу. За Паставамі (думаю, што гэта паставы′) вёскі Наўры, Курды. *Лучай*. Касцёл, будаваны Агінскім[1]. Таму так крануў паланэз развітання. Ксяндзу, маладому й дужа светламу і шчыраму, пастаўскае начальства патэлефанавала: «Глядзі даскачышся, прымаючы Барадуліна». У касцёле падпісваю «Ксты» маладзіцы сталага веку, яна: «Мне трэба хутчэй, бо карову трэба з поля прыгнаць і падаіць». — «А як завуць карову?» — «Чарнушка».

* Прозвішчы пародзістыя — Ластоўскія. Начлег у кляштары пастаўскага касцёла.

*30 кастрычніка, нядзеля*

Касцялок, як яго называе ксёндз, у *Казлоўшчыне.* Маленькі, утульны, дагледжаны. Славуты *Мосар.* У двары аўтобус з турыстамі. Просіць аўтограф студэнт з Віцебска Зміцер Аліеў. Бацька узбек. Выдатная беларуская мова. Яго цікавіць беларуская гісторыя. Едзем у Паставы. Каза пры дарозе аб'ядае апошнія лісцінкі. У адной вёсцы, дакладней, ля вёскі, нямецкі фермер разводзіць страусаў і прадае яйкі. Крыху нязвыкла глядзяцца страусы, як пеўні, што выбіліся ў парткіраўнікі. Заключны — пастаўскі касцёл. Гэта й ёсць беларусізацыя. Кнігі ўсе раскупілі. Рука як не развілася ад аўтографаў. Варта было й пазябнуць, і крыху застудзіцца…

*31 кастрычніка, панядзелак*

Прыходзіў у сябе. Наплывы роспачы. Як выжыць? Званіў з Парыжа Барыс Забораў[2]. Яму нядаўна таксама 70 стала. Прасіў перадаць «Ксты».

*1 лістапада, аўторак*

Калупаюся з рукапісамі. Падбіраю Алесю на выбар вершы. Галаўны боль і роспач. І памерці страшна не таму, што адысці боязна да продкаў, а таму, што няма за што пахаваць. Паўтараю Байрана: «Душа ўначэла…»

---

[1] Агінскі Міхал Клеафас (1765–1833), граф, польскі кампазітар.

[2] Забораў Барыс Абрамавіч (1935–2021), беларускі мастак і скульптар. Ганаровы акадэмік Расійскай акадэміі мастацтваў і Фларэнтыйскай акадэміі выяўленчых мастацтваў. З 1980 г. жыў у Францыі.

*2 лістапада, серада*

Забягаўся Алесь. Аддаў вершы. Хай ён выбірае. Мне засталося выбраць фота. Як утрымацца ад жабрацтва? Сёння Дзяды. Запепліў свечачку, што прыслала з Катара ўдава Яндарбі. Званілі, з Дзядамі віншавалі Някляеў, Вішнеўскі, Янушкевіч[1].

*3 лістапада, чацвер*

Аднёс «Ксты», каб перадаў Забораву, супрацоўніку Бельгійскай амбасады. З Алесем перазвоньваліся наконт «Рунаў Перуновых». Знайшоў яшчэ вершы для «Рунаў...». Чытаю пасляслоўе Андрэя Хадановіча[2] [да зб. Лабадзенкі]. Адмаўленне ўсяго, што да яго, і адкрыццё ягонае нагадвае: малы прыбег дамоў да бацькоў, якія мірна талкуюць, і: «Вось вы тут сядзіце й не ведаеце, а піська х..м называецца!» Пасляслоўе да Глебавага зборніка.

*4 лістапада, пятніца*

Алесь завёз да Сарокіна. У дадатак да галавы яшчэ й сэрца. Чакаю Пётру. Дадрукаваў яшчэ да «Рунаў...». Пісаць нічога не магу, а значыць, няма нармальнай галавы.

*5 лістапада, субота*

Прыехаў Пётра! Выцягнуў мяне з болю й роспачы. Беражы яго Бог! Дзякуй яму.

*6 лістапада, нядзеля*

Толькі пад вечар змог нешта рабіць. Дзякуй Пётру. Заўтра хачу за горад.

*7 лістапада, панядзелак*

Трошкі за горад. Хоць на нейкі час забыцца, што я хворы жабрак, які стаіць на аброве.

*8 лістапада, аўторак*

Меўся прыняць Пётра. Адклалі на заўтра. Густы туман, шэрасць за вокнамі. І ў галаве як ўтрываць?

---

[1] Янушкевіч Язэп Язэпавіч (н. 1959), беларускі літаратуразнавец, архіограф, перакладчык. Кандыдат філалагічных навук (1987). У 1997–2006 гг. заг. аддзела археаграфіі Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы (БелНДІДАС), з 2006 г. незалежны даследчык.

[2] Хадановіч Андрэй Валер’евіч (н. 1973), беларускі філолаг, паэт, перакладчык. З 1999 г. выкладчык БДУ. Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» (2007), прэміі імя К. Шэрмана (2017), прэміі імя Н. Арсенневай (2020), преміі імя Е. Гедройца.

*9 лістапада, серада*

Да Пётры. Прывёў мяне ў сябе. Дзякуй яму! Шукаю фота для «Рунаў...». Усё неяк забываюся на роспач.

*10 лістапада, чацвер*

Аднёс пашпарт і фота для візы ў Польшчу. Бедная Ала, а яшчэ горай даб'е мяне гэтая кніга ў падрыхтоўцы даслоўнікаў для перакладаў.

*11 лістапада, пятніца*

У ТЮГу Шайко ставіць «Марныя намаганні кахання». Міністэрства так званай культуры не плоціць за пераклад. Надвор'е такое, што галава адлятае некуды. А можа, туды?

*12 лістапада, субота*

Шукаю верш, які ў школьную праграму ўваходзіць. «Праграмісты» чыталі толькі даўнія зборнікі мае й выбіралі выпадковыя, найбольш просценькія вершы.

*13 лістапада, нядзеля*

Дарагому Алесю адгрузіў як не два пуды фота. Хай выбірае. Дзякуй яму за руплівасць і ласку! А мне ўсё абрыдла. Ці выйду з багны роспачы?

*14 лістапада, панядзелак*

Забраў колькі асобнікаў «Кстоў» папраўленых. Палякі таксама харашы. Сказалі ксяндзу, што хор прымуць, толькі калі ў харыстаў польскія карані.

*15 лістапада, аўторак*

Пластом ляжаў. Пад вечар выйшаў на вуліцу. Стала блага.

*16 лістапада, серада*

Прэм'ера ў ТЮГу. Ісці не магу. Як не расчэпіцца галава. Што гэта з надвор'ем? Жыву, як мокрыя дровы ў печы гараць, так. Можна ўжо новую показку [казаць]: надакучыў, як Рыгор Пётру. Колькі ж ён будзе трываць мяне?

*17 лістапада, чацвер*

Сустракаўся з Ганадам. Мяўся-мяўся й сказаў, што мусіць падацца ў новы саюз, які арганізуе [Чаргінец]. Выходзіць, як сказаў Генадзь, заў-

тра ўстаноўчы з’езд. Гэта ў асноўным з раёнаў і рюсскоязычники. Адзін з кіраўнікоў меціцца Аўруцін[1]. […].

*18 лістапада, пятніца*

У «Коўню». Хоць душой адпачыў. Хлопцы пачыналі святкаваць заўтрашні Дзень артылерыі. А ў Палацы прафсаюзаў пад аховай амонаўцаў [Чаргінец] абраў сябе старшынёй так званага Саюза нібыта пісьменнікаў. […]. І ў гэтых умовах у мяне знайшліся радкі: «Недатыкальны запас: Кожнай душы…» [у дзённіку прысвячэнне «Марам маладым»][2].

*19 лістапада, субота*

Прыходзіў Ганад. Яму ўсё-ткі трэба ў [чаргінцовы] саюз. Ягоная воля. Сёння сарачыны па Валінай маці. […]. Заязджаўся Уладзімер Лайкоў з жонкай. Вёска гіне. Затое ў кожную школу па 5 [экз.] «Сов. Белорусей». На ўсіх ўзроўнях вылезла шэрасць, падхалімы, падсрачнікі […].

*20 лістапада, нядзеля*

Званіў Генадзь. На нас з ім абгаўлена паляванне […] зграей. Чым гэта перашкаджаю я гэтым [чаргінцам]? Што колькі жыў, стаяў за Беларусь, за родную мову. Колькі Бог даў мне здольнасці, працаваў я на Беларушчыну, як чорнарабочы, на гэтым загоне й сканаю.

*21 лістапада, панядзелак*

Устаў з вершам: «Радкі, што хатнік нашаптаў»[3]. У «Дзеяслоў». У ПЭН. Хістае ўбакі.

*22 лістапада, аўторак*

У Чырвоны касцёл. Зборы ў дарогу.

*23 лістапада, серада*

*Беласток.* Прыём у мэра. Універсітэт. Ян Чыквін. Георгі Валкавыцкі[4]. Віктар Швед[5]. Начлег у інтэрнаце ўніверсітэта. Усё было, акрамя ручніка.

---

[1] Аўруцін Анатолій Юр’евіч (н. 1948), рускі паэт, перакладчык, крытык. У 1998–2005 гг. гал. рэдактар час. «Немига литературная», з 2005 г. першы сакратар СПБ. Лаўрэат Усерасійскай прэміі імя Б. Карнілава (2012), Нацыянальнай літаратурнай прэміі Беларусі (2016), Міжнароднай літаратурнай прэміі імя І. Анненскага (2017) і інш.

[2] Гл.: Недатыкальны запас (18.11.05) // Халодная памяць вады. С. 399.

[3] Гл.: Радкі, што хатнік нашаптаў (21.11.05) // Руны Перуновы. С. 420.

[4] Валкавыцкі Георгій (1923–2013), журналіст, публіцыст, беларускі паэт, мемуарыст (Польшча).

[5] Швед Віктар Мікітавіч (1925–2020), беларускі філолаг, паэт, грамадскі дзеяч (г. Беласток, Польшча). Заслужаны дзеяч культуры Польшчы (1971).

*24 лістапада, чацвер*

*Бельск Падляскі.* У спартзале шмат вучняў. Тут якраз быў канцэрт музыкаў з Гародні. Потым *Гайнаўка.* Адзін маленькі клас. 15 хвілін. Наогул ім нічога не трэба. Іх залюлялі ўвагай. Трэба кнігі, каб яны ляжалі. Нідзе на вуліцы не пачуеш беларускага слова. У нас расейшчына. У іх пальшчызна. Адзіная радасць — сустрэча з Чэславам Сэнюхам. Рэдкай душы чалавек. Хоча перакласці Яндарбіева. Параіў яму перакладаць з беларускай кніжкі.

*25 лістапада, пятніца*

Дадому. У снег. Па дарозе люляліся радкі: «Не тут»[1]. Па дарозе дамоў з панам Вішнеўскім прыйшла вясёлая ідэя — увесці страхаванне ў рэстарацыях для пітакоў. Гэта каб адагнаць сумныя думкі марнасці паездкі і наогул усяго, што робіш. Любой мове немагчыма выжыць, калі супраць яе йдзе дзяржава, падпальваная прэсай, тэле, радыё. Ідзе сінтэзацыя мазгоў.

*26 лістапада, субота*

Сёння князю Караткевічу 75. Памянуў успамінамі. А мог бы быць з намі. Але так лёс распарадзіўся. Покуль будзе жыць хоць адзін беларус, Уладзімер, як і Васіль Вялікі, будзе жыць.

*27 лістапада, нядзеля*

Да пана Вішнеўскага ў майстэрню. Паднялі чаркі за Уладзімера. Былі Валера Славук[2] і Анатоль Волкаў. Волкаў распавёў, як [Ціцянкоў] прапанаваў яму зрабіць чайны сэрвіз з выявай [Лукашэнкі]. Падпісваеш кантракт — назаўтра катэдж, грошы, машына, дзеўкі. Анатоль адмовіўся. Пагражалі. Зрабіў чайны сэрвіз з выявай Скарыны. [Ціцянкоў] забраў і не вярнуў.

*28 лістапада, панядзелак*

Вольга Караткевіч аб’явілася нарэшце. Бушлякоў і Саўка[3] заявілі: каб не яны, у беларусаў не было б правапісу, яны яго зрабілі для беларусаў. Саветызаваныя [...].

---

[1] Гл.: Не тут (25.11.05) // Халодная памяць вады. С. 89.

[2] Слаук Валерый Пятровіч (н. 1947), беларускі графік, педагог. Прафесар. Заслужаны дзеяч культуры РБ (2015). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (2001).

[3] Саўка Зміцер (1965–2016), беларускі мовазнавец; выкладчык. Адзін з аўтараў варыянту абноўленага беларускага правапісу (2005).

*29 лістапада, аўторак*

Вечар Алеся Камоцкага ў Музеі Максіма Багдановіча. Хоць на час на душы развіднелася. Дзякуй, Алесь! Валер Дубоўскі збіраецца выдаваць кнігу маю. Дай Бог!

*30 лістапада, серада*

У Чырвоны касцёл. Інтэрв'ю для часопіса «Дыялог»[1]. На душы мокры снег, як і на вуліцы.

*1 снежаня, чацвер*

Крыху за горад. Хоць забыўся на ўсе мітрэнгі. Прыехаў — званкі, дурныя клопаты. Пераглядаў змест «Рунаў Перуновых». Хай ідзе так. Дзякуй Сіўчыкаву. Асабліва Алесю. Ягонымі клопатамі ўсё зроблена.

*2 снежаня, пятніца*

Вечарына Ганада ў Музеі Максіма Багдановіча. Шкада, што Ганад не змог прачытаць свае вершы па-курдску. Ён ведае армянскую, а сваю мову, відаць, не ведае. Гэта ўсё саветызацыя, а перад гэтым русіфікацыя.

*3 снежаня, субота*

Хадзіў па маладым марозіку з расійскай папеўкай, якую некалі ў Расіі чуў мастак Славук: «Деньги есть — девчата любят И с сабою спать кладут. Денег нету — х.р отрубят И собакам отдадут». Крута, па-расейску. Хадзіў у «БДГ» да Шапрана. Вялікую працу робіць — помнік Васілю гэтая кніга. А гэтае высоўванне мяне на Нобеля ўжо не дае спаць шмат каму. [...] Галубовіч таксама пачынае вякаць. Як быццам я чакаю прэміі. Згадзіўся, каб засвяцілася Беларусь. А то [Лукашэнка] са сваімі падсрачнікамі цвердзіць, што няма ў нас ні мовы, ні літаратуры, а розныя Фядуты ды так званыя дэмакраты падпяваюць яму. Цырк на дроце. Мне й так хапае дома, а тут яшчэ ўсе, каго выцягваў, каму спрыяў, за пяткі кусаюць. Чыста беларускі сюжэт.

*4 снежаня, нядзеля*

Празмагаўся цэлы дзень з галаўным болем. На душы пагана. А тут яшчэ Ала са сваімі пытаннямі. Мне гэтыя «Ксты» й вылучэнне прыспешваюць на Бутаўшчыну, да мамы. Адных хатніх мітрэнгаў хапіла б. Як утрымацца? Госпадзі! Памажы...

---

[1] «Дыялог» — культурна-рэлегійны час. (на беларускай і рускай мовах), заснаваны ордэнам айцоў вярбістаў (з 1994).

*5 снежаня, панядзелак*

Ноччу быў прыступ. Ці гэта ўжо званкі? Як бы мяне малацілі цапамі. Такое ўражанне, што ад мяне застаецца цень, а сіла выходзіць. Жыву, як у мяху. [...]. Дамініка не вучыцца, Ілона нічога не робіць, ейны [Косця] таксама. Толькі пад зямлю.

*6 снежаня, аўторак*

Сяргей Законнікаў узяў білеты на Кіеў. Алесь Пашкевіч з Някляевым едуць раней. Колькі крутні, колькі драбнаты вакол вылучэння. Спакойна не памрэш.

*7 снежаня, серада*

Вечарына памяці Караткевіча. Прэзентацыя Глебавай кнігі. Усё разам. Не пайшоў. Не змог. Зваліла мяне. Каб не звар'яцець, крэмзаў калыханку[1].

*8 снежаня, чацвер*

Дзякаваць Богу, вечарына прайшла нармальна, пазваніў Генадзю. Ніл кляўся, які ён вялікі сябра Уладзімера. А малаток?[2] Забыўся. Хвароба.

*9 снежаня, пятніца*

Зусім падаю. А тут яшчэ пазванілі з райсабеса, быццам я па дагавору працаваў 2002–2003 гады й таму вінен 730 тыс. Перад дарогай для настрою.

*10 снежаня, субота*

Як трава, жыву. Добра, што ёсць маладыя сябры, найпершы з іх Алесь Камоцкі. Пра Пётру ўжо й не кажу.

*11 снежана, нядзеля*

Сёння трэба ехаць. Ледзь падняў мяне Пётра.

*12 снежаня, панядзелак*

*Кіеў!* Спілка пісьменнікаў. Прамы эфір на радыё. Універсітэт культуры. Начлег у Ірпені.

[1] Гл.: Засынай... (7.12.05) // Выпаў грук у грома з рук. С. 21.

[2] Гл.: І коскі з месца не зрушу!.. (10.04.94) // Барадулін Р. Аратай, які пасвіць аблокі. Мінск, 1995. С. 203.

*13 снежаня, аўторак*

Сустрэча ў СП. Вечарам ў Яварыўскага[1]. Цёпла, як у родных.

*14 снежаня, серада*

Выступ у Кіеўскім універсітэце. Вячэра ў «Энеі». Ад’езд на Менск.

*15 снежаня, чацвер*

Менск. «Коўня». Прыходжу ў сябе.

*16 снежаня, пятніца*

Добра, што з’ездзіў. Якая глыба Генадзь Бураўкін. Які шчыры й які парыўны. Колькі ведае й помніць. Яму трэба пісаць кнігу ўспамінаў і роздуму. Сяргей Законнікаў зламаны савецкай сістэмай чалавек. Шкада. Не стаў подлым, але сарваў нервы да жаху. Толькі б утрымаўся. На Украіне ўсё, як і ў нас. Хіба маштабы іншыя й характар людзей іншы. Белакаменная цісне на іх яшчэ мацней. А яны мацней трымаюцца. А нам, відаць, перадапошняе выпрабаванне. Ці выстаім, ці звалімся. Як вушацкія казалі: жыць будзеш, але не захочаш.

*17 снежаня, субота*

Да Наташы забраць рукапіс. Чытала мне новыя мініяцюры й вершы. Усё цікава, майстравіта. А дзе чытач? Заўтра ў Віцебск.

Накідаў верш: «З дазволу…»[2]

*18 снежаня, нядзеля*

*Віцебск.* Па дарозе сустрэліся сані. Як з маленства. Касцёл святой Барбары. Шмат моладзі. Падпісаў 120 «Кстоў». Было прыемна чуць, што я яшчэ патрэбны. Ёсць яшчэ крывіцкі дух. Хоць яго менее.

*19 снежаня, панядзелак*

Дома стары рэпертуар. Даб’е ён мяне канчаткова. Як вытрымаць? Як вытрываць?

*20 снежаня, аўторак*

У Чырвоны касцёл. Абмяркоўвалі паездку ў Латвію. Можа, у лютым удасца палечыцца ў Юрмале.

---

[1] Яварыўскі Уладзімір Аляксандравіч (1942–2021), украінскі пісьменнік, журналіст; грамадскі і палітычны дзеяч. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Г. Шаўчэнка (1984).

[2] Гл.: З дазволу… (17.12.05) // Ксты. Выд. 2. С. 168. Верш прысвечаны біскупу У. Бліну.

*21 снежаня, серада*

У Міністэрства культуры. Падпісаць дамову на пераклад п’есы Шэкспіра, што ў ТЮГу паставіў Шайко. Юрыст міністэрства запытаўся, а ці даўно памёр Шэкспір.

*22 снежаня, чацвер*

Згубіў я самога сябе. І ўжо, відаць, не знайду. Роспач. Узгадалася дарога на Віцебск. «Вяртаюцца…»[1]

*23 снежаня, пятніца*

Ноччу быў прыступ. Цэлы дзень прыходзіў у сябе. Дапамог Пётра. […].

*24 снежаня, субота*

Аб’явіўся Глеб. Перадаў прывітанне ад Еўтушэнкі[2]. Ён у Маскве цяпер, а наогул у Штатах. Вечарам прыходзіў Дубоўскі, віншаваў. Пахадзілі з ім па вуліцы.

*25 снежаня, нядзеля*

Так у Вушачу й не сабраўся. Толькі ў думках штодня еду. Там мяне чакае мама на Бутаўшчыне. Настрою ніякога. Усё як абарвалася. Нейкае амаль раслінна жыццё. Памерці б Барадулінам, а не стомленай раслінай. Усё ад Бога.

*26 снежаня, панядзелак*

Сустрэўся з Уладзімерам Сіўчыкавым. Аддаў яму слоўка пра Максіма Багдановіча. Ён мне даў ксэракс працаў Арлена Кашкурэвіча да «Кстоў» [да «Рунаў Перуновых»]. Арлен, вядома, непераўзыдзены майстра. Знайшоў нейкія накіды. Паспрабаваў іх давесці да нейкага толку. «На гарадскіх хутарах»[3].

*27 снежаня, аўторак*

Як падняцца? Як знайсці сябе ў сабе? Галава гудзе, як кірмаш. Абручы сціскаюць галаву. Прачынаешся ў боль, у роспач. Разумею, што трэба жыць. А як? «Позірк цішыні»[4].

---

[1] Гл.: Вяртаюцца… (22.12.05) // Ксты. Выд. 2. С. 282. З назвай па першым радку гл.: «Дасвецце заспанае» // Халодная памяць вады. С. 334.

[2] Еўтушэнка Яўгеній Аляксандравіч (1933–2017), рускі паэт, празаік, кінасцэнарыст, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1984), Дзяржаўнай прэміі РФ (2010). Тройчы намінаваўся на Нобелеўскую прэмію.

[3] Гл.: На гарадскіх хутарах (26.12.05) // Халодная памяць вады. С. 201.

[4] Гл.: Позірк цішыні (27.12.05) // Тамсама. С. 52.

*28 снежаня, серада*

Схадзіў у сядзібу БНФ забраць лекі ад Валі Трыгубовіч[1]. Добра, што ў сядзібе шмат моладзі. Нейкая надзея.

*29 снежаня, чацвер*

Снежаньскі дождж за вокнамі і ў душы. Куды ўцячы? [...]. Рукі апускаюцца.

*30 снежаня, пятніца*

У «Коўню». Хоць адтаў душой. Пан Вішнеўскі, граф Пётра. А Юрасёва швагерка такія рэдкія беларускія песні спявала. Як ні вынішчаюць крывіцкі дух, а ён жыве. Крывіцкі дух вечны сваімі паганскімі каранямі.

*31 снежаня, субота*

Апошні дзень года, які быў шчодры й на радасці, і на пакуты. Дзякуй Звышняму за кожную імгнінку! Каля ёлкі пасядзелі ўсёй сваёй сям'ёй. Гляну на Ілону — кепска робіцца. Загнаная, беспрытульная, галодная. [...]. Званіў Куксо з Масквы. Узгадаў лепшыя дні, бо яны былі маладыя.

---

[1] Трыгубовіч Валянціна Андрэеўна (н. 1947), беларускі мастацтвазнавец, грамадскі дзеяч. З 2000-х жыве ў ЗША.

## 2006

*1 студзеня, нядзеля*

Добры дзень, Новы год! Не будзь няўмольным. Дай мне трошку светлай галавы. Дай мне моцы й настрою яшчэ нешта зрабіць, прыгрэбсці ў якую капешку накошанае. Сёння дзень народзінаў у Рыгора: «Імянінніку: На крылах мрой лунаюць міты» [Р. Сітніцу; у дзённіку].

*2 студзеня, панядзелак*

Патроху прыходжу ў сябе. З Сітніцам гадзіны дзве хадзілі. Ён у курсе ўсяго. Поўны энэргіі. Дай яму Бог! Пісаўся з раніцы верш: «На пазыках»[1].

*3 студзеня, аўторак*

Сустрэўся з маладзіцай, якая папрасіла «Ксты» для сябе, для дачкі ў Празе. Сустрэліся, выявілася — стрыечная сястра Сяргея Рублеўскага. Валянціна Іванова. Чысцюткае крывіцкае вымаўленне. Аж на душы пасвятлела. Перадаў «Ксты» для Славянскай бібліятэкі ў Празе й яшчэ «Сама пайду дарогаю, [голас пушчу дуброваю…]». Потым да вечара ў «Коўню».

*4 студзеня, серада*

З Някляевым нешта робіцца. Замест таго каб прыслаць ксяндзу пастанову ПЭНа, поўны пратакол на 3-х старонках. Дужа важна для камісіі думкі Бабкова й яму падобных. Даб'юць мяне вылучэннем на прэмію. Усё ж сімволіка, а так званыя сябры не могуць стрымаць канкрэтнай злосці. Тут, думаецца, стараецца зграя […] рукамі дазволеных дэмакратаў. Напісаўся верш: «Звон свабоды: Не ведае прымусу час…» [у дзённіку].

*5 студзеня, чацвер*

Пазваніў Клышка. Якая чыстая душа! Колькі шчырасці й дасведчанасці. Цікавыя назіранні пра пераклады Бібліі. Склаўся верш: «Адно…»[2]

---

[1] Гл.: Каб паспеў (2.01.06) // Ксты. Выд. 2. С. 285.
[2] Гл.: Адно... (5.01.06) // Тамсама. Выд. 2. С. 396.

*6 студзеня, пятніца*

Званю ў Міністрэства культуры даведацца тэлефон аднаго саўка. Віншую сакратарку з новым міністрам[1]. Дзякуе. Праз паўзу жадаю: «Дай Бог не апошні». Замаўкае. Заўтра ў дарогу.

*7 студзеня, субота*

А 7-й выехалі. *Должыца.* Ксёндз перадаў звон. *Пёры. Браслаў.* Людзей было. Варта ездзіць у імя беларускасці. Кіроўца турысцкага аўтобуса, якім ехалі, Кезаў. Экскурсаводка абʼяўляе: «Праспект пераможцаў Машэрава…» Само выйшла ў маладзіцы каламбурыстае. Учора пісалася:

*Хуткамоўка ад воўка*

Стог не
Стогне,
Стог маўчыць.
Цяля каля
Куля
Мычыць.
Пабег бы ў гай
Бугай
Па рог,
Ды зачапіўся за
Парог.

*8 студзеня, нядзеля*

Прыходжу ў сябе. З сябе выйсці лёгка, цяжка ўвайсці. «Выснова»[2].

*9 студзеня, панядзелак*

Адчуванне развітання й стомы цяжкое. Страху няма. Ёсць страшэнны боль у галаве. Страх, што страха паедзе. Госпадзе! Пацярпі мяне на гэтым свеце…

*10 студзеня, аўторак*

Рэпетыцыя пекла. […]. На схіле не маю дзе галаву прысланіць. «Рака й чалавек»[3].

---

[1] Матвяйчук Уладзімір Фёдаравіч (н. 1950), беларускі дзяржаўны дзеяч. У 1995–2004 гг. дырэктар па кадрах і ідэалагічнай рабоце, у 2004–2005 гг, старшыня Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі РБ, у 2005–2009 гг. міністр культуры.

[2] Гл.: Выснова (5.03.05–8.01.06) // Халодная памяць вады. С. 301.

[3] Гл.: Рака й чалавек (10.01.06) // Тамсама. С. 238.

*11 студзеня, серада*

Да Ул. Сіўчыкава. Карэктура «Рунаў Перуновых». Дзякуй яму! А колькі шчырай працы Алеся Камоцкага. Не ведаю, як і аддзячыць яму, душэўнаму маладому сябру.

*12 студзеня, чацвер*

Улёг чытаць карэктуру — званочак у галаве і ў сэрцы. Сарваная галава. А радкі лезуць:

* * *

Лёс кожнаму, як кеплівы дарадца,
Дазволіць на жыццёвым кірмашы
І прыцаніцца, і патаргавацца,
І не купіць нічога для душы.

*13 студзеня, пятніца*

Крыху за горад. Хоць адтаў душой. У электрычцы прапануюць папсу й жоўтую прэсу разанскімі галасамі. Простые советские люди жадно хватают. Раптам двое маладых хлопцаў з гармонікам на беларускай мове вітаюцца, жадаюць, пяюць шчырую беларускую песню. Нейкія рублі кінулі дзве бабулькі. Ну й я, вядома. Што й казаць, паступова выцясняюць і мову, і песню. [...]. «Варта...»[1]

*14 студзеня, субота*

Сустрэўся з Хізры Асадулаевым. Скульптар, паэт, музыка. Дагестанец. Карацінец. Карацінцаў звыш 14 тысяч. Піша на аварскай і карацінскай мовах. Між іншым, заўважыў, што Расул Гамзатаў на суседняй гарэ [жыў]. Як у крывічоў амаль у кожнага сваё возера, у паэтаў Каўказа амаль у кожнага свая гара. Прыехаў у 80-х гадах. Мову вучыў па літперадачах радыё, па тэленавінах. Аднойчы на Сваце белых журавоў прачытаў па-беларуску: «Няма народаў малых, бываюць малыя паэты». Да яго пачалі падыходзіць беларусы, якія жывуць у Дагестане. «Вы беларус?» — «Не, я аварац». — «А так добра гаворыце па-беларуску». Жыццёвае крэда ў Хізры, як сказаў Быкаў: «Жыць трэба сумленна з самім сабой».

* Свята белых журавоў. «Няма народаў малых, бываюць малыя паэты» [з верша Р. Барадуліна]. «Вы беларус? А ў нас не вывучаюць мову, законы, універсітэт, а [неразб. 2]. У сям’і вучыўся мове».

*** Каўказ. Дагестан — як наглядная праява таго, што можа стацца з планетай пасля ўсіх вынаходніцтваў зброі. Дзясяткі народаў, якія знікаюць, стаўшы так званымі нацыянальнымі мяншынямі.

[1] Гл.: Варта... (13.01.06) // Руны Перуновы. С. 118.

*15 студзеня, нядзеля*

Прыехаў Глеб з Вільні. Прывёз мне ў падарунак званочак ў падкове. Распавёў, як ён здаваў экзамен па беларускай літаратуры. Запытаўся, ці не па сваёй творчасці? Адказаў, што не. Запэўніў Глеба, што выпускны экзамен будзе здаваць па пагер-вершах ці наогул па ўсёй творчасці Глеба Лабадзенкі. А ён мяне ўражліва парадаваў — прачытаў вершы сваёй аднакурсніцы — Яраславы Ананка[1]. Шалёна таленавітая паэтка йдзе ў нашую паэзію. Валерыі Куставай будзе не сумна. А там і новыя наталенавіцяцца. А мы ўсё плачам, што паэзія затухае. Як ёсць жар, будзе й вогнішча. Быў бы жар, а вогнішча прачнецца і зашугае.

*16 студзеня, панядзелак*

Як не ўсю ноч спаць не даваў верш: «Яслі»[2]. З Рыгі вярнуўся Сяргей Шапран. Талрыд Руліс[3], які шмат перакладае Васіля, напіша ўспаміны. Васіль жыве другім жыццём у душах чытачоў, у памяці сяброў і знаёмых. А Валя Быкава прыслала ліст. Адна, самотная. Яна званіла з Ваўча ў Бычкі. Хата-музей не ўцяпляецца, дровы не завезены. І гэта ў лесе. А экскурсіі аўтобусамі ездзяць. А Тоня [Быкава] адна даглядае хату. Экскурсіі — аўтобус за аўтобусам. Цікавая гутарка з Сіўчыкавым. Трапяткая асоба. Правільная пазіцыя. Беларус натуральны. І сучасны. Для «Рунаў Перуновых» дапісаў верш: «Памяць любіць журбу пялегваць...»[4] Праверыў на Камоцкім і на Марыніч [Марыне Наталіч].

* Пісаў новыя вершы, правяраў іх [на] Камоцкім. І на Марыне Наталіч.

*17 студзеня, аўторак*

«Коўня». Самая ўтульная для душы маёй хата. Таленту майстроў спакараецца метал. Таго няма, што яны не могуць зрабіць. Потым Юрась адвёз да пана атамана ў майстэрню. Там цэлая бяседа пацякла. Мастакі ў развагах пра жыццё й мастацтва. Пра заказ і заказчыка. Байрачны заключыў, што лепшым заказчыкам быў Папа Рымскі[5], які заказаў Мікеланджэлу[6] ажывіць харомы. А наогул, мастак вольны толькі тады, калі працуе, размаўляючы з Вышнім духам. А галоўны заказчык час, як спадручны яе Бязлітаснасці Вечнасці. У майстэрні чакае, калі яна паўторыц-

---

[1] Ананка Яраслава (н. 1987), беларуская і руская паэтэса, перакладчыца, літаратуразнавец. У 2004–2006 гг. студэнтка журфака БДУ, у 2006–2011 гг. студэнтка Літаратурнага інстытута імя М. Горкага (Масква).

[2] Гл.: Яслі (16.01.06) // Руны Перуновы. С. 117.

[3] Талрыд Руліс (1940–2014), латышскі перакладчык.

[4] Гл.: «Памяць любіць журбу пялегваць...» (16.01.06) // Руны Перуновы. С. 290.

[5] Алесандра Фарнэзе, герцаг Пармскі; Папа Рымскі Павел III (у 1534–1549), заказаў Мікеланджэла будаўніцтва палаца.

[6] Мікеланджэла Буанарроці (1475–1564), італьянскі скульптар, мастак, архітэктар, паэт.

ца, увасобіцца ў бронзе конная скульптура. Гэта хваласпеў нясхібнаму шляхетнаму духу. Трэба бачыць вершніка й каня. Конь спатыкнуўся. Задумаўся, слухае скруху. А вершнік яшчэ скача ў бітву. Аземленай бліскавіцай застыла шабля.

* «Крылаты палкоўнік». Ён яшчэ на кані скача ў бітву. На перамогу сподзеў мае. Шабля-маланка застылай аземленай бліскавіцай. Конь спатыкнуўся на левую парэднюю нагу, пярэжнюю, як мама казала, апусціў галаву і задумаўся ці слухае смутак. А з ветрам яшчэ самоціцца хвост.

Мікеланджэла Буанарроці па заказу папы Паўла III стварае грандыёзную фрэску на алтары Сіксцінскай капэлы «Страшны суд» (1536–1541).

*Сам сябе*

Пушчаны ў свет бязмежны
Ад небакраю да небакраю,
Падлеглы бадай што
Ярылу ды Перуну,
Чалавек сам сябе
З зайздроснай упартасцю
Заганяе
Ў дзяржаву,
Ў пасельбішча,
Ў хату,
Ў харчэўню, ў срачэўню
І нарэшце — ў труну.

*Крылаты*

*Міколу Байрачнаму*

І конь спатыкнуўся, абвяў галавой.
І вецер суцішыўся ў грыве.
А вершнік, заручаны шабляй жывой,
Магуціцца ў гордым парыве.

Сама Перамога з усіх ваяроў
Яго запрыкмеціць паспела.
У рэчышчах жылаў рашучая кроў
На ўзвіў крыгаломіцца смела.

Да славы ніколі не стоміцца шлях,
У стомы абвялыя шаты.
Шляхетнага войска спаконны працяг —
Лунае палкоўнік крылаты…

*19 студзеня*

*18 студзеня, серада*

Нарэшце сапраўдная зіма. Мароз, ад якога адвыклі. А мне ён пахне, патыхае маленствам, дарагой, зніклай цяпер Вушаччынай. З незабытных гадоў гучыць ніколі не чуты голас Максіма-кніжніка: «Здароў, марозны, зімні вечар!»[1]

*19 студзеня, чацвер*

Дзе тыя санкі, дзе тыя горкі, з якіх ляцелі яны, а ты з іх? Не выпадковая яна, сэнсавая рыфма: маразы — палазы. А палазня, як лінія жыцця.

*20 студзеня, пятніца*

Каля –30°. Ранні званок. З Віцебска Сяргей Рублеўскі. Адразу цёпла стала на душы. На «Свабоду» — запісаў дзённік. Кожны дзень мае сваю вяршаліну й свой цень. Гартаў «Нашу ніву». Пра з'езд беларусаў свету. Між іншым, Ніл прапануе за гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Той гімн, які ён адхіліў у свой час, калі старшынстваваў у камісіі. Мы з Васілём выйшлі ў знак пратэсту. Ніл хацеў свой тэкст з музыкай Лучанка. [...].

*21 студзеня, субота*

Натуральная зіма. І радуе, і смуціць. Хадзіў у краму. Прачытаў шыльду адваката.

*Скарга*

Апёкшыся на вадзе,
Скаргу падаў
На вар яд
У суд, дзе
Суддзя — вар'ят,
А два каты —
Адвакаты.

Галава крышыцца, а спыніцца не магу. «Спачувае…»[2]

*22 студзеня, нядзеля*

Пётра лечыць Роўбу. Прыйшоў да высновы, што ў нас з Роўбам (бо ён мой стрыечны брат) шмат ад нэрваў, ад мніцельнасці [...].

---

[1] З верша М. Багдановіча «Зімой».
[2] Гл.: Спачувае... (21.01.06) // Ксты. Выд. 2. С. 273.

*23 студзеня, панядзелак*

Праваляўся цэлы дзень у хаце. Роўбу нарэшце паклалі ў вайсковы шпіталь. Вайсковы шпіталь, відаць, не горай за Лечкамісію. Чытаю Сяргея Абламейку — глыбіня, узнёсласць, панавітасць.

*24 студзеня, аўторак*

Штодня, дык горай. Як да вясны дацягнуць? Можа, палепшае вясной. Хацелася б давесці да толку Вушацкі словазбор. А мяне хатнія мае даводзяць. Хоць Пётра забараніў мне й пісаць, і чытаць (амаль як вялікаму Тарасу [Шаўчэнку]), узгадаў шчырасць, і папрасіліся радкі:

*Пакуль...*

*У альбоМ*

І для цямрэчы,
І для злой слаты,
Як зорка,
Недасяжная такая ж,
Пакуль і свеціш,
І чакаеш ты,
Кажу халоднай пані:
«Пачакаеш…»

Спачатку была *кашчавая скнара*, а потым стала *халоднай паняй*. З ёй таксама пашанліва [трэба] абыходзіцца. Асабліва з гадамі.

*25 студзеня, серада*

Выйшаў на вуліцу купіць лекі. Роспач і галаўны боль. Усё, што рабіў, ці трэба некаму? А тут яшчэ за пяткі розныя Галубовічы кусаюць. Каб падабацца рэжыму. Чаму я так ім косткай у прадажным горле стаўся? За тое, што ў свой час выцягваў і дапамагаў чым мог?

*26 студзеня, чацвер*

Сяджу дома. Прыходзіў Анатоль Івашчанка[1] падпісаць пратэст супраць высялення СП. 31-га суд. Нічога, вядома, не будзе. Хоць і Пётра забараніў, радкі лезуць: «У грудзях халоднай скалы…»[2]

[1] Івашчанка Анатоль Сяргеевіч (н. 1983), беларускі літаратуразнавец; паэт. Кандыдат філалагічных навук (2010). З 2003 г. кіраўнік спраў СБП, адказны сакратар час. «Дзеяслоў».
[2] Гл.: Але… (26.10.06) // Халодная памяць вады. С. 401.

*27 студзеня, пятніца*

Згарэла выдавецтва «Кніга», дакладней, будынак. [...]. А ў рэжымнай прэсе, у тым жа «ЛіМе», [...], [Чаргінца] велічаюць сусветна вядомым празаікам. А гэтага сусветна вядомага апроч яго самога мала хто чытаў, хіба карэктары. «Міліцэйскі класік...» [у дзённіку]. [...].

*28 студзеня, субота*

Добра, што адклалася паездка ў Докшыцы. Не змог бы паехаць. Хмары згушчаюцца. Цяжка. Вытрымаць бы.

*29 студзеня, нядзеля*

Дастаў п'яны Русанаў[1]. Напісаў яму рэкамендацыю ў наш саюз. [...] Аўруцін сказаў яму, што з 28 лютага наш саюз знікае. Будзе [чаргінцовы]. [...]. Прыйшлі радкі, хоць Пётра забараніў. «Не ў цябе...: Чалавеча!» [у дзённіку].

І на вечную тэму думалася, успамінаючы таго, хто хвалюе: «Заўсёды!»[2]

*30 студзеня, панядзелак*

Практычна пластом ляжаў. Даходжу. [...].

*31 студзеня, аўторак*

Уночы быў прыступ. Ледзь падняўся. [...].

*1 лютага, серада*

Месяц мой, для мяне не люты, не пашкадуй спакою. Летась на свой юбілей адлежыў. Сёлета, можа быць, не круглая дата. Паспачувай. Пачаў свой месяц з радкоў: «Прызімак»[3].

*2 лютага, чацвер*

Чытаю паэтаэсэ Сяргея Абламейкі. Колькі дасведчанасці, колькі святла і колькі болю за Беларусь. Гэта — чалавек нашай жаданай будучыні. Дрожджы караваю волі.

*3 лютага, пятніца*

Як прывыкнуць да таго, у чым жыву? А тут яшчэ з гэтай прэміяй. Пісаць не магу, а таму мазгі дыбам становяцца. Усё раздражняе. Ад усяго

---

[1] Русанаў Аляксандр Міхайлавіч (н. 1953), беларускі паэт.

[2] Гл.: Заўсёды! (29.01.06) // Халодная памяць вады. С. 403. У дзённіку прысвячэнне «Маладым...»

[3] Гл.: Прызімак (1.02.06) // Ксты. Выд. 2. С. 232.

крыўдна. Сарваў галаву й нэрвы. З Някляевым нешта робіцца. Навошта канфліктаваць з айцом Уладыславам? Ён гэтулькі робіць.

*4 лютага, субота*

Вяртаюцца маразы. Адпаведна з галавой творыцца штосьці кашмарнае. Але лезуць радкі:

*Бачыць вышыню*

*Памяці Расула Гамзатава*

Падданнікі вяльможнай непакоры
Не прагныя да хітрай пахвалы.
Паэты годна падвышаюць горы,
Каб адпачыць на іх маглі арлы.

З-пад хмарнай цішыні палётна воку
Сягаць за недасяжны далягляд.
На дол вяршыні не глядзяць звысоку.
Дню прысягае яблыкамі сад.

Народжаныя ў радасці і ў горы,
Паэты кожны раз упершыню
Раскрылым словам падвышаюць горы.
Бо слова ўмее бачыць вышыню.

*5 лютага, нядзеля*

Перадрукоўваў для «Дзеяслова» вершы. Вершы хутка высяляць мяне з хаты й не толькі з хаты. Куды ад іх ўцячы?

*6 лютага, панядзелак*

Роўбу зрабілі аперацыю. Хоць бы памаглі. Апошняя крэўная радня па лініі мамы. Стрыечны брат. У мяне нікога, апроч яго, няма.

*7 лютага, аўторак*

Чытаю кніжку «Апошнія дні Гітлера». Запіскі ротмістра. Усе фюрэры аднолькавыя. Розніца ў масштабах і (рысах) нацыянальнага характара. […]. Да Пётры па зёлкі.

*8 лютага, серада*

Званіў Палякоў. 19-га прыязджае карэспандэнт з Парыжа. Някляеў хоча выдаць маю кніжку ў перакладзе. Потым званіў Абламейка з Прагі.

Лукашук хоча дамовіцца, каб кнігу пераклала Вера Рыч[1]. А мне баліць галава, роспач і стома.

*9 лютага, чацвер*

У касцёле сустрэча — Генадзь, Сяргей. Айцец Уладыслаў распавёў пра паездзіны ў Рым. Як заўсёды, шмат планаў.

*10 лютага, пятніца*

Як расліна жыву. Працаваць не магу. Хоць пагрэўся душой у «Коўні». Прыехаў Хізры. Завёз у Дагестан кнігі Зелімхана.

*11 лютага, субота*

У Лечкамісію. Паганялі па дактарах. Усё фактычна сам ведаю. Нічога не зменіш, лекі не дапамогуць. Адна надзея на Пётру.

*12 лютага, нядзеля*

Прыехаў Хізры. Дамовіліся, што ён зробіць мне пуцёўку ў «Лётцы» ці ў «Сосны». Рыга хай будзе на восень. Не магу зараз ехаць далёка па здароўю, нават па здароўе.

*13 лютага, панядзелак*

Зноў у Лечкамісію. Сазваніўся з айцом Уладыславам. Паездку ў Рыгу на восень адклалі.

*14 лютага, аўторак*

Дабіваюць магнітныя хваляванні, а тут яшчэ сваіх хапае. Прыязджаў Ул. Колас — падпісаў зварот у абарону Марыніча[2].

*15 лютага, серада*

Ад айца Уладыслава нечаканы падарунак. Хай Бог заплоціць яму за ягоную рупнасць і шчырасць. Працаваць не магу. Усё, як у тумане…

*16 лютага, чацвер*

У «Коўню». Хоць адпачыў душой. Па дарозе назад Пётра добра сказаў: «Трэба адпачыць ад усяго, ад усіх, асабліва ад сябе…»

---

[1] Рыч Вера (1936–2009), англійская перакладчыца, журналістка, гісторык.

[2] Марыніч Міхаіл Апанасавіч (1940–2014), беларускі дзяржаўны і грамадскі дзеяч; дыпламат. Палітвязень (2004–2006).

*17 лютага, пятніца*

На йымяніны да пана Вішнеўскага ў ягоную майстэрню. Яна ж хата ў такога таленавітага майстра. [...].

*18 лютага, субота*

Прыходжу ў сябе. Надвор'е вар'яцкае. Зноў нейкія магнітныя хваляванні.

*19 лютага, нядзеля*

Уночы было 3 прыступы. Ледзь падняўся к абеду. Даходжу. Усё раздражняе.

*20 лютага, панядзелак*

У Чырвоны касцёл на прэс-канферэнцыю. Колькі энэргіі ў айца Уладыслава! Сіла веры можа горы зрушваць. А я не магу адысці ад прыступаў.

*21 лютага, аўторак*

За вакном хляпа. У грудзях сэрца напамінае пра сябе. Як у нейкім мяху жыву. Каб хоць калі прачнуцца спакойным і ўвесь дзень прабыць упэўненым і бадзёрым.

*22 лютага, серада*

Блага. Званіў Роўба, яму не лепшае. Мая апошняя крэўная радня. Учора званіла Ала, ксёндз прасіў не ехаць у Польшчу.

*23 лютага, чацвер*

У ПЭН, забраў шыкоўнае выданне «Gdy witają się dusze» [«Калі рукаюцца душы...»].

*24 лютага, пятніца*

У «Коўні» пасядзелі. Учора а 12-й ночы памёр Роўба. Апошні крэўнік. Як вытрымаць? [...]. Дамініка расце хамкай, [...], што ёй павінны. Вучыцца не хоча. У мяне болей сілы няма. Жабрацтва. І ніякой перспектывы пажыць, каб скончыць задуманае. З усіх бакоў тузаюць. [...]. Не галава, а кацёл, у якім кіпіць балючая смала.

*25 лютага, субота*

Сёння Роўбу павязуць у Вушачу. А я не магу не толькі ў Вушачу ехаць. А нават сюды ў Менск на вуліцу, якая побач з вуліцай, на якой жыве Пётра. Апошні крэўнік пайшоў адсюль. Застаўся я, як дрэва з абсечанымі

сукамі. Няма лістоў пашумець. Застаецца стагнаць толькі. А заўчора ж з раніцы яшчэ гаварыў з Іванам. Ён казаў, што мроіць адпачыць разам у «Лясных азёрах». Цяпер ужо да сустрэчы *там.* А мяне ў дадатак тут дабіваюць яшчэ званкамі наконт Нобелеўскай прэміі. Сімволіка, якая джаліць канкрэтна. Святлана Алексіевіч таксама высунута. Ну, няхай. Дык пачынаюць мне пра гэта напамінаць. Хочуць звесці ілбамі. Каб мне раней падумалася, што гэтулькі шуму будзе, не згаджаўся б я высоўвацца. Лепей па-палеску адседзецца ў чароце ці ў бульбе.

*26 лютага, нядзеля*

Ці хвароба з дапамогай старасці, ці старасць з дапамогай хваробы, але мяне пачынаюць абдымаць усё мацней. Шмат званкоў было. Сябры з усіх канцоў свету. Дзякуй, што помняць. У нататніку знайшоў радкі, адпаведныя настрою:

*Цёмнач*

Крумкачэе самотны сум.
Хмарацца бровы залевы.
Свой згадалі падхмарны шум
Дровы — ўчарашнія дрэвы…

*(14.I.X.03)*[1]

*27 лютага, панядзелак*

Патроху чытаю, патроху выбіраю вершы для зборнічка па-беларуску й па-латышску. Нейкія радкі ўзварухнуў: «Увогуле…»[2]

*28 лютага, аўторак*

Апошні дзень майго месяца, лютага і ў ласцы, і ў гневе. Шукаў верш для Алы ў зборнік па-беларуску й па-латышску. Хадзіў у «Свабоду». І не адпачываю, і не працую. Як той часцік у таматным соусе…

*1 сакавіка, серада*

У «Коўню» на імяніны Юрася Гудзіновіча й Аляксандра Баглая. На нейкі момант хоць забыліся, што ў душы й што звонку. Усіх ціснуць, а людзі ж не твораг, каб сыр атрымаўся. Пацешыў мяне актор на добрым падпітку. Пытае, чаму я не пішу прозу, спрабую нешта патлумачыць. Ён мне: «Ты ж пісьмы пішаш, ну яшчэ нешта». Для яго паняцце, што паэзія — тое, што рыфмуецца, а проза — што без рыфмы й не ў слупок. А мы пра вытанчанасць…

---

[1] Другі варыянт верша гл.: Халодная памяць вады. С. 326.
[2] Гл.: «Жыццё — як выдыхнуты верш…» (27.02.06) // Тамсама. С. 277.

*2 сакавіка, чацвер*

Так званы Усенародны сход[1], скліканы [Лукашэнкам]. […].

*3 сакавіка, пятніца*

Сяргей Шапран распісаўся з Наташай[2]. Згоды й лагоды ім! А я ў перапынках паміж галаўнымі болямі перачытваю Ван Вэя[3]. Дужа адпавядаюць развагі паэта, які нарадзіўся ў 701 годзе, майму душэўнаму настрою. […]. Як гэта разлягаюцца яшчэ сталінскія рэпрэсіі. Учора едзем у таксі, нешта ўсчалі пра рэжымы. Таксіст, малады мужчына, кажа, што дзед адседзеў 20 гадоў. Дзед распавядаў, як у іхнюю вёску прыехалі хапуны. Заданне было набраць 10 ворагаў народу для адпраўкі ў Сібір. А ў вёсцы толькі 9 мужчын засталося. Едуць і ламаюць галаву, як выканаць разнарадку. Па дарозе ў суседнюю вёску з выпускнога вечара вяртаўся юнак. За яго — і ў патрэбны лік. Родныя так і не даведаліся, дзе знік чалавек. Толькі праз 10 гадоў прыйшло пісьмо з Сібіры. А размову мы пачалі з показкі 37-га года: дальше едешь — тише будзешь.

*4 сакавіка, субота*

Змагаўся з самім сабой. Поспехаў мала. Хвароба мацнейшая. Галава, як той падземны звон.

*5 сакавіка, нядзеля*

З раніцы круцяцца ў галаве нейкія радкі. Значыцца, яшчэ жывы. Бо калі ў галаве нічога не круціцца, пачынаю думаць пра марнасць усяго таго, што рабіў. «Нагам вязка…»[4]

*6 сакавіка, панядзелак*

Збіраюся легчы на абследаванне. Дужа не хочацца, але трэба […]. Пётра сказаў, што не трэба з сабой шмат рэчаў браць у бальніцу. Такая прыкмета: чым болей рэчаў бярэш з сабой, тым даўжэй ляжыш у бальніцы.

*7 сакавіка, аўторак*

Ксёндз задумаў зрабіць невялічкую кніжачку двухмоўную. Вершы пра Чарнобыль. Папрасіў напісаць пра звон Нагасакі. «Касцельны звон»[5].

---

[1] III Усебеларускі народны сход прадстаўнікоў урада і іншых галін улады.

[2] Захаранка (Шапран) Наталля Мікалаеўна (н. 1971), беларускі філолаг, выкладчык, у 1994–2007 гг. нам. дырэктара Мінскага мастацкага каледжа імя А. Глебава.

[3] Ван Вэй (Моцзе; 699 ці 701–759 ці 761), кітайскі паэт, мастак, каліграф, музыка.

[4] Гл.: «Нагам вязка…» (5.03.06) // Ксты. Выд. 2. С. 228.

[5] Гл.: Касцельны звон (7.03.06) // Барадулін Р. Быць! = To Be! Мінск: Рымска-каталіцкая парафія свсв. Сымона і Алены, 2006. На бел. і англ. мовах. Пер. А. Таболіч, І. Бурлыка. Верш прысвечаны Шунічы Ямашыта, прафесару Нагасакскага ўніверсітэта, які займаўся

*9 сакавіка, чацвер*

Лёг у Лечкамісію. Можа, крыху падрамантуюць. Хоць, як казаў мой сваяк Пятрок: зроблена ў СССР — рамонту не падлягае. Тут я зноў сутыкнуўся з тымі пластамі, якія сумуюць па імперыі й падтрымліваюць [Лукашэнку]. Асабліва ўдзельнікі штурму Зімняга.

*22 сакавіка, серада*

Прэзентацыя «Кстоў» у ІВВ. Пасол ЗША [Дж. А. Крол], Ізраіля, консул Швэцыі [С. Эрыкссан] выступалі на чысцюткай беларускай мове. Аж нецярпіцца пахваліцца, што прафесар з ЗША параўнаў мае «Ксты» з «Лісцямі травы»[1].

*24 сакавіка, пятніца*

Нешта напісалася: «Багаты час скупаваты ў дзяльбе...»[2], «Галдзяць правадыркí...» [у дзённіку].

*25 сакавіка, субота*

Па тэлефоне даведаўся пра падзеі на пляцы. [...]. Давялося глядзець кавалкамі выступленне ягонае на вялікім [...] сходзе. З палаты ж на вуліцу не выскачыш. Увогуле, камедыя, праўда, сумная.

*28 сакавіка, аўторак*

Выйшаў з лякарні. Адразу тэлефонныя званкі. Адразу клопат. Адразу валтузня. І колькі радкоў: «Малітву не заглушыць брэх...»[3]

*29 сакавіка, серада*

Сустракаўся з Андрэем [Палудам] і Шапранам. Падпісваў «Быць!» для тых, хто выходзіць з [...] вязніцаў, «Зубрам». Па дарозе ў «БДГ» адзін «зубр» чытаў ліст з камеры. Не, іх не зламаць! Павольна, але няўхільна нарастае гнеў, напоўнены сілаю духу.

*31 сакавіка, пятніца*

Галава зноў страйкуе. А новую не здабудзеш нідзе. Ілона ў сваім рэпертуары. Як пабачу — потым жыць не хочацца. Бездапаможны нешта змяніць, я люблю яе да нянавісці. Губіць сябе. А мне жыць трэба, бо Да-

---

вывучэннем праблем радыяцыйнага апраменьвання чалавека. *Таболіч* Алена Уладзіміраўна (н. 1940), беларуская перакладчыца, выкладчыца МДЛУ. Кандыдат філалагічных навук. *Бурлыка* Іван Рыгоравіч (н. 1958), беларускі мовазнавец. Кандыдат філалагічных навук (1987), з 2000 г. першы прарэктар ГрДУ імя Я. Купалы.

[1] Зборнік вершаў амерыканскага паэта У. Уітмена (1819–1892).

[2] Гл.: «Багаты час скупаваты ў дзяльбе...» (24.03.06) // Халодная памяць вады. С. 351.

[3] Гл.: «Малітву не заглушыць брэх...» (28.03.06) // Тамсама. С. 283.

мініка маленькая. Заўтра Хізры — 50. Круціў цэлы дзень: «Каб было…: Горы — незавершаныя стоды…» [Х. Асадулаеву; у дзённіку].

*1 красавіка, субота*

Вітаю цябе, вясёлы месяц! Можа, перападзе ад цябе мне трохі весялосці. А пакуль чытаю кітайскую пейзажную лірыку III — XIVстст.

*2 красавіка, нядзеля*

У Чырвоным касцёле літургія — дзень смерці Яна Паўла II. Разам уніяты й каталікі. Касцёл — паўнюткі. Ішоў ледзь жывы, а ў касцёле ажыў. На вуліцы «простые советские люди» па тры купкамі — нешта змікітваюць. А ў касцёле якія ясныя вочы, якія светлыя твары! Цікава, дарэчы, Тройка. «Эх, тройка, птица тройка…». Тройка ў 37-м. Пазней — пляшку на траіх за вуглом. […]. У расійцаў і савецкіх […] фатальная лічба. «Лічу да трох — страляю!»

*3 красавіка, панядзелак*

Генадзю Навумчык старэйшы распавёў. Віцебскі ліцэй [выкладчыкі] прыехалі ў мінскі пры БДУ. Адна выкладчыца з Менску ў сваёй лекцыі сказала, што трэба патрыятызму вучыць на творах такіх патрыётаў, як Быкаў, Караткевіч, Барадулін, Бураўкін. Назаўтра яе ўжо не было на гэтай канферэнцыі. […]. Прыехаў Вальдко Калінін. Сустракаліся. Ён з сынам. Сын таксама добра гаворыць па-беларуску. […]. Вычытваю «Ксты». Дробныя памылкі знаходжу. Ала зрабіла вар'яцкую працу. Дзякуй ёй!

*4 красавіка, аўторак*

Змаганне з магнітнымі бурамі. А як не штодня. Чакаў сустрэчы з Хізры. Адклалася. Сёння прыём у Саюз пісьменнікаў. Генадзь адзін за ўсіх.

*5 красавіка, серада*

З раніцы рабіў экспромт з прычыны прыёму Глеба.

*Глебу Лабадзенку з нагоды членства*

Член наш самы малады,
Непаседны Глебе!
Зоркі важ, пакуль худы,
Не на грамы — на пуды
На парнаскім небе.
Хай Пегас на ўсе гады
Абганяе стому.
Ні аброць, ні павады
Не ўступай нікому!

Адзін толькі голас быў супроць Глеба. Вядома, лагойскага […]. Добра, што я не змог быць, бо не вытрымаў бы. Схадзіў у «Коўню». Хлопцы робяць два шчыты з кутых кветак і вянкоў. У Міністэрстве культуры прапанавалі тэксты Янкі Купалы й Максіма Багдановіча замяніць галапузымі радкамі Вовы Карызны і Петрачка Глебкі[1]. Яны не пагадзіліся.

*6 красавіка, чацвер*

Ілоніна выстава ў фальварку «Добрыя мыслі». Калі б працавала […], мог бы атрымацца толк. А так усё гэта на ўзроўні настрою. Пазваніў вечарам Міхась Скобла. У Чэхіі, відаць, выйдзе мой зборнік. Прадмову напіша сам Гавэл!

*7 красавіка, пятніца*

Збіраўся на «Свабодзе» на гутарку са Скоблам з нагоды выхаду «Быць!», але зваліла мяне немач. Галава кроіцца. Усё плыве. «Ці…: Калі ўся краіна…» [у дзённіку].

*8 красавіка, субота*

Дацягвалі з Алай «Ксты». Колькі яна працы ўклала ў гэтую кнігу. Дзякуй ёй! Шалёная ў працы. Апантаная. […].

*9 красавіка, нядзеля*

У майстэрню да Хізры. Цікава распавёў пра чэчэнцаў. Калі даваў зборнік Зелімхана, дык ахвотней бралі дагестанцы, а чэчэнцы баяліся. Калі й бралі, дык ціха затулялі. Гэтак запалохалі.

*10 красавіка, панядзелак*

З раніцы патэлефанаваў Генадзь Бураўкін. Ягоны Аляксей[2] чытае «Ксты». І даў такую ацэнку, што я пачырванеў па тэлефоне. «…гэта Біблія беларускай паэзіі… Рыгор узняў беларускую мову да Бога…» І прыемна, і трывожна. Гэтак можна звыкнуцца з пахвалой і стаць якім-небудзь Гілевічам. Я ўвесь час спадзяваўся напісаць нешта, каб самому спадабалася.

*11 красавіка, аўторак*

Як у яме жыву. Толькі тых хвілін, калі нешта пішаш, забыўшыся на ваколле. Але хвілін гэтых мала. Фактычна, жыццё прайшло, засталіся да-

---

[1] Глебка Пятро (Пётр Фёдаравіч; 1905–1969), беларускі паэт, нарысіст, крытык, публіцыст. Акадэмік АН БССР (1957).

[2] Бураўкін Аляксей Генадзьевіч (н. 1963), вядучы навуковы супрацоўнік АІПІ НАНБ. Кандыдат тэхнічных навук.

жыткі. А яны невясёлыя. У сабе самім застаўся я тым вушацкім мальцам, які ўсё збіраецца жыць, стаць дарослым.

*12 красавіка, серада*

Нарэшце ў «Коўню». Хлопцы працуюць як нанятыя. Трохі пабыў, каб не адрываць ад працы. Баяцца, што тэкст Купалаў заменяць на [тэкст] Вовіка Карызны. Суаўтара падцыраванага савецка[...] гімна. Украінцы жартавалі ў свой час: «Цэ наши гімноробы». Патэлефанавала Валя Аксак. «Свабода» задумала новы праект. Напісаў верш: «Не да сну...»[1]

*13 красавіка, чацвер*

Цэлую раніцу патраціў на высненне, дзе мне нешта атрымаць трэба. Патэлефанавалі Валі. Гэта ў Купалаўскім тэатры за ТЮГ. [...].

*14 красавіка, пятніца*

На «Свабоду» да любага майго Міхася Скоблы. Запіс для цыклу «Вольная студыя». Міхась падарыў мне том Рыгора Крушыны[2], выдадзены ў Залатой серыі «Беларускага кнігазбору». Да паўночы чытаў. Дасканаласць. Віртуознасць. Высокая культура. Нацыянальны інтэлект. Менавіта нацыянальны. У нас так і не адбылося рэабілітацыі. Шкада. Гэта былі натуральныя беларусы, якія ўзняліся над традыцыйным шарачком да вяршыняў Алімпа. Скобла зрабіў слова ўступнае адпаведна ўзнёсла, высокаэрудычна. Як толькі ён гэта ўмее рабіць. Міхась і вонкава — малады шляхціц узнёслы, парыўны, замроены й шалёны на працу. На жаль, пакуль такіх Міхасёў не багата. Можа, Бог паскорыць.

*15 красавіка, субота*

У касцёл. Інтэрв'ю для радыё «Сталіца». Маладая журналістачка Іна Дарашкевіч. Беларуская мова пяе ейнымі вуснамі. Аж светла стала ў гэты дажджлівы дзень. На пытанне: як дзеці павінны ставіцца да маці, адказаў, што маці — другая ікона ў хаце.

*16 красавіка, нядзеля*

Святое Вялічка! Дзень сонечны. На душы светла. Здаецца, можна йсці да маткі хроснай па чырвонае яечка. Нібыта ўчора ўсё было. Век чалавечы — адзін дзень. Раніца. Паўдзён. Ноч.

---

[1] Гл.: Не да сну... (12.04.06) // Халодная памяць вады. С. 446.

[2] Крушына Рыгор (сапр. Казак Р.; 1907–1979, ЗША), беларускі паэт, празаік, крытык. Быў рэпрэсаваны (1925). З 1944 г. у Нямеччыне, потым у ЗША. Працаваў на радыё «Свабода» (Мюнхен, 1950–1960). Адзін з заснавальнікаў Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку (з 1951).

*17 красавіка, панядзелак*

Забягаўся ў «Коўню». Хлопцы працуюць, святла белага не бачачы. Па просьбе айца Уладыслава пісаў: «Радзімалюб»[1]. Пад самую раніцу трылузіліся радкі: «У роднай хаце спаконна…»[2]

*18 красавіка, аўторак*

Сустрэча ў Чырвоным касцёле. З японцамі. Ямашыта і з ім адзін, здаецца, філолаг. 13-е пакаленне католікаў. У ксяндза клопат аб пераносе праха Вайніловіча[3]. Гэта быў унікальны чалавек. Узводзіў касцёлы, цэрквы, сінагогі. Першы даваў вольную прыгонным. Сябраваў з царскай сям'ёй. Прапаноўвалі яму пасаду міністра сельскай гаспадаркі ў царскай Расіі. Потым ледзьве ўцёк ад бальшавікоў. Трымаў дом для сірот. Айцец Уладыслаў дабіваецца пераносу праха Вайніловіча ў Менск, у Чырвоны касцёл. Рамантык, думае, што ўрачыста сустрэне ўлада. […]. Для Скоблы на сайт рабіў: «Чарнобыльскі жах…»[4]

*19 красавіка, серада*

Зноў цяганіна з «Кстамі». Увесь Менск завешаны […] лозунгаў «За стабільную Беларусь». […]. На цырку афіша «майстры цырку», а ўнізе «За вечна маладую Беларусь». […]. А мне ўсё не даюць спакою (і добра) вушацкія, маміны словы. Імі й жыву.

*20 красавіка, чацвер*

Нарэшце аддаў Тарасу вушацкія фотаздымкі. У ПЭНе забраў кнігу Зянона. Хораша, шляхетна выдадзена. Спор, Божа!

*Валянціну Тарасу (на «Быць!»)*

Здзімае вецер з ліста расу,
Змывае з карчажыны хваля ціну,
Удзячны за ўсё я Тарасу,
Няўседна-рашучаму Валянціну!

*21 красавіка, пятніца*

З Сяргеем Шапранам да Макміліна ў гатэль «Юбілейны». Арнольд пастарэў і пацішэў. Прыехаў на канферэнцыю. А яна будзе пазней. Прывёз

---

[1] Гл.: Радзімалюб (17.04.06) // Ксты. Выд. 2. С. 390. Верш памяці Э. Вайніловіча.

[2] Гл.: Ахвярынкі: У роднай хаце спаконна… (17.04.–8.09.06) // Тамсама. С. 493.

[3] Вайніловіч Эдвард Антоній Леанард Адамавіч (1847–1928), гаспадарчы і палітычны дзеяч Бедарусі і Расійскай імперыі. У 1905–1910 гг. пабудаваў у Мінску касцёл свсв. Сымона і Алены (Чырвоны касцёл) у памяць сваіх заўчасна памерлых дзяцей.

[4] Гл.: Уваскрэсне! (19.04.06) // Anima. С. 291.

даклад. Сустракаўся ў «ЛіМе» з Г., які даваў указанні, пра каго пісаць, пра каго нельга. Быў у гасцях у сучаснай парачкі — Шніп[1] і Рублеўская[2] (адзін у […] выдавецтве й саюзе [чаргінца], а другая ў «Советской Б.»). Адно цікавае назіранне. У перакладах Лазінскага[3] Шэкспір сам, а ў Пастарнака[4] выдатна, але ад Шэкспіра мала чаго засталося. Болей Пастарнака. Цікавая дэталь. Арнольд хваліць адну кавярню, здаецца, «Пралеску», бо ў ёй няма папсовай і ніякой музыкі, афіцыянткі не стаяць над галавой, а з'яўляюцца, калі іх паклічуць. Гатэль, кажа Арнольд, кэдэбісцкі, ён па-беларуску, а яны не разумеюць, кажуць.

*22 красавіка, субота*

Амаль да вечара змагаўся з галаўным, галоўным, болем. Пад вечар корпаўся ў завалах кніг і папер. Знайшоў колькі лістоў мамы. Сорам апёк мяне. Які ж я быў свіннюк, што не пісаў лістоў ёй адной, хворай, забытай. За гэта, відаць, і пакараў мяне Госпад і хваробамі, і ўсімі роднымі, трэба несці крыж. Там сустрэнемся, буду прасіць прабачэння ў мамы. А тут кожны вечар [прашу].

*23 красавіка, нядзеля*

Святое Вялічка, якое заўсёды было па-нябеснаму сустракана ў мамы. Валя ўсяго нагатавала. Прыйшлі Ілона з Косцем. Пасля яны між сабой пасварыліся. А раніцай заехаліся айцец Андрэй Абламейка з Яўгенам [Андросікам] і далі мне беспадобна выдадзены «Рымскі дыпціх»[5]. Дзякуй ім! Гэта вярнула мне крыху вушацкага святла, якое сыходзіць ад мамы.

*24 красавіка, панядзелак*

Збіраюся ў дарогу. Штогод гэта цяжэй. Адвыкаеш некуды спяшацца.

---

[1] Шніп Віктар Анатольевіч (н. 1960), беларускі паэт. У 2003–2008 гг. нам. галоўнага рэдактара выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат прэміі імя У. Маякоўскага Савета Міністраў ГССР (1987), прэміі «Залаты купідон» (2007), Спецыяльнай прэміі Прэзідэнта РБ (2008), прэміі В. Віткі (2021).

[2] Рублеўская Людміла Іванаўна (н. 1965), беларуская паэтэса, празаік, перакладчык, журналістка. У 2003–2020 гг. аглядальнік аддзела культуры газ. «Советская Белоруссия». Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Ф. Багушэвіча Беларускага ПЭН-цэнтра (2011), прэміі «Залатое пяро» (2012), Нацыянальнай літаратурнай прэміі (2017), прэміі імя Е. Гедройца (2017).

[3] Лазінскі Міхаіл Леанідавіч (1886–1955), рускі паэт і перакладчык. Лаўрэат Сталінскай прэміі (1946).

[4] Пастарнак Барыс Леанідавіч (1890–1960), рускі паэт, празаік, перакладчык. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1958, ад якой быў вымушаны адмовіцца).

[5] Барадулін Р. Рымскі дыпціх: Узрушэньне. Полацк: Грэка-каталіцкая парафія свп. Язафата ў г. Полацку, 2006.

*25 красавіка, аўторак*

У аэрапорце, які чамусьці называецца нацыянальным. Як быццам нябожчык ляжыць, пуста й вусцішна. У самалёце па-беларуску й ангельску абвесткі. Вядома, у запісе. Сцюардэса разносіць сняданак. «Вам что?» — «Гарбату». — «Что?» — «Гарбату». — «Что-о-о?» — «Теа». Тады падала гарбату. Ляцім. За бартом –53°.

*Стакгольм!* Куксіста абрэзаныя дрэвы, як вязні Бухенвальда. Стакгольм, як выдыхнутыя хмары, што застыглі, акамянелі. Цень дыхае зябка й цёпла. Адначасова.

*26 красавіка, серада*

Швецкае радыё. Беларуская рэдакцыя. Зміцер Плакс[1]. «Старшы эканаміст». Сустрэча ў Парламенце. Цікава, што Крыстофер[2] нават не патэлефанаваў. У шведаў, як і ў расіян, сіндром імперскі.

* Сустрэча ў Парламенце. Аб’яднанне ўсіх дэмакратычных сіл. Калі мэта дасцігнута, тады можна зноў па партыях [разысціся]. Рыхтаваць маладых — цэнтр, які можна зрабіць у Літве, у Польшчы. Каб не было раздробленасці. Еўрапейская праграма па правах чалавека ў дэмакратычнай і Усходняй Еўропе, і Паўднёвай Афрыцы. Факусіраваліся на правах чалавека, але не канкрэтна. «Дапамога недзяржаўных актывістаў, мала грошы, але мы за падтрымку. Мы за падтрымку многіх кветак, якія трэба сабраць у букет». Трэнінгавы цэнтр, стварэнне яго — добра. Адукацыя, інфармацыя, падтрымка. Інтэрнат-квартал, выдавецтва, тэлеканалы. Адукацыя. Стварэнне нацыянальнага ўніверсітэта па-за межамі Беларусі. Лукашэнка не падтрымае дапамогі. Расія не падтрымае таксама. Украінскіх журналістаў трэніравалі на працягу гадоў. Крытычная журналістыка. Па суботах і нядзелях, афіцыяльныя ўладн. [неразб. 1]. А ў панядзелак зноў на працу.

*27 красавіка, чацвер*

Агляд апартаментаў Парламента.

*28 красавіка, пятніца*

Змена каралеўскай варты. Конь адчувае такт і выбівае нагой. Наогул, гэта велічна. Жывыя коні ў дакор аўто. Сувязь вякоў. Вечарына паэзіі ў Швецкім інстытуце.

---

[1] Плакс Дзмітрый Пятровіч (н. 1970), беларускі паэт, перакладчык, мастак. З 1997 г. жыве ў Стакгольме.

[2] Леандоэр Стэн Вільфрэд Крыстофер (н. 1962), шведскі паэт, крытык, перакладчык, зборнік вершаў якога пераклаў Р. Барадулін (Леандоэр К. Вершы для Эльзы. Мінск: РЛМФ «Гронка», 1999).

* Змена каралеўскай варты, як коні адчуваюць музычны рытм, нагой такт адбіваюць. Гэта таксама трымае нацыю, бо з вякоў ідзе. Тыя ж самыя коні ў дакор аўто.

*29 красавіка, субота*

Экскурсія.

* Экскурсія. Дзе банкет пасля Нобелеўскай прэміі [адбываецца]. Stocholm — бервяно і выспа.

*30 красавіка, нядзеля*

Дома! Яшчэ раз пераканаўся, што «дзеці капітана Гранта» (грантаманы) патрэбны [Лукашэнку], а [Лукашэнка] ім. З намі быў Мікола Маркевіч[1] і Ірына Белая. Яркая ілюстрацыя. […].

*1 травеня, панядзелак*

Адлежваюся. Ачухваюся. Прыходжу ў сябе. Ужо цяжка рабіць такія пералёты.

*2 травеня, аўторак*

Першыя травінкі, першыя лісцінкі. Душа хінецца да родных мясцін. У Стакгольме па скалах і трава, і сарамлівыя кветкі.

*3 травеня, серада*

У чарзе па пенсію нейкая маладзіца хацела ўступіць чаргу. Папулярнасць. «Мы ўсе…»[2].

*5 травеня, пятніца*

У «Коўню»! Хлопцы ўсё здаюць працу ў бібліятэку і ў саркафаг. Працуюць і смаку не чуюць. […].

З галавой творыцца нешта неразгаданае. Часам здаецца, што лопне нейкая пружынка […]. Усё жыццё, як і мама некалі, рабіў, а жыць так і не сабраўся. Як нешта раблю, здаецца, жыву, забываюся на злосць, зайздрасць (смешна, чаму), касмічны холад людскіх душ. А робіць не магу. Дый усё, што зробіў, акрамя сябе самога, нікому не трэба. Таму й такія радкі дадаюцца да ранейшага. Бо ранейшыя здаліся малавата разгорнутымі.

---

[1] Маркевіч Мікалай Мікалаевіч (н. 1962), беларускі палітычны і грамадскі дзеяч, журналіст. У 2003 г. гал. рэдактар газ. «День», у 2005 г. праграмны дырэктар і дарадца праўлення радыё «Рацыя». Лаўрэат Нацыянальнай прэміі «Хартыя-97».

[2] Асобна запісаны верш стаўся апошняй страфой; гл.: Пералётня (5.05.06) // Халодная памяць вады. С. 30; па першаму радку страфы гл.: «Спакойна радаснаму караваю…» // У неба пехатою. С. 99.

Генадзю: «Пералётня». Сёння 50 Тарасаву[1] Віталю. Помню, як ён малы паказваў, як сабака хвастом круціць. «Віталю Тарасу: Шаноўны юбіляр Віталь!» [у дзённіку].

*7 травеня, нядзеля*

Думкамі даўно ў Вушачы. На Бутаўшчыне, на Верасовачцы, на Ваўчэнскім возеры. А нагамі на ложку. Круціць мяне ўсяго. Адно ратуюць вушацкія словы, якія гучаць мне маміным голасам. Паглядзеў па тэле фільм, як гадавалі маладых фашыстаў. […]. Ordnung. А наогул беспрасвецце.

*8 травеня, панядзелак*

Стан той жа й настрой адпаведна. Хоць і нельга пісаць, каб не сарваць канчаткова галаву, пісалася: «Памяці сябра: Быў як анёл задуман…» [у дзённіку].

*9 травеня, аўторак*

Дзень смутку. Не прынёс ён радасную вясціну маме й мне. […]. А ўночы лезлі радкі: «Дарагі»[2].

*10 травеня, серада*

Радкі лезуць у галаву дурную й балючую. Адчуванне канца, марнасці старання. «Нетутэйшы…»[3]

*11 травеня, чацвер*

Зборы ў дарогу. Мітушуся. Стаў яшчэ болей мітуслівы перад любой дарогай. Нават перад чаканай і жаданай, як гэтая. У Вушачу!

*12 травеня, пятніца*

Маршрут на *Вушачу!* Спачатку *Ваўчо.* Да Валянціны Быкавай, да сястрыцы Васілёвай. Выкацілася поўня. Салаўі аж шалеюць, здаецца, намагаюцца зрабіць яе яшчэ круглейшай. Маміна хата. Халодная. Мама не сустрэне. Сеў на гарышчы ў сваім кабінеце пісаць: «Пераліванне»[4].

*13 травеня, субота*

Савецкая быдла гэтым разам у хату не ўлезла, бо сігналізацыя. Затое хоць у дрывотні вырвалі дзверы з мясам, пабралі рыдлёўкі, сякеры, лом,

---

[1] Тарас Віталь Валянцінавіч (1956–2011), беларускі журналіст, публіцыст. Супрацоўнік газ. «Літаратура і мастацтва», «Культура», расійскай «Общественной газеты», Радыё «Свабода». Сын В. Я. Тараса.

[2] Гл.: Дарагі (9.05.06) // Ксты. Выд. 2. С. 364.

[3] Гл.: Нетутэйшы... (10.05.06) // Халодная памяць вады. С. 247.

[4] Гл.: Пераліванне (12.05.06, Ушачы) // Тамсама. С. 312.

граблі — усё жалеззе. Сапраўды, да майго дому «не зарастёт народная тропа», — хоць нешта ўкрасці, хоць нешта разламаць. Плот разрэзалі, паваліілі. За хатай куча. Дарагія землячкі. Старых вушацкіх амаль не засталося. [...].

*14 травеня, нядзеля*

Імша ў Вушацкім касцёле. Айцец Андрэй з Лепля (наш у Польшчы) цытаваў Караткевіча. Наогул, ён потым распавядаў, кажа, цытуе Быкава. Маці ягоная выкладчыца беларускай мовы.

*Бычкі.* Магільнік. Поле камянёў. Нідзе гэтулькі не бачыў. Відаць, Васіль таму й казаў паставіць яму камень. Узняўся крумкач. Магільнік, дзе жыве крумкач, чысты. Толькі ён гаспадар. На слупе буслянка ля хаты, дзе Васіль пачынаў хадзіць у школу. Як вялі праводку, былі скінулі гняздо. Буслы вярнуліся і аднавілі. Калі бусліха сядзіць на яйцах, бусел ляціць на здабычу, пільнуе гняздо. Нядаўна прыляцела пара. Пачалі біцца. Адбілі. У бусла былі разбітыя грудзі да крыві. Я падабраў пер'іну з бусловага крыла. Відаць, ад бойкі за гняздо. Пад час разбірання хаты шафёр знайшоў ліст Васіля, першы пасля вайны. Услед за пахаронкай.

* Тоня [Быкава] пра страхавога інспектара: страх-баба.

*15 травеня, панядзелак*

Паехалі Сяргей Шапан і Андрэй Палуда. Паратоўцы мае й памашнікі. Дапамаглі мне з плотам, з дзвярыма дрывотні. Дзякуй ім! Такія шчырыя й чыстыя, аж за іх страшна.

*16 травеня, аўторак*

Трохі адрамантаваны, звыкаюся з самотаю. Чытаю кітайскую класіку. Лепшыя лекі для душы. Праціснуліся радкі праз бязладдзе думак: «Зноў дома»[1].

*17 травеня, серада*

Сустрэўся зямляк. Помніць мяне малога на хутары. Разгаварыліся. Ён пра доктара Казлова — у людзі вялікія выйшаў: з Лукашэнкам у лазні мыецца, у газеце пісалі. [Лукашэнка] — вяршыня ў яго вачах. Раённае балота самае топкае. Асушэнню не падлягае. А мне пад рабрыну радкі штурхаюць: «Пакуль...»[2]

---

[1] Гл.: Зноў дома (16.05.06, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 158.
[2] Гл.: Пакуль... (17.05.06, Ушачы) // Тамсама. С. 217.

*18 травеня, чацвер*

Змагаюся з самім сабой, які ўпадае ў роспач. І так дзякуй Усявышняму за гэтулькі гадоў. Усе ў нашым родзе пайшлі раней. Мяне Госпад затрымаў. Рупіць нешта зрабіць, а старасць хваробамі: стой, чакай, збірайся... Мая Вушача перасялілася на Бутаўшчыну (на магільнік), а цяперашняя саўковая, чужая, [...], спітая, абалваненая. Хіба аблокі ды вятры вушацкія.

*19 травеня, пятніца*

Трэба ехаць. А не хочацца. Душа адчувае сябе дома. Дух дзядоў і прадзедаў невынішчальны, ён вечны, ён жывы. Душа дыхае ім, жыватворыцца ім. І просяцца радкі: «Ад чаго?»[1]

*20 травеня, субота*

Сабраўся. На вакзал. Чакаю. А аўтобуса няма. Пайшоў у касу высняць. Пераблыталі. Сёння аўтобус не ходзіць. Далі ўчора на ўчора. Савецкі Саюз яшчэ доўга будзе трываць. Перачытаў Сыса. Прыйшлі радкі:

*Цесна...*

Цесна і ў песні,
І ў самім сабе
Было Анатолю Сысу.
Быў ён толькі намеснікам
Сябе самога.
Бліскавіцу слова,
Як жывога вужа,
Галаруч трымаў на вісу.
Босай душой
Па халодных аблоках
Ступаў да Бога...

Схадзіў было на базар. Хацеў убачыць вушацкія твары, пачуць нашую мову. Каб душа. Анучы імпартныя second hand, польская капуста, польская цыбуля. Каб што сваё. А [Лукашэнка] разрываецца па тэле й на радыё пра рост усяго. Калі й ёсць рост, дык вар'яцтва й бязмозгласці. Як некалі любіў паўтараць Караткевіч: «Наши алкаши чудо хороши».

*21 травеня, нядзеля*

Нарэшце паехаў. Аўтобусам па старых прыпынках. Шмат зmененага. Таго маршруту, які быў у маладыя гады, ужо няма. Пасажыры ўжо сінт-

[1] Гл.: Сівее... (19.05.06, Ушачы) // Ксты. Выд. 2. С. 232.

этычныя, падстрыжаныя пад адну машынку, як трава на газонах. З раніцы ў падстрэшшы дапісаўся верш: «Ёсць»[1].

*22 травеня, панядзелак*

Цеснай маршруткай на *Брэст*. Бо лінія чыгуначная пашкоджаная. І з Брэста толькі цягніком да Варшавы.

*23 травеня, аўторак*

*Варшава!* Вечная і маладая. Непаўторная. Колькі помню сябе, гэтае імя вымаўлялася світальна: Варшава. Кафедра беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. Прыемна было сустрэць Алеся Баршчэўскага[2], усё такога ж гжэчнага. Рад быў Чэславу Сэнюху. Праходка па старым мясце.

*24 травеня, серада*

Радыё. Тэле. Ад'езд.

*25 травеня, чацвер*

Менск. Канец свята. Будзённасць. А хочацца ў Вушачу.

*26 травеня, пятніца*

Званкі. Званкі. Галаўны боль. Марнасць. Хмарнасць.

*27 травеня, субота*

Пётра забараніў пісаць. Загадаў даць галаве адпачынак. А радкі лезуць: «Прагнуць…», «Няма калі…», «Халаднее…»[3]. І прыйшлі радкі пра брыду: «Пераліцоўваць старызну…» [у дзённіку].

*28 травеня, нядзеля*

У «Коўню» да Генадзя Асташонка. Потым у майстэрню да Марачкіна. Наконт Ілоны. Можа, яе ў Саюз мастакоў прымуць. Хоць будзе прывязка да Беларусі. А так як бомж у […] Расіі.

*29 травеня, панядзелак*

Да Сарокіна. Са здароўем справа дрэнь. Быў конь, ды з'ездзіўся. Дома холад. […].

---

[1] Гл.: Дзе можна… (21.05.06, Ушачы) // Ксты. Выд. 2. С. 244.

[2] Баршчэўскі Аляксандр Андрэевіч (псеўд. Барскі Алесь; н. 1930), беларускі паэт, літаратуразнавец, фалькларыст, драматург, публіцыст, перакладчык, педагог. Доктар філалогіі (1986). Прафесар. Польша. Узнагароджаны медалём Ф. Скарыны (1991).

[3] Гл.: Прагнуць…; Лётае…; Халаднее… (27.05.06) // Ксты. Выд. 2. С. 243; 234; 265.

*30 травеня, аўторак*

Прыйшло ў галаву: «Не разабраць…: Над Стакгольмам…» [у дзённіку].

І яшчэ на сямейным матэрыяле ўзніклі радкі, якія даўно круцяцца ў мяне ў галаве: «Ворагі бліжэйшыя якраз…» [1-шы вар.; у дзённіку].

*31 травеня, серада*

Алесь павазіў мяне па дактарах. Добрага мала. Пісаць стала кепска, рука не слухаецца. І рукі не слухаюць, і галава таксама. Паціху збіраюся. Стараюся не спяшацца, але гэта не ад мяне залежыць.

*1 чэрвеня, чацвер*

У Чырвоны касцёл. Вечарына са шведамі. Прэзэнтацыя «Быць! = То Be!».

*2 чэрвеня, пятніца*

Змаганне з галоўным — галаўным болем. […].

*3 чэрвеня, субота*

У *Пінск.* Конкурс. Перамога зроблена мясцовым журы нейкай рускамоўнай дачушцы-паэтушцы. А мне цюкнула [«Ахвярынкі»[1]].

*4 чэрвеня, нядзеля*

З раніцы, як сноп. Пад вечар троху ачухваюся. Набліжаюся да раслiннага жыцця. Адно трымае, што, можа, некаму патрэбны, хоць невялікай купцы натуральных беларусаў.

*5 чэрвеня, панядзелак*

Званіў Марачкіну днямі, яны рыхтуюць альбом Яўгену Куліку. У мяне колькі дзён круціліся радкі: «Яўген Кулік: Ён жыў у недасяжнай Беларусі…» [у дзённіку]. Кулік быў самай шчырай душы беларус. […].

*6 чэрвеня, аўторак*

Прыём у амбасадзе Швецыі. Тусовачка ад розных камсамольскіх хлопчыкаў Фядутаў да Ніла. Хоць з Някляевым пагутарыў, адвёў душу. [«Ахвярынка»[2].]

[1] Гл.: Ахвярынкі: А ці ветру голаму баліць…; Сёння — гэта заспанае ўчора… (3.06.06) // Халодная памяць вады. С. 468; 464.

[2] Гл.: Ахвярынкі: На вуліцы каляровыя мухаморы… (6.06.06) // Тамсама. С. 470.

*7 чэрвеня, серада*

Вечарына Алеся Камоцкага. Дыск «Дах». Хораша. Алесь быў як вясёлы анёл.

*8 чэрвеня, чацвер*

Прэзентацыя «Рымскага дыпціху» ў Музеі Янкі Купалы. Выцягнуў усю вечарыну Алесь.

*9 чэрвеня, пятніца*

Дзень народзінаў Алеся Камоцкага. Забягаўся. Павіншаваў, чым мог. Уладзімер Сіўчыкаў прывёз паказаць «Руны Перуновы». Здорава выдадзена. Дзякуй яму. Былі ананімныя званкі ад [...]-нячысцікаў не выдаваць. З пагрозамі. Не збаяўся. «Меней...»[1]

Заўтра дзень народзінаў Мамы. А здаецца — яна некуды адхінулася і неўзабаве вернецца. Толькі як самому зробіцца невыносна, пачынаеш разумець, як цяжка было маме. Разумееш яе жыццёвы подзвіг.

*10 чэрвеня, субота*

Дзень народзінаў Мамы! Ёй сёння 95![2] Яна ніколі не памрэ, пакуль я жыву, а потым, пакуль унучка, праўнучка і далей. А ў нас дома ўсё паранейшаму. Ілона ўся разнерваваная ад свайго [Косці]. Шкада яе. А самому хоць у вір галавой. «Двайняты»[3]. Паліў свечку. Размаўляў з Мамай. Свечка дрэнна палілася. Мама ўва мне, як у рухомай хаціне ці дамавіне!

*11 чэрвеня, нядзеля*

Выйшаў на вуліцу. Пахадзіў паркам. Адчуванне стомленай трывогі. Ці не здакучыў я стоме ці трывозе? А радкі йдуць, баючыся стацца апошнімі: «Прыйшла аднойчы, каб пайсці...»[4] Галава сарваная, а ўсё трылузіцца. [«Ахвярынка»[5].]

*12 чэрвеня, панядзелак*

Чытаў верш Алесю. Яму падабаўся. Сказаў, што можа быць песня. Я напісаў яшчэ два слупкі. Як верш хопіць і ранейшага.

[1] Гл.: Меней... (9.06.06) // Ксты. Выд. 2. С. 273.

[2] На самой справе 97 гадоў. Барадуліна Акуліна Андрэеўна нарадзілася ў 1909 г.

[3] Гл.: Ахвярынкі: У сцяну цішыні заганяюць цвік гуку...; Рэха дагнаць і ўгаварыць... (10.06.06) // Халодная памяць вады. С. 457; 472.

[4] Гл.: «Прыйшла аднойчы, каб пайсці...» (11.06.06) // У неба пехатою. С. 32.

[5] Гл.: Ахвярынкі: Падспудна адчуваю, што даўно... (11.06.06) // Халодная памяць вады. С. 462.

Мана — бязмежная яна
У незапыненым нахлыне.
Мана вясла, мана чаўна,
Вірлівыя інтрыгі плыні.

Мана, яна свайго мяна
Не выракаецца ніколі.
Мана аднюткая адна
Паволі селіцца на волі.

*13 чэрвеня, аўторак*

Прэзэнтацыя польскай кнігі, яшчэ Арлоў і Хадановіч. Не пайшоў. Пётра забараніў, дый сам не магу. Усё плыве. «Штогод», «Адкрыццё», [«Ахвярынка»[1].]

*14 чэрвеня, серада*

Заўтра выпуск ліцэя. Быць не магу па здароўю. Напісаў віншаванне: «Выпускнікам Беларускага ліцэя: Паклон маладому дню!» [у дзённіку]. «Бывае...»[2]

*15 чэрвеня, чацвер*

Для «Свабоды»: «Ліст у вечнасьць»[3].

*16 чэрвеня, пятніца*

У «Коўню». Хоць душу адвёў. «Ахвочы: Ах, вочы!» [у дзённіку]. Знайшоў двухрадкоўе:

Аблокі — стомленыя крыгі
У задуменным моры мары[4].

Цікава распавёў Каміль. У адкрытай кавярні сядзіць. Гаворыць пабеларуску. Падыходзіць хлопец і пытаецца: «А ці можна размаўляць пабеларуску?» Каміл адказвае: можна, і гаворыць з ім па-беларуску. «Ты ж не беларус», — здзіўляецца хлопец. Ідзе [неразб. 1] знішчэнне мовы. Дзіцячых беларускіх кніжак няма. [...] ТЮГ для маленькіх ставіць п’есы па-расійску. Куратар з Адміністрацыі адказвае: «Дзеці па-беларуску не разумеюць».

---

[1] Гл.: Штогод; «Нядоўга на покуці стыне куцця...»; Ахвярынкі: Прыходзіць лёгка на гэты свет... (13.06.06) // Халодная памяць вады. С. 344; 286; 461.

[2] Гл.: Бывае... (14.06.06) // Халодная памяць вады. С. 339.

[3] Гл.: Ліст у вечнасьць (15.06.06) // Дажыць да зялёнай травы...: Ліставанне і аўтографы Васіля Быкава і Рыгора Барадуліна (1960–2003). Львів: «ВолЯ», 2008. С. 12.

[4] Гл.: Ахвярынкі: Аблокі — стомленыя крыгі... (30.04.06) // Халодная памяць вады. С. 469.

*17 чэрвеня, субота*

Заўтра едуць у Віцебск, а потым у Бычкі. Не магу. Дайду ў аўтобусе. Пётра забараніў пісаць, а ў галаву лезуць радкі: «Іншапланецянін»[1].

*18 чэрвеня, нядзеля*

Пачынае душыць спёка. Ніяк не дагадзіць прырода чалавеку — і мароз кепска, і спёка блага. [«Ахвярынка»[2].]

*19 чэрвеня, панядзелак*

Да Васіля. Яму сёння 82. [«Ахвярынка»[3].]

*20 чэрвеня, аўторак*

У «Коўню». Сустрэцца з Пётрам. На вуліцах цёплы снег тапаліны. Распавядаў цікава. У Фінберга стаіць 3 тэлевізары, глядзіць, дзе што пра яго. Слаб чалавек. Уладзімер Сіўчыкаў прывёз «Руны Перуновы». Такой кнігі ў мяне не было. Дзякуй яму й Алесю Камоцкаму. Прадмова Някляева такая — аж чырванею. Дзякуй яму. Белкніга адмовілася ўзяць на рэалізацыю. Забаронены. [...].

*21 чэрвеня, серада*

Спёка такая, што яшчэ 8 градусаў і, як жартаваў Святлоў, піць можна. Адно ратуюць вушацкія словы. З імі размаўляю, з імі раюся. Бо яны ад Мамы!

*22 чэрвеня, чацвер*

Чорны дзень. Тры гады, як Васіль пайшоў у вечнасць. На могілкі. Абламейка служыў паніхіду. Луналі бел-чырвона-белыя сцягі. Маладафронтаўцы малайцы. Шмат было людзей сталага веку. Васіля памятаюць, Васілём спавядаюцца.

*Замалёўка*

Нёс лёгка вялікі мех
Чэрвень сонцагаловы.
Ды мех прадраўся —
І цёплы снег
Тапалёвы
Пасыпаўся долу смела.
І стала навокала бела.

---

[1] Гл.: Іншапланецянін (17.06.06) // Ксты. Выд. 2. С. 397.

[2] Гл.: Ахвярынкі: У неба на высокім чале... (18.06.06) // Тамсама. С. 477.

[3] Гл.: Ахвярынкі: І тут як у людзей усё — надмагіллі... (19.06.06) // Халодная памяць вады. С. 464.

Ажно чакаеш,
Калі свой голас
Падасць неразяблы полаз…

Па дарозе з могілкаў у метро Глеб. Убурэў. Малады воўк. Але ягоныя аднагодкі таксама не ягняткі.

*23 чэрвеня, пятніца*

Хочацца памерці Барадуліным. […]. «Шчырэюць…»[1]

*24 чэрвеня, субота*

Трэба адказаць на пытанні чэшскай перакладчыцы. Спёка. Хочацца ў Вушачу. Пісаць цяжка. Рука не свая.

*25 чэрвеня, нядзеля*

*Барысаў.* Стары горад нагадаў мне даваенную Вушачу. Сустрэча ў касцёле. Ёсць яшчэ беларусы! Наогул, з Алесем добра ездзіць. А тут яшчэ Барысаў — ягоная радзіма.

*26 чэрвеня, панядзелак*

У Міністэрства культуры. Наконт дамовы на пераклад п'есы. […]. «Світай…»[2]

*27 чэрвеня, аўторак*

Драўлянымі пальцамі дапісаў адказы на пытанні Францішкі Сокалавай[3]. Алесь (дзякуй яму) узяўся адвезці мяне ў Вушачу. Патроху збіраюся. Толькі ў апошні ад'езд ніхто не ведае, калі збірацца. З гадамі жыццё, як недасоленая страва. І дасольваць не хочацца.

*28 чэрвеня, серада*

*Вушача!* Па дарозе мясцінамі плылі — гэткі лівень. А ў Вушачы дождж усё збіраецца. Якая добрая дачушка ў Алеся. 20 гадоў. У іх узаемаразуменне. Дай Бог ёй шчасліва ў жыцці пачувацца! Трава ў гародзе ў чалавечы рост. Васіль Бялевуш — сусед дасць касу. Паспрабую касіць. Па дарозе заехаліся да Валянціны Уладзімераўны Быкавай. «Дадавацьме…»[4]

---

[1] Гл.: Шчырэюць… (23.06.06) // Ксты. Выд. 2. С. 232. Таксама гл.: Ахвярынкі: Шчырэюць дзеткі… // Anima. С. 123.
[2] Гл.: Світай… (24.06.06) // Халодная памяць вады. С. 369.
[3] Сокалава Францішка (н. 1947), чэшская беларусістка, перакладчыца; доктар філалогіі.
[4] Гл.: «Па тым, што было калісьці…» (28.06.06, Ушачы) // У неба пехатою. С. 97.

*29 чэрвеня, чацвер*

Дома. Усё сваё. А ў мястэчку ўсё чужое. І само мястэчка чужое. Кавалачак брукаванкі ад пажарнай да хаты, толькі й ён даўні, вушацкі, свой. «Голы дождж…»[1], «Каго…»[2]. Адвячоркам заросшую сцежку ў садзе хацеў перайсці мне вожычак. Пачуў крокі — застыў. У хаце жыве жабка. Усё ж жывое нешта. У той хаце пад ганкам жыў вуж.

*30 чэрвеня, пятніца*

Збіраўся прыехаць Валер Сасноўскі. Стала мне блага. Адгаварыў яго ехаць. Наогул, нікога бачыць і чуць не хачу. Чытаю Су Дун-по. Якое гэта майстэрства — спакойна выказаць трывогу, ураган. Размова з вечнасцю мусіць быць спакойнай. Вечнасць не выносіць мітусні. Стараюся прапаліць камін, каб не дыміў. Ад камароў рады няма. «Саладзей…»[3], «Яшчэ соннаму лесуну…»[4]

* * *

У маладой,
Як у школьніцы, класікі
Банцікі, фанцікі,
Кветкі, кутасікі.
Класіка радасны смех паважае
І ў разуменні пабыць запрашае.

*Чэрвень*

*1 ліпеня, субота*

Дзень добры, месяц цяпла. Будзь спагадлівым. Хоць трошкі дай спакой галаве маёй зношанай. Радкі лезуць самі: «Вузельчыкі на памяць»[5]. І яшчэ спроба акрэсленага верша: «Памятаючы цяпер…: Можа міг штовечар паўтарацца» [у дзённіку].

*2 ліпеня, нядзеля*

Пазваніў у Менск. […]. Добра, што чысты званочак Дамінічкі вярнуў мне настрой. А так цяжка, беспраглядна, глуха. «Непрычаканы…»[6]

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: Голы дождж… (29.06.06, Ушачы) // Барадулін Р. Ксты. Мінск: Рымска-каталіцкая парафія свсв. Сымона і Алены, 2009. Выд. 3, дапоўненае. С. 500.

[2] Гл.: «У садзе, маладзейшым за мяне…» (29.06.06, Ушачы) // Халоднае памяць вады. С. 300.

[3] Гл.: Саладзей… (30.06.06, Ушачы) // Ксты. Выд. 2. С. 399.

[4] Гл.: «Яшчэ заспанаму лесуну…» (30.06.06) // У неба пехатою. С. 97.

[5] Гл.: Вузельчыкі на памяць (1.07.06, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 124.

[6] Гл.: Непрычаканы… (2.07.06, Ушачы) // Ксты. Выд. 2. С. 279.

*3 ліпеня, панядзелак*

Дзве радасці. Душэўная — знайшоў ка′пу, якую ткала мама. Усе дні думаў, што й яе ўкралі. Бытавое, пабытовае — камін добра паліць. Сядзеў перад залатазубым і піў з піялы зялёную гарбату. Халата толькі не хапіла. А наогул, на душы зімна. Ці прыйду я ў сябе? Душу сагрэў голас і клопат Алесеў.

*4 ліпеня, аўторак*

Усю ноч стаялі два радкі з Су Дун-по: «Спіць рыбак й чайка спіць. Сны падобныя, магчыма, ў іх». «Мабыць, сны аднолькавыя ў іх» ці «Мабыць, сняць аднолькавыя сны», «Мабыць, сны аднолькавыя бачаць». Пад вечар дазваніўся дамоў, у Менск. У Ілоны і [Косці] лецішча даходзіць. Божа, калі мне будзе спакойна адносна? Адчуваю, што сілы пакідаюць мяне. Усё крыўдзіць, асабліва бездапаможнасць. Жыць не хочацца часам. А трэба. Яшчэ наляжуся.

«Скеміць...»[1]

*5 ліпеня, серада*

Сёння Дамінічцы 17! Дзед яшчэ болей стаў дзедам. Лечуся радкамі: «Раніца дома»[2]. На сон прыйшлі радкі: «Як хрэснік»[3].

*6 ліпеня, чацвер*

Спёка шалее. Вяну, як бурак на непалітай лясе. Ратуе Пётра. На базар з раніцы. Цыбуля ў галоўках з Беларусі. Расцём! Вечарам пайшоў хлеба ў краму каля базару. Прыветлівая вушачанка пытаецца, а ці ў такім узросце пішацца мне яшчэ? У нагах трэцца чорны коцік. Падкінулі. Яна яго тым-сім ласуе. Шчырая душа.

*7 ліпеня, пятніца*

Прыйшлі двое хлопцаў — скасілі траву. Адзін прыйшоў з абеду дакасіць. Разлічваюся з імі, а ён просіць кніжку на памяць падпісаць (Васілеўскі са Строктаў). Гэта мяне здзівіла. Вечарам прыходзіла Сняжана Мялешка. Крыўдзілася, што з яе кпяць саветызаваныя дунькі, бо яна па-беларуску гаворыць. Вёска памірае. Яна выкладае ў Жарах. У яе тры вучні.

---

[1] Гл.: Скеміць... (4.07.06, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 283.
[2] Гл.: Раніца дома (5.07.06, Ушачы) // Тамсама. С. 336.
[3] Гл.: Як хрэснік... (5.07.06, Ушачы) // Тамсама. С. 276.

*8 ліпеня, субота*

Спёка не сунімаецца. У думках збіраюся ехаць у Менск. Толькі пад вечар выйшаў у Вушачу. Як з лазні. Каб не звар'яцець, пісаў: «У чарзе»[1].

*9 ліпеня, нядзеля*

Дзень нараджэння Валі. Прыехалі па мяне з Менска Мая й Алесь. Годныя душы. Прыехалі праз спёку, а за вакном дожджык сёння. Глебу 20. Званіў дамоў. Маці адказвае — не ведае, дзе імяніннік.

*10 ліпеня, панядзелак*

Заўтра дзень нараджэння ў Валодзі [Някляева]. «На юбілей: Гаспадара прымае замак Крэва…» [у дзённіку]. Патэлефанаваў Лявону Дранько-Майсюку. А юбілей адзначаўся 9-га. Як у даведніку. Валодзя ў Маскве.

*11 ліпеня, аўторак*

Яшчэ сем градусаў, і можна піць. На сонцы ўсіх 45°. Тырчу ў пекле. Трэба ў Вушачу. А радкі йдуць: «На паганскім капішчы…»[2] А гэта на матыў савета[…] гімна: «На векі вякоў!: Мы, беларусы, церпім прымусы» [у дзённіку].

*12 ліпеня, серада*

Далёкае падабенства пекла. Спёка. «Нялёгка…»[3]

*13 ліпеня, чацвер*

Перадрукоўваю вершы. Прапанаваў Міхась Скобла запісаць па «Свабодзе».

*14 ліпеня, пятніца*

На «Свабодзе». «Маці Божая Будслаўская»[4].

*15 ліпеня, субота*

Рэзкая восень з ліўнем. Перадрукоўваў патроху вершы.

* * *

Падзівіцца дойлідству
Прыцемкам выйшаў —

---

[1] Гл.: У чарзе (8.07.06, Ушачы) // Ксты. Выд. 2. С. 188.

[2] Гл.: «На паганскім капішчы…» (11.07.06) // Халодная памяць вады. С. 177.

[3] Гл.: «Нялёгка вырашыць страху…» (12.07.06) // Тамсама. С. 308.

[4] Гл.: Маці Божая Будслаўская (14.07.06) // Ксты. Выд. 2. С. 169.

Забудавала Вушачу вясна
Бялюткімі мураванкамі вішняў[1].

*7 мая 1997*

*16 ліпеня, нядзеля*

Перадрукоўваў патроху вершы. Спрабаваў неяк уладкаваць рукапісы. Як на дзялянцы ў лесе. Я ўжо заблудзіўся ў рукапісах. Ні стэлажы, ні галава не вытрымліваюць. Бальшына як чужое, як не маё. Роспач. Бесперспектыўнасць. «Хацелася б...»[2]

*17 ліпеня, панядзелак*

Алесь прынёс карту Вушаччыны, Скобла — лекі. А наогул, цэлы дзень абміраў. Галава. Знайшоў у накідах: «Зажурылася: Прымярае зіма-шчыруха...»[3]

*18 ліпеня, аўторак*

Сёння Ілоне 44. Яна на лецішчы. Затурканая, знерваваная, без грошай. Праз Косцю павіншаваў паштоўкай з рагатай датай, пажадаў быць здаровай, таленавітай, багатай. Уклаў маленькую ахвярынку. Шкада яе да злосці. Хадзіў у канец трамвайных ліній, там вадаспадзік. «Нагадвае...»[4]

*19 ліпеня, серада*

У пошуках лекаў. Цэны кусаюцца, нічога не абяцаючы вылечыць. Для пробашча перапісваў ад рукі вершы пра касцёл і памяці Вайніловіча.

*20 ліпеня, чацвер*

Алесь аднёс вершы й кнігі. [...].

*21 ліпеня, пятніца*

*[...]*. Пайшоў узяць білет на аўтобус да Вушачы. Трэба ратавацца, бо звар’яцею ў гэтай хаце. Шкада хіба Рысіка й Дамініку.

*22 ліпеня, субота*

Купіў лекі. Прыйшлі радкі: «А...»[5]

---

[1] Параўн.: Ясачкі: Вечар здзівіцца дойлідству выйшаў... (6–7.05.97) // Збор твораў. Т. 3. С. 331.

[2] Гл.: Не знелюдзець... (16.07.06) // Ксты. Выд. 2. С. 392.

[3] Гл.: Зажурылася... (31.01.98) // Ксты. С. 301.

[4] Гл.: Нагадвае... (18.07.06) // Халодная памяць вады. С. 325.

[5] Гл.: «Не шкадаваць і не хваліць...» (22.07.06) // Тамсама. С. 287.

*23 ліпеня, нядзеля*

Зборы ў дарогу. Думка пра марнасць усяго не дае спакою. Толькі й трымаюся, калі нешта крэмзаю, калі прыбягае маміна слова, маміна прыказка. Хацелася б усё-ткі зрабіць Вушацкі словазбор і выдаць хоць мізэрным накладам. «Вогнішча»[1].

*24 ліпеня, панядзелак*

У душным філіяле пекла — маршрутоўцы дамоў. *Вушача.* Чужая. Халодная, хоць на вуліцы спёка. Адзіна сваё, роднае, вушацкае — гэта хата маміна. Хоць яна й перабудаваная.

*25 ліпеня, аўторак*

Сёння дзень нараджэння Генадзя Асташонка. У «Коўні» будзе баляванне. А мне засталося толькі па тэлефоне павіншаваць шчыруна, майстра. Напісаліся радкі: «Багата ў славы вінаградных гронак…» [у дзённіку]. Усё, як у жыцці. Сёння памёр Янка Брыль. Светлая памяць яму.

*26 ліпеня, серада*

Прыходзілі з касцёла маладзіцы. Вушацкія, шчырыя. Узгадвалі шмат чаго. Між іншым распавялі, як у сучасных калгасах, якія называюць СПТ, здаецца, даяркай працуе, даглядае і доіць 50 кароў. Заробак–150 […] тысяч. Трое дзяцей. Вось і жыві. Тэле брэша, што росквіт. «Перачытваю…»[2] Брыля хаваюць з ягонае хаты. А з нашай немагчыма. Немагчыма будзе людзям зайсці. Няхай з вушацкай, з мамінай накіруюць на Бутаўшчыну да мамы.

*27 ліпеня, чацвер*

Нічога рабіць не магу. Сяку сучча для каміна. Размаўляю з камінам, а ён свае дымныя думкі выпускае ў хату. Думна й дымна. У хаце і ў душы.

*28 ліпеня, пятніца*

Раніцай па дарозе з Полацка заехаўся Кахін. Усё-ткі, можа, з месца зрушыцца талаская кніжка. А галава як цэбар. Зноў магнітныя хвалянні. Калі ўжо яны супакояцца? Цікава распавёў Кахін. У Баку яго запынілі міліцыянты. Яны між сабой не маглі разабрацца, адкуль [ён]. Бо не з Масквы і не з Кіева. Кахін адказаў, што з Менска. Запытаўся ў сваю чаргу, па чым вызначалі. Адказалі: па паходцы. Кахін у Беларусі 20 гадоў. І ходзіць як мянчук.

---

[1] Гл.: Вогнішча (22–23.07.06) // Халодная памяць вады. С. 125.
[2] Гл.: Перачытваю… (26.07.06, Ушачы) // Ксты. Выд. 2. С. 236.

*29 ліпеня, субота*

Выйшаў у цэнтр, у спёку. Заср.ная кавярня ў Райспажыўсаюзе — «Эўропа». Ведай нашых! Па дарозе сустрэў нашаніўцаў — едуць да Севярынца. К вечару к суседу прыехалі калхознікі з Нафтабуда. Музыка на ўсю галаву. Каб адбіць рэшткі мазгоў саветызаваных генетычна. Электарат [Лукашэнкі]. Няма маёй Вушачы. Ва ўспамінах толькі й жыве, успамінамі толькі й жыву.

*30 ліпеня, нядзеля*

Алесь з Яўгенам заехаліся па мяне. Сустрэча ў касцёле ў *Воршы.* Уніяцкая парафія, айцец Андрэй. Падпісваў «Рымскі дыпціх». Панавітыя прозвішчы на радзіме Уладзімера Вялікага. Нават Патоцкія. Падыходзяць, пытаюцца, чаму няма беларускіх кніжак. У Воршы ў кнігарнях нічога беларускамоўнага. [...].

*31 ліпеня, панядзелак*

Дома ўсё ж лепей, чымся ў Менску. [...]. Дамінічка расце. А ў мяне даходаў аніякіх. І ўсё гэта дае невылечны галаўны боль. Напісаліся радкі: «За веру...»[1]

*1 жніўня, аўторак*

Настрой, як і надвор’е. [...]. Як супакоіцца? Як не думаць пра галечу? Ніякой перспектывы. Даменіка расце, усё трэба. А дзе зарабіць? Малайцы бацькі — па іх і трава не шумі.

*2 жніўня, серада*

З раніцы ледзь не звар’яцеў ад галаўнога болю. Ледзь Пётра выцягнуў. Званок Ганада. У яго справа йдзе на папраўку. Слава Богу. Прыходзіла Ілона са сваім [Косцем]. Страшная, худая, галодная, знерваваная. Як на марудным агні даходжу. Прыйшлі радкі: «Вецер нешта рабіне на вуха...»[2] Як нешта раблю, забываюся на ўсё, толькі й жыву ўрыўкамі...

*3 жніўня, чацвер*

Не магу дазваніцца да Генадзя Быкава. Спадзяваўся, што ён дасць машыну ў Вушачу. Бо трэба ж везці Рысіка. З’явілася Ілона. Грошы. На лецішчы за колькі гадоў не плацілі. [...]. Мяне ўжо дрыжыкі б’юць. Куды ўцячы, каб хоць колькі дзён не чуць: грошы, грошы, грошы. [...]. «Усё...»[3]

---

[1] Гл.: За веру (31.07.06) // Халодная памяць вады. С. 94. Памяці Росіцкіх пакутнікаў.

[2] Ахвярынкі: Вецер нешта рабіне на вуха... (2.08.06) // Ксты. Выд. 3. С. 501.

[3] Гл.: Усё... (3.08.06) // Тамсама. С. 216.

*4 жніўня, пятніца*

Ліе як з вядра. Зборы ў Вушачу. Павязем Рысіка. Заходзіўся Косця, а Ілона ў хату не зайшлася. […]. Мне настрой на дарогу. Як мне выйсці з роспачы? Сапраўды, зямля вялікая, а дзецца няма дзе.

*5 жніўня, субота*

*Вушача!* Яўген за 2,5 гадзіны завёз у Вушачу. Дождж быў слабы. Рысік сябе паводзіў добра. Драмаў. Абдумваў сваё жыццё. Моцны сусвет саду. Апалыя зоркі. Падымаўся да сябе ў паднябессе й заблытаўся нагамі й грохнуўся зноў галавой, левай скронню. Добра, што не на жалезкі, якія ляжалі тут жа. У дарозе круцілася: «Над бяссоннай крыніцай…»[1] Трапіўся пад руку зборнік сарака кітайскіх паэтаў 20–40-х гадоў. Божа! Што робіць са шматвекавой паэзіяй ідэалогія. Лозунгі. Крык. Рэдка нешта кітайскае. А так савецкае ўлюлюканне.

*6 жніўня, нядзеля*

Страха ў мяне яшчэ не паехала, а страха ў хаце працякае. К начы пачалася класічная навальніца. Аж святло выбіла на момант. Хто шчаслівы бязмежна, дык гэта Рысік. «Сурочаны…»[2]

*7 жніўня, панядзелак*

Пад заліве′нь складаліся радкі: «Задажджыла…»[3]

*8 жніўня, аўторак*

Чытаў паэтаў Плеяды[4]. Двухмоўнае выданне. Шкада, што па-французску не разумею, не магу адчуць музыку. Усё больш і больш жыву ў Вушачы, якая была, якой, на жаль, ужо не вярнуць. Толькі вушацкія словы ад мамы й жывяць мяне. «Рабства»[5].

*9 жніўня, серада*

Надвор'е круціць і адпаведна маю галаву. Айцец Уладыслаў хоча выдаць зборнік для дзяцей. Вядома, гэта ўсё на вачах і плячах Алы. Прасілі мяне напісаць на Біблейскія сюжэты. Гартаў Біблію, нічога новага напісаць не змагу. Бо гэта ўжо можа нагадваць піянерскія вершы. Якіх я пры камуністах пісаў мала. Напісалася: «Калыханка»[6]. Званіў Генадзю [Бураў-

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: Над бяссоннай крыніцай… (5.08.06, Ушачы) // Ксты. Вып. 2. С. 492.

[2] Гл.: Сурочаны… (6.08.06, Ушачы) // Тамсама. С. 282.

[3] Гл.: Задажджыла… (7.08.06, Ушачы) // Тамсама. С. 272.

[4] Паэты Плеяды — сябры французскага літаратурнага аб'яднання XVI ст., якім кіраваў П'ер дэ Рансар.

[5] Гл.: Рабства (8.08.06, Ушачы) // Ксты. Вып. 2. С. 215.

[6] Гл.: Калыханка (9.08.06, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 105.

кіну]. Ён трымаецца. Дай Бог яму яшчэ багата дзён. Дужа ён трэба для Беларусі, для нашай святой справы ў супрацыве [...]. Такія ў адпаведнасці з настроем радкі: «Але...»[1] [...]. Куды ўцячы? Ад сябе не ўцячэш, бо так наканавана. Усё жыццё ў стрэсах грамадскіх і хатніх.

Захадзіце, сны, ў чараты,
Заганяйце ры'бачку ў нераты.
А гэта не рыбачка-плотачка —
Любая дачушачка Ілоначка.

*10 жніўня, чацвер*

Свята святога Лаўрэна, апекуна Вушачы, нашай парафіі. У касцёл не змог пайсці, праваляўся з галавой. Хадзілі Валя з Дамінікай. Званіў Глеб. Едзе ў Прагу на месяц на нейкую вучобу. Заўтра ў Росіцу.

*11 жніўня, пятніца*

*Росіца.* Прэзэнтацыя «Рымскага дыпціха». Начлег у хаце маладзіцы нейкай гасціннай. Ноччу выйшаў у двор па яблыках. Зябка. А на бетонным слупе буслянка. Пяцёра. Бацька, маці і тройня. Праз усю ноч ходзікі гаварылі. «Не скажа...»[2]

*12 жніўня, субота*

«Каб не забыцца...»[3] Ад'езд у Вушачу. Багдан Супак расказваў пра першы прыход Саветаў на Львоўшчыну. Выйшлі сустракаць. Арку ўмаялі кветкамі. Украінскі сцяг. Уязджаюць танкі. З танка выходзіць вызваліцель. Зрывае сцяг, выцірае боты й топча сцяг. Наперадзе самы бедны (бо казалі ж прапагандысты, што Саветы з беднякоў), у шчыблетах, камізэлька, загарэк (гадзіннік) з ланцужком. Вызваліцель адразу: расстраляць — кулак. Бо не босы ды яшчэ з загаркам. Ледзьве ўсім сялом угаварылі, што гэта самы бедны, у яго нават няма дзе жыць.

*13 жніўня, нядзеля*

*Задарожжа.* Візітацыя біскупа Бліна. Фэст. Завальнюк прыехаў з Японіі. Быццам бы выйдзе мой зборнік па-японску й на пачатку года прэзэнтацыя ў Нагасакі. Па лініі касцёла японскага.

---

[1] Гл.: Але... (9.08.06, Ушачы) // Ксты. Выд. 2. С. 388.
[2] Гл.: Не скажа... (11.08.06, Росіца) // Халодная памяць вады. С. 237.
[3] Гл.: Каб не забыцца... (12.08.06, Росіца) // Тамсама. С. 335.

*14 жніўня, панядзелак*

Ачухваюся ад паездзін. Без клопату ні хвіліны. Рысік залез на гарышчы пад дах — і не можа вылезці. Ратавала Дамініка. З раніцы прыйшлі радкі: «Не чуваць…», «Падзяка»[1].

*15 жніўня, аўторак*

Прыехалі мастакі на Быкаўскі плэнэр. У Бычкі. Хату-музей пабялілі, пафарбавалі. А непадалёк толькі пячышча ад хаты. Вёска знікае.

* ! Быкава, як неба, хапала на ўсіх.

*

Быкаў, як неба —
Яго хапала на ўсіх,
Акрамя сябе.

*16 жніўня, серада*

Мастакі малявалі сядзібу, Вушачу. Цікавы мастак Яўген Шатохін.

*17 жніўня, чацвер*

Чытаў зборнік Леры Сом[2]. Цікава, у прадмове Ул. Арлоў і пра сябе. Наогул, мяне раздражняе сінтэтычная мова й рыфмы ў санетах, якія баўтаюцца, быццам дрэнна прышытыя гузікі. Шыкоўна выдадзены альбом з плэнэру да 75-годдзя Караткевіча. Паўтараюць тое, пра што Эўропа забылася. Каб свежы каркаломны вобраз, каб жывое слова. Суцэльная сінтэтыка. Ды яшчэ малюнкі брудныя, […], Вішнёва. Калі няма чым здзіўляць, ніякая пераймальніцкае выпендрыванне не паможа. Гэта тое самае, як голую прафесіяналку забаўляць размовамі. Сумна. Як не задаць кампутару праграму — і ён лепшыя вершы напіша. Аж хочацца ўзгадаць вушацкае: не страш бабу х.ем, яна яго бачыла. Адзе Райчонак, арганізатарцы й фундатарцы плэнэраў, падпісаў кнігу «Ксты»:

*Павінна…*

Павінна маці быць у добрых спраў.
Бо вынік пачынаецца з пялёнак.
Уміг забудзецца, хто горла драў,
Хто гроб аберуч пад сябе, хто краў.
Нашчадкі будуць паўтараць:
— Рай-чо-нак!

[1] Гл.: Паволі…; Хрост (14.08.06, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 276; 104.
[2] Сом Лера (Алена Уладзіміраўна; н. 1966), беларуская паэтэса, бард; адна з кіраўнікоў полацкага літаратурнага аб'яднання «Наддзьвіньне» (2001–2005).

Змяняе ноч паўдзён, уладу ўлада.
Ды ясна свеціцца сузор'е Ада…

*18 жніўня, пятніца*

На базар з Дамінікай. Патроху саветызацыя выходзіць з мазгоў людзей. Купляем туфелькі Дамініцы. 35 тысяч, з паўсотні дае 15 і дадае тысячу на марозіва. Прыемная дэталь павагі да пакупніка. Няма савецкага: «А ты будзеш купляць?» [«Ахвярынка»[1].] Перапісаў верш, які напісаў 30 травеня: «Ворагі»[2].

*19 жніўня, субота*

Прыязджалі мастакі. Дазваніўся да Алеся. Галава як цэбар. Пачынае правальвацца падлога на кухні. Усё дажывае, патрабуе ўвагі. […].

*20 жніўня, нядзеля*

Страшэнна дрэнна. Памагае Пятро. Каб не звар'яцець, пішу: «Зазімак»[3].

«Пацеркі: Радасць ранішняга забыцця [акраверш (пРыСвячэнне) Р. Сімаковай[4]; у дзённіку].

*21 жніўня, панядзелак*

Закрыццё плэнэра. Прыехаў Лявон Баршчэўскі й Уладзімер Сіўчыкаў. Вясёлае, шчырае застолле. Яўген Шатохін не даў нікому зняць бел-чырвона-белы ветрык сподзеву над Бычкамі. Плэнэр хоць без бабковых і вішнёвых. Толькі мастакі. «Чуваць…»[5]

*22 жніўня, аўторак*

Прыехаў Шатохін. У яго ўзнікла задума сэрыі «Аўтограф». Цікавая задума. Прыходзіла Сняжана. Распавядала пра жахі беларускай школы (беларускай у сэнсе геаграфічным). Дзяцей меней і меней. Сельскія школкі ў аварыйнам стане. Столь можа абрушыцца. Зімой замярзае чарніла. Дзеці й настаўнікі апранутыя. Адказваюць каля печкі, хоць трохі цёпла. А школам даводзяць план, каб зараблялі грошы на патрэбу школы. […].

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: Знелюбелая жонка — халодная печ… (18.08.06, Ушачы) // Ксты. Выд. 3. С. 472.

[2] Гл.: Ворагі (2-гі вар.; 30.05–18.08.06, Ушачы) // Ксты. Выд. 2. С. 233.

[3] Гл.: Зазімак (20.08.06, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 320.

[4] Сімакова Рэгіна Іосіфаўна (н. 1962), грамадская дзяячка (г. Брэст).

[5] Гл.: Чуваць… (21.08.06, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 337.

*23 жніўня, серада*

Задажджыла сур'ёзна. Прыходзіла Валянціна Уладзімераўна. Нарэшце ёй правялі тэлефон. Дапамагло, што ў «Комсомолке» Глеб напісаў пра гэта. Яна Глеба называе Лебядзенка. Цікава, што ў маладыя гады Васіль таксама кратоў лавіў, як і я. Заробкі былі аднолькавыя. Адразу пасля вайны мама іхняя (дзявочае прозвішча Скрабатун) нацянькі пайшла праз мяжу да брата ў Завулак. Там жылі добра. Бо партызаны не абіралі. Прынесла мех мукі і кумпяк авячыны. Памежнікі маглі адабраць і заарыштаваць[1]. Нанач пачытаў Зянонавы «Беларуска-расійская вайна» і «Прамаскоўскі рэжым, альбо Як адбываецца разбурэньне Беларусі». Шалёна адданы ідэі Адраджэння Зянон развярэдзіў маю душу. Каб трохі адысці, пачытаў пра жыццёвы шлях Су Дун-по. Імперыі аднолькавыя ў сваёй ненажэрнасці. І ў XI стагоддзі, як цяпер. Чым не 37-мы год: «Злачынствы Су Шы (Су Дун-по) болей чымся непапраўныя, нават дзесяці тысяч смярцей не хопіць яму, каб загладзіць віну перад Вамі, о дзяржаўца!»

*24 жніўня, чацвер*

Хадзіў па ўстановах аплаціць ахову й святло. На базар. У перапынках дажджу. Узяўся чытаць С. Шушкевіча «Неокоммунизм в Беларуси». Яшчэ болей суму пад шэпт і пагрозу дажджу. Па Вушачы йдзеш, не чуваць нашай мовы. Зрэдку ў дземянцееўку[2] раённага разліву само ўварвецца нашае, крывіцкае слова. Хіба інтанацыя наша. «Толькі ён…»[3] Застаўся адзін дзень у Вушачы. Зноў у тлум. Зноў у холад наўколля. На сон напісалася: «Як жар…»[4]

25 жніўня, пятніца

Прыязджаў Вадзім Баршчэўскі[5]. Доўга гутарылі перад гэтым, са Стакгольма званіў туркменскі дэсідэнт. З 93-га года ў Швэцыі. Распавёў, як сустракаўся з Васілём у Стакгольме. Папрасіў яго, каб напісаў у шапранаўскую кнігу ўспамін. Трошкі пад вечар памаркоціўся разам ў камінам. «Няўжо…»[6]

---

[1] Гл: Дзённікі і запісы. Вып. 9. С. 170.

[2] Малапісьменная трасянка, якой вызначаўся некалі 1-шы сакратар ЦК КПБ (1979–1989) М. Дземянцей (1930–2018), займела назву дземянцееўкі.

[3] Гл.: Толькі ён… (24.08.06, Ушачы) // Ксты. Выд. 2. С. 392. Па першаму радку гл.: «Кожны існы…» // Халодная памяць вады. С. 196.

[4] Гл.: Як жар… (24.08.06, Ушачы) // Ксты. Выд. 2. С. 283.

[5] Баршчэўскі Вадзім Пятровіч (н. 1950), віцебскі журналіст, грамадскі і партыйны дзеяч. Брат Л. Баршчэўскага.

[6] Гл.: Няўжо… (25.08.06, Ушачы) // Ксты. Выд. 2. С. 376.

*26 жніўня, субота*

Прыехаў Генадзь Быкаў з Пятром, Іванавым сынам, а Рысік знік. З 10-ці да 12-ці чакалі. Пакінулі Валю чакаць рыжага блядуна, а мы з Дамінічкай прыехалі.

*27 жніўня, нядзеля*

Не магу нікога знайсці прывезці Рысіка, які апоўдні з'явіўся, і Валю. Білетаў на аўтобус у Вушачы няма. Пазваніў Тарасу, а ў яго вялікае гора — знік унук[1] 26 ліпеня. Шукае крымінальны вышук. Варыянт 37-га года пачынаецца па-калхознаму. Божа, зірні на Беларусь. Даруй нам грахі нашыя!

*28 жніўня, панядзелак*

Сёння Генадзю Бураўкіну–70. Калі паступалі ў універсітэт, не думалі, што хопіць нас на такі ўзрост. Дзякуй Богу! Напісаў сябру: «Вырай зорны»[2]. Напісаў на самым пачатку дня. Удзень сустрэча па клопату «Кстоў». Дзякуй айцу Уладыславу і Але! Прыйшло ў галаву зрабіць трыпціх (спачатку хацеў дыпціх) айцу Уладыславу.

*29 жніўня, аўторак*

У Латвіі ўпершыню за ўсю гісторыю Завальнюк правіў імшу па-беларуску. Потым перайшоў на латышскую мову. Як заўсёды пакарыў усіх. Адзін робіць для Беларусі болей, чым цэлыя інстытуты. Там жа адбыўся й вясёлы казус. Выступае хор. Усе ў захапленні. Уперадзі сядзіць дзядзька і захоплена нешта кажа. Кіраўніца хору крывіцца, робіць нейкія жэсты. І раптам гэты дзядзька кажа: «Между прочим, я работаю бискупом…» Ва ўсіх і сківіцы адпалі. Напісаў для трыпціха Уладыславу айцу: «Нябёсы веры»[3].

*30 жніўня, серада*

Разбіраюся ў сваіх завалах. І безвынікова. Жыву, як у катоўні нейкай.

*31 жніўня, чацвер*

Пазваніў Генадзь. Ніл у «Дзеяслове» не ведае, як з сябе зрабіць фігуру. Як з га.на кулю. Лепей бы ён напісаў, […], як у сталым узросце рваўся ў шэрагі КПСС. […].

---

[1] Тарас Антон Вітальевіч, беларускі журналіст, паэт.

[2] Гл.: Вырай зорны ( 28.08.06) // Anima. С. 264.

[3] Гл.: Трыпціх Чырвонага касцёла: ІІІ. Нябёсы веры (29.08.06) // Ксты. Выд. 2. С. 17.

*1 верасня, пятніца*

Дамінічка ў апошні клас пайшла. […]. Як вучыць, за што? […]. Але напісаўся верш: «28 чэрвеня 2004 года»[1]. Трэба дадаць у новае выданне «Кстоў». «!: Гипсовый памятник Нил…» [у дзённіку].

*2 верасня, субота*

Да Генадзя на лецішча. Добра пагаманіла невялікая кампанія. Сапраўднае дагледжанае лецішча. Нават дэкаратыўны трус пасвіцца. Кароткавухі. І сям'я як сям'я. Толькі ў мяне ўсё не так, як у людзей. Значыць, так заслужыў. Толькі куды ўцячы ад роспачы?

*3 верасня, нядзеля*

Міхась Скобла — шчырая душа перадаў мне лекі ад Абламейкі з Прагі і Паўла Шарамета[2] з Масквы. Дзякуй усім! Хай Бог беражэ іх. «Не дужа вясёлае…»[3]

*4 верасня, панядзелак*

Перачытаў «Гуканне паэзіі Усходу», «Ксты». Занёс Але. Ксёндз напісаў цудоўнейшую малітву. Паэт ён жывы й сапраўдны.

*5 верасня, аўторак*

Сур'ёзна працаваць не магу. Рыюся ў рукапісах. Завалы.

*6 верасня, серада*

Галаўны боль. Роспач. У старой «Звяздзе» пачытаў справу Клімковіча. Які жахлівы час. Леанід Маракоў[4] ні гуку. Яму напісаў невялікае слова. Цікава, як адзін з катаў КДБ пасля ўзначальваў Таварыства рыбакоў і паляўнічых.

*7 верасня, чацвер*

Н778кляеў пытаўся які-небудзь кароткі тост на кубак. Напісалася: «Каб настрой твой не зачах, Пі да зорак у вачах». Калі быў у Генадзя. У «Полымі» друкуюцца Дранько і Сіпачок [Сіпакоў].

---

[1] Гл.: 28 чэрвеня 2004 года (1.09.06) // Ксты. Выд. 2. С. 14.

[2] Шарамет Павел Рыгоравіч (1971–2016, Кіеў; забіты), беларускі, пазней расійскі і ўкраінскі (з 2012) журналіст. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра (1995).

[3] Гл.: Не дужа вясёлае… (3 09.06) // Халодная памяць вады. С. 349.

[4] Маракоў Леанід Уладзіміравіч (1958–2016), беларускі гісторык, журналіст, пісьменнік. Даследчык рэпрэсій савецкіх уладаў на Беларусі. Пляменнік рэпрэсаванага беларускага пісьменніка В. Маракова. Лаўрэат прэміі імя Ф. Багушэвіча (2006).

*8 верасня, пятніца*

Дапрацоўваем з Алай (яна галоўная) «Ксты». Хоць гэта трохі адцягвае ад роспачы.

*9 верасня, субота*

Пад вечар вывалакся ў «Коўню». Адзін Генадзь працуе. Настрою ніякага і ў яго. Дубатоўка з’ехаў у Мексіку да сына. Заказаў няма. [...]. Як гэта прывыкнуць жыць не думаючы пра жабрацтва і сваю непатрэбнасць? У каго пазычыць галаву хоць на кароткі час? Безвыходнасць цісне. Зірнеш на Дамініку, што яе чакае? А ўсё па мне б’е.

*10 верасня, нядзеля*

З Пётрам да Генадзя Асташонка да яго на лецішча ў вёску Пелбку. Сусед ягоны вярнуў мяне ў маладыя дні. Два кані, каровы, шэсць коз, два сабакі. Чатыры пеўні, як не на кожную курку персанальны муж. Было курэй болей, дык з лесу налятае каршун. Гэты сусед, прыродны гараджанін, ужо 15 год жыве ў вёсцы і трымае гаспадарку. Рэліктавы чалавек, як ні крыўдна. Прыехаў дамоў, мае ў тэлевізара. Каб што прыбралі, каб што. Дамініка як на пенсіі.

*11 верасня, панядзелак*

З раніцы з Алай над «Кстамі». Думаю днямі ў Вушачу. Пакуль пагода. Вечарам званіў Алесь. Ён прапанаваў запісаць дыск вершаў.

*12 верасня, аўторак*

За горад. У электрычцы. Размовы пра флакон гарэлкі, пра тое, як абдурыць суседа. [...]. Каб беларускае слова. Суцэльная дземянцееўка. Электарат [Лукашэнкі]. Пазваніла Валерыя Кустава. Ёй спадабаўся надпіс на «Рунах Перуновых».

*13 верасня, серада*

Патроху дaперакладаў японцаў і кітайцаў для магчымай кніжачкі. Прыйшлі радкі: «Каб хмурынка»[1]. Яшчэ багата дадаў у «Ксты» на выбар Мацуру, бо новая вёрстка. Званіў Генадзь Бураўкін. Ніл канчаткова ашалеў. Даводзіць Пашкевіча, каб Саюз пісьменнікаў (у якога ні адраса, ні проста грошай) паставілі камень у полі пад Лагойскам, дзе напісаць, што тут нарадзіўся найвялікшы паэт усіх часін і народаў Гілевіч. Ён ведае мейсца, дзе нарадзіла яго маці на магіле чырвонаармейца, мяноўна чырвонаармейца. Пры жывым пасмяротны камень. [...]. «У старэчым самазабыцці...» [у дзённіку]. А мы хочам нейкай кансалідацыі.

[1] Гл.: Ахвярынкі: Каб хмурынка (13.09.06) // Халодная памяць вады. С. 470.

*14 верасня, чацвер*

Пракачаўся з галавой. Паездку ў Вушачу адклаў на панядзелак. Каб зусім не паехала страха, як у Гілевіча, перакладаю японцаў. Вечная паэзія гоіць душу й думкі дадому гоніць з далёкай пашы.

*15 верасня, пятніца*

Пісаў віншаванне:

*Застанецца…*

Ласка ўрэшце пераможа зло.
Анямее зайздрасць назаўсёды.
Радасці вясновае святло
Ахіне аблокамі лагоды.

Цень ад крыл анёлавых падзе
Яблыні на ранішнія скроні.
Будзе сонца сведкай на судзе,
Елка вышле скаргу на сутонне.
Колас долу ціхаму паклон
Адаб'е за кожнае світанне.
Холад возьме марнату ў палон.
Ад парыўнай жарсці час адстане.
Юным застанецца трапятанне…

Жыць пачынаеш ва ўспамінах і пажаданнях, напамінах, віншаваннях. Гэта перад канцом часцей і часцей ўзгадваецца пачатак. І здаецца ён самым светлым, самым жаданым. Бо незваротны.

*16 верасня, субота*

60 Сяргею Законнікаву. Павіншаваў з самай раніцы. Шчыры й задужа трапятлівы да мітуслівасці: хай Бог дае яму святла і радасці! Дадаць у «Ксты» напісалася: «Апора»[1]. Праветрываў галаву ў парку, і ў яе заляцелі радкі: «Клопат народнага заступніка: Любімаму сабе самому…» [у дзённіку]. Пачытаў Алесю, ён кажа: зацягнута. Зрабіў карацей:

*Просьба сябялюбца*

Не трэба помнік ставіць дзесьці,
Каб клопат і ў труне не збыць.

[1] Гл.: Апора (16.09.06) // Ксты. Выд. 2. С. 234. Верш прысвечаны П. Васючэнку. *Васючэнка* Пётр Васільевіч (1959–2019), беларускі літаратуразнавец, крытык, пісьменнік, драматург. Кандыдат філалагічных навук (1983). З 1997 г. выкладаў у Мінскім лінгвістычным універсітэце.

На помнік можа птушка сесці
І адпаведнае зрабіць…

*17 верасня, нядзеля*

Спакой знаходжу толькі ў паэзіі Усходу. А так галава разрываецца, баюся за вынікі. Калі — дык адразу. Не дай, Госпад, бязмозглым цягнуць дні свае. Для «Кстоў» апошні дадатак: «Mater artium necessitas»[1]. Як сцюдзёна робіцца ў жыцці! А дзе сагрэцца? Ці не *там*?

*18 верасня, панядзелак*

Дзень пачаўся традыцыйна нецікава. Галава як цэбар, нібыта я цэбар выпіў гарэлкі. Ледзь падняў Пётра. Патроху збіраюся. Апошнюю праўку ў «Кстах». Мацуру верш спадабаўся. Я рады. Ён вялікі мастак. З ягоных рук кнігі выходзяць як выдыхнутыя. Толькі калі нешта раблю, забываюся на ўсё беспрасвецце. Разумею, чаму п'юць, сам піў. Цяпер мне гарэлку замяняюць вершы. Толькі галава ўжо не тая, што ў маладыя гады. Раней вытрымлівала літры, цяпер вытрымлівае радкі. Адчуваю, што яшчэ мог бы нешта зрабіць, ды нікому гэта не трэба. Апошні клопат — Вушацкі словазбор. Ды трэба спакой, час і магчымасць засяродзіцца. А нічога гэтага няма. Асабліва спакою.

*19 верасня, аўторак*

Па клопату «Кстоў». Узяў анталогіі паэзіі Усходу. Трэба даперакласці для магчымай кніжкі. Цікава расказала Ала. Быў такі Парэцкі[2], лацініст. У пед'інстытуце Алін айчым выкладаў гісторыю і слухаў «Голос Америки». На адной з лекцый сказаў, што адкрыццё Другога фронту мела значэнне для перамогі. Парэцкі данёс, і айчыма выгналі з інстытута. Гэта ў 1947 годзе. Потым Парэцкі быў у Інстытуце замежных моваў. Пісаў даносы. А дырэктар інстытута Шматаў[3] падшываў даносы ў асабістую справу Парэцкага.

---

[1] Гл.: Mater artium necessitas (17.09.06) // Ксты. Выд. 2. С. 395. Верш прысвечаны Г. Мацуру.

[2] Парэцкі Якаў Ільіч (1913–1992), беларускі літаратуразнавец, перакладчык, мовазнавец. Выкладчык Мінскага педагагічнага інстытута замежных моў.

[3] Памылкова; Шмыгаў Фрол Парфіравіч (1913–1993), беларускі гісторык. Кандыдат гістарычных навук. Рэктар Інстытута замежных моў (1961–1970).

*20 верасня, серада*

Перакладаю класічную паэзію Карэі. Вяршыня падзення:

Чон Монджу[1]

*Песня пра адданае сэрца*

Я ведаю, цела тленнае гіне,
Сто разоў вылечанае памрэ
І нават косткі стануць пыльным прахам.
Душа ці застанецца? — мне ўсё роўна.
Не згіне аніколі часцінка сэрца,
Навекі адданага гасудару.

[...].

*21 верасня, чацвер*

Выйшаў у двор. Прывезлі бульбу з Гарадзеншчыны. Са свайго падвор'я з Жодзішкаў. Гаспадыня сказала, што дзеці ў школе вучылі мае вершы й ім падабаліся. Вось яно — народнае прызнанне. Для Ніла хапіла б на колькі артыкулаў і старонак выдуманых успамінаў. Жарты жартамі. А калі схопіць галаву невыносным болем, хочацца падацца немаведама куды. Каб не звар'яцець, перакладаю, ці, можа, дакладней будзе — раблю *пераспевы,* не ўжываць жа пластмасавае слова *перастварэнне,* Ван Вэя. Спакой душа шукае ў паэзіі Усходу.

*22 верасня, пятніца*

Зноў гэтыя магнітныя хваляванні. Даб'юць. Прыходзіў зямляк Васіль Пятроўскі. Таямніча кручаны. Падпісаў яму «Ксты». Дарэчы, у «Ксты» для вёрсткі трэба караценькі верш. «Туды, ...»[2] Прадыктаваў Але ды зноў засеў за перапевы паэзіі Усходу.

*23 верасня, субота*

З раніцы зусім блага. Але нешта раблю, каб забыцца [...]. [...] Як мне не думаць, што чакае? Трэба жыць, як Бог дае. А душа не на месцы. Знайшоў незакончаны верш. Здаецца, знайшоў канец. «Мой род»[3].

*24 верасня, нядзеля*

Дарагая нататніца! Пацярпі маю галыбызду. Пачну цябе з перапеву раманса, які знайшоў у накідах 97-га года таго стагоддзя: «Сустрэў я Вас, і

---

[1] Чон Монджу (1337–1392), карэйскі паэт.
[2] Гл.: «Туды...» (22.09.06) // Ксты. Выд. 2. С. 399.
[3] Гл.: Мой род (23.09.06) // Халодная памяць вады. С. 115.

ўсё былое…»[1] [у дзённіку]. Рабіў перапевы японскай паэзіі для магчымай кнігі. То абміраў, то ажываў. Як гэта прыйсці ў сябе? Здаецца, і недалёка адыходзіўся.

*25 верасня, панядзелак*

Такія-сякія зборы. Патроху перапяваю кітайцаў. Нейкі шызік даслаў ліст, дзе палівае гразёю Генадзя Бураўкіна й Законнікава. Генадзю толькі гэтага не хапала.

*26 верасня, аўторак*

*Вушача!* Прапалілі камін. Хапіла й дыму, і цяпла. Увесь дол у яблыках. Як апалыя планеты з Сусвету саду.

*27 верасня, серада*

Андрэй (Палуда) і Сяргей (Шапран) адрамантавалі падлогу. А так яшчэ крышку — і рухнула б усё. На магілы мамы, Пятра і Марыі Рыгораўны. Магільнікі перанаселеныя. Мне мейсца ёсць каля мамы.

*28 верасня, чацвер*

У *Бычкі*. У музеі Васіля нічога не змянілася. Так і стаіць не даведзены да ладу. Андрэй заўважыў, што ў кнізе водгукў вырвана шмат старонак. Бо не пранумараваныя. А заўважыў па тым, што няма нашых леташніх запісаў. Каму гэта трэба? Па дарозе задужа пакінутых і закінутых хат. Сумна й вусцішна. Магільнік зарослы дзікай травой. Андрэй павесяліў, распавёў, што ў іх у Бялынічах міліцыянер здаў свайго бацьку ў працвярэзнік. Гэта крута, па-савецку.

*29 верасня, пятніца*

Ледзьве ўстаў. Званю Пётру, што ўсё дрыжыць, толькі не дрыжыць, што патрэбна. […].

*30 верасня, субота*

Апошні дзень месяца. Збіраў дровы. Паліў камін. Званіла Ірына Міхайлаўна Быкава. Трошкі рабіў для «Гукання паэзіі Усходу».

---

[1] Раманс на словы Ф. Цютчаў «Я встретил Вас…». *Цютчаў* Фёдар Іванавіч (1803–1873), рускі паэт.

*1 кастрычніка, нядзеля*

Як вараны цэлы дзень. Збіраў дровы. Усё, як у тумане. У «Ксты» дапісаў: «Уніяцкія абразы»[1].

*2 кастрычніка, панядзелак*

Яшчэ ў «Ксты». Хоць галава чыгунная: «Каляхатняе»[2].

*3 кастрычніка, аўторак*

Прыехалі Джон Кунстадтэр[3], Алесь Камоцкі, мастак Сяргей. З'ездзілі хоць зцёмным у Бычкі. Пастаялі ў селішчанскім касцёле. Вечарам Джон паказаў свае здымкі Беларусі. Што значыць незаангажаванасць! Усё гаворыць, жыве, спявае. Джон выдатна гаворыць па-беларуску.

*4 кастрычніка, серада*

Да селішчанскага касцёла. Госці паехалі на Воршу.

*5 кастрычніка, чацвер*

Узяў білет на Менск. Даходжу з галавой. Як утрымацца?

*6 кастрычніка, пятніца*

Прыехалі з польскага каталіцкага інфармацыйнага агенцтва. У касцёл наш. Потым пасумавалі ля велічных руінаў селішчанскага касцёла.

*7 кастрычніка, субота*

Такі-сякі парадак у хаце рабілі. Пазваніў Шапран, прыедуць, каб пераначаваць з Андрэем, а потым у Віцебск з Валянцінай Уладзіміраўнай у надзеі атрымаць лісты Васіля з фронту. Здаў білет.

*8 кастрычніка, нядзеля*

Крыху задажджыла, але ўсё роўна хораша. Нікуды не хочацца ехаць. Суседскі сабака набрахаў мне радкі: «Нябачны…»[4]

*9 кастрычніка, панядзелак*

Позна, але прыехалі Сяргей і Андрэй. Заўтра на Менск.

---

[1] Гл.: Уніяцкія абразы (1.10.06, Ушачы» // Ксты. Выд. 2. С. 183. Верш прысвечаны С. Гаеку. *Гаек* Сяргей (н. 1949, Польшча), архімандрыт, апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі. Доктар багаслоўя.

[2] Гл.: Каляхатняе (2.10.06, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 352.

[3] Кундстадтэр Джон, амерыканскі дыпламат (нам. пасла ЗША ў РБ у 2000–2001) у адстаўцы (з 2005) і прафесійны фатограф. Супрацоўнічае з Беларускім добраахвотным таварыствам аховы помнікаў гісторыі і культуры.

[4] Гл.: Нябачны… (8.10.06, Ушачы) // Ксты. Выд. 2. С. 272.

*10 кастрычніка, аўторак*

Хлопцы паехалі ў Віцебск. Чакаў да вечара. Позна, зцёмным на Менск.

*11 кастрычніка, серада*

А першай гадзіне начы ў Менску. Прыходзіў Алесь. Яму трэба верш для песні па-расійску. Можа, падыдзе, што крамзоліў з хворай галавой: «Не терпит спорт измены…» [у дзённіку].

*12 кастрычніка, чацвер*

Нарэшце скончылася мітрэнга з Нобелеўскай прэміяй. Далі турку[1]. Хоць мяне пакінуць у спакоі. […]. Беларусы паказалі сваю дружнасць есці адзін аднога. Лішні раз. Адразу ведаў, што нічога не будзе. Але цікава было пераканацца ў тым, што ведаў.

*13 кастрычніка, пятніца*

Аднёс Але фільм «Вяртанне ў першы снег». Прывёз з Вушачы. Дзякуй ксяндзу за ўсё!

*14 кастрычніка, субота*

Перакладаю паэзію Усходу. То абміраю, то ажываю. Галава адсутная, і я адпаведна з ёй. Дзве пані ўпадабалі мяне: старасць і немач. Ад іх уцячы цяжка. Як і ад сябе. З раніцы круціліся ў галаве радкі: «Збудзь…»[2] Рабіў нешта для баптыстаў:

* * *

Калі сціхае ўсё ў прыродзе,
Ўцякаючы ад марнаты,
На небе ў згодзе і лагодзе
Ўзыходзіць месяц малады.

І зоркі яснымі вачамі
Глядзяць, як гасне ўсё наўкол.
Як страх штодзённасці ў адчаі
Імкліва пакідае дол.

Як незнаёмая трывога
Зайсці баіцца ў хату сноў.
І голас сябра незямнога
Душу ў нябёсы кліча зноў.

---

[1] Памук Архан Ферыт (н. 1952), турэцкі пісьменнік.
[2] Гл.: Збудзь… (14.10.06) // Ксты. Выд. 2. С. 468.

*15 кастрычніка, нядзеля*

Зноў для баптыстаў: «Да святой крыніцы чысціні…» [у дзённіку].

*16 кастрычніка, панядзелак*

Пазваніў Генадзь Бураўкін. Вясёлыя гісторыі. […]. Сынок І-ча саўладальнік крамы алмазаў у Празе. Нічога сабе апазіцыя. Пазваніў Скобла. У Празе выйшаў мой зборнік[1] з прамовай Вацлава Гавэла. У Скоблы сыну месяц. Вячка.

*17 кастрычніка, аўторак*

Званок з Прагі. Званіла Сокалава. Зборнік называецца «Жыць!». Вялікі паклон спадарыне! Гэта рупнасцю Францішкі Сокалавай выйшаў зборнік.

*18 кастрычніка, серада*

На «Свабоду». Далі некалькі асобнікаў святочна выдадзенага зборніка «Žít!». Уступ Гавэла. Слова Міхася Скоблы. Нейкай няведамай сілы дало мне ўсё гэта. Паклон усім шчырунам! Перапісваю начыста вершы для «Гукання паэзіі Усходу». Адпачываю душой. Паэзія вечная.

*19 кастрычніка, чацвер*

З раніцы прасіліся на паперу радкі: «Вялік расці!: Аднайменнік вялікага князя…» [В. Скоблу; у дзённіку].

*20 кастрычніка, пятніца*

У касцёл. Аддаў Але «Гуканне паэзіі Усходу». Залаты Міхась Скобла тэлефанаваў, вырашылі пасля дыскусій, каб я адчыняў з'езд. Вядома ж, прасіўся Ніл. Дзякуй за давер! Не змагу фізічна. […].

*21 кастрычніка, субота*

Канчаткова адмовіўся адчыняць з'езд. Хай Ніл галёкае. Мне б утрымацца фізічна. […]. «Шэпт»[2]. [«Ахвярынка»[3].] Прасілі з «Песняроў» дапісаць верш, каб пад песню клаўся. Нешта рабіў:

*Балючы крык*

Яно скупое, святло чужое,
А дома свеціць і слова шчырае.

---

[1] Baradulin R. Žít! Praha: Vydala Národni knihovna ČR a Slovanská knihovna, 2006. Барадулін Р. Жыць! Прага, 2006. На чэшскай і беларускай мовах.

[2] Гл.: Шэпт (N.;18.10.06) // Халодная памяць вады. С. 286.

[3] Гл.: Ахвярынкі: Грошы і камень куюць… (21.10.06) // Ксты. Выд. 3. С. 477.

Ішлі з выгнання маці і сын
Шляхамі халодных выраяў.

Чакалі іх недаснёныя сны.
Святлелі дасвецці шэрыя.
Начавалі пад небам шэрым яны,
Тугой па Радзіме вячэралі.

За імі следам агонь ступаў,
Таксама бяздомны і стомлены.
І гнеў ягоны да часу спаў,
Самотаю ашаломлены.

І крок глушэў, спатыкаўся зрок,
І нецярпенне цярпліва дыхала.
Каб з імі пагрэўся азяблы змрок,
Расклалі цяпельца ціхае.

... Яны сядзелі каля агню,
Кармілі галодны агонь ламаччам.
І сын раптоўна схапіў галаўню
І торкнуў гарачую ў вочы матчыны.

Агонь ні на што не зважаў, балюючы,
Ды стала светла аслеплай начы
Ад крыку матчынага балючага:
— Сыночак, рукі не апячы![1]

«Настрой: Раптоўна рухнула...» [у дзённіку].

*22 кастрычніка, нядзеля*

Якое адкрыццё з’езда! Падняцца з ложка не мог. Божа, дай памерці мне Барадуліным, а не гнілой калодаю ці помакам. [«Ахвярынкі»[2]], «Адкрыццё»[3]. Каб не паехала страха ад галаўнога болю, пішу. І яшчэ болей заганяю сябе. Ды яшчэ дапамагае клопат, як жыць. Я жабрак, ці, дакладней, савецкі пенсіянер. «Сцежка чакання»[4].

---

[1] Дзве апошнія страфы гл.: Балючы крык (18.10.06) // Anima. С. 182.
[2] Гл.: Ахвярынкі: Калі дазваляў Усявышні... (22.10.06) // Халодная памяць вады. С. 452. Гл.: Ахвярынкі: Льга ашукаць любога... (22.10.06) // Ксты. Выд. 3. С. 501. Варыянт гл.: Ахвярынкі: Льга ашукаць і сябе самога... (29.09.08) // Халодная памяць вады. С. 452.
[3] Гл.: Адкрыццё (22.10.06) // Тамсама. С. 302.
[4] Гл.: «Па жыцці...» (22.10.06) // Тамсама. С. 60.

*23 кастрычніка, панядзелак*

Узяўся перадрукаваў трохі вершаў. Знайшоў у запісах: «Мароз цвікі забівае без малатка»[1].

*24 кастрычніка, аўторак*

Цікавы розгалас. У ашчаднай касе маладзенькая і гожая дзяўчынка: «Прэмію далі турку. Тут палітыка». А Шапран мне цікавую навіну. Фядута (каб наладзіць стасункі) згодны выдаць маю кнігу прозы. Згодны, каб я уключыў у яе Вушацкі словазбор.

*25 кастрычніка, серада*

Да Сарокіна. На выставу. Да пана Вішнеўскага на пагасціны. Экспромт па дарозе:

Графы і графікі,
Рыцары графікі,
Лініі валадары.
Славу палоніце,
Ломячы графікі,
Век ашукаўшы стары.
Новае тысячагоддзе
З вамі ў дамоўленай згодзе.
Дык не драміце, майстры.

Дарэчы, на выставе працы пана самыя панавітыя й таленавітыя. Побач Васіль Быкаў і Ян Павел II. Як з адной вёскі глыбінна зямныя і касмічна недасяжныя. Непаўторнасць зямнога й нябеснага. Вяршыні духу, яны роднасныя ва ўсе вякі.

*26 кастрычніка, чацвер*

Ляжу і ўстаю, каб сесці за машынку. Для Пятровіча ў «Дзеяслоў». Прыйшло: «Бадай што...»[2]

*27 кастрычніка, пятніца*

Сяргей Шапран прапанаваў назву магчымай кнігі «На таку майго веку». Прапанаваў даць нешта з дзённікаў. Трэба падумаць.

[1] Гл.: Ясачкі: Мароз цвікі забівае без малатка (8.03.96) // Збор твораў. Т. 3. С. 327. 2-гі вар. гл.: Ахвярынкі: Мароз цвікі забівае без малатка (23.10.06) // Халодная памяць вады. С. 466.
[2] Гл.: Бадай што... (21–26.10.06) // Халодная памяць вады. С. 44.

*28 кастрычніка, субота*

Перабіраю вершы для «Дзеяслова». Падправіў: «На беразе ракі забыцця…», «Сапраўды»[1].

*29 кастрычніка, нядзеля*

Як у лесе, заблудзіўся ў сваіх вершах. Усё здаецца, што сапраўдныя яшчэ напішу. Тым і жыву.

*30 кастрычніка, панядзелак*

Пішу, як п'яны.

*Адпаведны настрой*

Цішыня, як падвялае сена,
растрэсена.
Восень хмурыць даверліва
бровы густыя.
На яшчэ неадпалымнелай
бярэзіне
Галавешка вароны
картава стыне.

*31 кастрычніка, аўторак*

Званіла з Прагі Вольга Караткевіч. Між іншым, пыталася, чаму ў Беларусі гэтак багата праклёнаў. Гэта ад паганства, што ў нас дасюль жыве. Праклёны — гэта зброя беларусаў, гэта й войска нацыянальнае. Дарэчы, у жыдоў таксама багата праклёнаў. З нацыянальным адценнем. Але ў нас і пажаданняў, зычэнняў, відаць, яшчэ болей, чымся праклёнаў. Дужа пераплеценыя між сабой праклёны й заклёны. Заклёны, яны даўнейшыя.

*1 лістапада, серада*

На душы, як і на двары. Змрочна. Сыра. […]. Як утрымацца? […]. Божа, за што мяне так пакараў? «Непазбежна…»[2] Перабіраю запісы для Вушацкага словазбора. І раптам: «Я табе так вінен, як зямля калхозу», «Небы ўжо восеньскія».

*2 лістпада, чацвер*

Дзяды! Мае дзяды дома, у мамінай хаце. А тут я самотны. […]. У «Коўні» хоць душой адтаў. Юрась выраз цёткі (казаў): «У яе ср.ка на плечы дзярэцца».

---

[1] Гл.: «На беразе ракі забыцця…» (19.10.02–28.10.06); Сапраўды (28.10.06) // Халодная памяць вады. С. 325; 345.

[2] Гл.: Непазбежна… (1.11.06) // Тамсама. С. 322.

*3 лістапада, пятніца*

Узяў перадрук «Гукання паэзіі Усходу». Можа, выйдзе кніга. Дзякуй Але!

*4 лістапада, субота*

Прыходзіў Шапран. Цікава гутарыў. Сяргей прапанаваў сваю помач разгрэбсці мае завалы. Рэдкаснай чысціні душа, увесь свеціцца святлом неспасціжным Сяргей.

*5 лістапада, нядзеля*

Пайшоў пераклад Бжэхвы[1]. Шкада, што Сіўчыкаў прынёс, калі яго завалілі з пажарным спехам.

[«Ахвярынка»[2]], «З рукі...»[3].

*Крычыць...*

Пагода маёй душы,
Ясней пры любой нагодзе,
Маўчаць нашы душы ў згодзе,
Як ціхія спарышы,
Што выспелі не ў пару
На гнуткай ляшчыне настрою.
А вогнішча за гарою
Забытай
Крычыць: — Гару!..

*6 лістапада, панядзелак*

Івану Бурлыку (у Гародні працуе), які арганізуе прэзентацыю «Кстоў», у «жоўтым доме» сказалі, каб не распаўсюджваў опіум.

*7 лістапада, аўторак*

Б'юся над Бжэхвай. Прыйшло: «Auribus teneo lupam»[4].

*8 лістапада, серада*

Цёмна на двары і адпаведна ў галаве і ў душы. І як вынік: «У госці...»[5]

[1] Бжэхва Ян (сапр. Лесман Ян Віктар; 1898–1966), польскі паэт, празаік, перакладчык.
[2] Гл.: Ахвярынкі: Шлях, як галлю... (5.11.06) // Халодная памяць вады. С. 463.
[3] Гл.: З рукі... (5.11.06) // Тамсама. С. 343.
[4] Гл.: Auribus teneo lupam (7.11.06) // Тамсама. С. 250.
[5] Гл.: У госці... (8.11.06) // Тамсама. С. 280.

*9 лістапада, чацвер*

Змагаюся з галаўным болем і з Бжэхвай. У запісах знайшоў слова ад Мамы: *перагаворшчыца — перакладчыца,* і на нейкі момант палепшала мне.

*10 лістапада, пятніца*

Хвароба дабівае мяне. А яшчэ хатнія. «Цягне...»[1]

*11 лістапада, субота*

[...]. Нічога рабіць не магу. Божа, за што такая кара? Трэба ў Гародню заўтра. Ці вытрымаю?

*12 лістапада, нядзеля*

У *Гародню* на прэзэнтацыю «Кстоў». Здорава арганізаваў Іван Бурлыка. Дзякуй яму. Людзей было. Рэштка ўцалелых беларусаў, але й моладзь была. Расейшчынай, як асфальтам, накрываецца ўсё беларускае.

*13 лістапада, панядзелак*

Праваляўся ў хаце. Галава развальваецца, як СССР.

*14 лістапада, аўторак*

Алесь завёз да зубнікоў. Не магу знайсці сабе пакою. За спіной невыказны страх. Беспрасветнасць.

*15 лістапада, серада*

Аддаў Сіўчыкаву (дзякуй яму, прыехаў) пераклады Бжэхвы. На вуліцы ні восень, ні вясна. Вадзім [Грудзько] абяцаў паказаць кітайцу. Можа, ён дапаможа навесці хоць нейкі парадак у маёй галаве.

*16 лістапада, чацвер*

Патроху пайшоў Хізры. Пераклаў два вершы. Заўтра да кітайца. Як бы мне адагнаць ад сябе страх безвыходнасці?

*17 лістапада, пятніца*

Да Інсара[2] на іголкі. Трэба будзе 10 дзён калоцца. Спадзяюся на помач.

*18 лістапада, субота*

Спадзяюся вырвацца з абдымкаў хваробы. Адпасажыць бы роспач.

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: Досвітак за плячыма (10.11.06) // Халодная памяць вады. С. 465.

[2] Інсар Бей, урач традыцыйнай кітайскай медыцыны.

*19 лістапада, нядзеля*

Патроху справы з настройкай ідуць. [...]. Ратуюся працай. Невыносна. Божа, злітуйся.

*20 лістапада, панядзелак*

Штодня рамантуюся ў Інсара. [...]. Трымаюся.

*21 лістапада, аўторак*

Прагляд фільма пра Вайніловіча. Рабіў Арлоў[1]. Зацягнуты. Перад пачаткам Шніпок з вусікамі [...] адкрыў вечар. Біскуп пасля Шніпка.

*22 лістапада, серада*

Да Інсара. Па дарозе да Галі Сямёнавай — цудоўнай майстрыцы па вышыўцы. Душэўнай крывічанкі. Цікава, самы лепшы чырвоны колер для нітак з кораня васілька, блакітны — з кветак.

*Галіна з дрэва настрою*

Галіняцца нязмушана гады.
Атожылкамі ўпарцяцца ўспаміны.
Лянуюцца ляцець дамоў сцяжыны.
І рэха маладзее ад хады.
Нявесцяцца з'яснела аблачыны.
Атавяцца забытыя сляды.
Снег квецені пялегваюць сады.
Ярылаў сон наведаў сум птушыны.
Мяжа суседку просіць пацясніцца.
Ёсць у начы двайніца-таямніца.
Навюткі ў небе зззяе маладзік.
Аднойчы трэба цуду паўтарыцца.
Вачам вякоў нядзеліцца зігзіца.
Азяб гукаць свой водгук голы крык[2].

*7 снежня*

*23 лістапада, чацвер*

Тая ж дарога. Дома тое ж. Прыйшло: «Omnia mea mecum porto»[3].

*24 лістапада, пятніца*

Алесь прапанаваў перакласці даўнія папулярныя песні. Такое рэтра хоча зрабіць. Спрабую. Алесь парадаваў мяне — Музей Максіма Багда-

[1] Арлоў Уладзімір Аляксандравіч (н. 1938), беларускі кінарэжысёр, сцэнарыст, тэлевядучы.
[2] Акраверш Галіне Сямёнавай.
[3] Гл.: Omnia mea mecum porto (23.11.06) // Халодная памяць вады. С. 28.

новіча аб'явіў конкурс. І шмат цікавых твораў пісьма й малюнку. Ад сямі гадоў да старшакласнікаў. Толькі адзін сюжэт — «Слуцкія ткачыхі» — і ткуць […] чырвона-зялёны пояс. […].

*25 лістапада, субота*

Баліць мне Ілона. Душой разумею, бо мая правіна, а дапамагчы нічым не магу ў іншых стасунках з [Косцем …]. Плача, дапальвае сябе. Прыйшло: «Калі зацята стараешся….»[1]

*26 лістапада, нядзеля*

Апошні дзень да Інсара. […]. Пазваніў Ілоне — у іх з [Косцем] разлад. Куды падзецца? Трохі забыўся на ўсё, дыктуючы Але вершы. Дзякуй ёй за руплівасць.

*27 лістапада, панядзелак*

З Алесем у Маладзечна. Да Міхася Войткі[2] — унікальны чалавек. Потым да Паўлікавай. Асабняк 1000 кв м. Як касцёл. Як добра, што ёсць Алесь — шчырая крывіцкая душа. Гэта ўжо немагчыма амаль.

*28 лістапада, аўторак*

Цэлы дзень дома. Перачытаў «Гуканне паэзіі Усходу»: «Шлях непахісны тут…»[3]

*29 лістапада, серада*

Таксіст расказваў, як сядзеў 60 дзён. Правяраюць на СНІД, распранаюць. А ў яго на плячы татуіроўка — каляровы бел-чырвона-белы сцяг і Пагоня. Дваццацігадовы наглядчык […]: «Каб дазволілі, я б з цябе са скурай садраў усё гэта…» Дужа хваліў Быкава. Талкова разважаў пра літаратуру. Розным [чаргінцам] такое бачанне літаратуры й не снілася.

*30 лістапада, чацвер*

Вечарына Генадзя Бураўкіна колькі разоў за два дні адкладалася, забаранялася. Але нарэшце адбылася. Цёпла, шчыра. Народу поўна. Людзі хочуць пачуць беларускае слова.

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: Калі зацята стараешся…; Чалавек шлях ліста паўтарае… (25.11.06) // Халодная памяць вады. С. 454; 453.

[2] Войтка Міхаіл Іванавіч (н. 1961), беларускі бізнесовец.

[3] Гл.: Ахвярынкі: Шлях непахісны… (28.11.06) // Халодная памяць вады. С. 457.

*1 снежня, пятніца*

Дарагі Снежань! Дай спакой маёй душы. Дай хоць трошкі яснасці маёй галаве. «Прыходзіць…»[1]

*2 снежня, субота*

Даб’е мяне гаспадынька […].

*3 снежня, нядзеля*

Каб канчаткова не звар’яцець […], пісаў: «Не змог…»[2].

*За…*

Грэе агнём сухім
Полымя верасоў.
Дзякуй за светлы дым
Недаказаных слоў.

Скача ў далоні дню
Сонны ручай хутчэй.
Дзякуй за глыбіню
Разнасцяжаных вачэй.

Град нецярпення дзяўбе
Скрухі маёй страху.
Дзякуй табе за цябе
І за мяне крыху.

*4 снежня, панядзелак*

Праз Алеся Пісарыка[3] перадаў «Ксты» маскоўскай дыяспары. Асабліва рад, што Бурсаву «Дуліну [ад Барадуліна]».

*5 снежня, аўторак*

У ПЭН. Занёс рэкамендацыі Навумчыку і Камоцкаму. З галавой блага. А яшчэ ў ПЭНе ўбачыў маладых падоначкаў.

*6 снежня, серада*

Да Інсара на іголкі. І лепшае, і горшае. Усё разам. Можа, усё-ткі прывядзе мяне да пэўнага ладу.

---

[1] Гл.: Прыходзіць… (1.12.06) // Халодная памяць вады. С. 76.
[2] Гл.: Не змог… (3.12.06) // Тамсама. С. 261.
[3] Пісарык Алесь (сапр. Пісарчык Аляксандр Уладзіміравіч; н. 1954), беларускі паэт.

*7 снежня, чацвер*

Зноў да Інсара. Выдатна даставацца маршруткай. І не цяпер на шыі залатога майго Алеся. А ў Інсара жонка данская казачка. Грымучая сумесь.

*8 снежня, пятніца*

Патроху сабіраю вершы й дыктую шалёнай на працу Але. Дзякуй ёй.

*9 снежня, субота*

Прыехаў Яўген Шатохін. Вырваў мяне з хворай апатыі. Выдатныя графічныя лісты з Бычкоўскага плэнеру. Падпісваў вершамі. Павінна быць цікава. Якая асоба Яўген. Якая глыба! Больш бы такіх.

*10 снежня, нядзеля*

Да Інсара. Потым дома. Перад сном прыйшлі радкі: «Краявід»[1].

*11 снежня, панядзелак*

Дзве гадзіны дыктаваў Але вершы. Якая яна шалёная ў працы. Дзякуй ёй!

*12 снежня, аўторак*

Сёння калоў Інсар. А так гэтыя дні ягоная сястра Хаммі. Абяцаў вызваліць ад галаўнога болю. «Каб…»[2]

*13 снежня, серада*

Магутнейшыя магнітныя хваляванні — і адпаведна. Уначы быў прыступ. […].

*14 снежня, чацвер*

Перабіраю паперы. Шмат цікавага. Усё ў мінулым.

*15 снежня, пятніца*

Апошні дзень іголкі. Праз 10 дзён на праверку.

*16 снежня, субота*

Пад вечар выпаўз на вуліцу. Кепска мне. Буры дабіваюць.

*17 снежня, нядзеля*

Перабіраў паперы. У іх можна ўтапіцца.

---

[1] Гл.: «Квецені белы рой…» (10.12.06) // Халодная памяць вады. С. 319.

[2] Гл.: Каб… (12.12.06) // Тамсама. С. 221.

*18 снежня, панядзелак*

Даходжу. Нічога не міла. З Ілонкі толку няма. А яна мне баліць.

*19 снежня, аўторак*

Пазваніў Бурсаву. У яго дзень нараджэння. Хоча неяк прыехаць у Беларусь развітацца. Сустрэча з Хізры. Цікава ён пра вайну на Каўказе. Адзін стрэл рэха доўга носіць па гарах.

*20 снежня, серада*

Як быццам праходжу практыку перад Страшным судом. Безвыходнасць. […]. Пішу, каб не паехала страха. «Балюча…»[1]

*21 снежня, чацвер*

У Лечкамісію па даведку. Сустрэў Віктара Дашука[2]. Малайчына. Ён да Хашчавацкага[3] — двое засталіся сапраўднымі кіназмагарамі, а рэшта — падсрачнікі […].

*22 снежня, пятніца*

Зноў у Лечкамісію. Даведку ўзяць — цэлая эпапея. Па дарозе сустрэў сына Паўла Дубашынскага[4]. […].

*23 снежня, субота*

Чытанні памяці Вінцэнта Гадлеўскага ў Чырвоным касцёле.

*24 снежня, нядзеля*

Прыязджаў Уладзімер Лайкоў. Ідзе поўная ачыстка школаў ад беларускай мовы.

*25 снежня, панядзелак*

Святыя Каляды! Сустракаў дома. Званілі Глеб, Някляеў, Дранько-Майсюк, Сітніца. Пан Вішнеўскі знайшоўся.

---

[1] Гл.: Балюча… (20.12.06) // Халодная памяць вады. С. 101. Верш памяці В. Гадлеўскага. *Гадлеўскі* Вінцэнт (1888–1942 ?), беларускі каталіцкі святар, рэлігійны, культурны і грамадска-палітычны дзеяч, публіцыст, выдавец, перакладчык. Магістр тэалогіі. Загінуў, арыштаваны нямецкай тайнай паліцыяй.

[2] Дашук Віктар Нічыпаравіч (н. 1938), кінарэжысёр, сцэнарыст, пісьменнік. Заслужаны дзеяч мастацтваў (1977). Народны артыст БССР (1989). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1976), Дзяржаўнай прэміі СССР (1985).

[3] Хашчавацкі Юрый Іосіфавіч (н. 1947), беларускі кінарэжысёр, сцэнарыст, прадзюсер, грамадскі і палітычны дзеяч.

[4] Дубашынскі Павел Піліпавіч (1931–2000), беларускі актёр. Народны артыст БССР (1989).

*26 снежня, аўторак*

Санаторную картку не далі — гемаглабін слабы. Галаву ломіць. [...]. Куды ўцячы, каб хоць трошкі адчуць сябе чалавекам, якому мала засталося, каб нешта задуманае зрабіць?

*27 снежня, серада*

Як не звар'яцець? Хварэць у гэтай хаце немагчыма. Хадзіць цяжка.

*28 снежня, чацвер*

Міхась Скобла прывёз зборнік Сыса «Лён». Паэт велічны й чысты. Пакутны, як і належыць сапраўднаму Паэту. З Амэрыкі па тэлефоне спявала песні Валянціна Якімовіч, чыстыя, як велікодныя росы. Спявае, як моліцца.

*29 снежня, пятніца*

Зняў усе пытанні па «Гуканні паэзіі Усходу»[1]. Дзякуй Але. Паклон да зямлі. Як няма здароўя, дык і кнігі не так радуюць, як некалі.

*30 снежня, субота*

На сход года ўсё-ткі прыйшлі радкі:

*Як заўсёды*

*Табе*

І зорка бліскае
Ад полымя настрою,
Што хоча сум
Зрабіць сляпым,
Калі,
Як сэрца, блізкая,
Далёкая, як мроя,
Завоблачна
Ступаеш па зямлі...

*31 снежня, нядзеля*

Бывай, стары год! Дзякуй, што цярпеў мяне. Што трымаў у форме! Што нешта мне прыходзіла ў галаву! Дзякуй! Дзякуй святому касцёлу! Дзякуй сябрам!

---

[1] Гуканне паэзіі Усходу. Мінск: Рымска-каталіцкая парафія свсв. Сымона і Алены, 2007. Пер. Р. Барадуліна.

16+

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Рыгор Іванавіч Барадулін

# Дзённікі і запісы

*Выпуск 10. 2003–2006*

Адказны за выпуск *А. Пашкевіч*
Рэдактар *Н. Давыдзенка*
Тэхнічны рэдактар *Я. Мальдзіс*
Набор *Н. Давыдзенка*
Камп’ютарная вёрстка *Л. Гарадзецкай*
Карэктары *Н. Давыдзенка, Н. Семашкевіч*

Падпісана ў друк 30.03.2022. Фармат 70×100 $^{1}/_{16}$.
Папера афсетная. Друк лічбавы.
Гарнітура Cambria. Ул.-выд. арк. 14,31.
Ум. друк. арк. 25,28 + 0,42 укл. Наклад 50 асобнікаў. Зак. 1.

ТАА «Інбелкульт».
АДРН 1136733002120.
Пас. Малкамбіната, д. 21, 216790, г. Рудня Смаленскай вобласці,
Расійская Федэрацыя